№6 (61)
/лістапад-снежань/ 2012

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Ірына Багдановіч



...Святая Марыя
мне ў вочы глядзіць купаламі,
А я – на Яе...

# Балтыйскія абразкі

### *VISBY*

Гадзіннік у *Sankta Maria* спявае гадзіны,
Над крыжам трыкупальна пеўні вятры вызначаюць;
А я ў сваёй келлі сяджу ва ўспамінах Пузыны,
Натхнёна і светла над ёю мне ранкі сплываюць.

У *Visby* чароўным жыву, а нібыта я ў Вільна,
Дарэчы, падобныя месцы па водарах даўных:
Не вулкі, дамы тут, а россып каменных пярлінаў –
Утульна-святлістых, у ружы пры ганках убраных.

У людзе тутэйшым – прыгожая стрыманасць продкаў,
Сурова-чароўная Балтыкі вольнай пячатка.
О, як жа мне дыхаць тут, думаць узнёсла-салодка!
О, як жа прыўкрасная неба й зямлі тут апратка!

Ты, Божа, такімі мяне ўзнагародзіў дарамі:
Паклікаў сюды, каб пачулася тут блаславёна!

Святая Марыя мне ў вочы глядзіць купаламі,
А я – на Яе
і на мора гляджу задумёна...

*19.07.2012*

## БАЛТЫЙСКІ ВЕЦЕР

Ноч агарнула муры старагоцкія Візбю,
Хмары ўскудлачана цвеляць балтыйскія далі.
Я ж тут пад казачным дахам малюся і трызню,
Слухаю вецер і мора бунтоўнага хвалі.

Спіць экзатычны, схаваны у Балтыцы Готланд,
Толькі нябачныя постаці рыцараў даўных
Ходзяць па вежах і сценах тут вартаю годнай,
Каб ні адкуль не надзьмула зайздроснікаў марных.

Готыкай светлай, не змрочнай, малююцца дахі,
Казачны горад туляцкае сэрца прывеціць.
Выдзьме тут вецер сумненні, турботы і страхі –
Вецер балтыйскі, свабодны і велічны вецер!

*7.08 2012*

## ПЛАВАННЕ

***

Мора мяне запрасіла
Ў хваляў сваіх прахалоду,
Ў ім надзвычайная сіла!
Мора мяне запрасіла,
Дорачы гарт і свабоду,
Дух ува мне ўваскрасіла!
Мора мяне запрасіла
Ў хваляў сваіх прахалоду.

***

Цела маё, быццам галька,
Адшліфаванае морам.
Чуюся вольна, як чайка!
Цела маё, быццам галька,
З хваляў сплятаецца ўзорам,
Точыцца пад іх напорам
Цела маё, быццам галька,
Адшліфаванае морам.

***

Плыву па сонечнай дарожцы
Глыбей у Балтыку, далей...

Глядзі ж, мой духу, не змалей!
Плыву па сонечнай дарожцы,
“Вяртайся, – кліча пірс, – хей-хей!”
А я сабе не па-нарошцы
Плыву па сонечнай дарожцы
Глыбей у Балтыку, далей...

*8.08.2012*

## *ВЕТРАНЫ РАНАК*

Вецер б’ецца ў мае вокны,
Вецер ледзь не зносіць дах,
Ранак спіць бялеса-мокры
На царкоўных купалах.

А баранчыкі на моры
Вырастаюць ў бараноў,
І сурова ў непакоры
Усчыняюць хвалі бой!

Толькі ўсё ж знайшоўся смелы:
І ў той хваляў гамане
Выплывае ветразь белы
І плыве сабе, плыве...

*9.08.2012*

## *ГОТЛАНДСКАЕ РУНО*

### *Абразок у краме*

Шопінг на востраве ў Візбю – цудоўны занятак!
Што ж тут у крамах? Мясцовай экзотыкі рэчы?
Вулкі і вулічкі крамаў – стракатых апратак,
Хітрыя позіркі ў брамах каменных авечак.

Тут вам не шведскі, не готландска-візбюўскі выраб!
Файныя рэчы, але... ўсенька шыта ў Кітаі!
“Мадэ ін Чайна” над людствам – як фатум, як вырак!
“Чайна” з усіх этыкетак у крамах вітае!

Ты ж – як турыста, як госць – сувеніра шукаеш
З водарам вострава, Балтыкі, чаек над морам.
Што ж мне за радасць, як “Мадэ ін Чайна” прыдбаеш?!
Я й на радзіме такое набуду не з гора!

Раптам у вулцы маленькай – ільсністыя воўны,
Голых каменных авечак жывая апратка,

Позірк чаруюць срабрыстым, мякуткім, шыкоўным,
Арыстакрацкім, праўдзіва мясцовым парадкам!

Вось жа дапяла да цуду такога жывога!
Лашчу рукамі руно, што сагрэе шляхотна.
Той сувенір-то каштуе! Ён варт дарагога!
Ён прэзентуе сапраўдны і велічны Готланд!..

Крочу ізноў брукаваначкай вузкай марудна,
Спінкі каменных авечак ізноў аглядаю...
Ат! Абыдуся як-небудзь без панскага футра!
Хіба тут мала і так асалоды для Раю?!

*9.08.2012*

## ***ПРАГУЛКА ПА ЎЗБЯРЭЖЖЫ***

Я па ўзбярэжжы крочу, ў дзіўнай цішы
Заходзіць сонца, ўсё гучыць спакоем,
Балтыйскі вецер дрэвы не калыша,
Маяк мігціць, вяслуюць качкі строем...

Я госця тут, зусім не небарака,
Паўночнаю прывечана краінай,
Прасоленая морам, як салака,
Нябёсамі ўскрыляна, як багіня...

*9.08.2012*

## ***БУРА***

Бура над морам! Такое тут часта бывае.
Шторм! І равуць у імпэце суровыя хвалі.
Вецер ірве тут сцягі, дахі ледзь не зрывае!
А гарызонт быццам выкуты з шэрае сталі.

Толькі на вежы гадзіннік у *Sankta Maria*
Роўна а восьмай гучыць, дорыць цуднае гранне.
Вежы нязрушна стаяць – што ім тая стыхія!
Дзень так па дні, адзначаючы ранне за раннем...

Вечнасць, здаецца, муроў гэтых не зачапіла.
Бура – сястрыца правелічнай гэтай Святыні.
І, незямною яна змацаваная сілай,
Шле сабе ў неба людскія мальбы ды правіны.

*9.08.2012*

## ФАРТЭЦЫЯ

Цацачны горад і цацачныя дамочкі,
Ружы і мальвы пры кожным дагледжаным
ганку,
Рынкавы пляц, радыяльных завулкаў кручочкі,
Вецер балтыйскі спявае над ім калыханку.

Гожыя продкі калісьці фартэцыю ўзнеслі
Тут, на ўзбярэжжы, пад моцнай скалой-
апаяскай,
Каменяры працавалі тут дружна і цеслі,
Неба над імі блакітнела Божаю ласкай.

Глеба была тут адно на камень урадлівай,
Быў і характар людскі, як камень той, трывалы.
Гожа святыню ўзвялі, чайкам белым на дзіва,
Агнец даў выжыць, стаў сімвалам гоцкім
вспанялым.

Готаў зямля! Шлях адсюль спакваля церабіўся
Морам і рэкамі – ў грэкі з варагаў... І мніцца,
Гэта ж адсюль Рагвалод на Дзвіне пасяліўся
І кіраваў нашым краем як велічны Рыцар!

Можа, праз тое і мне тут куточак Радзімы –
Продкаў змагарных і дужых святыя карэнні?!
Можа, то дух наш гартуе, які не здадзім мы,
Вецер балтыйскі, што мора ўздымае і пеніць?..

*9.08.2012*

## ШТОРМ НА ГОТЛАНДЗЕ

Балтыйскі вецер усчыніў галоп шалёны,
Ідуць валы, а кожны грукат уздымае,
І мора цёмным малахітам выглядае,
Танцуе з ветрам разгуляна і шалёна.

Надзьмутых чаек зграйкі ціснуцца ў каменнях,
Заціхлі ўсюдна гукі рыцарскіх турніраў,
Нібыта сыплецца ў нябёсных сутарэннях
Шрапнэль дажджу над мокрым і бязлюдным
жвірам.

А я прыйшла на тое мора падзівіцца!
Мне валасы – ўразлёт,
і прадзімае грудзі...

А Готланд – хоць бы што!
Як старадаўні Рыцар,
Стаіць на варце Балтыкі спакойна...
Й будзе!

*9 – 10.08.2012*

### МЕСА Ў ЦАРКВЕ СВЯТОЙ МАРЫІ

У *Санкта Марыя* Нядзельная служыцца Меса...
Божае Слова па-шведску, а мне зразумела!
Цела і Кроў кансэкруе святар – пастарэса:
Ешце... Бярыце... І я Цябе, Госпадзе, ела...

Хто – ува Мне, і Я ў ім, –
Ты казаў, –
прабываю...
Я ж гэтак веру! Глыбока, сардэчна, да плачу!
Ўсюды – й на Готландзе –
я Цябе, Божа, шукаю!
Ты ж такі добры!
А як жа Табе я аддзячу?..

Божую Ласку спазнала, ды зноў Яе клічу!
Дзева глядзіць з алтара Залатая з Дзіцяткам:
Чуе вандроўную госцю – мяне, каталічку,
Дзеліцца шчодра Любоўю са мной
і Аплаткам!

*9 – 10.08.2012*

### СЯРЭДНЕВЯКОВЫ КАРНАВАЛ У ВІЗБЮ

Рупны гадзіннік нястомна рахуе гадзіны,
Люд у намётах сярэдневяковы таўчэцца:
Тут карнавал –
у Еўропе, магчыма, адзіны.
Ён ад нядзелі тут ходзіць, спявае і б'ецца!

Рыцары б'юцца ў двубоях і пеша і конна,
Ходзяць паны і сяляне ў нясённяшніх строях,
Музыку неба вызвоньваюць тут карыльёны
І завіваюцца ў небе ў малітвах і мроях.

Госцю таксама ў віры карнавалу няблага,
Мора і вецер на думкі нарошчваюць крылы:
Чуюся вольна –
Міцкевічам на Аюдагу!
Быццам паэт падзяліўся са мною тут Крымам...

*10.08.2012*



Уладзімір Някляеў



...я крычу, крычу, крычу,
не чуючы свайго голасу,
і ад гэтага яшчэ страшней...

# Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без

***Менскі раман***

## "Брадвэй"

Першы тралейбус пах свежавымытым жалезам і ранішнім халадком.

У ранішнім халадку плаваў водар пралесак, бо пачыналася вясна.

Пралескі, трохі падвялыя, ляжалі на заднім, запырсканым вадой сядзенні. Кандуктарка глядзела на іх і ўсміхалася.

У тралейбусе радавалася радыё, што раніца. "У сталіцы савецкай Беларусі сем гадзін, – сказала яно святочным голасам, і кандуктарка зірнула на гадзіннік. – Добрай раніцы, таварышы! Перадаем навіны. Учора Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў даслаў ліст вучням нью-ёркскай школы".

У дынаміку пстрыкнула – і дыктар змоўк.

– Добрай раніцы, таварышы! – падрабляючыся пад радыё, голасам дыктара павітаўся кіроўца тралейбуса. – У сталіцы савецкай Беларусі сем гадзін. Наш тралейбус адпраўляецца па маршруце вакзал – абсерваторыя.

“Пстрык” – вярнуўся дыктар.

“Дарагія амерыканскія школьнікі! – напісана ў лісце. – Вы паведамляеце, што ў вашай школе вучыцца каля дзвюх тысяч чалавек, хлопчыкаў і дзяўчынак розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Спадзяюся, што гэта не замінае вам разам дружна вучыцца, весела гуляць і спяваць звонкія песні. Хачу паведаміць вам, што ў нашай краіне радасна і шчасліва жывуць і разам працуюць людзі многіх нацыянальнасцяў. Іх аб’ядноўвае агульнае імкненне жыць у міры і сяброўстве з усімі народамі зямлі”.

Пстрык...

– Мы за мір! – весела сказаў кіроўца. – Наступны прыпынак – плошча Леніна.

Хліпнуўшы, зачыніліся дзверы – і ў левым акне тралейбуса зрушыўся чыгуначны вакзал.

Бывай, татарка Нэла!

“Жадаю вам, як і ўсяму маладому пакаленню Амерыкі, дазнацца пра тое, што такое вайна, толькі з падручнікаў гісторыі і ніколі яе не бачыць. Жадаю вам шчасця і многа, многа дабра! Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, 17 сакавіка 1960 года”.

Во супадзенне!.. Учора, калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў пісаў ліст амерыканскім школьнікам, я пазнаёміўся з амерыканцам!

– Набывайце квіткі ў кандуктаркі Віялеты Казіміраўны! – весяліўся кіроўца тралейбуса. – Сёння танна, сорак капеек, бо сямнаццатае сакавіка...

Кандуктарцы Віялеце Казіміраўне, падобнай на спявачку Ніну Дорду, якая штодня спявае па радыё песню “Ландышы”, гадоў трыццаць. Амаль старая, а ўсміхаецца.

“Чаго ўсміхаешся?.. – кісла глядзіць на кандуктарку дама ў каракулевым футры і каракулевай шапцы. – Можа, у цябе голас, як у Ніны Дорды? Тады чаму ты не ў каракулі? Чаго ў тралейбусе сядзіш? Ідзі на сцэну і ўсміхайся!..”

“Нехта і ў тралейбусе ўсміхацца павінен, – усміхаецца даме ў каракулі кандуктарка. – А то вунь кіслыя ўсе, як гуркамі кіслымі паснедалі”.

Я даў Віялеце Казіміраўне сорак капеек — яна мне квіток. Нумар 179872! Сумы трох першых лічбаў квітка і трох апошніх супадалі! Шчаслівы! 17 на 17! Во супадзенне!..

“Мінскае паравознае дэпо! – доўжыла радыё. – У дыспетчарскую заходзяць машыністы, абменьваюцца думкамі. Сярод іх – намеснік начальніка дэпо таварыш Папковіч.

– Мы хочам жыць у міры і дружбе з усімі народамі! – радасна закрычаў па радыё таварыш Папковіч. – Мы гатовы гандляваць з капіталістычнымі краінамі, спаборнічаць у вытворчасці прадуктаў на душу насельніцтва. Праводзячы міралюбівую палітыку, наша краіна ўжо шмат разоў скарачала свае ўзброеныя сілы”.

Краіна скарачае свае ўзброеныя сілы, а мне сёння ўвечары на вайну.

– Чым ён у паравозным дэпо гандляваць збіраецца? Парай у свісток?.. – ці то сама ў сябе, ці то ў кандуктаркі, купляючы квіток, спыталася дама ў каракулі, а кіроўца, у якога вясновы настрой, раптам заклікаў на плошчы Леніна:

– Дагонім і перагонім Амерыку! Наступны прыпынак – вуліца Валадарскага!

Дама ў каракулі, падварушваючы густа нафарбаванымі, малінавымі губамі, палічыла лічбы на квітку...

Не. Шчаслівы ў мяне.

– На тралейбусе, – незадаволена сказала дама, сядаючы. – Дагонім і перагонім.

Вуліца Валадарскага – прыпынак каля паштамта, адкуль пачынаецца праспект Сталіна. Нядаўна над уваходам у паштамт з'явіўся гадзіннік, які распеўна адбівае гадзіны з паўгадзінамі. Зараз ён маўчыць, бо 7:05.

"Ведаеш, што ў Мінску мне найболей ненавіснае? – спытае праз многа-многа гадоў Эдзік Гарачы, пра якога размова наперадзе. – Гадзіннік на паштамце".

Але пакуль ён, Эдзік Гарачы, не ведае, што ўзненавідзіць гадзіннік на паштамце. Яшчэ ён не актор рускага тэатра імя А. М. Горкага, які мільгнуў у акне тралейбуса на вуліцы Валадарскага. Толькі-толькі скончыўшы тэатральны інстытут, грае Эдзік Гарачы ў Тэатры юнага гледача – і ў самым страшным сне не прысніцца яму, што пасадзяць яго ў "амерыканку", унутраную турму Камітэта дзяржаўнай бяспекі, будыніна якога расцягнулася на цэлы квартал у левым акне тралейбуса. І чуваць будзе Эдзіку ў турэмнай камеры бой гадзінніка на паштамце. Працягла – кожную гадзіну, і коратка – паўгадзіны... Днём і ўночы – кожную гадзіну з паўгадзінай... Коратка і працягла...

Гэта ўсё будзе пазней, тады, калі праспект Сталіна, колішняя вуліца Захар'еўская, былая Савецкая, стане праспектам Леніна – і Эдзік Гарачы апынецца ў створаным яшчэ пры Леніне лагеры ў Мардовіі. Пакуль жа ён – актор Тэатра юнага гледача, і знакаміты ў Мінску тым, што мае фотаздымак з аўтографамі Эдзі Рознэра і Луі Армстранга, якія стаяць на фотаздымку ў абдымку. "Эдзіку ад Эдзі і Луі" – напісана на звароце фотаздымка, і гэтага дастаткова, каб мець славу і не мець праблем пры знаёмстве з дзяўчатамі, якім Эдзік кажа, што ён саліст аркестра Эдзі Рознэра. Таго самага аркестра, у якім Ніна Дорда, на якую падобная кандуктарка Віялета Казіміраўна, спявае песню пра ландышы. І хоць аркестр Эдзі Рознэра быў Дзяржаўным джаз-аркестрам Беларускай ССР у той час, калі Эдзік Гарачы мог спяваць у ім толькі дзіцячыя песні, а цяпер аркестр у Маскве, гэта не замінае Эдзіку Гарачаму быць ягоным салістам. "Увечары, – кажа ён дзяўчатам, – сядаю на цягнік у Мінску – і раніцай спяваю ў Маскве".

"Утро красит нежным светом стены древнего Кремля, просыпается с рассветом вся советская земля! Кипучая! Могучая! Никем не победимая!.." – заспявала радыё, пажадаўшы поспехаў калектыву паравознага дэпо, намеснікам начальніка якога працуе таварыш Папковіч, і раптам мужык на сядзенні ўперадзе ўстаў, павярнуўся да кандуктаркі, да мяне, да дамы ў каракулі, да дзвюх бабулек у хусцінках і дзядка ў капелюшы, да падпалкоўніка ў пагонах, да ўсіх, хто ў тралейбусе, і абвясціў, стукнуўшы сябе ў грудзі: "Гэта я таварыш Папковіч! Там па радыё выступаю, а тут з вамі еду!.."

Яшчэ не ўзляцеў у космас першы савецкі касманаўт Гагарын, а тым больш ніхто не ведаў нічога пра другога касманаўта Цітова, касманаўта-3 Мікалаева і касманаўта-4 Паповіча, таму на намесніка начальніка паравознага дэпо таварыша Папковіча, які выступаў па радыё, вылупіліся ўсе,

як на героя. І гонар нейкі – я па вачах кандуктаркі ўбачыў – узнік: вось ён, такі чалавек, які выступае па радыё, едзе з намі, з простымі людзьмі ў адным тралейбусе... І праз гэта трохі разгубіліся і дзве бабулі, і кандуктарка, і падпалкоўнік – усе, апроч дзядка, які раптам сказаў:

– Голас непадобны.

Намеснік начальніка дэпо глянуў на дзядка, на кандуктарку...

– Як непадобны?..

– А так, – насмешліва прыўзняў капялюш уедлівы дзядок. – Не твой.

– Дык зменены, – сказала кандуктарка, якой, канечне, хацелася, каб такі знакаміты чалавек, як таварыш Папковіч, ехаў у яе тралейбусе. – Што па радыё, а што так...

Голас у кандуктаркі аказаўся нечакана нізкі для жанчыны. Не як у Ніны Дорды. Гэтакі голас, што нават падпалкоўнік азірнуўся.

– Непадобны! – упарціўся дзядок. – Вунь у кіроўцы нашага як па радыё, гэтак і так.

– Кіроўца не па радыё, – не здавалася кандуктарка. – Ён у мікрафон.

– Вуліца Камсамольская! – абвясціў кіроўца. – Наступны прыпынак – Цэнтральная плошча.

На Цэнтральнай плошчы ў Палацы прафсаюзаў, дзе ўчора былі танцы, я і пазнаёміўся з амерыканцам.

“Широким проспектом шагаю и радостно мне оттого, что в этой красе величавой есть доля, есть доля труда моего!.. – пачало новую песню радыё, а дзядок ускочыў:

– А няхай пашпарт пакажа! – І спытаўся чамусьці ў падпалкоўніка. – Пашпарт у яго ёсць?

Падпалкоўнік, паправіўшы фуражку, адвярнуўся да акна.

– Ага... – крыўдліва сказаў, сядаючы, намеснік начальніка паравознага дэпо. – Буду я пашпарт цягаць, каб згубіць.

Дзядок пераможна, нібы гэта канчаткова нешта вырашала, тыцнуў у намесніка начальніка пальцам.

– Няма ў яго пашпарта!.. А калі б і быў, то што? Вось у мяне сусед —грузін Джугашвілі, дык ён хто: Сталін?

У тралейбусе, здалося, нават радыё прыціхла.

Чатыры гады таму ў Маскве сказалі, што Сталін быў не такі ўжо вялікі, як здавалася, і яго няма за што асабліва любіць. Але гэта недзе ў Маскве, а не тут, у Мінску. У Мінску не любіць Сталіна не спяшаліся, бо раптам у Маскве перадумаюць...

– Хто ваш сусед? – спытала, не дачуўшы, дама ў каракулі, але дзядок яшчэ раз тое самае казаць палічыў залішне – і пытанне, зляцеўшы з малінавых губ, павісла ў сонечным паветры.

“Сталін – наша сонца, Сталін – наша слава, Сталін – наша вечная вясна...” – успомніліся словы, якія Эдзік Гарачы мог спяваць у аркестры Эдзі Рознэра, як я спяваў іх у піянерскім хоры, а жанчына ў каракулі перапытала дзядка. – Ваш сусед Сталін? – І малінавыя вусны падціснула. – Ён жа культ!

Дзядок і на гэта раз нічога ёй не адказаў. Па ўсім відаць было, што не падабаюцца яму дамы ў каракулі.

– Які ку-у-льт?.. – незадаволена працягнуў, гледзячы ў акно, падпалкоўнік. – Прычапіліся... – І стукнуў кулаком па калене. – Я з ім у Берлін увайшоў!

У левыя вокны тралейбуса ўплывала Цэнтральная плошча, пасярод якой стаяў у бронзавым шынялі, прыклаўшы бронзавую руку да бронзавых грудзей, Сталін. Дзесяціметровы, велічны на высокім, абкладзеным мармуровымі плітамі пастаменце, ён, здавалася, падпіраў неба над Мінскам, быў пастаўлены тут на векі вечныя, і ніхто ў нашым тралейбусе – ні кіроўца, ні кандуктарка, ні дзве бабулі, ні намеснік начальніка паравознага дэпо таварыш Папковіч, ні дзядок у капелюшы і ні дама ў каракулі, ні тым болей падпалкоўнік – уявіць не маглі, што помніка Сталіну некалі не стане...

Не стала. Знеслі за адну ноч восенню 1961-га – напярэдадні 44-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якую Сталін звяршыў разам з Леніным, бо Ленін без Сталіна звяршыць яе не мог.

Цэнтральную плошчу агарадзілі высокім плотам, за якім нічога відаць не было, толькі чуліся гул ды скрыгат, і мы з татаркай Нэлай, а з намі Віл, Біг і Піля залезлі на дах найбліжэйшага да плошчы дома і адтуль глядзелі, як, накінуўшы трос на шыю, звальвалі бронзавага правадыра ўсіх часоў і народаў.

Правадыр упіраўся, не хацеў падаць. Каб зваліць яго, аднаго бронетраспарцёра, з-пад гусеніц якога іскрамі ляцела брукаванка плошчы, не хапіла. Па бляшаным даху бегаў за нашымі спінамі нізкарослы, п’яненькі мужычок і крычаў: “Юзік, трымайся!..” Але Юзік не ўтрымаўся. “Ніхто не ўтрымаецца, калі на яго ўсе астатнія разам накінуцца”, – сказала татарка Нэла. На плошчу падагналі яшчэ адзін бронетранспарцёр – і цугам яны правадыра павалілі.

“Зваліў Мікітка Юзіка...” – сказаў мужычок, сеў пад комін і заплакаў...

– Я да вас не прычапіўся, – перагнуўся цераз сядзенне да падпалкоўніка дзядок. – Я кажу вам, што ён можа быць Папковічам, але не тым таварышам Папковічам, які выступаў па радыё.

– А якім тады?.. – не зразумела кандуктарка. – Якім, калі не тым?

– Цэнтральная плошча! – абвясціў кіроўца. – Наступны прыпынак – вуліца Янкі Купалы.

Кандуктарка, адарваўшы квіток дзяўчыне ў сінім каптурыку, глядзела на дзядка, чакаючы... Але паколькі намеснік начальніка паравознага дэпо, не збіраючыся болей нікому даводзіць, што ён ёсць ён, крыўдліва маўчаў, дзядок буркнуў, сеўшы:

– Скуль я ведаю, якім...

Дзяўчына села побач са мной. У тралейбусе было поўна вольных месцаў, а яна села побач.

Прыгожая. Але не такая, як Ася. Такіх, як Ася, болей няма. Куды да Асі гэтай – у каптурыку.

Мусібыць, праз Асю амерыканец і падышоў да нас. Мы танцавалі рок-н-рол, ён стаў танцаваць з намі. Файна танцаваў. Лепш за Гарыка Клябанава. А лепш за Гарыка рок-н-рол ніхто не танцуе.

– У цябе шчаслівы? – спытала дзяўчына, падлічыўшы лічбы на квітку. І засмяялася. – У мяне – не.

Кандуктарка амаль старая, а ўсміхаецца. У гэтай квіток не шчаслівы, а яна смяецца. “Жанчына ўся таемная, як рака падземная”, – пад гітару спявае Гарык, які лепш за ўсіх танцуе рок-н-рол.

У сіняга каптурыка і не магло быць шчаслівага нумара. Наступны шчаслівы – 179881. Але для таго, каб ён выпаў, кандуктарцы трэба прадаць дзевяць квіткоў. А каму прадаваць?..

– Не ведаю, ці шчаслівы, – зманіў я каптурыку. – Можам памяняцца.

Каптурык зноў засмяяўся.

– Ведаеш. Пра сваё шчасце ўсе ведаюць. І шчасцем не мяняюцца.

“Давай памяняемся, – сказаў учора Косця Воран амерыканцу. – Я танцую з Асяй, ты – з Марынай”.

І амерыканец памяняўся.

Калі б ён не памяняўся, дык, магчыма, была б інакшай уся сусветная гісторыя. Невядома толькі: са шчаслівым квітком, ці не?

Ніхто нічога не ведае пра сваё шчасце, каптурык.

У маёй кішэні было дзесяць рублёў і дзесяць капеек. Паснедаць: яечня — 1 рубель 10 капеек, каша — 70, кісель — 30, батон — бясплатна. Гэта 2 рублі 10. Абед: салат — 50, паўбаршча — 80, катлета – 1 рубель 20, гарнір — 40, гарбата і хлеб за так. 2 рублі 90 капеек. Разам — 5 рублёў. Дзевяць квіткоў — 3 рублі 60 капеек. Усяго — 8 рублёў 60. У мяне застаецца паўтара рубля. Вечарам вайна, так што не да вячэры. А заўтра стыпендыя.

Я падаў чырвонец кандуктарцы:

– Мне дзевяць квіткоў.

Віялета Казіміраўна ўважліва ўглядзелася спачатку ў мяне, пасля ў маю суседку...

– Восем, – сказала кандуктарка, адлічыўшы квіткі і рэшту. – Адзін яна сама купіла.

– Вуліца Янкі Купалы! – абвясціў кіроўца. – Каму ў цырк, таму на выхад!

– Не, гэта цырк! – раптам зноў падхапіўся незадаволены дзядок. – Чалавек прысвойвае чужыя заслугі, а ўсе маўчаць! Ён дыктар радыё! А то я не ведаю дыктараў! Так ён і вашы заслугі прысвоіць, і мае! І што мне: аддаць?

Бабулі, абедзве ў ліловых хусцінках і чорных цыгейках, падняліся і пераселі ад дзядка далей – бліжэй да падпалкоўніка.

– Ён не казаў, што дыктар! – кінула займацца нашым з каптурыкам шчасцем Віялета Казіміраўна. – Ён сказаў, што выступаў, а вы ўсё перакручваеце!.. Ён жа перакручвае, таварыш палкоўнік!

Усе шукалі патрымкі ў чалавека, які ўвасабляў сілу. Слабыя ў моцнага.

У мяне старэйшы сябар Палкоўнік. Не сапраўдны палкоўнік, проста мянушка ў яго такая, але ён мацнейшы за сапраўднага. Ва ўсякім разе, за гэтага падпалкоўніка, які глядзіць на кандуктарку і не ведае, што сказаць.

– Падпалкоўнік я, – знайшоў, нарэшце, што сказаць, падпалкоўнік. – І адчуўшы, мусібыць, адказнасць за жанчын і дзяцей, абаронца краіны, якая скарачала свае ўзброеныя сілы, даволі строга спытаў дзядка. – А ў вас якія заслугі, каб іх прысвойваць?

Дзядок нібы толькі таго й чакаў.

– Вось! – выхапіў ён чырвоную кніжачку з кішэні! – Герой-падпольшчык!

Кандуктарка падхапілася:

– Там не напісана, што герой! Ездзіць можна бясплатна, я глядзела, але што герой – не напісана!

– Плошча Перамогі! – абвясціў кіроўца. – Ускладанне кветак героям!

Дама ў каракулі, якая не збіралася нікому ўскладаць кветкі, павярну-

лася да кандуктаркі: “Якая плошча?..” – і тая ўздыхнула, сядаючы: “Ды Круглая, Круглая... Усе ведаюць, а кожны пытае”.

Усе ведаюць, а кожны пытае, бо Круглая плошча, на якой паставілі абеліск і запалілі Вечны агонь, плошчай Перамогі стала нядаўна. Да новай назвы не прызвычаілася не толькі дама ў каракулі – для мяне дасюль плошча гэтая Круглая.

– Глядзі, – сказала адна бабуля другой у момант той цішыні, перад якой расчыняюцца дзверы. – Агонь на плошчы...

– І праўда... – з цікаўнасцю прыпала да акна другая. – Пэўна, дзеці распалілі...

“Жы-шу-шых!..” – расчыніліся дзверы – і ў іх лёгка, як парушынка, выляцеў мой сіні каптурык.

Нават не развіталася.

Нават кандуктарка здзівілася.

Нават бабулі ёй услед зірнулі.

Больш ніхто з тралейбуса не выйшаў, ніхто не ўвайшоў – і дзверы зачыніліся: “Шых-жы-шу!..”

Ад Круглай плошчы дарогі разыходзяцца на чатыры бакі.

– Шчасце не купіш, – паглядзеўшы ў зачыненыя дзверы, сказала кандуктарка. – Пралескі мог падараваць. Вянуць без толку.

Мог падараваць... Без толку вянуць... Калі б гэта была Ася, я б выскачыў з тралейбуса, схапіўшы пралескі. Не ў дзверы, дык у акно. Але гэта была не Ася – сіні каптурык. Нават не татарка Нэла.

Учора татарка Нэла таксама танцавала ў Палацы прафсаюзаў. Потым мы ўпяцёх: я, Нэла, Віл, Піля і Гарык праводзілі Марыну з амерыканцам. Воран сказаў: “Я з Асяй, а вы Марыну праводзьце. Ці мала што: усё ж амерыканец”.

Марыну чакаў каля дома чубаты Толік. Амерыканец адразу наскочыў на яго. Завадны: упершыню ўбачыў – і біцца. Такога б на вайну... І яны пабіліся б, калі б не мы. Вось тут, каля Вечнага агню.

Вайна магла пачацца яшчэ ўчора. Але яе перанеслі на сёння. Грушаўка будзе біцца з Сельгаспасёлкам.

– Наступны прыпынак – Даўгабродская!

Я вучыўся ў электратэхнікуме сувязі і жыў у інтэрнаце на Падлеснай, таму гэтая вайна была не маёй. Але разам са мной вучыліся Кон, Грыц і Балік. Кон і Грыц біліся за Грушаўку, Балік – за Сельгаспасёлак. Ён разважыў, што будзе справядліва, калі мы, свае са сваімі, будзем біцца два на два.

Я не хацеў біцца ні два на два, ні пасёлак на пасёлак. Я хацеў танцаваць рок-н-рол, слухаць Дзюка Элінгтана, Джона Рыда і Элвіса Прэслі, чытаць Агату Крысці, якую пераклалі з ангельскай Біг з Вілам, і кахаць Асю. Ды мала чаго я хацеў... Кон, Грыц і Балік сказалі: “Мы ўсе – адно. А ты – стыляга. Калі ты не з намі – ты супраць усіх”.

Я быў стылягам, але я не хацеў быць супраць усіх. Бо як супраць усіх – аднаму?

Татарка Нэла кажа: “Трэба быць усім з усімі, як татары з манголамі. Тады будзе Залатая арда”.

Тралейбус дугой каціўся па Круглай плошчы – і бабулі ўсё дзівіліся на агонь, які расклалі дзеці...

Татарка Нэла вучыцца на медсястру ў вучэльні на Падлеснай. Вучэльня – побач з Першай клінікай, у якой Нэла падрабляе. Яна пачала ўжо

карыстацца парфумай – і ёй патрэбныя грошы. А бацькі на парфуму грошай не даюць.

– Ды якія дзеці! – сярдзіта не вытрываў, гледзячы на бабуляў, дзядок, але тлумачыць бабулям нічога не стаў. Буркнуў толькі, чакаючы падтрымкі ад дамы ў каракулі. – Дзярэўня!..

Дама ў каракулі яго не падтрымала, яна ўвогуле нікога не падтрымлівала. Паднялася і пайшла да выхаду. Круглатварая, яна была трохі падобная да маці татаркі Нэлы.

Я раскахаў Нэлу, калі закахаўся ў Асю.

Мне дзіўна было, што я раскахаў Нэлу. Я думаў, што каханне – на ўсё жыццё. Адно на адно.

Віл сказаў мне, што так не бывае. Ён старэйшы за мяне, але не настолькі, каб гэта ведаць. І я не паверыў бы яму, калі б не раскахаў татарку Нэлу.

Нэла таксама здзівілася, што я раскахаў яе, і сказала, што таксама мяне раскахала. Таму гатовая на ўсё, бо без кахання ўсё прасцей.

Жыла яна недалёка ад вакзала – на вуліцы Савецкай. Бацькі яе, чыгуначнікі, працавалі ў начной – і яна прывяла мяне да сябе. Пасля таго, як мы праводзілі амерыканца. Але ў нас нічога не выйшла, бо я не ведаў, як гэта рабіць. А сярод ночы раптам з'явіўся бацька – і Нэла запіхнула мяне пад стол, дзе я галяком прасядзеў да раніцы. Скачарнеў увесь, пасінеў, здранцвеў...

І цяпер адразу ваяваць?

Кон, Грыц і Балік адчулі, што я не з імі, што мы – не адно. Таму і ўцягнулі мяне ў не маю вайну. Бо тыя, хто разам быў на вайне – франтавыя сябры. Яны да смерці разам.

Кандуктарка забрала ў мяне стужку квіткоў і вярнула 3 рублі 20 капеек.

– Сышло тваё шчасце, – сказала яна і засмяялася. – Зэканоміў, усё да лепшага.

Смех у яе не супадаў з голасам, жыў вышэй.

Я загадаў: калі дама ў каракулі выйдзе і рушыць уперад па праспекце – ажанюся з Асяй, калі назад – з татаркай Нэлай. Я раскахаў яе, але не так, каб не закахацца зноў...

Дама выйшла і павярнула на Даўгабродскую.

Ні ажаніцца мне ні з кім...

Што ж, усё да лепшага. У абед можна з'есці дзве катлеты. І павячэраць. Вечарам вайна, дык трэба набрацца сілы.

Хоць і не пабіўся чубаты Толік з амерыканцам, а ўсё адно вайна. Не тая, дык іншая. Без вайны ў гэтым свеце, відаць, не абысціся.

Мой бацька і ягоны франтавы сябар на кожны дзень Перамогі напіваюцца і страляюць адзін у аднаго з пісталетаў. Адзін бяжыць праз лес – другі страляе. Пасля наадварот... Кожны раз прыязджае маёр з ваенкамата, забірае ў іх пісталеты, а пасля вяртае. Ён таксама франтавік, яны разам да смерці.

Кожны раз маці просіць маёра, каб забраў пісталеты назусім. Кожны раз маёр тлумачыць, што назусім забраць нельга. Яны імянныя. Ад маршала Жукава. Такая ўзнагарода большая за ордэн. І бацька кажа, праціраючы імянны надпіс на пісталеце: "Вось, сынок, што такое імя. Зняславіш – заб'ю!.."

Значыць, трэба ісці на вайну.

– А вы на вайне былі? – спытаў дзядок падпалкоўніка, мусібыць, для таго, каб зачапіць яго, бо той сказаў, што ў Берлін са Сталіным уваходзіў, і дзядку зайздросна стала, але падпалкоўнік не зачапіўся, коратка кіўнуў: “Быў. Усе былі”.

– Э, не ўсе!.. – падхапіўся дзядок, якога перапыніў кіроўца: “Наступны прыпынак – плошча Якуба Коласа”, – і дзядок, не зачапіўшыся за падпалкоўніка, зачапіўся за Коласа. – Колас не быў! І Купала не быў! П’яны з лесвіцы зваліўся! І ў аднаго – вуліца, у другога – плошча! Справядліва?

Ніхто не адказаў яму, нават падпалкоўнік, да якога дзядок чапляўся – і тут ужо я не стрываў:

– Яны паэты!

Дзядок толькі й чакаў, хто не стрывае.

– Паэты?А я падпольшчык! Чым я горшы?

– Нічым, – каб супакоіць дзядка, сказала кандуктарка. – І ёсць вуліца Падпольшчыкаў.

Такой вуліцы я не ведаў. Але ў Мінску сотні вуліц. Можа, недзе ёсць і такая, на якой жывуць падпольшчыкі. Цэлая вуліца падпольшчыкаў...

Грушаўка, на якой жывуць Кон з Грыцам, і Сельгаспасёлак, дзе жыве Балік, варагуюць адно з адным даўно. І час ад часу б’юцца. Да дзявятай крыві. Як толькі дзявятаму байцу нюрбалку расквасяць, вайна канчаецца – дзясятага не б’юць. У каго меней пабітых, за тымі й перамога.

Гэтым разам Балік прапанаваў біцца ў парку Чалюскінцаў.

– У вас тады перавага, – сказаў Кон. – Парк Чалюскінцаў – ваша тэрыторыя.

– А дзе ў вас біцца? – спытаў Балік. – У парку Горкага, каб міліцыя забрала?

Нібыта ў парку Чалюскінцаў міліцыя не забярэ.

– Плошча Якуба Коласа! – абвясціў кіроўца, і дзядок, раззлавана махнуўшы рукой, выскачыў з тралейбуса. – Наступны прыпынак – Шостая лінія.

– Герой бабы старой, – услед дзядку пракінула кандуктарка. – Яшчэ жывы, скача, а ўжо вуліцу хоча. Памры спачатку.

– Беражы Бог, – сказала тая бабуля, якая першай з агню здзівілася, і перахрысцілася.

– Які Бог? – раздражнёна спытаў падпалкоўнік. – І каго беражэ?.. Гэтага старога латрыгу?

Бабуля перахрысцілася яшчэ раз:

– Усіх няхай Бог беражэ.

Кандуктарка таксама хацела перахрысціцца, але зірнула на падпалкоўніка і не перахрысцілася. Толькі губы, як дама ў каракулі, падціснула.

Прыпынак праехалі моўчкі.

На наступным я сышоў – і больш ніколі ў жыцці не спатkаліся мне ні тыя дзве бабулі, ні дзядок, ні падпалкоўнік, ні намеснік начальніка Мінскага паравознага дэпо, ні кандуктарка Віялета Казіміраўна, ні сіні каптурык... Над усім – толькі вясновы пах пралесак.

Вось што дзіўна: убачыць людзей, разам з якімі пражываеш свой век на зямлі, толькі на імгненне аднойчы ўраніцы...

А ўвечары была вайна.

Мы ўжо грушаўскіх дабівалі, засталося толькі адну, дзявятую кроў пусціць, калі на мяне наляцелі незнаёмыя мужыкі. Не з нашых. П’яныя,

у наколках – з тых, каго нядаўна выпусцілі з турмы па амністыі. Блатныя. Адзін ударыў алавянкай – і ўвечары я апынуўся там, дзе сышоў з тралейбуса ўраніцы: у Першай клініцы на Падлеснай.

Першай, каго ўбачыў, вярнуўшыся з таго свету, была Ася. Я пазнаў яе і заплакаў: ніколі мне з ёй не ажаніцца. Дама ў каракулі сышла з тралейбуса і павярнула на Даўгабродскую...

## Пляц Волі, былы Высокі Рынак

– З каго нічога не выбіць – таго не б'юць, – кажа мне Саламон Майсеевіч на мой аповед пра тое, як я ледзьве не апынуўся на тым свеце. – Хіба выпадкова. Стаіш на вуліцы, нехта падыходзіць: "Чаго тут стаіш?.." Ты і адказаць не паспееш, бо сам пакуль не ведаеш, чаго тут стаіш, а той, які падышоў – тыц! Ці ў пысу табе, ці куды папала. І далей рушыў па сваіх таемных справах. Не надта яму, аказваецца, цікава, чаго ты тут стаяў.

Я слухаю Саламона Майсеевіча і ў згодзе ківаю галавой, бо ўжо сам здагадваюся: людзі людзей на гэтым свеце прыблізна гэтаксама цікавяць, як і на тым. Ну, калі мець на ўвазе людзей, якія яны ёсць, а не якімі прыкідваюцца.

Прыкідвацца чалавеку, як яно ні дзіўна, куды лягчэй, чым быць самім сабой. Таму і шчэмяцца ў акторы ўсе... То ў вайну, то ў мір гуляюць.

Палкоўнік, пра якога размова далей, кажа, што актор – гэта той, хто не ведае, хто ён такі. Калі ён, канечне, не правізар, які ведае, што ён правізар. А Косця Воран з Палкоўнікам не згодны. "Сам пра сябе, – кажа Косця, – ніхто не ведае нічога. Нават правізар. Але ж не ўсе – акторы".

"Ты хоць разумееш, што ты сказаў? – пытае Косцю Палкоўнік, спрабуючы задарма, не кінуўшы манету, выбіць з аўтамата газіроўку, але кулачок у Палкоўніка маленькі – і аўтамат толькі ўздрыгвае, пашыпваючы, а вады не дае. – Чаго пра сябе можа не ведаць правізар? Вось спытайся ў Саламона Майсеевіча: чаго ён пра сябе не ведае?"

"Але ж Саламон Майсеевіч не правізар..." – разгублена глядзіць Косця на Палкоўніка, якому ўсё адно, што там ведае ці не ведае пра сябе Саламон Майсеевіч, і толькі дзеля таго, каб Косця дапамог яму газіроўку з аўтамата выбіць, Палкоўнік кажа: "Але мог ім быць..."

"Гух!" – б'е Косця – і струменіць, зашыпеўшы, вада з аўтамата.

Мала каго так білі, як той першы ў Мінску аўтамат з газаванай вадой. І толькі праз тое, што з яго можна было нешта выбіць. Не Бог ведае што, шклянку вады з сіропам ці без, але ўсё ж...

Пасля хрушчоўскай грашовай рэформы шклянка газіроўкі без сіропу стала каштаваць не дзесяць капеек, а капейку, з сіропам — тры. З сіропам рэдка хто выбіваў. На маёй памяці толькі Косця Воран. І толькі аднойчы. Ці, можа, два разы. Але ён быў здаровы. У-у-у, які здаровы быў Косця Воран! Калі ад яго Ася ў аўтобус скочыла, каб да Гурыка паехаць, гэта на Круглай плошчы, на канцавым прыпынку першага аўтобуснага маршруту было, дык Косця ўхапіў аўтобус за задні бампер і трымаў. Аўтобус газаваў, пакуль бампер не адарваўся.

А тут нейкі аўтамат з газіроўкай... Ён амаль штодня ламаўся – і яго амаль штодня рамантавалі.

Стаяў ён на пляцы Волі, на спуску да Нямігі, куды перанеслі яго з праспекта Леніна ад крамы пад гадзіннікам, шостай прадуктовай, у якой і пачалі прадаваць мінчукам пеністую ваду з сіропам і без. Чаму перанеслі,

ніхто не ведаў. Але ўсе здагадваліся: каб ятку знесці, у якой раней мяса прадавалі. Мяса на ўсіх не хапала, і каб яго стала болей, увесь Савецкі Саюз засеялі кукурузай, пасля чаго мяса зусім прапала. Ятка стаяла пустой – і ў ёй сталі прадаваць газіроўку. Мінчукі падыходзілі, выпівалі і пыталіся: "А закусіць?" Калі ж ятку знеслі і аўтамат замест яе паставілі, дык у каго пра што пытацца? У аўтамата?..

А аднойчыі ён знік. Усе падумалі, што яго звезлі, каб нічога ўжо пра ятку з мясам не нагадвала. Але не, я ведаў: ён знік сам. Каб не замінаць Саламону Майсеевічу, які праз яго стаў беспрацоўным і напісаў скаргу ў Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі на Мінскі гарадскі выканкам дэпутатаў працоўных і на КДБ.

Я знайшоў зніклага на Берасцянскай, у двары дома, дзе аптэка. Сказаў, што Саламона Майсеевіча не стала – і цяпер яны адзін аднаму не замінаюць. Ні аўтамат Саламону Майсеевічу, ні Саламон Майсеевіч аўтамату. І ніхто ўжо не ўспамінае ятку.

Вось у той ятцы на спуску ад пляца Волі да Нямігі, у якой раней мяса прадавалі і на месцы якой, калі мяса прапала, аўтамат з газіроўкай паставілі, штодня й круціўся каля кранікаў з вадой і сіропам Саламон Майсеевіч Бланк. Хударлявы, перакошаны ў плячах, з гарбузаватай, злыселай ад лобу да макаўкі, галавой. Мітуслівы, ён вытыркаўся і вытыркаўся з вакенца яткі, як зязюля з гадзінніка.

Ці як шпак са шпакоўні.

Цяпер можна сказаць, што ён увогуле вытыркаўся з часу.

Яшчэ больш мітуслівымі, чым сам Саламон Майсеевіч, былі ягоныя рукі, якія жылі, здавалася, асобным і адна ад адной, і ад Саламона Майсеевіча жыццём. Калі нехта ваду без сіропу прасіў, дык дзвюх рук гэта не займала... Адной рукой кранікі круцячы, Саламон Майсеевіч другую ўскідваў, нібы ўвагі прасіў, каб з вакенца яткі зараз жа прамову пачаць.

Ку-ку!

А прамаўляць ён мог што заўгодна... Вось будзе стаяць на пляцы Волі, на спуску да Нямігі, ад спёкі знемагаючы, чарга да вады, а Саламон Майсеевіч будзе казаць да ўсіх, у вакенца яткі вытыркаючыся:

– У галовы вам напякло! Бо ж нічога ў вас, дзе галовы! Хай на капялюш, на капялюшык шкадуеце, але ж ёсць цюбецейкі! Іх жа гару ў ГУМ завезлі, нібыта тут Туркменія! Да ГУМа ж дзве хвіліны хады! Рубля не каштуюць, шэсцьдзясят капеек! Дваццаць шклянак вады з сіропам! Дык вы сіропам захлынуцца гатовы, а галовы хай пячэ да смерці! А нашто вам сіроп без галоў? Хай сабе нават ананасны! Ні пра што ж не думаеце! А пра мяне думаеце: прыстроіўся кранікі круціць! І ў галаву яму не пячэ! Раз крутнуў, не даліў – капейка! Два разы крутнуў – дзве! Дык за дзень жа!.. Не адну цюбецейку купіць можна!.. А каб хоць нехта падумаў, што я наліваю не меней, а болей! Ніхто! Ніхто! Ніхто і ні пра каго ў гэтай краіне лепей не падумае! Толькі горай! І пакуль так будзе, я буду круціць, а вы без цюбецеек хадзіць і галовы паліць. Няма на вас таварыша Сталіна!..

– А Сталін тут пры чым? – не злавіўшы логікі ў апошніх словах Саламона Майсеевіча, раптам вытыркаецца мужык з чаргі і тут жа, насцярожана паазіраўшыся, шкадуе, што закарцела яму спытаць пра Сталіна, бо навошта было аднаму вытыркацца, калі ўсе астатнія п'юць ваду і маўчаць.

– Пры таварышы Сталіне вы ўсе ў цюбецейках хадзілі б! – адразае Саламон Майсеевіч, і паколькі чарга не пярэчыць, хоць ніхто ў ёй не разумее: чаму ў цюбецейках, калі Сталін грузін? – Саламон Майсеевіч прамаўляе

далей. – Калі хочаце ведаць, я з 17 лістапада 1937 года моцна не ўзлюбіў таварыша Сталіна. І зусім не таму, што ён скрывіў лінію таварыша Леніна. 17 лістапада 1937 года забралі і невядома дзе падзелі майго брата Ізю. Мой брат Ізя быў паэт, а таварыш Сталін быў хто? Таварыш Сталін быў таварыш Сталін. У семінарыі вершы складаў, а хто чытаў? Вы чыталі? – пытаецца Саламон Майсеевіч у насцярожанага мужыка, які ўжо не рады, што яму піць захацелася. – Ніхто не чытаў. А вершы майго брата Ізі вы можаце пачытаць, у мяне кніжкі ёсць... – І прадаўшы разам з газіроўкай тузін кніг брата Ізі, Саламон Майсеевіч сканчае прамову.

– 25 лютага 1956 года раптам адкрылася, што таварыша Сталіна не любіў не толькі я, але і Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, які асудзіў таварыша Сталіна за культ асобы. І што з таго? Думаеце, знайшоўся невядома дзе падзеты брат мой Ізя? Не, не знайшоўся невядома дзе падзеты брат мой Ізя. Затое просты савецкі чалавек, маёр Юры Аляксеевіч Гагарын першым узляцеў у космас. Салам алейкум!.. – вытыркаецца з яткі Саламон Майсеевіч і робіць гэтакі рух, нібы здымае з галавы цюбецейку.

Чаму салам алейкум?.. Таму што цюбецейкі ў ГУМ завезлі?..

Косця Воран неяк сказаў Саламону Майсеевічу, што той падобны да Леніна, толькі без барады. “А я сваяк ягоны, – вытыркнуўся з яткі Саламон Майсеевіч. – Ды пра гэта нікому!..” І за тое, што Косця распазнаў у ім сваяка Леніна, Саламон Майсеевіч наліў Косцю вады з ананасным сіропам.

Анідзе ў горадзе не было такіх сіропаў, як у Саламона Майсеевіча! Апроч звыклага яблычнага ці малінавага з вішнёвым, яшчэ і абрыкосавы, апельсінавы, ананасны... Ананасаў у Мінску ніхто ў вочы не бачыў, а сіроп ананасны ў Саламона Майсеевіча быў.

І яшчэ была ў яго дачка Ася.

Ані ў кога ў Мінску не было такой дачкі, як у Саламона Майсеевіча! Высокая, мармурова белая, з зеленаватым смуткам глыбінных, самых у сабе затоеных, вачэй, над безданню якіх лунаў пажар агністых валасоў – уся не ў бацьку. А ці ў маці – невядома, бо маці яе, Соня Лямпель, загінула ў мінскім гета, ледзь паспеўшы нарадзіць дачку, якую ўзгадаваў Саламон Майсеевіч, каб Косця Воран згараў у пажары яе валасоў...

І не ён адзін.

Як толькі Ася ў белай сукенцы, на якой золатам плавіўся пажар яе валасоў, з’яўлялася каля яткі, дык нават у прахалодныя дні, калі нікому піць не хацелася, не канчалася чарга сасмяглых. З Асяй Саламон Майсеевіч мог бы прадаваць газіроўку нават зімой, калі б яна не ледзянела. Дый ледзяную пілі б, лёд бы хрумкалі, калі б Ася каля яткі стаяла. Неяк Асі ў Мінску з тыдзень не было, у Аўстрыю, у Вену да радні ездзіла, дык народу каля яткі адразу паменела: ніякай чаргі нават пры спякоце. З Вены Ася кока-колу прывезла, пра якую мы спявалі: “Не хадзіце, дзеці, ў школу, піце, дзеці, кока-колу...” – хоць самі кока-колу ніколі не пілі і, як аказалася, маглі й не піць – што там тая кока-кола ў параўнанні з шыпучай вадой з сіропам з яткі Саламона Майсеевіча!..

У той дзень, калі Косця Воран распазнаў у Саламоне Майсеевічы сваяка Леніна, каля яткі мы стаялі ўтраіх: Косця, Ася і я. Да нас падыходзіў Ас, але ён быў яшчэ наводдаль. Настолькі далёка, што наўрад ці мог пачуць тое, што сказаў Саламон Майсеевіч пра сваё сваяцтва з Леніным. Хоць хто яго ведае, з якой адлегласці чуюць лётчыкі, у якіх нябеснае здароўе. Калі нават яны былыя.

Ас хадзіў у шынялі з пагонамі генерал-маёра авіяцыі. Пад шынялём – зашмальцаваны, зацыраваны цывільны пінжак на чарнільна-сінюю майку. Таму шыняля ён ніколі не расшпільваў. Заходзіў у кавярню “Вясна”, дзе яго найчасцей можна было бачыць, прадстаўляўся ўсімі сваімі мянушкамі: “Ас! Генерал! Мёртвая пятля!” – і чакаў, пакуль нальюць. Калі не налівалі доўга, станаў пасярод залы і пачынаў свістаць, імітуючы палёт куляў з асколкамі. Гэта ў яго здорава выходзіла: страшна, як на вайне! Калі быў у кавярні нехта новенькі, дык, уражаны, запрашаў Аса да стала.

Кожны раз Ас прасіў наліць яму адно і тое ж: шклянку партвейна “Агдам”. Выпіўшы, штораз адно і тое распавядаў: колькі і як назбіваў самалётаў – нямецкіх і амерыканскіх. “Ён мне ў хвост, а я ў мёртвую пятлю...”

Новенькія ў кавярні здараліся зрэдку, таму наліваў Асу звычайна Косця Воран, ці амерыканец, у якога і адна з мянушак была такая, Амерыканец, і ён насамрэч быў амерыканцам. Тым самым амерыканцам, з якім пазнаёміліся мы на танцах у Палацы прафсаюзаў.

Амерыканец пытаўся ў Аса, наліваючы:

– А дзе ты збіваў амерыканскія самалёты?

Ас нёс несусветнае... Амерыканец гладзіў каленкі Марыны, Асінай сяброўкі, якая працавала ў шпітальнай аптэцы і прыносіла амерыканцу, якога звала Алікам, аплаткі, каб не балела ад нашага савецкага жыцця ягоная амерыканская галава. Гурык уважліва ўсіх слухаў... Гурык сябраваў з Косцем, кахаў Асю – і быў прыстаўленым да амерыканца гэбістам. Ён падазраваў, што амерыканец налівае Асу, каб выведаць у таго савецкія самалётныя сакрэты.

Ас казаў:

– Я збіваў вашыя самалёты паўсюль, бо вы, амерыканцы, засранцы!

П’яны амерыканец з акцэнтам, а таму, здавалася, не надта й брыдка, лаяўся і разам з Асам абзываў амерыканцаў засранцамі, але не згаджаўся, што ён такі ж самы, як яны, бо ўсе амерыканцы былі за капіталізм, а ён – за камунізм. Мы таксама былі за камунізм, мы яго нават, невядома як, будавалі, і амерыканец намагаўся ўцяміць: як? – але як мы пра той камунізм, самі не ўяўляючы, што ён такое, яму ні тлумачылі, так і не ўцяміў. Ён прыехаў з Амерыкі спачатку ў Маскву, пасля ў Мінск, ажаніўся з Марынай, вярнуўся са сваёй савецкай жонкай у Амерыку і забіў там свайго амерыканскага прэзідэнта. Не праз тое забіў, што амерыканцы – засранцы, якія не хацелі будаваць камунізм, а праз рэўнасць да Марыны, якая, прыехаўшы ў Амерыку, закахалася ў амерыканскага прэзідэнта. Амерыканскі прэзідэнт быў падобны на чубатага Толіка, і Марына выстрыгала партрэты прэзідэнта, падобнага на яе першага каханка, з усіх газет і часопісаў, пісала яму лісты. Аднойчы нават адказ атрымала. Ну, так яна казала, што атрымала адказ, але не казала, які...

Ас чакаў, пакуль амерыканец нальe, і толькі тады, калі той наліваў, казаў далей.

– Ты ведаеш, якія ў нас самалёты?.. Во, глядзі, – ён браў відэлец. – Во гэтыя восці, гэта, значыць, чатыры рэактыўныя рухавікі. І кожны з іх можа мяняць напрамак цягі. Таму во так, глядзі, – скрыўляў Ас восці алюмініевага відэльца ў адзін бок, – я магу ляцець наперад, а во так, – крывіў ён восці ў бок другі, – назад.

Амерыканец пытаўся: “А ўбок можаш?..” – і падхмялелы Гурык, сурова гледзячы на падвар’яцелага генерала, прыкладваў палец да губ: “Цыс-с-с...” Ён нахіляўся да Аса і шаптаў на вуха: “Я, старшы лейтэнант камітэта дзяржбяспекі, кажу вам: цыс-с-с!”

Калі амерыканец, якога Марына звала Алікам, а сапраўднае імя якога было Лі Гарві Освальд, вярнуўся ў Амерыку і забіў свайго амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі, Гурык сказаў Косцю, у кавярні "Вясна" выпіваючы: "Бачыў, як мы спрацавалі."

Гурык не збіраўся доўга быць лейтэнантам, хай сабе нават старшым. Ён хацеў неяк хутка-хутка – невядома, як, але хуценька – стаць генералам і заняць у будыніне КДБ галоўны кабінет, у якім ён папіваў бы ірландскія ды ангельскія віскі, пакурваў бы амерыканскія цыгарэты і паплёўваў бы з акна на Ленінскі праспект.

Будыніна КДБ была непадалёк ад кавярні "Вясна" на Ленінскім праспекце. Амаль насупраць. Ас заўсёды праходзіў паўз яе страявым крокам.

Ніхто не ведаў прозвішча Аса, не мог назваць ягонае імя. Ас. Генерал. Мёртвая пятля. Гарадскі вар'ят. Неад'емная частка Мінскага жыцця апошніх гадоў адлігі, вясновы пах якой ледзьве даносіўся да Мінска з Масквы, перацякаў з левага берага Свіслачы на правы, ад Круглай плошчы да пляца Волі, блукаў па вуліцах Маркса і Энгельса, і, завіваючыся, губляўся ў псеўдаантычных калонах тэатра Юнага гледача, на прыступках якога казаліся прамовы пра адлігу і чыталіся вершы, якія любіў слухаць Алік: ці то амерыканец, ці то іншапланецянін.

## Плошча Перамогі, былая Круглая

Здагадку пра тое, што амерыканец Алік ніякі не амерыканец, а іншапланецянін, нечакана для ўсіх выказаў Гарык Клябанаў, калі мы сядзелі ў кавярні "Бярозка", чакаючы чубатага Толіка, якога Алік збіраўся забіць.

– Што ў нас рабіць амерыканцу? – спытаў Гарык. – Ну, вы падумайце...

Падумаўшы, мы не знайшлі для амерыканца занятку. А вось не думаючы, знаходзілі: на радыёзаводзе даганяць і пераганяць Амерыку. Савецкі Саюз у тыя часы ва ўсім тую Амерыку даганяў і пераганяў, ні ў чым і ніяк не даганяючы.

У адрозненне ад кавярні "Вясна" на рагу Ленінскага праспекта і вуліцы Камсамольскай, кавярня "Бярозка" на Круглай плошчы выглядала звычайнай сталоўкай. Амерыканца, які мог дазволіць сабе любы рэстаран, можна было ўбачыць у той сталоўцы толькі таму, што на Круглай плошчы жыла Марына. На самым пачатку іх знаёмства Алік вечар за вечарам прападаў у "Бярозцы", цікуючы, калі і з кім Марына вернецца дахаты. А тая найчасцей вярталася пад руку з чубатым Толікам. Стылягам.

Стыляга – гэта стыль. Падпольна перапісаныя на "касцях", скарыстаных рэнтгенаўскіх здымках, якія яшчэ называлі "шкілет маёй бабулі", амерыканскія кружэлкі з рок-н-ролам. Набрыялінены кок. Порткі-дудачкі. Шыракаплечы пінжак. Стракатая кашуля. І абавязкова "трактары" ці "шузы": на тоўстых падэшвах, што называліся "маннай кашай", туфлі.

Стыляга – гэта ідэя: франдзёрскія адносіны да ўсяго шэрага, шараговага. Выходзіла, што да савецкага. Менавіта за ідэю, а не за набрыялінены кок са стракатай кашуляй, стылягу маглі выключыць з камсамолу і вытурыць з інстытута. Праз гэта камсамолкі спявалі: "Пад стылягу я не лягу..."А камсамольцы ў насценных газетах вершы пра стылягаў пісалі:

Иностранцы? Иностранки?
Нет! От мозга до костей

Это местные поганки!
Доморощенный “бродвей”!

Рок-н-рол з’явіўся ў Савецкім Саюзе перад вайной разам з Эдзі Рознэрам, а стылягі – пасля вайны, калі польскі габрэй Адольф Ігнацы Рознэр, які змяніў імя сваё праз тое, што пры кожным знаёмстве ў яго пыталіся: “Адольф?.. Гітлер?..” – сядзеў у сталінскім лагеры на Калыме. Але ўсё адно яго можна лічыць першым у Савецким Саюзе стылягам, бо ён джазіст, а слова *стыляга* якраз са слэнгу джазістаў. *Стыляць* азначае граць у чужым стылі, і калі трубач ці саксафаніст грае пад некага, дык пра яго кажуць: *стылягу* дзьме. Эдзі Рознэр і быў стылягам: ён, не хаваючыся, дзьмуў пад Луі Армстранга, які падараваў Эдзі Рознэру свой фотаздымак, надпісаўшы яго: “Беламу Луі Армстрангу”.

Пасля вайны, калі Луі Армстранг-чорны граў на Брадвэі джаз, Луі Армстранг-белы валіў на Калыме лес, і вярнуўшыся адтуль з цынгой, без зубоў, што для трубача трагедыя, шапялявіў адно і тое: “Я не хашу болей на лешапавал”. Баючыся, каб яго, бронь Божа, зноў не западозрылі ў чым-небудзь не савецкім, ён усяляк дэманстраваў лаяльнасць, нават уключыў у рэпертуар аркестра песню, якую спявала Ніна Дорда:

Ты его, подружка, не ругай,
Может, он залетный попугай.
Может, когда маленьким он был,
Кто-то его на пол уронил,
Может, болен он, бедняга?
Нет, он попросту стиляга!

Апошнія словы выкрыкваў увесь аркестр, трубамі і саксафонамі паказваючы на дырыжора: “стылягу” Эдзі Рознэра. Зала патанала ў авацыях...

– Эдзі, што з табой зрабіла Масква? – спытаў Палкоўнік, калі пасля канцэрта мы зайшлі за кулісы. – Ты ў Мінску чалавекам быў.

Эдзі Рознэр быў старэйшы за Палкоўніка не менш як гадоў на дваццаць, але Палкоўнік не меў звычкі звяртацца да каго-небудзь на вы. Што ж да мяне, дык музыканта, роўнага Дзюку Элінгтану з Луі Армстрангам, бачыў я ўпершыню – і вачам сваім не верыў: няўжо гэта ён? Саліст джаз-аркестраў Марэка Вэбэра і Стэфана Вайнтраўба – найпершы трубач даваеннай Еўропы?.. І ён тут, у Мінску? І Палкоўнік з ім на ты?..

– Гэта не Масква, Кім, – вінавата ўздыхнуў Рознэр. – Гэта Калыма.

– Калыма і ёсць Масква, – незразумела што сказаў Палкоўнік, але Рознэр, мусібыць, зразумеў яго, бо кіўнуў.

—Так... Калі ў трыццаць дзявятым я перасек мяжу, апынуўся ў СССР і заўважыў уздоўж чыгункі жанчын з рыдлёўкамі і ламамі, чаго нідзе раней не бачыў, я зразумеў, куды патрапіў. Але позна было.

Здавалася, ён вось-вось слязу пусціць, і Палкоўнік суцешыў яго.

– Не скуголь. Не патрапіў бы ў СССР, дык не стаў бы стылягам. Дзе яшчэ стылягі былі?

– Нідзе, – абняў Рознэр Палкоўніка і раптам заспяваў, шчоўкаючы пальцамі:

Pardon me, boy,
Is that the Chattanooga choo choo?
Track twenty nine,
Boy, you can give me a shine.

Гэта быў “Цягнік на Чаттанугу” з “Серэнады Сонечнай Даліны”. Амерыканскі гімн савецкіх стылягаў.

На маскоўскім “брадвэі”, вуліцы Максіма Горкага ад помніка Пушкіну да Манежа, стылягі з’явіліся, калі яшчэ я ў піянерскім хоры песні пра Сталіна спяваў. Семсот вёрст ад Масквы да Мінску стылягі, або, як яны самі сябе называлі, “штатнікі” йшлі амаль дзесяць гадоў – і шмат што за гэты час змянілася. Не стала Сталіна, празвінелі капяжы хрушчоўскай адлігі, краіна зняла фрэнч і надзела пінжак. Няхай мехаваты, як у Хрушчова, але ўсё ж не вайсковага крою. І стылягі ўжо не насілі неверагодна шырокія, шырэйшыя за пазнейшыя “клёшы”, штаны, капелюшы з шырокімі палямі, гальштукі “пажар у джунглях”, жоўта-чырвоныя шкарпэткі. З’явіліся порткі-дудачкі, вузкія гальштукі-селядцы, якія завязваліся ў тоненькі вузельчык, швэдры «з аленямі», як у Джона Пэйна з таго ж культавага фільма «Серэнада Сонечнай Даліны». Нязменнымі заставаліся хіба кашулі ў «гавайскім стылі» – з бананамі, пальмамі, малпамі ды папугамі.

Упершыню ўціснуўшыся ў светла-сінія дудачкі і надзеўшы кашулю з пальмамі, на якіх раслі бананы і сядзелі малпы з папугамі, я адчуў, што жыццё – свята. І ў той жа вечар займеў яго, калі ў кампаніі стылягаў, у якую быў дапушчаны праз Косцю, “кінуў брэк па броду”: прайшоўся па Мінскім “брадвэі” – праспекце Леніна ад паштамта да Круглай плошчы. Косця Воран, Піля Пястрак, Эдзік Гарачы, Гарык Клябанаў, Віл, Біг... Якая кампанія! Я не сніў, не марыў...

Як мы йшлі!.. Як стракатыя кашулі шапталіся ды скураныя шузы парыпвалі!.. “Брадвэй” рассцілаўся, расцякаўся перад намі, а мы па ім – культурненька, акуратненька. Не каля самых сцен, але й не нахабна пасярод, каб не надта сучаснікам замінаць, суайчыннікаў не моцна раздражняць, бо яны не вінаватыя, што такія... І кожнаму, каго выпадкова зачэпім, нашае даруйце, прабачце, а вось жа ўсё адно ўслед нам: “Стылягі! Малпы! Дармаеды! Амерыканцам прадаліся! Куды міліцыя глядзіць!..”

А вось яна, міліцыя, якраз на нас глядзіць... І ў скверы на вуліцы Леніна, дзе цяпер помнік лётчыку Гараўцу стаіць, да нас падыходзіць. “Так... Вы сёння доўга тут?..” “А мы не ведаем! Сквер у колькі зачыняецца?” “Ты, Воран, глядзі! Дажартуешся!..” “А што глядзець?” “А тое... Акуркі ў сметніцу кідаць!..” “Ёсць!” “Даказыраешся! Сустрэнемся яшчэ...”

Пагаварылі – і разышліся.

Міліцыя – гэта нармалёва. Горш – брыгадміл. Брыгада садзейнічання міліцыі. Тое, што потым назвалі народнай дружынай.

Міліцыянты хадзілі ў той час без дубінак, а брыгадмілы – з дубінкамі. Прычым, рабілі іх самі, ніхто ім дубінкі не выдаваў. Разразалі на кавалкі тоўстыя гумовыя шлангі, устаўлялі ў шлангі жалезныя пруты – і батожылі нас так, што косці трашчалі. Міліцыя стаіць, у бок адвярнуўшыся, а яны лупяць. Пашчэнкі зламаюць, а пасля з нажніцамі накідваюцца порткі-дудачкі кроіць.

Яны чакалі нас у скверы насупраць цырка, дзе тады помнік лётчыку Гараўцу стаяў – на вуліцу Леніна яшчэ не перанесены. Прыкладна там, дзе цяпер помнік Купалу стаіць. Трое на мяне наскочылі: “Хто не з намі – той супраць нас!” Я гляджу: Кон, Грыц і Балік. За бойку ў парку Чалюскінцаў іх хацелі пад суд аддаць, але перадумалі і запісалі для перавыхавання ў брыгадміл. Яны з ног мяне збілі, давай штаны рэзаць. Воран кінуўся на дапамогу: “Вашы штаны?.. Вы яму іх шылі?!.” Раскідаў брыгадмілаў, палкі

паадбіраў – тут і з міліцыяй новая сустрэча. Міліцыя ведала, што казала: "Сустрэнемся яшчэ".

Пазней "брадвэй", які прасавалі мы "шузамі", іншыя хлопцы, маладзейшыя за нас, падмяталі "клёшамі". Не скажу ні пра "клёшы", ні пра тых, хто імі "брадвэй" падмятаў, нічога кепскага, але...

Мы былі мы.

Пра нас вершы складалі.

"Иностранцы? Иностранки?.."

У наскрозь бліскучай нашай кампаніі асобнай зоркай ззяў, канечне, Косця Воран. Ды гэта для мяне. А для некага – Віл.

Віл – мянушка Ледніка, якога завуць Віктарам, а па бацьку Іванавічам. Таму і Віл. Як Барыс Іванавіч Галушка – Біг. Такія мянушкі – па першых літарах імя і прозвішча – былі ў нашай кампаніі ў многіх.

У мяне была мянушка Князь. Не ведаю, чаму. Не помню нават, хто яе прыляпіў да мяне. Нехта ў тэхнікуме. Яшчэ тады, калі мы здавалі ўступныя экзамены. І, можа быць, тая мянушка таму да мяне прыляпілася, што, калі ўсе шпаргалкі да экзаменаў пісалі, я пісаў вершы татарцы Нэле. "Нэла! Не граф я! И Вы – не графиня! Но со слезой, что течет по шипам, Алая роза в хрустальном графине Тайно завидует вам!" Але ў такім разе я павінен быў займець мянушку "граф", а не "князь". Дзе логіка?

Біг сказаў, каб я такой драбязой не пераймаўся, бо гэта ў нашай мове граф і князь – словы розныя, а ў мове сусу, на якой размаўляюць гвінейцы ў цэнтральнай Гвінеі, гэта адно слова. Праўда, ён забыўся, якое, на што Палкоўнік не прамінуў заўважыць, што наўрад ці Біг тое слова ўспомніць, бо ў Гвінеі, наколькі яму вядома, ёсць усё, апроч князёў з княгінямі і графаў з графінямі. Графы, канечне, былі там, калі Гвінея была калоніяй Францыі, але потым іх з'елі.

Гэта азначала, што я мог з'есці вершы, якія напісаў татарцы Нэле. Палкоўнік трываць не мог ні ружаў у крышталі, ні іншых прыгажосцяў, а Бігу вершы падабаліся – і верш пра ружу, якая зайздросціць татарцы Нэле, ён у піку Палкоўніку пераклаў на мову сусу.

Біг – геній. І геній – не яшчэ адна мянушка ягоная, ён насамрэч мае здольнасці генія. Ведае 54 мовы (ангельскую – з чатырма дыялектамі), а пастанавіў сабе ведаць 100. У тым ліку іўрыт. І будзе ведаць 100 з іўрытам. Калі захоча. Ніхто ў тым не сумняваўся, апроч Віла, які (толькі ў гэтым) зайздросціў Бігу.

Віл вучыўся на журфаку і ўжо друкаваўся ў газетах. А яшчэ займаўся радыёспортам, праз які ва ўсім свеце меў знаёмцаў. Можа, таму і стаў ён першым і ў нашай кампаніі, і ў Мінску, і ва ўсёй Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы чалавекам, які дазнаўся, што ёсць такое дзіва: джынсы.

Ды мала – дазнацца. Іншы б дазнаўся, што ёсць недзе дзіва – і няхай сабе яно там будзе. А Віл разгрузіў дзесяць вагонаў на таварнай станцыі, сабраў грошы, паехаў у Маскву і купіў джынсы за пяцьдзясят рублёў у фарцы – дзе яшчэ ў савецкі час можна было дзіва купіць? Няхай тое дзіва паношанае, выцертае, сто разоў пранае, але якая ад "Бярозкі" да "Вясны" была праходачка!..

Толік жа хоць і быў стыляга, але ў Маскву па дзіва не паехаў бы. Характар не той. Можа, таму ён і да кампаніі нашай не далучаўся. Ці не далучаўся праз тое, што жыў не ў цэнтры – не ведаю. Але думаю, што калі б ён прасаваў "брадвэй" разам з намі, дык нашу кампанію не сапсаваў бы.

Чубаты, мускулісты, рослы, выглядаў ён так, што амерыканец Алік побач з ім ніяк не выглядаў. А вось надумаў адбіць у яго Марыну...

А як адбіць?.. А ўзяць ды Толіка забіць! Дзеля гэтага Алік запісаўся ў паляўнічае таварыства і купіў стрэльбу. Ён збіраўся залезці на дах суседняга дома і, калі Толік, правёўшы Марыну, развітаецца з ёй, і тая зойдзе ў пад'езд, пакласці суперніка. На прыступках, не даўшы яму далёка адысці, каб Марына выбегла і ўбачыла, што Толік dead. Мёртвы. "You corpse!" – не раз наскокваў Алік на Толіка, пераймаючы стылягу пасля ягоных спатканняў з Марынай. Ніхто не звяртаў на гэта асаблівай увагі, а сам Толік, які мог пакласці Аліка адной левай, толькі адмахваўся ад Амерыканца, як ад мухі: "Добра, добра, я труп..."

Гэткія паблажлівыя адносіны даводзілі самалюбнага Амерыканца да шаленства – і перш чым забіць суперніка, ён вырашыў яго адмалаціць. Разумеючы, што сам-адзін зрабіць з Толікам нічога не здолее, Алік пачаў угаворваць нас дапамагчы яму. Ніхто не ўгаворваўся – і тады ён прапанаваў грошы. Па паўсотні кожнаму, хто згодзіцца. Гэта было ў чатыры разы болей за маю стыпендыю, але і за грошы лупіць стылягу Толіка, каб адбіць у яго Марыну для Амерыканца, ніхто не захацеў. Бо Амерыканец – чужынец, а стыляга Толік – свой.

Неяк у "Бярозцы" застаў я Амерыканца ў кампаніі з мужычком па мянушцы Ірад. Мянушку такую Ірад праз прозвішча меў: Ірадаў. Яны збіраліся ў цір пайсці, Ірад спытаў: "Хочаш пастраляць? Пару ворагаў забіць?.."

Я захацеў.

З усіх бакоў абкружалі ў той час Савецкі Саюз заклятыя ворагі, якія, калі пра нешта й марылі, дык толькі пра тое, каб нас знішчыць. Не ведалі толькі: як?.. Найлепш было б, як марыў амерыканскі сенатар Бары Галдуотэр, скінуць на нас атамную бомбу. Ён, праўда, як пазней высветлілася, удакладняў, куды хацеў бы тую бомбу скінуць: не на ўсіх нас, а толькі на Маскву. І не на ўсю Маскву, а выключна на Крэмль. І нават не на ўвесь Крэмль, які сенатар цаніў як сусветную архітэктурную каштоўнасць, а дакладненька на мужчынскі сарцір у Крамлі. Але пра абмежаванасць мары сенатара Галдуотэра мы тады не ведалі. Мы думалі, што амерыканцы прагнуць знішчыць нас усіх – і рыхтаваліся да адпору. Таму пры любой і кожнай савецкай установе, за выключэннем, можа быць, радзільняў і дзіцячых садкоў, меліся ціры, дзе нас вучылі цэліцца ў ворагаў, страляць іх, страляць і страляць.

Гэткі ж цір меўся і ў сутарэннях Мінскага радыёзавода, куды Ірад з Амерыканцам мяне прывялі, і дзе страляць можна было як па звычайных мішэнях, гэтак і па мішэнях-ворагах. Мусібыць, яшчэ ад першых пасляваенных гадоў пыліліся ў ціры стосы мішэняў з карыкатурнымі Гітлерам і Мусаліні, але і новых ворагаў хапала.

Ірад спытаў: "Табе каго павесіць?.." – і я выбраў Гітлера, а перад Амерыканцам Ірад, нічога ў таго не спытаўшы, павесіў фотаздымак стылягі Толіка. Страляў Амерыканец – трэба аддаць належнае ці амерыканскай марской пяхоце, у якой ён служыў перад тым, як рвануў у Савецкі Саюз, ці Іраду, які ўжо тут яго трэніраваў – як мае быць: дзесяць стрэлаў – і ўсе ў лоб.

Во рэўнасць! Бедны Толік... Я сказаў пра трэніроўкі ў ціры Ворану, і мы сталі падпільноўваць Толіка пасля ягоных спатканняў з Марынай. На ўсялякі выпадак, бо вораг ёсць вораг. Вунь амерыканцы на Кубе што вырабляюць! Свабоду на востраве Свабоды душаць!

Да таго ж гэты амерыканец Алік з мухамі. У яго шнар на левым запясці, дык Марына сказала, што гэта след ляза. Спроба самагубства. Яму ў Маскве, як толькі прыехаў і заяву напісаў, што хоча мець грамадзянства савецкае, адмовілі, дык ён сабе вены ўзрэзаў.

Партрэты нашых ворагаў у тагачасных газетах не друкаваліся, каб не замінаць фантазіям савецкіх людзей, якія ворагаў тых уяўлялі страшнейшымі за нячыстую сілу. Таму я не ведаў, як выглядае прэзідэнт Джон Кенэдзі. Калі ж Амерыканец вярнуўся ўАмерыку і свайго амерыканскага прэзідэнта забіў, партрэты Кенэдзі з'явіліся ў газетах. Я глядзеў і вачам не верыў: стыляга Толік! Толькі кок не набрыялінены...

Уражаны, я прыйшоў да Палкоўніка і спытаў, што ён пра гэта думае?.. Палкоўнік адказаў, што пра такую фіговіну ён нічога думаць не збіраецца. Калі б забілі правізара 13-й аптэкі, ён бы, можа, нешта й падумаў, бо правізар серную мазь з цынкавай для яго змешвае, а пра прэзідэнта яму – што думаць? Прэзідэнт – не правізар.

Усіх астатніх, апроч Палкоўніка, падабенства Толіка з амерыканскім прэзідэнтам зацікавіла больш, чым дэтэктывы Агаты Крысці. Чаго толькі кожны з нас ні выдумляў, якія ўзнікалі сюжэты!.. Нават калі Ас сказаў, што Джон Кенэдзі – гэта Толік, а Толік – гэта Джон Кенэдзі, які прыехаў у СССР разам з Алікам па дамоўленасці паміж ЦРУ і КДБ, ніхто не адмахнуўся, як звычайна, ад звар'яцелага генерала, а ўсе задумаліся, спрабуючы зразумець, як і для чаго такое магло быць... Бо меркаванне таго ж Аса: у Амерыцы плануецца будаўніцтва камунізму, і амерыканскага прэзідэнта прывезлі, каб павучыўся, як яго будаваць, – выглядала сумнеўным. Хоць, з іншага боку, у такім выпадку зразумела, за што забілі...

Пасля ад'езду Марыны з Алікам у Амерыку Толіка нідзе і ніхто не бачыў. Віл дазнаўся ў Марынінай цёткі, у кватэры якой на Круглай плошчы і жыла Марына, ягоны адрас. Мы паехалі па тым адрасе, але дзверы былі замкнёныя, і суседзі сказалі, што ўжо больш за год тут ніхто не жыве.

Толік з'ехаў у Амерыку? І Амерыканец там яго забіў?..

Усё супадала! Невядома, што і з чым, але супадала ўсё!..

Пра тое, каго забіў Амерыканец, можна было дазнацца толькі ў яго самога, але сам ён быў у турме, і мы вырашылі напісаць Марыне, каб яна ці перадала яму наш ліст, ці сама ў яго спытала: каго ён забіў і за што?.. З адрасам зноў жа дапамагла цётка Марыны, але адказу з Амерыкі мы не дачакаліся, бо праз два дні пасля таго, як Амерыканец забіў ці Джона Кенэдзі, ці Толіка, нейкі Джэк Рубі забіў самога Амерыканца.

– Спадзяюся, ён хоць добра кончыў, перш чым кепска скончыць, – пачуўшыпра тое, што сталася з Джонам Кенэдзі і Амерыканцам, сказаў Саламон Майсеевіч. "Ты пра каго, Саламон?.." – спытаў Палкоўнік, але Саламон Майсеевіч не стаў удакладняць, ці меў ён на ўвазе марскога пехацінца, ці Прэзідэнта ЗША?

Калі Амерыканца не стала, дазнацца пра тое, па кім, у чый лоб страляў ён, трэніруючыся ў ціры Мінскага радыёзавода, ужо не было ў каго. Вось тады Гарык Клябанаў і спытаў: "Ну, што я вам казаў?.." І зноў пачаў даводзіць, што Алік ніякі не амерыканец, бо навошта амерыканцу забіваць свайго амерыканскага прэзідэнта? Алік – іншапланецянін, пасланы на Зямлю вышэйшай за нашую цывілізацыяй.

Вышэйшым за нас Амерыканец не выглядаў ні ў якім сэнсе, але што ж... Гарык у адрозненне ад Гурыка, які быў гэбістам, быў паэтам і любімцам Палкоўніка. Ці, калі па прыярытэтах, дык наадварот: любімцам Палкоўніка

і паэтам. І яшчэ уфолагам, хоць слова гэткага ў той час мы не ведалі. Гарык першым і ў нашай кампаніі, і ў Мінску, і ва ўсёй Беларускай Савецкай Сацыялістычный Рэспубліцы дазнаўся, што ёсць дзіва яшчэ большае, чым джынсы: НЛА. Неапазнаныя лятаючыя талеркі.

Таямніцу гэтую ён адкрыў нам не дзе-небудзь, а ў найадпаведным для гэтага месцы: у нацыянальнай бібліятэцы. У "ленінцы", як яе ўсе называлі, бо, канечне ж, галоўная бібліятэка БССР, як і галоўная плошча, і галоўны праспект, і галоўная вуліца павінны былі насіць і насіла імя сваяка Саламона Майсеевіча.

У "ленінцы" мы збіраліся нават часцей, чым у кавярні, абмяркоўваючы ўсё, што прачыталі. Знаёмыя бібліятэкаркі прыносілі нам кнігі нават з тых сховішчаў, адкуль іх нельга было браць без адпаведнага дазволу. Дзяўчаты рызыкавалі, але што ж: за гэта яны цалаваліся з Вілам, Бігам, Пілям, Гарыкам – стылягамі, найпершымі хлопцамі Мінску.

– Хто ведае Алена Хайнэка? – спытаў Гарык на чарговай нашай сходцы ў ленінцы.

Ніхто не ведаў.

– І пра Леанарда Стрынгфілда не чулі?..

Не чуў ніхто.

– А пра што яны пішуць? – пацікавіўся Біг, мяркуючы, як, зрэшты, і ўсе мы, што Хайнэк са Стрынгфілдам – літаратары кшталту Агаты Крысці, кнігу якой выкапалі Біг з Вілам у замежным аддзеле ленінкі, пераклалі, перадрукавалі на машынцы і яна, тая кніга, хадзіла ў Мінску па руках разам з пастэрнакаўскім "Доктарам Жывагам", ахматаўскай паэмай "Рэквіем", апавяданнямі Салжаніцына...

– Пра лятаючыя талеркі яны пішуць, – дастаў Гарык з кішэні пакамечаную газету. – Мне кружэлку нядаўна з Амерыкі даслалі, у гэтую газету загорнутую... Дзіўна ўвогуле: газету як газету перасылаць нельга, а калі ў яе загарнуць нешта – можна... Дык вось слухайце... Загаловак: "Прэзідэнта Кенэдзі забілі іншапланецяне!" Нішто сабе?.. І далей тэкст амаль на дзве паласы, я ўсё не буду перакладаць... "Ад першага дня свайго знаходжання ў Белым Доме Ліндан Джонсан, на якога пасля трагедыі ў Даласе былі ўскладзеныя абавязкі прэзідэнта, распачаў актыўную і даволі дзіўную дзейнасць. Пятага снежня ён сустрэўся з Бары Галдуотэрам, сенатарам ад штата Арызона, былым генералам ваенна-паветраных сіл, куратарам звышсакрэтных праектаў Пентагона. Праз дзень пасля сустрэчы Галдуотэр выпраўляецца ў сваю штаб-кватэру ў Арызону, у пустэчах якой над базамі ВПС адразу ж назіраецца ўсплёск актыўнасці лятаючых талерак: 9 снежня – Чайна-Лэйк, 15 снежня – Нагалес і Бісбі, 18 снежня – Рыа-Грандэ. Пад канец снежня разведупраўленне міністэрства абароны (РУМА) атрымлівае калядны падарунак: 200 мільёнаў даляраў дадатковых асігнаванняў "на мэты, звязаныя з новымі касмічнымі аб'ектамі".

Якімі "новымі"? Неапазнанымі?..

Як вынікае з нядаўна надрукаваных дакументаў, прысвечаных дзейнасці таямнічай групы "Маджэстык-12", хросным бацькам якой быў прэзідэнт Гары Трумэн і ў якую, апроч вярхоўкі амерыканскай уладнай эліты, уваходзілі іншапланецяне, Джон Кенэдзі меў намеры рассакрэціць усё, што звязана з НЛА. Ён лічыў, што грамадзяне Злучаных Штатаў Амерыкі прымуць факт іншапланетнай прысутнасці без страху і панікі, што народ у любым выпадку мае права ведаць праўду. Але так лічылі не ўсе, у тым ліку самі іншапланецяне, якімі, альбо па настойлівым патрабаванні якіх,

прэзідэнт Кенэдзі і быў забіты. Прычым, не толькі ён сам, але і ўсе тыя, хто праз яго быў далучаны да іншапланетнай таямніцы: ягоны брат, міністр юстыцыі Роберт Кенэдзі, ягоная палюбоўніца акторка Мэрылін Манро, міністр абароны пры прэзідэнце Трумэне... і далей, – Гарык прагартаў газету, – пералік знішчаных людзей, пасля чаго самае цікавае... Калі ў ЗША быў запрошаны савецкі лідар Мікіта Хрушчоў, на здымках фільма “Канкан” у Галівудзе яго пазнаёмілі з Мэрылін Манро, праз якую падчас іх кароткага, але бурнага рамана, Хрушчову наўмысна была перададзеная інфармацыя пра кантакты з НЛА ды іншапланецянамі. Вярнуўшыся ў СССР, Хрушчоў загадаў пашырыць сакрэтныя даследванні ў гэтым накірунку, збіраючыся, як і Кенэдзі, сказаць праўду народу, таму лагічна чакаць, што менавіта ён неўзабаве папоўніць прыведзены спіс” – склаў газету Гурык. – Ну, як вам гэта?..

Усе агаломшана маўчалі. Дапусціць, што ў газеце, няхай амерыканскай, напісана няпраўда, мы, няхай стылягі, але стылягі савецкія, не маглі. Бо газета – не кніга, не дэтэктыў Агаты Крысці.

Амерыканец – іншапланецянін? Ён, канечне, дзіўнаваты быў, не без таго, але... Але ўсё адно выходзіла, што ў СССР яго паслалі, каб ён забіў Першага сакратара ЦК КПСС, Старшыню Савета Міністраў СССР Мікіту Сяргеевіча Хрушчова, які, сказаўшы народу праўду пра культ асобы, збіраўся сказаць праўду пра іншапланецян. Тады чаму ўсё ж ён забіў не Хрушчова, а Кенэдзі? Хоць мусіў забіць абодвух. Хрушчоў раздумаў праўду казаць?..

– А памятаеце, – перапыніў нашыя сутаргавыя развагі Гарык, – як Палкоўнік пры першай сустрэчы спытаўся ў Аліка, чаго ён з Амерыкі да нас прыпёрся? І што той адказаў, памятаеце?.. “З чаго вы ўзялі, – ён спытаў, – што я з Амерыкі? Я не з Амерыкі зусім...” Хоць пасля ўжо казаў, што з Амерыкі... Ну, што вы пра ўсё гэта думаеце?

– Перш чым думаць, трэба падумаць, – сказаў Косця Воран, і ніхто ў яго не запытаў, што гэта ён сказаў, з чаго вынікала: аніякіх думак наконт гэтага ані ў каго з нас няма.

## Вуліца Няміга, былая рака

Жыццё ў Мінску цякло ціхае, павольнае, як вада ў Свіслачы. Косця Воран казаў: “І гэткае ж мелкае! Мястэчка габрэйскае, а не горад!..” – на што Саламон Майсеевіч толькі ўздыхаў самотна: “Каб жа яно было, габрэйскае мястэчка...”

Косця жыў непадалёк ад былой яткі, у якой цяпер круціў кранікі Саламон Майсеевіч. На Нямізе, на гарышчы трохпавярховага дома Косця меў больш падобны на галубятню, чым на чалавечае жытло, пакой з гаўбцом, які скошана навісаў над вулачкай, парыпваў над ёй, нібы збіраўся вось-вось абрынуцца сам па сабе, а на ім таўклося іншым разам паўтузіна людзей – і ён не падаў. Няміга тады не была яшчэ зруйнаваная, і ў яе лабірынтных, саміх у сабе заблытаных дворыках, у якія староннляму чалавеку можна было забрысці і не выйсці, слупамі стаяў сонечны пыл, прывідна лунала тое, па чым, мусібыць, і ўздыхаў самотна Саламон Майсеевіч.

Мне здаецца, што я чую ягоныя ўздыхі, мне мроіцца, нібы йдзем мы з ім у тым залатым пыле па той, яшчэ старой, Нямізе, шукаючы месца, на якое найлепш перанесці ятку, калі старшыня Мінгарвыканкама таварыш Шарапаў дазволіць яе перанесці.

– Ты ведаеш, – раптам спыняецца Саламон Майсеевіч, – чаму я хачу, каб ятка стаяла менавіта на Нямізе, а не дзе-небудзь яшчэ? – І тлумачыць, не чакаючы майго адказу. – Бо ўсе ведаюць, што на Нямізе – гэта на Нямізе. А калі дзе-небудзь на Кастрычніцкай ці на Гастэла, дык кожны другі перапытае: гэта дзе? На Лекерта?

– А дзе гэта на Лекерта? – пытаю я, і Саламон Майсеевіч кажа:

– Дык на Кастрычніцкай ці на Гастэла.

Я намагаюся ўцяміць, як такое можа быць, каб "на Лекерта" было адразу і на Кастрычніцкай, і на Гастэла, па розныя бакі Нямігі, але ўцяміць не магу, бо Косця Воран яшчэ не распавёў мне, што імем Гіршы Лекерта, які няўдала замахнуўся некалі на жыццё Віленскага генерал-губернатара фон Валя, называлася ў Мінску спачатку адна вуліца, цяперашняя Кастрычніцкая, колішняя Ніжне-Ляхаўская, а пасля другая, цяперашняя Гастэлы, колішняя Правіянцкая. Не ведаю я пакуль і пра тое, што імем гэтага шаўцатэрарыста не толькі вуліцы ў Мінску называліся, але і помнік яму стаяў, і не дзе-небудзь "на Лекерта", а на пляцы Волі, і не на спуску да Нямігі, дзе мясцілася ятка Саламона Майсеевіча, а ў цэнтры – на месцы помніка імператару Аляксандру II. Косця Воран яшчэ не сказаў мне, што дарма я гэтак замілоўваюся Мінскам, бо ціхі, правінцыйны Мінск – любімы горад бандытаў і тэрарыстаў: ад Лекерта з Пуліхававым да Лі Гарві Освальда.

Я пра многае пакуль не ведаю... І нават не ўяўляю, што дажыву да часоў, калі з'явяцца ў Мінску новыя тэрарысты – і выбухне бомба ў метро. Дый як можна ўявіць такое, калі яшчэ няма метро ў Мінску?

З пляца Волі, дзе Саламон Майсеевіч паказвае мне месца, на якім стаяў спачатку помнік імператару, а потым тэрарысту, мы ідзем па вуліцы Рэвалюцыйнай, былой Койданаўскай, паўз колішні дом Мінскага віцэ-губернатара, банкірскую кантору Ліўшыца і хірургічную лякарню Шапіры, гатэлі "Нова-Варшава" і "Лівадыя"; ідзем паўз дзве камяніцы былога Інбелкульта, Інстытута беларускай культуры, у адной з якіх працаваў брат Саламона Майсеевіча Ізя, а ў другой, пазней, калі Інбелкульт ператварыўся ў Беларускую акадэмію навук і перабраўся ў дом на рагу вуліц Леніна і Кірава, размясціўся следчы ізалятар НКУС, Народнага камісарыята ўнутраных спраў, куды 17 лістапада 1937 года брата Саламона Майсеевіча Ізю забралі і невядома дзе падзелі, і, нарэшце, Саламон Майсеевіч прыпыняецца насупраць колішняга дома Залкінда, на вокны якога любіць ён хвілінку-другую паглядзець ды сёе-тое паўспамінаць. Калісьці ў доме гэтым мясцілася прыватная жаночая гімназія мадам Рэйман, дзе ў класе Алексютовіча, знакамітага балетмайстара, вучылася Сонечка Лямпель – будучая маці Асі...

– Ой... ёй-ёй... ёй-ёй-ёй, як яна танчыла... – тройчы ўздыхае Саламон Майсеевіч і доўга маўчыць. Пасля кажа ціха, неяк недаўменна: – Ізю – камуністы, Соню – фашысты... – і зноў маўчыць, пакуль зноў не выходзім мы на Нямігу, дзе ён пытае. – А ведаеш, як немцы ў час вайны Нямігу называлі?.. Хаімштрасе... Мы тут жылі, на Нямізе, а яны зрабілі тут гета на Хаімштрасе, забілі маю Соню, асіроцілі маю Асю... А цяпер ятку зносяць, – сканчае ён, нібы забыўшыся, што тых немцаў, якія Нямігу Хаімштрасе называлі, у Мінску даўно няма. – І Нямігу знясуць, пабачыш. Як знеслі помнік бітве на Нямізе: вось тут ён стаяў, дзе зараз мы стаім – на пустым месцы... Можа, сюды ятку перанесці, калі таварыш Шарапаў дазволіць?.. Каб месца такое не было пустое.

Чамусьці я ўпэўнены, што ятку перанесці Саламону Майсеевічу не дазволіць ніхто і нікуды, але казаць пра гэта яму не хачу, ды ён пра гэта

мяне й не пытае, вітаючыся з чалавекам у чорным гарнітуры, у акулярах і з газетай пад пахай:

– Дзень добры, Яша, як жывеш, куды йдзеш, ты таварыша Шарапава ведаеш?..

Я пакуль не ведаю, што Яша, Якаў Барысавіч Мельцэрзон, выкладае фізіку ў 42-й школе на вуліцы Камсамольскай, дзе вучылася Ася і дзе раней, да рэвалюцыі, калі Камсамольская называлася Багадзельнай, а перад тым – Феліцыянскай, была на месцы школы прыватная чатырохкласная габрэйская жаночая гімназія мадам Лявідавай-Нейфах, якую скончыла цётка Асі, сястра Саламона Майсеевіча прыгажуня Ада, у час вайны павешаная ў гестапа на вуліцы Ракаўскай, якая ў савецкія часы стала вуліцай Астроўскага, дзе жыве цяпер Якаў Барысавіч. І не ведаю я пакуль пра тое, што ўжо ад пачатку вуліцы Астроўскага ў вокнах дома №7, таго самага, дзе мясцілася гестапа, відаць было, як Ада і яшчэ чатары чалавекі, разам з ёю павешаныя, вісяць... Яны некалькі дзён віселі, і кожны дзень Саламон Майсеевіч бачыў сястру, калі яго вялі з гета на працу і пасля працы ў гета.

– Туды іду, дзе жыву, а Шарапава не ведаю, – адказвае Саламону Майсеевічу Якаў Барысавіч, у якога, апроч Асі, вучыліся і Косця Воран, і Ігар Гурковіч, і шмат хто яшчэ, але на фізіка вывучыўся толькі Жарэс Алфёраў, які стаў доктарам навук і нават Нобелеўскім лаўрэатам, хоць быў стылягам, насіў порткі-дудачкі ды стракатую кашулю з малпамі.

Я пакуль не ведаю, што Якаў Барысавіч зратаваў Асю. У адным з пагромаў у мінскім гета Асіну маці застрэлілі на Юбілейнай плошчы. Саламона Майсеевіча ў той дзень, як заўсёды, пагналі на працу, а Якаў Барысавіч, у пагроме ўцалеўшы, прыбіраў забітых. Ён і знайшоў Асю, якую накрыла сабой яе маці. Ася амаль не дыхала. Якаў Барысавіч паклаў яе разам з маці на вазок і, не ведаючы, што рабіць, бо карнікі і дзяцей дабівалі, пацягнуў вазок да габрэйскіх могілкаў. Там, за агароджай, стаяла жанчына, з якой ён быў знаёмы. Звалі яе Вера Леанардаўна, яна працавала ў дзіцячым доме, і Якаў Барысавіч скінуў Асю з вазка пад агароджу... Пасля вайны ў тым дзіцячым доме, дзе працавала тая жанчына, Ася і знайшлася...

Раздумаўшы ставіць ятку на месцы, дзе высіўся некалі помнік бітве на Нямізе, Саламон Майсеевіч ідзе з Якавам Барысавічам туды, дзе той жыве, бо яны даўно, з учора, не бачыліся – і ёсць ім пра што паразмаўляць сам-насам, без мяне, бо што я ведаю?..

Я нават не ведаю, як яны самі ў гета зратаваліся. Ас распавядае гісторыю пра маладую габрэйку, якую звалі Ліна. Яна была прыгажуня, гуляла з тымі, каго габрэі называлі *газлонім*, бандыты. Усе лічылі яе прастытуткай. “А Ліна была савецкай разведчыцай і працавала на аэрадроме!” – кажа Ас так, нібы савецкай разведчыцай прастытутка нейк яшчэ можа быць, але на аэрадроме працаваць ніяк не можа. – І была звязаная з партызанамі, да якіх вывела з гета амаль трыццаць чалавек – сярод іх і Саламона Майсеевіча з Якавам Барысавічам”.

Калі б на тым Ас спыняўся, дык гісторыя была б праўдападобная. Але Ас не спыняўся, расказваў, як з Крыма, у небе над якім ён ваяваў, яго выклікаў Сталін і загадаў ляцець у Мінск, каб забраць разведчыцу, якой удалося займець сакрэтныя дакументы, нядаўна падпісаныя Гітлерам: новы план вайны. “Ляці, сокал!” – сказаў Сталін, і Ас пераляцеў лінію фронта, сеў на аэрадроме ў Мінску і забраў разведчыцу Ліну, якую Саламон Майсеевіч з Якавам Барысавічам прыкрывалі агнём, пакуль яна бегла

да самалёта. “Азохэн вэй!” – заўсёды ўсклікваў у гэтым месцы аповеду Саламон Майсеевіч і наліваў Асу газіроўкі з сіропам...

Калі ад месца, дзе некалі помнік бітве на Нямізе стаяў, падняцца ўверх па вуліцы Калектарнай, дык можна выйсці якраз да габрэйскіх могілкаў, дзе ляжыць Асіна маці, і куды некалькі разоў я хадзіў з Асяй, але зараз я адзін – і што мне там рабіць? Таму, пастаяўшы на месцы помніка, я паварочваю назад, іду па Нямізе проста для таго, каб па ёй ісці.

Старая Няміга – нават не вуліца, а даўжэзны калідор вялізнай камунальнай кватэры. Справа і злева – драўляныя і жалезныя, каваныя брамы і брамкі, што вядуцьу двары і дворыкі, у якія проста так не зойдзеш, бо нехта, седзячы пры керагазе ці дыван выбіваючы, абавязкова спытае: “А вы да каго будзеце?..” “Да Косці Ворана...” “Косця-я-я!.. – адразу ж прагалёкае на ўвесь двор, на ўсю Нямігу той, хто спытаў. – Шпэндрык да цябе нейкі!..” – і зноў зоймецца керагазам ці дыванам, залаты пыл з яго выбіваючы, і нават не спрабуй даводзіць некаму ў тым пыле, што ты не шпэндрык. Не ведаюць цябе на Нямізе, значыць, шпэндрык.

А пад вуліцай Нямігай бяжыць Няміга-рака... Хоць і схаваная ў трубу, але тая самая, бітве на якой – помнік. Не толькі той, каменны, які знеслі. Ёсць помнікі, якія не знясеш. Не каменныя. “Нямізе крывавы брэзе не балагам бяхуць пасеяны, пасеяны касцьмі...”

Косця кажа, што зусім не на Мінскай Нямізе была тая бітва, бо не было тут за што і каму біцца. І што ўвогуле не б’юцца на рэках даўжынёю ў тры вярсты. Можа, яно і так, але, давяраючы Ворану ва ўсім, у гэтым я не веру яму. Біцца заўсёды ёсць за што і ёсць каму ў любым месцы. А тым больш на Нямізе...

На Нямізе, на гаўбцы, скошана навіслым над вуліцай, я ўпершыню ўбачыў Асю. Ускінуўшы рукі, стрункаю цягнучыся ўвышыню, яна стаяла ў белай сукенцы, на якой золатам плавіўся пажар яе валасоў, і, здавалася, над Нямігай, якая была і вуліцай, і ракой, плыла ў нябёсах разам з асветленымі вечаровым сонцам аблачынамі... Я забыўся, куды і па што іду лабірынтамі Нямігі, стаяў аслупянела, як пыл у дворыку, пакуль яна не апусціла адну руку на парэнчы гаўбца і не ўзмахнула другой рукой уздоўж вуліцы, у мой бок – я падумаў: мне! Сэрца ўдарыла пад горла, ёкнула і ўпала, але з-за спіны маёй імклівым, пругкім крокам вымкнуў нехта, хто быў вышэйшы за мяне, мацнейшы, прыгажэйшы – і, вымыкаючы з-за маёй спіны, ён адной рукой, у якой нёс скручаны ліст ватману, прыабняў мяне за плечы, а другую руку, у якой было шампанскае, ускінуў і крыкнуў: “Стань маёй – і горад гэты я кіну да ног тваіх!..”

Шампанскае, з корка якога загадзя была скручаная драціна, пеніста стрэліла ўгору – у нябёсы, адкуль рассыпаўся смех, нібы кінулі адтуль жменю срэбных манет...

Так я пазнаёміўся з Асяй, якая жыла ў нябёсах, і з Косцем, які жыў на зямлі. А заадно і з Гурыкам, які жыў паміж Косцем і Асяй, паміж зямлёю і небам, паміж усімі і ўсім... Ну, так, як жывуць гэбісты.

Як я ні ўпіраўся, Косця, які зразумеў, што я сканаю, калі зблізку не ўбачу тое, з чаго аслупянеў здаля, зацягнуў мяне на сваю галубятню, якая была і ягонай майстэрняй, і кватэрай, дзверы ў якую амаль ніколі не замыкаліся, і, калі гаспадара не было дома, госці ягоныя не чакалі ў парозе. Гэтым разам, апроч Асі, не чакаў гаспадара ў парозе і Гурык, які ў куце, адгароджаным кавалкам фанеры пад кухню, гатаваў каву, і сказаў, як толькі Воран ўпіхнуў мяне ў дзверы: “Стаўшы тваёй, яна варонай стане”.

– Няміга можа не стаць Нямігай, – кінуў Косця на канапу скручаны ліст ватману і ў рознакаляровыя, пафарбаваныя слоікі, што стаялі на заваленым кнігамі і малюнкамі стале, пачаў разліваць шампанскае. – Чуць не хочуць пра рэканструкцыю. Знесці ўсё збіраюцца, магістраль ім патрэбная. “Мы разгладзім старыя маршчыны!..” – перадражніў ён некага. – Ды д’ябла ім лысага! Хрушчоў прыязджае, да Хрушчова прарвемся! Калі ў Маскве перамены, чаму ў Мінску без перамен?..

– Якія перамены?.. – прамуркаў Гурык, асцярожна несучы кубачак кавы на гаўбец. – Што на што мяняюць?.. – паставіў ён кубачак перад Асяй, якая з гаўбца спытала: “Косця, а што на што ў Менску мянялі?..” – і Косця даціснуў з бутэлькі апошнія кроплі шампанскага: “Шыла на мыла”.

Назва Менск, даводзіў Косця, паходзіць не ад славянскіх слоў мяняць ці мена, а ад лацінскага, якое перайшло да балтаў, гэта значыць, да нас, слова menkas, што азначае мелкі, маленькі. Таму і мелкую рэчку назвалі некалі Менкай, і заснаванае на ёй паселішча – Менскам. І было гэта не тут, дзе сённяшні Мінск, а за 15 вёрст адсюль на захад, дзе тая Менка цячэ...

“Вось з таго часу, – сказаў Гурык, – у Менску без перамен...” “Пара вершы слухаць! – дапіла каву і ступіла з гаўбца Ася, толькі тут, нарэшце, убачыўшы мяне, лысага, сёння з раніцы пад шар пастрыжанага. – А гэта хто?..” “Паэт, – нібы падцягнуў мяне да сябе ўчэпістым позіркам Гурык. – У заклад, што паэт...” “Скуль ты ведаеш?” – спытала Ася, прашумеўшы белай шоўкавай сукенкай, праплыўшы белым пахам ландышаў, і Гурык адказаў, кінуўшыся дзверы перад ёй адчыняць: “Па вушах бачу”. “Па вушах? Якія ў яго вушы?” “Зрыфмаваныя”. “А шампанскае? – вярнуў іх Косця, і яны паднялі слоікі: Косця зялёны, Ася жоўты, Гурык чырвоны... – Гэта ўнук Хрушчова, – падаў мне, скамянела-лысаму, сіні слоік Косця. – Так што глядзі, Гурык... За перамены!..”

Было лета, з вуліцы пахла ліпамі і нагрэтай чарапіцай, шырока біла ў акно сонца, рознакаляровым святлом насычаючы ў слоіках, нібы ў кожным рознае, у каго якое, віно, і я, аслупянелы, але такі шчаслівы, якім ні раней не быў, ні потым, упершыню ў жыцці п’ю шампанскае, і мне ўсміхаецца найпершая ў Мінску прыгажуня, і са мной, з падшыванцам, як з роўным, выпіваюць найпершыя ў Мінску хлопцы... і я дасюль, як толькі падыходжу да светлафора, на якім міргаюць зялёны, жоўты і чырвоны колеры, згадваю тое рознакаляровае шампанскае, той дзень, тое лета, тое сонца, тое свята, тое жыццё... і слупянею... і мяне ніводнага разу не аштрафавалі за парушэнне правілаў пераходу вуліцы... бо як перайсці тую вуліцу, якой няма?..

Завейныя веі!
Пад неба завеі, пад месяц!
Чаму мы не ўмеем
Святочнае лашчыць і песціць?
Будзённасць атуліць.
Няміга заб’ецца галінкай.
Там лета было, ты адтуль мне
Махаеш хусцінкай...

У любым месцы ёсць за што і ёсць каму біцца.

## Вуліца Энгельса, колішняя Дамініканская, былая Петрапаўлаўская

У павольнай плыні Мінскага жыцця пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя бывалі і ўсплёскі. Двойчы на тыдзень, вечарамі, Косця Воран падымаўся

ўвесь у белым на прыступкі тэатра Юнага гледача, ставаў, як патрыцый, паміж псеўдаантычнымі калонамі, азіраў вольных менчукоў, што сабраліся ўнізе, і абрушваў на іх густы, быццам гул на званарні, голас.

– Кожны горад, які хоча застацца ў вечнасці, павінен мець свайго гарадскога вар'ята! У Афінах – Сакрат, у нас – Ас! У Рыме ўсе былі ненармальнымі, таму ён і вечны горад! Дагонім Рым па вечнасці! Першым даганяе Гарык Клябанаў...

На прыступкі таэтра Юнага гледача ўскокваў рэдкавалосы, кораткастрыжаны, каб не надта заўважным было рэдкавалоссе, хударлявы юнак з гітарай і па-беларуску пачынаў спяваць тое, што ўсе звыклі слухаць па-руску:

“Я ўсё адно ўпаду на той,
На той далёкай Грамадзянскай,
І камісары ў пыльных шлемах
Галовы схіляць нада мной...”

Гарык Клябанаў і ў нашай кампаніі, і ў Мінску, і ва ўсёй Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы быў першы, хто песні рускіх бардаў заспяваў па-беларуску – і спяваў ён так, што камісары, якія схілялі над ім галовы, былі падобныя не на тых, перацягнутых кулямётнымі стужкамі, людзей у скуранках, якіх паказвалі ў фільмах пра Грамадзянскую вайну, а на касіянераў Каліноўскага.

Вечарамі на прыступках тэатра Юнага гледача спяваліся песні і чыталіся вершы. Ас у шынялі з пагонамі генерал-маёра авіяцыі стаяў сярод бардаў і паэтаў, Гурык у цывільным – насупраць. Апроч Гурыка, сноўдалі сярод вольных менчукоў яшчэ з дзясятак ягоных калег. Яны ўчэпіста ўзіраліся і ў тых, хто чытаў і спяваў, даганяючы Рым па вечнасці, і ў тых, хто слухаў, не даганяючы.

“Спартак, Спартак! Героі ўсіх эпох!
Ці не такі быў лёс ваш у фінале:
Як нехта моцна спаў, вас распіналі,
Вы ціха на крыжы сваім канալі,
І білася жанчына каля ног!”

– ускідваў руку ў фінальным жэсце цыбаты, прыхарошаны ў мадняцкую вадалазку і шыракаплечы пінжак, паэт, і незразумела як і з чаго ад гэтых радкоў пра паўсталага рымскага раба павявала з-за псеўдаантычных калонаў тэатра скразняком крамолы... А ўжо ад верша не пра раба, а пра маршала – і не пра рымскага – цягнула сіберам.

“Як вам днём жывецца, маршал? Спіцца ўночы?
Вам не сняцца твары нашы? Нашы вочы?
Вам не мрояцца хімеры: нашы цені,
Што фанерай над Берлінам праляцелі?..”
На Чырвонай плошчы заклікі ды маршы,
І на маршальскай кабыле скача маршал!
Медзі музыка лятая поўніць плошчу!..
“Маршал, – мама запытае, – дзе мой хлопчык?..”
“Слава паўшым!..” – стане плошча на калені.
І парадным строем пройдуць нашы цені.
Трыста тысячаў разоў, таварыш маршал,
Вы манілі зноў і зноў матулям нашым!..

– сціскаючы ўскінутыя ўгору кулачкі, крычаў так, што рэха тузалася ў калонах, пасляваеннага вырабу хлапчук, і ніхто не мог зразумець, чаму маніў маршал менавіта трыста тысяч разоў?..

– Час прабіў! – ускінуў, паўтараючы жэст хлапчука, кулакі ўгору Ас, як толькі хлапчук дачытаў верш пра маршала. – Ваш час, Палкоўнік!

Палкоўнік падняўся і стаў побач з Асам.

Вершы Палкоўнік не чытаў і песні не спяваў, але на прыступкі тэатра Юнага гледача, каб нешта сказаць, падымаўся. І калі ён падымаўся, каб нешта сказаць, дык тое, што ён казаў, больш за вершы з песнямі напружвала і вольных менчукоў, і Гурыка з дзясяткам ягоных калег у цывільным.

– Трыста тысяч!.. Вас тут і трохсот не набярэцца, а там – трыста тысяч! Трыста тысяч салдацікаў паклаў маршал Жукаў па загадзе генералісімуса Сталіна пры штурме Берліна вясной сорак пятага года! Трыццаць тысяч іх палягло ў адзін дзень на Зеелаўскіх вышынях! Штурм нічога не вырашаў, Берлін быў абкружаны! Дык дзеля чаго кінулі на смерць столькі людзей? Якія маглі вярнуцца з вайны, будаваць дамы, гадаваць дзяцей! Толькі дзеля таго, каб не амерыканскія, а савецкія войскі першымі ўвайшлі ў Берлін! Толькі дзеля задавальнення сталінскай фанабэрыі! А хто палёг на Зеелаўскіх вышынях? Мінскія хлопчыкі, мабілізаваныя на фронт пад самы канец вайны! Таму Мінск – вечны горад загубленых геніяў!..

Калі Палкоўнік спусціўся з прыступак, да яго падышоў Гурык і адвёў убок... Нешта сказаў яму, а Палкоўнік павярнуўся да ўсіх і крыкнуў:

– Ведаеце, што ён мне сказаў?.. Што маршала Жукава можна не любіць, але не ў нас, а ў Маскве! А ў нас загад любіць яго ніхто не адмяняў! Дык мне ў Маскву ехаць?..

– Не! – ускрычалі ў адзін голас вольныя мінчукі, а Гурык узяў Палкоўніка пад локаць:

– Пройдзем!

Прайсці з Палкоўнікам старшаму лейтэнанту Гурковічу не ўдалося, бо з прыступак скочыў Ас, адпіхнуў Гурыка і пацягнуў Палкоўніка ў гушчар вольных мінчукоў, якія пляскалі абодвум вар'ятам...

Так, меўся ў Мінску, апроч Аса, яшчэ адзін вар'ят, як у Афінах Сакрат. Але гэты, Палкоўнік, у адрозненне ад толькі на сябе самога падобнага Аса, быў насамрэч падобны на Сакрата. Так што, калі, як казаў Косця Воран, гораду для вечнасці патрэбны ненармальны, дык Мінск на вечнасць можа разлічваць двойчы.

Мінск – горад-двойчы вар'ят.

Убачыўшы, што Гурык і ягоныя калегі ў цывільным занятыя Палкоўнікам, на прыступкі нерашуча падняўся чарнявы, з кудзеркамі, юнак у футболцы і картовых штанах, з-пад якіх вытыркаліся стаптаныя чаравікі з абарванымі, якіх не хапала, каб зашнуравацца на усе дзірачкі, шнуркамі. Ён і блізка не паходзіў на Гарыка ці Косцю, гарадскіх стылягаў. Па ўсім было відаць, што хлапчына ў футболцы – вясковец, які апынуўся ў Мінску, паступіўшы на філфак універсітэта ці педінстытута. Трохі заікаючыся, ён прачытаў хутка і ціха – так, што мала хто пачуў:

Рахманыя, няўпартыя,
Мы ўсе – адзін калгас.
Кіруе намі партыя
І думае за нас.
Дазвол ёсць жыць у лагеры

Сацыялізма ўсім.
Дарма буржуі звягаюць,
Мы не зайздросцім ім.
На волю нам не хочацца,
Мы рушым свет стары,
І вораг не праточыцца
У цвёрдыя муры.
Дакладна кожны ведае:
Быў камуніст – Ікар!
Для мар пра заўтра светлае
Хапае голых нар.

Як ні ціха прагучалі вершы, адзін з калегаў Гурыка ўсё ж нешта расчуў і пачаў прабірацца да прыступкаў, каб перастрэць крамольнага філфакаўца, але барды і паэты, за спінамі якіх прыадчыніліся ўваходныя дзверы тэатра, засланілі крамольніка. Ён хуценька праслізнуў у тэатр – і дзверы зачыніліся, як нічога й не было. Але ж было, было – і яшчэ невядома, ці ўдасца філфакаўцу ўцячы праз тэатр на свой філфак. Калі ж сёння ён і ўцячэ, дык заўтра нехта з аднакурснікаў на яго данясе, і будуць у філфакаўца праблемы, хай нават гэбісты, занятыя Палкоўнікам, толкам вершы ягоныя і не расчулі.

"Гісторыі кола
Заўсёды круціла крамола!
Стагналі Афіны,
Цары вар'яцелі на тронах,
Чырвонай цаглінай
Слізгала крамола па скронях!.."

– ударылі па гітарных струнах і заспявалі Гарык Клябанаў, Віл, Воран і Ас, які умеў не толькі лепш за ўсіх свістаць, але й на гітары граць за ўсіх не горай, а вольныя мінчукі, спрабуючы зратаваць Палкоўніка, абкружылі яго і павялі ўверх па вуліцы Энгельса да Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, пад левым крылом якога ўтульненька патанаў у засені клёнаў з таполямі трохпавярховы дом, у якім 21 верасня 1943 года Герой Савецкага Саюза, былая афіцыянтка сталовай таго ж ЦК КП (Б) Алена Мазанік падклала міну пад ложак гаўляйтэра Беларусі Вільгельма Кубэ...

Можа быць, праз тое, што Кубэ быў не толькі гаўляйтэрам, але і літаратарам, паэтам і драматургам, былы дом ягоны стаў пасля вайны домам Саюза пісьменнікаў, а былая спальня – кабінетам літаратурных кансультантаў, куды вольныя мінчукі і зацягнулі Палкоўніка. Гурык з калегамі ў цывільным пакруціліся паблізу, пра нешта пашапталіся, але забраць Палкоўніка здому пад крылом ЦК не рашыліся.

Шкада, што пазней, ужо ў 70-х гадах, махнуў крылом беларускі партыйны ЦК – і не стала ні таго дома, ні таполяў з клёнамі. Знеслі, скарчавалі. Не так, канечне, шкада той дом, як шкада Нямігу, але ўсё ж...

У кабінеце літаратурных кансультантаў Саюза пісьменнікаў стаялі тры сталы, кансультанты сядзелі за адным з іх, сярэднім, і выпівалі. Пад крылом ЦК яны не баяліся выпіваць, не зачыняючы дзверы.

– Вы да каго?.. – пацікавіўся ў вольных мінчукоў вялізны, з галавой дзіцяці, кансультант, і Палкоўнік адказаў, што і ён, і Анатоль Пястрак, сын вядомага беларускага пісьменніка-рэвалюцыянера Піліпа Пестрака, і ўсе

вольныя мінчукі... Віл, Воран, Гарачы, грамадзянка Бланкі вось гэты... ён не ведаў, як мяне зваць, і ніяк не назваў... прыйшлі да кансультантаў, бо на дзвярах кабінета з таго боку напісана, што тут кансультанты сядзяць.

– Не сядзяць, – паправіў Палкоўніка той жа "дзіцячы" кансультант. – Працуюць. – І хоць папраўка ягоная не зусім адпавядала рэальнасці, Палкоўнік не стаў спрачацца, спытаўшы:

– А хто з вас Пятрусь Броўка?

Кансультанты пераглянуліся...

– Ніхто з нас не Пятрусь Броўка, – не надта прыязна адказаў іншы кансультант, з лысінай, пузаты і круглатвары. – Пятро Усцінавіч Броўка – старшыня Саюза пісьменнікаў, а мы – кансультанты. Па прозе, паэзіі і драматургіі. – І кансультант з лысінай, пахмурна зірнуўшы на Палкоўніка, паўтарыў пытанне кансультанта з дзіцячай галавой. – Вы да каго?.. У якім жанры сябе спрабуеце?..

Падумаўшы, Палкоўнік адказаў, што ён спрабуе сябе ў жанры крытыкі, але ў былой спальні гаўляйтера Вільгельма Кубэ стаялі сталы для кансультантаў па прозе, паэзіі і драматургі, а вось па крытыцы ні кансультанта, ні стала для яго не было.

– Па крытыцы кансультанта няма... – вінавата сказаў пузаты, і Палкоўнік адчуў, што ёсць магчымасць выявіць свой акторскі талент не калісьці і дзе-небудзь, а зараз і тут.

– Та-а-ак... – працягнуў ён, уважліва гледзячы на пузатага. – Як старшыня партыйна-камсамольска-рэвалюцыйна-рэвізійнай камісіі па праверцы... – не дагаварыў ён, па праверцы чаго, і спытаў напорыста. – Можа быць, Саюз пісьменнікаў Беларусі не лічыць літаратурную крытыку важным жанрам, у той час як партыя вызначае яе ролю ў развіцці савецкай літаратуры як вядучую?.. Можа быць, – перакінуўся старшыня немаведама якой партыйна-камсамольска-рэвалюцыйна-рэвізійнай камісіі з пузатага кансультанта, які раптам спаў з твару, на кансультанта з дзіцячай галавой, – кансультанты Саюза пісьменнікаў Беларусі не чыталі прамову першага сакратара ЦК КПСС таварыша Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на трэцім з'ездзе савецкіх пісьменнікаў?.. Чыталі?.. – тузануў Палкоўнік за плячо яшчэ аднаго кансультанта, худога мужыка ў паласатай безрукаўцы са споўзлымі на нос акулярамі, які, роўненька седзячы, драмаў за сталом і, тым не менш, нават не разумеючы, чаго яго тузаюць, прачамкаў: "Чыталі... мы чыталі..." – а Палкоўнік штурхнуў худога ў другое плячо так, што ў таго акуляры зляцелі, і ва ўсіх запытаў з жалезам у голасе: "Як называецца прамова, калі вы яе чыталі?"

Кансультанты яшчэ не выпілі столькі, каб нічога не баяцца, таму на ўсялякі выпадак спалохаліся. Спрацавалі гены з інстынктамі ды яшчэ тое, што Палкоўнік адразу ўдарыў цяжкой артылерыяй: камісія, партыя, першы сакратар...

– Не помню... – прамямліў кансультант з дзіцячай галавой, безнадзейна гледзячы на худога кансультанта ў безрукаўцы, які, шукаючы акуляры і ўсё яшчэ не цямячы, што адбываецца, прамаўчаў, а пузаты паўтарыў: "Мы кансультанты..." – і голас ягоны ўжо быў прыязны, і позірк не пахмурны, а ліслівы.

Палкоўнік злавіў кураж і, не паддаўшыся на лісліваць, ускочыў на каня.

– І верш найвялікшага савецкага паэта, найблізкага сябра першага сакратара ЦК КПСС таварыша Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, пра якога

таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў казаў на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў як пра прыклад, пра ўзор паэта і паэзіі, таксама не памятаеце?.. Га? – зусім разышоўшыся, схапіў Палкоўнік загрудкі пузатага. – Памятаеш, ці не?.. Хто з вас кансультант па паэзіі? Ён?.. Ён? Ты?.. А, ты!.. – ледзь не парваў Палкоўнік кашулю на пузатым кансультанце па паэзіі, і я падумаў, што ад гэбістаў, можа, сёння мы і адарваліся, але міліцыі не прамінем. – Тады імя назаві! Імя паэта, найблізкага сябра таварыша Хрушчова, калі ты, кансультант, вершаў не помніш! Ну, імя?..

– Панцялей Махіня, – пачуўся раптам за маёй спінай, ад дзвярэй, у якія нехта ўвайшоў незаўважна, мякка-насмешлівы голас. Павярнуўшыся, я блізка, твар у твар убачыў дзецюка з русявымі, хваляй спадаючымі на лоб, валасамі і з гэткімі ж мякка-насмешлівымі, як і голас, вачамі, якія, пры ўсёй мяккасці позірку, нечакана здзіўлялі, нават насцярожвалі тым, што былі рознакаляровыя: правае вока – шэра-зялёнае, а левае – светла-карычневае, арэхавае, якое глядзела да таго ж паўз цябе, нібы трохі косячы. І, трохі косячы на Палкоўніка, русявы дзяцюк з мякка-насмешлівым голасам прадэкламаваў:

“Люблю за книгою правдивой
Огни эмоций зажигать,
Чтоб в жизни нашей суетливой
Гореть, гореть и не сгорать.
Чтоб был порыв, чтоб были силы
Сердца людские зажигать,
Бороться с тьмою до могилы,
Чтоб жизнь напрасно не проспать.
Ведь долг мой, братья, поколенью
Хоть каплю оставить честного труда,
Чтоб там, за черной загробной тенью
Не грызла б совесть никогда”.

Палкоўнік не чакаў, што нехта, апроч яго і Хрушчова, можа ведаць – ды яшчэ на памяць – вершы Панцялея Махіні, таму глянуў на русявага так, як рэдка на каго глядзеў: з павагай.

– Ну, чуў?.. – адпусціў ён, нарэшце, пузатага кансультанта, якога ўсё яшчэ трымаў за кашулю. – Гарэць і не згараць!.. Каб не праспаць! А вы тут спіце п'яныя – і сумленне вас не грызе!..

– Я не п'яны... – сказаў усё, што мог сказаць, пузаты кансультант па паэзіі, а кансультант з дзіцячай галавой, які, пакуль чыталіся вершы, паспеў агледзецца і нешта западозрыць, спытаў:

– Вы з якой камісіі?.. Пакажыце пасведчанне, з якой?..

– Позна! – адрэзаў Палкоўнік. – Камісія праверку скончыла! І зрабіла высновы!

Пузаты кансультант з лысінай і худы кансультант у паласатай безрукаўцы глянулі на вялізнага кансультанта з дзіцячай галавой, не ўхваляючы яго за смеласць...

– Ды што вы перапудзіліся! – прайшоўшы да стала, за якім сядзелі запалоханыя кансультанты, паставіў перад імі пляшку гарэлкі рознаколеравокі дзяцюк. – Гэта ж Палкоўнік! Кім, Сысой!..

У Палкоўніка, як і ў Аса, было яшчэ некалькі мянушак: Сысой, Кім... Апошняя, аказалася, ягонае сапраўднае імя, якім назвалі яго бацькі, татарын-казак і габрэйка-бундаўка, у гонар Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі. КІМа. Бацькі Палкоўніка былі нейкімі надта заўзятымі бальша-

вікамі, нават большымі бальшавікамі, чым сам таварыш Сталін, якога Кім неўзлюбіў хоць і пазней за Саламона Майсеевіча, але сказаў пра гэта раней: не па смерці правадыра ўсіх народаў, у тым ліку і татарскага з габрэйскім, а пры ягоным жыцці. І сказаў не з вакенца яткі, каля якой стаяла млявая чарга па газіроўку, а ва ўніверсітэце, дзе праходзіў бурлівы сход самага зацятага атрада Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі. Праз гэта Кім, які пазней, зарабляючы на хлеб і гарэлку, напісаў процьму кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый, назаўсёды застаўся недавукам, пераведзеным з універсітэта ва Уладзімірскі цэнтрал, са студэнцкай лаўкі на турэмныя нары, на якіх навучыўся не любіць не толькі таварыша Сталіна, але і Хрушчова, і Брэжнева, і ўсіх, хто быў пасля.

Аднойчы, калі мы, усе свае (хоць Палкоўнік ніколі не быў для нас сваім – як і мы, дый усе астатнія, не былі для яго сваімі, бо ён быў адзін) стаялі каля яткі, Саламон Майсеевіч спытаў журботна: “А чаму гэта, Кіме мой, – ён толькі так чамусьці звяртаўся да Палкоўніка: Кіме мой, – цябе ў той час не расстралялі?..” – на што Кім прашыпеў, як кранік, калі ў ім газіроўка канчалася: “А таму што ў той час КІМа, Камуністычнага Інтэрнацыяналу моладзі, ужо не было, а быў АЗЛК, аўтамабільны завод Ленінскага камсамола!” – і ніхто не ўцяміў нічога, а Саламон Майсеевіч, цэдзячы ў шклянку малінавы, густы і чырвоны, як кроў, сіроп, і гледзячы на Кіма так, як глядзеў бы на брата Ізю, паківаў галавой і працягнуў: “А-а-а...”

Мусібыць, Саламон Майсеевіч таксама мала што ўцяміў, зразумеў у Палкоўніку. Не толькі ў той дзень, калі спытаў, чаму яго пры Сталіне не расстралялі, а ўвогуле... І калі ўжо Саламон Майсеевіч нечага не разумеў, дык каму тады разумець было?..

Па скон жыцця Кім застаўся дысідэнтам, легендай Мінска, насамрэч вольным, хоць і двойчы адсядзелым, гараджанінам, якому ў кабінеце кансультантаў Саюза пісьменнікаў працягнуў руку дзяцюк з рознакаляровымі вачыма:

– Караткевіч. Уладзімір.

З рэдкай, нават выключнай для ягонага з’едліва-нахабнага характару павагай Палкоўнік паціснуў працягнутую яму руку. Уладзімір Караткевіч яшчэ не быў легендай, да легенды далёка было, але Палкоўнік нібы наперад ведаў, каму руку паціскае.

– Адну прынёс, Валодзя?.. – знайшоўшы, нарэшце, акуляры і ўбачыўшы пляшку, спытаў худы кансультант у паласатай безрукаўцы, і ўсе кансультанты глянулі на Караткевіча, чакаючы...

– Другую прынясу, калі прамову Хрушчова прачытаеце, – рушыў да дзвярэй, прапускаючы паперадзе Палкоўніка, Караткевіч. – Дарэчы, раю: песня, а не прамова!..

Хвілінаў праз дзесяць мы ўсе, вольныя мінчукі, былі на Нямізе каля яткі Саламона Майсеевіча, і, ахалоджваючыся, пілі ваду з сіропам – з малінавым і вішнёвым, персікавым і ананасным, хто з якім хацеў.

– Як вы думаеце, – спытаў, пашыпваючы кранікам, Саламон Майсеевіч, – а што было б, калі б першы сакратар ЦК КПСС таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў прачытаў на III з’ездзе савецкіх пісьменнікаў вершы майго брата Ізі?.. – І сам адказаў, не чакаючы, пакуль нехта яму нешта адкажа. – Справядлівасць была б...

– І пайшлі б мы наперад да перамогі сіянізму, – дапіў ваду з малінавым сіропам Палкоўнік, сын габрэйкі-бундаўкі.

## Вуліца Першамайская, колішняя Вясёлая

Тыдні за два да таго, як Косця Воран распазнаў у Саламоне Майсеевічы сваяка Леніна, Саламон Майсеевіч меў размову з Гурыкам і нам пра яе распавёў.

– Вы ведаеце, з чым ён да мяне падышоў?.. Дык і я думаў: вады выпіць – нічога іншага. Як заўсёды... Наліваю яму з малінавым, кажу так між намі, што Асю ў тэатральны не прынялі, намякаючы, чаму, бо ён усё ж там служыць, дзе кажуць, што ўсе людзі роўныя, хоць сярод іх ёсць габрэі, а ён пытае: "Почему вы, Саломон Моисеевич, демонстративно разговариваете по-белорусски"? І ведаеце, што я адказаў? "Каб не думалі, што тут Ізраіль". Толькі і ўсяго... Гэта што: кепскі жарт? Да таго ж гэта Гурык, а не хто-небудзь... А ён мне: "Вы с Кимом антисоветчики, мы с вами разберемся!.." Нібы таксама жарт... А назаўтра мяне адсюль клічуць, вунь туды вядуць і палітычна страшаць, каб я нешта падпісаў. І Гурык там ужо не адзін, з нейкім старшым маёрам – да якіх там жартаў?.. Я пытаюся: "Што я вам магу расказаць, чаго вы не ведаеце? Каму тое трэба, што людзі кажуць, калі ваду п'юць? А калі ўсё ж трэба, дык скажыце, што?.." Дык той старшы маёр пальцам – тыц: "Вы ў нас дажартуецеся!" І некуды падаўся па сваіх таемных справах, не сказаўшы, каб мяне адпусцілі, і я ў іх там сядзеў... Мяне, пакруціўшы, адпусцілі, але як вам Гурык? Ён жа выкруціў так, што мяне амаль арыштавалі! І за што?.. За тое, што тут не Ізраіль?..

– Можа, за тое, што вы сваяк Леніна?.. – спытаў я няўпэўнена, і Саламон Майсеевіч глянуў на мяне, як на чалавека, які ніколі не піў газіроўкі ні з сіропам, ні без.

– Вы яго паслухайце! Вы чулі такое?.. Каб у краіне Леніна некага арыштавалі за тое, што ён сваяк Леніна!.. Чаму цябе ў тэхнікуме вучаць і не выганяюць?

– Дык ты ж не сваяк, Саламон, – заступіўся за мяне Палкоўнік, і Саламон Майсеевіч перакінуўся на яго.

– А не сваякоў Леніна ў краіне Леніна арыштоўваюць?

– Арыштоўваюць... – дапіў ваду і кіўнуў Палкоўнік. – Не сваякоў арыштоўваюць.

Саламон Майсеевіч вытыркнуўся з вакенца яткі.

– І цябе арыштавалі і пасадзілі за тое, што ты не сваяк Леніна?

Палкоўнік падаў Саломону Майсеевіча пустую шклянку, узяў у Косці недапаленую цыгарку, зацягнуўся і спытаў сур'ёзна:

– А за што яшчэ, Саламон?

Саламон Майсеевіч, вінавата глянуўшы на Палкоўніка, абмяк у акенцы, прамармытаўшы:

– Гурык надта хоча старшым маёрам стаць...

Косця Воран, які некалі ў войску служыў, зморшчыўся.

– Саламон Майсеевіч, не бывае старшых маёраў, – і Саламон Майсеевіч здзівіўся:

– Пры мне былі.

– Не магло іх быць пры вас.

– Чаму?

– Бо іх не бывае.

– Па якой прычыне?

– Без прычыны. Не бывае – і ўсё!

– А хто бывае?..

– Лейтэнанты. Гурык вунь старшы...

Косця не служыў гэбістам, таму не ведаў, што пры Саламоне Майсеевічы старшыя маёры – два ромбы на пятліцах – усё ж былі, іх адмянілі ў 1943 годзе, зрабіўшы спачатку камісарамі, тры ромбы на пятліцах, а пасля генерал-маёрамі. Гурык у рэшце рэшт да генерал-маёра і даслужыўся.

Гурык, Ігар Гурковіч, вучыўся з Косцем Воранам у адной школе. Некалі яны хадзілі ў адзін клас, сядзелі за адной партай. Нават у войску разам служылі ў Нямеччыне. Ну, калі ў Нямеччыне савецкае войска стаяла... Але потым Косця Воран вывучыўся на скульптара, а Гурык – на гэбіста.

Я вучыўся ў электратэхнікуме сувязі, маладзейшы быў за іх на дзесяць гадоў, але гэтаксама, як і Косця з Гурыкам, быў закаханы ў Асю, толькі безнадзейна – і, можа, праз тую безнадзейную закаханасць, каб хоць неяк я суцешыўся, яны дазволілі мне сябраваць з імі. Я шчасліўся, што маю такіх сяброў, і сяброўствам з Гурыкам ганарыўся нават болей, чым сяброўствам с Косцем. Асабліва пасля таго, як убачыў Гурыка ў форме: увесь з бліскучымі пагонамі...

Было гэта на вуліцы Першамайскай у рэстаране “Лета”, які месціцца ў доме пры павароце на вуліцу тэрарыста Пуліхава. Калісьці Першамайская ад вуліцы Змітрака Бядулі да маста праз Свіслач і вуліца Ульянаўская ад гэтага маста да Чырвонаармейскай называліся вуліцай Вясёлай. Можа быць, праз тое і з’явіўся тут вясёлы рэстаран, які быў атабараны курсантамі і выпускнікамі вышэйшай школы Камітэта дзяржбяспекі.

На той час у Мінску ва ўсіх былі свае месцы для, як пазней сталі казаць, тусовак. Акторы збіраліся ў “мутным воку”, буфеце філармоніі, якую перанеслі з клуба імя Сталіна і якая пасля стала Домам мастацтваў, куды хадзіць акторам недалёка даводзілася: і беларускі Купалаўскі тэатр, і рускі тэатр Горкага, і Оперны, і тэатр Юнага гледача месціліся побач...

О, “мутнае вока!..” Гэты гул, гэты чад, гэты гам, у якім кожны чуе тое, што хоча чуць – найперш, зразумела, сябе. Тут кожны хоча сябе паказаць, бо не тут, не ў “мутным воку”, за сценамі ягонымі кожны з нас іншы, не той, кім ён напраўдзе ёсць – хоць на камсамольскім сходзе, хоць у спектаклі “Як гартавалася сталь”. Быць самім сабой нельга нідзе, а ў “мутным воку” можна – вось што цягнула сюды ўвечары, каб заставацца тут да ночы, а то й да раніцы, актораў.

Мастакі вечаравалі ці ў кавярні “Вясна”, бо і ў доме з кавярняй, і ў суседніх дамах былі іх майстэрні, ці ў цукерні “Ласунак”. Ад пачатку гэтая цукерня па-руску называлася “Лакомка” і была адзіным месцам у Мінску, дзе ў той час можна было выпіць не гарэлкі з віном, як у “Вясне”, а кавы, якую хоць і чэрпалі апалонікам з катла, але гэта была насамрэч кава... А вось чаму гэбісты аблюбавалі рэстаран “Лета”, ніхто як тады не ведаў, гэтак і цяпер не ведае. Косця Воран казаў: бо побач трамвайная лінія, можна вагоны падганяць – і адразу з “Лета” ў зіму, на Калыму, дзе Эдзі Рознэр восем гадоў граў у лагерах...

Так ён, Воран, і сказаў у той вечар, калі я ўбачыў Гурыка з бліскучымі пагонамі. Косця быў нападпітку і гучна гэта сказаў, на ўвесь рэстаран. Гэбісты там нешта спраўлялі, таксама былі не надта цвярозыя, накінуліся на Косцю. Не арыштоўваць, проста біць. Косця хоць і быў здаровы, але ж не супраць усіх... Мяне, як шчанюка, адкінулі, а Косцю – нагамі на падлозе... Вось тут Гурык і ўскочыў, вось тут ён мне і глянуўся, увесь у бліскучых пагонах: бутэльку аб стол – гах! “Стаяць! Усім – стаяць!..” І калі ўсе застылі, сплюнуў да Косці: “Вымятайся, сука, пакуль жывы...”

Ну, сукай ён Косцю абазваў так... бо трэба ж было, як я зразумеў, пры

гэбістах сваіх нешта сказаць. А Косця мне на гэта кінуў: “Ні хрэна ты, шчанюк, не разумееш...”

– Ні хрэна ты не разумееш! – накінуўся Гурык на Косцю, калі Саламона Майсеевіча забралі ў другі раз і ўжо не выпусцілі ні праз дзень, ні праз тыдзень. – Жарты яму! Калі ён сваяк Леніну, дык хто тады Ленін?!.

– Скуль ты ведаеш, што ён сваяк? Хто табе сказаў? Хто?

– Ніхто! Ведаю!

– А хто Карл Маркс? – насядаў на Гурыка Косця. – Карл Маркс хто? Чаму ён можа быць, а Ленін...

– Не можа!

– Святы?

– Святы!

– А найпершы святы – хто?

– Хрыстос!

– Юда!..

І зноў яны загрудкі...

Тое, што біліся яны не праз Леніна і не праз Саламона Майсеевіча, не праз тое, што Гурык гэбіст, а Косця скульптар, і наогул не праз каго-небудзь ці праз што-небудзь іншае, а толькі праз Асю, я зразумеў пазней, калі спазнаў розніцу паміж летуценнай, лёгкай, няхай сабе і безнадзейна-безадказнай, юначай закаханасцю і пакутлівым, пякельным, дарослым каханнем.

Мне не падабалася, што Гурык і Косця б’юцца. Мне хацелася, каб яны сябравалі, і я пытаў Саламона Майсеевіча: што можна зрабіць, каб іх сяброўства не скончылася? Можа, Асю ўгаварыць выйсці замуж за абодвух?.. “Усё адно скончыцца, – сумна адказваў Саламон Майсеевіч. – Гурык пасадзіць Косцю – і скончыцца”.

Саламон Майсеевіч быў сумны не праз тое, што Косця з Гурыкам Асю падзяліць не маглі. Махаў рукой: “Яна сама іх, як захоча, падзеліць...” Былі ў яго больш сур’ёзныя праблемы.

Калі на месцы яткі аўтамат паставілі, і Саламон Майсеевіч, застаўшыся беспрацоўным, напісаў скаргу ў Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Беларусі, дык Алік, амерыканец, які быў за камунізм, а значыць, за людзей працы і добрай волі, прапанаваў Саламону Майсеевічу перакласці скаргу на ангельскую мову і даслаць не толькі ў Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Беларусі, але і ў Белы дом, у Амерыку, дзе таксама ёсць праблема беспрацоўя – і нават большая, чым у нас. Саламон Майсеевіч, каб дапамагчы людзям працы і добрай волі, згадзіўся. Можа быць, адчуўшы пахі адлігі, якія даносіліся з Масквы, ён вырашыў, што цяпер можна ўсё, нават скаргі пісаць адначасова ў Белы дом і ЦК, але пахі той адлігі былі такімі няўлоўнымі, што Саламон Майсеевіч не ўнюхаў, чым насамрэч пахла...

Адсылаючы скаргу ў арыгінале і перакладзе, Саламон Майсеевіч, як пасля спрабаваў ён апраўдацца, вельмі хваляваўся, таму пераблытаў адрасы на канвертах, і ў Белы дом адаслаў арыгінал. А ў Цэнтральны камітэт камуністычнай партыі Беларусі прыйшла скарга, напісаная па-ангельску...

*“У ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ*
*КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ*
*ТАВАРЫШУ МАЗУРАВУ К. Т.*
*ад Бланка Саламона Майсеевіча, беспартыйнага,*
*СКАРГА.*
*З дня 17 лістапада 1937 года, калі забралі і невядома дзе падзелі майго*

*брата Ізю, па дзень 5 сакавіка 1953 года я не любіў таварыша Сталіна. Пачуццяў сваіх ніяк, ні словам ні дзеяннем, я не выяўляў, бо наўкол была ўсенародная любоў.*

*25 лютага 1956 года адкрылася, што таварыша Сталіна не любіў не толькі я, але і Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М.С. Хрушчоў, які асудзіў таварыша Сталіна за культ асобы. У выніку пераадолення памылак культу 11 красавіка 1961 года просты савецкі чалавек, маёр Юры Аляксеевіч Гагарын, першым узляцеў у космас.*

*Поспехі савецкай касманаўтыкі далі магутны штуршок тэхнічнаму прагрэсу. 1 чэрвеня 1961 года з праспекта Леніна ад шостай прадуктовай крамы на спуск ад пляца Волі да Нямігі быў перанесены аўтамат з газаванай вадой. Усталявалі яго на тым самым месцы, дзе была ятка, у якой прадавалася такая самая вада. Ятку знеслі, і я застаўся часова беспрацоўным.*

*2 чэрвеня 1961 года мной быў напісаны ліст у Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт дэпутатаў працоўных, у якім я прасіў растлумачыць, чаму аўтамат перанеслі туды, дзе ўжо была вада, а не туды, дзе яе няма? Напрыклад, на рог вуліц Леніна і Карла Маркса каля авіякасы, дзе народ смягне, асабліва летам, бо з раніцы да ночы душыцца ў чэргах па квіткі. Праз гэта ў чэргах выказваецца незадаволенасць кіраўніцтвам савецкай краіны і персанальна Першым сакратаром ЦК КПСС, Старшынёй Савета Міністраў СССР таварышам М.С. Хрушчовым, "які без вады ў чэргах па квіткі не душыцца". Узятыя ў двухкоссе словы належаць не мне, а грамадзянам з чаргі.*

*5 чэрвеня 1961 года старшым лейтэнантам таварышам І.А. Гурковічам я быў дастаўлены ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі, дзе таварыш у цывільным, які назваўся маёрам Гагарыным (!), даў мне паперу і аловак, каб я напісаў прозвішчы тых, хто выказвае незадаволенасць кіраўніцтвам савецкай краіны. Я сказаў, што не магу напісаць ніякіх прозвішчаў, бо не ведаю іх. Таварыш маёр Гагарын (!) выказаў меркаванне, што гэта я сам незадаволены кіраўніцтвам савецкай краіны і падбіваю да незадаволенасці іншых, назваўшы пры гэтым імёны некалькіх маладых людзей, якія каля мяне, як таварыш маёр Гагарын (!) сцвярджаў, групуюцца. Гэтых маладых людзей я ведаю як абсалютна савецкіх, камсамольскіх, і выключна праз іх знаёмства з маёй таксама савецкай, камсамольскай дачкой. Таму я адказаў таварышу маёру Гагарыну (!), што нікога і ні да чаго я не падбіваю, моладзь каля мяне не групуецца, як ён сцвярджае, а п'е, як і ўсе астатнія грамадзяне, газіроўку з сіропам і без. Што ж да мяне асабіста, дык з усіх кіраўнікоў савецкай краіны я меў незадаволенасць толькі таварышам Сталіным, але нават яе не выказваў, бо за мяне яе выказаў Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М.С. Хрушчоў. Таварыш маёр Гагарын (!) згадзіўся, што таварышам Сталіным у асобных момантах сёння можна быць незадаволеным, але ні ў якім разе не ў Мінску, а толькі ў Маскве. Ён прапанаваў мне падпісаць паперу аб супрацоўніцтве, але я не зразумеў, якое можа быць супрацоўніцтва такой паважнай установы, як Камітэт дзяржаўнай бяспекі, з чалавекам, які прадае газаваную ваду, і ён параіў мне моцна падумаць.*

*6 чэрвеня 1961 года, роўна за два месяцы да 16-ай гадавіны атамнай бамбардзіроўкі амерыканскімі імперыялістамі японскага горада Хірасіма, галоўнай мэтай якой была спроба застрашыць Савецкі Саюз новай звышмагутнай*

*зброяй, чаго не ўдалося, бо намаганнямі самай перадавой у свеце савецкай навукі ў нас з'явілася свая атамная бомба, я паспрабаваў запісацца на прыём да старшыні Мінскага гарадскога выканкама дэпутатаў працоўных таварыша Шарапава В.І. па пытанні пераносу аўтамата з газаванай вадой са спуску ад пляцу Волі да Нямігі на рог вуліц Леніна і Карла Маркса. У прыёме мне адмовілі, патлумачыўшы, што аўтамат з газаванай вадой пастаўлены на спуску ад пляцу Волі да Нямігі згодна з планам устаноўкі аўтаматаў з газаванай вадой у горадзе Мінску, зацверджаным на сесіі Мінскага гарадскога выканкама дэпутатаў працоўных і падпісаным старшынёй Мінскага гарадскога выканкама дэпутатаў працоўных тав. Шарапавым В.І., які вызначаецца прынцыповасцю і прынятых ім рашэнняў ніколі не мяняе. Прашу памяняць ці тав. Шарапава В.І., ці прынятае ім рашэнне, якое шкодзіць справе выхавання савецкага чалавека як будаўніка камунізму, які на рагу вуліц Леніна і Карла Маркса (падкрэслена мной) не можа выпіць вады. І гэта адбываецца ў той час (!), калі ўвесь савецкі народ скіраваны ў космас і вось-вось пераселіцца на Месяц і ў іншыя сусветы, пра што сведчыць узнёслая прамова першага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР таварыша М.С. Хрушчова на святкаванні 40-годдзя БССР і камуністычнай партыі Беларусі (тэкст прамовы дадаецца).*

*Да ўсяго ўласнаручны подпіс:* ***Бланк С.М., беспартыйны****".*

У Цэнтральным камітэце камуністычнай партыі Беларусі не знайшлося, мусібыць, перакладчыка з ангельскай – і скаргу Саламона Майсеевіча Бланка з дададзеным да яе тэкстам прамовы Мікіты Сяргеевіча Хрушчова пераправілі ў КДБ.

### Вуліца Камуністычная, колішняя Другая Міхайлаўская

З Амерыкі, дзе поўна ўсялякіх імігрантаў, таму перакладчыка знайсці не праблема, скаргу Саламона Майсеевіча нікуды не перапраўлялі, але і не адказалі на яе. Мусібыць, пакрыўдзіліся. Не трэба было Саламону Майсеевічу пра амерыканскі імперыялізм пісаць. Ён, можа, думаў, што гэта яму дапаможа, але не дапамагло. Як не памагла і дададзеная да скаргі прамова Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, якую Саламон Майсеевіч, каб у ЦК КПБ прачыталі яе па-беларуску, выразаў з газеты "Звязда".

"Ён разлічваў, што яго за антысавеччыну вышлюць. На "Ту-134" у 72 гадзіны ў Ізраіль", – казаў Гурык, калі Саламона Майсеевіча арыштавалі ў другі раз.

За якую антысавеччыну, калі ў скарзе Саламона Майсеевіча скразная антыамерыканшчына?.. Косця нават спытаў Амерыканца, ці не выкрасліў той, як амерыканскі камуніст, што-небудзь антысавецкае пры перакладзе? Арыгінала мы не бачылі, Амерыканец паказаў нам пераклад, з якога, перш чым аддаць яго Саламону Майсеевічу, зрабіў копію на радыёзаводзе, дзе працаваў. Вось тут бы ў гэбістаў спытацца: хто гэта амерыканца і, можа быць, шпіёна на савецкім заводзе да капіравальнай тэхнікі дапускае?..

Ніхто, канечне, не спытаўся... Але дарэмна Гурык выгляд рабіў, нібы арыштавалі Саламона Майсеевіча толькі цяпер, пасля скаргі ў ЦК, а ў першы раз не арыштоўвалі. Ну, пасля таго, як Саламон Майсеевіч сказаў, што ён сваяк Леніна, чаго ніхто, апроч мяне, Асі і Косці, не чуў. Яшчэ Ас да нас падыходзіў, які мог пачуць...

"Ас мог пачуць", – сказаў я Косцю, які пасля бойкі з Гурыкам наўпрост спытаў мяне: "Хто?.."

Не Ася ж данесла, што бацька ў сваякі да Леніна набіваецца. Тады і яна Леніну радня... Як і Эдзі Рознэру... І не сам жа Косця, які адрэзаў: “Ас пачуць не мог!”

Выходзіла, што я данёс. Ці сам на сябе Саламон Майсеевіч... Каб на “Ту-134” у 72 гадзіны ў Ізраіль.

У любым выпадку трэба было неяк Саламону Майсеевічу дапамагаць, пакуль у Маскве адліга. Ці хоць бы паспрабаваць дапамагчы, пакуль і ў Мінску нешта такое...

А як дапамагчы?..

– Давесці трэба, – прыдумаў Косця, – што ён савецкі чалавек і на ўсіх нас па-савецку ўплывае.

А дзе давесці?.. Каму?.. Гурыку?.. А то Гурык не ведае, хто такі Саламон Майсеевіч.

– Калі за Амерыканцам сочаць, а мы ведаем, што за ім сочаць, дык павінны праслухоўваць і тэлефон, і ўсю кватэру, – сказаў Косця. – Збіраемся там – і каму трэба, той нас пачуе.

Амерыканец жыў на колішняй вуліцы 2-й Міхайлаўскай. Пазней яна называлася Мопраўскай, потым – Калініна, а ці не адразу ж па прыездзе Амерыканца яе перайменавалі ў Камуністычную. Кватэра ягоная была ў доме №2, набліжэйшым да праспекта Сталіна, які таксама перайменавалі – і ён стаў праспектам Леніна.

Пасля таго, як Амерыканец вярнуўся ў Амерыку і забіў там свайго амерыканскага прэзідэнта, дом, у якім жыў ён у Мінску, знік. Новыя нумары на ім сведчылі, што гэта дом №4, а дома №2 нібы й не было. Значыць, ніхто ў ім ніколі жыць не мог. Тым больш амерыканец... Які амерыканец? Скуль узяўся, з пылу зляпіўся?.. Тут Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, а не Амерыка.

І ўсё ж дом, у якім жыў Амерынец, быў і ёсць, хоць і пад іншым нумарам, і стаіць, як стаяў, амаль насупраць музея Першага з’езда РСДРП. Відаць, нехта доўга думаў, перш чым на вуліцы з такой назвай ды яшчэ ў такім суседстве пасяліць Аліка, амерыканскага камуніста ці шпіёна.

Даводзіць невядома каму, што Саламон Майсеевіч савецкі чалавек і па-савецку на ўсіх уплывае, сабраліся Косця, Ася і я. Па дарозе да нас прыбіўся Ас. Прыйшлі да Амерыканца, а ў яго, апроч Марыны, якая ўжо год была за ім замужам, яшчэ і Палкоўнік. Не маючы свайго жытла, ён жыў то ў сястры каля стадыёна, то ў маці каля радыёзавода – і па-суседску зазіраў да Амерыканца, у якога заўсёды былі аплаткі, якія прыносіла са сваёй шпітальнай аптэкі Марына. “Калёсы”, да якіх прызвычаіўся Палкоўнік у турме. Прыходзіў ён з кавенькай, такою важкаю палкай, і казаў: “Кватэры пераблытаў”.

Як ён мог іх пераблытаць?.. Жылі яны абодва – і Амерыканец, і Палкоўнік – у кватэрах з нумарам 24, але ж на розных вуліцах у розных дамах. Амерыканец з Марынай – на Камуністычнай, а Палкоўнік з сястрой – на Энгельса. І, каб кватэры пераблытаць, трэба, як мінімум, мост цераз Свіслач перайсці...

Ці Палкоўнік не пераходзіў мост?

Між іншым, і кватэра на вуліцы Кісялёва, былой Старажоўскай, дзе жыла маці Палкоўніка, а пасля, калі бальшавічка-бундаўка памерла, жыў ён адзін, мела нумар 24. Гэткае супадзенне павінна, мусібыць, нешта азначаць, але я не ведаю, што яно азначае...

Не думаю, што Палкоўнік завітваў да Амерыканца толькі дзеля “калёсаў”. Ён быў Настаўнік, Гуру, вучні якога ўсё, чаго б ён ні пажадаў,

з-пад зямлі б дасталі. Але нічога асаблівага Палкоўнік ніколі не хацеў. Ён нават без “калёсаў” мог абыходзіцца, п’ючы, калі тых не было, віно ці гарэлку. Тады чаго ён да Амерыканца цягаўся?.. Не сачыць жа яго, ворага народа, за чужаземцам прыставілі. Хоць усё можа быць. Вунь прыставілі ж сына паэта Шушкевіча, які ў лагеры сядзеў, Амерыканца рускай мове вучыць. Хіба не дзіўна? Сын беларускага рэпрасаванага паэта, а навучае амерыканца рускай мове...

Нешта заблытваюць гэбісты.

Панастаўлялі жучкоў...

Тое, што дома была Марына, нам ніяк не замінала і не шкодзіла, нават наадварот: тых, на каго Саламон Майсеевіч па-савецку паўплываў, разам з ёй было болей. Але Палкоўнік...

– Мы думалі, што і Саламон Майсеевіч тут, – сказаў Косця, нібы пра тое, што Саламона Майсеевіча арыштавалі, не чуў і не ведаў, дый не мог чуць і ведаць, бо такога быць не магло, і Палкоўнік зірнуў на яго нядобра. Косця ж доўжыў сваё. – Шкада, што яго няма, ён так узнёсла чытаў даклад таварыша Хрушчова... – а Палкоўнік, як толькі гаспадыня паставіла на стол, сам сабе наліў, бо, мусіць, “калёсаў” гэтым разам Марына не прынесла, выпіў і здзівіўся: “Як чытаў?.. Што?..”

– ...на XXI з’ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза... узнёсла... – доўжыў і міргаў, і пальцамі ў столь і ва ўсе сцены тыркаў Косця... – сённяшняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме!.. – а Палкоўнік закрычаў раптам, не закусіўшы: “Ты што тут разміргаўся! Пальцамі растыкаўся! Саламон генетычны антысаветчык! Як ён чытаць мог такое г...! Ды яшчэ ўзнёсла! Хіба на ўнітазе ўзнёсся... – і хоць Косця ўжо кулакамі трос, вочы ўгору закочваючы, Палкоўнік цішэй, але дагаварыў... – з газетай для натуральных патрэб...”

Косця кінуў кулакі ўніз, расціснуў іх і бязвольна абсеў на крэсле...

Амерыканец, пэўна, таксама ведаў, што і тэлефон ягоны, і кватэру ягоную праслухоўваюць, таму паспрабаваў заспрачацца з Палкоўнікам: “Гэта амерыканскія газеты для натуральных патрэб, не савецкія”, – на што Палкоўнік заявіў, што ўсе газеты ва ўсім свеце выключна для натуральных патрэб, ні для чаго болей, а тут Ася сказала:

– Мой бацька не антысаветчык.

– Антысаветчык! – гнуў сваё Палкоўнік, які, прайшоўшы турму, ведаў, што такое людзі, і не меў да іх ні асаблівай павагі, ні спагады. – Хто ж яшчэ, калі не антысаветчык? Габрэй, значыць, антысаветчык. Быў бы напалову габрэй – быў бы напалову антысаветчык. Як я. А ён цалкам. І нават больш...

Ас, які, не скінуўшы шыняля з генеральскімі пагонамі, стаяў у дзвярах, нібы мы былі ўжо арыштаваныя, і ён на такім высокім, на генеральскім узроўні нас вартаваў, спытаў нечакана:

– Як можа быць больш, калі цалкам? Такога не можа быць.

– Не антысаветчык! – раптам коратка ўсхліпнула Ася. – Гэта ўсё праз мяне, гэта Гурык... старшы лейтэнант Ігар Гурковіч... – цвёрда прагаварыла яна ў столь, праглынуўшы ўсхліп... – калі бацьку яшчэ тады, за Леніна арыштавалі, сказаў, каб я падумала, з кім быць, з ім ці з Косцем, калі хачу...

Косця ўскочыў: “Што?!. Поскудзь!..” – і перакуліў, ускокваючы, шклянку з гарбатай, якую толькі што наліла Марына, на жывот Палкоўніку і ніжэй... а Палкоўнік нават не войкнуў, нібы нічога ў яго там, спераду,

не было – гэтак у турме загартаваўся, толькі сказаў, порткі атрасаючы: “У-ё-бі-шча.”

– ...каб бацьку адпусцілі і не чапалі, радню чэкіста чапаць не будуць, – здзівіўшыся з вытрымкі Палкоўніка і пасядзеўшы хвіліну з разяўленым ротам, дагаварыла Ася, а Палкоўнік зноў сказаў, хакнуўшы: “Ха! У-ё-бі-шча!” – і незразумела было, пра каго ён, пра Гурыка, ці пра Косцю, які таксама незразумела каго назваў поскуддзю: Гурыка ці Асю?

– Як больш, калі цалкам?.. – паўтарыў сваё пытанне Ас, адзіны, хто, мусіць, не ўцяміў нічога з таго, што зараз тут адбылося, а я стаяў каля акна, гледзячы з якога на павольную раку, на мост цераз яе і парк за ёю, на горад, што падымаўся ўверх ад парку, зайздросціў Аліку, які прыпёрся з Амерыкі – і адразу яму такую кватэру, якой мне ніколі не мець... ды гары яна гарам, кватэра, няхай прападае ўсё, бо, канечне ж, не Ася, а Гурык, увесь у бліскучых пагонах, поскудзь, і, канечне ж, ён, а не Косця “ўё-бі-шча”, толькі як такое можа быць?..

– Як можа быць больш, калі цалкам? – трэцім разам спытаў Ас, мазгі якога, і без таго звернутыя, на гэтым “цалкам” заклініла, а Марына паднялася і пачала прыбіраць са стала: “Выбачайце, тут не вар’ятня...”

Пазней, калі мы насамрэч апынуліся ў вар’ятні, я ўспомніў, што першай пра яе сказала менавіта Марына, якая толькі год пабыла за Амерыканцам, а ўжо паводзілася, як амерыканка, хоць я ні тады не ведаў, ні цяпер не ведаю, як яны ў такіх выпадках паводзяцца, амерыканцы...

Мы дык так сабе...

Аліку стала няёмка праз тое, што жонка ягоная гасцей ягоных пратурыла, і ён пайшоў нас праводзіць.

– Як мне ўсё гэта разумець?.. – спытаў, калі мы спусціліся ў двор і рушылі да Круглай плошчы, Палкоўнік, і калі Косця сказаў яму, што гэта быў спектакль для гэбістаў, уздыхнуў. – Тады кветкі трэба было прадаваць, прыдуркі... Ты, Ася, не цягайся з гэтымі ўбогімі, ты за Гурыка трымайся. Замуж за яго выходзь. Марына за Аліка, а ты за Гурыка, і яшчэ невядома, каму лепш будзе...

– І выйду! – раптам скочыла Ася ў аўтобус, мы якраз да аўтобуснага прыпынку выйшлі, і тут жа дзверы за ёй зачыніліся. Косця грукнуў у іх, ды без толку. Ася крыкнула кіроўцу, каб не адчыняў, і той, раз такая прыгажуня папрасіла, не адчыніў, паехаў, а Косця схапіўся за задні бампер і, з усіх сіл упіраючыся, трымаў аўтобус, які газаваў, газаваў, пакуль бампер... – за які ўжо ўчапіліся і Ас, і я, і Амерыканец, і, невядома скуль узяўшыся, Віл са сваімі сябрукамі, канадцамі Джымам і Джонам...– пакуль бампер са скрыгатам не адарваўся. Кіроўца заўважыў у люстэрку, што бампер адарвалі, прытармазіў, каб спыніцца, ды раптам Ас рвануўся ўслед за аўтобусам – і кіроўца, убачыўшы, што за ім гоніцца генерал з бамперам наперавес, вырашыў не звязвацца, халера з ім, з тым бамперам, і зноў газануў, звозячы Асю ад Косці да Гурыка... А ад Вечнага агню на Круглай плошчы, давячыся свістком, бег да нас паставы міліцыянт.

Пастарунак быў недалёка, на плошчы Якуба Коласа, таму нас не павезлі, а пагналі па Ленінскім праспекце, як палонных немцаў. Усе, нават Амерыканец з канадцамі, ішлі рукі за спіну, моўчкі, толькі Палкоўнік дабіваўся справядлівасці: грозна грукаў кавенькай, даводзячы, што ён не ўдзельнічаў, як пасля запісалі ў пратаколе, “у хуліганскіх дзеяннях па адрыванні задняга бампера гарадскога аўтобуса маршрута №1”, – але яго ніхто не слухаў...

Калі б хто-небудзь мне сказаў, што праз гады ў пратаколе майго затры-

мання напішуць, што я ўдзельнічаў у хуліганскіх дзеяннях, якія выклікалі масавыя беспарадкі, і мне будзе пагражаць за гэта не 15 сутак, а пятнаццаць гадоў, я б падумаў, што чую такое ад куды большага вар'ята, чым Ас, які бяжыць і бяжыць у маёй памяці ад плошчы Перамогі да маста цераз Свіслач – і ветразем развяваецца ў прыцемках бліскуча чырвонае крысо ягонага генеральскага шыняля.

– Цікавая кампанія... – зрабіўшы націск і на першым, і на другім слове, задуменна сказаў, прачытаўшы нашы паказанні, міліцэйскі капітан, які, мусібыць, быў у той дзень у тым пастарунку за галоўнага. – І спытаў Аліка. – Лі Гарві Освальд?.. Вы сапраўды амерыканец?

Алік кіўнуў. Маўляў, так, амерыканец.

– Джым... Джон... хто з вас Джым? – перагартаў капітан паперкі, і Джым, як у арміі, ступіў крок наперад:

– Я!

– Канадзец?

– Канадзец!

Капітан зірнуў на яго ўважліва.

– А чаму прозвішча рускае? Каласнікаў...

– З рускіх эмігрантаў!

– Значыць, з белых?

– Не! З ранейшых!

Капітан не зразумеў.

– З якіх ранейшых?.. – У ягоным разуменні, мусібыць, да белай эміграцыі з Расіі ніякіх эмігрантаў не было і быць не магло. – Ну ды разбярэмся... І вы, Джон, белы?

У Джона, які прыехаў з Канады ў беларускую кансерваторыю вучыцца граць на рускім баяне і зараз не цяміў, дзе ён знаходзіцца і што з ім адбываецца, маці была мурынкай, таму ні на белага эмігранта, ні проста на белага ён ніяк не выглядаў, але з капітанам згадзіўся:

– Белы. На баяне...

– Гэта потым! – перапыніў ягоныя спробы растлумачыць, што ён культурны чалавек і грае на белым баяне, капітан. – Найграешся на Калыме. – І Палкоўнік, успомніўшы, мусібыць, Эдзі Рознэра, хакнуў: "Ха!"

– На чым?.. – зморшчыў лоб, намагаючыся зразумець, на чым яму граць прапануюць, Джон, але капітан ужо перагарнуў паперку. – А вы... – павярнуўся ён да Віла, які выпадкова апынуўся на Круглай плошчы з Джонам і Джымам якраз у той момант, калі мы бампер адрывалі... – радыст?

– Не, – як нешта адчуўшы, не захацеў быць радыстам Віл. – Маё прозвішча Леднік. А радыстам мяне называюць, бо...

– Бо вы радыст!– лагічна заключыў капітан. – Хоць, можа быць, і Леднік. Вось жа тут, у паказаннях грамадзяніна Ворана, напісана: "... і зусім выпадкова з намі аказаўся Радыст з канадцамі". Дык вы і з імі выпадкова аказаліся, і выпадкова з канадцамі, і выпадкова называецеся радыстам?..

Віл разгубіўся.

– Гэта мянушка... Вунь у яго, – ён паказаў на мяне, – мянушка Князь, хоць ён малы і непадобны... А ў мяне яшчэ адна ёсць: Віл... Мы, я і Воран, разам у школе вучыліся, дык у ёй... – і капітан рэзка перапыніў яго, твар у твар нахіліўшыся:

– У якой? Нямецкай, амерыканскай? ЦРУ? Ну!..

– У 42-й сярэдняй... – ледзьве прамямліў, насмерць не рады, што звя-

заўся з намі, Віл, а капітан, у вачах якога хай, можа, і не генеральскія, як на пагонах Аса, але ўсё ж зоркі засвяціліся, перакінуўся на Палкоўніка:

“І вы, грамадзянін Сысой Кім Іванавіч, аднойчы ўжо асуджаны за антысавецкую дзейнасць, таксама зусім выпадкова ў гэтай кампаніі?..”

У сутарэннях дома на рагу вуліцы Чырвонай з праспектам Леніна, на плошчы Якуба Коласа, у каменным, даволі вялікім пакоі анікога, апроч нас і капітана, не было. Допыт шпіёна амерыканскага і двух канадскіх шпіёнаў, радыста, антысаветчыка і яшчэ трох завербаваных агентаў, адзін з якіх хоць адстаўны і не зусім здаровы, але генерал авіяцыі, капітан вырашыў правесці без сведкаў – ці мала што?..

Цяжка сказаць, якія фантазіі блукалі ў ягонай галаве, калі, загадаўшы нам выстраіцца ўздоўж сцяны па росце, ён падыходзіў да кожнага блізка-блізка, ставаў твар у твар, доўга і пранізліва глядзеў вочы ў вочы, пасля адступаў паволі – спінай да процілеглай сцяны – і яшчэ раз узіраўся ў кожнага па чарзе: у Косцю, у Аса, у Віла, у абодвух канадцаў, у Амерыканца, у мяне і, нарэшце, у Палкоўніка, які стаяў апошнім, і які раптам сказаў капітану вочы ў вочы: “Слухай, у-ё-біш-ча! Ты арыштаваў таварыша Лі Гарві Освальда, першага сакратара камуністычнай партыі Злучаных Штатаў, якому сёння ўвечары ехаць у Маскву, каб заўтра ўраніцы сустракацца з першым сакратаром ЦК КПСС таварышам Хрушчовым. Падумай, што табе за гэта будзе”.

І ўсё, больш нічога не сказаў Палкоўнік. Мусібыць, вырашыў, што гэтага дастаткова, каб капітан спалохаўся і першага сакратара кампартыі ЗША разам з канадцамі і ўсімі намі адпусціў.

Капітан савецкай міліцыі глядзеў на маленькага, лядашчага антысаветчыка і прыкідваў, што яму рабіць?.. З аднаго боку – зоркі... пагоны... З іншага – калі б нешта, невядома, што, за ўсім гэтым не стаяла, ды так нахабна абазваць яго, начальніка, былы зэк не мог бы. Гэта маглі быць, канечне, і зэкаўскія панты, але ж быў і амерыканец, сапраўдны амерыканец, і канадцы, няхай адзін з іх белы, а другі чорны. Павагаўшыся, капітан усё ж забаяўся, але не так моцна, каб нас адпусціць, а роўна настолькі, каб дакласціся ў КДБ – і праз дзесяць хвілін па нас прыехалі. Гурыка сярод тых, хто прыехаў, не было...

## Плошча Якуба Коласа, былая Камароўская

Дзе тое лета пачатку 60-х?.. Праз трыццаць гадоў, летам напачатку 90-х, у былым міліцэйскім пастарунку на плошчы Якуба Коласа, які стаў рэстаранам “На ростанях”, я сустрэў Асю.

Тварам да акна і спінай да залы яна сядзела адна за сталом – і я пазнаў яе са спіны. На яе плячах гарэў, рассыпаны па белай блузцы, пажар валасоў. Прытушаны, але пажар...

Я падышоў і, баючыся таго, што будзе, калі яна павернецца, павітаўся.

Плечы ўздрыгнулі, пажар хіснуўся – яна павярнулася. Глядзела, не пазнаючы, і я глядзеў, не пазнаючы, хоць ведаў, што гэта Ася. Бязлітасны час ні да чаго гэтак не бязлітасны, як да прыгажосці, і ні да каго ён не бязлітасны так, як да прыгажунь з гарачай, як кіпень, крывёй...

– Я пастарэла? – спытала яна, яшчэ не ўспомніўшы, хто я, і праз прастору ў трыццаць гадоў, праз час, у якім столькі ўсяго спласталася: жарсці, здрады, страты, смерці – пытанне гэтае было і самым банальным з усіх, якія магла яна задаць, і самым для яе важным.

Мая колішняя аднакурсніца, з якой я вучыўся ў электратэхнікуме сувязі, спраўляла дзень народзінаў. Я прыйшоў у рэстаран з лілеямі – з кветкамі, якія любіў, бо помніў, што іх любіла Ася, і ніякіх іншых кветак для мяне не існавала. Белыя лілеі я дарыў ёй аднойчы, стоячы на каленях, таму і цяпер не прыдумаў нічога іншага, як укленчыць... але тады я стаў на абодва калены, а цяпер на адно, на адно...

– Ася, не выходзь ні за Гурыка, ні за Косцю, я адзін цябе кахаю больш за ўсіх, і клянуся, што зраблю цябе шчаслівай, толькі ты пачакай... – падаў я ёй лілеі, якія яна, нахіліўшыся, абняла разам са мной, і хутка-хутка сляза з яе шчакі скацілася на маю шчаку: “А я цябе не пазнала, жыдоўка старая...”

“Хлопчык, ты яшчэ знойдзеш сваё каханне, а я для цябе жыдоўка старая... – сказала яна ў той дзень, калі выходзіла за Гурыка, і Косця выправіў мяне, каб я перадаў ёй, што ён пляваць на яе хацеў, посцілку гэбісцкую, во так, цьфу, але я нічога не перадаў, я прынёс ёй белыя лілеі, бо ведаў, што яна іх любіць, і папрасіў пачакаць, пакуль я змагу па законе з ёй ажаніцца... – і пры чым тут, дурненькі, закон?..”

“Ты бацьку ратуеш?..” – спытаў я тады, і яна адказала: “Усіх”.

“Ды падсцялілі яе пад Гурыка!” – махаў перада мной рукамі Віл. Рукі ягоныя, якімі ён цэмент грузіў, каб на джынсы зарабіць, былі з такімі мазалямі, што ён на далоні, як на цёрцы, моркву дзёр. “Хто падсцяліў?” “Жыды!”

Віл не быў антысемітам, ён быў братам карэспандэнта Усесаюзнага радыё, які нядаўна даў яму прачытаць кнігу пра тое, як габрэі заваёўваюць свет.

“У іх палітыка такая масонская: кожнага, хто ў органах, ва ўладзе, павязваць са сваімі. Вось Гурыка і павязалі! І пабачыш: высока ўзляціць, тут масоны пастараюцца”.

Ася дазволіла сабе толькі адну слязу...

– Што ж мы з табой нарабілі? – высушыла яна на вейцы другую слязінку, а трэцяй ужо не было. – Жыццё асобна пражылі...

Пасля перформансу з кветкамі я не ведаў, што рабіць далей, што казаць?.. Раптам стала ніякавата, як на сцэне, на якую штукар цябе выцягнуў з залы, каб чужы партманэт з тваёй кішэні дастаць, а ты стаіш, чакаеш, пакуль ён дастане ці не дастане, і не ведаеш, куды рукі падзець... Таму сказаў, час марудзячы: “Ты блузку залілеіла...” – і яна стрэсла з блузкі жаўтаваты пыл кветак: “Так заўсёды з лілеямі, але я ўсё адно іх люблю, дзякуй, што ўспомніў...” – і я спытаў не вельмі ўдала, агледзеўшы пусты стол, за якім яна сядзела:

– Ты адна?

Яна не стала казаць, што гэта не найлепшае пытанне.

– Адна.

Зрэшты, яна таксама не лепш спытала: “Я пастарэла?”

– Чаму ты адна?

– Бо з усімі развітваюся... – Яна пасунулася і села бокам да акна: цяпер вечаровае сонца высвятляла не ўсе маршчынкі на яе твары. – Прысядзь. Ці ты спяшаешся?

– Не. – Я сеў. – З кім ты развітваешся? – Кіўнуў на стол. – Нікога ж няма.

– О!.. Іх многа. Усіх не ўмясціць. – Яна раскінула рукі. —Таму і няма нікога. Зрэшты, у мяне нікога й не было. Апроч бацькі. Ты помніш яго?

– Помню. – І я зноў спытаў праз трыццаць гадоў. – Ты за Гурыка выйшла, каб бацьку ўратаваць?

Яна паклала рукі, самыя прыгожыя ў свеце рукі, якія толькі могуць быць, якія толькі можна ўявіць, адну на адну, далонь на далонь, паглядзела на мяне ўважліва.

– Цябе дасюль гэта цікавіць?

– Дасюль.

– Дзіўна... І ты дасюль раўнуеш мяне да мора, ветру, сонца?

Мне пад горла падкаціла: яна помніць!..

Даўно, калі мы аднойчы ў Крым, у Новы свет паехалі, я сказаў ёй, што раўную яе да сонца, ветру, мора. Бо вецер абдымае яе, сонца цалуе, мора лашчыць...

Цяпер такога ўва мне не было – і я сказаў праўду:

– Не. Не раўную.

Мне здалося, што ёй хацелася б, каб я дасюль раўнаваў. І памаўчыўшы, нібы ўзважваючы, ці доўжыць размову, яна прагаварыла амаль скарагаворкай.

– Я пайшла за Гурыка, бо Кім Іванавіч сказаў мне, каб я за яго пайшла.

– Хто сказаў?

– Сысой. Палкоўнік.

– Я гэта чуў. Яно было не ўсур'ёз.

– Як ты мог чуць? Я нікому не казала.

Яна не ўсё помніла. Забылася пра Круглую плошчу, пра першы аўтобус...

– Ён сам сказаў. Пры мне, пры ўсіх. Перад тым, як ты скочыла ў аўтобус, каб да Гурыка ехаць. "Ты, Ася, не цягайся з гэтымі ўбогімі. Ты за Гурыка трымайся. Замуж за яго выходзь. Марына за Аліка, а ты за Гурыка, і яшчэ невядома, каму лепш будзе..." Вось так ён сказаў слова ў слова, але гэта было не ўсур'ёз. Ён проста насміхаўся з таго, як мы прыдумалі Саламона Майсеевіча ратаваць. Расказваць у кватэры амерыканца, каб чулі гэбісты, які твой бацька савецкі чалавек.

– А-а-а... – Ася засмяялася. Амаль гэтаксама, як некалі. Нібы анёл з неба жменьку срэбных манетак кінуў. Толькі, пакуль тыя манеткі да зямлі ляцелі, шмат якія ветрам знесла. – Гэта і праўда смешна выглядала. Цяпер выглядае смешна... А тады страшна. І я так вам была ўдзячная, што вы са мной... – Яна хіснула галавой, пажар пераліўся з пляча на плячо. – А ўсур'ёз мне Кім, каб я за Гурыка выходзіла, сказаў пазней. Калі я прыйшла да яго, каб... Ты выпіць са мной не хочаш?

– Можам выпіць. Шампанскае?..

– Шампанскае.

– З пафарбаных слоікаў?.. У вас ёсць, – падазваў і спытаў я афіцыянта, – пафарбаваныя слоікі?

Той не зразумеў.

– Што?

– Слоікі, – паказала рукамі Ася. – Паўлітровыя пафарбаныя слоікі. Адзін жоўты і адзін... – яна вінавата зірнула на мяне...

– Сіні.

– Сініх сёння няма, – сказаў афіцыянт, які аказаўся з гумарам, што рэдкасць для афіцыянта. – А жоўтыя заўтра будуць. Будзеце чакаць?..

"Не, – не згадзіўся я чакаць, – я трыццаць год чакаў", – на што афіцыянт

сказаў: “Дык дзень туды, дзень сюды...”, – але пайшоў і вярнуўся хутка з шампанскім і двума бакаламі, абгорнутымі ў жоўтую і сінюю сурвэткі. – Так падыдзе?..”

Зусім як некалі, у кватэрцы Косці на Нямізе, падала з акна на стол вечаровае сонца, і мы паднялі рознакаляровыя бакалы з вінам, кожны са сваім:

“За цябе”. “За цябе”. “За нас”. “За сустрэчу”. “За Саламона Майсеевіча”. “За Аса”. “За Палкоўніка”. “За Аліка”. “За Гурыка”. “За Косцю”. “За Нямігу”. “За калоны”. “За якія калоны?..” “Тэатра Юнага гледача”. “За калоны тэатра Юнага гледача”. “За Свіслач”. “За Мінск, у якім былі такія людзі”. “Чаму былі? Ёсць. За нашага афіцыянта”. “За Мінск, у якім ёсць такія людзі. Хоць ты не развітвайся і не з’язджай”. “А куды ты?..” “Туды, куды бацька не даехаў”. “У Ізраіль?” “Так, там нейкая цётка мая яшчэ жывая. Яна і раней клікала, але Гурык...” “Што Гурык?..” “Жонка генерала КДБ – і ў Ізраіль?” “А цяпер ты не жонка?” “Цяпер ён не генерал”. “А хто?” “Нябожчык”. “Чакай... Гурык памёр?..” “Не, але яго, як бы гэта сказаць... памёрлі”. “Як так?..” “А так, што адно наша ведамства на запыт аднаго амерыканскага ведамства афіцыйна адказала, што ён памёр”. “Чаму?” “Бо нейкі шпіён... карацей, знайшліся паперы. Копіі”. “Якія паперы?” “Па Аліку”. “Па якім Аліку?” “Па Амерыканцы. З іх вынікае, што Гурык рыхтаваў яго да забойства Кенэдзі”. “Глупства!” “Глупства, але праз гэта ў Гурыка і пайшла кар’ера. Пасля забойства яго амаль адразу перавялі ў Маскву, павысілі ў званні...” “Ды дурата!.. Яны, можа, выгляд хацелі зрабіць, што гэта іх работа. На ўсялякі выпадак”. “Можа быць. Але цяпер з амерыканскімі прэзідэнтамі цалуюцца, так што Гурык – генерал-нябожчык”. “І з табой едзе ў Ізраіль?” “Цябе і гэта цікавіць?” “А як ты думаеш?..” “А ты сам падумай: як нябожчык можа некуды ехаць?..”.

Афіцыянт падышоў:

– Яшчэ шампанскага?

Ася глянула на пустую бутэльку:

– Хутка мы....

– Пад размовы не заўважаем, – сказаў афіцыянт. – А пасля і размоў не помнім.

– Тады давайце, каб не помніць, – неяк адчайна рашылася Ася, і гэтак жа адчайна, як толькі прынёс і наліў афіцыянт шампанскае, выпіла і стала казаць, не перапыняючыся, нібыта баючыся, што, калі перапыніцца, дык не дагаворыць. – Я кахала Косцю, але не так, як Палкоўніка, якога любіла, разумееш, любіла, як, можа быць, Бога трэба любіць, ён адзін ведаў столькі, колькі ўсе, і адзін сярод усіх быў вольны ў той савецкай турме, тады, у той час не баяўся, роўных яму людзей я побач не бачыла, таму прыйшла да яго аднойчы пад ноч і сказала, што гатова аддаць яму, такая дурненькая была, гатова аддаць яму ўсё, што маю, а ён засмяяўся: “А што ў цябе ёсць, апроч пыткі?” – я ўпершыню слова такое пачула: пытка. “Дык яна ў любой лярвы ёсць, але што ж, даеш, дык вазьму, кладзіся...” – і я лягла, а ён сказаў, што яму некуды схадзіць трэба, пайшоў, я да раніцы чакала, мяне ўсю клапы скусалі, бо ў ягоным ложку, ды які там ложак, матрац падраны з падранай коўдрай на падлозе, можа, толькі скарпіёнаў не было, а ён недзе цягаўся ўсю ноч, вярнуўся п’яны і спытаў: “Ты што тут робіш?..” – і калі я паўтарыла, што ён для мяне, як Бог, і я гатова аддаць яму ўсё, што маю, закрычаў: “Ідзі Гурыку ўсё аддай, у-ё-біш-ча!..” – і выпіхнуў мяне, голую, у калідор, следам адзежу кінуўшы: “Гурыку!..” – і

я ўся ў клапах, у блохах, у гнідах, у вошах, нават на лабку гэтыя вошы былі, хоць яны, кажуць, гэтак не перадаюцца, прыпёрлася раніцай да Гурыка і сказала, што згодная быць ягонай, калі ён абяцае, што бацьку адпусцяць і чапаць не будуць, і ён паабяцаў, і я заразіла яго тымі вошамі лабковымі, мандавошкамі, вось з чаго ў нас сумеснае жыццё пачалося, а бацька ў турме памёр, Гурык сказаў, што ўночы, дык хто ж вінаваты, і, можа быць, насамрэч ніхто, але я і адразу падумала на Гурыка, і потым, і цяпер думаю, што гэта ён памерці бацьку дапамог, бо не мог, канечне, бо хто ён такі, каб яго вызваліць, вось так я з ім жыццё і пражыла... ці, магчыма, не так ужо я пастарэла, нешта ў жыцці маім яшчэ можа быць, ці ўжо нічога быць не можа, як ты думаеш?..

Прамаўляючы ўсё гэта, яна сядзела роўна, нерухома, і рукі яе нерухома ляжалі на стале – далонь на далоні. Я нахіліўся і пацалаваў іх. Ася не торгнулася, не зрабіла выгляд, што ёй няёмка: прывыкла да таго, што ёй цалуюць рукі. Адну руку яна пакінула пад маімі губамі, другой пагладзіла па галаве:

– Хочаш, я ў Ізраіль цябе звязу, помніш, нам Віл расказваў... дарэчы, ён жывы?..

– Жывы...

– А Эдзік?

– Жывы.

– Дык яшчэ многа жывых? Біг? Гарык?.. Піля?

– Біг памёр, а Гарык і Піля жывыя. Многа яшчэ жывых...

– Дзякуй Богу... Дык помніш, як Віл, якому брат кніжкі антысеміцкія чытаць даваў, нам пра Ізраіль расказваў і расказваў, хоць там не быў, толькі з радыстамі нейкімі ізраільскімі звязваўся...

– Не з нейкімі. З міністрам...

– Так, з міністрам, я ўспомніла! І з каралём Кувэйта...

– Не Кувэйта, Іарданіі... З Хусэйнам.

– З Хусэйнам, так, і з Бары Галдуотэрам, гэтым, як яго...

– Сенатарам.

– Сенатарам-то сенатарам, але як яго ў нас тады называлі...

– Ястрабам.

– Так, ястрабам. Ворагам СССР. З вас жа праз гэта шпіёнаў і антысаветчыкаў маскоўскія гэбісты прыдумалі, а Гурык...

– Што Гурык?..

– А ты не здагадваешся?

– Пра што мне здагадвацца?

– Пра тое, што яго не толькі праз Амерыканца, а яшчэ і праз вас у Маскву перавялі і ў званні павысілі.

– Праз нас?.. Праз каго праз нас?..

– Праз Палкоўніка, праз Эдзіка Гарачага, Косцю, Віла і ягонага брата... Ён жа з вас тэрарыстаў зляпіў, якія разам з Амерыканцам хацелі забіць Хрушчова, а ён вас выкрыў...

– Хто выкрыў? Брат Віла?

– Які брат Віла? Гурык! Ён пра гэта мне расказаў, калі генералам быць перастаў...

Я адсунуўся ад жонкі гэбісцкага генерала, які памёр, але жывы, а яна, нібыта ўдава ягоная, з'язджае ў Ізраіль, і паглядзеў на Асю ўважліва: не жартуе?.. Не падобна было, каб яна жартавала.

Мне захацелася выпіць. Глынуць адразу шклянку, каб стаць адразу

п’яным, як аднойчы ў кавярні “Вясна”, калі нейкі вайсковец наліў Асу дзве шклянкі, а той адну да мяне падсунуў: “Пі”.

“Не можа быць, – сказаў я, зноў падсунуўшыся і узяўшы Асю за плечы, але яна пацепнулася, і я апусціў рукі. – Турмой для Кіма і Эдзіка такое не абышлося б, нас бы ўсіх расстралялі”. “Маглі й расстраляць, калі ў турму прывезлі. Але Хрушчоў спытаў, як яно ўсё будзе выглядаць? Ён прыехаў да беларусаў, пахваліў іх, сказаў, што яны першыя ў камунізме будуць, а яны яго за гэта – забіваць? І хто?.. Камсамольцы, студэнты. І каго?.. Таго, хто вядзе іх да камунізму? Які ж тады камунізм?.. Вось і пастанавілі вас у вар’ятні трымаць, як псіхічна хворых. І трымалі б, калі б не твая клінічная смерць. Яны спалохаліся, вырашылі спробу замаху засакрэціць, абысціся антысавеччынай”. “Які замах?.. Не было ж ніякага замаху, што ж было засакрэчваць?” “Тое, чаго не было, і засакрэцілі. І яно пачало як бы быць. Бо кожны стаў думаць: калі засакрэцілі, значыць, ёсць. Так часцяком робіцца, ты хіба не ведаеш?.. Палкоўнік, калі помніш, таксама ўсялякую лухту засакрэчваў – і яна выглядала як бы не лухтой...”

Зусім не да месца Ася рассмяялася, але не так, як срэбныя манеткі сыпануліся, а як лыжачка ў надтрэснутай шклянцы празвінела. І калі да гэтага надтрэснутага смеху я збіраўся сказаць ёй праўду пра смерць Саламона Майсеевіча, толькі не ведаў, як гэта лепей зрабіць, дык цяпер раптам падумаў: а навошта? Каб яна дарэшты ўсвядоміла, з кім пражыла жыццё, і яшчэ болей узненавідзела Гурыка? І што з таго?..

Гурыку – нічога. Усё – ёй.

– Не помню я, каб Палкоўнік нешта засакрэчваў.

– А што ён усіх нас здаў, помніш? Што мы ўсе апынуліся ў ягонай антысавецкай групоўцы, помніш? Напляваць на ўсіх было Палкоўніку! На вас, на мяне... Хто мы такія?.. – Смех у ёй нервова перарваўся, і яна сказала, падрабляючыся пад Палкоўніка. – Ідзі Гурыку ўсё аддай, у-ё-бішча... – І дагаварыла ўжо сваім голасам. – А сам ён хто?.. Адну казку пра салдата і смерць усё жыццё піша, піша, піша і дапісаць не можа.

Яна не даравала Палкоўніку. Праз столькі часу...

Чаму? Не таму, што Палкоўнік некага здаў... Жанчына не можа дараваць насмешку над каханнем. Здраду – даруе, насмешку – не.

– Напіша, – сказаў я. – Калі ты застанешся.

Яна паглядзела так, як умеюць глядзець толькі габрэйкі: адначасова ў мінулае і ў будучае.

– Дзеля чаго? Казкі ўжо не будзе, калі нават ён напіша яе.

Мы абодва адчулі, што гаварыць больш няма пра што, і яна паднялася.

– Паеду. Тут мяне ўжо кожны, хто мог, пакусаў. І клапы, і божыя кароўкі. А там яшчэ не.

Быў пачатак 90-х. На літаграфіі, што вісела ў фае рэстарана, дзе мы з Асяй развіталіся, скакаў рыцар на белым кані. Адначасова ў мінулае і ў будучае, у якім яшчэ дзесяць гадоў будзе жыць у барачным доме на вуліцы Кісялёва, былой Старажоўскай, Кім, Сысой, Палкоўнік. Але ён так і не дапіша сваю казку:

“Наперед глаза обернул солдат – на трупинке ани души, ни существа, ни вещества, ни прызраку, ни маны, ни морока и не грези. Птицы-тройки быстрей помчалась под им трупинка, и внезапь ему опустила солдата у самова синево моря, и перестала видетца в сей же миг.

И над морем солнечьно и оглядисто взошла в дневный поход заря”.

*(З недапісанай казкі Палкоўніка “Салдат і смерць”.)*

## Вуліца Інтэрнацыянальная, колішняя Зборавая, Волацкая, былая Хрышчэнская, Прэабражэнская

Ужо ўздымалася ў дзённы паход зара, калі ўсіх нас, апроч Аса, якога ў каршэнь выштурхалі з пастарунку, перавезлі з вуліцы Чырвонай на вуліцу Інтэрнацыянальную ў двор з тылу галоўнай будыніны КДБ. Двор утвараўся некалькімі дамамі і сцяной, аточанай калючым дротам, за якой віднелася “амерыканка”: унутраная турма КДБ. Машына, на якой нас прывезлі, развярнулася і, здалося, ашчэрыўшы пашчу, зноў рушыла ў горад. За ёю, іржава парыпваючы, зачыніліся жалезныя вароты.

– Да сцяны! – скамандаваў адзін з вартавых, прымаючы нас ад канваіраў, і мне ўпершыню з таго моманту, як нас забралі на Круглай плошчы, стала страшна. Я не падумаў, што нас расстраляюць, але раптам нечага забаяўся. Дый не я адзін забаяўся. Віл спытаў здушана, калі вартавы падпіхнуў яго: “Чаго да сцяны?..” – і той вылаяўся: “Расстраляем на х...”

Сцяна, за якой віднелася турма, была ў шчарбінах і чырвоных пырсках. Хутчэй за ўсё, яна была ў фарбе, якой пырснулі, калі фарбавалі вядро, што адзінотна вісела на пажарным шчыце пры варотах. Нічога страшнага тут быць не магло, і ніхто пра страшнае і не падумаў бы, калі б пырскі тыя былі зялёныя, жоўтыя ці сінія. Але яны былі чырвоныя...

Як Ася сказала: гэта цяпер смешна. І то не надта. А тады з часу смерці Сталіна не прамінула і дзесяці гадоў, і амаль у кожнага з нас, апроч амерыканца з канадцамі, нехта з радні быў аднойчы забраны, патрапіў у гэткі самы, можа быць, двор – і не вярнуўся.

Уздоўж турэмнай сцяны і дома насупраць яе стаялі лаўкі – звычайныя дошкі на калодах. Не ведаю, чаму, але Амерыканец з канадцамі селі на “турэмную” лаўку, а мы ўсе – насупраць. І стараліся адзін на аднаго не глядзець.

Першым паклікалі Палкоўніка... І пасля доўга, гадзіны дзве, не клікалі нікога. Увесь гэты час раз за разам адчыняліся вароты: на машынах прывозілі ўсё новых і новых людзей. Амаль усіх іх – ці праз Косцю, ці праз Віла, а найбольш праз Палкоўніка – я ведаў. Любімчык Палкоўніка Гарык Клябанаў... Эдзік Гарачы і Эдзік Зельдовіч... Рыжык, Ося Рыжыкаў... Слава Буйнікоў... Лёня Макаранка... Валера Высоцкі... Віктар Лібенсон, віляянчэліст, скрыпач, Ілля Фраўчы, піяніст... Толя Пястрак з мянушкай Піля, сын пісьменніка Піліпа Пестрака... Вадзім Някрасаў... Сергей Будкевіч... Шыдляк, Генік Шыдлоўскі... Віця Шульман, сын знакамітага рэжысёра, які зняў кіно “Чалавек не здаецца” і якога праз сына пагналі з партыі, а значыць, з кінастудыі, з работы, з самога жыцця – і ён памёр урэшце недзе ў Канадзе... Амаль усе, за выключэннем Лібенсона і Фраўчы, – студэнты ўніверсітэта. Яны абміналі амерыканца з канадцамі, падыходзілі да нашай лаўкі, месца на якой ужо не хапала, і ставалі побач. Ніхто ні з кім не вітаўся, не казаў адзін аднаму ні слова. Усім было страшна. Не мне аднаму, усім...

Гадзіны праз дзве недзе ў доме, куды адвялі Палкоўніка, нешта ляснула. Суха, коратка. Нібы ссохлую галіну пераламілі. Ці стрэлілі. І адразу ў той жа дом павялі Амерыканца з канадцамі. Іх лаўка засталася вольная, але ніхто на яе не сеў. Усе, як стаялі, так і працягвалі стаяць каля нашай лаўкі, каля сваёй сцяны.

– Во гады... – збялела шапнуў Віл, які сядзеў паміж мной і Косцем. – Няўжо ў сутарэннях страляюць?..

І тут паклікалі яго. Ён падхапіўся, сеў, зноў падхапіўся, зрабіў крок, хістка пайшоў у другі бок, уздоўж запырскана-чырвонай сцяны... “Ты куды?” – крыкнуў адзін вартавы з ганку, а другі падышоў і павярнуў Віла, падштурхоўваючы прыкладам аўтамата: “Туды давай, туды...”

– А ён думаў яго тут, у двары... – на дзіва спакойна ўслед Вілу сказаў Косця. – Каб увесь горад чуў.

Я і тады, у тым двары, у тым жаху, і пасля, калі ўсё скончылася, здзіўляўся: чаму Косця, калі яго паклікалі ў дом, у які мы адзін за адным уваходзілі і з якога ніхто не выходзіў, у якім нешта суха ляскала, быццам у ім стралялі, падняўся і пайшоў, нічога не баючыся?.. Я бачыў, што ён не баіцца, нібы наперад ведаючы, што нічога ў тым доме з ім не станецца. Там, у тым двары, я думаў, што ён герой, а пасля, калі мы спрабавалі вылічыць, хто ж нас здаў, хто сярод нас стукач, нічога геройскага пра Косцю я ўжо не думаў. Менавіта таму, што ён адзін сярод нас выглядаў героем. Чаму гэта ён герой, калі мы ўсе перастрашыліся?.. Я падазраваў, успамінаў, сам у сябе пытаўся: ад каго Гурык пра тое, што Саламон Майсеевіч сваяк Леніна, дазнаўся? Калі мы толькі ўтраіх каля яткі былі: Ася, Косця і я?.. Я ўжо не верыў Косцю, як самому сабе, я ўжо ніяк яму не верыў. І не ганарыўся я сяброўствам з ім, і не здаваўся ён мне, як раней, найкруцейшым у Мінску...

Вось што робіць з намі страх.

А пасля Косця зноў здаўся мне героем... Калі адкрылася, што ўсё пра ўсіх нас расказаў і напісаў у тым доме, дзе яго павінны былі расстраляць, але не расстралялі, Палкоўнік. Праз яго мы ўсе аказаліся ў адной, пра якую ведаць не ведалі, падпольнай арганізацыі: антысавецкай групоўцы Кіма Сысоя.

Пазней, калі Палкоўнік, якога пасадзілі за стварэнне антысавецкай групоўкі ягонага імя, адбыў два з паловай гады ў турме ў Піцеры і зноў з’явіўся ў Мінску, я пры першай жа сустрэчы спытаў: чаму?.. Чаму ён расказаў і напісаў усё за нас?.. “Бо наперад ведаў, – адказаў Палкоўнік, – што вы прызнаецеся ва ўсім, чаго яны захочуць. Дык лепей я сам”.

Мяне паклікалі апошнім. Не ў сутарэнні, а ў звычайны пакой з адным акном, нават не закратаваным. Уся мэбля – скураная канапа каля сцяны, шафа ды стол з тэлефонам і графінам з вадой. За сталом, пастукваючы алоўкам па графіне, сядзеў мужчына гадоў трыццаці ў галіфэ і пінжаку вайсковага крою, які моўчкі паказаў мне на крэсла пасярод пакою.

Я сеў, падабраўшы ногі. Выпраставіх. Зноў падабраў. Я не ведаў, як на гэтым крэсле пасярод пакою сядзець? Куды глядзець? Сядзеў і глядзеў уніз.

– Я маёр Гагарын, – перастаў пастукваць, як з аўтамата пастрэльваць, мужчына ў галіфэ, і я сказаў таропка, каб спадабацца яму і паказаць, што на ўсё гатовы:

– Я ведаю.

Я чакаў, што гэта яму спадабаецца, а яму не спадабалася.

– Скуль ты ведаеш?..

Я не ведаў, як адказаць, скуль я гэта ведаю, каб не падставіць Саламона Майсеевіча, які напісаў на маёра Гагарына скаргу ў партыйны ЦК. Таму маўчаў, пакутліва ўсведамляючы, што спёкся ўжо на самым першым пытанні і цяпер мне не выкруціцца, а маёр не стаў чакаць, калі я штонебудзь для выкруткі прыдумаю.

– А ты ведаеш, што па апошнім законе, прынятым Вярхоўным Саветам

у сувязі з абвастрэннем адносін з Амерыкай, ворагі СССР расстрэльваюцца без суда і следства! І ты пад гэты закон падпадаеш, ведаеш?!.

Скуль мне было такое ведаць?.. Як і тое, што такога закона няма і быць не можа. Я нават не ведаў, што законы прымаюцца Вярхоўным Саветам, і калі маёр Гагарын са словамі "і ты пад гэты закон падпадаеш!" узняўся над сталом, нада мною, над шафай, над усім светам – я страціў прытомнасць. Паплыў на тым крэсле, седзячы на якім не ведаў, куды глядзець і куды ногі падзець...

З таго моманту праз таго маёра Гагарына я ўжо не марыў, як марыў раней, калі сапраўдны Гагарын у космас узляцеў, стаць касманаўтам.

Ачуняў я лежачы на канапе. Маёр Гагарын стаяў нада мной і пырскаў вадой, якая здалася мне прысоленай.

– З цябе вораг, як з гаўна куля, – пырснуў апошні раз маёр, і я сказаў, спрабуючы сесці і пачуваючы сябе так, нібы на спатканні з Асяй у порткі нарабіў:

– Я не вораг.

Мне здалося, што маёр паглядзеў на мае калашыны: ці не абмачыўся?..

—Дык я й кажу... Які з цябе вораг? Нармальны савецкі чалавек. Ты ж савецкі?

Я заківаў, выціраючыся:

– Савецкі.

– Вось бачыш, савецкі. Камсамолец. Сценгазетавец. Ты ж у сценгазету пішаш?

– Пішу. Вершы.

– Вось бачыш, пішаш. – Ён паставіў графін на стол. – Дык і нам напішы. Вершаў не трэба, прозу... Дакументальную, без ніякіх там мастацкіх вобразаў, прозу: я сустрэўся з тым і тым, той і той сказалі мне тое і тое... Ды не ўставай, можаш на канапе сядзець. А для пачатку скажы: радыёстанцыю ты ўжо змайстраваў?..

Я сабраўся ўстаць з канапы і, стоячы, з гонарам сказаць, што я не стукач, ніякай прозы для іх пісаць не буду – і не ўстаў. Бо пад ложкам маім у інтэрнаце электратэхнікума сувязі ляжаў заплечнік, а ў ім – радыёдэталі, пра якія ніхто, апроч мяне, не ведаў. Апроч мяне і, як аказалася, маёра Гагарына.

Скуль ён ведае?.. Пад ложак мой ён не лазіў. Выходзіць, нехта піша ў інтэрнаце электратэхнікума сувязі дакументальную прозу?..

Адмаўляцца, казаць, што нічога не майструю і майстраваць не збіраюся, было б па-дурному. Тым больш, што радыёспорт – не злачынства. Ім у той час займаліся ўсе, хто хацеў. Дакладней, хто мог. У тым ліку афіцэры з тэхнічных аддзелаў КДБ, якія, па-першае, у большасці сваёй ведалі англьскую мову, і якім, па-другое, радыёстанцыю займець было найпрасцей.

– Не сабраў. Дэталяў не хапае.

– Якіх?..

Ён спытаў так, нібы гатовы быў дапамагчы мне дастаць тыя дэталі.

– Пары лямпаў... Кандэнсатараў... Шмат яшчэ чаго...

– Шмат яшчэ чаго... – паўтарыў маёр, сядаючы. – А дзе ты бярэш тыя лямпы з кандэнсатарамі? Купляеш?..

Ён не збіраўся мне дапамагаць... Ён збіраўся мяне пасадзіць, бо тыя лямпы з кандэнсатарамі нідзе ў тыя часы нельга было купіць. Ва ўсякім разе, у краме, дзе прадавалася хіба што драбяза для радыёлаў. А дэталі

для радыёстанцыі можна было толькі дастаць. Наўпрост кажучы, скрасці. Ці самому, ці папрасіць каго-небудзь, каб скраў. Сцягнуў у войску, выламаўшы іх з "Крата" або з "Р-250", ці вынес з завода.

Не ведаючы, што адказаць, я тужліва глядзеў на маёра. Яму дастаткова было паслаць некага ў інтэрнат, каб знайшлі пад маім ложкам радыёдэталі, і мяне пасадзяць. Як звычайнага злодзея, без ніякай палітыкі.

Зрабіўшы паўзу, каб я ўсё асэнсаваў і ўцяміў, што са мной можа быць, маёр дапытаў:

– Амерыканец табе іх з завода цягае?

Ён даваў мне накірунак... Шлях, па якім я магу выбрацца з кута, у які ён мяне загнаў. І, магчыма, я рушыў бы гэтым шляхам, але Амерыканец не цягаў для мяне дэталі. Ні для каго не цягаў. Віл аднойчы папрасіў яго прынесці шкалу настройкі, кавалачак звычайнай пластмасы, на што Алік адказаў, што ён не рускі, каб красці. Нібы ў ягонай у Амерыцы не крадуць, а толькі кіно пра гэта паказваюць. І сам ён не п'е аплаткі, якія крадзе для яго ў шпітальнай аптэцы Марына.

Ну ды гэта ягоная справа. Дэталі для мяне ён не цягаў.

– Не. Ён для мяне не цягаў дэталі.

– А хто?

– Ніхто. Я сам.

– Ты сам?..

Суха зглынуўшы, голасу свайго я не знайшоў, таму толькі кіўнуў. Маёр падняўся, адчыніў дзверцы шафы, узяў чысты аркуш паперы, паклаў на край стала.

– Значыць, ты сам?

Я зноў кіўнуў.

– Тады сядай і пішы...

Я ўстаў з канапы – ногі трымалі слаба.

Сеўшы да стала і яшчэ раз зглынуўшы, я ўсё ж знайшоў голас, хоць і слабы.

– Што пісаць?..

– Тое, у чым ты мне толькі што прызнаўся... Што ты неяк... абавязкова напішы, як?.. прабіраешся на рэжымны завод і крадзеш дэталі. За што дадуць табе не менш за пятнаццаць гадоў... Крымінальны кодэкс паказаць, ці на слова паверыш?

Ён мяне ўжо нават не ў кут заганяў. У пастку. У турму.

Я узяў аловак, якім маёр, калі я ўвайшоў, пастукваў па графіне.

– Як гэта назваць?.. Паказанні?..

– А табе хто рацыю дае, калі сваёй не маеш? – нечакана змяніў накірунак, якім мне выбірацца ўжо не з кута, а з турмы, маёр Гагарын. – Гарачы?.. Ці ты працуеш на пару з Леднікам?

– Гарачы не займаецца радыё... – пачаў я і замаўчаў, зразумеўшы, што ўжо адказаў на ягоныя пытанне. Калі не Гарачы, дык Віл, дзіця я горкае, з кім боркацца ўздумаў...

Якраз праз Віла я і заняўся радыёспортам. Калі ў мігценні зялёных агеньчыкаў радыёстанцыі правёў я з ім некалькі начных гадзін, за якія ён пабываў і ў Індыі, і ў Амерыцы, і ў Аўстраліі, і пагаварыў пра джаз, як свой са сваім, не з кім-небудзь, а з самім Луі Армстрангам, які паабяцаў даслаць яму (і праз пару тыдняў даслаў!) кружэлку з аўтографам, я трызніць стаў тымі зялёнымі агеньчыкамі. А калі сам пачаў працаваць у эфіры, дык дамовіўся з тым жа Луі Армстрангам, што вышлю яму фота,

на якім ён у абдымку з Эдзі Рознэрам, каб ён надпісаў яго і даслаў Эдзіку Гарачаму – вось праз што ў Эдзіка не было праблем пры знаёмстве з дзяўчатамі...

Адкручвацца не выпадала, дый патрэбы не было адкручвацца. Што з таго, што Віл падвучвае мяне на сваёй радыёстанцыі? Яна зарэгістраваная, які тут крымінал?..

– Я не працую з Леднікам, у яго першая катэгорыя, права працаваць з тэлефонам ва ўсіх дыяпазонах, а ў мяне...

– І ў цябе будзе, – узяў маёр Гагарын верхнюю паперку са стосу паперын на стале. – Усё ў цябе будзе... І катэгорыя, і права, а пакуль што... Ты быў у Ледніка, калі ён звязваўся з амерыканскім сенатарам Гары Балдуотэрам?

– Бары Галдуотэрам?..

Перапытаў я дарэмна. Маёра Гагарына, які проста агаварыўся, перасмыкнула.

– Ну, Бары Галдуотэрам. Значыць, быў?

– Не. Проста ведаю, што ёсць такі.

– І ведаеш, хто ён?

– Амерыканскі сенатар. Вы ж самі сказалі.

Маёр зірнуў на мяне так, каб я зразумеў, што ў недаўмеку з ім гуляць ён мне не рэкамендуе. У гэта, мауляў, мы ўжо пагулялі.

– Сенатараў амерыканскіх шмат... Але не ўсе гатовыя да вайны з Савецкім Саюзам. – Маёр паклаў паперку на стол, тыкнуў у яе пальцам. – Гэта ястраб! Вораг! Ён заклікае знішчыць нас, пачаць супраць нас атамную вайну, а вы з ім на сувязі! Што за такое можа быць, як ты думаеш?..

Зразумела, што ўжо не пятнаццаць гадоў турмы... І нават не дваццаць...

Прытомнасці гэтым разам я не страціў, але ўвесь, з галавой, якую нядоўга засталося насіць, уціснуўся ў крэсла. Калі падаць на следстве і судзе, ці недзе там без суда і следства, усё так, як падае маёр Гагарын, дык пра тое, што за такое можа быць, і пытацца няма чаго.

Расстрэл.

І як ратавацца?

– Ён радыёаматар...

– Хто радыёаматар?

– Галдуотэр... Другое месца ў чэмпіянаце свету... У Віла першае, а ў яго другое.

Маёр Гагарын здзівіўся. Можа быць, праз тое, што вось ён – маёр КДБ, а не ўсё пра ўсіх ведае. І спытаў, як не паверыў:

– Леднік – чэмпіён?..

Гэта была праўда. Амерыканцы, працуючы на шыкоўных радыёстанцыях вытворчасці найлепшых фірмаў, ніяк не маглі перамагчы нас у чэмпіянатах свету – з нашымі самаробнымі, з абы-чаго злепленымі, “скрынкамі”. Чэмпіянаты ў той час праводзіліся часопісам “CQ”, што на міжнародным кодзе азначае да ўсіх, хто мяне чуе, і былі неафіцыйнымі. Сенатар Галдуотэр займаўся радыёспортам заўзята, у яго была свая радыёстанцыя ў сенаце, а ўсё адно ён быў другім. Быць другім не толькі ў спорце, а ва ўсім, было яму, пэўна, лёсам наканавана, бо не стаў ён першым і ў выбарах Прэзідэнта ЗША, на якіх пасля таго, як Алік забіў Джона Кенэдзі, Бары Галдуотэр змагаўся з Ліндана̀м Джонсанам. Тут яму радыёстанцыя ў сенаце, на гмаху якога тырчэў падвойны квадрат ягонай радыёантэны, па

тэлебачанні паказанай на ўсю Амерыку, здорава зашкодзіла. Выступаючы па тым жа тэлебачанні, ягоны сапернік Джонсан нібы між іншым, як не пра галоўнае, але ўсё ж і не дробязнае, пракінуў: “Спадзяюся, нашы з вамі суайчыннікі, сенатар, паважаючы Амерыку і яе сімвалы, не дапусцяць падвойных квадратаў над Белым домам”.

Скуль мы гэта ведалі?.. Мы ведалі гэта з эфіру, хоць размовы ў ім пра палітыку і ўсё, што блізкае да яе, былі забароненыя міжнародным Статутам, выконваць які абавязваўся кожны радыёаматар, хоць ён гэбіст, хоць ён сенатар. Ды чаго толькі нам ні забаранялі...

Выбраўшы прэзідэнтам Джонсана, амерыканцы не дапусцілі падвойных квадратаў над Белым домам, але з будыніны сената Галдуотэр іх не зняў, як яго да таго ні змушалі. І мы павіншавалі яго з перамогай!..

Вось што такое радыё, зялёныя агеньчыкі ўначы... Гэта вам не ў прэзідэнтах быць і нават не кадэін, не “калёсы” глытаць. Гэта тысячы тысяч галасоў, якім ты можаш падаць свой голас...

Нехта шукае галасы ў выбарчых скрынях, нехта – у сусвеце. Але хіба давядзеш гэта маёру?..

Маёр раптам адклаў расстрэл.

– А з каралём Іярданіі Хусэйнам?.. Ты быў у Ледніка, калі ён звязваўся з каралём Іярданіі?

Мне трохі адпусціла горла, ужо не так моцна сушыла і здушвала... Кароль – не сенатар, Іярданія не збіраецца з намі ваяваць. Можа, не расстраляюць?

Маёр выцягнуў, пакруціў у пальцах і назад уставіў корак графіна:

– Ну?..

Я глядзеў на графін, мацаў горла і не разумеў, чаму я баюся папрасіць маёра, каб наліў вады?.. Трэба пераадолець страх, папрасіць, я ж хачу піць, і я ўжо разняў сшорхлыя вусны, каб сказаць: “Таварыш маёр, наліце, калі ласка, вады...” – але тут зазваніў тэлефон.

– Ёсць! – падхапіўся маёр, зняўшы трубку, хоць той, хто тэлефанаваў, не мог бачыць, падхапіўся ён, ці сядзіць, як сядзеў, і маёр адчуў, што я пра гэта падумаў, яму стала ніякавата і ён, ужо трубку паклаўшы, раптам закрычаў: “Пайшоў адсюль! Спатрэбішся – знойдзем!” – і стаў таропка збіраць паперы, каб да некага, каму ён адказаў, ускочыўшы, “ёсць”, з паперамі бегчы, а я падняўся і пайшоў, ніхто мяне не затрымліваў, толькі вартавы, калі я ў дзверы, што ў двор вялі, пасунуўся, сказаў: “Не туды, у тыя!..” – і праз дзверы, на якія паказаў, ён вывеў мяне нейкімі пераходамі на вуліцу Інтэрнацыянальную, былую Зборавую, па якой дайшоў я да кінатэатра “Перамога”, дзе купіў квіток на бліжэйшы сеанс і ў буфеце піў, піў і піў ваду...

Кінатэатр “Перамога” быў некалі клубам імя Сталіна – і тут жа была філармонія, дзе ў красавіку 1940 года прайшлі першыя канцэрты аркестра Эдзі Рознэра. Музыканты, габрэі з Берліна, Прагі, Вены, Варшавы, якіх прыгнала вайна ў Савецкі Саюз, дзе яны думалі ўратавацца ад Гітлера, а патрапілі да Сталіна, гралі так, што ўвесь Мінск гудзеў! “Ды які там Лёня, які там Яша!..” – чулася каля пашкамутаных ветрам афішаў з рэпертуарам аркестраў Уцёсава і Скамароўскага. – Вось наш Эдзюня!..” Пяці канцэртаў хапіла, каб дагэтуль нікому ў Мінску невядомы польскі габрэй Эдзі Рознэр стаў “нашым Эдзюнем”, а “Беластоцкі тэатралізаваны джаз”, якім страсянуў Эдзюня Мінск, стаў “Дзяржаўным джаз-аркестрам Беларускай ССР”.

“Што вам трэба, – спытаў Эдзюню начальнік Савецкай Беларусі Пан-

целяймон Панамарэнка, – каб з такім жа фурорам выступіць у Маскве на дэкадзе беларускага мастацтва?” “Ап-пар-р-ратура, гоп, ап-пар-р-ратура!..” – праспяваў яму Рознэр, і займеў такую гоп-апаратуру, якой не было ні ў адным аркестры СССР: з радыёзавода, што працаваў па ліцэнзіі кампаніі “Тэлефункен”. Радыёзавод з Вільні, якая восенню 1939 года адышла да Літвы, вывезлі ў Мінск, дзе ён стаў заводам імя Леніна, на якім працуе цяпер амерыканец Алік. Хоць пры чым тут амерыканец Алік? Ні пры чым...

З гэтага завода займеў радыёапаратуру для свайго джаз-аркестра Эдзі Рознэр. І дзе ён праз тое апынуўся? На Калыме.

З гэтага завода – лямпы і кандэнсатары, схаваныя ў маім заплечніку пад ложкам у інтэрнаце электратэхнікума сувязі! Дык чаго я тут сяджу і ваду п’ю, нібы ў Саламона Майсеевіча той вады не напіўся?..

З кінатэатра, у дзвярах якога кантралёрка спытала: “А кіно?..” – я пратрусіў на “брадвэй”, скочыў у першы тралейбус, даехаў да Падлеснай, дабег да інтэрната, схапіў заплечнік, доўга мітусіўся на вуліцы, не знаходзячы месца, дзе можна ад таго, што ў ім, пазбавіцца – у гэтым гэбісцкім горадзе няма куды выкінуць нават самы маленькі, не большы за канцылярскую скрэпку, рэзістар! Нарэшце ўбачыў люк з надпісам ГТС, побач з ім кінуты кавалак арматуры, якім прыпадняў люк, адсунуў яго ўбок і ссыпаў увесь свой скарб з заплечніка ў цёмную прорву калодзежа гарадской тэлефоннай сувязі. Азірнуўшыся, ці не сочаць за мной, паставіў люк на месца і зноў пабег па Падлеснай, скочыў у першы тралейбус і, праязджаючы вуліцу Леніна, убачыў на лаўках у скверы тых, хто яшчэ зусім нядаўна стаяў каля сцяны і сядзеў на лаўцы побач са мной у двары на Інтэрнацыянальнай. Усе былі тут, апроч Амерыканца з канадцамі і Палкоўніка, які стварыў з нас антысавецкую групоўку, назваўшы яе сваім імем, каб мы адчулі, як напісаў ён у сваёй няскончанай казцы, “трагедыйнасць быцця і яшчэ шмат чаго экзістэнцыйнага, што не мае назвы”.

## Вуліца Кісялёва, былая Старажоўская

Адчуўшы ў поўнай меры трагедыйнасць быцця і яшчэ шмат чаго экзістэнцыйнага, што не мае назвы, мы рушылі шукаць Палкоўніка, якога знайшлі ў доме сястры. Але не з сястрой, а з Асяй, якая павінна была быць з Гурыкам. Ад Гурыка Ася дазналася, што нас арыштавалі, і прыскакала. Косця паспрабаваў зрабіць выгляд, нібы яму ўсё адно, дзе і з кім яна скача, ды не стрываў. “Праз цябе...” – пачаў ён, збіраючыся, мусібыць, сказаць, што, каб не яна са сваімі скокамі, мы бампер не адарвалі б, нас бы ў міліцыю не забралі і ў той двор не загналі, дзе мы чакалі, калі нас расстраляюць, але Палкоўнік перапыніў Косцю:

– Што праз яе?!. Вайна?!.

Ён крыкнуў гэта, тыкнуўшы пальцам у Асю, і тая выбегла, не зачыніўшы дзверы...

Асі было дваццаць, Палкоўніку за трыццаць. У маіх вачах іх падзяляла бездань. І ніводнага разу мне не падумалася, што і Косця, і Гурык куды бліжэй па ўзросце да Палкоўніка, чым да мяне. Палкоўнік нібыта аднолькава быў старэйшы і за іх, і за Асю – за ўсіх. Але ж яно было не так...

Доўга я не мог зразумець: як Палкоўнік ставіцца да Косці, Гурыка? Да ўсіх – і найперш да мяне? Думаў, што да мяне – абыякава, ніяк, пакуль Гарык Клябанаў, які быў не толькі любімцам Палкоўніка, але і раўніўцам, аднойчы не спытаў раздражнёна: “А што за сын палка сярод

нас круціцца?” Было гэта тут, у гэтай кватэры, і я кінуўся, як толькі што кінулася Ася, да дзвярэй, а Палкоўнік злавіў мяне за руку: “Ён не сын палка, а сын Палкоўніка!..”

Гэта была мая першая перамога ў кампаніі, якая гуртавалася вакол Палкоўніка: ён як бы прыраўняў мяне да астатніх. Я застаўся – і цяпер мы ўсе стаялі, гледзячы на дзверы, якія, хіснуўшыся туды-сюды, самі зачыніліся за Асяй.

– З бабамі пасля... – сказаў Віл, нібы выручаючы Косцю, які не знайшоў, што адказаць Палкоўніку. – Між намі мужыкамі давайце разбярэмся.

Палкоўнік ніколі не быў мяккай цацкай, а тут, здалося, жалезныя іскры з яго сыпанулі – так ён накінуўся на Віла.

– У чым разбірацца?!. З канадцамі кінь цягацца! Хто ў іх валюту цыганіць? Я?!.

Ніхто з нас не ведаў, што Палкоўнік напісаў для маёра Гагарына “дакументальную прозу”, таму ніхто не разумеў, што з ім?..

Валюту ў канадцаў мы сапраўды цыганілі. Найчасцей цыганіў Віл, які прыдумаў байку, нібы, выпіваючы за валюту, ён пачувае сябе Эрнэстам Хэмінгуэем. Калі ж п’е за рублі, яму сніцца, што ён Піліп Пестрак. Пестраком жа Віл сябе нават сніць не хацеў, хоць за валюту ён, як і за рублі, купляў не кальвадос, які любіў Хэмінгуэй, а любімую пестракоўскую гарэлку. Аддаючы ў мастацтве перавагу ўсяму замежнаму, у жыцці Віл прытрымліваўся айчынных традыцый, схіляючыся не да таго, што лепш, а да таго, чаго больш.

Калі ў 1961 годзе была праведзеная дэнамінацыя рубля, названая самай гуманнай у гісторыі грашовай рэформай, і замест рубля старога з’явіўся новы, у дзесяць разоў даражэйшы, ён маляваўся ў газетах, як асілак, які ўзняў молат над уціснутай у плечы галавой карліка – змарнелага долара. Але за пяць рублёў-асілкаў можна было купіць у звычайнай краме толькі адну пляшку гарэлкі, якая каштавала 2 87, плюс ікра жоўтая (кабачковая), сыр “Каўбасны” і каўбаса “Ліверная”, а за пяць карлікаў-долараў у краме валютнай – дзве пляшкі гарэлкі плюс ікра чорная (асятровая), сыр “Швейцарскі” і каўбаса “Зубрыная”. Ці, калі купляць без ікры, дык тры пляшкі з каўбасой. І як яно так выходзіла, што за меней, бо долар у газетах каштаваў 90 капеек, можна купіць болей, ведалі хіба фарцоўшчыкі, якія куплялі долары ў замежнікаў даражэй, чым за капейкі, але за колькі – не распавядалі нікому, апроч КДБ.

Віл не быў фарцоўшчыкам, таму ягоныя фінансавыя стасункі з іншаземцамі цвёрда палягалі на тым, што друкавалася ў савецкіх газетах. Пазычаючы валюту, ён вяртаў пазыку рублямі па афіцыйным курсе. Выходзіла, што замест дзвюх пляшак вяртаў адну, замест ікры асятровай – кабачковую, замест каўбасы “Зубрынай” – “Ліверную”. Крэдыторы з гэтым найчасцей мірыліся, бо пазычалася драбяза. Калі ж яны выяўлялі незадаволенасць, Віл прыносіў газету з асілкам, які ўздымаў молатам над карлікам, і пытаўся: “Вы супраць нашага курса? Вучыцца ў нас не жадаеце?..”

Канадцы Джым Калеснікаў і Джон Дак вучыцца ў нас жадалі. Дзе б яшчэ іх так – за так! – вучылі?..

З Джонам была праблема: перш чым пазычыць пяцёрку, ён граў на баяне. І змушаў тых, каму пазычаў, слухаць. Гадзіну, а то й болей граў – гэтак любіў мурын рускі баян. Віла, якому свае кружэлкі з аўтографамі дасылаў Луі Армстранг, нудзіла, але ён трываў. Бо мала было стрэсці з бяяніста

пяцёрку "карлікаў", трэба было яго ж і па гарэлку з ікрой зганяць. Самому ўзяць лепш не спрабаваць, таму што каля ўваходу ў валютную краму стаіць, апроч міліцыянта, непрыкметны такі чалавечак, які дакладна ведае, у каго валюта можа быць, а ў каго яе быць не павінна. І калі ў цябе быць яе не павінна, а яна ў цябе ёсць, дык, калі ласка, да маёра Гагарына...

Джым Калеснікаў па мянушцы Кола, які вучыўся не ў кансерваторыі на баяне, а ва ўніверсітэце на філфаку, музычных здольнасцей не меў. Таму ён меў значна большыя страты праз фінансавыя стасункі з Вілам. "Нічога, Кола, – суцяшаў яго Віл. – Не будзь жлабом – і ўсё табе вернецца. Нават з гакам".

Віл угадаў: Джыму ўсё вярнулася. Нават з гакам...

Калі 60-я гады неверагодным чынам перакруціліся ў 90-я, я спаткаў Джыма Калеснікава ў Маскве. Ён адкупіў дом свайго прадзеда на праспекце Міра, былой вуліцы Мяшчанскай, і глядзеўся так, нібы мог скупіць усю Маскву, ды ўся яна яму ні для чаго. А грошы, каб глядзецца так, ніба ён можа скупіць усю Маскву, зарабіў ён не дзе-небудзь, а ў былым СССР. "У Мінску я й пачаў вучыцца здабываць іх без залішніх цырымоній. Так што, – узняў шклянку з віскі ў сваім доме ў Маскве на вуліцы Мяшчанскай канадзец Джым Калеснікаў па мянушцы Кола, – за Мінск! І за Віла, як ён там цяпер?.."

Віл цяпер, дзякуй Богу, нічога, хоць, канечне, час, узрост. Сэрца, вочы... Мы сустракаемся зрэдку на даху дома, у якім ён жыве, і падцягваем правіслыя драты, раўняем пахіленую ветрам антэну: падвойны квадрат. З дома цераз вуліцу і трохі наўскос, дзе Міністэрства ўнутраных спраў, глядзяць на нас маёры і падпалкоўнікі, а мы, замацаваўшы антэну, сядаем спінамі да коміна, выцяжной трубы, і глядзім на наш горад.

Адсюль, з даху дома на вуліцы Гарадскі Вал, колішнім Захар'еўскім правулку, ён, наш горад, як на паштоўцы з мінулага. Былая Зборавая, Базарная, пляц Волі з ратушай, былыя Траецкая, Вялікая Татарская, Замкавая, Васкрасенская, Завальная, Мясніцкая, Няміга-Ракаўская, былыя Ракаўскі і Семінарскі правулкі, Няміга, ад якой засталася толькі Жоўтая царква – усё былое... Нам трохі сумнавата, ды раптам Віл згадвае, што яшчэ зусім нядаўна вуліца Гарадскі Вал называлася імем бандыта Урыцкага, і мы весялеем, бо нешта ўсё ж у нашым жыцці зрушылася да лепшага. Вунь і ўнізе, на першым паверсе дома, дзе ў часы, калі вуліца называлася імем бандыта Урыцкага, была крама "Садавіна-гароднiна" – цяпер рэстарацыя "Мірскі замак". Там сядзець нам не па кішэні, дык мы сядзім тут, на даху – не горш. "Так што... – кажа Віл, дастаючы з кішэні пляскатую пляшку каньяку, хоць піць яму дактары забаранілі пад страхам смерці, але, калі ўжо паміраць, дык ад лепшага... – давай за Мінск!" Мы патрохі выпіваем, згадваючы Эдзі Рознэра і Луі Армстранга, Бары Галдуотэра і караля Кувейта, Кенэдзі і Аліка, Аса і Біга, Гурыка і Косцю, Асю і Марыну, а найчасцей Палкоўніка... І кожны раз, калі мы яго згадваем, маёры і падпалкоўнікі з дома, які трохі наўскос цераз вуліцу, глядзяць на нас асабліва ўважліва. Раптам я ўспамінаю, што сустракаў у Маскве Джыма Калеснікава, які вучыўся ў Мінску на філолага, а стаў прэзідэнтам нейкай найбагатай руска-канадскай карпарацыі, на што Віл кажа: "Шкада, што ён не ў Мінску, я б у яго пяць баксаў сцыганіў... Хоць што цяпер за пяць баксаў купіш?"

"Пляшку, – я кажу, – купіць можна".

"Але ж не тры з ікрой, – уздыхае Віл. – Як усё змянілася..."

Ён забыўся: з ікрой можна было купіць дзве пляшкі. Тры – гэта ўжо без ікры.

З даху дома на Гарадскім Вале добра відаць двор у квартале вуліц Камсамольскай з Інтэрнацыянальнай, у які праз жалезныя вароты то ўязджаюць, то выязджаюць машыны. На варотах стаіць вартавы, на пажарным шчыце адзінотна вісіць вядро. Там не змянілася нічога. Хіба што вароты цяпер расчыняюцца не ў бакі, як некалі, а падымаюцца ўверх.

– А помніш, як з цябе Палкоўнік фарцоўшчыка вырабляў? – пытаюся я ў Віла. – Каб мы падумалі, што нас за валюту расстраляць хацелі?

– З мяне?.. – здзіўляецца Віл. – Фарцоўшчыка?..

Ён не помніць. Сэрца, вочы, скляроз... Са склярозам і я сябрую, але не так блізка. Ва ўсякім разе, усё, што хоць неяк звязана з Асяй, помню... Як яна выбегла, як дзверы за ёй самі зачыніліся і як Палкоўнік накінуўся на Віла, што ён валюту ў канадцаў цыганіць...

... – Ніхто ні ў кога пра валюту не пытаўся, – заступіўся за Віла Косця, і Палкоўнік агрызнуўся:

– Гэта ў цябе не пыталіся! А мяне асталі вашай валютай!

Відаць было, што ён маніў. І незразумела было, навошта?..

Косця адышоў да дзвярэй, якія яшчэ ўздрыгвалі, зачыніўшыся за Асяй. Торгнуў дзверы за ручку, зачыніў шчыльна.

– Каго яшчэ асталі валютай? – Ён глянуў на Пілю. – Цябе?..

– Не... – Піля пабойваўся і Палкоўніка, і Ворана, не кажучы ўжо пра маёра Гагарына. – Мяне бацькам даставалі.

– Якім бацькам?

– Маім... Каб я падумаў, што з ім будзе, калі ўсе дазнаюцца, што я, сын рэвалюцыянера, такога пісьменніка...

– Ха! – хакнуў Палкоўнік, які, можа быць, і лічыў яшчэ каго-небудзь, апроч сябе, рэвалюцыянерам і пісьменнікам, але не Піліпа Пестрака, і тут раптам Эдзік Гарачы, сябар Пілі, крыкнуў: “Не хакай!”, – і ўскінуў руку, нібы ў піянерскім салюце:

– Антыасаркан!

Здорава ў яго ўсё гэта выйшла: і “не хакай!”, і піянерскі салют, і, падобнае на “no passaran!”, тарабарскае слова антыасаркан! Нездарма ён актор Тэатра юнага гледача, на прыступках якога чыталіся вершы і ў калонах якога блукалі, пераплываючы з левага берага Свіслачы на правы, пахі далёкай маскоўскай адлігі.

З Палкоўнікам найчасцей лаяўся Косця. Ці Шыдляк, напорысты Генік Шыдлоўскі. Але ад Эдзіка, звычайна ціхага, найцішэйшага ў нашай кампаніі, ніхто напору такога не чакаў, нават Палкоўнік на дзверы азірнуўся:

– Ты што гэта?..

– Гэта тое, пра што пыталіся. Хто прывёз кнігу ў Мінск, хто чытаў, хто і каму перадаваў? У мяне пыталі, хто перадаў мне...

Палкоўнік, які і прывёз з Масквы раман “Анты-Асаркан”, пра які чуў я ў размовах, але не чытаў, бо да мяне, як да наймалодшага, кніга не дайшла і ўжо, падобна, не дойдзе, перапытаў насцярожана:

– І што?..

– Нічога, – апусціў руку, якую ўсё яшчэ трымаў, нібы ў піянерскім салюце, Эдзік. – Ніхто не перадаваў. Раніцай іду ў тэатр, а нешта ляжыць на прыступках за калонай. Скручанае так, як вялізная кубінская сігара. Спыталі: чаму кубінская? Я спытаў: а якая яшчэ?..

З даху дома на Гарадскім Вале, дзе сядзім мы з Вілам, відаць дом на праспекце Незалежнасці, дзе некалі была крама "Тытунь", у якой куплялі мы кубінскія сігары. У бліскучых, быццам срэбных, падобных на ракеты, якія Савецкі Саюз хацеў паставіць на Кубе, каб страшыць Амерыку, футуральчыках, укладзеных у драўляныя скрыначкі. Адна такая сігара ў Амерыцы (Віл пацікавіўся пра гэта ў сенатара Галдуотэра) каштавала 20 долараў, а ў нас – 20 капеек. Галдуотэр не паверыў...

У краме "Тытунь" на праспекце Незалежнасці, у той час праспекце Леніна, я купіў свой першы пачак цыгарак. Доўга вагаўся, выбіраючы паміж "Шыпкай" і "Джэбэлам". І хоць пачак "Шыпкі" – пляскаты, з тонкага кардону, падобны на пачак з папіросамі "Казбек" ці "Герцагавіна Флор", якія курыў Сталін – выглядаў прыгажэйшым за звычайны, папяровы пачак "Джэбэлу", я выбраў апошні. Каб не пачынаць з таго, што хоць неяк нагадвала пра Сталіна, праз якога пасадзілі ў турму Палкоўніка.

Я ўгадаў з цыгаркамі... Тытунь, з якога яны вырабляліся, быў з дабаўкай. З траўкай, якая аказалася наркатычнай. Ледзь-ледзь, але ўсё ж... З паўпачка можна было нармалёва палятаць. Але даволі хутка з "Джэбэлам" разабраліся, прадаваць цыгаркі забаралілі, імпарт іх спынілі – і палёты скончыліся.

Не знайшоўшы лятучага паліва ні ў "Шыпцы", ні ў ніякіх іншых цыгарках, якімі спрабаваў замяніць "Джэбэл", я кінуў паліць.

"Шыпку" нам прывозілі балгары, а "Джэбэл"... Вось і не помню, хто і адкуль прывозіў нам такія лятучыя цыгарэты... Хіба тыя ж балгары? Чаму тады "Джэбэл", д'ябал? Не падобна на сяброў, не падобна... І не кубінцы "Джэбэл" прывозілі, яны таксама, як і балгары, сябры... Можа, парагвайцы... Каб, накурыўшыся, мы паставілі ў іх ракеты – і пачалася вайна.

– Віл, – пытаю я, гледзячы ў той бок, дзе некалі была крама "Тытунь" з кубінскімі сігарамі па дваццаць капеек, – а што ў той кнізе было?

– У якой?..

– Праз якую Эдзіка Гарачага пасадзілі.

– "Доктар Жывага"?

"Доктара Жывага" я чытаў: Палкоўнік меў (пакуль гэбісты не забралі) італьянскае, у вішнёвай вокладцы, выданне.

– Не.

– "Ракавы корпус"?

– Не... Тарабарская нейкая назва...

– "Анты-Асаркан"?

– Так.

– Ты хіба не чытаў?

– Не. Да мяне, як да наймалодшага, чарга не дайшла.

Віл адпівае трохі з пляшкі, перадае пляшку мне.

– Шкада, што не я быў наймалодшы.

Я раблю глыток.

– Кепская кніга?

– Не помню... Калі б я быў наймалодшы тады, дык быў бы наймалодшы й цяпер.

– А...

– Што "а"?..

– Чаму "Анты-Асаркан"?

– Ха! – хакае Віл, на ўсё жыццё набраўшыся гэтага ў Палкоўніка. – Ты не помніш?

Ён задаволены, што я, маладзейшы, не помню. І я пацвярджаю, што не помню, адмоўна ківаючы галавой.

– Быў такі Аляксандр Асаркан, крытык тэатральны. Маскоўскі мураш, як яго называлі. Ён сядзеў ва Уладзімірскім цэнтрале разам з Палкоўнікам і Паўлам Уліцыным... Ты Паўла Уліцына чытаў?

Я чуў пра Уліцына, але не чытаў яго, таму зноў адмоўна ківаю галавой, і Віл глядзіць на мяне, як на чалавека, які зрабіў нешта непрыстойнае. Ці не, не так: ён глядзіць на мяне, як на чалавека, які павінен быў і мог зрабіць нешта прыстойнае, але не зрабіў. Не прачытаў Уліцына...

– Ведаеш, што ў ягонай біяграфіі было?

– Турма, калі з Палкоўнікам сядзеў.

– Турма... Ты што-небудзь страшнейшае за турму ўявіць можаш?

– Магу.

– Што?

Я не ведаю, што?..

– Лагер?

– Лагер... Не сядзеў ты ніколі – вось табе і страшна. А ўяві: твайму бацьку, каморніку, адсякаюць галаву. Ці то белыя, ці то чырвоныя... Сям'я Уліцына адразу пасля рэвалюцыі на Доне жыла... І вось ён, трохгадовы хлопчык, прачынаецца ўночы, а пасярод хаты маці стаіць з галавой бацькі ў руках. Не ведаючы, куды яе падзець... Пасля кладзе на зэдаль, ідзе на двор і вяртаецца з целам... Усцягвае на стол і пачынае прышываць да цела галаву...

Я ўявіў – і пацягнуўся да Віла па каньяк.

– Скончыўся, – пабоўтаў пляшку Віл. – А ты – турма... Пайшлі ў тэатр да Эдзіка, у бары пасядзім.

Рускі тэатр, у якім працуе цяпер Эдзік Гарачы, можна ўбачыць з даху дома на Гарадскім вале, калі павярнуцца ад Жоўтай царквы на Нямізе да турмы на Валадарскага. Турму называюць Пішчалаўскім замкам. У "замку" разбурылася адна з вежаў, і з даху цікава назіраць, як турэмшчыкі ходзяць каля яе, не ведаючы, што з ёй рабіць...

– Дык вось яны ўтрох, Палкоўнік, Асаркан і Уліцін, напісалі ў турме авантурны раман. Той раман авантурны начальнік турмы... Ты чытаў "Размову пра рыбу" Уліцына? – так і не дазнаўся я, што зрабіў з авантурным раманам авантурны начальнік турмы, бо пра Уліцына размаўляць Вілу цікавей, чым пра Асаркана і нават пра Палкоўніка.

– Не чытаў.

– А "Браму Каўказа"? – паціху спускаецца Віл са свайго даху на свой сёмы паверх, дзе ўжо ў кватэры паказвае мне фотаздымак, на якім побач з Палкоўнікам стаіць фацэтны чалавечак у берэціку з кіёчкам, які, здаецца, толькі што зваліўся з даху і зламаў нагу. Гледзячы ў ягоныя смутныя, як ва ўсіх габрэяў, і ў той жа час весела звар'яваныя вочы, чамусьці думаеш, што наўрад ці сярод напісанага ім можна вычытаць нешта талковае.

– Калі маці ягоная памерла, – кажа Віл, улюбёна гледзячы на фацэтнага чалавечка з кіёчкам, – ён напісаў ёй ліст.

– Куды?..

– На той свет. Куды яшчэ нябожчыкам пісаць?..

### Вуліца Валадарскага, колішняя Лошыцкая, былая Серпухаўская

Эдзік Гарачы адмарозіў ногі ў лагеры, таму ходзіць па тэатры ў валёнках. Ён нават ролі ў спектаклях просіць такія, каб можна было ў валёнках

граць. За савецкім часам такіх роляў хапала, а цяпер не стала – і Эдзік у спектаклях амаль не заняты. Затое спакойна можа сядзець у тэатральным бары. Ніхто не падбяжыць: "Ты што перад спектаклем п'еш?!." А калі нехта й падскочыць, не разабраўшыся, дык Эдзік адкажа: "Віно..."

У Эдзіка здароўе ўжо не тое, каб каньяк піць.

Вось чаму яго аднаго, калі не лічыць Палкоўніка, пасадзілі? А не Пілю, ці яшчэ некага з нас... І я пытаю, схадзіўшы, як наймалодшы, па каньяк для мяне з Вілам і па віно для Эдзіка: як ён думае, чаму аднаго яго?

– Бо аднаго ім было дастаткова, – адпівае віна Эдзік. – А мяне, бо каго яшчэ?.. У Пілі бацька пісьменнік, у Шульмана – рэжысёр, у Фані Файнберг – член-карэспандэнт, у Паліцаева – гэбэшнік... А ў мяне бацькі няма, а маці – санітарка.

Віл крывіцца:

– Пры чым тут гэта?.. Генералаў садзілі, маршалаў...

– Пры Сталіне, – ківае Эдзік. – А са мной у Дубраўлагу ўжо ахова сталінская сядзела. У старым, яшчэ ленінскім лагеры. Прычым, у адным бараку – ахова Сталіна, а ў другім – ахова Берыі. І берыяўскія грэбавалі сталінскімі, называлі іх мяснікамі...

Раней Гарачы нічога такога не расказваў, два лагерныя гады свае наогул перамоўчваў, і зацікаўлены Віл падаўся да яго, каб Эдзік імпэт распавядаць не страціў:

– Чаму?

– Бо яны жанчын, якіх Сталіну прывозілі, пасля рэзалі. Берыяўскія пасля гаспадара самі іх гвалцілі, але ўсё ж жывымі адпускалі, а сталінскія рэзалі. Ну, ці стралялі...

Нейкі час мы няўцямна глядзім на Эдзіка, пасля я кажу, што такога не магло быць, бо, калі б такое было, дык даўно б стала вядома, а Эдзік пытае: "Ад каго?.. Ад жанчын, якіх даўно няма?.."

– Калі я там, – паказвае ён пальцам за спіну ў бок будыніны КДБ, – сядзеў у час следства, акно камеры выходзіла на праспект, дзе буркаталі галубы і біў гадзіннік на паштамце. Яго толькі-толькі ўсталявалі, і ён біў... Так доўжылася амаль паўгода, з таго часу я не трываю буркатання галубоў і вар'яцею ад бою гадзіннікаў. Дык вось, скуль бы вы пра гадзіннік з галубамі ведалі, калі б мяне не стала? Хто б зараз вам пра гэта сказаў? Галубы?..

– Ну, ты параўнаў, – уражаны, круціць галавой Віл. – Што адно, а што другое...

– А ты сядзеў? – мякка, бо ён па характары мяккі, перабівае Віла Эдзік. – Ты слухаў, як гадзіннік б'е і як галубы за акном камеры буркочуць? Праз сотню метраў ад кавярні "Вясна", дзе вы Асу партвейн наліваеце...

Лепш не казаў бы ён гэтага, бо і мне, і Вілу ніякавата...

– Ас прапаў... – вінавата кажа Віл, і Гарачы адпівае віна:

– Ды я не да таго... Як яно ўвогуле пачалося? Паўла Уліціна ў Маскве арыштоўваюць, шукаючы ягоны раман. Ён кажа, што кніга ў Мінску... Не ведае, у каго... Пачынаюць шукаць, у каго? Робяцьператрус у Палкоўніка, не знаходзяць... Тут мой сябрук, таксама актор, на адной сцэне стаялі, ён пасля ў Амерыку з'ехаў, даносіць, што кніга ў Гарачага. І хоць яна ўжо ў Асі Бланк, бяруць не Асю, а мяне... І там, – Эдзік зноў вялікім пальцам паказвае за спіну ў бок, дзе КДБ, – Гурык мне ціха раіць, каб на допыце я ўспомніў, што кнігу ўзяла не сама Ася, а яе бацька, якому ўсё адно сядзець. Я спытаў: "А за што Саламону Майсеевічу сядзець", – і Гурык, старшы лейтэнант Ігар Гуркові́ч, адказаў: "За ўсё..."

“Што?!. Поскудзь!..” – успомнілася мне, як на кватэры Амерыканца крыкнуў пра Гурыка, ускочыўшы, Косця і перакуліў, ускокваючы, шклянку з гарбатай на жывот Палкоўніку, а Палкоўнік хакнуў, порткі атрасаючы: “Ха! У-ё-бі-шча!” – і цяпер, праз гады, як і тады, я не зразумеў, пра каго ён хакнуў: пра Косцю, які ратаваў Саламона Майсеевіча, ці пра Гурыка, які ратаваў Асю, забіраючы ў яе бацьку. Да гэтай пары ўсё ўва мне працівіцца таму, што сярод нас у той час маглі быць мярзотнікі.

– А ўсё ж гэты раман... – спрабую адвесці я размову ад самага непрыемнага... – што ў ім было такое, каб за яго ў турму садзіць?

– Не помню, – адказвае, як і Віл на даху, Эдзік у бары. – Нічога асаблівага, балбатня на сурвэтках.

– На якіх сурвэтках?..

– На папяровых. Кніга ж самвыдатаўская... Папера тонкая, сурвэтачная... Шмат на якіх старонках і не разабраць, што надрукавана. Дый не асабліва гэбэшнікі разбіраліся. Арыштоўвалі яны не кнігу, аўтара. Ён раззлаваў іх, на антысавецкі мітынг прыпёрся ў інвалідным вазку. У Маскве, на плошчы Маякоўскга... Ды яшчэ дысідэнта вядомага з-пад носа іхняга на тым вазку звёз. Вось яны і давай шукаць кнігу, каб аўтара пасадзіць. Прыехалі ў Мінск, а тут цэлая групоўка антысавецкая. І Мінскія гэбэшнікі, якія займаліся гэтай групоўкай, адразу аказаліся пад кантролем гэбэшнікаў маскоўскіх... Вось чаму далі мне два гады! – нечакана сканчае Эдзік. – А не таму, што маці – санітарка.

Ён нібы толькі што гэта ўсвядоміў – і глядзіць на нас разгублена...

– Ды не разабраць тады было, чаму аднаму адно, а іншым іншае... – усё яшчэ вінавата пазірае на Эдзіка Віл. – Мяне з камсамола выгналі, але пакінулі ва ўніверсітэце. Вадзіка Някрасава пратурылі з інстытута, але забыліся выключыць з камсамола... А Будкевіча, які ўвогуле быў збоку прыпёку, пагналі адусюль...

Эдзіку не надта цікава слухаць, кога там адкуль пагналі ці не пагналі, і ён кажа нам гэтаксама, як і глядзіць на нас, разгублена:

– Я ж за два гады пяцьсот спектакляў не сыграў... Паўтысячы... І ўвогуле мог... Дай закурыць, – просіць ён Віла, хоць не курыць, і калі Віл дае яму цыгарку, прыпальвае, зацягваецца і кашляе, запіўшы кашаль віном... – Радыё ў бараку звычайна а дзясятай адключалася, адбой. А тут, у канцы лістапада, роўна ў дзесяць: “Забіты прэзідэнт Джон Кенэдзі”. І такая ў бараку цішыня раптоўная... Поўная смерці, я такой ніколі не чуў. Усе як адзін усё зразумелі, падумалі ўсе пра адно: а раптам вайна? Гэта ж лагер... Куды нас, ворагаў, калі не ў расход? Толькі ў расход. – Эдзік тушыць цыгарку. – Брыдота якая, як ты яе смокчаш?.. Я, калі вызваліўся, іду ад лагера да станцыі... Поцьма называецца станцыя... А паперадзе мяне афіцэрык... З валізай, з пакункамі, усё ў яго падае... Я дагнаў, прапанаваў дапамагчы... Падняў валізу, дайшлі мы да той Поцьмы, ён пытае: “Скуль я вас ведаю? Твар ваш мне знаёмы...” “Я з сёмага лагера...” Ён так на мяне глянуў!.. Трэба было бачыць, як ён на мяне глядзеў... Гэтак на тое глядзяць, чаго быць не можа... Я забіць яго павінен, бо ён бы ў тую ноч, калі вайна пачацца магла, мяне б расстраляў, дый у любую іншую ноч, у любы дзень мог забіць, а я дапамагаю яму, валізу падношу...

– Дык нармальная рэч між нармальнымі людзьмі, што тут такога... – пачынае Віл і сканчае. – Хоць уяўляю карціну...

Эдзік узіраецца ў Віла так, нібы спрабуе ўбачыць, якая ж карціна Вілу ўяўляецца, і кажа, не ўбачыўшы:

– Чорны квадрат. Ты не ўяўляеш, які чорны... Калі памёр следчы, які мяне пасадзіў, Гарулёў было ягонае прозвішча, я адчуў такое гора! Вось ён памёр, не забілі яго, сам памёр, а я не паспеў адпомсціць! Нічым і ніяк. Пасля пайшоў на ягоную магілу і паклаў кветку. Адну. З такім шчасцем, з такой асалодай...

“Я малюю белай фарбай на цемры...” – спяваў некалі Гарык Клябанаў, і гэта была наша філасофія. Прынцыпова іншая, чым філасофія чорнага квадрата. Калі яна ўвогуле ў ім, у тым квадраце, ёсць.

– Ты што гэта перад спектаклем п’еш?!. – пытаецца ў Эдзіка, ціха падкраўшыся да яго з-за спіны, галоўны рэжысёр тэатра, і Эдзік адказвае, не павярнуўшыся: “Віно, Барыс Іванавіч...”

Галоўны рэжысёр забыўся, што ў рэпертуары тэатра не засталося спектакляў, у якіх Эдзік мог бы граць у валёнках. Ён увогуле шмат чаго не памятае... Можа патэлефанаваць сярод ночы: “Даруй мне...” – а спытаеш: “Што дараваць?..” – ён маўчыць.

Некалі Барыс Іванавіч быў блізкі да Палкоўніка, але ні ў антысавецкіх, ні ў якіх іншых групоўках не ўдзельнічаў. Так і пражыў жыццё ў тэатры...

Таэтр – месца ўтульнае. Калісьці, калі вуліца Валадарскага называлася Лошыцкай, тут была сінагога. Ад рабіна галоўнаму рэжысёру дастаўся някепскі кабінет.

– Вы чаго сабраліся? – цікавіцца ён, успомніўшы, што Эдзік не заняты ў спектаклі. – З якой прычыны п’янка?

– Ні з якой, – адказвае Эдзік, налiваючы Барысу Іванавічу майго з Вілам каньяку. – Проста п’янка... “Бо пакуль на абшарах Айчыны, што ўсё толькі збіраецца быць, аніводнай не знойдзеш прычыны, каб не піць...”

– А... – падсоўвае да сябе каньяк галоўны рэжысёр. – Тады, канечне... – і Эдзік пытаецца ў яго, руку на руку паклаўшы.

– Ты памятаеш Гурыка?.. Ну, Гурковіча, гэбіста, які з Асяй ажаніўся?

Заімгліўшыся на ўспаміне пра нейкага Гурыка, пры ўспаміне пра Асю твар Барыса Іванавіча з палёгкай прасвятляецца.

Асю памятаюць усе.

– За яе! – куляе чарку Барыс Іванавіч, які любіць выпіваць за ўсё былое. Скажам, чарку за ўсяго Бертольда Брэхта – і асобны кілішак за ягоную п’есу “Трохграшовая опера”, праз спекталь па якой Барыс Іванавіч займеў мімалётную славу ў апошняй чвэрці мінулага стагоддзя. Славу амаль такую ж, якую займеў ягоны калега Валерый Мікалаевіч, якога пахавалі з ганаровай вартай. Ён быў таксама галоўным рэжысёрам тэатра, але іншага.

Віл напісаў п’есу, якая ў першым акце – пра час, калі Барыс Іванавіч і Валерый Мікалаевіч былі яшчэ маладыя, а ў другім – пра час, калі яны дажывалі век. Там адзін персанаж кажа пра яшчэ аднаго: “І паліто ён даўжэй даношваў, чым насіў новае, і жыццё дажываў даўжэй, чым жыў”.

За тое, што ні Валерый Мікалаевіч, ні Барыс Іванавіч не паставілі спекталь па ягонай п’есе, Віл злаваў на абодвух. Цяпер злуе на аднаго. І прапануе: “Барыс, давай вып’ем за будучыню!..”

За будучыню Барыс Іванавіч выпіваць не любіць, бо нічога там добрага. Смерць тэатра і духоўная дэградацыя. І калі Эдзік налівае яшчэ чарку, Барыс Іванавіч выпівае яе моўчкі. Але мы ведаем, за што. За час, у якім займеў мімалётную славу праз “Трохграшовую оперу”.

Віл таксама любіць выпіваць за “Трохграшовую оперу”, бо ў спектаклі грала актрыса, якую ён кахаў. На тры дні яна нават выйшла за яго замуж, і

хоць больш з гэтага нічога не атрымалася – усё адно Віл выпіваць любіць. Дый я ніколі не быў супраць таго, каб падняць чарку за “Трохграшовую оперу”. Чаму не?.. У кожнага з нас ёсць свая трохграшовая опера.

“І кожны выпіў за сябе...” – напісаў паэт, якога пахавалі без ганаровай варты.

П’еса Віла – пра антысавецкую групоўку Сысоя. Палкоўніка. Эдзік Гарачы мог бы сыграць у спектаклі па гэтай п’есе сябе самога. І Віл мог сыграць самога сябе, і я, але не Барыс Іванавіч. Ён там ёсць, але граць сябе там не хоча. Таму й спектакль не збіраецца ставіць.

– Я пайду, – кажа ён. – У мяне спектакль.

– Чакай, – спрабуе спыніць яго Эдзік. – Дык ты помніш Гурыка?.. – і Барыс Іванавіч перапытвае, адыходзячы:

– Які бацьку Асі пасадзіў?..

– Які бацьку Асі пасадзіў... Дык помніш?..

– Не помню... Для чаго яго помніць?..

– Ні для чаго!.. Проста помніш, ці не?

– Ні для чаго не помню... – пакідае нас галоўны рэжысёр, у якога спектакль, і Эдзік уздыхае: “Вось памяць, мне б такую...”

Я пытаю:

– А нашто табе, каб помніў?

– Бо я помню, я!.. – без аніякай, як мне здаецца, сувязі з самім Барысам Іванавічам і з тым, што ён помніць ці не, налівае сам сабе і адным глытком выпівае Эдзік... – Недзе праз тыдзень пасля таго, як Амерыканец забіў Кенэдзі, і мы яшчэ гадалі, ці пачнецца вайна, расстраляюць нас ці не, мяне прыводзяць да начальніка лагера, а там ён! – прыстуквае Эдзік па стале і глядзіць услед Барысу Іванавічу.

– Хто ён?.. – пытае Віл, хоць зразумела, што там, у начальніка лагера, не мог быць Бырас Іванавіч.

– Гурык! Увесь бліскучы... “Здароў, актор пагарэлага тэатра!” І што пачынае выкручваць!.. “Ты хадзіў, – пытае, – страляць у цір радыёзавода?” “Хадзіў”. “З Амерыканцам? З Лі Харві Освальдам?” “Не толькі, – кажу, – з ім”. “А з кім яшчэ?” “З Воранам...” “Яшчэ з кім?” “З Гарыкам Клябанавым...” “Яшчэ?” “З Вілам...” “А з братам?..” “Якім братам?” “Братам Віла, карэспандэнтам Усесаюзнага радыё?..” “І з ім стралялі, – падняўшыся з-за стала, нахіляецца Эдзік да Віла. – Што тут такога?..” “А з Палкоўнікам? З Кімам?..” “І з Палкоўнікам, і з Кімам...” “І па кім вы там стралілі?..” “Па мішэнях”. “Па якіх мішэнях?” “Па звычайных”. “А па незвычайных?..” “Па якіх незвычайных?..” “А вось па такіх! – раскручвае ён на стале перада мной трубку папяровую, плакат, памятаеце, плакаты такія былі з партрэтамі членаў Палітбюро, ці як яно тады называлася, Прэзідыума ЦК КПСС. – Па кіраўніках партыі і дзяржавы! Рыхтаваліся забіць першага сакратара ЦК, Старшыню Савета Міністраў СССР Мікіту Сяргеевіча Хрушчова! І за гэта ты хочаш толькі два гады?..” Уявіце: увесь плакат у слядах куль, у прабоінах... Мяне потам халодным прабіла... Ён мне тэрмін накруціць прыехаў, а, можа, і пад вышку падвесці, гад! “Не страляў я ні па кім і не рыхтаваўся нікога забіць!” “А хто страляў і рыхтаваўся? Хто?..” “Ніхто!” “Скажаш, адсядзіш, колькі табе засталося – і на волю, у свой пагарэлы тэатр. Вы ж і Кенэдзі ўвялі ў склад ЦК, і ў яго стралялі!” “Не ў яго! І не я!” “А ў каго? І хто?” “Амерыканец у Толіка!” “У ягога Толіка?” “У стылягу Толіка, падобнага на Кенэдзі!” “А на Хрушчова хто падобны быў? Хто на Хрушчова?..” І тут я ляпнуў, – абмякае Эдзік, стоячы сыграўшы

сцэну з Гурыкам і зноў сядаючы да стала: “На Хрушчова быў падобны сам Хрушчоў!” – І Гурык па плячы мне: “Ну вось і малайчына, што прызнаўся! Засталося аформіць...”

Віл глядзіць на Эдзіка, чакаючы... Брата Віла, карэспандэнта Усесаюзнага радыё, які вёў рэпартажы з сустрэч Мікіты Сяргеевіча Хрушчова з працоўнымі Беларусі, арыштавалі напрыканцы 1963-га...

– Ды нічога ён са мной не аформіў, – складвае і паказвае дулю ў мінулае Эдзік. – Але з некім іншым мог аформіць, – ківае ён Вілу, які нервова выпівае і пытае, выпіўшы: “Што ж ты раней маўчаў?..” – і Эдзік расціскае дулю: “А ты пытаўся?..”

У мяне ёсць такая штуковіна ў мазгах, як відэамагнітафон, нейкія моманты пракручваюцца па некалькі разоў, я нават у вар’ятні з гэтым ляжаў, калі ў галаве круцілася і круцілася: “Самалёт ляціць над усёй бальніцай...” – і доктар сказаў, што гэта, канечне, адхіленне, але, калі яно не надта замінае, дык ён не будзе яго лячыць, бо не ведае, чым?.. – дык вось і зараз яшчэ раз пракруцілася, як на відэамагнітафоне:

– Што ж ты раней маўчаў? – пытае Віл, нервова выпіўшы каньяк.

Эдзік расціскае дулю:

– А ты пытаўся?.. – І доўжыць, не надта зважаючы на нервовасць Віла. – У Маскву Гурык перавёўся і ў генералы выбіўся, і праз тое, што Амерыканца падрыхтаваў Кенэдзі забіць, і праз тое, што не даў забіць Хрушчова, выкрыў групоўку тэрарыстаў, – вось што такое Гурык. І вы мне будзеце казаць, што мы сярод нармальных людзей у нармальным часе жылі?.. Выклікаць ува мне настальгію?

Ніхто нічога пра час, у якім мы жылі, Эдзіку не казаў і настальгію не выклікаў – ён сам сказаў і выклікаў. Нам усім у тым часе, як, зрэшты, і ў гэтым, трэба было б да псіхіятра, калі б ён ведаў, чым лячыць?.. У мазгах краіны, дзе мы жылі і жывем, бо нікуды яна не падзелася, ёсць штуковіна такая, як відэамагнітафон, і ўсё паўтараецца раз за разам – самалёт ляціць над усёй бальніцай...

Але нашто нам было Хрушчова забіваць?

Віл не разумее тое самае, што і я, таму адсоўвае пусты кілішак і пытаецца ў Эдзіка, ды нават не ў Эдзіка, а нібыта ва ўсіх: “А за што майму брату Хрушчова было забіваць?..” – і Эдзік нібы за ўсіх адказвае: “Відаць, было за што, калі забіць хацеў”.

– Амерыканец хацеў забіць Хрушчова, а не брат, – пачакаўшы, пакуль каньяк у ім сагрэецца, закусвае скрылікам лімона Віл. – Вы што: забыліся?..

Я помню... Таму пытаюся ў Віла:

– А навошта яно Амерыканцу было?..

## Плошча Незалежнасці, былая Плошча Леніна

– Ты чаму ў інтэрнаце жывеш? – спытаў аднойчы Амерыканец Джыма Калеснікава па мянушцы Кола, студэнта філфака Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. – Грошай на кватэру не маеш?

Грошы ў Джыма былі – і Амерыканец, каб Джыму зручна было, параіў яму зняць кватэру ў доме цераз дарогу ад галоўнага ўніверсітэцкага корпуса. Дом той, цагляны, чатырохпавярховы, з калонамі і ляпнінай, з прадуктовай крамай на першым паверсе, фасадам глядзеў на вуліцу Савецкую, правым крылом выходзячы на плошчу Леніна. Цяпер яго няма

– зруйнавалі. Прагульваючыся па Мінску, Першы сакрататар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, які меў цікаўнасць да архітэктуры, заўважыў, што, калі дом знесці, дык плошча Леніна ў беларускай сталіцы стане самай вялікай плошчай Леніна ва ўсім Савецкім Саюзе. "Гэта было б, – сказаў ён, – сімвалічна, бо беларусы – найверныя ленінцы, якія першымі ўступяць у камунізм". І Мікіта Сяргеевіч, зрабіўшы крок наперад, тупнуў нагой, дэманструючы, як яно, тое ўступленне ў камунізм, прыблізна будзе выглядаць.

– Ён хацеў бы, каб усе беларусы, уступіўшы ў камунізм, змясціліся на адной плошчы, – выказаў меркаванне Палкоўнік, і калі Віл, не зразумеўшы, спытаў: "Навошта?.." – Палкоўнік тыцнуў пальцам у акно: – Каб выступаць адразу перад усімі!

Два акны кватэры, якую Амерыканец параіў наняць канадцу Джыму, выходзілі на Дом урада, з гаўбца якога на другім паверсе выступаў перад сагнанымі на плошчу менчукамі таварыш Хрушчоў. Маленькі, таўсценькі, у куцавата-шэрым паліто з каракулевым каўняром, ён, падскокваючы, кідаўся і кідаўся грудзьмі на парэнчы гаўбца, крычаў і крычаў, размахваючы заціснутай у кулак каракулевай папахай, і каракулевая пара, вырываючыся з ягонага роту, клубілася над ягонай лысінай.

"Таварышы!

Мы сабраліся сёння ў слаўнай сталіцы Беларусі горадзе Мінску, дзе 60 год назад праходзіла работа Першага з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі". *(Апладысменты)*.

– Калі яго ў музей прывозілі, я на заводзе быў, – кажа Амерыканец, які жыве насупраць музея першага з'езда РСДРП. – Шкада...

– Чаго табе шкада? – пытае Кола, да якога набіліся мы ў госці, каб паглядзець на сустрэчу Хрушчова з народам, і амерыканскі марскі пехацінец, які прыехаў у СССР, паверыўшы ў камунізм, кажа сыну канадскага мільянера: "Савецкага народа шкада..."

Гэта значыць: нас. Мяне, Эдзіка, Віла, Біга, Гарыка – усіх. А чаго нас шкадаваць? Вось мы сядзім, крымскі партвейн п'ём, швейцарскім сырам закусваем...

Шкада, што Асі няма. Не прыйшла.

І Воран не прыйшоў.

Дзе няма Асі, там няма Ворана.

"Народ сёння радуецца таму, што нашы вучоныя, інжынеры, рабочыя стварылі і паспяхова запусцілі касмічную ракету, якая цяпер імкліва ляціць па зададзеным курсе ў напрамку да Месяца". *(Бурныя апладысменты)*.

З вокнаў добра відаць, як бурна, паставіўшы баян у ногі і ўзняўшы рукі над галавой, стараецца выпляскаць сваё захапленне студэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Джон Дак, Джон-вуця – адзіны на ўсю плошчу мурын. Джона наўмысна паставілі ў першы шэраг насупраць гаўбца, каб Мікіта Сяргеевіч бачыў, што паўсюль, дзе б ён ні выступаў, хай сабе нават у Мінску, яго слухае і ім захапляецца ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. І не ведае таварыш Хрушчоў, што пасля таго, як прагрэсіўнага мурына ледзь не расстралялі ў двары Камітэта дзяржбяспекі, ён гатовы зрабіць усё, што скажуць. Сказалі прыйсці з баянам без футурала і пляскаць – прыйшоў з баянам без футурала і пляскае. Пасля баян пад паху – і ў Канаду! І перастраляйце вы тут па дарозе да камунізму хоць усе ўсіх...

– Алік, – адкаркоўвае ўжо трэцюю пляшку віна Віл, – а чаму амерыканскія ракеты да Месяца не далятаюць?

Амерыканец маўчыць, стаіць побач з Палкоўнікам і глядзіць у акно, а Віл, не чакаючы адказу, налівае і выпівае шклянку віна, крымскага партвейну "Кактэбель", які купілі мы ў краме на першым паверсе таго ж дома, на апошнім паверсе якога зараз яго п'ём, закусваючы швейцарскім сырам і назіраючы за маўклівым народам і гаваркім правадыром.

Пакуль правадыр не прыехаў у Мінск, ніводнага разу крымскага партвейну, як і швейцарскага сыра, якім партвейн закусваем, мы ў нашай краме не бачылі. Гэта ўчора з вечара навезлі ўсяго, але да раніцы нічога не давалі – і ўсю ноч каля крамы таўклося столькі людзей, што іх якраз хапіла на мітынг.

Шчасліўцаў, якім удалося ў краме нешта ўхапіць, на плошчы нямнога... У Віла крамніца знаёмая, таму мы з віном і сырам.

– Бо савецкія ракеты ўсіх даганяюць і пераганяюць... – ківаецца ўзадуперад Палкоўнік і раптам кажа Амерыканцу. – Калі яго канчаць, дык адсюль зручна. Зручней не прыдумаеш.

Віл паварочваецца да Палкоўніка:

– Каго канчаць? Хрушчова?

– Джона, – гэтак жа задумліва гледзячы на плошчу, адказвае Палкоўнік. – Распляскаўся там...

Палкоўнік не любіць Джона не за тое, што той мурын. Ці чорны ты, ці белы – Палкоўніку напляваць. Ён не любіць Джона за сквапнасць. А яшчэ больш за тое, што бацька Джона – капіталіст.

Палкоўнік аднолькава не трывае і камунізм, і капіталізм. Апошні – чыста тэарэтычна. Але з тэорыі вынікае, што капіталізм, як і камунізм, г..но. Першы прывязвае чалавека да ідыёцкіх ідэй, другі – да прыдуманых ідыётамі рэчаў. Да грошай. Нідзе няма свабоды. Таму, намагаючыся стварыць мадэль насамрэч вольнага грамадства, Палкоўнік спрабуе вырвацца з рэальных палітычна-грамадскіх фармацый – але як і куды?..

Гэтага ён пакуль не ведае, таму схіляецца да анархіі. Да Крапоткіна. І нас схіляе. Я нават вершы пра Крапоткіна напісаў:

Вас кіне ў пот! Вы накладзеце ў порткі,
Калі дастане пісталет Крапоткін!

Эдзік Гарачы, які ціха сядзіць каля акна, папівае віно і глядзіць на плошчу, чытаў гэтыя вершы ў тэатры. У спектаклі пра рэвалюцыю. Калі рэжысёр спытаў, якое права мае актор прамаўляць нешта такое, чаго няма ў тэксце п'есы, Эдзік адказаў: "Права творчай свабоды". Больш ён у тым спектаклі не ўдзельнічае. Добра, што ў тэатры пакінулі.

"Мы радуемся таму, што гэтая новая вялікая перамога Савецкага Саюза супала з вашым слаўным юбілеем". *(Апладысменты)*.

У Палкоўніка сёння слаўны юбілей. Ён падлічыў, што яму споўнілася 32 гады 2 месяцы і 3 дні. Калі дні паставіць паперадзе месяцаў, атрымаецца 32: колькасць дзён і месяцаў супадзе з колькасцю гадоў. Лепш, канечне, каб споўнілася 32 гады, 3 месяцы і 2 дні, тады і лічбы перастаўляць не трэба было б. Але такі слаўны юбілей яшчэ наперадзе, да яго застаўся адзін месяц без аднаго дня.

Іншым разам мне здаецца, што Палкоўнік сапраўды не надта нармальны – і яго зусім не за Сталіна ў турэмную вар'ятню заканапацілі, калі яму было 22 гады 2 месяцы і 2 дні...

"Запуск савецкай касмічнай ракеты азначае, што мы першымі ў свеце пракладваем шлях ад Зямлі да Месяца". *(Апладысменты)*.

– А чаго гэта Воран там туляецца? – раптам пытае Палкоўнік. – Ды яшчэ з Асяй...

– Дзе?.. – не магу я знайсці сярод процьмы людзей Асю з Косцем, і Палкоўнік паказвае: “Ды вунь у першыя шэрагі шчэміцца, да Джона прабіраюцца... З плакатам “Слава КПСС!”

Нарэшце, я заўважаю Асю і Косцю, якія спрабуюць праціснуцца скрозь натоўп. Але не да мурына з баянам, як думае Палкоўнік, прабіраецца Косця – ён прабіваецца да Хрушчова. І ў руках ягоных не плакат “Слава ПСС!”, а скручаны ў трубку ліст ватмана: план рэканструкцыі Нямігі.

Вось што Воран прыдумаў!

Вось чаму ён партвейн з намі піць не захацеў!..

Косця ўжо колькі гадоў абіваў парогі кабінетаў розных начальнікаў, рассцілаў перад імі ватман, даводзіў, тлумачыў: “Гэтак мы захаваем памяць, рамантыку, дыханне, залаты пыл старога Мінску” – усё без толку. Адны не чулі, іншыя казалі, што не яны такія пытанні вырашаюць, трэція і слухаць не хацелі. “Які залаты пыл!.. Горад задыхаецца ў завулках, яму новая транспартная магістраль патрэбная, а не рамантыка!”

“Ты да таварыша Шарапава схадзі, да таварыша Шарапава... – нудзеў і нудзеў Саламон Майсеевіч. Ён думаў так: калі саму вуліцу таварыш Шарапаў і не ўратуе, дык ятку з газіроўкай вярнуць на Нямігу можа. Але таварыш Шарапаў, калі Косця ўрэшце патрапіў да яго, не захацеў слухаць ні пра вуліцу, ні пра ятку, бо ў горадзе былі ўжо праблемы не толькі з мясам, але і з хлебам. “Упёршыся ў тупік Нямігі, мы не хутка да камунізму дойдзем, таварыш Воран! А што партыя ўрачыста абвяшчае? Партыя абвяшчае, што ўжо цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме! Ты будзеш жыць, разумеш? І там табе не ваду з сіропам піць!..”

“Сіропу не будзе?..” – пажартаваў Косця – і быў выштурханы з кабінета старшыні гарвыканкама таварыша Шарапава пад такую лаянку, якой не чуў ні на Грушаўцы, ні ў Сельгаспасёлку. А праз два дні на камсамольскім сходзе інстытута “Мінскпраект” маладога спецыяліста Ворана выключылі з камсамола. З работы не пагналі, перавялі з інжынера ў тэхнікі. На перавыхаванне. Бо калі зусім з работы пагнаць, дык дзе тады перавыхоўваць?.. І вось цяпер Воран – выключаны з камсамола і амаль пагнаны з работы, пераведзены з інжынера ў тэхнікі – прэцца з ватманам пад пахай да першага сакратара ЦК КПС. Цераз плошчу, праз кардоны міліцыі...

Папруць яго з работы. Гэта ў лепшым выпадку. А ў горшым – пад суд. Там прыдумаюць, дзе яго перавыхоўваць. Запруць у “шарашку”, як некалі ягонага бацьку, акадэміка, які займаўся оптыкай, што ляціць зараз у космасе на савецкай ракеце.

“Гэтая перамога – вынік творчай працы савецкіх людзей, якія будуюць камуністычнае грамадства. Наша стваральная праца ўздымае савецкую Радзіму да новых зззяючых вышынь. Яна лепш за ўсё паказвае, якіх перамог можа дабіцца народ, які пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ідзе па шляху, азораным вялікім вучэннем марксізма-ленінізма”. *(Працяглыя апладысменты).*

– Там весялей, – кажа Амерыканец і апранаецца. – Пайду да Джона. Буду ў першых шэрагах прагрэсіўнага чалавецтва.

– Ага, – кідае ўслед яму Гарык. – Пусцяць цябе, ворага. – І ўбачыўшы пустыя пляшкі, крычыць на Віла. – Падлюга! Ты ўсё вылыктаў!

Віл, які заўсёды выпівае болей за ўсіх, бо болей за ўсіх любіць выпіць, хавае бутэльку пад стол і ўздыхае.

– Малавата ўзялі... Джым, дай чырвонец, я ў краму спушчуся, пакуль Хрушчову партвейну крымскага ды сыру швейцарскага не захацелася.

Дзіўна, але Джым, не спрачаючыся, дае Вілу дзясятку. Мусібыць, каб наступным разам пяць даляраў не даваць.

– Chattanooga choo choo... – задаволена напяваючы, ідзе да дзвярэй Віл і мне адтуль шапку кідае. – Пайшлі са мной, пазнаёмлю з крамніцай. Татарка, на Нэлу падобная.

Мая трусіная шапка ляціць і пыліць поўсцю – такая старая. Яе даўно пара выкінуць, але нельга: яна – рэліквія. Палкоўнік яе ў турме насіў.

Не ў кожнага шапка, якую Палкоўнік насіў у турме. Ні ў кога, толькі ў мяне. Ён аддаў мне яе пасля таго, як сказаў, што я не сын палка, а сын Палкоўніка.

– Выкінь ты яе, – чмыхнуўшы, кажа Палкоўнік, у якога алергія на пыл. У яго алергія, а ў кватэры ягонай ад пылу не прадыхнуць. І прыбрацца не дае нікому, Ася колькі разоў спрабавала.

– Хадзіце сюды! – кліча ад акна Гарык. – Зірніце, што робіцца!

На плошчы каля Дома ўрада, адгароджваючы правадыра ад улюбёнага ў яго народа, ланцужком стаялі міліцыянты – і Воран з Асяй рванулі скрозь гэты ланцуг. Джон, які прабіўся ў першыя шэрагі прагрэсіўнага чалавецтва і якому немаведама што ўзбрыло ў ягоную мурынскую галаву, з баянам затрусіў за імі. Міліцыянты і таварышы ў цывільным, вынырнуўшы раптам з натоўпу, беглі за імі, а Хрушчоў, перагінаючыся цераз парэнчу гаўбца, з якога выступаў, нешта ўсім крычаў і махаў рукамі.

– Пасадзяць Ворана, – чмыхае Палкоўнік. – У лагеры будзе Нямігу рэканструяваць.

Я спрабую адчыніць акно:

– Там Ася з ім!

Гарык спыняе мяне: “Хочаш, каб па нас стрэльнулі?” – а Палкоўнік кажа абыякава:

– І Асю пасадзяць. І затрахаюць на зоне, пархатую.

Ён нечым раздражнены, незадаволены. Моцна незадаволены і раздражнены. І глядзіць у акно неадрыўна, як чакае нечага...

Міліцыянты першым схапілі Джона, потым Асю, а таварышы ў цывільным дагналі Ворана.

Як гэта іх пасадзяць?.. Трэба на плошчу бегчы, растлумачыць там, што яны не хацелі нічога кепскага!.. Нямігу пакінуць Нямігай!..

Хоць навошта канадскаму мурыну мінская Няміга? Нафіга казе баян?..

Як пасля аказалася, менавіта гэта й зацікавіла да ўсяго цікаўнага Хрушчова: чаго да яго бяжыць мурын з баянам? Ён тут жа вырашыў гэта высветліць, што ўратавала і Косцю, і Асю, і ўсіх нас, а, можа, і самога Мікіту Сяргеевіча.

Трэба ў гэтым свеце цікаўным быць...

На маю запыленую шапку яшчэ й сыпанула пацярухай, калі я выскачыў за Вілам на лесвічную пляцоўку. Узняўшы галовы, мы паспелі ўбачыць, як нехта прычыніў люк на дах. З таго боку, з даху.

– Алік!.. – гукнуў Віл, які не насіў шапкі ні ў снег, ні ў дождж, і пацяруха яму на валасы сыпанула. – Гэта ты, Алік?

Ніхто не азваўся. Напэўна, на даху гэбісты з аховы, што там Амерыканцу рабіць?..

Я абтрос шапку.

– Што там рабіць Амерыканцу?..

– А ну ў двор! – кінуўся ледзьве не сторч галавою ўніз па лесвіцы Віл. – Зараз пабачым, што яму там рабіць!..

У двары каля абітых бляхай дзвярэй чорнага ўваходу ў краму, у якой Віл збіраўся дакупіць партвейну, стаяла "Варшава" – службовая машына старэйшага брата Віла, карэспандэнта Усесаюзнага радыё Арцёма Ледніка, які сто разоў нас выручаў, а мы столькі ж разоў яго падстаўлялі. Падобна было, што падставілі ў сто першы раз...

Каля бампера "Варшавы", у якой быў адчынены багажнік, побач з Арцёмам стаяў Гурык. Ён быў не "ўвесь у бліскучым" – у цывільным.

– Кажу табе: на паляванні ўчора былі. Пасля выпілі. Позна лёг. Рана ўстаў. Забыўся дастаць. Дый часу не было, – рэбрамі абедзвюх далоняў рассякаў Арцём паветра над багажнікам, ад якога Гурык, засунуўшы рукі ў кішэні, не адрываў вачэй. Машына стаяла бокам да нас, нам не было відаць, што ў багажніку, але мы й не гледзячы ведалі: новенькая "іжэўка" і карабін "Browning". Учора, калі мы вярнуліся з палявання, Арцём сказаў Амерыканцу (гэта ягоная новенькая "іжэўка") і Вілу (гэта ягоны "Browning"), каб забралі з багажніка ўсё лішняе, бо яму заўтра з раніцы працаваць, а Віл з Амерыканцам не палічылі стрэльбу і карабін лішнімі. Калі б яны забралі іх, трэба было б ісці дахаты – не пацягнешся ж з дубальтоўкамі на танцы ў Палац прафсаюзаў. Вось яны і пакінулі іх у багажніку службовай машыны карэспандэнта Усезаюзнага радыё ў дзень, калі з плошчы імя Леніна ён вёў рэпартаж пра сустрэчу Першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Сяргеевіча Хрушчова з працоўнымі Мінска, чаму й "Варшаву" ягоную на плошчу прапусцілі.

Раптам у двор убеглі людзі, чалавек дзесяць, адзін падбег да Гурыка, нешта сказаў яму – Гурык ляснуў дзверцай багажніка і заштурхаў Арцёма ў машыну.

– Вы хто? Давай адсюль! – падскочыў да нас адзін з гэбістаў, а гэта былі яны, бо каго ж яшчэ, як сваіх, сустрэў бы Гурык, які ўбачыў нас і замахаў рукамі, каб мы сыходзілі, і Віл рушыў да ўвахода ў краму, але яшчэ адзін гэбіст пераняў яго: "Куды?! У пад'езд!" – і ў гэты момант укаціўся ў двор пузаценькі чалавек у каракулевай шапцы і ў доўгім, мехаватым паліто: Хрушчоў! Я пазнаў яго, хоць і вачам сваім не паверыў. І Віл яго пазнаў... І абодва мы пазналі Джона і Асю з Воранам: яны ледзь паспявалі за Першым сакратаром ЦК КПСС, які немаведама чаго папёрся з плошчы ў двор, дзе стаяла машына з дзвюма стрэльбамі ў багажніку, адна з якіх належала амерыканцу, а другая – актывісту антысавецкай групоўкі Сысоя. "Капец нам!" – мільгнула ў галаве, калі я ўбачыў, што Хрушчоў коціцца калабком не ў дзверы крамы, дзе ён, як Віл казаў, захацеў купіць крымскага партвейну і швейцарскага сыру, а кіруе наўпрост да нас, да мяне з Вілам – ды яшчэ крычыць: "Гэта вы тут перадавая моладзь, якая пратэстуе супраць зносу ўсялякага барахла?!." А Косця Воран бяжыць побач з ім і дробна ківае: "Яны, яны, яны..."

Калі Хрушчоў, зацікаўлены чорным чалавекам з белым баянам, выйшаў на плошчу, дык у першым шэрагу прагрэсіўнага чалавецтва, аточаным міліцыянтамі і гэбістамі, убачыў побач з мурынам высокую, з зеленаватым смуткам глыбінных, саміх у сабе затоеных, вачэй, прыгажуню, якая сунула яму пад нос ватман, а нейкі хлопец нешта на тым ватмане спрабаваў паказаць і штосьці мямліў пра нейкую старую Нямігу і нейкую архітэктурную рэканструкцыю. Мікіта Сяргеевіч любіў прастату стандартных, складзеных з блокаў пяціпавярховікаў, кватэркі ў якіх у ягоны гонар

народ назваў хрушчоўкамі. Аніякіх архітэктурных рэканструкцый, як і мастацкіх абстракцый, ён не трываў, таму страціў цікаўнасць да баяніста і вырашыў разабрацца з архітэктарам. А тое, як ён з ім – і ўсімі намі – разбярэцца, залежыла ўжо не ад Ворана з ягоным ватманам. Залежыла ад Гурыка. Ад таго, адчыніць ці не адчыніць ён багажнік "Варшавы", дзе ляжалі паляўнічая "іжэўка" і двухствольны, пяцізарадны "Browning", ніжні ствол якога – пад паляўнічы патрон 12-га калібру, а верхні – пад баявы патрон калібру 7,62.

Гісторый пра замахі на жыццё Хрушчова то ў Белавежскай пушчы, дзе яго нібыта памежнік нейкі застрэліць збіраўся, то на Хрэшчаціку ў Кіеве, дзе на яго накінулася жанчына з нажом, то ў Тбілісі, дзе ў яго збіраліся шпурнуць бомбу, распавядалася шмат, але насамрэч ні застрэліць, ні зарэзаць, ні бомбай падарваць Першага сакратара ЦК КПСС ніхто ўсур'ёз не спрабаваў – і ён не быў гэтым напалоханы. Таму і бегаў па дварах, дзе стаялі машыны, у багажніках якіх маглі стрэльбы ляжаць.

Пры такім спакойным жыцці незразумела было, за што атрымлівалі грошы гэбісты, якія ахоўвалі Хрушчова, і яны прыдумалі гісторыю з Кэнетам Крэбам, вадалазам ВМС Вялікабрытаніі, які нібыта прымацаваў да днішча крэйсера "Арджанікідзе", на якім знаходзіўся Хрушчоў падчас візіту ў Англію, міну. Гэбісты, канечне, і пад вадой міну ўбачылі, правадыр застаўся жывы, а вось Крэба не стала – і ніхто дасюль не ведае: як?

Калі б Гурык адчыніў багажнік «Варшавы», нас магло не стаць – і ніхто дасюль не ведаў бы, як...

Перад Гурыкам была дылема: адразу выкрыць антысавецкую групоўку, якая падрыхтавала замах на жыццё Першага сакратара ЦК КПСС, ці адкласці выкрыццё на потым, калі Хрушчоў будзе далей ад стрэльбы з карабінам? «Ну, добра, – мусібыць, вагаўся ён. – Выкрыў. А як дапусціў?..» Праз гэта гэбіста Гурыка таксама магло не стаць, невядома як. Як вадалаза Крэба.

Пакуль Гурык вагаўся, з рыпам адчыніліся абітыя бляхай дзверы, што вялі з двара ў краму. З іх выйшла крамніца Анжэла, знаёмая Віла. Яна зірнула недаўменна на Хрушчова, на мурына побач з ім, на Віла, на гэбістаў, дастала цыгаркі з кішэні халата і запаліла.

– Вось! – тыркнуў пальцам у яе Хрушчоў і ўзяўся рукі ў бокі. – Пера-да-ва-я моладзь! Піць ды паліць, як у Амерыцы! Тут што такое?.. – падскочыў ён да Анжэлы, адпіхнуў яе ўбок і з чорнага хода рынуўся ў краму – па швейцарскі сыр ды крымскі партвейн...

Калі Хрушчоў праз парадныя дзверы выйшаў з крамы, нас усіх разам з крамніцай Анжэлай заштурхалі ў склад, дзе было віно з сырам, потым падагналі машыну – і з двара дома на Савецкай, якога ўжо няма, прывезлі ў двор будынка КДБ, які стаіць, як стаяў. Нас не сталі трымаць у двары, адразу павялі ў сутарэнні. Кожнага паасобку.

Праходзячы цераз двор, я зірнуў на сцяну ў чырвоных пырсках і ўжо не меў сумневу: расстраляюць.

## Вуліца Камсамольская, колішняя Феліцыянская

У гэтыя сутарэнні, у гэты глухі, падобны на пенал падвальны пакой мяне зноў кінуць праз многа-многа гадоў. Голага вырвуць з-пад кропельніцы ў палаце рэанімацыі, закруцяць у коўдру і выкрадуць са шпіталю, у якім, на горкі яблык збіты міліцыяй, я, ужо не хлопчык, не студэнт

электратэхнікума сувязі, а кандыдат у прэзідэнты, якога міліцыя павінна была не біць, а ахоўваць, апынуся па дарозе да той самай плошчы, з якой прывезлі мяне цяпер.

«Лёсу кругі, як кругі на вадзе:
Кропелька падае з рук.
Кожны з кругоў на Боскім судзе –
Адзін і той жа круг»,

– спяваў Гарык Клябанаў, і Палкоўнік, ківаючы, казаў: «Так-так, нам толькі здаецца, што кругоў многа, а круг адзін. Так што можна іх не лічыць».

Ён ківаў і гэтак казаў, але лічыў свае кругі.

Праз многа-многа гадоў ва ўжо нібыта не савецкай, а незалежнай Беларусі я прыйду ў дзень галасавання на выбарах прэзідэнта на вуліцу Інтэрнацыянальную да Генеральнай пракуратуры, каб... Зрэшты, не так важна, дзеля чаго я прыйду да Генеральнай пракуратуры, побач з якой каля кінатэатра «Перамога», які быў некалі клубам імя Сталіна, дзе выступаў джаз-аркестр Эдзі Рознэра, убачу татарку Нэлу. Мы адразу пазнаемся, хоць не бачыліся з таго дня, як я з'ехаў ад яе ў вясновым тралейбусе, у якім пахла першымі пралескамі. Аднойчы сустракаліся, праўда, у тралейбусе зімовым, але, сустрэўшыся, не ўбачыліся. Так бывае... І праз многа-многа гадоў у валасах татаркі Нэлы сіненькім агеньчыкам будзе свяціцца заколка, падобная на пралеску. Вось што важна, а не тое, дзеля чаго я прыйду да Генеральнай пракуратуры.

«Пакляніся, што правядзеш мяне праз усё жыццё пад руку!..» – капрызна запатрабавала татарка Нэла, калі я, ніякавата азіраючыся па баках, вёў яе пад руку з танцаў у Палацы прафсаюзаў. Я пакляўся. Але ўсе нашы клятвы пішуцца на хуткаплыннай вадзе...

Татарку Нэлу вёў пад руку мужчына ў доўгім, падобным да шыняля, шэрым паліто і ў каракулевай, як у той дамы з першага тралейбуса, шапцы. Той самай дамы, на якую я загадаў: калі яна выйдзе з тралейбуса і рушыць уперад па праспекце – ажанюся з габрэйкай Асяй, калі пойдзе назад – з татаркай Нэлай. Але дама не пайшла па праспекце ні наперад, ні назад, звярнула на вуліцу Даўгабродскую – і ні з татаркай Нэлай, ні з габрэйкай Асяй я не ажаніўся. З Асяй ажаніўся Гурык, а з Нэлай, хутчэй за ўсё, вось гэты – у шэрым шынялі і каракулевай шапцы: маёр Гагарын. Не той, які ўзляцеў у космас, а той, які дапытваў мяне ў КДБ, і якога, як і Нэлу, я адразу пазнаў.

Маёр Гагарын таксама пазнаў мяне адразу. Некалі ён дапытваў мяне не толькі ў КДБ – яшчэ і ў тэхнікуме, у якім я вучыўся і з якога мяне праз КДБ з ягонымі генераламі, маёрамі і старшымі лейтэнантамі маглі выгнаць. «Глядзі, твой кандыдат у прэзідэнты...» – сказаў ён татарцы Нэле, пакуль я разгублена вырашаў, што мне рабіць: заўважыць Нэлу, ці не пазнаць праз многа-многа гадоў? Жанчыны не любяць, калі на іх глядзяць праз гады...

Татарка Нэла зірнула на мяне і залілася румянцам.

Гэтаксама румянілася і габрэйка Ася. Абедзве мае каханыя, заліваючыся румянцам, выйшлі замуж за гэбістаў.

«Ты абвінавачваешся ў спробе замаху на жыццё Першага сакратара ЦК КПСС, Старшыні Савета Міністраў СССР Мікіты Сяргеевіча Хрушчо-

ва...» – сталёва гледзячы мне ў вочы, дзёўб маёр Гагарын, які нездарма паабяцаў, што мы яшчэ сустрэнемся, і пульсавала ў маіх скронях, білася ў грудзях, трэслася ў пальцах: рас-стра-ля-юць... рас-стра-ля-юць... рас-стра-ля-юць...

«Вы абвінавачваецеся ў падрыхтоўцы дзяржаўнага перавароту, у спробе ўзброенага захопу ўлады...» – крыварота, гледзячы некуды ўбок, бо сам не верыў у тое, у чым абвінавачваў, гугнеў праз шмат гадоў адзін з трох гэбістаў, якія з'явіліся сярод ночы ў глухое, у якое мяне ўкінулі голага, сутарэнне «амерыканкі», унутранай турмы КДБ. На вуліцы лютаваў мароз, на сценах сутарэння бялела шэрань. Я так скачанеў, што ўжо не рухаўся, і мне ўсё адно было: расстраляюць мяне, павесяць, ці на кастры спаляць, але лепей бы спалілі – цяплей было б...

«Давайце будзем дамаўляцца, – сказаў другі гэбіст, у нечым падобны да маёра Гагарына. – Прапаную вам падпісаць вось гэтую паперу...»

– Давай з табой так дамовімся, – у гэтым самым сутарэнні прапанаваў мне маёр Гагарын. – Ты падрабязна расказваеш нам, вось на гэтай паперы вось гэтай асадкай пішаш пра тое, як твае старэйшыя... – ён памяў губу аб губу... – я хацеў сказаць: старэйшыя сябры, – але сябрамі іх назваць нельга, яны ворагі, нашы з табой ворагі, разумееш?.. як грамадзянін Сысой, браты Леднікі, Гарачы, Галушка, Клябанаў... хто там яшчэ?... ну, хто?..

– Болей нікога...

– Як нікога?.. А Воран?

– Дык ён...

– Што ён?.. Ну?.. Што ён?..

– Ён пазней прыйшоў...

– Куды пазней прыйшоў? Пазней за што?.. Чаго змоўк, га?.. Добра, пра гэта потым... Значыць, Сысой, браты Леднікі, Гарачы, Галушка, Клябанаў, Воран, які прыйшоў пазней, у змове з грамадзянінам ЗША... як яго?..

– Амерыканец...

– Зразумела, што амерыканец... Як яго?..

– Алік...

– Які ён Алік! Як яго зваць?

– Вы ж ведаеце...

– Ведаю! Але хачу, каб ты сказаў! Чым болей ты сам скажаш, тым для цябе самога лепей. Разумееш? Як яго зваць?

– Лі...

– Што: Лі? Лі – і ўсё?

– Харві. Лі Харві Освальд...

– Вось бачыш... Сказаў – і ўжо лепей... У змове з грамадзянінам Злучаных Штатаў Амерыкі Лі Харві Освальдам і грамадзянінам Канады... Ну, што маўчыш?

– А што казаць?

– Імя! У змове з грамадзянінам Амерыкі Лі Харві Освальдам і грамадзянінам Канады...

– Іх двое...

– Правільна, двое. Значыць, з грамадзянамі Канады... ну...

– Там толькі Джым быў. А Джон...

– Які Джым? Які Джон?

– Джым Калеснікаў. А Джон – Дак. Ён таксама пазней прыйшоў.

– З кім?

– З Воранам.
– Пазней з Воранам... Добра. Далей?
– Што далей?
– Далей што было?
– Нічога.
– Як нічога? Што было далей?
– Напраўду нічога! Мы сядзелі, елі...
– Вось бачыш: сядзелі, елі... А ты кажаш: нічога. Што елі?
– Сыр.
– Пілі? Што пілі?
– Віно.
– Якое?
– Партвейн.
– Партвейн. Ты піў?
– Не.
– А хто піў?
– Віл, Гарык... Усе патрохі.
– Усе патрохі... Напіліся і...

Маёр Гагарын зрабіў паўзу і глядзеў на мяне, чакаючы...

У часы пабудовы камунізму да выпівохаў адносіліся паблажліва, будаваць камунізм яны не заміналі, а калі нехта з іх і ўчыняў нешта нападпітку, гэта не абцяжарвала ягоную віну, а наадварот... Можа, маёр і праўда хоча, каб і мне, і ўсім нам лепей было? Але ж мы нічога не ўчынялі.

– Ніхто не напіўся.
– Значыць, цвярозыя па зброю пайшлі?

Мяне сцяла: вось яно! Хоць Гурык і не адчыніў багажнік...

Маёр заўважыў, як я сцяўся, нахіліўся да мяне і так, што з курткі гузік адляцеў, згроб загрудкі.

– Чыя зброя?

Маўчаць не было як – дый без толку: іжэўка і карабін зарэгістраваныя.

– Іжэўка – Амерыканца, карабін – Віла.

Маёр як згроб мяне – гэтак і адпусціў. Сам напружыўся.

– Які карабін?
– Браўнінг.
– Які браўнінг?
– Двухствольны. На калібр 12 і на 7.62.
– Хіба такія бываюць?..

Я са здзіўленнем паглядзеў на маёра дзяржбяспекі, які не ведае, што ёсць такія карабіны – і тут маёр пачаў падымацца: павольна, упёршыся рукамі ў стол.

– Дык у машыне быў яшчэ й карабін? Іжэўка і браўнінг пад баявы патрон калібру 7,62?.. – І калі я, не разумеючы ягонага здзіўлення, кіўнуў, ён ткнуў пальцам у пакладзены на стол аркуш паперы: “Пішы! Усё пішы падра-бя-зна!..” – і, грукнуўшы ў дзверы: “Ахова!..” – выскачыў з пакоя. Ён гэтак у дзверы грукнуў – кулаком ды яшчэ нагой, абцасам, што са столі вапна пасыпалася, і я ўспомніў, як у пад’ездзе, калі мы з Вілам з кватэры Джыма выйшлі, сыпанула пацяруха з люка на гарышчы. Хто на гарышча падняўся?.. Амерыканец?.. Для чаго?.. І я з жахам уцяміў, што карабіна ў машыне, калі брат Ледніка адчыніў для Гурыка багажнік, ужо магло й не быць. Багажнік дабітай леднікаўскай “Варшавы” і без ключа адчыняўся – цвічком...

– Вось пісталеты, вось гранаты, якія знайшлі мы ў вашым офісе, – раскладваў перада мной праз многа-многа гадоў фотаздымкі на стале наймаладзейшы з трох гэбістаў, мусібыць, аператыўнік. – І з такімі цацкамі вы будзеце даводзіць, што заклікалі людзей прыйсці на плошчу для мірнай акцыі?

Я адсунуў фотаздымкі ўбок.

– У нас не было зброі. І ніхто вам не паверыць, што была.

– А ну ўстаць! – раптам крыкнуў той, які прапанаваў мне падпісаць паперу, падобны на маёра Гагарына і, як выглядала па ягоных паводзінах, старэйшы з іх. – Стаяць!

Я не падняўся. Голаму перад апранутымі і сядзець ніякавата, а не тое, што стаяць...

– Вам што сказалі!.. – рыўком за валасы падняў мяне аператыўнік, а старэйшы стаў насупраць, твар у твар: да чаго ж на маёра падобны! І позірк, як у таго, з адлівам сталёвым – дзе ім гэткія позіркі адліваюць? І гэтаксама не гаворыць, дзяўбе. – Людзі ў справакаваным вамі натоўпе падушылі адзін аднаго. За вамі – трупы. Вы дзе-небудзь чулі пра мірныя акцыі з трупамі?.. Вось і я не чуў. Разам з падрыхтоўкай дзяржаўнага перавароту і спробай узброенага захопу ўлады – гэта ці 25 гадоў, ці найвышэйшая мера! Прычым, у закрытым судзе, так што ні казак пра вас не раскажуць, ні песень пра вас не спяюць!.. Падпісвайце паперу, у вас проста няма іншага выйсця.

З паперы, якую яны прапаноўвалі мне падпісаць, вынікала, што мяне ўцягнулі ў прэзідэнцкія выбары, у барацьбу супраць законнай беларускай улады ворагі Беларусі, завербаваныя замежнымі разведкамі, і называліся імёны ворагаў – маіх паплечнікаў...

– Пакажыце пісталеты. І гранаты пакажыце.

Аператыўнік абсадзіў мяне на прыкручаны да падлогі зэдаль, зноў падсунуў фотаздымкі.

– А гэта што?

– Пісталеты пакажыце, – паўтарыў я. – А не фотакарткі. Пакажыце гранаты.

Старэйшы, падобны на маёра Гагарына, спытаў:

– Можа, вам і трупы паказаць?

Я кіўнуў.

– Так. І трупы.

– Давайце куды-небудзь зойдзем, – прапанаваў маёр Гагарын, муж татаркі Нэлы. – Раз мы ўжо спаткаліся.

І памяў губу аб губу.

Нашы звычкі з намі назаўсёды.

Татарка Нэла паглядзела на яго не надта ласкава – яна ўмела не надта ласкава глядзець.

– Нам няма калі.

Паўжыцця не бачыліся, а ёй няма калі...

У мяне насамрэч часу не было, меней за паўдня да пачатку мітынга на Плошчы заставалася, але раз яна так сказала...

У доме насупраць кінатэатра “Перамога” месцілася кавярня – і я прапанаваў маёру, ці кім ён цяпер быў:

– Можа, сюды?.. Тут жа ўсталяваная ваша праслухоўка?

– Можна й сюды, – рушыў ён цераз вуліцу. – Праслухоўка ў нас

паўсюль. – І хмыкнуў. – Толькі я нічога і нікога больш не слухаю. У адстаўцы.

– Генерал?

– Не дацягнуў. Ці можна сказаць: не дашустрыў. Сябрук ваш шустрэйшы аказаўся.

Я спыніўся ў дзвярах кавярні, якія маёр расчыніў, прапускаючы мяне і Нэлу.

– Які сябрук? У мяне сярод вашых няма сябрукоў.

– Ёсць. Генерал Гурковіч. Ён, дарэчы, тут. Учора прыехаў з Масквы. Можна сказаць: назіральнікам за выбарамі.

Гурык у Мінску?... Тады нечага трэба чакаць. І не найлепшага. Там, дзе Гурык, добрага не дачакаешся. Хоць ён на пенсіі.

– Ён жа на пенсіі.

Маёр зноў хмыкнуў.

– А я дзе?..

Былых гэбістаў не бывае.

Кавярня была пустая. Увесь горад у гэты марозны дзень здаваўся спусцелым, і мяне непакоіла толькі адно: ці выйдуць у такі холад людзі на плошчу? Усё залежыла менавіта ад гэтага: выйдуць ці не выйдуць? А калі выйдуць, то колькі?.. Трэба было столькі, каб у іх пабаяліся страляць.

– Вам не дадуць дайсці да плошчы, – памяўшы губу аб губу, сказаў, як толькі мы селі за столік, маёр Гагарын, і татарка Нэла зноў зірнула на яго няласкава.

Па тым, як яна з ім паводзілася, як размаўляла, не выглядала на тое, што яна купаецца ў сямейным шчасці. Не выглядала...

Мне патрэбная была хоць нейкая паўза, каб уцяміць, чаму гэтак нечакана пачаў размову маёр – і я, шукаючы паўзу, дакрануўся да рукі Нэлы.

– Як ты, Нэла?... – І прабачыўся перад маёрам. – Выбачайце.

– Нічога. Яна вас кахае. Усё жыццё. Ва ўсякім разе, так кажа.

Калі так, дык многа-многа гадоў назад не трэба было мяне голага ўсю ноч пад сталом трымаць. А самой пасля з тралейбуса, як сіні каптурык, выскокваць.

– Яна мне ўсё пра вас расказвала! – раптам рассмяяўся маёр, нібы здагадаўшыся, пра што я ўспомніў. – Прычым, яе для гэтага нават вербаваць не трэба было. – І паглядзеў на мяне сур'ёзна. – Вы позна вылезлі з-пад стала.

Я зразумеў, пра што ён, але спытаў:

– Вы пра што?

– Вам трэба было вылазіць раней. У канцы мінулага стагоддзя. Яно было нашым. Вашым і маім. Я чакаў, дый шмат хто са мной, што вы вылезеце.

Гэта магло быць: ён мог чакаць. Тады многія чакалі: што будзе? А галоўнае: хто?

– Чаму ж не сказалі, што вылазіць пара?

– Дык вы ж не захацелі! Не пажадалі быць з намі, – нахіліўся да мяне маёр. – Вось тут, на гэтай вуліцы, памятаеце?.. – Ён адхіліўся. – Памыліліся са мной, дык цяпер, глядзіце, не памыліцеся з маім сынам... – І паўтарыў, стараючыся як найглыбей зазірнуць мне ў вочы. – Не памыліцеся.

Значыць, і сын гэбіст.

– Ён наперад закідвае... – бачачы маю разгубленасць, паклала мне руку на руку татарка Нэла. – А раптам ты прэзідэнтам станеш.

У позірку, якім глянуў на яе маёр, не было любові.

Але й нянавісці не было.

Пусты позірк.

Гэбісцкі.

Як яны яго выпрацоўваюць? Гэта ж не голас падвышаць навучыцца, не паўзу трымаць...

– Як сына зваць? – спытаў я татарку Нэлу, і маёр адказаў за яе:

– Як і вас.

– Ваша прозвішча Гагарын? – спытаў я гэбіста, які прапанаўваў мне падпісаць пакаяльную паперу.

Ён прамаўчаў.

Сын.

“Лёсу кругі – як кругі па вадзе...”

Раней, калі бацька ягоны мяне дапытваў, яны называлі свае прозвішчы. Цяпер – не.

– Вы разумеце, што з вамі можа быць? – спытаў ён замест адказу. – Нам патрэбны вынік. У нас загад. І мы яго выканаем. Таму, калі будзеце ўпірацца, нічога добрага вас не чакае. Між іншым, яны не ўпіраліся.

– Хто – яны?

Ён ткнуў пальцам у паперу.

– Вашы сябры ў палітыцы. Звалілі ўсё на вас.

Брэша... Дый што яны зваліць на мяне маглі?

– У мяне ў палітыцы няма сяброў.

– Значыць, ворагі.

– І ворагаў няма.

– А хто ў вас там? З кім вы?

– Нікога. Адзін.

Той, які палохаў мяне знойдзенымі ў маім офісе пісталетамі і гранатамі, сабраў фотаздымкі са стала і паклаў на стол шпрыц.

– Тады тым болей, – сказаў сын маёра Гагарына. – Калі яны вам ніхто...

– Яны табе ніхто! – шмат гадоў таму крычаў мне Гурык. – Ніякія не сябры! Сябры цябе гэтак не падставілі б! Не зацягнулі б у дом, з даху якога збіраліся забіць кіраўніка краіны!

– Ды ніхто не збіраўся...

– Тады на дах чаго падымаліся? Хто падымаўся?.. Дзе карабін?..

Яны шукалі карабін на даху – і не знайшлі. Калі б я не прагаварыўся, што ў машыне не толькі іжэўка, але й карабін быў, дык яны пра яго б і не ведалі. Я падставіў Віла і ягонага брата Арцёма, Палкоўніка, Эдзіка, Гарыка, Ворана, Джыма, Амерыканца... Але ж я і ўявіць не мог, у які бок маёр Гагарын той карабін паверне! І што Гурык прычэпіцца: “Хто страляць збіраўся?..” – ведаючы, што нікому з нас такое ў галаву б не ўзбрыло... Апроч хіба Палкоўніка і Амерыканца.

– Палкоўнік збіраўся? Амерыканец?.. – не адчапляўся Гурык, які дапытваў мяне пасля маёра Гагарына і даставаў нават больш, чым маёр.

Амерыканец мне, канечне, ніхто, але скуль я ведаю: збіраўся ён, не збіраўся? І я не бачыў, як ён на дах палез, толькі падумаў, што гэта мог быць ён... Дык што я казаць буду?

– Не збіраўся ніхто...

– Не збіраўся?.. Ніхто?... Хлопчык, ты разумееш, у што ты ўблытаўся? Па-мойму, не...

Гурык ступіў да дзвярэй, грукнуў у іх гэтаксама, як маёр Гагарын – кулаком і абцасам: “Ахова!..” Дзверы расчыніліся, Гурык падазваў мяне: “Сюды...” – і калі я падышоў, засунуў мае пальцы ў шчыліну паміж дзвярыма і вушаком, кінуўшы ахоўніку: “Давай!..” Ахоўнік, з якім прыём гэты быў, мусібыць, адпрацаваны, пачаў павольна прычыняць дзверы, а Гурык казаць: “Вось так табе будуць заціскаць пальцы на руках, на нагах... потым заціснуць тое, што ў цябе паміж ног... ты нават уявіць не можаш, як будзе балець... гэта яшчэ не баліць... ціснуць будуць датуль, пакуль ты ўсё не скажаш... нават тое, чаго не было... зразумеў?..” Я, пэўна, збялеў ад болю, бо ён, зірнуўшы на мяне, махнуў ахоўніку: “Досыць...”

– Вы не ўяўляеце, як будзе балець... – гледзячы, як аператыўнік набірае шпрыц, казаў той крывароты гэбіст, які няўпэўнена зачытваў пастанову пра мой арышт, але цяпер голас ягоны быў упэўнены: ён ведаў, пра што казаў. – Сутаргава, у вас здараліся сутаргі? Мяркую, здараліся, вы дастаткова пражылі. Яны пачнуцца ў нагах і руках, скручваючы кожны палец, пасля ў спіне, ва ўсім целе, але найстрашнае – болі ў галаве, іх немагчыма трываць... І вы падпішаце любыя паперы, назавеце ўсе, якія мы скажам вам называць, імёны. Усе замежныя разведкі. Прыдумаеце нават такія, якіх няма. Ні на Зямлі, ні на Месяцы... Так што падпісвайце, пакуль ёсць выбар, цацкацца з вамі ніхто не збіраецца.

– Як і з намі, – сказаў сын маёра Гагарына. – Думаю, гэта вы таксама разумееце.

Гэта я разумеў... Але нічога з таго, што загадалі ім выбіць з мяне іхнія гаспадары, не існавала. Нідзе не было. Ні на Зямлі, ні на Месяцы.

– Я не буду падпісваць. Калі здолею вытрываць...

Сын маёра Гагарына пакруціў галавой:

– Не здолееце.

Ён круціў галавой так, як сказаць нешта хацеў, каб астатнія не пачулі. Як падаваў нейкі знак... Я й раней заўважаў, што ён хоча ад іншых гэбістаў неяк адасобіцца, паказаць, што ён з імі толькі па нявыкрутцы. Але ж круціцца з імі – дык чаго тады галавой круціць?..

Бацька ягоны не круціў. Толькі губы мяў адну аб адну.

– Нашага сына завуць, як цябе, і ён многае пра цябе ведае, – сказала татарка Нэла. – Нават пра тое, як вы з Амерыканцам хацелі Хрушчова забіць, і Амерыканец карабін у нашай кватэры схаваў.

Шмат гадоў таму татарка Нэла жыла ў тым жа доме, у тым жа пад’ездзе, дзе здымаў кватэру канадзец Джым Калеснікаў. На тым жа апошнім паверсе, на той жа лесвічнай пляцоўцы – дзверы ў дзверы. З тых дзвярэй я некалі выйшаў пад раніцу, каб ужо не пастукаць у іх ні днём, ні вечарам... У тыя дзверы пастукаўся Амерыканец, які, падняўшыся на дах, убачыў, што ў двор дома ўслед за Хрушчовым бягуць гэбісты. Ён спусціўся з гарышча, яму трэба было недзе схаваць карабін, – і ён ведаў, дзе жыве татарка Нэла, якая танцавала з ім рок-н-рол у Палацы прафсаюзаў.

Аднойчы пасля танцаў у Палацы прафсаюзаў Нэла выйшла з кватэры Джыма Калеснікава і ўвайшла ў сваю кватэру ўся падраная... І дапытваць яе прыехалі маёр і старшы лейтэнант. Гагарын з Гурыкам.

– Шкада, карабін я тады не знайшоў... – хмыкнуў маёр Гагарын. – Стаў

бы генералам і меў бы жонку-генеральшу. Я адразу, як толькі яна дзверы адчыніла, па ёй убачыў: дзеванька ведае, чаго мы да яе прыйшлі. Зброя тут. Але знізу раптам крыкнулі, мы ўсе кватэры перaтрасалі: “Знайшлі!..” Я спусціўся: карабін. Браўнінг. Пасля аказалася: не той. І гаспадар – наш супрацоўнік. З тэхнічнай службы, але наш. Я зноў наверх, усё абшарылі – нічога. А Нэла, пакуль мы ўнізе з нашым тэхнічным супрацоўнікам разбіраліся, карабін на гарышча падняла. Ну, хто будзе шукаць там, дзе ўжо шукалі?.. Дый падумаць я не мог, што яна на такое здольная. – Ён пацёр шыю, нібы яму гальштук муляў. – Так што вы ёй абавязаны. А я – вам. Не ляпні вы спачатку пра карабін, а пасля пра Нэлу – не стала б яна маёй жонкай. Усё наша жыццё з адных ляпаў.

– Чаму наша? – нялаcкава спытала татарка Нэла. – Тваё... – І праз гэтую нялаcкавасць зноў я ўспомніў, як некалі з’ехаў ад яе ў вясновым тралейбусе, у якім пахла першымі пралескамі, і як потым спрабаваў вярнуцца ў тралейбусе зімовым, але вярнуцца ўжо было немагчыма, позна. Я і ўспамінаць не хацеў пра гэта, бо вінаваты быў, наскрозь вінаваты і нават не думаў, што некалі яна мне даруе, а татарка Нэла зазірнула мне ў вочы. – Ты чаму не вярнуўся?.. Я за яго пайшла, бо за цябе баялася. Ён мяне застрашыў... І тым карабінам, і тым афрыканцам, якія мяне... якога ты...

Яна заплакала...

Я ўстаў і пацалаваў заколку ў яе валасах. Сам не чакаў, што пацалую...

Гэта выглядала, канечне, тэатральна, маёр нават скрывіўся: маўляў, тэатр – але што ёсць наша жыццё? І хто ў маім жыцці маёр Гагарын, каб я зважаў, крывіцца ён ці не?..

Нэла скрозь слёзы ўсё зазірала мне ў вочы – я ледзь вытрываў позірк...

– Чаму ты не вярнуўся?.. – паўтарыла яна, мезенцам слязінку скінуўшы.

– Бо дама ў каракулі павярнула на Даўгабродскую.

– Што? – не зразумела Нэла. – Якая дама?..

Каб я ведаў...

Нікога і нічога мы не ведаем. Мяркуючы, што ведаем усё пра ўсё і ўсё пра ўсіх.

Некалі, апроч дамы ў каракулі, была яшчэ дама з мандарынамі. Я на абедзвюх загадваў, як на лёс, а яны прабеглі міма па вуліцах Даўгабродскай і Падлеснай, і нават на імгненне думка ў іх не мільгнула, што яны прабеглі – і ўсё бягуць – праз маё жыццё...

Час падціскаў, я развітаўся, каб пайсці – маёр Гагарын прыпыніў мяне.

– Ваш Гурык, генерал Гурковіч, прыехаў назіраць за вамі. Разумееце?.. Я вас папярэдзіў. Лічыце, што аддзячыў. – І ён кіўнуў у бок татаркі Нэлы. – За яе.

Шкада, што яна дасталася яму.

Нэла ўратавала Віла, Палкоўніка, Гарыка, Эдзіка, Амерыканца, мяне... Не ўратавала толькі Джона Кенэдзі. Калі б яна не схавала карабін, наўрад ці Амерыканец пабачыў бы Амерыку. І Прэзідэнта Злучаных Штатаў, які разам з Хрушчовым хацеў адкрыць свету таямніцу іншапланецянаў, ніхто б не забіў.

Ці ўсё адно забіў бы нехта?..

– Скажыце, – спытаў я, ужо выходзячы з кавярні, пра тое, пра што ад самага пачатку хацеў спытаць. – У Навінках... у вар’ятні...

Я зрабіў паўзу, каб паглядзець, як ён зрэагуе. На ягоным твары нічога не зварухнулася.

– Што ў Навінках у вар'ятні?..

Не скажа.

– Нічога.

Сын маёра Гагарына паклаў маю руку локцем на край стала.

– Не падпішаце вы – нехта падпіша. Нам усё адно, хто... Кандыдатаў хапае. Але я асабіста хацеў бы, каб гэта былі вы. Разумееце?..

Я зразумеў, чаго ён галавой круціў. І чаму маёр Гагарын двойчы сказаў: “З маім сынам не памыліцеся...”

Яны прапануюць мне гульню.

Але я нагуляўся.

– Няхай падпісвае, хто хоча.

– А вы – не?

Я пакруціў галавой. Гэтаксама, як ён.

– Ну, што ж... Торгніцеся – зламаю! – прыціснуў ён мой локаць да стала і кіўнуў апаратыўніку. Той наклаў жгут, намацаў вену...

Некалі ў вар'ятні мне заломвалі руку, калолі. Цяпер – тое самае ў турме. Што ж яны да мяне прычапіліся? Праз усё жыццё...

Боль, як і казаў крывароты гэбіст, які зачытваў мне пастанову пра арышт, пачаўся ў нагах і руках, выкручваў кожны палец, пранізваў спіну і да чырвані распаленым свярдзёлкам укручваўся ў галаву, яго немагчыма было трываць – і я не вытрываў, страціў прытомнасць...

Ачомаўся ад лаянкі і крыку. “Чаму без доктара?! Калі б ён жмурыка сыграў – хто б адказваў?!.”

Граць жмура – граць на пахаванні. Жмурыка сыграць – памерці. Гэта я ведаў. Так лабухі казалі, ад іх навучыліся зэкі. І генералы.

Той, на каго крычалі, вінавата апраўдваўся.

“Дык не сыграў... Жывы...”

“Жывы! А што толку, калі не падпісаў!”

“Падпіша...”

Апраўдваўся сын маёра Гагарына. Лаяўся – я не мог не пазнаць ягоны голас – Гурык. Генерал Гурковіч. Адстаўны генерал беларускага КДБ і расійскага ФСБ, які прыехаў з Масквыназіраць і за выбарамі, і за мной, і за беларускімі маёрамі.

“Лёсу кругі, як кругі на вадзе...”

– Падпісвай, – падсунуў да мяне паперу Гурык. – Ніхто не будзе ведаць, што ты падпісаў. Толькі я. А каб ты мне паверыў, я табе скажу такое, пра што будзеш ведаць толькі ты.

Гэта было шмат гадоў таму... Ні Ворану, ні Вілу, ні Палкоўніку, – нікому я пра гэта не казаў, бо не ведаў: як сказаць? Не сказаў нават Асі, з якой выпадкова сустрэўся ў рэстаране “На ростанях” перад тым, як яна з'ехала ў Ізраіль, і якой сказаць трэба было б... Ёй, можа, я й сказаў бы, але што гэта мяняла, калі Ася з'язджала?..

– Яны мае сябры, – адсунуў я паперу, – і Гурык ускочыў.

– Сябры?.. А хто цябе падставіў?.. Уцягнуў?.. Яны! Палкоўнік, Віл, Воран! А хто хоча выцягнуць?.. Я! Запомні на ўсё жыццё: сябар той, хто хоча дапамагчы! Выцягнуць! І не толькі хоча, бо хацець – цьфу! Хто можа! Сябры – тыя, якія могуць! Я твой сябар, бо я – магу! Бо за мной

– сіла! І яна можа быць за табой. Калі дурнем не будзеш. Калі ўцяміш: да ўлады, да грошай, да славы не па зямлі ідуць! Адзін па адным! Топчуць, трушчаць! Па мясе, па касцях! Жывыя па жывых і мёртвыя па мёртвых!.. Гэта і ёсць шлях. Адзіны! Іншага няма. Толькі такі! Бязлітасны! На падарожнай напісана: "Знішчай усіх, хто замінае!" Не шкадуючы. А калі захочаш некага пашкадаваць, дык пашкадуй сябе самога. Толькі нядоўга, бо ўсе шкадавальнікі – брук, па якім ідуць... Помніш песню: "Чалавек, пашкадуй сябе сам?"

Я помніў песню, якая называлася "Чалавек, памажы сабе сам" – але якая розніца...

– Гурык, – спытаў я, – а дзе гэта мёртвыя ходзяць па мёртвых?..

Праз шмат гадоў, ачомаўшыся пасля ін'екцыі і з цяжкасцю расплюшчыўшы вочы, я ўбачыў, што ўжо не ў сутарэнні ляжу, а ў абкладзеным блякла-сіняй пліткай і праз тое падобным да трупярні, пакоі, на ложку за цыратавай фіранкай, на якой, бо з таго боку свяціла лямпа, рухаліся цені, адзін з якіх я пазнаў не толькі па голасе, але і па абрысах, хоць за многа гадоў ён стаптаўся і прыгорбіўся, але гэта быў ён – і я спытаў праз цырату, праз гады:

– Скажы, Гурык... навошта...

Ува мне яшчэ блукаў боль – і ў горле задзёрла так, нібы прамоўленыя мной словы былі абсыпаныя жалезным пілавіннем, я ледзьве пракаўтнуў іх, а Гурык адшморгнуў фіранку: "Што табе сказаць?.." – і мне падалося раптам, што перада мной паўстала ўсё, разам з ім пражытае, стаптанае і прыгорбленае жыццё, і мне крыўдна стала нават больш, чым балюча, але я дагаварыў, хоць у горле дзёрла... – Навошта некалі ты сам прызнаўся мне, што ты поскудзь?..

Я ўспомніў Гурыка маладога, усяго ў бліскучых пагонах у рэстаране "Лета", калі ён біўся з Воранам, і я думаў тады, што яны б'юцца праз Саламона Майсеевіча, а яны біліся праз Асю, дый не праз Асю – яны проста не маглі не біцца, бо Гурык гатовы быў прайсці па Воране "жывым па жывым і мёртвым па мёртвым", а Воран быў не з тых, хто рады сцяліцца, каб па ім хадзілі, ён быў з тых, хто дапамагаў пасцеленым падняцца, а Гурык зноў іх валіў – вось ён і цяпер прыйшоў паваліць мяне, калі я падняўся, і спакойна адказвае мне, чаму ў тым, што ён поскудзь, сам некалі прызнаўся:

– Каб у цябе ніколі наконт гэтага аніякага сумневу не было.

Нічога ў ім не змянілася. Не змянілася наўкол нічога, што змусіла б яго змяніцца – сам чалавек не мяняецца.

"Па жыцці ідуць адзін па адным. Жывыя па жывых і мёртвыя па мёртвых. Бязлітасна. Злітуешся – капец. Той, над кім злітуешся ты, не злітуецца над табой. Таму я не мог злітавацца над ім..."

– Над кім? – спытаў я шмат гадоў таму.

– Над бацькам Асі. Над Саламон Майсеевічам. Бо на падарожнай напісана: "Знішчай усіх, хто замінае табе!" А ён, калі патрапіў да нас, як звар'яцеў. "Вы майго брата Ізю – у трыццаць сёмым! Маю Аду – у сорак другім! Маю Соню – у сорак трэцім! Цяпер – мяне!.." Нават сястру сваю, якую ў гестапа павесілі, на нас павесіў. Крычаў мне на кожным допыце: "Не аддам табе Асю! Касцьмі лягу, а не аддам". І я зразумеў, што не аддасць... – Гурык нечакана паклаў руку мне на плячо. – Ты кахаеш Асю? І я табе замінаю?..

Асю я кахаў. Але Гурык мне не замінаў. Як ён мог мне замінаць? Яго Ася не кахала. Яна кахала Ворана.

– Табе замінае Воран, – сціснуў маё плячо Гурык. – Дык падпішы – і яго не стане. А пра тое, чаму яго не стала, будзем ведаць толькі я і ты. Як і пра тое, чаму не стала Саламона Майсеевіча. Калі двое ведаюць адну таямніцу, гэта... – Гурык памаўчаў напружана. – Я скажу табе, чаму яго не стала. Каб ты мне паверыў. Каб не толькі я пра цябе, але і ты пра мяне ведаў нешта, чаго не ведае ніхто...

Ён страшны стаў, я ніколі такім яго не бачыў – і папрасіў:

– Не трэба, Гурык...

– Трэба! Слухай!.. Ён мне замінаў. І я сказаў яму на апошнім допыце, што арыштавалі яго праз Асю. Што гэта дачка ягоная сдала яго. Напісала, як ён супраць партыі народ каля яткі агітаваў. Ён збялеў: "Не!.." – і за сэрца. Яно ў яго слабое было, Ася лекі перадавала. Я мог сам яму дапамагчы, нас гэтаму вучылі. Мог адразу паклікаць доктара. Але я не дапамог і не паклікаў. Пачакаў... – Гурык адпусціў маё плячо. – Паклікаў, калі позна было...

Гурык казаў гэта – мне сціскала сэрца. Мацней, чым Гурык сціскаў плячо. Але было мне толькі пятнаццаць – і сэрца было не такое слабое, як у Саламона Майсеевіча.

– Думай, – сказаў Гурык, выходзячы. – А то ці расстрэл, ці што-небудзь яшчэ горшае...

Што горшае?

– Што горшае?!. – кінуўся я ўслед Гурыку, грымнуў кулаком у жалезныя дзверы. Гэтак Косця Воран газіроўку з аўтамата выбіваў. Але вада не заўсёды лілася. З сіропам дык увогуле рэдка ўдавалася выбіць. Амаль ніколі.

## Вуліца Броўкі, былая Падлесная

"Вуліца Падлесная цёмная і цесная..." – спяваў Гарык Клябанаў пра вуліцу Падлесную, на якой стаяў – і цяпер стаіць – электратэхнікум сувязі, у якім я вучыўся, ды інтэрнат, у якім я жыў. Яшчэ там – паміж інтэрнатам і тэхнікумам – была крама, дзе прадаваліся батоны, ліверная каўбаса і каўбасны сыр, кефір, кансервы "Часцік у тамаце", сітро "Байкал" і віно "Агдам" – таннае пітво, якое лічылася партвейнам, хоць да партвейна ніякіх адносін не мела, проста задурвала галаву. Крама тая на Падлеснай, што стала вуліцай Броўкі, ёсць і цяпер, але ні "Байкала", ні тым больш "Агдама", які цешыў савецкіх студэнтаў і алкаголікаў, у ёй не купіш: ён знік у пачатку 90-х разам з СССР. І цяпер ужо наўрад ці ўзнікне, бо Арменія, захапіўшы Агдамскі раён Азербайджана, дзе рос вінаград, з якога выракляўся "Агдам", знішчыла вінаграднікі.

Знішчаць – дык знішчаць...

Сустрэўшыся ў электратэхнікуме на Падлеснай праз шмат гадоў, мы, колішнія студэнты, пілі на падваконніку каля нашай аўдыторыі віскі "Royal salute", прастаўленае нашым аднакашнікам Сатушам, які нечакана для ўсіх стаў расійскім алігархам, і спявалі:

Пардон, мадам, батон напапалам,
Напапалам, мадам, партвейн "Агдам",
Яшчэ, мадам, у асарціменц*е*
Сітро "Байкал" і рыбка ў тамац*е*...

Песню гэтую таксама прыдумаў Гарык Клябанаў, які ў тэхнікуме з намі хоць і не вучыўся, але “Агдам” у нашым інтэрнаце выпіваць любіў, і калі яго папракалі ў парушэнні граматыкі: маўляў, рыбка ў там*а*це, а не ў тамац*е*, – адказваў, што напісаў гэтую песню для студэнтаў з Гвінеі, а ў гвінейскай мове няма граматыкі. Чаму? Бо ў Гвінеі і мовы гвінейскай няма, афіцыйная мова там французская, а размаўляюць гвінейцы на розных мовах, пераважна фула і сусу, на адну з якіх, на сусу, Біг пераклаў верш пра татарку Нэлу, якой таемна зайздросціць ружа ў крыштальнай вазе, але калі Гарык падабраў да верша мелодыю і саспяваў гвінейцам, яны нічога не зразумелі. Значыць, няма ў Гвінеі граматыкі ні ў чым.

Замежныя студэнты, з’явіўшыся ў Мінску ў пачатку 60-х, вучыліся не толькі ў кансерваторыі і ўніверсітэце. Два афрыканцы былі студэнтамі электратэхнікума сувязі – і аднаму з іх, якога звалі Аджа, напярэдадні Новага года выбілі зуб. У калідоры інтэрната, дзе Аджы стукнулі па зубах, загадзя выкруцілі лямпачку, і ён не мог сказаць, хто на яго напаў. Толькі паказваў свой выбіты зуб – белы, як саксонскі фарфор.

Выбіты зуб студэнта з Афрыкі, запрошанага на вучобу ў Мінскі электратэхнікум сувязі ўрадам СССР дзеля дапамогі краінам, што сталі на сацыялістычны шлях развіцця – гэта вам не выбітыя зубы Кона, Грыца ці Баліка, якія можна знайсці і на Падлеснай, і ў парку Чалюскінцаў, і ў парку 40-годдзя БССР – па ўсім Мінску. Кона, Грыца і Баліка можна біць па зубах хоць кожны дзень, бо ніхто з іх не пляменнік Секу Турэ, прэзідэнта Гвінеі, якая першая ў Афрыцы стала незалежнай рэспублікай і пасябравала з Савецкім Саюзам, кіраўнік якога Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў пасябраваў з гвінейскім прэзідэнтам, дзядзькам Аджы. Таму ў той жа вечар, у які студэнту з братняй Гвінейскай Рэспублікі выбілі зуб, у інтэрнат электратэхнікума на вуліцу Падлесную прыехаў старшыня Камітэта дзяржбяспекі БССР таварыш генерал Пятроў, якога называлі Чапаевым, бо ён быў Васілём Іванавічам. Назаўтра ўвесь тэхнікум выглядаў падобным на школу міліцыі, столькі на ўсіх паверхах ва ўсіх калідорах круцілася людзей у форме і без яе, але ўсё адно форменных. Цывільныя касцюмы глядзеліся на іх, як мундзіры, і хадзілі яны так, што на іх, здавалася, рыпелі партупеі. Яны дапытвалі студэнтаў, выкладчыкаў, электрыкаў, прыбіральшчыц, вахцёраў, але не знаходзілі вінаватага, бо не маглі знайсці прычыну, па якой нехта напаў на Аджу. У краіне сацыялістычнага інтэрнацыяналізму прычына гэтая не магла быць расавай, а іншай не было.

– Чаго мы прыляпіліся да падваконніка? – пытае Сатуш, колішні наш аднакашнік і цяперашні расійскі алігарх, які праставіў нам віскі “Royal salute”. – Пайшлі ў спартовую залу піць! Памятаеце, як нас там мардавалі?

У Сатуша столькі грошай, што ён можа купіць і падваконнік, і спартовую залу, і ўвесь тэхнікум, але Міколу Лобу, які як быў, гэтак і праз гады застаецца старастам нашай групы ТР, што значыць тэлевізійная тэхніка і радыёрэлейная сувязь, на грошы напляваць, і ён насоўваецца на Сатуша: “А ў лоб не хочаш? У спартовай зале спортам займаюцца, а не п’юць!..”

Лоб – гэта Лоб, які ён быў, такі й застаўся: “У спартовай зале спортам займаюцца, а не п’юць!..” – і Сатуш адсоўвецца ад Лоба далей, бо той першы раз пытае: “А ў лоб не хочаш?..” – а другі раз б’е. Таму шмат гадоў назад, калі пачалі шукаць таго, хто Аджы зуб выбіў, дык першым, каго западозрылі, быў Лоб.

– Хто і за што? – спытаў мяне, выклікаўшы да сябе ў кабінет, дырэктар тэхнікума. – Лоб?.. Кон? Грыц? Балік?.. Ты павінен ведаць.

– Чаму я павінен ведаць?

– Бо ў цябе костачка на правай руцэ збітая. Вунь, на сярэднім пальцы. Ты ж не ляўша?

– Не ляўша.

– Значыць, калі не Лоб, не Кон, не Грыц і не Балік, тады ты. Разумееш?

Дзіўная логіка ў дырэктара. Чаму, калі не Лоб, Кон, Грыц ці Балік, дык я? І інтэрнаце трыста чалавек жыве – і яшчэ трыста ў госці прыходзіць.

Прозвішча нашага дырэктара Тумас – і нейкі ён не такі дырэктар, якім трэба быць дырэктару. Арганізаваў у тэхнікуме секцыю бокса і разам са студэнтамі трэніруецца. На кожнай выпускной вечарыне кожная група выпускнога курса выстаўляе супраць яго свайго найлепшага баксёра. Ідуць у сутарэнне, дзе рынг, і б'юцца. Калі перамагае дырэктар, дык ніякіх групе выгодаў: усе едуць працаваць па размеркаванні. Калі перамагае выпускнік, ён атрымлівае вольны дыплом, а тыя з ягонай групы, хто займаўся боксам, размяркоўваюцца з улікам асабістых пажаданняў. За такое, скажу вам, варта пабіцца, бо калі ты размяркоўваешся, як усе, дык едзеш сувязістам на Кушку, Сахалін, Камчатку ці Новую Зямлю. Таму боксам у электратэхнікуме сувязі займаліся апантана. Нават дзявочая група ў секцыі бокса была.

На стале дырэктара Тумаса стаяў не надта чысты графін з вадой. Гэтакі самы, як на стале маёра Гагарына. Дырэктар заўважыў, што я гляджу на графін, і наліў вады.

– На, выпі. Дык хто?..

Я выпіў. Вада ў дырэктарскім графіне, як і ў графіне маёрскім, здалася падсоленай. Што ім усім падсыпаюць, каб яны маёрамі ды дырэктарамі былі?..

– Не ведаю, Павел Фёдаравіч.

– Не ведаеш... Помніш, як тут, у гэтым кабінеце, просячы за цябе, маці твая прыніжалася, калі цябе з інтэрната за твае выхадкі папёрлі? Хочаш, каб яна зноў прыніжалася, калі цябе папруць з тэхнікума?

Ніякіх выхадак за мной не было, але з інтэрната мяне папёрлі. І я помніў, што было тут, у дырэктарскім кабінеце – і зноў гэтага не хацеў. Не перажыў бы зноў такое.

Камендант вучэбнага корпуса краў спірт з хімічнай лабараторыі – і ўз'еўся на мяне, поскудзь, калі я дзяжурыў у лабараторыі і падлавіў яго. Ён піў крадзены спірт з камедантам інтэрната, якога падбіў выселіць мяне за порткі-дудачкі і кашулю з папугамі. "За знешні выгляд, – як напісаў камендант інтэрната ў загадзе на высяленне, – які не адпавядае выгляду савецкага студэнта Мінскага элекратэхнікума сувязі". Дырэктару жаліцца я не стаў, два тыдні начаваў на вакзале, пакуль міліцыянты да мяне не прычапіліся. Затрымалі, паведамілі ў тэхнікум і бацькам. Маці прыехала, мяне за руку – пайшлі да дырэктара. Яна перад ім ледзь не кленчыць... Насоўку дастала завязаную, развязвае яе, плача... "Павел Фёдаравіч, даражэнькі, пашкадуйце вы яго..." Рукі ў яе дрыжаць, ледзь тую насоўку развязала, разгарнула няўдала – і грошы на падлогу... Па рублю, па тры, якія напазычала... Хабар даць хацела, Госпадзі!.. Нахілілася збіраць, як паклон біць – дырэктар яе за плечы: "Прашу вас, не трэба! Калі ласка, сядзьце..." Пасадзіў на крэсла, да мяне крочыў, я каля шафы з кнігамі стаяў, паміраў

ад сораму – і аперкот! Такі, што я ўзляцеў разам з папугамі – і грымнуўся ў кут за шафу... Пасля ён змусіў мяне грошы на падлозе збіраць і рукі маці цалаваць... Я збіраў і цалаваў... Маці сядзела, як каменная...

Вось хіба гэта нармальны дырэктар? Я, канечне, зразумеў навуку ягоную і на ўсё жыццё запомніў, але хіба такі дырэктар нармальны?

– Хто папрэ? – спытаў я, стоячы цяпер у тым жа кабінеце каля той жа шафы і ўважліва сочачы за дырэктарскімі кулакамі. – Вы ж дырэктар...

– Я й папру! – цвёрда сказаў Тумас. – Іначай мяне папруць.

Назаўтра раніцай, калі мы прыйшлі на заняткі, нас пагналі ў спартовую залу. З усяго курса толькі нашу групу. Там паставілі ў шэраг і загадалі выцягнуць рукі ўперад далонямі ўніз. Са збітымі костачкамі на руках вывелі з шэрагу сямёх: Лоба, Кона, Грыца, Баліка, Ждана, Сатуша і мяне...

– У спартзалу ўсё ж давайце зойдзем, – глынуўшы “Royal salute”, якому болей гадоў, чым было нам, калі мы скончылі тэхнікум, сказаў, падабрэўшы, Лоб. – Там ёсць што ўспомніць. – І скамандаваў, як толькі мы зайшлі ў спартзалу. – А ну ў шарэг! Рукі ўперад далонямі ўніз!.. Вунь ва ўсіх пальцы дрыжаць, а яны п’юць на падваконніку!

Я паглядзеў: нават у тых, каго тады не вывелі з шэрагу, у Ханені, Жука, Ігана, Івашкі, Сцепаненкі, Стукача, Кашыца сапраўды дрыжалі пальцы. Яны ўспомнілі той страх...

Як кожны з нас баяўся: выганяць! І што рабіць? Куды падацца? Дахаты вяртацца? Што дома сказаць? Бацькам, суседзям?..

Ніхто не думаў, што могуць пасадзіць. За што?.. Але пачаліся допыты – і да страху, што выганяць, дадаўся жах, што пасадзяць.

Што мы тады ведалі?.. Нічога. Дый тым, хто нас дапытваў, наўрад ці было вядома, што прэзідэнт маладой Рэспублікі Гвінея Секу Турэ, які ўжо выцыганіў у Хрушчова болей за 30 мільёнаў залатых рублёў, раптам замест візіту ў СССР рвануў у ЗША і атрымаў там 16 мільёнаў доляраў пад абяцанне, што забароніць савецкім самалётам сядаць пры палётах да Кубы на аэрадром у сталіцы Гвінеі Канакры, які наўмысна дзеля гэтага савецкімі спецыялістамі быў адбудаваны. Нарастаў Карыбскі крызіс, СССР нарошчваў на Кубе ваенную сілу, забарона на прамежкавую пасадку самалётаў у Гвінеі перапыняла хуткую дастаўку грузаў і вайскоўцаў, таму прыкладаліся неверагодныя намаганні, каб вярнуць блуднага афрыканскага сына ў лона савецка-гвінейскага сяброўства – і ў гэты час у гэтым лоне любімаму пляменніку блуднага сына выбіваюць зуб. “А!.. – сказаў Секу Турэ. – Во як вы сябруеце! Гэтак і мне, калі з’яўлюся да вас, зубы пералічыце! Не, лепш я да амерыканцаў...”

У інтэрнаце электратэхнікума сувязі зрабілі ператрус. Шмат у каго ў тумбачках, у ложках і ў валізах пад ложкамі пазнаходзілі невядома дзе ўзятыя, бо ў крамах такія не прадаваліся, радыёдэталі, а ў пакоі, у якім жылі Лоб, Ждан, Сатуш, Пашок, Лан і я, знайшлі незарэгістраваную радыёстанцыю. Мы сабралі яе зусім нядаўна, ніводнага разу яшчэ не выходзілі ў эфір, але каму ты гэта давядзеш?..

– Вы, пэўна, не ўяўляеце, у якую патрапілі гісторыю, – прайшоўся перад намі, парыпваючы чорна-бліскучымі ботамі на новым, нядаўна перасцеленым у спартзале светла-бліскучым паркеце, маёр Гагарын, які глядзеў на мяне гэтаксама, як і на ўсіх астатніх: нібы ўпершыню бачыў. – Вы хоць ведаеце, з якой краіны прыехаў вучыцца студэнт, якога вы ледзь не забілі?

“Хто яго ледзь не забіў?.. Выбіць зуб – гэта ледзь не забіць?..” – здзівіўшыся, хацеў спытаць кожны з нас, але ніхто не спытаў.

– З Афрыкі! – зрабіўшы крок наперад, адказаў на пытанне маёра Лоб, які заўсёды адказваў на ўсе пытанні, калі думаў, што ведае, як на іх адказаць.

Маёр Гагарын спыніўся перад Лобам, пасвідраваў яго позіркам і стаў казаць да яго і да ўсіх нас, сямёх, бо астатніх са спартовай залы адпусцілі. Пачаў ён ціха, з кожнай наступнай фразай падвышаючы і падвышаючы голас, нібы голасам сваім хацеў пасцяліць нас на паркеце пад боты.

– Няма такой краіны: Афрыка. Ён прыехаў з Гвінеі, якая першай на афрыканскім кантыненце стала на сацыялістычны шлях развіцця, кінуўшы выклік амерыканскаму імперыялізму! Амерыканскі імперыялізм пагражае гвінейскаму народу агрэсіяй! Гвінейскі народ просіць дапамогі ў Савецкага Саюза, пасылае вучыцца ў нас абаронцаў сваіх рэвалюцыйных заваёў, а мы іх як сустракаем?! А мы ім зубы выбіваем! – не з усёй сілы, але і не слаба ўрэзаў Лобу ў зубы маёр, і я падумаў пра яго з дырэктарам: вось для чаго яны аднолькавую ваду ў сваіх кабінетах п’юць. – Хто выбіў?! Ты?..

Лоб стаяў патыліцай да мяне, але й з паталіцы лобавай я ўбачыў, як галава ягоная напаўняецца і напаўняецца страхам, ад якога ён – менавіта ад страху, а не ад удару – нават пахіснуўся, і калі б ён ведаў, хто выбіў зуб абаронцу рэвалюцыйных заваёў братняга гвінейскага народа, ён сказаў бы, але Лоб не ведаў гэтага, таму адказаў толькі тое, што ведаў:

– Не! Не я...

Маёр Гагарын дастаў насоўку і выцер кулак.

– Не ты, дык не ты... Я вам што хачу сказаць... – Ён зрабіў паўзу, паклаў насоўку ў кішэнь. – Мы ведаем, што ў той вечар не было ў інтэрнаце двух вашых сяброў. Пашка, як вы іх называеце, і Лана. Пашкова і Ланскага. А паколькі іх не было, значыць, яны не вінаватыя. Дык вось: калі не прызнаецца той, хто гэта зрабіў, з тэхнікума будуць выключаныя менавіта Пашкоў і Ланскі, вашы ні ў чым не вінаватыя сябры. Праз некага... – ён зноў пасунуўся на Лоба... – ві-на-ва-та-га... – і калі Лоб стаў ад яго адступаць, маёр рэзка павярнуў яго тварам да нас. – Ты пачуў, што я сказаў, староста?.. Калі пачуў, паўтары для тых, хто праслухаў! Ну!..

Лоб, канечне, пачуў, што яму сказаў маёр Гагарын, але відаць было, што ён, як і кожны з нас, не зразумеў: як гэта не вінаватых караць замест вінаватага?

– Калі не прызнаецца той, хто гэта зрабіў, з тэхнікума будуць выключаныя нашы ні ў чым не вінаватыя сябры, – амаль слова ў слова паўтарыў тое, што сказаў маёр, Лоб, адзіны з нас, хто потым скончыў тэхнікум з чырвоным дымломам. – І павярнуўся да маёра Гагарына. – Не выганяйце Пашкова і Ланскага. У Пашка бацька інвалід вайны.

Маёр паківаў, нібы паспачуваў.

– Вось і падумайце пра гэта... – І зноў рэзка падвысіў голас. – Пра сваіх бацькоў, якія змагаліся на вайне супраць фашызму, падумайце! А вы амерыканскім фашыстам дапамагаеце! Ды вас за гэта на вайне... – адступіў ён да гэбістаў, якія шэрагам стаялі за ім, і адразу ясна стала, мы такое ў кіно бачылі, што было б з намі, калі б нас вось так, шэраг насупраць шэрагу, паставілі на вайне, а маёр Гагарын скамандаваў. – Той, хто зрабіў гэта сам, ці ведае, хто гэта зрабіў, крок наперад!..

Ніхто не крочыў. А калі нехта зварухнуўся, дык не наперад, а назад.

Прычына, па якой Аджы выбілі зуб, была. Не расавая, а тая, па якой біліся, б'юцца і будуць біцца хлопцы ва ўсім свеце незалежна ад таго, чорныя яны, белыя ці жоўтыя.

Прычына звалася Нэлай. Калі я з'ехаў ад яе на першым тралейбусе, яна пачала ўсяляк выпрабляцца і паказваць, што ёй на мяне напляваць. З танцаў у Палацы прафсаюзаў пайшла з Аджы, у якім ускіпела афрыканская кроў – і ён татарку Нэлу згвалціў. У яе ж доме, у кватэры Джыма Калеснікава, які даў яму ключ. Нэла прыйшла дахаты падраная, ва ўсім прызналася бацькам, тыя ледзь на вуліцу яе не выгналі, але сказалі, каб маўчала: сораму не абярэшся.

Зуб Аджы выбіў я. І ў спартзале, стоячы ў шэрагу сяброў насупраць шэрагу гэбістаў на чале з маёрам Гагарыным, я ступіў бы крок наперад, проста са страху прызнаўся б, калі б Палкоўнік, якому я расказаў пра ўсё, не загадаў гэтаксама, як Нэле загадалі яе бацькі: маўчаць! “Сам ні ў якім разе ні ў чым не прызнавайся! І з тэхнікума паляціш, і ў калоніі для малявак апынешся. Здадуць цябе свае – тады што ж... А сам прызнацца не ўздумай!”

Здаць мяне маглі трое. Гарык Клябанаў, які лямпачку ў калідоры выкруціў, і Сатуш са Жданам, якія ў пачатку і канцы калідора глядзелі, каб сведкаў не было. Перад тым, выпіваючы з імі партвейн “Агдам”, я распавёў, як Аджа згвалціў татарку Нэлу, і Гарык кулакі сціснуў: “Калі ты не дасі яму за гэта ў лыч, я табе не сябар”. І Сатуш са Жданам сціснулі кулакі: “Мы табе тады таксама не сябры”.

Кампанія, у якой насіў я порткі-дудачкі і кашулю з папугамі, чытаў вершы і слухаў джаз “на рэбрах”, з кампаніяй, у якой біўся на Грушаўцы і ў Сельгаспасёлку, вывучаў тэлевізійную тэхніку і радыёрэлейную сувязь, амаль ніяк, калі не лічыць Гарыка Клябанава, які ў абедзвюх кампаніях выпіваў партвейн, не перасякалася. Тая, стыляжная, была гарадская, у якой я, хоць яна мяне й вабіла, пачуваў сябе не надта ўтульна. Усе ў той кампаніі былі старэйшымі за мяне, болей за мяне ўмелі, ведалі, нікому там не быў я роўня, а тут, сярод маіх аднагодкаў і гэткіх самых, як я, местачковых і вясковых хлопцаў, я быў не толькі роўня, але й адным з першых, калі не найпершы – і вось жа Гарык, які з гарадскіх, і Сатуш са Жданам, якія з местачковых, у адзін голас кажуць, кулакі сціскаючы: калі не дасі Аджы ў лыч, мы табе не сябры. Там я, значыць, ніколі не стану роўным – і тут з першых сыйду...

Хоць і выпіўшы “Агдаму”, але разумеючы, што нам за бойку з замежным студэнтам можа пагражаць, мы зрабілі ўсё так, каб нас ніхто не заўважыў. І сышлі, прыбраўшыся перад тым у пакоі, з інтэрната. Спачатку, каб там разам засвяціцца, на танцы ў Палац прафсаюзаў, адтуль да Палкоўніка, а пасля да Гарыка, у якога й заначавалі. Назаўтра прыехалі ў тэхнікум, а тут Чапаеў з маёрам Гагарыным – і паўсюль рыпяць партупеі.

– Што ж, – паправіў партупею маёр Гагарын і ўпершыню паглядзеў на мяне не так, як на ўсіх. Асобна. – Калі не выходзіць разам, паспрабуем па адным. Але цяпер ужо вы ў любым выпадку выляціце з камсамола. Гэта я вам кажу, каб не думалі, што Ланскім ды Пашковым усё абыйдзецца.

Са спартовай залы мяне прывялі ў кабінет каменданта вучэбнага корпуса. За каменданцкім сталом сядзеў не камендант, а старшы лейтэнант Гурковіч. Гурык. Не ведаю, ці ён сам захацеў мяне дапытаць, ці так яно выпадкова выйшла, але я чакаў, што яго ўбачу, і не здзівіўся, убачыўшы.

– Мне выйсці? – спытаў камендант, які быў не толькі п’янтос і злодзей, але яшчэ й гомік. У ягоным кабінеце стаяла рыпучая канапа, на якой ён прапаноўваў начаваць хлопцам, якіх ягоны сябрук, камендант інтэрната, высяляў, а гомік ноччу лез да іх. Да Лоба, якога выселілі, бо Лоб тэлевізар сабраў і чэмпіянат свету па хакеі ўсіх нашых сяброў з Грушаўкі і Сельгаспасёлка глядзець паклікаў, а тыя так тупалі і крычалі, калі нашы канадцам шайбы забівалі, што ўнізе над вахцёрам люстра са столі зляцела, – камендант таксама палез. Лоб яму ў лоб... Ды яшчэ гантэлінай, якую намацаў за канапай. Камендант тыдні два ў шпіталі праляжаў, прыдумаўшы, што балванку ў такарным станку не заціснуў, і ўсё прасіў Лоба нікому не казаць нічога. Пра гэта Лоб нічога й не сказаў, але пайшоў да дырэктара: “Я сабраў тэлевізар! Першы зрабіў тое, што нас у тэхнікуме рабіць вучылі, а мяне за гэта...” – і камендант займеў вымову, а Лоб – свой ложак у пакоі са сваім тэлевізарам.

Камендант выйшаў са свайго кабінета з канапай, на якую Гурык кіўнуў:

– Сядай. Дзе вы ўсе сямёра костачкі на руках пазбівалі?

На гэта ў мяне быў адказ. Тры дні таму я разам з Конам, Грыцам і Балікам біўся ў парку Чалюскінцаў з грушаўскімі. Але Лоба, Ждана і Сатуша з намі не было.

– А Лоб, Ждан і Сатуш? – спытаў Гурык. Адкуль у іх баявая раны?

– Не ведаю. Лоб нібыта ў такарным цэху руку збіў... Балванку не закруціў.

Гурык падышоў да мяне, паклаў руку на плячо і абсадзіў, бо я стаяў, на канапу.

– Ты вось што, Князь... – Чаму ў цябе, дарэчы, мянушка такая?.. Ну ды гэта я так, з цікаўнасці... Ты мне балванку не закручвай. Я ведаю, хто Аджы зуб выбіў. Няўжо ты думаеш, што ніхто з вашых не прызнаўся? Але для цябе лепей, каб ты прызнаўся сам. І для Пашкова лепей, – дадаў ён з такой інтанацыяй, што, маўляў, табе вырашаць лёс тваіх сяброў, – і для Ланскага. Ты ж з імі сябруеш, у адным пакоі жывеш...

Падобнае я ўжо чуў і ад яго, і ад маёра Гагарына. “Для цябе ж лепей, калі прызнаешся...” І руку на плячо... Можа, не паслухаць Палкоўніка – і сапраўды прызнацца? Бо ўсё адно нехта скажа. Не Ждан, дык Сатуш. Не Сатуш, дык Ждан. Але чаму я павінен думаць, што яны прызнаюцца, калі мы ў ноч, якую начавалі ў Гарыка Клябанава, дамовіліся, як параіў Палкоўнік, маўчаць?

– Скажы, калі ведаеш, – адсунуўся я ад Гурыка. – Мне самому цікава.

Гурык не стаў да мяне падсоўвацца.

– Цікава, дык паслухай. Ты ў дзвюх кампаніях. У адной – са звычайнымі хлопцамі, тваімі равеснікамі, з якімі вучышся ў адным тэхнікуме. У другой – са старэйшымі за цябе людзьмі, сярод якіх адзін – асуджаны за антысавецкую дзейнасць, а трое – грамадзяне капіталістычных дзяржаў. Два канадцы і адзін амерыканец з ваенна-марскога флоту ЗША. Ты ведаеш, што Амерыка рыхтуецца да вайны супраць Кубы? Ты гэтага можаш не ведаць, але ведаюць гэта твае старэйшыя сябры. Ведаюць яны і тое, што Савецкі Саюз гатовы абараніць востраў свабоды ад агрэсіі, і ў гэтым яму і Кубе дамагае маладая афрыканская рэспубліка Гвінея. І ведаеш, што ворагі нашы прыдумалі? Каб Гвінея нам не дапамагала, вырашылі пасварыць яе з СССР. Як? А так: у СССР вучыцца пляменнік прэзідэнта Гвінеі. І амерыканскаму грамадзяніну, былому марскому пехацінцу, які

жыве ў тым жа горадзе, у якім вучыцца пляменнік гвінейскага прэзідэнта, даецца заданне гэтую сітуацыю скарыстаць. І ён скарыстоўвае цябе, а ты скарыстоўваеш сваіх аднакурснікаў. З якімі працуеш на незарэгістраванай радыёстанцыі... – Гурык усё ж падсунуўся бліжэй. – Далей табе цікава, ці не? Ты пойдзеш пад суд за шпіянаж, за здраду Радзіме, на тваіх бацьку і маці будуць пальцам паказваць, калі я табе не дапамагу! А каб дапамог, кажы, як было!..

Гурык, падсунуўшыся, апошнія словы амаль выплёўваў мне ў твар і так горача дыхаў, сціскаючы мне, як і ў сутарэнні “амерыканкі”, плячо, што я не вытрываў:

– Ды ён Нэлу...

І асекся.

– Што “ён Нэлу”? Хто? – яшчэ мацней учапіўся ў мяне Гурык, і я падумаў, як тады, калі мяне дапытваў маёр Гагарын: “Госпадзі, дзіця я горкае, з кім боркацца ўздумаў!..” І ўжо хацеў выкласці ўсё, як яно было, бо гэта ўсё ж Гурык, а не хто-небудзь, і ён ведае, як я кахаў і раскахаў татарку Нэлу, бо закахаўся ў Асю, бо ён таксама Асю кахае і сам бы даў у лыч Аджы, калі б той Асю згвалціў, ці паспрабаваў бы згвалціць, ды я проста забіў бы Аджы за Асю, і Гурык мне дапамагаў бы забіваць, як зараз, можа быць, дапаможа выкруціцца... – і тут я згадаў тое, што казаў мне Гурык у сутарэнні турмы КДБ, як вучыў ісці ў жыцці па жывых і па мёртвых, успомніў, што ён Асінага бацьку да смерці давёў: “Дык з чаго раптам ён дапаможа мне выкруціцца?..”

Гурык трос мяне за плечы: “Што Нэлу?.. Хто Нэлу?.. Ну? Хто і што?..” Я маўчаў – і Гурык падняўся раптам: “Пакуль можаш ісці. Заўтра скончым”. Ён першы пачаў апранацца – і я зразумеў, куды ён спяшаецца...

Госпадзі, што ж цяпер будзе? Бацька Нэлы мне сказаў, калі мы з Нэлай раскахаліся: “Пачакай, усё выправіцца...” Дык як яно цяпер выправіцца, калі сораму не абярэшся?..

Гурык выйшаў з тэхнікума, я скочыў за ім і паспеў убачыць, што ў машыне, у якую ён сеў – маёр Гагарын.

Хуткія яны...

Што рабіць?

Я кінуўся да тэлефона-аўтамата каля інтэрната. Дзвюх капеек у мяне не было, але былі шайбачкі, якія мы выточвалі ў такарнай майстэрні: па вазе і памеры – манетка ў дзве капейчыны. Нэла ў гэты час, мусіць, была яшчэ на занятках, ці, можа, ехала дахаты ў першым тралейбусе – трубку падняла маці. Я ў двух словах сказаў ёй, што адбылося, яна ўсё зразумела – і кінула разам з трубкай: “Ну ты й засранец!..”

“Ну я й засранец... Ну я й засранец... Ну я й засранец...” – патрусіў я ўніз па вуліцы Падлеснай да Першай клінікі, да медычнай вучыльні, дзе Нэла па нейкай прычыне магла й затрымацца, яна часцяком затрымлівалася то ў хоры, то ў гуртку філатэлістаў, бо маркі збірала, але ніхто сёння не спяваў і маркамі не абменьваўся, ніякіх прычын, каб затрымацца, сёння ў Нэлы не знайшлося – у вучэльні ўвогуле не было нікога, апроч вахцёра.

– Нэла? – перапытаў ён. – Якая Нэла? Тая, што на сук села?..

Ён быў з адстаўных гэбістаў, яны пры ўсіх дзвярах ва ўсіх установах сядзяць, я іх нюхам распазнаю, і, можа, гэты пацук нічога не меў на ўвазе, проста гэтак пажартаваў па-гэбісцку, але з мяне вырвалася: “Морда пацучыная!” – і пакуль ён, пузаты, падымаўся, крывёй наліваючыся, я грымнуў дзвярыма. Выскачыўшы, прайшоў па Падлеснай да Ленінскага

праспекта, павярнуў назад, спыніўся, не ведаючы, куды і да каго ісці... Сеў на зледзянелыя прыступкі каля ўваходу ў Першую клініку і заплакаў.

Я прабалбатаўся... Насексоціў... І пра каго прабалбатаўся?.. На каго насексоціў?.. На каханую... Няхай мы раскахаліся, але яна ўсё адно каханая, бо я кахаю яе й цяпер, калі раскахаў...

Па вуліцы Падлеснай спяшаліся па сваіх праднавагодніх клопатах мінчукі. Мужчыны, жанкі... Старэйшыя і маладзейшыя... Хто з перавязанымі шпагатам елкамі, хто з упакаванымі, здабытымі ў праднавагоднім паляванні на ўсё, што можна здабыць на стол ці пад елку, падарункамі. Каля політэхнічнага інстытута прадавалі мандарыны – людзі душыліся ў чарзе. Ружовашчокая, як той мандарын, і апранутая, як снягурка, жанчына вырвалася з натоўпу, перайшла праспект і пабегла, каб хутчэй дахаты, каб мандарыны не памерзлі, па Падлеснай. Адзін мандарын выпаў з сеткі, якая матлялася ў яе руцэ, і пакаціўся мне пад ногі. Ён яшчэ каціўся – я ўжо загадаў: калі жанчына пакіне мне яго, Нэла даруе і зноў пакахае... Ружовашчокая спынілася, тузанулася йсці далей: хай сабе будзе хлопцу падарунак на Новы год! – але ў апошні момант неяк недаверліва зірнула на мяне і падабрала мандарын. На маім лобе, мусібыць, напісана, што я сексот, – а якія сексоту – нават на Новы год! – мандарыны?..

Сексот і засранец...

Засранец і сексот...

І яшчэ шпіён, здраднік... І яшчэ на маці і бацьку, за плячамі якога вайна, ордэн з медалямі на грудзях – будуць пальцамі паказваць...

І на Нэлу пальцамі паказваць будуць...

І ўсё праз мяне...

Як з гэтым жыць?

Жыць з гэтым ніяк нельга.

Падняўшыся, я рушыў на праспект. Сеў у першы тралейбус, даехаў да Круглай плошчы. Прайшоў на мост, пад якім яшчэ нядаўна, гэтым летам, але ўжо нібыта ў іншым жыцці мы плавалі на лодках і пілі шампанскае. Глянуў уніз – скрозь лёд на рацэ, толькі пры беразе наўскасяк ад дома, дзе жыве Амерыканец, цямнее і паблісквае святлом ужо запаленых ліхтароў палонка. Зірнуў на вокны кватэры Амерыканца – два цені на фіранках. Амерыканец і Марына. Па чарзе нахіляюцца і выпростваюцца, як рэчы ў валізу складваюць. Збіраюцца, мусіць, у Амерыку. Што іх там чакае?..

Палонка схоплівалася па крайках лядком – я абламаў яго. “Што мяне тут чакае?..” І скочыў у палонку.

Ніколі не думаў, што так проста гэта зраблю. Пра самагубства – упершыню недзе ў 12-13 гадоў, калі ўбачыў і адчуў недасканаласць, агіднасць, несправядлівасць свету – думаў, але не так проста. Ці хопіць на гэта ў мяне волі, мужнасці, сілы? У тое, што з жыццём сваім самагубна развітваюцца толькі слабыя, бязвольныя людзі, не верыў. І вось я – слабы, бязвольны, засранец, сексот – і скок!..

Вада не ўцягнула мяне пад лёд, як я тое ўяўляў – яна была па пояс. Мяне апякло, сцяла пранізлівым, вострым холадам, я нават не паспрабаваў пад лёд паднырнуць, каб па-мужчынску давесці да канца справу. Здзіраючы пазногці, стаў караскацца, выбірацца на гранітныя прыступкі парапета, на бераг і, выбраўшыся, кінуўся бегчы, як тая жанчына, каб не памарозіць мандарыны, куды найбліжэй – да Амерыканца з Марынай. Прабягаючы пад аркай у двор, ледзьве не патрапіў пад колы машыны “хуткай дапамогі”, якая падляцела праз іншую арку да таго самага, што і я, пад’езда,

выклiканая ў тую ж 24-ю, у якую бег я, кватэру, у якой ценi Амерыканца i Марыны на фiранках нахiлялiся не рэчы складваць, а рабiць масаж сэрца дзядзьку Марыны, якi, дазнаўшыся, што яна з'язджае ў Амерыку, схапiўся за грудзi – i хуткая дапамога спазнiлася. Я пераапранаўся ў сухое, якое даў Амерыканец, i мяне бiла дрыготка, але не ад холаду, ад усведамлення: вось я мог ляжаць цяпер, як ляжыць дзядзька Марыны, i доктар "хуткай дапамогi" глядзеў бы то на Марыну, то на Амерыканца i разводзiў бы рукамi... I пранiзвала думка: у той самы час, калi я спрабаваў развiтацца з жыццём, нехта зусiм побач з усiх сiл за яго чапляўся! Я, абдзiраючы пазногцi, зачапiўся, а ён – не.

– Начуй у нас, – прапанавала Марына, калi прыйшлi i пайшлi два мiлiцыянты, сказаўшы, што iм для таго, каб напiсаць даведку пра смерць, ну, што дзядзька сам памёр, патрэбнае заключэнне паталагаанатама. "Бо цi мала што...", – паглядзеў няветлiва адзiн з iх на Амерыканца. Марына дамовiлася з доктарам "хуткай дапамогi", медсястра з доктарам заўсёды дамовяцца – i дзядзьку забралi ў морг.

Паклаўшыся на раскладушку на тым самым месцы каля акна, на якiм толькi што ляжаў на падлозе дзядзька Марыны, я не спаў. Думаў: ну вось, я мог цяпер не спрабаваць заснуць... не спаць... не быць... як яно было б? Думаў бы я пра гэта?.. Не, мусiць, пра гэта не думаў бы, бо мяне тут не было б, дзе зараз не сплю. А цi думаў бы я там пра тое, што тут памёр? Што адбылося б, калi б вада ўцягнула мяне пад лёд? Як яно ўвогуле адбываецца, што яна такое – смерць? Нешта падобнае на тое, што цяпер у маёй галаве, цi проста заключэнне паталагаанатама?

Вось не стала, няма дзядзькi Марыны. I што? Марына дамовiлася з доктарам, выправiла дзядзьку ў морг, трохi паплакала, пакуль па лесвiцы з двара ў дом падымалася, i спiць з Амерыканцам. Амерыканцу ўвогуле: хто i што гэты дзядзька? А дзядзьку што? Кепска яму? Як яму можа быць кепска? Нiяк. Дык цi так ужо добра, што я не пад лёдам? Калi заўтра Ждан цi Сатуш скажуць, што гэта я выбiў Аджы зуб – i мяне выганяць... I мацi прыедзе, кленчыць перад дырэктарам пойдзе... Цi яшчэ горш: Гурык з маёрам Гагарыным давядуць, што я здраднiк нашай савецкай Радзiмы, што я з канадцамi i амерыканцам, былым марскiм пехацiнцам... – i тут я падхапiўся на раскладушцы: дык я ж у яго дома! А за домам сочаць! I заўтра Гурык цi маёр Гагарын спытаюць: "А што ты рабiў у доме ворага ўсю ноч? Спаў на раскладушцы? Так савецкая Радзiма табе й паверыла, што спаў!.."

Мае транты, якiя Марына павесiла на батарэю, былi яшчэ мокрыя, але ж не iсцi заўтра ў тэхнiкум, акупаваны старшымi лейтэнантамi з маёрамi, у адзежы ворага! Я нацягнуў сваю, улез у набраклыя чаравiкi, пакiнуўшы на нагах сухiя амерыканскiя шкарпэткi, апрануў куртку, шапку, асцярожна прабраўся ў прыхожую, цiху адчынiў i зачынiў дзверы – i болей не бачыў нiколi нi Алiка, нi Марыны, якая сказала мне, калi Амерыканцу далi дазвол на вяртанне ў ягоную Амерыку: "Страшна ехаць. Нiбы нешта там здарыцца страшнае. Не са мной страшнае – з усiмi".

"Страшнае з усiмi... страшнае з усiмi... страшнае з усiмi..." – грукала ўва мне, калi я з усiх ног, каб не абмарозiцца, зноў бег туды, куды i да каго найблiжэй: на Старажоўскую да Палкоўнiка. Каля штаба Беларускай ваеннай акругi спынiўся, як укопаны: ад каго i куды бягу? Ад шпiёна, марскога амерыканскага пехацiнца – да антысаветчыка? "Самае страшнае з усiмi – гэта вайна! – прыпусцiў я ад Беларускай ваеннай акругi да Дома афiцэраў, цераз сквер ад якога жыў Гарык Клябанаў. – А чаму вайна?.. А таму што

я выбіў зуб Аджы, які пляменнік прэзідэнта Гвінеі, якая цяпер не стане дапамагаць Савецкаму Саюзу, а Савецкі Саюз не здолее дапамагчы Кубе, на якую нападуць амерыканцы, скінуць на яе, як на Хірасіму, атамную бомбу, з чаго самае сграшнае і пачнецца. Гарык прачнецца, а Мінска ўжо няма...” – пагрукаў я, прабегшы цераз сквер, у акно на першым паверсе дома, дзе жыў Гарык, які звычайна спаў на тапчане ў калідоры і які спытаў, успораты сярод ночы: “Што? Вайна?..” А калі мы селі на падлогу каля батарэі ў кухні, ён сказаў, што прыходзіў Гурык і пытаў, ці праўда, што Аджа... ну, зрабіў тое, што зрабіў, з Нэлай? “Я адказаў, што нічога не ведаю, – наліў ён вялізны кубак гарачай, якая рукі апякала, гарбаты. – Ці я павінен быў нешта іншае сказаць? І скуль Гурык пра тое ведае?..”

Я расказаў, скуль... Гарык Клябанаў быў паэтам і не стаў казаць, што я сексот і засранец, ён увогуле ніколі не абражаў нікога, толькі паківаў галавой: “Та-а-к... І як цяпер Нэла?..”

Да раніцы сядзець са мной ён не захацеў, хоць звычайна сядзеў – лёг на свой тапчан і заснуў. Сам, маўляў, думай, як цяпер Нэла – і хто цяпер ты...

Раніцай Гарык не пускаў мяне нікуды: “Ды ў цябе жар! – І ўступаў свой тапчан. – Табе ляжаць трэба!”

Ад ягонага дома на вуліцы Леніна да вуліцы Савецкай, дзе жыла татарка Нэла, я йшоў ці не гадзіну – гэтак мяне хістала. Дахістаўся якраз у час: Нэла з пад’езда выходзіла. Убачыла мяне – і павярнула ў бок вакзала да прыпынку першага тралейбуса. Я за ёй не паспяваў, але ў тралейбус паспеў усунуцца. Сеў за ёй – што сказаць? Нэла, прабач?.. Пакуль муліўся, падбіраў словы, тралейбус праехаў мост цераз раку Свіслач, у якой я ўчора вечарам спрабаваў развітацца з жыццём. Можа, сказаць ёй пра гэта? Як яно будзе гучаць?.. “Нэла, я так цябе кахаю, што ўчора загадаў... не... што калі ты развітаешся са мной, развітаюся з жыццём...” Яна ж рассмяецца... Ну й няхай сабе – абы не маўчала, нібы мяне на свеце няма. “Нэла...” – пачаў я, не пазнаўшы свайго голасу, такога, нібы ён зусім не мой і наогул не чалавечы, і тут тралейбус спыніўся на Круглай плошчы.

“Жы-шу-шых!..” – расчыніліся дзверы – і ў іх лёгка, як парушынка, выскачыла Нэла.

Нават не развіталася.

Нават кандуктарка здзівілася.

Нават бабулі ёй услед зірнулі.

Больш ніхто з тралейбуса не выйшаў, ніхто не ўвайшоў – і дзверы зачыніліся: “Шых-жы-шу!..”

Мне ўспомніўся сіні каптурык у гэтым жа першым тралейбусе, толькі не зімовым, а вясновым, у якім пахла пралескамі – і я не паспрабаваў выскачыць у дзверы, пакуль яны зачыняліся. Раптам зразумеў, што Нэлу, як і сіні каптурык, не дaганю ўжо ніколі. І ніколі Нэла зноў не пакахае мяне, калі нават я знайду на Падлеснай тую ружовашчокую снягурку – і яна сыпане мне пад ногі ўсе, якія не закруціла яшчэ ў срэбныя фанцікі і не павесіла на елку, мандарыны.

Каля ўваходу ў тэхнікум мяне чакаў Лоб: “Табе да дырэктара”. “Чаго?” “Скуль мне ведаць? Я стараста, мне сказалі табе сказаць. Змерз, чакаючы. Да дырэктара – і ўсё”.

– Заходзь, – сам выйшаў у прыёмную дырэктар, як толькі сакратарка

прыадчыніла дзверы ў кабінет. – І ў кабінеце спытаў, калі я прытуліўся да кніжнай шафы, каб не хістацца. – Ты чаму не сказаў мне пра Нэлу?..

Адкуль ён ведае? Нехта з нашых сказаў? Ці Гурык? Або маёр Гагарын?

Мусіць, Гурык ці маёр... А калі нехта з нашых, дык хто?

Я хацеў адказаць: “Вы не пыталіся...” – але не знайшоў у сабе голаса. У кабінеце дырэктара Тумаса чамусьці паўтаралася ўсё тое, што было ў кабінеце маёра Гагарына. З графінам з саланаватай вадой, з голасам...

Дырэктар вырашыў не чакаць, пакуль голас да мяне вернецца. Падышоў бліжэй – я прыкінуў, як лепей за шафу ўпасці, калі ў пашчэнкі ўрэжа. А ён сказаў: “Вось што, Валодзя. Не вінаватых Пашкова з Ланскім выгнаць я не дам. Але больш не магу нічога. Глядзі сам, хлопчык, што табе па сіле. – І крануў даланёй мой лоб. – Ты хворы?..

Які я хворы! Як з такім дырэктарам можна захварэць! З такім дырэктарам мне пляваць і на Чапаева, і на маёра Гагарына, не кажучы ўжо пра Гурыка!

– Не, Павел Федаравіч, – сам сябе знайшоў ува мне мой голас. – Я не хворы, проста не спаў усю ноч.

Дырэктар пацёр пераноссе, вочы.

– І я не спаў... Ды яго судзіць трэба! – ускінуў ён руку і ўскудлаціў валасы. – Я ўсім гэтым партупеям так і сказаў. Гэта ж жах! А што будзе, калі гэта па Мінску пойдзе? Уяўляеш?.. Таму не аддадуць пад суд, хоць маёр моцна раззлаваўся. З характарам... Ён праўда біў Лоба?

– Ды не... Даў раз у зубы.

– Даў раз у зубы... Якое мае права?..

З апошняга пытання вынікала, што даць раз у зубы студэнту электратэхнікама сувязі мае права толькі дырэктар электратэхнікума сувязі, што абсалютна правільна – і я сказаў для сябе самога нечакана:

– Трэба было, каб вы самі Аджы ў лыч далі. Вы дырэктар – вам і не было б нічога.

Дырэктар хакнуў, як Палкоўнік звычайна хакаў, калі лічыў, што нехта дазваляе сабе болей, чым мае на тое права, і выштурхаў мяне, хворага, у дзверы, у якія недзе праз месяц, пасля зімовых канікулаў, выштурхалі й здаровага яго... Нэла заяву ў міліцыю не напісала, Аджы ўставілі новы зуб і перавялі з тэхнікума электрасувязі ў радыётэхнічны інстытут, удвая падвысілі стыпендыю, але дзядзька ягоны сябраваць з Хрушчовым усё адно не прыехаў, Савецкі Саюз пад ціскам амерыканцаў быў змушаны забраць з Кубы свае ракеты, праз якія ледзь не пачалася трэцяя сусветная вайна – і ва ўсім гэтым удзельнічала група ТР Мінскага электратэхнікума сувязі, дырэктара якога не выштурхаць з кабінета за ўсё гэта ну ніяк не маглі... Ды яшчэ маёр Гагарын раптам прыйшоў на выпускную вечарыну, пачаў шукаць дырэктара, а той б’ецца ў падвале з выпускнікамі. Дык хіба дзіва, што з такім дырэктарам студэнты зубы адзін аднаму выбіваюць?..

Калі Павел Федаравіч Тумас памёр, група ТР зайшла ў цір радыёзавода, узяла там усе, якія былі, вінтоўкі – і тройчы адсалютавала свайму дырэктару.

– Давайце за Паўла Фёдаравіча! – ужо не зважаючы на тое, што ў спартовай зале трэба спортам займацца, а не піць, кажа Лоб. – Я вось цяпер таксама дырэктар. Але я дырэктар не такі.

Лоб – дырэктар таго самага радыёзавода, на якім некалі кралі мы дэталі. Але сапраўды ён дырэктар не такі.

Усе па чарзе вып'юць, і расійскі алігарх Сатуш, які выпівае апошні, кажа:

– Мы ўсе не такія... – І пытае, як кожны раз пры нашых сустрэчах праз кожныя пяць гадоў. – Дык хто Князя здаў? Хто прызнаўся, калі дамаўляліся не прызнавацца, крок наперад руш!..

Ён не скамандаваў, забыўся, бо не староста, каб мы сталі ў шэраг – і мы становімся ў шэраг самі. Як рабілі гэта пяць, дзесяць і дваццаць гадоў таму. Сатуш глядзіць па чарзе на Лоба, Баліка, Ханеню, Жука, Ігана, Івашку, Сцепаненку, Стукача, Кашыца, на шэраг, які раз ад разу карацее і карацее, а яны глядзяць на мяне... І я ступіў бы крок наперад, але пра што тады праз наступныя пяць гадоў пытацца расійскаму алігарху Сатушу, калі ўсе ведаюць, хто павінен крок наперад ступіць – і гэта ў нас такая гульня.

## Навінкі, вар'ятня

– Ці хацеў я забіць Хрушчова?.. Хацеў! І Падгорнага забіць хацеў, і Мікаяна, і Брэжнева, і Суслава, і Шверніка, і Касыгіна, і Палянскага, і Воранава, і Казлова, і Ота Вільгельмавіча Куусінена з Нурытдзінам Акрамавічам Мухітдзінавым!..

Віл крычаў гэта ў нашай "курылцы" пад лесвіцай – у бібліятэцы. У ленінцы грозіў забіць самых верных ленінцаў з Прэзідыума ЦК КПСС...

Пасля "замаху" на жыццё Хрушчова нас каго праз дзень, каго праз тыдзень выпусцілі з турмы КДБ, але штодня цягалі на допыты. Праз допыты ў Віла пасыпаліся клёпкі.

Збоку ад лесвіцы ў бібліятэцы ўздымалася сцяна, з якой дзе-нідзе паападала тынкоўка, і Віл палез па сцяне, чапляючыся за шчыліны і выбоіны. Са сцяны й крычаў: "...і Ота Вільгельмавіча Куусінена з Нурытдзінам Акрамавічам Мухітдзінавым!.." – як толькі такое запомніў? Падняўся да трэцяга паверху – і зрынуўся. Нехта б забіўся, а ён нават палец не зламаў.

– Убогіх ды слесараў Бог беражэ, – сказаў Палкоўнік. Маючы на ўвазе, што Віл – убогі, а Біг – слесар.

Палкоўнік прарочыў Бігу: "Цябе адусюль папруць і ты скончыш жыццё на заводзе цеплавых агрэгатаў". І ўгадаў. Біга, які ведаў ці не ўсе мовы свету, выгналі з інстытута замежных моў – і ён зарабляў на хлеб слесарам. Кнігу напісаў: "Я – слесар!" Яе адразу ж выдала прафсаюзнае выдавецтва, Біг атрымаў ганарар ды яшчэ прэмію, за якую ўсе мы паехалі ў Крым і амаль месяц пілі навасвецкае шампанскае.

Праз тое, што ў Віла пасыпаліся клёпкі, ён зблізіўся з Бігам, які, ведаючы сто моваў свету ўключна з іўрытам, проста не мог быць нармальным. У яго нават меўся свой лекар – і Біг угаварыў Віла таму лекару паказацца.

– Мне сніцца, – казаў Віл, калі лекар спытаў, на што ён жаліцца, – адзін і той жа сон. З ночы ў ноч. Нібыта ў нейкім горадзе, дзе я невядома як апынуўся і не ведаю, што гэта за горад, атамны выбух. І ўздымаецца, вырастае над горадам ядзерны грыб. Я разумею, што зараз павінны палыхнуць агонь і ўдарыць выбуховая хваля, а яе ўсё няма. Грыб вісіць, я чакаю – няма хвалі! Я мярцвею, мяне халодны пот прабівае: куды яна падзелася?.. Так не можа быць, гэта супраць законаў фізікі!

– Але не супраць законаў псіхіятрыі, – расцягваў Вілу павекі і зазіраў у вочы лекар, які, сябруючы з бацькамі Біга, лекаваў іх сына і згадзіўся падлячыць Віла. А заадно й мяне, бо ў мяне бяссонніца – і круціцца ў галаве адно і тое:

Самалёт ляціць
Над усёй бальніцай.

Болей нічога ў галаве не круціцца.

Гэты лекар, які ўвесь круглы, таму ўсе Круглым яго й называюць, увогуле дзіўны. Яго б самога, як Воран кажа, лячыць. Вось ён сказаў Бігу пра законы псіхіятрыі – і тут жа дадаў, што ніякіх законаў у псіхіятрыі няма. Як у сне – хвалі ад выбуху. “Увогуле, – ён кажа, – няма нідзе і нічога”.

У Круглага рэпутацыя аднаго з лепшых псіхіятраў, ён друкуецца ў замежных спецыялізаваных выданнях, яго куды толькі ні запрашалі і што толькі яму ні прапаноўвалі, а ён працуе санітарам у вар’ятні ў Навінках, куды ўладкаваўся, каб капейчыну падрабіць, яшчэ тады, калі быў студэнтам. Цяпер ён, зразумела, лекар, але ў штатным раскладзе вар’ятні, як і ў студэнцкія гады, запісаны санітарам – і не жадае перапісвацца ў лекара. “Як я, – пытае, – магу быць лекарам, калі не ведаю, што я лякую?..”

Гарык Клябанаў казаў, што Круглы працуе не толькі ў вар’ятні, але і ў КДБ. Кансультантам. Выяўляе сімулянтаў, якія падрабляюцца пад псіхаў. Працу такую прапанавалі яму як ганаровую – і адмовіцца ад такой ганаровай працы ён не мог.

Яшчэ Гарык казаў, што якраз круглы лекар паставіў Палкоўніку, які на камсамольскім сходзе назваў Сталіна людажэрам, дыягназ: шызафрэнія. І Палкоўніка не расстралялі.

Віл з Бігам не баяліся, што іх расстраляюць. Псіхі расстрэлу не баяцца. А вось, што пасадзяць, баяліся. Нават перакананыя былі, што пасадзяць, і заклаліся на “амерыканку”, каго пасадзяць першага. Віл заклаўся, што першым пасадзяць Біга, Біг – што Віла. Хто прайграе, той, як дамовіліся яны ў закладзе на “амерыканку”, галяком прабягае па “брадвэі” паўз будыніну КДБ ад вуліцы Камсамольскай да вуліцы Валадарскага.

Першым пасадзілі Эдзіка Гарачага. Біг з Вілам абодва прайгралі і вырашылі галяком не бегаць, але Палкоўнік, якога тады яшчэ не пасадзілі, сказаў, што гэта няправільна. Калі абодва прайгралі – абодва павінны бегчы. Інакш парушаецца прынцып гульні ў “амерыканку”, а прынцыпы парушаць нельга. З Палкоўнікам не паспрачаешся – і Віл з Бігам пабеглі на пару, павязаўшы на грудзі, як лёгкаатлеты, папяровыя нумары: 3012 і 3623. З парадных дзвярэй КДБ, у якія, здавалася, ніхто ніколі не ўваходзіў і з якіх ніхто не выходзіў, гэтым разам выйшлі два гэбісты і няўцямна праводзілі позіркамі двух голых лёгкаатлетаў, якія на рагу вуліцы Валадарскага і праспекта Леніна ўскочылі ў таксі. З таксістам загадзя было пра ўсё дамоўлена – і ён рвануў да Нямігі.

Круглы доктар, вярнуўшыся з КДБ пасля сваіх кансультацый, сказаў бацькам Біга, што калі іх сына арыштуюць, дык не за тое, што голы па горадзе бегае. Як і Віла не за тое пасадзяць. Справу антысавецкай групоўкі запатрабавалі ў Маскву. Значыць, рыхтуюць нешта сур’ёзнае. Так што трэба думаць, як выкручвацца. Недзе хавацца. А як выкручвацца? Дзе хавацца? І доктар, які кансультаваў КДБ адносна сімулянтаў, прапанаваў: у Навінках. У бальніцы для такіх псіхаў, як Біг з Вілам, якія голымі па вуліцах бегаюць. Нічога лепшага яны, калі б і хацелі, не прыдумалі б...

Паколькі я таксама баяўся, што мяне пасадзяць, і ў маёй галаве круціўся самалёт над усёй бальніцай, я разам з Вілам і Бігам прыйшоў да круглага доктара на прыём, і ён Бігу, Вілу і мне паставіў дыягназ: дэлірыёзны сінд-

ром. Адзін на трох. “Пілі, – спытаў, – партвейн? Вось і дапіліся”. І сказаў, каб заўтра прыехалі ў бальніцу. Я не хацеў, у мяне клёпкі не сыпаліся, а Круглы прапанаваў: “Тады едзь на Калыму”.

Я ўспомніў, якім з Калымы вярнуўся Эдзі Рознэр, і назаўтра разам з Бігам і Вілам быў у вар’ятні.

Круглы паклаў нас у палату да сапраўдных псіхаў. “Каб усё, – сказаў, – можна было пацвердзіць дакументальна”.

У палаце было дзесяць хворых на галаву – з намі стала трынаццаць. Віл пералічыў: “Чортаў тузін. Нічога добрага нас тут не чакае”.

А калі б не чортаў тузін, дык што ў вар’ятні магло чакаць добрага? З якога боку?..

Мой сусед злева чакаў таракана. Да яго ўжо прыходзіў таракан, сказаў, што прынясе пельмені. І не прынёс. Сусед чакаў і ўдзень, і ўночы, бо пры дэлірыёзе – бяссонне.

Віл, каб майму суседу весялей было чакаць, гуляў з ім у дурня на шчаўбаны. Казаў, калі выйграваў: “Я шчаўбаню – ты прайграў”. Калі прайграваў, казаў: “Ты выйграў – я шчаўбаню”. І мой сусед падстаўляў лоб – ніводнага разу не запярэчыў. “Не таму, што дурны, – казаў Віл. – А таму, што логіка”.

На ложку справа ад мяне ляжаў чалавек, які з дня ў дзень чытаў адну і тую кнігу, назву якой я не мог разгледзець, бо кніга была ў абгортцы. Час ад часу ён усклікваў: “Як сказана! Ах, як сказана! На вякі!..” – і мне карцела дазнацца: што ж там за кніга такая вечная?

– Абсалютная ісціна!.. – ускочыў аднойчы, неяк асабліва ўзбудзіўшыся, чытач вечнай кнігі. – Вы паслухайце!.. “Ці мысліць чалавек пры дапамозе мозга?” Пытанне? Яшчэ якое! І паслухайце, як яно развіваецца!.. “Адчуванне ёсць суб’ектыўны вобраз аб’ектыўнага свету. Прызнаваць аб’ектыўную, гэта значыць такую, якая не залежыць ад чалавека і чалавецтва ісціну, азначае так ці інакш прызнаць ісціну абсалютную”. Вы прызнаеце абсалютную ісціну?..

Я не ведаў, ці прызнаю я абсалютную ісціну, але на ўсялякі выпадак кіўнуў...

– І тым самым сцвярджаеце яе! – абсалютна задаволіўся маім кіўком мой сусед. – Бо, як сказана, “абсалютная ісціна складваецца з сумы адносных ісцін!” Ідзём далей! Глядзіце, якая логіка! Якая няўмольнасць!.. “Рух матэрыі не можа адбывацца інакш, як у часе і прасторы. З гэтага вынікае, што той, хто прызнае існаванне аб’ектыўнай рэальнасці, нашай з вамі, – сусед паказаў на сябе і на мяне, – абсалютнай ісціны, непазбежна павінен прызнаваць таксама аб’ектыўную рэальнасць часу і прасторы!” Вы прызнаеце аб’ектыўную рэальнасць часу і прасторы?..

Ён быў утрая старэйшы за мяне, але звяртаўся да мяне на вы, да таго ж, падобна было, лічыў, што я гэткі ж разумны, як ён, таму аб’ектыўную рэальнасць часу і прасторы я прызнаў без ваганняў.

– Дык вось, – усклікнуў сусед так, нібы, каб мы з ім гэтага не прызналі, часу і прасторы не было б, – цяпер галоўнае. Усё гэта адносіцца як да рэальнасці ў рэальнасці, так і да рэальнасці ў нашай свядомасці. “Свядомасць існуе рэальна; яна не ёсць нешта, што не ўласцівае прыродзе, а гэткі самы натуральны яе прадукт, як і тыя матэрыяльныя аб’екты, якія надзеленыя свядомасцю, як уласцівай ім унутранай якасцю. Таму супрацьпастаўленне матэрыі і свядомасці адноснае і мае безумоўнае значэнне толькі ў вышэйназваных межах. За гэтымі межамі аперыраваць з супра-

цыпастаўленнямі матэрыі і духу, фізічнага і псіхічнага, як з абсалютным супрацьпастаўленнем, было б велізарнай памылкай". Рузумееце? А доктар аперырує! Ён проста рэжа мяне без нажа!..

Сусед сеў на ложку ў позе лотаса, прыціснуў кнігу да грудзей:

– Ну, як вам?..

Я не ведаў, што сказаць, і сказаў: "На вякі..."

– Так! – адкінуў кнігу і накінуўся з абдымкамі сусед. – На вякі! І ўсе правы навечна пераходзяць да мяне, жывы застаўся толькі пляменнік, але ён у Мюнхене, параноік і хутка памрэ. Разумееце?..

Я не стаў удакладняць, хто гэты параноік, які ў Мюнхене хутка памрэ.

– Чаму да вас?

– Бо мая маці, перш чым стаць жонкай Гітлера, была жонкай Леніна. І захавала права спадчыны на ўсё, што напісаў Гітлер, як новая жонка, і на ўсё, што напісаў Ленін, як жонка старая. Ну, былая. Разумееце?..

Аказалася: мой сусед справа – сын Надзеі Канстанцінаўны Крупскай і Адольфа Гітлера, за якога Крупская выйшла замуж, калі Ленін памёр. Болей у Гітлера дзяцей няма. І ў Леніна няма, але жывы пакуль сын ягонага старэйшага брата. Вось той сын у Мюнхене памрэ – і мой сусед застанецца адзіным праваўладальнікам спадчыны Гітлера і Леніна. З правам на ганарар ад выдання ўсіх іх кніг. "Вы не ўяўляеце, якія гэта грошы! – Ён паказаў на абшарпаныя, з аблупленай фарбай сцены палаты. – Хопіць на новую бальніцу для ўсяго Мінска! Для БССР і ўсяго СССР! І яшчэ на самалёт..."

Самалёт ляціць

Над усёй бальніцай.

І нічога болей.

З маімі суседзямі праблем не было. Адзін ціха чакаў таракана, які прынясе пельмені, другі чытаў сабе і чытаў "Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм", чакаючы, пакуль пляменнік Леніна ў Мюнхіне памрэ. А вось с суседзямі Віла былі праблемы. Асабліва з адным.

Суседам Віла быў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Першы сакратар ЦК КПСС, праз якога мы й апынуліся ў псіхушцы. Днём ён ставаў за тумбачку, што імітавала трыбуну, і чытаў лекцыі па міжнароднай сітуацыі, якая з кожнай лекцыяй усё ўскладнялася, а начамі ўскокваў і патрабаваў неадкладна склікаць Прэзідыум ЦК КПСС. Штоночы яго вязалі санітары Цмок з Цыклопам, а ён штоночы ўскокваў, крычаў, патрабаваў...

– Ды дайце вы яму правесці прэзідыум! – праз тыдзень не вытраваў Віл. – Дастаў!

– Дадзім, – згадзіўся Круглы. – Калі вы згодныя ўвайсці ў ягоны склад.

Ні Віл, ні Біг, ні я Круглага не зразумелі.

– У склад чаго?

– Прэзідыума ЦК КПСС. Швернікам, Касыгіным і Казловым. Хрушчоў, Падгорны, Брэжнеў, Мікаян, Палянскі, Суслаў і астатнія ў нас ёсць.

Палкоўнік праўду казаў: гэтага лекара самога лячыць трэба.

– А Ота Вільгельмавіч Куусінен з Нурытдзінам Акрамавічам Мухітдзінавым, – спытаў Віл, бо толькі ён мог гэта выгаварыць, – ёсць таксама?

– Ёсць, – паказаў Круглы ў кут палаты, дзе ляжаў такі сухенькі, нібы ён муміфікаваны, дзядок. – І што цікава: адзін за двух. Куусінен-Мухітдзінаў. Не верыце? Спытайце яго самога.

Віл не паленаваўся, падышоў да дзядка:

– Скажыце: вы хто?

– Куусінен-Мухітдзінаў.

Віл сказаў вінавата: “Выбачайце, не пазнаў”. І падаў руку:

– Швернік.

Біг згадзіўся быць Касыгіным, а ў мяне ўжо не было выбару: толькі Казлоў. Я да гэтай пары не ведаю, чым ён, той Казлоў, у тым прэзідыуме ЦК КПСС займаўся. Можа, і нічым, проста быў у прэзідыуме. Як мы ў вар'ятні.

Калі наведаць нас прыйшлі Палкоўнік з Асяй і Воранам, і мы сказалі ім, хто мы цяпер ёсць, і што ў вар'ятні рыхтуецца паседжанне Прэзідыума ЦК КПСС, яны таксама захацелі на тым паседжанні быць. Паколькі вакантнымі заставаліся толькі месцы кандыдатаў у склад Прэзідыума, Круглы прапанаваў Палкоўніку стаць Рашыдавым, а Ворану – Шчарбіцкім. Асі ён сказаў, што яна, калі хоча, можа быць Мжаванадзэ, бо мужчына гэта ці жанчына – па прозвішчы не распазнаць.

Ася згадзілася, а Воран раптам заўпарціўся, захацеў стаць не першым сакратаром ЦК кампартыі Украіны Шчарбіцкім, а першым сакратаром ЦК кампартыі Беларусі Мазуравым. Каб ўратаваць Нямігу. Круглы не стаў пярэчыць. “Ставай. Ратуй. Ты Мазураў”.

Хрушчоў склікаў Прэзідыум у той жа дзень: “Нарэшце, таварышы, у нас кворум!..”

Апроч сяброў Прэзідыума і кандыдатаў у яго, быў запрошаны, як сакратар, доктар Круглы, а таксама, па прапанове сакратара, таварышы Цмок і Цыклоп – прадстаўнікі братняй румынскай і братняй албанскай камуністычных партый. Узнікла пытанне з сынам Крупскай і Гітлера, які, як сын Крупскай, а значыць, не чужы чалавек Леніну, на Прэзідыуме прысутнічаць нібыта мог, а як сын Гітлера – ні ў якім разе. На гэта сын Гітлера сказаў, што ён, можа быць, і не сын Гітлера, а сын Леніна, тут ёсць няпэўнасць, а вось тое, што ён сын Крупскай – гэта пэўна, і пэўнасць у такім выпадку няпэўнасць пераважае. Пачаліся спрэчкі, якія спыніў Хрушчоў, сказаўшы, што сын Гітлера ці Леніна выступае фундатарам пабудовы новай бальніцы, так што не мае значэння, чый ён сын – няхай сабе і Гітлера. Тым больш, што ягоная маці – Крупская.

– Дарэчы, пра жанчын, – працягнуў Хрушчоў, палічыўшы папярэдняе пытанне вырашаным. – Пераважная большасць насельніцтва СССР – жанчыны, а яны не прадстаўленыя ў Прэзідыуме ЦК КПСС належным чынам. Гэта наша недапрацоўка, таварышы. Палітычная памылка. Трэба яе выпраўляць. Я прапаную, каб у склад Прэзідыума ўвайшла таварыш Мжаванадзэ. Хто – за?

Паглядзеўшы на Асю, паднялі рукі ўсе, апроч сухенькага дзядка ў куце палаты: Куусінена-Мухітдзінава.

– Аднагалосна, – з уласцівым яму валюнтарызмам пастанавіў Хрушчоў, але Куусінен-Мухітдзінаў не згадзіўся:

– Я супраць. Таварыша Мжаванадзэ я ведаю, ён першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі, а не жанчына.

– Тым больш, – сказаў Хрушчоў. – Пераходзім да міжнароднай сітуацыі. – Слова прадастаўляецца мне. І вось што я вам скажу: пры Сталіне Савецкаму Саюзу не ўдаўся ваенны прарыў у Лацінскую Амерыку, а пры мне ўдаўся! І мы не павінны выводзіць з Кубы нашы ракеты! Калі ўжо мы іх туды ўвялі, няхай яны там стаяць! Гэта правільна! А ўвесці і вывесці – няправільна! Тут і галасаваць няма чаго, таму пераходзім...

– Як гэта няма чаго?.. – падняў руку Палкоўнік, і Круглы, які вёў пратакол, сказаў:

– Таварыш Рашыдаў супраць.

Палкоўнік падышоў да тумбачкі, за якой стаяў Хрушчоў. Я здзівіўся – і ўсе нашы, як і я, здзівіліся: чаго раптам ён у гэта ўлез?

– Так, я супраць. Нашы ракеты на Кубе – гэта вайна. Ваенны патэнцыял СССР значна саступае ваеннаму патэнцыялу ЗША. У выпадку вайны не толькі ад Кубы нічога не застанецца – нас таксама не стане. Таму...

– Таму, – перапыніў яго Хрушчоў, – я прапаную вывесці таварыша Рашыдава са складу Прэзідыума ЦК КПСС за дыскрэдытацыю палітыкі партыі і савецкіх узброеных сіл. Пайшо-о-ў во-о-н! – зняўшы тапак, ляснуў ён па тумбачцы.

Гэты “Хрушчоў” здорава ўжыўся ў ролю сапраўднага Хрушчова... Да яго, раз’юшанага, падскочылі прадстаўнікі румынскай і албанскай кампартый, паглядзелі на Круглага, але той пакруціў галавой: “Не чапаць...” – і Цмок з Цыклопам узялі пад рукі і адвялі ўбок Палкоўніка.

– Прапаную прысвоіць нашым румынскім і албанскім таварышам званне Герой Савецкага Саюза, – нацягваючы тапак і падскокваючы на адной назе доўжыў Хрушчоў, – і перайсці да пытання будаўніцтва бальніцы. Без яе немагчымая пабудова камунізму. У камунізме неабходна: а) нешта есці; б) недзе жыць; в) неяк лекавацца. Усе гэтыя праблемы комплексна вырашае бальніца. Мы ў ёй: а) ядзім; б) жывём; в) лякуемся. Але бальніца старая, цесная. Нам трэба вырашыць, на колькі месцаў будаваць новую? Інакш кажучы: колькі савецкіх людзей мы прапускаем у камунізм? Слова мае таварыш Крупскі.

– Грамадства ёсць адасобленая частка прыроды, – з кнігай у руках падышоў да тумбачкі сын Крупскай і Гітлера. – У гэтай адасобленай частцы ёсць яшчэ свае адасобленыя часткі. Таму таварыш Ленін убачыў магчымасць пабудовы сацыялізму ў адной, асобна ўзятай краіне. А таварыш Хрушчоў – камунізму ў асобнай бальніцы. Прыблізна на 250 мільёнаў чалавек. Я падлічыў... – ён дастаў з кнігі паперчыну. – Пры норме 6 квадратных метраў на чалавека плошча бальніцы камунізма – 1 мільярд 500 мільёнаў квадратных метраў. Гэта 1% зямной сушы. Прыблізна.

– Не так і многа, – сказаў вечна задыханы, бо ўсё некуды бегаў і нешта шукаў чарнявы мужык. – Мінск у колькі разоў большы?

– Мінск значна меншы, – неяк вінавата сказаў сын Гітлера і Крупскай, – і чарнявы няўцямна паглядзеў на яго і павярнуўся да ўсіх:

– Як гэта?.. Як мы ў меншым збудуем большае?..

Усе, апроч Хрушчова, задумаліся.

– Ты служыў, Лёня, – спытаў ён чарнявага, – у дэсантных войсках?.. Нідзе ты не служыў, толькі ў камсамоле. Але парашут бачыў? Ён жа большы за валізу, у якую яго запіхваюць! – Хрушчоў выйшаў з-за тумбачкі. – Мы выйдзем за Мінск. За БССР! За Савецкі Саюз выйдзем! Да нас ужо практычна далучыліся Балгарыя і Манголія! Камунізм пераможа ва ўсім свеце, таварыш Брэжнеў! Ці ты ў гэта не верыш?.. Хто яшчэ не верыць?

Чарнявы абмяк: “Веру, Мікіта Сяргеевіч...” – а Палкоўнік зноў падняў руку:

– Я не веру!

Хрушчова на плямы пабіла.

– Таварыш Рашыдаў выведзены са складу Прэзідыума ЦК КПСС! Вывесці яго!

Героі Савецкага Саюза Цмок і Цыклоп пацягнулі Палкоўніка да дзвярэй. Ён упіраўся, крычаў: “Хрушчоў стварае новы культ!..” – і азіраўся на Круглага, але той быў безуважны, і Цмок з Цыклопам выпіхнулі Палкоўніка з палаты.

Калі адчыняліся і зачыняліся дзверы, я паспеў заўважыць, як за імі мільгнуў маёр Гагарын. Што ён робіць тут? Чаму ён у вар’ятні? Стаў касманаўтам Гагарыным?..

Палкоўнік, канечне, не зусім нармальны, гэта факт, калі ў спрэчкі з вар’ятамі ўлез. Але ж і Біг з Вілам таксама не зусім нармальныя, Біг нават больш ненармальны, чым Палкоўнік, а яны вунь сядзяць, ні ў што не ўлазячы, толькі галасуюць за ўсё, што прапаноўвае Хрушчоў, які спытаў пераможна:

– Хто, апроч Рашыдава, лічыць, што я ствараю культ?..

Прэзідыум маўчаў. Падобна было, што ніхто, апроч Рашыдава, гэтак не лічыць, але раптам мучніста-белы, па-жаночаму на два бакі расчасаны псіх пераміргнуўся з Брэжневым і выскачыў на сярэдзіну палаты:

– Я!

– Слова таварышу Палянскаму! – тут жа абвясціў Круглы, пра якога я ўжо не думаў, як пра доктара. Гэткі ж хворы на галаву, як Куусінен-Мухітдзінаў ці сын Крупскай і Гітлера.

– Хто ў нас таварыш Хрушчоў? – нечакана цвёрда спытаў мучністы Палянскі. – Ён і Першы сакратар ЦК партыі, і Старшыня Савета Міністраў СССР, і Старшыня Бюро ЦК КПСС па РСФСР, і Вярхоўны галоўнакамандуючы – чым не Сталін? У ягоных руках уся ўлада! І як ён карыстаецца ёю? Узнагароджвае не толькі румынскіх і албанскіх таварышаў – Насэра ўзнагародзіў! Нацыяналіста! Прысвоіў яму званне Героя Савецкага Саюза ды яшчэ даў 300 мільёнаў залатых рублёў – і цяпер нам не хапае сродкаў на бальніцу!

Хрушчоў падскочыў:

– Таварыш Насэр будуе ў Егіпце сацыялізм!

– Які сацыялізм?.. Сацыялізм у імя Алаха, па волі якога Насэр знішчае камуністаў! Што гэта за сацыялізм без камуністаў? Можа, вы і камунізм такі, без камуністаў, збіраецеся будаваць, Мікіта Сяргеевіч? – І Палянскі ўзмахнуў рухамі, як бы абдымаючы ўвесь Прэзідыум ЦК і кандыдатаў у яго чальцы. – Без нас?

– Ды я цябе... ды я вас... – абапіраючыся на тумбачку, пачаў наліваццa крывёй Хрушчоў... – ды кім вы былі, пакуль я вас не падняў, не выцягнуў... вось ты кім быў, Палянскі-Падлянскі!? Арэнбургскім валёнкам! А я цябе са стэпу ў Крэмль! Ці ты, Ста-а-ршыня Прэ-э-зідыума Вярхоўнага Савета таварыш Па-а-дгорны, кім быў? Нікім! Ды ты нікім і не стаў! Як быў цукровым інжынерам, так ім і застаўся. Ты цукру ў гарбату больш за іншых насыпаеш, я колькі разоў заўважаў!.. – раптам з кулакамі накінуўся Хрушчоў чамусьці менавіта на Падгорнага, лысага псіха, які сядзеў на ложку, слова не прамовіўшы, а Хрушчоў так заехаў яму, што кроў пайшла... Палянскі з Брэжневым заступіліся за Падгорнага, Куусінен-Мухітдзінаў, які аказаўся дзядком на дзіва спрытным – за Хрушчова, паўскоквалі астатнія псіхі, і пачалася штурханіна, якая перарасла ў такую бойку, што героі Савецкага Саюза Цмок з Цыклопам ледзь спраўляліся расцягваць і вязаць да ложкаў сяброў і кандыдатаў у чальцы Прэзідыума ЦК КПСС...

– Што гэта было? – спытаў Віл Круглага, які прывёў нас з палаты ў

свой, каля адной сцяны завалены матрацамі, кабінет, і Круглы пачаў тлумачыць распрацаваную ім новую методыку лекавання, па якой для псіхаў ствараюцца рэальныя ўмовы, што адпавядаюць іх хворым уяўленням, даюць магчымасць “Хрушчову” выявіць сябе Хрушчовым, “Палянскаму” – Палянскім, і ў такіх умовах пры адпаведнай схеме медыкаметознага ўздзеяння гэтыя леніны з гітлерамі і хрушчовы з палянскімі пачынаюць успрымаць і асэнсоўваць свае хворыя ўяўленні менавіта як хваробу, што і ёсць першы крок да нармалізацыі іх псіхічнага стану. Далей ужо лекаваць прасцей, бо да лекавання падключаецца свядомасць хворага, але для таго, каб увесь гэты працэс пачаўся, неабходная моцная псіхалагічная правакацыя. Вось яна сёння і ўдалася, за што дзякуй нам усім і найперш Палкоўніку – толькі не трэба было правакаваць антысаветчынай, хоць, з іншага боку, чым яшчэ?..

Я не надта разумеў тое, што тлумачыў Круглы, і не надта ў тое верыў. Віл з Бігам, якім я паспеў сказаць, што ў вар’ятні не толькі мы, але і маёр Гагарын, таксама, як я бачыў, не надта Кругламу паверылі, і ён паклікаў, чаго не было раней, Цмока, каб той адвёў нас у палату, у якой на ложку псіха, які называў сябе сакратаром ЦК Суславым, мы ўбачылі Палкоўніка. Ён сядзеў, паклаўшы на галаву падушку і ўчапіўшыся рукамі ў навалку.

– А Суслаў дзе? – спытаў Віл Хрушчова, і той сказаў, што не ведае, бо Суслаў ніякі не Суслаў, яго ў Прэзідыум ЦК КПСС падсунулі.

Біг спытаў: “Хто падсунуў?” Хрушчоў адказаў: “Амерыканцы”.

– Значыць, стукач, – з боку ў бок закалыхаўся Палкоўнік. – Мяне не выпусцілі. Ворана з Асяй выпусцілі, а мяне – не. І да Круглага мяне не пускаюць. Вось пабачыце: нас тут прызнаюць хворымі – і будзем сядзець. Без суда. Гэты гэбэшнік нас надурыў.

Я падумаў, ён пра маёра Гагарына, а ён, аказалася, пра Круглага, які яшчэ тады, калі Палкоўніка пасадзілі ў вар’ятню за Сталіна, даў заключэнне, што Палкоўнік нармальны і можа несці адказнасць за свае дзеянні. А Гарык Клябанаў казаў, што Палкоўніка якраз Круглы зратаваў.

Палкоўнік сцягнуў з галавы падушку – скура каля правай скроні была здзёртая, на падушцы засталася кроў.

– Гэта сам Круглы і прыдумаў, і ўсім распавядаў, нібы мяне ўратаваў, калі ў КДБ вырашылі, што лепш усё ж мець ненармальнага студэнта, які Сталіна людажэрам назваў, чым нармальнага. Тое самае, відаць, яны й цяпер пастанавілі. Хто рыхтаваў замах на Хрушчова ў Мінску? Вар’яты! І дзе яны? У турме? А што з імі ў турме рабіць? Яны ў вар’ятні, дзе іх лечаць! Яны там яшчэ й вар’яцкае паседжанне Прэзідыума ЦК КПСС правялі, Хрушчова хацелі скінуць...

Палкоўнік прамаўляў гэта, раз-пораз кранаючы рану каля скроні, кранаў пальцам і палец аблізваў, кранаў і аблізваў – і раптам я зразумеў тое, чаго не хацеў разумець: мне адсюль не выйсці! Невядома на колькі, калі не на ўсё жыццё, я застануся тут – і мой сусед злева будзе чакаць і чакаць таракана, а сусед справа чытаць і чытаць Леніна!

Я звар’яцею!

– Пусціце! – кінуўся я да дзвярэй, зачапіўся за тумбачку, упаў, Цмок з Цыклопам схапілі мяне, пацягнулі на ложак, прывязалі, я біўся ў канвульсіях: “Не хачу!.. Пусціце!.. Гады! Гады! Гады!..”– і Цыклоп сеў на мяне, прыдушыў, прыціснуў да матраца руку, а Цмок нешта ўкалоў – і перш, чым мяне не стала, я ўбачыў сон, які сніўся Вілу, толькі даўжэйшы і з іншым канцом:

...нібыта ў нейкім горадзе, дзе я невядома як апынуўся і не ведаю, што гэта за горад, атамны выбух. І ўздымаецца, вырастае над горадам ядзерны грыб. Я разумею, што зараз павінен палыхнуць агонь і ўдарыць выбуховая хваля – і далёка, на небасхіле, нешта бліскае, як маланка, бляск шырыцца, запаўняе нябёсы, становіцца нясцерпным, але ўсё ж большая за нясцерпнасць святла нясцерпнасць глухаты і нематы, адсутнасць хоць якога-небудзь гуку: я крычу, крычу, крычу, не чуючы свайго голасу, і ад гэтага яшчэ страшней. Выбуховая хваля змятае горад у поўнай цішыні: вунь звон сарвала з царкоўнай званіцы, і ён, нема матляючы языком, ляціць разам з дрэвамі, бёрнамі, камянямі, жалеззем, і ўсё гэта сыплецца, падае, абрынаецца на людзей, што выбягаюць з разбураных дамоў і крычаць, крычаць, крычаць, а іх не чуваць, яны не чуюць самі сябе і ніхто іх не чуе. На імгненне я азіраюся: ззаду сіняя рака, за ёй, на тым беразе, зялёная лугавіна, над якой блакітнае, з белымі аблачынкамі, неба, і трэба бегчы ў той бок, а ўсе бягуць у бок зваротны, туды, дзе бляск, дзе ўсе запальваюцца адзін ад аднаго, нібы паходня ад паходні. Я ўспыхваю, агорнуты, як чырвонай прасцінай, агнём, які зусім не пячэ, у якім можна купацца, як у сіняй рацэ, за якой зялёная лугавіна і блакітнае, з белымі аблачынкамі, неба,у якім я чую нарэшце гук: лёгкі-лёгкі пошум полымя – і мяне пакідае страх.

## Новы свет, былы рай

Палкоўніка зноў забралі, калі мы яшчэ ў вар'ятні былі, і Гурык сказаў, што ўжо не выпусцяць, а яго чамусьці выпусцілі. Мы сабраліся ў Крым, каб прагуляць ганарар, які Біг атрымаў за кнігу пра слесара, і не думалі, што Палкоўнік з намі паедзе, таму й прапанавалі яму паехаць, а ён згадзіўся: «Збягу. Няхай ловяць». У яго таксама было не пуста ў кішэнях, з ім разлічыліся за дысертацыю, напісаную для нейкага новага доктара навук па этнаграфіі, і Палкоўнік даклаў заробак у агульную касу – да ганарара Біга за кнігу.

У нас была гара грошай. Столькі я ніколі не бачыў.

– Калі Палкоўнік едзе, тады й Аса давайце возьмем, – прапанаваў Віл. – Каб у гурце вар'ятаў быў камплект.

У нашай кампаніі гралі на гітары не толькі Гарык Клябанаў і Віл, але й Воран, а таксама, што ўсіх здзіўляла, Ас. Прычым, Ас, умеючы лепш за ўсіх свістаць, імітуючы палёт куль ды асколкаў, яшчэ і граў лепш за ўсіх: не адно так званым гітарным "боем", усімі пальцамі па ўсіх струнах, але й шчыпкамі, пераборамі, і ніхто не мог ад яго дазнацца, дзе ён так граць навучыўся, бо ён сам гэтага не ведаў. Вось Віл і прыдумаў паехаць у Крым не проста звычайнай кампаніяй, адной з многіх, якія едуць летам на поўдзень, а музычным гуртам "Varjaty".

Шкада, што ні Вілу, ні яшчэ камусьці з нас не прыйшло ў галаву назвацца гуртам "Beatles". Гралі мы ў той час амаль тое самае, што й ліверпульская чацвёрка: запісы з альбомаў Літла Рычарда, Чака Беры, Карла Пернікса, якія дасылалі Вілу ягоныя сябры па радыёэфіры. Гэтаксама як Ленан з Макартні, Гарык з Вілам перараблялі ў рок-н-ролы блюзы і джаз, і, выступаючы на прыступках Тэатра юнага гледача ў Мінску з Асам і Воранам, мелі поспех не меншы, чым мелі яго ў клубе "Jacaranada" ў Ліверпулі хлопцы з гурту "Quarrymen" – будучыя бітлы. Так што хто ведае, як яно магло стацца, калі б наш Палкоўнік быў Аланам Уільямсам, які сасватаў

нячэсаных ліверпульцаў немцу Бруна Кашмідзеру, а той выцягнуў іх у Гамбург, дзе яны запісалі свае першыя песні, адна з якіх, “My Bonnie”, зусім і не іхняя, прыдуманая народам Ірландыі. Ці калі б Ася Бланк была Астрыд Кірхгер, якая прыдумала для бітлаў зачэсаныя на лоб і вушы валасы і пінжакі без каўнерыкаў і лацканаў. Хоць яшчэ невядома, што круцей: тыя пінжакі ад Кардэна ці генеральскі шынель Аса...

Біг прапанаваў назваць гурт “Crazy”, бо яно тое самае, што вар’яты, толькі па-ангельску, але ягоную прапанову адмялі. Ангельскую мову на Крымскай паўвыспе нехта ж можа ведаць, а беларускую – ніхто, таму надпісы Varjaty на нашых гітарах будуць чытаццца, хутчэй за ўсё, як вар’етэ, за што міліцыя, можа быць, і не прычэпіцца. А калі прычэпіцца, дык у нас ёсць даведкі, што мы насамрэч прыдуркі: лячыліся ў псіхушцы. Гэтыя даведкі з круглымі пячаткамі, выдадзеныя нам круглым доктарам, Біг з Вілам хацелі выкінуць, дый мне такая даведка была без патрэбы, але Палкоўнік, вар’ят з досведам, сказаў, што мы проста не разумеем, якія займелі дакументы, і загадаў здаць іх яму, як дырэктару гурта “Varjaty”.

Ас вельмі хацеў паехаць з намі. Каб мы ўзялі яго, ён сказаў, што ў Крыме ваяваў, і правядзе нас па баявых мясцінах.

– Па якіх? – спытаў Воран, і Ас адказаў, што збіваў нямецкія самалёты над усім Крымам, так што баявыя мясціны там у яго паўсюль, але найлепшая мясціна ў Гурзуфе, дзе ён папраўляў здароўе ў санаторыі пасля вайны.

Вырашылі ехаць у Гурзуф.

У плацкартным вагоне цягніка «Мінск-Сімферопаль» было душна і віскліва. Вагон быў набіты дзецьмі, якіх везлі аздараўляцца ў «Артэк», самы прэстыжны ў СССР піянерскі лагер, праз што дзеці лічылі сябе, мусібыць, элітнымі і паводзіліся нахабна. Палкоўнік, які не трываў дзяцей ні хворых, ні здаровых, ні звычайных, ні элітных, прыгразіў, што будзе скідваць іх пад адхон каля кожнага кіламетровага слупа, і тады Віл, які дзяцей любіў, схадзіў да брыгадзіра цягніка, вярнуўшыся з квітком у мяккае купэ, куды й перавялі Палкоўніка. Перад тым, на вакзале, брыгадзір крычаў пасажырам, якія штурмавалі цягнік: «У мяне й без вас людзі на галовах адзін у аднаго сядзяць! Ні ў адным вагоне ніводнага вольнага месца!..» – і тым не менш месца знайшлося. Некаму, мусібыць, брыгадзір адарваў галаву.

Грошы дапамагаюць не толькі вырашаць праблемы, але й ствараюць іх. Не было б у нас грошай – не перасеў бы Палкоўнік у мяккае купэ і не пазнаёміўся б з круглаватым у таліі мужыком, з якім выйшаў з вагона на вакзале ў Сімферопалі і абвясціў, што мы едзем не ў Гурзуф, дзе пасля вайны папраўляў здароўе Ас і дзе цяпер наўрад ці нас нехта чакае, а ў Новы Свет, дзе да вайны, прычым, яшчэ да першай сусветнай, жыў граф Галіцын, які вырабляў знакамітае навасвецкае шампанскае, і куды запрашае нас таварыш Маркач – старшыня Навасвецкай пасялковай рады і наш зямляк.

Старшыню пасялковай рады чакаў на вакзале грузавік. Цяжкагрузны «КРАЗ», які, як сказаў Віл, зжырае на адзін кіламетр прыблізна столькі ж бензіну, колькі легкавушка на сто. . І такая махіна амаль дзвесце кіламетраў ехала па старшыню сюды – і амаль дзвесце будзе ехаць назад? «Службовую рамантуюць», – патлумачыў Маркач. Ён запрасіў Палкоўніка ў кабіну, а ўсе астатнія з намётамі, гумавай лодкай, аквалангам, заплечнікамі і гітарамі залезлі ў кузаў. У меншую машыну мы і не ўмясціліся б, так што ад пачатку былі ўдзячныя нашаму земляку, які не звык ездзіць на грамадскім транспарце.

Доўга-доўга мы трэсліся ў кузаве «КРАЗа» да Судака, паўзлі па горнай дарозе, ледзь не зваліўшыся з яе, да Новага Свету, сапрэлі, згаладаліся, а Палкоўнік пацягнуў нас з дарогі на сход, на якім мы, артысты гурту «Varjaty», павінны зараз жа выступіць у падтрымку нашага земляка – кандыдата ў дэпутаты Навасвецкай пасялковай рады, у якую ён павінен абрацца, каб застацца старшынёй, за што абяцае накарміць нас шашлыкамі. Аказалася, мы патрапілі ў Новы Свет за два тыдні да мясцовых выбараў – і Палкоўнік вырашыў уключыцца ў выбарчую кампанію.

У Савецкім Саюзе і мясцовыя, і немясцовыя выбары праводзіліся аднолькава проста. За тыдзень да іх у газетах з'яўляліся заклікі: "Усе на выбары!" – а ў дзень галасавання грамадзяне СССР спяшалі не столькі на выбарчыя ўчасткі, колькі ў буфеты пры іх, дзе куплялі апельсіны, якія ў дні і гады паміж выбарамі можна было ўбачыць хіба на ілюстрацыях у кнізе Чукоўскага пра доктара Айбаліта, якому, як вядома, пашчасціла з камандзіроўкай у Афрыку. Праз пару дзён у тых жа газетах пад лозунгам "Народ і партыя адзіныя!" друкаваліся вынікі галасавання: 99,99% – і ўсе галасы за таго народнага кандыдата, які быў адзіны з партыяй. Іншых кандыдатаў, як і іншых апельсінаў, не было.

Што да сустрэч з кандыдатамі ў дэпутаты, дык на іх збіраліся хіба ў тыя часы, калі не бачылі не толькі апельсінаў, але й тэлевізараў, а ў клубе перад сходам круцілі кіно. Але ж не летам на беразе мора...

Летам на беразе мора наш кандыдат мог сустрэцца толькі з намі – і паколькі болей не было нікога, распавёў нам, землякам і артыстам, як угору пайшоў, у начальства выбіўся. Ён працаваў на заводзе шампанскіх він аў, стаў ударнікам камуністычнай працы і яго выбралі партыйным сакратаром. На з'езд партыйны паслалі, а там, на тым партыйным з'ездзе, рэгістрацыя па партыйных білетах. А ў яго білет толькі на цягнік ад Сімферопаля да Кіева. Бо ён не камуніст... Кіеўскія камуністы за галовы схапіліся: "Госпадзі! Што рабіць?" Яго ўжо ў спіс партыйных дэлегатаў на з'езд у Маскве ўключылі! І цяпер выкрэсліваць, бо ён не камуніст? Як тады партыйным сакратаром яго выбралі, дэлегатам з'езда ў Кіеве? Такі шум уздымецца, такое пачнецца! І гэтаму Маркачу-смаркачу – што? Найбольшае – звання ўдарніка камуністычнай працы пазбавяць. А тых, хто такое дапусціў, праваронiў, могуць пазбавіць куды большага...

І прынялі нашага земляка ў партыю! Залічылі ў камуністы заднім чыслом!.. І правільна зрабілі, бо ён, хоць на сустрэчу з ім ніхто не прыйшоў і падтрымліваць яго нам не давялося, усё ж, як і абяцаў, накарміў нас шашлыкамі, якія да гэтай пары дымяцца ў маім хатнім альбоме на чорна-белым фотаздымку, падпісаным: *"Першы ганарар гурту "Varjaty", Крым, Новы Свет"*.

У тыя часы ў тым райскім кутку, які да таго, як стаць Новым Светам, менавіта раем, Парадызам і называўся, былі адкрытыя для ўсіх і Зялёная, і Сіняя, і Блакітная, або Царская, бо ў ёй купаўся цар Мікалай II, бухты, але калі мы пачалі ставіць намёты каля Скразнога грота, да нас падышлі людзі з аўтаматамі і спыталі, ці ёсць у нас дазвол, бо мы ў памежнай зоне. "Вунь там, – кіўнуў адзін з іх аўтаматам за марскі небасхіл, – Турцыя. А ў вас акваланг і лодка".

– Наш дазвол у таварыша Маркача, які запрасіў нас, прадстаўнікоў савецкага эстраднага мастацтва, для агітацыі на мясцовых выбарах дэпутатаў працоўных, – нахабна заявіў Палкоўнік, і памежнікі не асмеліліся яму не паверыць, папярэдзіўшы толькі, каб мы не заплывалі ў мора далей

за выступ мысу Капчык. Назаўтра Палкоўнік з нашым земляком з'едзілі ў Судак да памежнага камандавання і прывезлі паперу, у якой былі пералічаныя нашыя прозвішчы і напісана, што ўсе мы – добраахвотныя памочнікі памежнікаў. І пачалося райскае жыццё...

Не ведаю, што б я аддаў за тое, каб прачнуцца рана-рана на беразе Сіняй бухты і ўбачыць Асю, якая, уздрыгваючы спінай і сціскаючы лапаткі, кранае пальчыкамі ног такую празрыстую, што яе не відно, ваду, робіць з берага крок, другі, трэці, уваходзіць у мора па шчыкалаткі, па калені, па клубы, прысядае па локці, па плечы – і плыве. Яна плыве насустрач сонцу, якое толькі-толькі ўзыходзіць, і здаецца, што сонца, узыходзячы, спяшае ёй насустрач – яшчэ б яму не спяшаць!..

Ася плавае датуль, пакуль сонца цалкам не вынырвае з мора. Тады яна паварочвае да берага, выходзіць, атрасаючы валасы, з празрыстай хвалі, кладзецца, раскінуўшы рукі і запрашаючы сонца ў абдымкі, на пясок – і як я зайздрошчу сонцу, якое, абліваючы Асю з ног да галавы дрыготкім ранішнім святлом, можа яе ўсю-ўсю абдымаць, абдымаць, абдымаць, цалаваць, цалаваць, цалаваць... Потым я зайздрошчу ветру, калі мы, знайшоўшы пакручастую, стромую, але ўсё ж адольную сцяжыну, падымаемся амаль на самую вяршыню гары Сокал, дзе Ася мяне, бо мы толькі ўдваіх, пытае: «Калі Біг з Вілам голыя па Мінску бегалі, дык можна мне голай на гары пастаяць?» – і скідвае сукеначку, і ўскідвае рукі, і стаіць тварам да мора, мармурова-белая, як статуя, якую тысячы гадоў таму паставілі тут таўры ці скіфы, грэкі ці рымляне, каб выплывалі з туману, як на агонь маяка, караблі на пажар яе валасоў, і даплыўшы, любаваліся ёй заваёўнікі і арганаўты, і маліліся ёй, як багіні, каля ног якой ляжыць Новы Свет і, як сабачка, круціцца вецер...

Чаму Ася мяне не саромелася? Гэтак не саромеліся мяне жанчыны ў лазні, куды брала мяне маленькага маці. Не помню, як я побач з тымі жанчынамі ў той лазні пачуваўся, відаць, ніяк, хацеў толькі хутчэй вырасці, каб хадзіць у лазню з мужчынамі, а тут, на гары побач з Асяй мне было крыўдна. Я хацеў хутчэй стаць мужчынам, у чым, што начамі сніў і пра што днямі марыў, мне магла дапамагчы Ася, але яна не дапамагала мне і не збіралася дапамагаць.

Аднойчы ў Скразным гроце, дзе мы шукалі скарбы піратаў, і Ася пры мне прысела на кукішкі, я спытаў: чаму? Чаму яна мяне не саромеецца? Таму што я для яе хлопчык, якога можна ўзяць з сабой у лазню? Яна засмяялася: «Дурненькі! Глядзі: я не саромеюся мора, сонца, ветру... Ты ў такой кампаніі – і крыўдуеш?»

Я крыўдаваў. Я раўнаваў яе да мора, сонца, ветру... Ужо не кажучы пра Ворана, якому таксама давялося ўзрэўнаваць.

Да нашай кампаніі прыбіліся, бо не былі добраахвотнымі сябрамі памежнікаў і іх не пускалі ў памежную зону, а ім, канечне ж, хацелася туды, куды не пускаюць, артысты, што здымаліся ў фільме «Два плюс тры». Палкоўнік, прачытаўшы сцэнар фільма, напісаны аўтарам гімна СССР, сказаў, што такую пустышку глядзець нават выбаршчыкі зімой у клуб не пойдуць – і не ўгадаў: пайшлі. Перш за ўсё, мусібыць, з-за прыгажунь артыстак, адну з якіх, Наталлю, Віл адразу прыгарнуў песняй "Шлях далёкі да Ціперэры", сказаўшы, што напісаў яе сам, хоць проста пераклаў маршавую песню брытанскай арміі. Але як прыгарнуў ён да сябе брытанскім маршам зорку савецкага кіно, гэтак яна ад яго і адгарнулася, бо аднекуль марш брытанскай арміі "It's a long way to Tipperary", напісаны, зразумела,

не Вілам, а Джэкам Даджам і Вернанам Горэйсам, ведаў актор, які быў партнёрам Наталлі ў фільме – і праспяваў ёй той марш па-ангельску.

Да любоўнай паразы Віла дадалася яшчэ і параза творчая. У яго быў акваланг, ён здорава плаваў, дапамагаў у здымках пад вадой, за што выцыганіў у рэжысёра, вясёлага армяніна, эпізадычную ролю афіцыянта. Па сцэнары той афіцыянт абслугоўваў у рэстаране дрэсіроўшчыцу Зою, ролю якой грала Наталля – і Віл штодня прызначаў ёй "рэпетыцыі" ў рэстаране, запрашаючы, пакольні меліся грошы, і сваіх сяброў, і яе сяброўак. Праз тое, што артысткі цягаюцца па рэстаранах з добраахвотнымі памочнікамі памежнікаў, рэжысёр быў не ў захапленні, і ў самы разгар рэпетыцый раптам вырашыў, што аўтар марша брытанскай арміі на ролю савецкага афіцыянта не падыходзіць – і ён сыграе яе сам. Для Віла, які ўжо бачыў сябе на вокладцы часопіса "Савецкі экран", гэта было ўдарам пад дых. Ускрыўдаваўшы на ўвесь белы свет, ён не вылазіў з сіняга мора, лавіў рыбу і збіраў рапанаў.

Праз год, калі фільм быў зняты, я прапанаваў Вілу яго паглядзець, на што Віл буркнуў, у бок адвярнуўшыся: "Ідзі паглядзі адзін". Я пайшоў паглядзець не адзін, а з Асяй, і калі дайшло да сцэны ў рэстаране, якую рэжысёр, вясёлы армянін, яшчэ й агучыў брытанскім вайсковым маршам, мы з Асяй так разрагаталіся, што кантралёрка вывела нас з залы, і я дасюль не ведаю, чым жа скончылася тое кіно.

Палкоўнік казаў, што кожны час мае не толькі сваё мастацтва і сваю палітыку, філасофію і паэзію, але і свой колер. Калі яно так, дык колер таго часу – гэта трохі размыты колер тагачасных фільмаў, знятых на стужках вытворчасці фабрыкі "Свема".

Між тым, набліжаліся выбары. Кожны вечар, агітуючы за нашага кандыдата ў Навасвецкую пасялковую раду, мы выступалі з канцэртамі ў гроце Шаляпіна, названым так, бо нібыта ў тым гроце Шаляпін спяваў некалі для цара. Невядома, спяваў ці не спяваў, для цара ці не для цара, але імем Шаляпіна грот назвалі нездарма, бо ў ім была такая акустыка, што не трэба было ніякай гукаўзмацняльнай апаратуры, а тэнар Гарыка і барытон Віла гучалі не горай, чым гучаў тут, калі ён тут гучаў, знакаміты рускі бас. Мы мелі гэтакі поспех, што Віл, прагуляўшы грошы на "рэпетыцыях" у рэстаране і падрабляючы цяпер на рапанах, прапанаваў квіткі на канцэрты прадаваць, і на адзін канцэрт мы прадалі іх, па рублю квіток, зарабіўшы болей за сотню, але камерцыялізацыю мясцовых выбараў рашуча спыніла мясцовая ўлада ў асобе нашага кандыдата ў дэпутаты, што прынцыпова паўплывала на нашы адносіны да яго – і не ў лепшы бок.

– Тое, што вы наш зямляк і корміце нас шашлыкамі, не азначае, што выбары павінны быць недэмакратычнымі, – заявіў пасля канцэрта Палкоўнік на нарадзе нашага выбарчага штаба ў прысутнасці нашага кандыдата ў дэпутаты Навасвецкай пасялковай рады. – Вось глядзіце: колькасць жыхароў Новага Свету – 182 чалавекі. Па законе ў мясцовую раду павінен абірацца адзін чалавек ад пяцідзесяці. Разам з вамі зарэгістраваныя яшчэ два кандыдаты. Усяго, значыць, тры. Але ж 182 бліжэй да 200, чым да 150! Чаму тады тры, а не чатыры? Таму што ў пасялковай радзе тры пасады: старшыня, намеснік і сакратар. Чацвёрты – лішні, бо стварае вам альтэрнатыву. Але ён лішні для вас, а не для дэмакратыі! Канечне, каб выбары былі дэмакратычнымі, не абавязковая альтэрнатыва. Ды ў дадзеным выпадку яна неабходная! Сапраўдная перамога, якая ўмацуе ваш аўтарытэт – гэта перамога ў змаганні! Толькі тады людзі ў вас павераць і

пойдуць за вамі! Вы зможаце сказаць ім: я перамог у сумленнай барацьбе! І мы, ваш выбарчы штаб, зможам пацвердзіць: так!

Наш зямляк глядзеў на Палкоўніка, міргаючы, з хвіліну... Позірк быў такі, што я б яго не стрываў, а Палкоўніку хоць бы што – і не стрываў наш зямляк.

– Я і зараз магу сказаць, што перамог у сумленнай барацьбе, – перавёў ён позірк з Палкоўніка на Віла, на Ворана, па чарзе з уважлівай цікаўнасцю ўзіраючыся ў кожнага з нашай кампаніі. – І мне не трэба, каб вы тое пацвердзілі. Як не трэба, каб нехта за мной некуды йшоў. Мне трэба, каб мяне не выклікалі ў гаркам партыі і не спыталі:

«Што ў цябе ў Новым Свеце робіцца?..» І не прапанавалі пакласці партбілет. Таму, калі хочаце есці шашлыкі, проста грайце і спявайце. Каб усім весялей было. Больш нічога. Гэта я вам, – зноў паглядзеў ён, цяпер ужо не міргаючы, на Палкоўніка, – па-зямляцку дапамагаю, а не вы мне. Зразумелі?..

Мы зразумелі. Усе, апроч Палкоўніка.

– Не мае значэнне, хто каму дапамагае, – спыніў ён Маркача, які збіраўся пайсці, бо вырашыў, што размова скончаная. – Значэнне мае толькі вынік. А які ён можа быць без ніякай палітычнай праграмы? Без ніякай палітычнай праграмы і вынік ніякі. А якой можа быць наша праграма? Калі ставіць перад сабой маштабныя мэты. Думаць не пра тое, як стварыць ферму па гадоўлі божых каровак, – націснуў Палкоўнік на любімы мазоль Маркача, які дзеля захавання крыштальнай чысціні навасвецкага шампанскага спрабаваў змагацца з тлёй, што пажырае вінаграднікі, не з дапамогай хіміі, а з дапамогай божых каровак, якія пажыраюць тлю. – Ясна, што праграма павінна быць не мясцовага разліву. Са 182-х жыхароў Новага Свету 151 – рускія. 2 – карэйцы, 9 – габрэі, 10 – украінцы і столькі ж – татары. Таксама 10. Прыблізна такая ж карціна па ўсім Крыме. Тады чаму Крым не падзялілі паміж украінцамі і татарамі, калі іх пароўну?

Палкоўнік зрабіў паўзу, даючы магчымасць нашаму кандыдату асэнсаваць пачутае, і працягнуў.

– Гэтае пытанне рытарычнае. Сутнаснае ж у нашай праграме вось што: у 1954 годзе, калі са складу Расійскай Федэрацыі Крым быў перададзены ў склад Украіны, была зробленая памылка, якую неабходна выправіць. Мадэль, у якой існуе сёння Савецкі Саюз, не вечная. Пры зменах яе можа выбухнуць канфлікт, закладзены ў змене статуса Крыма, што можа прывесці да непрадказальных наступстваў. Да глабальнай катастрофы, якую сёння яшчэ можна прадухіліць. Вось з якой праграмай я прапаную вам пайсці на выбары, калі думаць не пра пасялковую – пра Вярхоўную Раду, а, можа быць, і пра большае.

Пра тое, што ён мае на ўвазе пад большым, Палкоўнік не сказаў, але па выглядзе Маркача не цяжка было здагадацца, што найменшае, пра што ён зараз думае – гэта як нас прыбіць і дзе закапаць. І калі сесці, дык за забойства, а не за палітыку. Нічога ў адказ Палкоўніку не сказаўшы, ён павярнуўся і выйшаў, так ляснуўшы дзвярыма, што ў шашлычнай, дзе праводзілі мы штабную нараду, сарвалася карціна ў раме пад шклом: «Крым у час руска-турэцкай вайны».

– Я тут ваяваў, – сказаў Ас, калі карціну ўжо без шкла, якое сабрала і выкінула Ася, зноў павесілі на сцяну. – За савецкую дэмакратыю супраць нямецкага фашызму. – І ўсе павярнуліся да Палкоўніка, а той кіўнуў галавой.

– Заўтра ў нас на канцэрце будзе намеснік дырэктара вінзавода. Я з ім размаўляў, ён хоча быць чацвёртым. Хоць і ферму для гадоўлі божых каровак таксама хоча.

“Божая кароўка, што заўтра будзе?..” – спяваў назаўтра гурт “Varjaty” песню, пад якую Ас у генеральскім шынялі скакаў упрысядку:

“Хай пра будучыню слова
Скажа дэпутат Маркач,
А не нейкая карова
І не нейкі смаркач!”

О, гэта было відовішча... Ас у генеральскім шынялі, Віл у ластах і акваланг\у, Гарык у касцюме божай кароўкі, Воран у гумавай лодцы... Гурт “Varjaty”, дырэктар – Палкоўнік, які выконваў яшчэ й ролю (без чаго не абыходзіўся ў тыя часы ні адзін канцэрт савецкай эстрады) канферансье:

*«У якім лагеры ён быў? У піянерскім?*

*Хто табе сёння будзе цалаваць пальцы? Начальнік пашпартнага стала.*

*Ад спецыяліста па намёках нельга патрабаваць дакладнай інфармацыі.*

*Дзве малпы, а сутнасць адна і тая.*

*Усялякая жывёліна мае права жыць, а некаторыя яшчэ й жывуць.*

*Вы таксама не збіраецеся жыць у гэтым свеце? Тады чаму такая асцярожнасць?..»*

Чытаючы запісы з нататнікаў Паўла Уліціна, Палкоўнік не надта разлічваў на тое, што з такога канферансу будуць смяяцца. Ніхто й не смяяўся. “Ландышы! Ландышы давай!..” – крычалі падпітыя мужыкі ў дзіцячых панамках. Яны прыпёрліся на першы наш канцэрт, не давалі граць, мы не ведалі, што рабіць, бо не было каму ў нас “Ландышы” спяваць, і тады на сцэну, кіўнуўшы нам, каб падыгралі, выйшла Ася.

Мужыкі ў панамках сціхлі і сядзелі, як ламы праглынуўшы, пакуль мы падбіралі для Асі танальнасць, прабягалі мелодыю... У яе быў не такі голас, каб спяваць у дуэце з Шаляпіным, але саспявала яна “Ландышы” так, нібы толькі для таго, каб саспяваць “Ландышы”, на свет нарадзілася. “Біс!.. Брава!.. Біс!..” – паўскоквалі мужыкі ў дзіцячых панамках, і я не ўпэўнены, што такіх авацый дачакаўся б ад іх Шаляпін.

На тым канцэрце разам з мужыкамі ў дзіцячых панамках крычаў Асі “брава” Андрэй. Ён не быў яшчэ такім знакамітым акторам, якім стаў, саспяваўшы: «Ён яе, галубачку, шмяк-шмяк-шмяк, ням-ням-ням ды і шмыг-шмыг-шмыг», – але ўжо сыграў у фільме «А калі гэта каханне?», які Ася бачыла.

Назаўтра Андрэй прыйшоў на канцэрт з лілеямі. Адкуль ён ведаў, якія яна любіць кветкі?..

«Хто ў параўнанні з ім, маскоўскім акторам, героем-палюбоўнікам, нейкі мінскі архітэктар? – спытаў, калі Андрэй прыйшоў і на трэці канцэрт, Палкоўнік. – Ніхто». І аднойчы ранкам, кранаючы пальчыкамі ваду і ўздрыгваючы лапаткамі, Ася ўвайшла ў мора разам з Андрэем.

Косця глядзеў на гэта з берага разам са мной... Я раўнаваў, але не верыў, што Ася яму, мне, нам усім здрадзіла, а Воран раўнаваў і верыў, і каўтаў жаўлакі.

– У яе жаніх гэбіст, так што глядзі... – нібыта жартам кінуў ён Андрэю,

калі мы ўсе разам, вар'яты, сябры памежнікаў, акторы, снедалі ў выдзеленай нам Маркачам шашлычнай, і Ася, бліснуўшы на Ворана позіркам, поўным пагарды, сказала: "Што ж, калі ён мне жаніх, за яго й пайду". І паднялася, і пайшла.

Я ўпершыню тады падумаў, што Ася Бланк Асяй Воран можа і не стаць.

Пад вечар таго ж дня я ўбачыў Косцю з Андрэем на сцяжыне Галіцына, якую князь загадаў ад падножжа гары Арол пратаптаць, каб з царом гуляць. Не так высока, але... Яны, Косця з Андрэем, стаялі адзін насупраць аднаго ў самым вузкім месцы сцяжыны, якая за спінамі іх строма абрывалася, і, як пеўні, штурхаліся грудзьмі. Вышэй па сцяжыне йшла Ася, і Косця з Андрэем, штурхаючыся, пакручвалі галовамі ёй услед, чакаючы, што на некага з іх яна азірнецца, убачыць, як яны, рызыкуючы жыццём, за яе б'юцца, а яна йшла і не азіралася... Тады Андрэй махнуў рукой і рушыў па сцяжыне ўніз.

Праз шмат-шмат часу, недзе за паўгады да смерці Андрэя, я пабачыўся з ім у Маскве. Мы выпадкова спатකаліся каля Дома кіно, паціснулі адзін аднаму рукі і пастаялі, як стаяць на горнай сцяжыне, якая за спінамі абрываецца. І ў яго, і ў мяне за спінай было жыццё, у якім многае можна было ўспомніць, а ён паглядзеў на мяне сумнымі – чамусьці яны амаль заўсёды былі ў яго сумнымі – вачыма і ўсё, што спытаў: "Як Ася?.."

Ася прапала. У дзень выбараў, які запісаўся ў маёй памяці як дзень божых каровак.

З самай раніцы, яшчэ да галасавання, Маркач вырашыў прадэманстраваць сваім выбаршчыкам, як ён будзе змагацца са шкоднікамі, якія зжыраюць вінаграднікі, калі яго абяруць дэпутатам і ён застанецца старшынёй Навасвецкай пасялковай рады. З узыходам сонца над Коба-Кая, гарой Арол, у нетрах якой прабітыя штольні, дзе й захоўваецца выраблена з навасвецкага вінаграду шампанскае, застракатаў верталёт. Ён пакружыў над гарой, праляцеў над узбярэжжам, вярнуўся, з двух бакоў у ім расчыніліся люкі – і паляцелі ўніз такія, як для абутку, пушкі, якія адразу ж выбухалі, выкідваючы з сябе нешта падобнае на дым, на хмаркі. Разрастаючыся ад Коба-Кая да Куш-Кая, гары Сокал, дымныя хмаркі апускаліся ўсё ніжэй, ніжэй, і па самых нізкіх ужо відаць было, што гэта не хмаркі, а нешта лятуча-жывое – і з нябёс сыпанулі божыя кароўкі! Іх былі тысячы, мільёны, мільярды, і сыпацца яны павінны былі на вінаграднікі, каб пажэрці шкоднікаў, але верталётчыкі не разлічылі напрамак і сілу ветру: кароўкі пасыпаліся на пасёлак, на пляжы, на Зялёную, Сінюю і Блакітную бухты, вада ў якіх імгненна стала чырвонай. Бухты кішэлі кароўкамі, немагчыма было знайсці хоць лапік чыстай вады, і Ася, якая плыла ў гэтай чырвонай кішэчы, на бераг вылезла ў кроў скусаная – я б ніколі не падумаў, што кароўкі божыя могуць гэтак скусаць.

Ася сядзела на беразе, накрыўшы галаву рукамі, і плакала, плакала, плакала... Я падышоў, каб суцешыць, яна ўсхліпнула: "Прэч!.." І столькі было ў тым усхліпе нянавісці, што мяне сцяла ад яго, як ад шыпу змяі. Падумаўшы, што гэта яна праз боль, я сказаў: "Пройдзе..." – а яна ўскочыла: "Ніколі!.." – і пабегла, страсаючы кроў на пясок...

Андрэй сказаў, калі мы спаткаліся каля Дома кіно, што ў засыпаным божымі кароўкамі Новым Свеце Асі прапаноўвалі зняцца ў фільме замест Наталлі. Не ён прапаноўваў, рэжысёр, які вырашыў, што Ася болей на ролю дрэсіроўшчыцы падыходзіць, і сказаў ёй, што пасля здымкаў яна

можа паехаць у Маскву, у інстытут кінематаграфіі, і Ася згадзілася, але нехта заклаў яе рэжысёру: маўляў, ваша справа, можаце й не звяртаць увагі на тое, што яна – дачка ворага народа. “Хто мог яе закласці?..” – разгублена спытаў я, і Андрэй пацепнуў плячыма: “Не Наталля ж, скуль яна ведала... Нехта з вашых. Можа, той вар'ят, які на вашых канцэртах антысавеччыну нёс. Ці Воран, каб яна ад яго не з'ехала”.

Ён і Ворана помніў. Нічога, што з Асяй звязанае, не забываецца.

У Асі мог быць зусім іншы лёс. Не абавязкова, але мог. І не плакала б яна на беразе Сіняй бухты, і не збягала б ад таго лёсу, у якім нехта з нас яе пакінуў, у Ізраіль, а піла б шампанскае ў Маскве ў Доме кіно... Хоць яна і так піла шампанскае ў Маскве ў Доме кіно, дзе толькі жонкі генералаў КДБ шампанскае і п'юць.

“Хто?..” – гляджу я на даўні чорна-бела фотаздымак, на якім дымяцца шашлыкі над надпісам: “Першы ганарар гурту “Varjaty”, Крым, Новы Свет”. Па правы бок ад Асі – Гарык, Ас, Воран, па левы – Віл, Біг, Палкоўнік. Я фатаграфую, мяне няма.

“Пайшоў прэч!..” Ася магла падумаць, што гэта я...

Я сказаў ёй у Скразным гроце, у якім мы скарбы піратаў шукалі, дзе яна пры мне на кукішкі прысела, што злаўлю яе, як вецер, утаплю, як мора, і спалю, як сонца, да якіх яе раўную, калі яна пакіне мяне. Яна ўстала з кукішкаў, прыгарнулася і шапнула на вуха: “Я дарую табе”.

Калі яна даруе мне? У будучым? І што даруе? Тое, што, як вецер, злаўлю, як мора, утаплю і, як сонца, спалю?.. Наўрад ці. Тым больш, што ведала: і не злаўлю, і не ўтаплю, і не спалю.

– Я не пытаўся ў Рубена (гэта Андрэй пра рэжысёра): хто? Не мая справа. Дый дазнаўся я пра ўсё пазней. Ужо ў Маскве, калі на Лубянку паклікалі... – Ён засмяўся. – “Вы таксама за вяртанне Крыма ў Расію?” А ў нас касцюмер быў з прозвішчам Крым, які ў Амерыку з'ехаў. Дай, думаю, пажартую. І кажу: “Як ён захоча”. “Дык вы, – мяне пытаюць, – за рэферэндум?” Ледзь не дажартаваўся... Усю нашую здымачную групу, як толькі вас забралі, там, на месцы дапытвалі, а мяне з Рубенам яшчэ й тут, на Лубянцы. Так я і не зразумеў: якую там вялі вы прапаганду – і што за тэлеграма ў Новы Свет з амерыканскага сената прыйшла?..

У атрадзе памежнікаў у Судаку была радыёстанцыя, і Вілу, які меў пасведчанне чэмпіёнаў свету па радыёспорце, памежнае камандаванне дазволіла час ад часу, калі радыёстанцыя не занятая, ёй карыстацца. Ну, каб чэмпіён не страціў форму... Чэмпіён форму не страціў, і калі праз дзень пасля мясцовых выбараў прыйшла ў Судацкі райкам партыі тэлеграма, падпісаная сенатарам Злучаных Штатаў Амерыкі Бары Галдуотэрам, у Сімферопальскім аддзяленні КДБ Украіны аказаўся не толькі Віл, а ўсе, апроч Асі і Аса, добраахвотныя памочнікі памежнікаў.

У тэлеграме было напісана: “Віншую дэпутата Маркача перамогай выбарах (клч). Жадаю поспехаў развіцці дэмакратыі (клч). Сенатар Галдуотэр”.

Тое, што тэлеграма прыйшла з сената ЗША, з Вашыгтона, а не пасланая нейкім жартаўніком з Гурзуфа, сумненняў не выклікала: праверылі. І адразу пачалі правяраць паказанні грамадзяніна Маркача (старшынёй ён праз тую тэлеграму не стаў, рады быў, што не пасадзілі), у якіх былы старшыня (а новым старшынёй прызначылі намесніка дырэктара вінзавода, так што Палкоўнік дабіўся свайго) сцвярджаў, што музыканты гурту “Varjaty” вялі агітацыю за вяртанне Крыма ў склад Расіі, і што на канцэртах дазвалялі

сабе антысавецкія выказванні, з якіх ён запомніў такое: *«Дзве малпы, а сутнасць адна і тая»*.

Пасля запыту ў Белдзяржфілармонію аказалася, што ніякага гурту “Varjaty” не існуе. А па паказаннях таго ж Маркача гурт прадаваў на свае канцэрты квіткі. “Каб пасадзіць вас, – сказалі крымскія гэбісты, – нам і палітыкі не трэба. Так што кайцеся.”

Што гэбісты крымскія, што гэбісты мінскія...

А ў чым каяцца? Хіба ў тым, што Ася пабегла, пырскаючы крывёй на пясок, і ні я, ні Воран – ніхто не кінуўся за ёй услед? У тым, што Ас залез на вяршыню Коба-Кая, спусціўся і сказаў, што ўбачыў Асю ў моры за мысам Капчык, схапіў лодку, паплыў – і ні я, ні Палкоўнік, ніхто яго не спыніў? А тут наляцеў амаль што ўраганны вецер, пачаўся рэдкі для гэтай пары года шторм, мора на дыбы ўставала, выкідваючы на бераг з мешанінай божых каровак водарасці, палкі, карэнні, смецце – і выкінула вясло лодкі, на якой паплыў Ас... Ні выратавальнікі, ні памежнікі на сваім кацеры не змаглі ў такі шторм выйсці з бухты.

Я быў агаломшаны, прыгнечаны, раструшчаны тым, што сталася, пакутаваў віной перад Асяй і Асам, і мне было ўсё адно, што будзе са мной. Гэтаксама пачувалі сябе і Віл, і Воран, і Гарык, і Біг – усе. Мы не толькі выглядалі неадэкватнымі, мы такімі былі, і калі Палкоўнік у адказ на абвінавачванні прад’явіў даведкі, выдадзеныя ў псіхушцы, з якіх вынікала, што такімі, якімі мы выглядаем, мы і ёсць, крымскія гэбісты вырашылі не звязвацца з прыдуркамі – і назаўтра прад намі прадсталі маёр Гагарын і старшы лейтэнант Гурковіч. Ва ўсёй красе, бліскучыя.

Гурык знайшоў Асю. У Новым Свеце не было паліклінікі, Ася пабегла ў Судак, адкуль яе, амаль непрытомую ад таксікацыі, распухлую ад алергіі, на кацеры выправілі ў Феадосію, у шпіталь, дзе трымалі ў ізалятары, асцерагаючыся, што ў яе якая-небудзь небяспечная для ўсіх інфекцыя.

Аса Гурык не знайшоў, як не знайшлі яго ні выратавальнікі, ні памежнікі, ні крымскія гэбісты... Ніхто. Палкоўнік сказаў, што ён, можа быць, прычаліў недзе да берага і пайшоў па месцах баявой славы.

Можа быць.

Палкоўніка Гурык з маёрам Гагарыным забралі ў Мінск, а нас адпусцілі. “Прыедзеце, – сказаў маёр, – разбярэмся”. І калі мы сталі збірацца дахаты, Ася, якая выйшла са шпіталя, зноў прапала. Гэтым разам не надоўга. Праз пару гадзін мы ўбачылі яе на вяршыні Коба-Кая. Не паверыўшы, што Ас недзе прычаліў да берага, Ася стаяла і глядзела ў мора. У белай сукні яна была, як мармуровая статуя, якую тысячы гадоў таму паставілі тут таўры ці скіфы, грэкі ці рымляне, каб выплывалі з туману, як на агонь маяка, караблі на пажар яе валасоў, і даплыўшы, любаваліся ёй заваёўнікі і арганаўты, і маліліся ёй, як багіні, каля ног якой ляжыць Новы Свет і, як сабачка, круціцца вецер...

Мы прывязалі да выкінутага на бераг вясла папярэчыну, паставілі крыж на месцы намёта, у якім жыў Ас, узялі гітары. Заспявалі: “It’s a long way to Tipperary...” – і пачулі, як Ася там, дзе аблокі, анёлы ды божыя кароўкі,высока-высока заспявала з намі:

Up to mighty London
Came an Irishman one day
As the streets are paved with gold
Sure, everyone was gay

Singing songs of Piccadilly,
Strand and Leicester Square
Till Paddy got excited
And he shouted to them there...

Песня жаўнераў брытанскай арміі сплывала над морам за мыс Капчык – зусім у іншы бок ад Ціперэры, дзе марыў Пэдзі сустрэцца з Мэры.

## Вуліца Залатога пылу

– А ты памятаеш, як праз цябе нас ледзь не расстралялі?.. – пытае Воран Гурыка, які прыехаў з Масквы на пахаванне Палкоўніка. Ён чакаў, што Ася прыедзе з Ізраіля Палкоўніка хаваць, але яна не прыехала.

Косця злуе на Гурыка – і Гурык злуе на Косцю. Учора, калі хавалі Палкоўніка, яны пабіліся.

На памінках яны сядзелі найдалей адзін ад аднаго. Гурык усім жаліўся, як яму кепска. Але не праз тое, што Палкоўнік памёр. На Палкоўніка яму напляваць, дастаў яго па жыцці Палкоўнік. Кепска Гурыку без Асі. Ён без яе не можа жыць – і не можа да яе паехаць. Не кажа, чаму. Проста не можа – і ўсё. Магчыма, таму што адстаўных гэбэшных генералаў не бывае.

Гурыку непрыемна згадваць, як праз яго нас расстраляць маглі – ён хоча ўспамінаць пра Асю.

Я кажу:

– Але ж і Асю маглі расстраляць.

– Ды не маглі! Каго расстралялі, каго? Цябе? Ворана? Віла?.. Вось калі б я багажнік тады адчыніў...

– І сам бы ваду зліў, – перабівае яго Віл. – Так што не круці нам мэйсы, нібы ты нас ратаваў.

Віл кожнаму, хто спрабуе яго, як ён думае, дурыць, кажа: “Не круці мне мэйсы!..” – а калі я спытаў аднойчы: “Віл, што такое мэйсы?..” – аказалася, што нічога.

Пахаваўшы ўчора Палкоўніка, мы сустрэліся сёння ў кавярні, каб паўспамінаць пра яго ды пра нас – калі яшчэ давядзецца?.. Па старой памяці дамовіліся сабрацца ў “Вясне”, але кавярня гэтая называецца цяпер іначай, нічога былога, нічога нашага тут даўно няма – і нам няўтульна. Таму й размова няўтульная, і Эдзік Гарачы злосна кідае Гурыку:

– Мяне расстраляць маглі!

– Хто цябе мог расстраляць? Дзе?

– Вертухаі ў лагеры! Калі Алік забіў Кенэдзі! І пасля!.. Калі ўзбек адзін пабегчы ўздумаў! Яго паклалі на калючым дроце. Кум крычыць: “Усе па бараках!” Кум для зэка важней за начальніка, а я нібы не чую кума, сунуся да таго ўзбека... І тут дзве чаргі з аўтаматаў. Пад ногі і над галавой. Шапку драпанула. Каб на палец ніжэй... А хлопцы сапраўдныя ўцёкі рыхтавалі. Зрабілі падкоп. Адклалі праз узбека. Пабеглі пазней. Пачатак красавіка, зямля адтала, асела – і яны не змаглі выпаўзці нават за нейтральную зону. Пастралялі ўсіх праз аднаго дурня. Вось як лёсы звязаныя. Не пабег бы дурань, збеглі б і засталіся жывымі разумныя.

“Не схавала б Нэла карабін...”

Эдзіка ўчора не было, ён толькі сёння дазнаўся, што Палкоўнік памёр, разнерваваўся, выпіў лішак, таму пераскоквае з аднаго на другое, а Гурык не пераскоквае:

– А пры чым тут я? Пры чым я да твайго ўзбека і да хлопцаў тваіх?

Эдзік нахіляецца да яго цераз стол:

– Пры тым! Ты да ўсіх пры чым! Разам з хеўрай! Вы толькі й рабілі, што ці стралялі, ці садзілі! Ваша кантора ледзь у вар'ятню нас не запёрла!

На хаўтурах учора пра такое казаць не выпадала, ціха пасядзелі, а вось сёння...

– Каго нас? – пытае, падымаючыся, Гурык. – Цябе там не было!

Эдзік падымаецца таксама – лоб у лоб з Гурыкам:

– Не было! Бо ў лагеры быў!

У лагеры Эдзік быў пазней, але якая розніца, калі быць у лагеры...

Відаць, як Эдзіку хочацца стукнуцца з Гурыкам лабамі, але ён стрымлівае сябе.

– Вось скажы: чаму ты, ведаючы пра гэта, нас не папярэдзіў? Толькі не кажы, што не ведаў!

Гурык кажа:

– Я не ведаў.

Я таксама пытаў Гурыка пра вар'ятню. Даўно, калі Палкоўнік з Эдзікам яшчэ сядзелі. "Калі б санітар, – спытаў я, – не пераблытаў, не ўкалоў мне ў вену тое, што колецца ў мышцу, калі б не мая клінічная смерць, выпусцілі б нас з вар'ятні, ці не?" І тады Гурык адказаў мне тое самае, што цяпер Эдзіку: "Я нічога пра гэта не ведаў".

– Ведаў! – глядзіць яму ў вочы Эдзік. – У, які ў цябе позірк гэбісцкі! Натрэніраваны, каб запудзіць.

– Пудлівыя вы ўсе, – адхіляецца ад Эдзіка і глядзіць на ўсіх Гурык. – Як Палкоўнік.

Воран падымае шклянку:

– За Палкоўніка!.. І ты нам, Гурык, пра яго не расказвай. Мы самі ведаем, які ён быў.

Як раней, так і цяпер Гурык хоча нам давесці, нібы ўсё, што рабіў Палкоўнік, ён рабіў са страху. Нават са страху жыў.

– Вось, паглядзі... – дастае з кішэні, разгортвае і падае Гурыку зашмальцаваны, яшчэ савецкі пашпарт Гарык Клябанаў. – Гэта ён дваццаць гадоў таму напісаў.

"Гарык! – уголас чытае Гурык запіс, які пачынаецца на першай стронцы ў графе *нацыянальнасць* і доўжыцца на старонцы, дзе стаіць штэмпель *прапіска.* – Калі б ты быў сапраўдны габрэй, ты б купіў пісталет, паехаў бы ў Маскву і стрэліў у задніцу старшыні КДБ Сямічаснага!"

– І што?.. – адкідвае Гурык пашпарт Гарыку. – Як ты пражыў дваццаць гадоў з гэтакім дакументам?

Гарык акуратна, як нешта дарагое, хавае пашпарт у кішэню.

– Жыў і баяўся. Ты б напісаў такое дваццаць гадоў таму?.. Ты пасадзіў бы на дваццаць гадоў за такое!

– У вар'ятню! – не можа супакоіцца Эдзік Гарачы.

Гурыка сёння ніхто не любіць. Дый раней не любілі. Баяліся. А яму хочацца, каб яго любілі. Ці хоць выгляд рабілі, нібы любяць. Ён жа не вінаваты, што ён гэбіст.

Учора на хаўтурах Гурык так і сказаў: "Палкоўнік не вінаваты, што ён антысаветчык. А я не вінаваты, што генерал КДБ. Проста калі ёсць адно, дык павінна быць іншае. Я мог быць Палкоўнікам, а Палкоўнік – мной".

"Ага, – сказаў Віл. – Генералам".

Гурык нават слязу пусціў, выпіўшы. "Ведаеце, за што я любіў Палкоўніка?.. Бо ён, можа, адзіны, хто любіў мяне..."

Бяжыць – хоць і ў трубе – Няміга-рака, бяжыць час, бяжыць жыццё. Пад сярэдзіну 60-х мы з Някляевым згубілі адзін аднаго. Ён скончыў свой тэхнікум сувязі, паехаў на Далёкі Усход, на Поўнач. Я апынуўся ў Паўднёва-Усходняй Азіі – на в'етнамскай вайне. Вярнуўшыся ў Мінск, прафесійна заняўся журналістыкай. Валодзя паступіў у Літаратурны інстытут у Маскве – і нечакана, як і ў пачатку 60-х, зноў аб'явіўся ў пачатку 70-х. Яму было ўжо не пятнаццаць, а дваццаць пяць – і ён патэлефанаваў мне, шукаючы працу. Я працаваў тады ў рэдакцыі газеты "Знамя юности» разам з Валерыем Холадам, у якога былі добрыя адносіны з галоўным рэдактарам, і па нашых рэкамендацыях Някляеў быў прыняты ў штат рэдакцыі. Праз шмат гадоў ужо па рэкамендацыі Уладзіміра Някляева, знакамітага паэта, я буду прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, ён напіша прадмову да маёй кнігі... Але гэтая мая, якую вы чытаеце, прадмова (ці пасляслоўе, не ведаю, як яно выйдзе) – не аддзяка за колішнюю прадмову Някляева, зусім не. Гэта ўдзячнасць за наша юначае, якое паклалася праз лёс, сяброўства – і ўдзячнасць не ад аднаго мяне. Ад усіх нас, бо колькі разоў не толькі я, але і Біг, і Гарык збіраліся напісаць такую кнігу! А напісаў, не дачакаўшыся, калі яе напішам мы, Някляеў. За мяне напісаў, за Біга, за Гарыка – за ўсіх. Нават за Асю і за яе бацьку Саламона Майсеевіча, якіх да гэтай кнігі не было, а цяпер яны ёсць – і ўжо назаўсёды, як рэальныя людзі, застануцца разам з намі. Такі гэта цуд – сапраўдная літаратура.

І нарэшце вось пра што – дзе і калі яшчэ давядзецца пра гэта сказаць...

Шмат хто – і асабіста, і публічна – папракае Уладзіміра Някляева ў тым, што ён пайшоў у палітыку. Маўляў, гэта не для паэта. Прызнаюся, я таксама думаў: колькі ён страціць часу, колькі не напіша вершаў, паэм, якіх за яго не напіша ніхто! Я ні ў чым не знаходзіў прычыны, па якой дзеля палітыкі можна было б ахвяраваць паэзіяй. Грошы? Ён заўсёды глядзеў на іх абы як. Амбіцыі? Ён цалкам задавальняў іх у творчасці. Улада? Ён ніколі яе не прагнуў. Тады што?.. Паўстагоддзя ведаючы Някляева, я разумеў, што прычына павінна быць – і ўрэшце знайшоў яе ў ягоным Мінскім рамане і ў тым, што за ім.

Мяркуючы па даце напісання, пачаты раман "Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без" да турмы, у якую аўтара, кандыдата ў прэзідэнты Беларусі кінулі ў снежні 2010-га, а скончаны пасля турмы. Пасля таго, як яго ледзь не забілі... І дзе яго ледзь не забілі? На ягонай любімай Нямізе! І калі па тэлеканале "Еўраньюс" я ўбачыў Някляева, скрываўленага, на снезе, дык першае, што ўспомніў: на гэтым самым месцы, тут, дзе ў Нямігу ўпадае вуліца Калектарная, калісьці нас, стылягаў, білі брыгадмілы! Брыгада садзейнічання міліцыі. За што? Ды ні за што! За тое, што мы не так, як яны, апраналіся, не пра тое і не так, як яны, размаўлялі, не так думалі. Нас білі за тое, што мы не такія, як усе...

"Наш (XX) век и политически, и социально, и культурно (даже в вопросах науки) был наглядным и почти непрерывным историческим доказательством безусловной вредности всяких претензий на всеобщность и всеобязательность каких бы то ни было убеждений, идей, верований и мнений", – пісаў Кім Хадзееў у сваім філасофскім трактаце "Мы цяжарныя цывілізацыяй будучыні..." Пазбаўляе нас ад прэтэнзій на ўсеагульнасць і ўсеабавязковасць толькі грамадства, якое арганізаванае як "договорное содружество с вольным выбором каждой личности и каждой группы. Личность и Человечество – две равнозначные и равноправные силы, а вся

социальная организация общества – лишь инструмент их взаимодействия и гармонизации".

Вось з чаго выйшаў Някляеў.

Прамінула амаль паўвека, брыгадмілаў змянілі амапаўцы, спецназаўцы. За што яны напалі на кандыдата ў прэзідэнты Някляева і ягоных паплечнікаў? Ды па сутнасці за тое самае, за што некалі на нас напалі брыгадмілы!

Змянілася Няміга – не змянілася нічога наўкол яе. Такое не можа доўжыцца бясконца... Гэта і ёсць тая, бадай, адзіная прычына, па якой дзеля палітыкі можна ахвяраваць паэзіяй. Някляеў пайшоў на гэта – і тут жа, прабачаючыся, стаў перад паэзіяй на калені, напісаўшы ў турме, дзе займеў волю ад волі, ад выбару, такую паэму, якая нават для яго, паэта неверагоднай энергетыкі, неверагодная.

Ён неверагодны чалавек – мой даўні сябар Уладзімір Някляеў. Як у жыцці, гэтак і ў літаратуры, у рэальных дзеях і ў фантазіях. А яны, рэальнасць і фантазіі, амаль адно і тое, што я магу засведчыць, пражыўшы не малое жыццё, у якім іншым разам перападала шклянка газіроўкі з сіропам, але часцей – без.



Алесь Чобат



...Браты і сёстры
ў сваёй Катыні,
а мы яшчэ
ў чужых Курапатах...

# Самалёт

***Паэма***

*Памяці 96-ці палякаў*
*у небе над Смаленскам*

***I***

Самалёт раскідвае крылы на Крыж,
каб у Неба ўзняцца над Часам.

Над зямлёй усе людзі збіраюцца разам.
Ні жывых там, ні мёртвых – там проста ляціш,
там пануе гісторыя ад часоў Герадота,
з гэтай бездані ў тую палёт самалёта,
ў той бездані ў Небе – расстрэльныя ямы,
тая Польшча, якой больш няма, але ёсць
і не гіне – ні ў людзях, ні ў душах.
Там ляціць кожны сам на сваім крыжы.
Цяпер крыж нясе чалавека –

у Катынь пад Смаленскам, ля самай мяжы
паміж нашым і людскім светам.

Мы ж даўно незалежныя – і ад тых, і ад гэтых.
Хата з краю. Ні пекла, ні раю.
Не было, як было – а было, як напішам.
Бо такія мы людзі. Такі мы народ.
Гэтаксама жывем – толькі наадварот.

***II***

Быў верасень трыццаць дзявятага года,
і панскую непагадзь наша пагода
змяніла на тыдзень-другі –
які ўжо раз "на вякі!" –
за лопатам, бразгатам, трэскам і громам
ніхто не заўважыў тых польскіх пагромаў,
раскіданых панскіх двароў,
парэзаных дойных кароў,
трафейных шкарпэтак навонханых панскіх,
пабраных гадзіннікаў, ботаў уланскіх,
лес кончыўся – трэскі ляцяць.
Нічога ж здалёк не відаць...

Саветы адразу далі ўсім работу,
кіно па нядзелях і танцы ў суботу –
за спаленым панскім дваром,
раскінуўся аэрадром;
вось нехта падаўся на курсы да Гродна,
другі ўбіўся ў пісары ўлады народнай,
прыслалі настаўнікаў і землямераў,
казалі вучыцца савецкіх манераў,
вясёлыя песні спяваць
і правадыроў шанаваць...

***III***

Скончыўся перапынак паводле актаў Версаля.
Новае пакаленне выступіла ў паход.
Танкі ўжо пад Варшавай. "Юнкерсы" над Варшавай.
У верасні наступае першы ваенны год.

"Рыжскі падзел ганебны" больш нікога не дзеліць.
Танкі даўно за Нёманам. Са слупоў "говорит Москва!"
Мястэчка стала райцэнтрам. У мястэчку кірмаш. Нядзеля.
Ходзіць зямля пад нагамі. Кружыцца галава.

Звыклы пры кожнай уладзе “жыць у ладзе і згодзе”,
Люд тутэйшы гадае: які ж гэта будзе лад?!
Як быццам усё ўжо скончана... Эх, вясковы народзе!
Так хутка ён адкрукоча – у Брэсце супольны парад .

### IV

Хутар Сурконты. Лес. Трыццаць пяць палякаў.
Скончылася адна – ідзе другая вайна.
Вільню ўжо адабралі... І дарогі нідзе ніякай.
Лета сорак чацвёртага. “Котвіну” доля адна.

Доля парашутыста. Ноччу ступіць з самалёта,
месяц блукаць у балотах, нарэшце дайсці да сваіх...
А вайна зусім не такая. Другая зусім перамога.
Ды малая птушка з маёра, каб спяваць аб справах такіх.

Доля парашутыста. Руку адаб’юць па локаць.
Рэха стрэлаў і крыкаў замуруе возера шкло.
Гадкая гэта работа. Горкая асалода.
Скочыў у Польшчу, а Польшчы там ужо не было.

### V

Над сталіцай саюзнай рэспублікі ні хмаркі ў спакойным небе.
Лепшыя хлопцы з мястэчак спакойна едуць вучыцца.
Нашы савецкія танкі спакойна стаяць на Эльбе.
А ў крамах стаяць спакойна гарэлка, цукар, гарчыца.

А па-за сталіцай рэспублікі калгаснае жыта красуе.
Няма авантуры афганскай – няма афганскіх герояў.
Нідзе не відаць беларусаў – ніхто іх не паланізуе.
Жывуць спакойныя людзі без клопату і без мрояў.

### VI

Танцпляцоўка пустая пад мокрым снегам.
Сквер у самым цэнтры мястэчка.
Грае ў сне аркестра самотных сэрцаў.
Хлопцы з восені служаць у войску савецкім.

Над скверам хмара вісіць анучай.
Скандал пачаўся ў кнайпе суседняй.
Танцаваць вучыся, а жыць гора навучыць!
У мястэчку зімой штотыдзень вяселле.

Свецяць экраны блакітныя ў вокнах.
Вайна далёка. У Афганістане.
Ну і што з таго, што хлопцы ў тым войску?!
Адслужаць і прыйдуць – абы дзеўкі чакалі.

Стала цяжка з мясам. Потым – знік цукар.
Старая “Лазня” ледзь-ледзь рыпіць па суботах.
Толькі трое вярнуліся ў цынкавых трунах.
У адной панажоўшчыне загінула болей.

## *VII*

Лёс у сабакаў сабачы.
Пуста ў людзей за душою.
Мы з гаспадыняй па дачы
марна шукаем спакою.

Знікла шляхецкая мужнасць.
Правіць савецкая раса.
Братніх народаў садружнасць
з’ела сабачае мяса.

Цэлае лета пацею,
нешта шукаю па кучах.
Кажуць – канец Дземянцею.
З’елі яго разам з путчам...

Кожны тут зубы шчэрыць...
Просты наш Край – як малітва.
Мінскам кіруе Шушкевіч –
вёскай кіруе паўлітра.

Морду паклаўшы на лапы,
ціха драмлю да абеда –
кажуць вясковыя бабы,
што заваююць нас шведы.

Нос не высоўваю з дому –
гэта ў маіх інтарэсах.
Шастаюць цёткі з райкома,
быццам ваўчыцы, на Крэсах.

Нехта пра ўладу загаўкаў,
нехта вішчыць пра свабоду...
Людзі не любяць сабакаў –
Бог не спрыяе народу.

### VIII

Свет стаяў, як стаяў –
у шчаслівым застоі.
Планавалі студэнты... да пенсіі
і да магілы свой лёс.
Там жылі – дзе пашлюць,
варушыцца і дзыгаць – пустое,
бо ўсё роўна спякотнае лета,
а ў зімку мароз.

Пасылаў адзін дурань другога –
было ж нас замнога...
Дабіваліся клеткі асобнай,
цягнулі на службе матуз...
У самога святога парога
кулі трапілі ў Яна Паўла II,
А стаяў гэты свет!
Як без Бога Савецкі Саюз...

А куды што падзелася?!
Мы ж ані вухам, ні вокам...
Ізноў тыя палякі
ізноў забаламуцілі свет?!
І за што нам чужая свабода
не выйшла, а вылезла бокам?!
І чаму беларус ва ўсім свеце
“апошні сапраўдны свет”?!

Толькі дзесяць гадоў праляцела
ад рымскага стрэла,
а паставілі жонд “Салідарнасць”,
мур бетонны ў Берліне прапаў ,
і на месцы “савецкай імперыі”
дзірка адна зіхцела...
...адзін кінуты люд беларускі
жыў, як жыў – і далей сабе жыў.

### IX

Пытанні, пытанні, пытанні адны...
Ці нават адно – на вякі.
Мы выйшлі ў народ з партызанскай вайны.
Але – у народ які?!

Спрыяў людзям час за жыццё першы раз,
прыйшоў той “шчаслівы мамент”! –
саветы і немцы прыбралі ад нас
жыдоў і палякаў нашчэнт.

Паўстаў просты люд! Сам паставіў сцяной
начальніцкі свой апарат –
і ганіў “фашысцкаю мовай дурной”
Купалы і Коласа лад,

і розумам не забіваў галавы,
і верай душы не муціў –
і толькі бяздонная бочка Масквы
цурчала шчаслівы матыў.

Чаму ж так не жыць, калі можна і так?!
Пад тою крамлёўскай сцяной...
А тут гэты пан, каталік і паляк
з крыжовай свабодай дурной!

Гатовы да смерці за ёю ляцець!
На крыж самалёта, ты бач!
А простаму люду паноў зразумець
ніяк не выходзіць, хоць плач...

### X

Катынь не была ГУЛАГам
з лагерным горкім пылам –
Катынь для “адных палякаў”,
бо гэта “людзі не тыя”,

Ідзі іх толькі паслухай!
Насмешка адна штомінуту...
– Нашто нам Сталін з камунай?! –
і шлюць да д’ябла і ў дупу.

– Мы, – кажуць, – з апекай Божай,
то вы з “няўмытай Расіяй”,
мы, – кажуць, – тут самі Польшча,
пакуль мы яшчэ жывыя!..

“...ну, мы вам Польшчу пакажам!
Глядзі – якія героі!
З гонарам вашым панскім
гноем будзеце, гноем!

Не пацягаеце нервы
простым людзям савецкім,
ах вы, пшэцкія сцервы
з Божанькам вашым пшэцкім!

Ляціце ў яму на крылах –
як лёталі на пагонах!”.
Народ не робіць памылак,
вялікі народ, шматмільённы...

### *XI*

У наступным стагоддзі над пожняй –
самалёт так бярозы пасек –
“Прабачце нам, калі можаце”, –
выдыхне чалавек.

Забудзе сваю палітыку
і свой XXI век,
і нават Расію вялікую –
бо ён найперш чалавек.

Бо жыць далей яму трэба –
не так, як “людзі жылі”! –
бо кожнага сваё Неба
чакае ў канцы зямлі.

Бо мала “хацець, як лепей”,
каб выйшла – як ты хацеў,
і позна прасіць на Небе,
чаго на зямлі не смеў.

### *XII*

Ноч над Варшавай
   дажджом заплача,
цень Крыжа
   хмараю наязджае...

...а тут спакойна,
   а тут іначай,
бо свет чужы –
   і бяда чужая.

Бо гэта ў іх
   з адным самалётам
больш тыдня Польшча
   душой нямее,
а тут няма калі –
   тут работа,
дый жыць на Небе
   тутэйшы не ўмее.

То ў тых палякаў
грашыскаў поўна
і ўсё па-панску –
што ж не маліцца?!
Хто багацейшы –
бліжэй да Бога,
а бедным людзям
нідзе не ўбіцца,
бо грошы там
і на смерці робяць –
не ўсё так проста
з тым самалётам...

...так і гавораць,
так тут і ходзяць
з пальцам задраным,
з раскрытым ротам,
так і цягаюцца
днямі пустымі,
бязвінных судзяць –
як вінаватых.

Браты і сёстры
ў сваёй Катыні,
а мы яшчэ
ў чужых Курапатах.

*18 красавіка 2010*



Вінцэсь Мудроў



...нездарма ангельцы паважаюць гэтую глумную жывёліну. Калі б не яна, Брытанія ніколі б не стала вялікай дзяржавай...

# Мех авечай воўны

***Канспект рамана***

*Памяці І.П.Ш.*

Выходзячы з машыны, Іван Андрэевіч згубіў гузік з прарэху (давялося падняць з асфальту), а ўзбягаючы па прыступках, двойчы спатыкнуўся. Гэта былі знакі зверху, папярэджанне вышніх сілаў. Іван Андрэевіч – чалавек далёка не прымхлівы, – але цяпер, напярэдадні паседжання бюро абкама тройчы плюнуў праз левы плячук. Якраз з таго боку шыбаваў Мішка Гардыка. Ля ўваходу Іван Андрэевіч павітаўся кіўком галавы са знаёмым міліцыянтам, пацiснуў руку калегу – першаму сакратару Раздзярышчанскага райкама Пятру Халімону (калісьці разам працавалі ў камсамоле) і, пераводзячы дых, спыніўся на імгненне ля шыкоўнага, ці не даваеннага яшчэ люстра. Іван Андрэевіч дастаў грабянец, зачасаў на патыліцу разбэрсаныя валасы, прыняў паважную паставу і з-за спіны ягонай, як заўсёды недарэчы, вытыркнуўся Мішка Гардыка. Гэты рудавалосы,

рабацiністы (пра такіх кажуць: мухамі заседжаны) маладзён першы год працаваў загадчыкам сельгасаддзела, упершыню быў запрошаны на паседжанне бюро абкама, і ўпрыкмет хваляваўся.

Іван Андрэевіч адышоў ад люстра, нетаропкай хадою, сюд-туд здароўкаючыся са знаёмцамі, рушыў па калідоры.

Загадчыца агульнага аддзела Зінаіда Станіславаўна, ладнага веку, але па-ранейшаму прыгожая жанчына, абагнала іх, тыцнула паперкі з парадкам дня паседжання.

– Та-ак, мы стаім пятымі, – Іван Андрэевіч азірнуўся на Гардыку, мімаходзь парукаўся (– Добрага здароўечка!) са старшынём абласнога выканкама Казленям. – Галоўнае, Міша, не хвалюйся. І кажы па сутнасці. Бацька не любіць вады...

Нечакана, аднекуль з бакавых дзвярэй, у калідор выйшаў той самы Бацька – першы сакратар абкама партыі Андрэй Пятровіч Дзяшчэня, – і Іван Андрэевіч, наструніўшыся, падцягнуў вузел гальштука.

Паседжанне доўжылася трэцюю гадзіну, і Бацьку даводзілася раз за разам стукаць асадкай па стале, патрабуючы цішыні.

– Так, таварышы... разгледзім яшчэ адно пытанне – і рушым на абед. – Бацька насунуў на нос гламаздаватыя, з тоўстымі шкельцамі акуляры. – “Аб мерах па развіцці авечкагадоўлі ў Верхнядрысенскім раёне”, – першы сакратар зрабіў паўзу, зірнуў паўзверх акуляраў у залу. – Дакладаюць таварышы Антанюк і Гардыка.

Іван Андрэевіч падхапіўся на ногі, з вайсковым спрытам абцягнуў пінжак.

– Верхнядрысенскі райкам партыі надае вялікую ўвагу развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці, падвышэнню яе эфектыўнасці. У прыватнасці, мы акцэнтавалі сваю ўвагу на развіцці такой, скажам шчыра, занядбанай галіны, як авечкагадоўля. Між тым, гэтая галіна дае не толькі каштоўную воўну, аўчыну і высокакаларыйнае мяса, але й...

– Бацька шматзначна кашлянуў, Іван Андрэевіч прамармытаў:

– Я разумею, – каторым ужо разам паправіў гальштук: – Канкрэтна пра нашыя планы распавядзе загадчык сельгасаддзела таварыш Гардыка Міхал Ілліч.

Рудая Мішкава галава ўзнялася над моўніцай, паперы кранулісся мікрафона, той зафаніў, прыкрым зыкам драпануўшы па нервах.

– Таварышы члены бюро абкама, шаноўныя прысутныя! – голас Мішкі злёгку дрыжэў ад хвалявання. – Намі падрыхтаваны канкрэтны план мерапрыемстваў з усімі выкладкамі, але, з-за недахопу часу, я спынюся толькі на асноўных момантах... Усе вы ведаеце, што авечкагадоўля вымагае...

– Не варта казаць пра тое, пра што мы ўсе ведаем, – перапыніў прамоўцу старшыня выканкама Казленя, і Бацька, на знак згоды, кіўнуў галавой.

– Добра, я буду канкрэтным, – Мішка ўздыхнуў, пашукаў вачыма Івана Андрэевіча. – На поўначы нашага раёна знаходзіцца вялізнае Усвайскае возера, а на ім востраў плошчаю 500 гектараў. Востраў незаселены і ў гаспадарчым сэнсе, як і наша авечкагадоўля, занядбаны. Я на мінулым тыдні наведаў тую мясціну. Дык вось, травастой там ў чалавечы рост. Калісьці на востраве жылі людзі, і сёння на месцы культурных палеткаў красуе поле самасейнай канюшыны. Узнікае пытанне: а чаму б не зрабіць там, умоўна кажучы, летні адкормачны пункт для дробнарагатай жывёлы? Запусціў яе,

жывёлу, з канца красавіка – і хай сабе пасвіцца. Пры гэтым не трэба ніякіх пастухоў, не трэба падвозіць ваду, дый праблема крадзяжу жывёлы практычна знікае. Увосень частку пагалоўя можна б было перавесці на зімовае ўтрыманне. Тут таксама праблемы няма, бо ў нашым прыбярэжным калгасе "Усвайскі" чатыры жывёлагадоўчыя фермы стаяць пустыя.

Пачуўшы пра пустыя фермы, Іван Андрэевіч зашоргаў нагамі па падлозе, удакладніў з месца:

– Не чатыры, а адна.

У зале заварушыліся, закашлялі, і Бацька ізноўку пастукаў асадкай, цяпер ужо па графіне.

– Я таксама бываў на востраве, – азваўся Казленя. – Ад пасёлку Усвай яго аддзяляе два кіламетры вады. Як жа вы збіраецеся перапраўляць скаціну? На лодках? І яшчэ... Памятаеце, гадоў дваццаць таму паспрабавалі было гадаваць качак на браслаўскіх азёрах. Казалі: ніякага корму не трэба, будуць сілкавацца азёрнымі глеямі. І што атрымалася: і возера запаскудзілі, і качкі перадохлі. Так што тут варта добра падумаць.

Прысутныя разам загаманілі, але тут жа і аціхлі, наструнена пазіраючы на Мішку.

– З заходняга берага да вострава метраў васемсот, не болей, – голас Мішкаў ужо не дрыжэў; гучаў звонка і пераканаўча. – У тым месцы можна зрабіць паромную пераправу: збіць два дзясяткі бярвенняў, накрыць дошкамі... А што да браслаўскага казусу, дык не сёння сказана: свіння каню не таварыш. А баран, адпаведна, не таварыш качару; пры наяўнасці пашы, ён ніколі не скапыціцца.

Бацьку такі дзёрзкі адказ відавочна спадабаўся. Ён адкінуўся на прыслон старшынёўскага крэсла, зняў акуляры:

– І колькі галоў плануеце выпусціць на пашу?

– Чатырыста, а можа, і больш, – удакладніў Іван Андрэевіч, але Бацька ў ягоны бок нават не зірнуў.

– Мы ўжо, Андрэй Пятровіч, мелі размову з кіраўніцтвам племгаса "Ходцы". Яны абяцалі даць некалькі сот галоў раманаўскай пароды, – Мішка сабраў паперы ў стос, ляпнуў ім па моўніцы.

– А пароду прэкас чаму ігнаруеце? – Бацька таксама канчаў сельгасакадэмію і ў авечых пародах добра разбіраўся.

– Раманаўская авечка – адна з самых прадуктыўных. Кожная матка, як правіла, прыносіць па тры ягняці. Праўда, гэтая парода больш патрабавальная да рацыёну. Патрэбныя кукурузна-бабовы сілас, караняплоды, камбікорм...

– Ну, дайшла, нарэшце, справа і да камбікорму, – падаў голас няўрымслівы Казленя, – а між тым у нас кожны кілаграм даўно распісаны.

Але Бацька як і не чуў такіх словаў: прыкусіў дужку акуляраў, акінуў залу задуменна-невідушчым позіркам.

– Вось бачыце, таварышы. Калі з адказнасцю падыходзіць да справы, можна, аказваецца, знайсці рэзервы росту. Думаю, ініцыятыву верхнядрысенцаў трэба падтрымаць. Зараз у нас абед, а пасля перапынку мы вернемся да гэтага пытання.

Паседжанне бюро абкама скончылася а палове шостай. Перад тым, як ехаць дахаты, Іван Андрэевіч зазірнуў, напару з Пецькам Халімонам, у абкамаўскі буфет, балазе, апошнія наведнікі з яго ўжо выкуліліся. Каньяк

тут ад нядаўняй пары не налівалі, але для першых сакратароў райкамаў буфетчыца рабіла выключэнне.

– І дзе ты выкапаў такога... рудога ды рабацінстага? – запытаўся Халімон, кульнуўшы поўны, з каптуром, фужэр “кізляру”.

Іван Андрэевіч таксама прыклаўся да фужэру, укінуў у рот скрылёк цытрыны.

– Заатэхнікам працаваў, задзер усіх сваімі ідэямі ды рацпрапановамі. Узяў яго ў райкам. Малец з галавою, дарма што рабаціністы, – Іван Андрэевіч здаволена адрыгнуў каньячна-цытрынавым духам.

– Вось і я пра тое... Бацька, адчуваю, ужо ўключыў яго ў кадравы рэзерв... любіць маладых ды неаб’езджаных.

Субяседнікі кульнулі па другой, закусілі канапкамі з чырвонай рыбай.

– А Казленя... Казленя! – абурана выдыхнуў Халімон, і Іван Андрэевіч шматзначна насупіў бровы: іхнюю размову магла пачуць кельнерка, што збірала са сталоў посуд. – Рые пад Бацькам, што той вяпрук. Тут ужо адно з двух: альбо Бацьку паваліць, альбо лыч сабе зверне.

– Ёсць і трэці варыянт, – буркнуў у адказ Іван Андрэевіч. – Ходзяць чуткі, што Казленю ў Цэка забяруць, у аддзел прапаганды.

Халімон хмыкнуў, разліў па фужэрах рэшткі хмельнага трунку.

– Ды ён сам гэтыя чуткі і распускае. Бачылі ў Цэка такіх... казленяў...

Летась, з ініцыятывы старшыні выканкама, Халімону за развал працы ўляпілі страгача, ад той пары Казленя стаў ягоным лютым ворагам.

– Не, бляха, я цаліну на ДТ-54 разворваў, а ён дзевак у райкаме камсамолу цiскаў; я паехаў у самы адсталы раён сельскую гаспадарку ўздымаць, а ён у выканкаме дваццаць гадоў порткі праціраў. І цяпер гэты к-казёл будзе мне партыйныя вымовы выпісваць?! На амаралцы сёлета ўжо двое пагарэлі... Чуў, як ён ім на пленуме мараль чытаў? А сам... – Халімон мімаходзь азірнуўся, суцішыў голас, – каханку сабе надыбаў. І ведаеш каго? Дырэктарку нашай вячэрняй школы! Кожнай суботы ў Раздзярышчы таўчэцца.

Першы сакратар Раздзярышчанскага райкама грукнуў кулаком па стале і Іван Андрэевіч, вінавата пасміхнуўшыся кельнерцы, тузануў субяседніка за рукаво.

– Усё, Пятро, пайшлі. На двары пагамонім.

Глынуўшы свежага паветра, суразмоўнікі запалілі цыгарэты, праводзілі юрлівымі позіркамі загадчыцу агульнага аддзела Зінаіду Станіславаўну, якая збягала па сходах, і Халімон тарганўў падбародкам.

– Можа яшчэ дзе пасядзім?

Сядзець з Халімонам Івану Андрэевічу не выпадала.

– Табе тут ехаць паўгадзіны, а мне 180 кэмэ пілаваць. Так што давай, дружа... па конях. А то нас дома прычакаліся.

Іван Андрэевіч махнуў рукой вадзілу і райкамаўская “Волга”, даўшы кругаля па пляцы, спынілася ля сходаў. Гардыкі ў машыне не было.

– Прасіў па дарозе забраць. Будзе чакаць ля абласной бібліятэкі, – паведаміў вадзіла, і Іван Андрэевіч хітнуў галавой: яму прaглася пагаманіць з падначаленым, пачуць, што той думае пра сённяшняе паседжанне.

– Я ў маладосці таксама кніжкі чытаў, – выдыхнуў Іван Андрэевіч, плюхнуўшыся на сядзенне, – Цяпер другое ў галаве...

“Колькі там на паром? Пару кубоў дошак хопіць? Потым... трэба за-

мовіць цэглы для рамонту фермы, выбіць вагон камбікорму, паставіць павеці, каб авечкам было дзе ад дажджу хавацца... гэта яшчэ кубо-оў...” – прыкідваючы, колькі дошак спатрэбіцца, Іван Андрэевіч п’янавата пазяхнуў. “Усё ж такі гэты Гардыка спраўны малец. Дарма, што не дае спакою з рознай лухтой”.

Душным летнім вечарам Мішка Гардыка ляжаў на канапе і неадрыўна глядзеў на прастакутнік вакна. Гадзіннік паказваў палову восьмай, а неба ўжо было непраглядна-шэрым; па ім ляцела ашмоцце дымнай смугі, і гэта абяцала навальніцу. На грудзіне Мішкавай грувасцілася важкая таміна. Назва сцерлася з вокладкі, але для цікаўных паведамім, што гэта была ўзятая з абласной бібліятэкі “Авечкагадоўля” пад рэдакцыяй Есавулава і Літоўчанкі. Таміна калыхалася ў тахт парывістаму Мішкаваму дыханню і была разгорнута на раздзеле “Хваробы”.

Тры гады таму, як канчаў сельгасакадэмію, хваробы парнакапытных яго не надта хвалявалі. Хаваючы ў далонь пазех, ён занатоўваў лекцыі, без асаблівага імпэту сядзеў у лабараторыях, яшчэ з большай неахвотаю здаваў вытворчую практыку. А вось цяпер, прачытаўшы пра гнойныя афты, ліхаманку і паразу крывяносных судзінаў у парнакапытных, не на жарты расхваляваўся. Хваляваўся ён, вядома ж, за авечак, што пасвіліся на востраве. Як яны там, без дагляду? А як возьмуць ды захварэюць? З каго спытаюць за паморак? З таго п’янчугі, што завіхаецца ля парому, падводзячы кармы? Калі што надарыцца, адказваць давядзецца асабіста яму, Мішку Гардыку, прычым, па поўнай праграме.

Мішка падняўся з канапы, падышоў да вакна і на даляглядзе, поўнячы душу халоднай трывогай, бліснула першая бліскавіца.

А тым часам, як шуганула бліскавіца, і па вадзе чорнымі гузікамі заскакалі першыя кроплі дажджу, да берага бязмежнага Усвайскага возера падышлі тры панурыя ваўкі. Яны прыбеглі з суседняй Латвіі і, задзершы пысы, доўга нюхалі паветра. На сваім ваўчыным вяку ім даводзілася часцяком пераплываць рэкі і нават невялічкія азярыны. Аднак тут, каб пажывіцца баранінай, галавакружны пах якой далятаў з супрацьлеглага берага, трэба было плысці немаведама колькі. Ваўкі разам аблізнуліся, і адзін з іх, старэйшы, дарэшты схуднелы – нават драбы тырчэлі з-пад поўсці – забег у кусты, некалькі разоў, як гэта робяць сабакі, крутнуўся на месцы і лёг, тыцнуўшыся носам у хвост. Неўзабаве непадалёку скруціліся абаранкамі й ягоныя спакрэвічы. Ваўкі вырашылі дачакацца ночы.

Наступны ранак, як гэта бывае пасля начной навальніцы, выдарыўся сонечным і навылёт празрыстым. І ўсё ж трывога за лёс племяннога статку не адпускала, і Мішка, падпільнаваўшы шэфа ў райкамаўскім калідоры, папрасіў таго даць машыну.

– Ва Усвай сабраўся? – Іван Андрэевіч шыбаваў па калідоры, на хаду гартаючы жмутак папераў. – У мяне на шыі трыццаць чатыры гаспадаркі, у мяне дзесяць камбайнаў стаяць неадрамантаваныя, а ты тут дзяўбеш галаў нейкім статкам. Едзь вунь у “Аблсельгастэхніку”, запчасткі даставай, – Іван Андрэевіч на імгненне спыніўся, ужо лагодным тонам дадаў: – Ну што ты, далібог, расхваляваўся? Нічога з тымі авечкамі не здарыцца. А здарыцца што – Балабошка з пасады зляціць, пагатоў, ужо і заява напісана.

Калі прымалі рашэнне аб арганізацыі авечай гаспадаркі, адказным за пагалоўе прызначылі старшыню калгаса “Усвайскі” Балабошку. Праўда, сам старшыня ад гаспадаркі той рашуча адбіваўся і нават падаў заяву аб сыходзе на пенсію.

– Так што, Міша, кідай свае выбрыкі і займіся запчасткамі. А ва Усвай выхаднымі днямі з’ездзіш; адпачнеш, пазагараеш. Я табе з такога выпадку нават свой японскі спінінг пазычу.

Іван Андрэевіч згадаў пра адпачынак мімаходзь, паўжартам, але падначалены ўспрыняў гэта як дырэктыву і ў суботу, яшчэ дасвеццем, выкаціў з дому спартовы ровар. Дарога да Усвая няблізкая, дваццаць пяць кіламетраў, ды Мішка так націснуў на понажы, што праз дзве гадзіны ўжо стаяў на ўзгорку, захопленымі вачыма пазіраючы на блакітны, шызаватай смугой крануты прасцяг. Усвайская возера гуляла ўсімі сваімі фарбамі, адбірала вочы, а леваруч, пад белай аблачынкай, падымаўся з вады пяшчысты востраў з чубком зялёнага лесу пасярэдзіне.

Сонца ўжо ладна прыпякала, і ехаць лукаватай праселіцай, у цяньку прыбярэжных кустоў, было праўдзівым задавальненнем. Праселіца прыбівалася да самага берага, але была сухой ды тупкай, і толькі ў адным месцы – там, дзе яе перацінала балоцістая ручаіна, – давялося ўскінуць ровар на плячук і скакаць па купінах, выбіраючыся на сухое. Пакуль Мішка скакаў, яго пакусалі камары, таму, ратуючыся ад заедзі, ён паехаў ля самага краю дарогі, падстаўляючы твар шаргатлівай альховай лістоце.

Мішку ўжо даводзілася бываць у гэтых мясцінах. Апошнім разам быў тут месяц таму: пад’ехалі разам з Балабошкам паглядзець – як перапраўляюць на востраў авечак. Тады, з апошняй партыяй, ён і сам хацеў перапраўіцца, паглядзець – што там ды як, аднак Бабошка адгаварыў. Замест таго яны паехалі ў бліжэйшую латышскую вёску, узялі ў мясцовай краме дзве пляшкі гарэлкі і там жа, на ўзбочыне дарогі, адзначылі падзею...

...Нечакана дарога павярнула ўправа і з-за кустоў выплыў нізкарослы дзядзька, які піхаў наладаваны двума вялічэзнымі мяхамі ровар. Недаростак, сапучы і мацюкаючыся, прайшоў міма і ў паветры завіс устойлівы пах махры і самагону.

“Камбікорм крадуць!” – гэтая думка дала працы нагам; Мішка нават прыўзняўся з сядла, разганяючы ровар. Пры гэтым альховае вецце балюча хвастала па твары, выпетрываючы з душы асалоду летняга ранку.

Дарога пабегла ўгору і з-за пагорку вытыркнулася, бліснуўшы шыбамі вокнаў, прысадзістая хата. Стаяла яна непадалёку ад берага і ў ёй жыў Фарзун – паромшчык, які падвозіў на востраў камбікорм ды іншую спажыву.

“Будуць тут прывагі... усё прапіваюць, падлюгі!” – душа аж па край поўнілася абурэннем, і ў Мішкі, калі ён заязджаў у двор Фарзуновай хаты, нават затрэсліся рукі.

– Ёсць тут хто? – запытаўся, адчыніўшы рыплівыя дзверы, і пачуў грымотны храп за спінай.

Храплі пад хлявом. Там, у цяньку, стаялі калёсы, на якіх, прыкрыўшы ражком пустога меха вочы, спаў чарнявы бамбіза.

– Эй, таварыш! – адвёўшы нос, каб пазбыцца часнычна-самагоннага перагару, Мішка крануў бамбізу за плячук, тузануў, але той не прачнуўся. – Гэта і быў той самы Фарзун.

Ляпнуўшы далонямі па клубах, Мішка рушыў да возера.

Парому на месцы не аказалася, відаць, адагналі на востраў. Але затое поруч гойдалася, прывязаная вяроўчынай да кала, лодка-душагубка. Давялося вярнуцца ў двор, зазірнуць у пошуках вёслаў у хлеў і адрыну. Не знайшоўшы нічога лепшага, Мішка прыхапіў старую, пацямнелую ад часу лапату: тую самую, якой бабы садзяць у печ караваі. А ля самага берага знайшоўся даўжэзны, адшараваны далонямі шост.

Калі ён, стоячы ў лодцы, адпіхнуўся ад берага, душагубка небяспечна зыбанулася, чарпанула вады і далей ён ужо кіраваў лодкай упрысядку, тыцкаючы шост у глеістае дно.

Востраў уражваў сваёй пустэльнасцю, але пяшчаны бераг – гэты было бачна яшчэ здалёк – быў здратаваны авечымі капытамі. Хвілін праз пятнаццаць лодка тыцнулася носам у прыбярэжную асаку, шорхнула дном па жвіры і Мішка, скокнуўшы ў ваду, падцягнуў яе бліжэй да берага. Наўкол было ціха. Нават азёрныя кагаркі, якія ўсю дарогу да вострава сіпла крахталі над галавой, суняліся. Цяпер яны паселі ля прыбярэжных кустоў і штосьці там зацята дзяўблі.

“Дзе ж статак?” – з разважлівай насцярогай падумаў Мішка, ды тут жа адагнаў трывогу думкаю пра тое, што авечкі, хутчэй за ўсё, хаваюцца ад спёкі ў хвойніку.

Прыемна было ступіць голымі пяткамі па гарачым пяску, яшчэ прыемней было панурыць навярэджаныя ногі ў цёплую як сырадой ваду. Скінуўшы паўкеды, штаны, кашулю Мішка збіраўся быў сігануць у празрыстую азёрную глыб, ды тут убачыў, як адна з кагарак, загарлаўшы, узнялася ў паветра, несучы ў дзюбе нейкі сінsocket пухір.

Пазяхнуўшы, Мішка падышоў да кустоў і разам аслупянеў: у цяньку, напаказ сцякаючы крывёю, ляжалі шызыя вантробы.

“Чалавечыя!” – працяла мазгі панічная думка, але, прыгледзеўшыся, Мішка перавёў дых; нейкі злодзей, магчыма, нават Фарзун, разабраў авечку ды кінуў вантробы азёрным кагаркам.

З перапуду закарцела адліць. Мішка стаў ля куста, зашамацеў напорлівым струмком і зніякавеў: з-за алешыны, прама на яго, глядзелі бурштынавыя вочы вялізнага ваўка. Мішкава рэакцыя была дынамічнай. Не паспеўшы нават падцягнуць трусы, ён скокнуў убок, сігануў праз крапіву і ў наступнае імгненне ўжо караскаўся, да крыві абдзіраючы лыткі і сцёгны, на высокую асіну.

Узбіўшыся метраў на пяць ад зямлі, ён аддыхаўся, зірнуў долу, а потым, абламаўшы галіну перад носам, агледзеў азярыну. Непадалёку – так прынамсі, падалося, – гайдалася на хвалях рыбацкая лодка.

– Людзі-і! А-аа!!! – загарлаў ён штомоцы, – Давай сюды, тут ваўкі-і!!!

Гарлаў ён доўга, сарваў голас, але рыбакі яго не пачулі. Затое пачулі авечкі, і хваёвы падлесак – яны й папраўдзе былі там – напоўніўся жаласлівым бляяннем.

Ваўка не было бачна: ляжаў, відаць, пад кустом ды цікаваў, калі няпрошаны госць злезе з дрэва. Праўда, астыўшы мазгамі, Мішка вырашыў, што воўк і сам яго напужаўся.

– Не будзе сытая ваўчара кідацца на чалавека, – прашаптаў дзеля самазаспакаення небарака, і яшчэ падумаў, што дапамогі чакаць не даводзіцца і рана ці позна трэба будзе злазіць долу.

Асіна – дрэва крохкае, таму спускаўся, абеуруч трымаючыся за стаўбур, бо галіны абломваліся, і толькі намацаўшы пяткай ніжні тоўсты сук, вырашыў крыху адпачыць. Ён паспеў уздыхнуць, але не паспеў выдыхнуць, бо сук надламіўся і Мішка, махнуўшы наастачу рукамі, абрынуў у парослыя крапівою кусты. Спанталыжаны, з апечаным крапівою тварам, ён вылецеў з кустоў, спінай адчуўшы гарачы ваўчыны подых. Не разбіраючы дарогі, Міхал Гардыка рынуў да лодкі, піхнуў душагубку ў ваду, і воўк, які бег следам, з адчаем забляяў. На беразе, убіўшыся па калена ў ваду, стаяў кудлаты маркач. Пыса ягоная была падзертая, да рагоў пачапіўся хмель, а з адвіслай вусны звісала, кранаючыся вады, бліскучая асца.

– Пачакай, братка... не да цябе... – прасіпеў Мішка, увагнаў прыс у глей і той, выслізнуўшы з рук, адразу ж аддаліўся, хітаючыся над вадою. – Мацюкнуўшыся (чаго ён сабе ніколі не дазваляў), Мішка схапіў лапату, з адчайным імпэтам пагнаў душагубку да берага. Ён не даваў спачыну цяглiцам (два грабкі леваруч, два грабкі праваруч) і толькі аднойчы, на сярэдзіне пратокі, кінуў грабсці і поўнай жменяй плюхнуў на твар гаючай вады.

Калі лодка, запаволіўшы бег, зашамацела па прыбярэжным трысці, уваччу мітусіліся чорныя мятлікі і сэрца грукала ў вушах, заглушаючы не толькі навакольныя зыкі, але й думкі. Мішка плюхнуўся на гарачы пясок, заплюшчыў вочы. Лёгкі ветрык крануўся скроні, сэрца паволі суціхла і ён пачуў, як у вышыні, па-варонінаму зычна, крыкнула кагарка; як пляснула буйная рыба на мелкаводдзі; як крахтанула дзікая качка ў чаратах, і сонца, калі ён размежыў павекі, чорнай плямай здрыганулася ў нябесным прыцiне.

Фарзун па-ранейшаму спаў на калёсах, адно змяніўшы паставу: цяпер левая нага была сагнутая ў калене, а правая звісала долу.

Трэба было ў нешта апрануцца, бо вопратка засталася на востраве. На вешаку ў Фарзуновай хаце знайшоў зрэбную кашулю, выцвілыя да белаты спартовыя нагавіцы. Насунуў на сябе ўсё гэта зрэб'е, падаўся на двор і, падумаўшы, сцягнуў з храпуна каравыя сандалеты.

Ён ужо гнаў ровар з гары, ды раптам загамаваў, заклапочана і разважліва пацёр угрэты лоб. Адказнаму райкамаўскаму работніку ехаць ва Усвай у такім выглядзе ніяк не выпадала. Дый Балабошка, відавочна, выхадным днём дома не сядзеў. Адзінае, адкуль можна было пазваніць, гэта пошта. Але ж не будзеш гарлаць пра ваўкоў у прысутнасці чужых людзей. За ўцечку інфармацыі Антанюк можа і лупня даць. Адзінае выйсце – ехаць у суседнюю Латвію. Пагатоў, да латышскага пасёлка Слабада, дзе яны з Балабошкам бралі гарэлку, нават бліжэй, чым да Ўсвая... Узняўшы ўгору пярэдняе кола, Мішка павярнуў ровар у адваротны бок.

Дарога да Слабады, калі ехаць не гасцінцам, а напраcткі, хаця й карацейшая, ды гіблая. Аж да самай латышскай мяжы – адныя балоты, да таго ж пасечаныя меліярацыйнымі канавамі. Так што давялося не столькі ехаць, колькі прадзірацца скрозь кусты, цягнучы на плячы ўраз пацяжэлы ровар. І толькі ля самай мяжы выбіўся на гасцінец, даў разгону, і з апалым сэрцам згадаў, што не мае грошай. Яны засталіся ў штанах, якія вартаваў ненажэрны ваўчара.

“Раскажу ўсё як ёсць... павінны дапамагчы... больш як на рубель не нагавару...” – з гэтымі думкамі, зыркнуўшы на дарожны паказальнік з надпісам “Slabada”, Мішка націснуў на понажы.

Між тым ненажэрны ваўчара і не думаў вартаваць ягоныя порткі. Гэта быў мацёры воўк і, пабачыўшы чалавека, які пазначаў пад самым ягоным носам тэрыторыю, вомігам зразумеў, што неўзабаве на востраве з'явяцца людзі са стрэльбамі, і што трэба адсюль ліняць. Пра гэта, ваўчыным языком, ён і паведаміў сваім спакрэвічам. Праз паўгадзіны ваўкі, укормленыя і пацяжэлыя, вытыркнуўшы з вады адны насы ды вушы, паплылі ў той бок, адкуль надоечы прыплылі. Адзін з ваўкоў, маладзейшы, яшчэ колькі часу стаяў на беразе, не разумеючы, чаму ён мусіць кідаць гэты ваўчыны рай, але, глянуўшы на вушы сябрукоў, што варушыліся сярод дробных хваляў, з неахвотаю, раз-пораз атрэсваючы пярэднія лапы, палез у ваду.

Хоць Мішка і не ведаў латышскай мовы, ды ўбачыўшы шыльду "Pasta nodaļa", выдыхнуў: – Тут, – і скочыў з ровара.

У невялічкім, прапахлым клеем і растопленым сургучом пакоі, сядзелі дзве кабеты.

– Лабдзен! – выгукнуў Мішка, і адна з кабетаў – тая, што сядзела пад партрэтам Карла Маркса, крутнула ключ шуфляды. У шуфлядзе, відаць, ляжалі грошы.

– Я вам зараз усё растлумачу, – запабежліва пралепятаў наведнік, не пазнаючы ўласнага голасу. – Рэч у тым, што гэта не мая вопратка... – Мішка кашлянуў, але голас стаў яшчэ больш сіплым, – ... мая засталася на востраве...

Зразумеўшы, што перад імі не рабаўнік, а вар'ят, жанкі пераглянуліся.

– Разумееце, на мяне напалі ваўкі... – ужо без ранейшага імпэту прамовіў Мішка Гардыка, і кабеты, а разам з імі і Карусь Маркс (а мо' гэта толькі здалося), стрымана пасміхнуліся.

Хвілінаў дзесяць наведнік распавядаў – хто ён такі, і што з ім здарылася, пасля чаго папрасіў злучыць яго з Верхнядрысай.

– Грошай, праўда, у мяне няма. Але я вам заўтра прывязу...

– Заўтра нядзеля, мы не працуем, – азвалася адна з паштарак. – Мы вас злучым, але папярэдне спытаем дазволу ў начальства. Калі ласка, пачакайце ў двары...

Чакаць давялося доўга. Мішка спачатку сядзеў на лаве, потым прайшоўся вакол пошты, нарэшце, уявіўшы, як ваўчара загрызае чарговую ахвяру, расчыніў дзверы і прасіпеў ад парога:

– Ну, што там начальства?

– Ужо едзе! – быў адказ.

І сапраўды, непадалёку заляскатаў матацыкл і да весніц, узняўшы пылюку, падкаціў міліцэйскі К-750. Сэрца Мішкава абарвалася.

Сівагаловы міліцыянт злез з матацыкла, абабіў ад пылу форменнае галіфэ.

– Вашы дакументы.

Мішка развёў рукамі, пачаў, ужо дарэшты асіплым голасам, тлумачыць сітуацыю. Пачуўшы, што перад ім адказны работнік Верхнядрысенскага райкама, міліцыянт пакасіўся на Мішкавы абутак, з нетаропкай разважнасцю прыпаліў папяросу.

– А ну... хто ў Верхнядрысе начальнік міліцыі? – міліцыянт з шумам выпусціў дым.

– Як хто... Мандрык... Сцяпан Пятровіч.

Міліцыянт адкінуў на патыліцу фуражку, выцер рукавом узмакрэлую лабаціну.

– Ну, а хто старшыня ўсвайскага калгаса?

– Балабошка... гэта ён і заваліў усю працу. Увосень на пенсію выпраўляецца.

Вестка такая міліцыянта злёгку збянтэжыла. Ён крэкнуў, зняў з галавы фуражку.

– Ну і спёка сёння... Карацей, сядай на ровар і едзь за мной... штонебудзь прыдумаем.

Кабінет участковага месціўся ў двухпавярховай будыніне. Тут было прыцемна, прахалодна і Мішка, сеўшы ў крэсла, адчуў страшэнную стому: балеў карак і ногі гулі як тэлеграфныя слупы. Міліцыянт доўга круціў тэлефонны дыск – тэлефанаваць давялося праз Рыгу, – суцішна мацюкаўся, нарэшце прасвятлеў тварам і гучна выдыхнуў:

– Сцяпан Пятровіч?! – трубка штосьці прабубнела ў адказ, а міліцыянт, пацёршы няголеную шчаку, з уздыхам прамовіў: – Ды якая там рыбалка... не да таго зараз... – Слухай, тут да нас ваш чалавек завітаў... – міліцыянт прыціснуў далонню слухаўку, таргануў галавой.

– Гардыка... Міхаіл Іванавіч, – падказаў Мішка, прыўзняўшыся з крэсла.

– Гардыка Міхаіл... Дык вось, ён толькі што быў на востраве і ўзбіўся там на ваўка. Так што бярыце стрэльбы, сабак, і тэрмінова выязджайце на месца, – міліцыянт перакінуў трубку з аднаго вуха на другое. – Не, сам ён нічога сказаць не можа... сарваў голас.

Яшчэ пару хвілін міліцыянт гаманіў па тэлефоне, дамаўляўся наконт рыбалкі, і Мішка, выцягнуўшы стамлёныя ногі, адчайдушна пазяхнуў.

Калі ён прыцёгся на бераг, сонца ўжо кацілася за небакрай і ад прыбярэжных кустоў на ваду леглі фіялетавыя цені.

Ля Фарзуновай хаты стаялі два “ўазікі”, а ля самага берага завіхаліся нейкія людзі, напампоўваючы аўтамабільнай помпай гумовую лодку. Поруч, на траве, ляжалі дзве дубальтоўкі, а вакол іх бегала, прыязна махаючы хвастом, вялізная аўчарка.

– Ды няма там ніякіх ваўкоў. Пальма іх за пяць кіламетраў чуе. Калі б што – брахала б як апантаная, – Мішка пазнаў па голасе начальніка раённага аддзела міліцыі Мандрыка.

Мішка спусціўся да берага, падаў Мандрыку руку. Галоўны раённы міліцыянт быў пад хмяльком і не ў гуморы.

– Гэта што, латышы цябе так апранулі? – запытаўся Мандрык, і Мішка, кіўнуўшы ў бок вострава, сіпла працэдзіў:

– Апранаху маю забярыце. На беразе ляжыць.

Мішка пайшоў да свайго ровара, падагнаў яго да “ўазіка”.

– Ну як там, у Латвіі, парадак? – гукнуў у спіну начальнік міліцыі.

– Парадак! Нездарма ўсе браканьеры да нас едуць.

Словы такія Мандрыку не спадабаліся. Міліцыянт штосьці буркнуў у адказ – Мішка пачуў толькі словы “малады яшчэ... старых павучаць”, – а потым незадаволена крыкнуў:

– Ну што вы, бляха, цялёпкаецеся?! Лодку напампаваць не можаце?

Сонца ўжо не грэла, і Мішку страсянулі дрыжыкі. Прыхінуўшы ро-

вар да машыны, ён залез у кабіну, падкурчыў ногі, лёг на праседжанае сядзенне.

“Зараз страляць пачнуць”, – адно й паспеў падумаць, перш чым праваліцца ў трывожны сон. Перад вачамі пабеглі ўсплёскі вады – леваруч, праваруч, – і па неспакойнай вадзе зашнуравалі цені імклівых кагарак...

– Ну што, праспаўся? Камбікорма шмат прапіў? – рэзкі Мандрыкаў голас на імгненне вырваў са сну. “Фарзуна ўшчувае”, – скрозь сон падумаў Мішка. Тым часам ён ужо не плыў, а ішоў да выспы напрасткі, пры гэтым вада не даставала каленяў. Пад нагамі срэбнай луской бліскала рыба, пяшчотна краналася лытак, белыя кагаркі чыркалі крыламі па хвалях, а на востраве, па грудзіну ўбіўшыся ў ваду, яго чакаў кудлаты маркач. “Нарабілі бяды, падлюгі!” – крыкнуў маркач, і Мішка ізноў прачнуўся.

Нехта плыў на лодцы, крычаў здаля:

– Хлопцы яшчэ лічаць, але, думаю, галоў пяць-шэсць зарэзалі!

– Дык можа гэта не ваўкі?

– Ваўкі... іхніх слядоў поўна.

Мішка падняўся, правёў далонню па прыспаным, прыпухлым ад крапівы твары і з радасцю падумаў, што заўтра нядзеля і можна будзе дасхочу выспацца.

Ад самага ранку Івану Андрэевічу патэлефанавалі з вобласці. Зычнагалосая Бацькава сакратарка, павітаўшыся, загадала адразу ж па абедзе прыехаць у абкам партыі.

– Калі, заўтра? – перапытаў першы сакратар.

– Сёння! Андрэй Пятровіч прыме вас а трэцяй гадзіне.

– А па якім пытанні? – спытаў быў Іван Андрэевіч, але тут жа, сумеўшыся, выдыхнуў: – Буду! – У размовах з абкамаўскімі сакратаркамі не варта было задаваць лішніх пытанняў.

Тэрміновы выклік у абкам усхваляваў Івана Андрэевіча. Халера яго ведае дзеля чаго выклікаюць. Можа хто ананімку нашрайбаў? Апошнім часам развялося пісакаў. Сашчапіўшы рукі за патыліцай, Іван Андрэевіч задзер галаву да столі.

“Можа, Пецьку Халімону патэлефанаваць?” – апанаваны невясёлымі думкамі, Іван Андрэевіч пацягнуўся да тэлефона, зняў трубку і доўга слухаў натужлівае гудзенне.

Пецька хоць і сядзеў у Раздзярышчы, але быў абазнаны ва ўсіх абкамаўскіх закалотах. Хадзілі нават чуткі, што ён інфармаваў Бацьку аб настроях у партыйным асяродку. Пачухаўшы пальцам сівую скронь, Іван Андрэевіч перадумаў тэлефанаваць, кінуў гудзёлку на вагар.

У разлеглай прымальні было поўна народу: сабраліся, відаць, на нейкую нараду. Іван Андрэевіч падумаў ужо, што рушыць у кабінет разам з усімі, але Бацькава сакратарка – вабная саракоўка ў дэкальтаванай сукенцы – акінула яго прыязным позіркам і стоена прашаптала: – Заходзьце, вас чакаюць.

Бацька сядзеў за сталом, штосьці пісаў, а пабачыўшы наведніка, моўчкі кіўнуў на крэсла. Паставіўшы кропку, першы сакратар парукаўся з падначаленым.

– Чаму рукі халодныя? – запытаўся Бацька, і падначалены, не ведаючы, што адказаць, разгублена пасміхнуўся.

Андрэй Пятровіч Дзяшчэня быў кіраўніком новай фармацыі, а таму любіў людзей самастойных, ініцыятыўных і, галоўнае, здольных да рызыкі. Сярод такіх і шукаў сабе хаўруснікаў. Ініцыятыва з адкормам статку на закінутым востраве, з якой выступіў Верхнядрысенскі райкам, пераканала абласнога кіраўніка, што Антанюк – чалавек, на якога можна пакласціся. Да таго ж, ён ужо не першы год прыглядаўся да падначаленага. Антанюк умеў трымаць язык за зубамі, і ўадначас дакладна і без пярэчанняў выконваў загады. І вось цяпер, пазіраючы на скурчаную постаць падначаленага, Андрэй Пятровіч міжволі падумаў: “Ці не памыляюся?”

Гаспадар кабінета падняўся, прайшоўся ўздоўж даўжэзнага, засланага зялёным абрусам стала.

– Ну, распавядай... як справы? Ваўкі больш не дакучаюць?

Падначалены сцепануўся, а Андрэй Пятровіч, пасміхнуўшыся, паляпаў таго па плячы.

– Усё, братка, ведаю. Думаеш, я тут сяджу ды мух лаўлю? Эх, Ваня-а... ад Бацькі не схаваешся.

Андрэй Пятровіч кіўнуў на партрэт, што вісеў на сцяне.

– Нас Ленін як вучыў? Мацаваць кіраўніцтва нераўнадушнымі, адданымі справе людзьмі. І рашуча вызваляцца, ад тых, хто не адпавядае такім крытэрам... – Дагэтуль Бацька гаманіў бадзёра і весела, ды нечакана надаў голасу сур’ёзныя ноткі: – Вы з Халімонам, здаецца, сябрукі?

– Ды так, працавалі разам у камсамоле, – голас у Івана Андрэевіча перасеў, як у таго Мішкі Гардыкі, і ён стрымана кашлянуў у жменю.

Шэф разважлівай хадою рушыў да стала, і сэрца падначаленага замірала ад страху перад кожным новым крокам.

– Карацей, Халімона ў Цэка забіраюць, будзе на ідэалагічнай ніве завіхацца...

– А каго ў Раздзярышча? – з нечаканай для сябе смеласцю запытаў Іван Андрэевіч.

– Казленю, – з хітрынкай уваччу адказаў шэф, задаволена пацёршы далоні, – атрымаў страгача – хай цяпер пакіруе адсталым раёнам.

“Звярнуў Казленя лыч”, – згадаліся Івану Андрэевічу Халімонавы словы. Ён з захапленнем, і ў той жа час з прытоенай асцярогай зірнуў на Бацьку.

– На вызваленую пасаду старшыні аблвыканкама камітэт партыі рэкамендуе... – Бацька сеў у крэсла, разгарнуў чырвоную тэчку, што ляжала на стале... – рэкамендуе... – Бацькава вока гарэзліва бліснула, – таварыша Антанюка... Івана Андрэевіча.

Пасля такіх словаў Іван Андрэевіч адчуў, што яму не хапае паветра.

– Згоды тваёй пытацца не буду, пагатоў, ёсць партыйная дысцыпліна. Ну а на тваё месца, думаю, пасадзім... гэтага... рыжага...

– Гардыку? – пралепятаў Іван Андрэевіч.

– А што, ёсць нейкія сумневы?

– Ды малады яшчэ... ні досведу, ні саліднасці... Два гады галоўным заатэхнікам працаваў, ды год у райкаме...

– Мне на месцах патрэбныя не салідныя перадпенсійныя тузы, а маладыя адміністрацыйныя шасцёркі. Тыя, што зямлю грызуць, ночы не спяць, а справу робяць. Гэта ж ён там, голы, ваўкоў ганяў? Так што ідзі, падумай над маёй прапановай, а ў сераду разам паедзем у Цэка.

Агаломшаны, Іван Андрэевіч спусціўся ў буфет, замовіў шклянку гарбаты. “Пажадана армянскай, і з цытрынай”, – аднымі вачамі паведаміў ён кельнерцы.

У буфеце было толькі тры наведнікі: нейкая кабета з пышнай “райкамаўскай” прычоскай піла каву за дальнім сталом, а ля ўваходу стаялі, зыркаючы на кельнерку, два кароткастрыжаныя ёлупні са службы Бацькавай аховы. Уваходзячы ў буфет, Іван Андрэевіч кіўнуў ім, але тыя не адказалі.

“Нічога, дармаеды, хутка пачнеце паважаць старэйшых”, – у думках прамовіў Іван Андрэевіч і згадаў учарашнюю размову са Сцёпкам Мандрыкам. Начальнік міліцыі чарговым разам наракаў на Гардыку. Лезе, маўляў, не ў свае справы. Учора ён Мандрыку нічога не сказаў. А вось заўтра параіць: пры сустрэчы з Міхалам Іллічом Гардыкам прыкладаць далонь да брылька і пераходзіць на парадны крок. І пажадана з зухаватай гіморай на твары. Іван Андрэевіч, як гэта ён любіў рабіць часінай душэўнага натхнення, ускудлаціў валасы на скронях. Натхняцца было з чаго: дзесяць гадоў адседзеў у праклятушчай Верхнядрысе, думаў, там і памрэ, а тут такі паварот лёсу!

“Ну і Халімо-он... нездарма яго называюць Бацькавым шпегам. Высачыўтакі Казленю, можа і фотаздымкі зрабіў для партыйнага кантролю, – Іван Андрэевіч нават уявіў здымачак: голы Казленя ляжыць на дырэктарцы вячэрняй школы, – дый раманаўскія авечкі прыдаліся ў жылу! Не-э, нездарма ангельцы паважаюць гэтую глумную жывёліну. Калі б не яна, Брытанія ніколі б не стала вялікай дзяржавай”.

Кельнерка прынесла каньяк, і Іван Андрэевіч гарэзліва схапіў дзяўчыну за руку.

– Ведаеце, прыгажуня, хто сядзіць на мяху авечай воўны?

– Старшыня палаты лордаў, – адказала дзяўчына.

Іван Андрэевіч шчыра здзівіўся: простая кельнерка, а ведае такія рэчы.

– А вас што, пераводзяць на працу ў Вялікую Брытанію?

– Пераводзяць, але крыху бліжэй, – адказаў наведнік і з асалодай, не варушачы коўцікам, уліў у рот пякучы трунак.

Віктар Жыбуль



...на граблі наступаю
толькі ў шлеме...

# Смакаванне галосных гукаў

***ЗУМА***

Раней да мяне завітвала Муза;
цяпер мяне наведвае Зума.
Так-так, менавіта так яна сябе называе –
як быццам бы Муза, але наадварот:
-МУЗ- ↔ -ЗУМ- ,
і толькі канчатак -а выяўляе
яе нязменную жаночую сутнасць.
(Прэзідэнт Паўднёваафрыканскай рэспублікі
тут зусім ні пры чым:
супадзенне з ягоным прозвішчам
чыста выпадковае.)

Муза наадварот...
І натхняе яна ад адваротнага,
натхняе падступна і жорстка,
прымушаючы звярнуць увагу

на тое, што натхненне,
аказваецца, бывае двух відаў:
затхненне і растхненне
(ну, па аналогіі з зачараванасцю
і расчараванасцю),
і вось – Муза мяне натхняе,
а Зума – мяне растхняе.

І таму цяпер замест КРАСы
мяне хіліць да САРКазму.
Бывае, адчыняю акно, летуценна просячы:
“СОНЦА Б!..”,
а мне ў адказ – БАЦ у НОС!
І не ТРАВа мяне закалыхвае шэптам,
а ВАРТа мяне сцеражэ,
і не НАДЗЕЯ мне шлях асвятляе,
а толькі ЯЕ ЗДАНь.
І таму я не лунаю ў аБЛОКах,
а адчуваю сябе запаяным у КОЛБу.

Зума... Зума... Зума...
Як праз фатаграфічны ZOOM
глядзець на рэчы
змушае мяне яна,
каб павялічаная секунда
эпохай здавалася ў аб’ектыве.

Зума – як вечная зіма
з завываннем ветру: уууу!
Палярная ноч заглушае розум.
Паляванне на дыназаўраў
пераносіцца на няпэўны тэрмін.

Магчыма, яе асудзяць
за нелегальную вытворчасць
і захаванне натхнення,
але пакуль у яе –
прэЗУМпцыя невінаватасці.
Значыцца, усё файна
і можна жыць далей,
Зума... Зума... Зума...

### *МУРАШ*

Маленькі руды мураш
захрас у вузкай гарлавіне
паміж дзвюма зашклёнымі сферамі
пясочнага гадзінніка.

Зацягнуты ў вір пяску,
спазнаў герметычнасць палону.

– Бедны пакутнік,
на яго ж звалілася столькі,
што закапацца, закапацца!.. –
кажуць тыя, хто глядзіць зверху.

– Шчаслівец: яму было дадзена
ўзвысіцца над зямлёю –
толькі ножкі боўтаюцца ў паветры, –
пярэчаць тыя, хто глядзіць знізу.

Мураш, мураш...
Што ты нарабіў!
Мураш, мураш...
Ты ж спыніў час!
Мураш, мураш...
Ты валодаеш магутнай сілай!
І ўвогуле, мураш,
як у цябе атрымалася
залезці ў пясочны гадзіннік?
Ён жа з усіх бакоў запаяны!

Ды не чуе нікога мураш:
тугія сценкі са шкла
надзейна ахоўваюць яго
ад гукаў знешняга свету.

## *СНЕЖНЫЯ КРЭПАСЦІ*

Мае снежныя крэпасці
недаспадобы дворнікам
і начальству ЖЭС:
аказваецца, гэта самабуд
і парушэнне закону аб нерухомасці
й прыватнай уласнасці.
Маўляў –
“Нам не патрэбна прыватная ўласнасць”, –
казаў дзядуля Ленін.

Але нічога: прыйдзе вясна -
і з’есць мае крэпасці,
як еў у турме перад носам ахоўнікаў
чарнільніцы з хлеба
дзядуля Ленін.

Вы яшчэ не ведаеце, дворнікі,
пра мае паветраныя замкі,
у тысячы разоў большыя
за мае снежныя крэпасці,
у тысячы разоў мацнейшыя
за падмуркі вашых перакананняў.
О, мой містычны самабуд!
Мае ультрамарынавыя гарады!

У Менску на плошчы Незалежнасці
стаіць помнік дзядулю Леніну,
назірае, як мы дагэтуль
даядаем ягоныя чарнільніцы.

## ЛОГІКА КАЛЕНДАРА

Адкладваючы збяражэнні на чорны дзень,
людзі звычайна рэдка зазіраюць у каляндар.
А паглядзеўшы, заўважылі б,
што насамрэч – усе дні чорныя.
Усе, акрамя выходных,
колер якіх – чырвоны.

Атрымліваецца, што адкладваць на чорныя дні
можна толькі па чырвоных днях,
бо інакш які сэнс
адкладваць на чорны дзень,
калі ён ужо і так настаў?

Што ж рабіць тады ў чорныя дні?
Вядома ж, адкладваць на чырвоныя.
Вялікая колькасць чорных дзён
дазваляе назбіраць на чырвоны дзень
цэлае багацце –
нашмат большае за тое,
якое можна сабраць
у чырвоны дзень на чорныя.

І тым не менш,
колькасць людзей,
якія збіраюць на чорны дзень,
значна пераўвышае
колькасць тых, хто збірае на чырвоны.

Зрэшты, рыхтавацца да чорнага дня
можна па-рознаму:
нехта на яго адкладвае,

а нехта кладзе,
так і кажучы:
– А клаў я на гэты чорны дзень!..

І гэта, як падаецца,
найлепшы від укладання.

## ДА І ПАСЛЯ

Бывае, што час падзяляецца
на Да і Пасля,
і адчуваеш: губляецца
пад нагамі зямля.

І хочаш цераз расколіну
пераступіць.
Дазволена? Не дазволена?
Фасоліна была перасолена –
трэба запіць!

Бывае, што час расколаты
на Пасля і Да.
Ізноў адчуй сябе волатам –
прайдзі па слядах
самога сябе – можа, з'едзе дах
і адчуеш сябе ў нірване
і не ў стане
працягваць шлях.

Бывае, усё задзяўбе – і хочацца ў Да,
як у ДАмкі прабрацца, хоць рызыкуеш удар
атрымаць і адкінутым быць у Пасля ізноў.
Лёс цябе ў кут паставіць і ўсыпле табе бізуноў.

Эх, развілісты шлях да Пасля ад Да!
Што аддаў – забяры, што забраў – аддай,
і ідзі, ідзі легкаступнай хадой –
дойдзеш – не дойдзеш – дойдзеш – не дойдзеш – дой...
Дзе ж, дзе ж, ну дзе, у якой нудзе
загубіліся промні даўніх надзей?
Шапку надзень, у якой не пабачыць ніхто
цябе, пазыч у каня паліто,
каб не пазналі цябе, бо ты ўсё адно ўжо не той,
дойдзеш – не дойдзеш – дойдзеш – не дойдзеш – дой...
Дзе ж горад мар тваіх? Ён проста знік пад вадой.
Дойдзеш – не дойдзеш – не дойдзеш – знойдзеш...
Стой!!!

Лепей спыніцца, чым аддаліцца ад Да:
горад паўстане, са сцен пасцякае вада.
Гадкай загадкай будзь, як Дада, як Гадо!
Хай у Пасля пачакаюць цябе шмат гадоў!

### ***БЕЛЫ ТАНЕЦ***
***(Эрас і Фобас)***

Сустрэліся двое ў чыстым полі.
Казала яна: – Мы на волі.
Ён: – Не, мы ў няволі.

Яна: – Мне падабаюцца твае шэрыя вочы.
Ён: – Будзь асцярожней, за намі сочаць.

Яна: – Дакраніся вуснамі мне да шчок!
Ён: – А раптам побач усталяваны жучок?

Яна: – Хачу ў пацалунку з табою зліцца я!
Ён: – Не, не злівайся, а тое прыйдзе міліцыя!

Яна:
– Раскінем жа рукі і ўявім сябе ветракамі.
А ён:
– А ты не баішся схаваных відэакамер?

Яна:
– Не хачу псаваць дзеля іх настрой,
стану сонцу дачкой, а вадзе сястрой,
запрашу цябе ў край дзівосных легенд...
Ён:
– Не можна! За намі сочыць сакрэтны агент!

І яна адказала:
– У мяне ад агентаў няма сакрэтаў.
Калі б сонца хавала промні,
ніхто б ім не быў сагрэты.
Паглядзі, які свет наш белы, шырокі й
прасторны!..
– Ён не белы, пакуль навакол ходзяць людзі ў
чорным.

І сказала яна:
– Нічога, гэты свет мы адбелім.
Вораг рукі апусціць і выкіне парабелум.
Вецер нас зачаруе свежасцю новых раніц.
Падыходзь, запрашаю цябе я на белы танец!

Вецер іх закруціў, і яшчэ, і яшчэ раз,
падхапіў і падняў да аблокаў.
Толькі Эрас і Фобас,
толькі Фобас і Эрас...
А Танатас – далёка-далёка...

## *ПРЫЗМЫ*

З якой ты прабіркі б на свет ні прыйшоў,
з якой бы там колбы ці клізмы –
ты ведай: між дрэваў, крыніц і крыжоў
па свеце расстаўлены прызмы.

Аптычных падманаў дзівосны камплект
падорацъ сферычныя целы.
Амброзіяй мрой напаі інтэлект,
каб грала душа і ляцела!

Каму праз якую глядзець цікавей –
няхай сабе выбярэ прызму:
камусьці – праз прызму дзіравых лапцей,
камусьці – праз прызму кубізму.

Што тоіцца там, за кутамі кубоў,
касымі бакамі трапецый?
А раптам Вялікую знойдзеш Любоў –
трымай, беражы і не пэцкай!

З цікаўнасцю прагнай каштуеш на зуб
усё, што раней фантастычным
здавалася. Лыжкай памешваеш суп,
а суп гэты – суп-рэматычны.

Хавае на дне хаатычны кісель
Касмічнай Энергіі згустак.
І я трансцэндэнтную мадэмуазель
цалую ў абстрактныя вусны.

* * *

кожную раніцу штосьці расплюшчваю
сцелецца смог над далінаю плюшавай

штосьці разбоўтваю штосьці разгортваю
бачу шкілет над нізінаю мёртваю
штось адмыкаю штось адкаркоўваю
прахне старое а новае скоўвае

так і стаю ачмурэлы разяўлены
як я люблю гэты свет непраяўлены

* * *

паветра свежасцю абдасць
абудзіць сонныя гармоны
і коні памяняюць масць
не коні а хамелеоны

іх поўсць раптоўна і наўпрост
была зялёнай стала сіняй
хапай каня хутчэй за хвост
і ён табе яго пакіне

## АДНАДЗЁНКА

Паэт адчувае тонка
гэты свет. I да ўсяго падыход
мае адказны: за аднадзёнку
сядае – і піша яе цэлы год.

Баючыся сваю пісаніну
ператварыць у фігню,
паэт аддае даніну
яшчэ невядомаму дню.

Паэт адчувае тонка
гэты свет і часткова – той.
Барабанная перапонка
не рэагуе на слова “стой!”

Паміж эрай і хвіляй розніцы
не бачыць паэт – і няма бяды:
яго аднадзёнка не спозніцца
ніколі і нікуды.

## МІРАЖЫ-МУЛЯЖЫ

нешта мрояцца мне
на траве на пажоў-
клай стракатыя сны
быццам шкло вітражоў
і кружляюць вакол
каляровай іржы
вітражы-міражы
вітражы-муляжы

ветракі-мерцвякі
на траве на пажоў-
клай спляценне вужоў
ля вялікай ракі
дзе каменне крыжоў
ну няўжо ну няўжо
віражы міражоў
муляжы вітражоў

летуценне прайшло
на траве на пажоў-
клай насценнае шво
ўнутрывеннае шоў
беражы-пеpainажоў-
вай жыццё-барацьбу
вылятае ў трубу
чорны дым з гаражоў

## СМАКАВАННЕ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Я пакладу на кончык языка
гук А
і – ам! – яго схаваю ў рот
(так нос хавае ў норку крот)
і там расцісну я пад языком
галосны круглы ком –
гук О –
яго ў куток між вуснаў заганю,
каб атрымаўся з гуку О
гук У –
як пацалунак,
адрасаваны ў нікуды.
Ён пераплавіцца, перажуецца
ў гук Ы
стэрыльна-мыльны.
Яго палову раскусі –
і атрымаецца гук І.
А потым
рух нечаканы зробіш ротам,
і ажно паднябенне разапрэ –
і выскачыць гук Э.

Насенне гукаў прарасце травой –
і пырсне сок з-пад абалонкі гукавой.
Наб’ю галосных поўную шчаку –
няхай зайздросна будзе хамяку!

* * *

Грыбнік,
перавучаны на рыбака,
кожную злоўленую рыбіну
рассякае нажом
спачатку ўпоперак,
а потым уздоўж
і, выварочваючы вантробы,
глядзіць:
а ці не чарвівая?

Гэтак і мы,
звыклыя да вопытнага спазнання,
часта кідаемся з наточаным нажом
трыбушыць відавочнае
і неспасцігальнае.

* * *

поўны ідыёт
і
пусты геній
так файна глядзяцца разам
ну проста сіямскія блізняты
ідэальная пара
сяброў-канкурэнтаў
адна вагавая катэгорыя
ў бясконцым інтэлектуальным спаборніцтве

* * *

Мой шлях – культурны электрашок,
з жывой вадой незакручаны кран.
Мне прапануюць: “На пасашок!”,
а я чую: “No pasaran!”

* * *

Адной нагой у мінуўшчыне,
другой нагой у будучыні...
А ЧЫМ я ў сучаснасці –
нават і казаць сорамна!

* * *

Пужаемся мы абарваных фразаў.
Вось чуем, напрыклад: ГАРЫЦЬ ЗАРА-ЗА...

І нават нікому не можа прысніцца,
што гэта ГАРЫЦЬ ЗАРА-ЗАРАНІЦА!

* * *

Адны ўсё хочуць перайначыць
і кідаюцца ў эпатаж;
другія гэтага не бачаць
ва ўпор: навокал слепата ж!

* * *

Я па гэты бок барыкадаў,
ты па іншы бок барыкадаў.
І я адстрэльваю гадаў,
і ты адстрэльваеш гадаў.

* * *

У ложку Пракруста
то густа, то пуста.

***МАНАВЕРШ***

На граблі наступаю толькі ў шлеме.

* * *

навакольныя людзі прыкольныя
насяляюць раёны спальныя
робяць розныя справы супольныя
і падпольныя і самапальныя

неадольнаю думкай крамольнаю
запаўняюць прастору ментальную
вадкасць жлукцячы алкагольную
прамаўляючы словы брутальныя

уключаюць лямпы паяльныя
каб паяць апараты даільныя
у крэдыт набываюць мабільныя
і аплочваюць камунальныя
дапамога ратуе іх хуткая
і пажарная і міліцыя
але ўсё ж часцей ліра з дудкаю
кайф і ўласная інтуіцыя

навакольныя людзі прыкольныя
растваараюцца ў млявай бязважкасці
людзі вольныя вы ці нявольныя
калі самі й адкажуць дык з цяжкасцю

іх памкненні ніжэй за пясочніцу
у галовах іх непатрэбшчына
ды не страчана ўсё покуль хочацца
ім чагосьці іншага лепшага

* * *

Вясновае абвастрэнне,
летняе ачмурэнне,
восеньскае завіхрэнне,
зімовае здранцвенне...

У вечным душэўным гарэнні
наробіш усякай хрэні,
каб потым, калі настане зіма,
сказаць: “Год прайшоў не дарма!”

## *МЕНТАЛІТЭТ*

Са сваім менталітэтам
мы не дасягаем мэтаў:
не дае менталітэт
нам сустрэцца тэт-а-тэт.

Помніш месяц красавік?
Мы залезлі ў грузавік
ля закінутай шашы,
і навокал – ні душы...

Мы казалі ў неба зорам:
– Адвярніцеся, бо сорам!
Зоры ўцямілі папрок –
І настаў суцэльны змрок.

Помніш месяц лістапад?
Мы ішлі з табою ў сад.
Там цябе я цалаваў
праз кардон і цэлафан.

Хоць уся твая натура
тонкая, як арматура,
можа, хопіць пацалункі
запакоўваць у пакункі!

Да таго ж, з табой цяпер
ходзіць новы кавалер.
Хай цябе цалуе ён
праз жалеза і бетон!

## НЕГАТЫЎНЫ ВОПЫТ

У народу попыт
на негатыўны вопыт –
падступаюць шэрагі
ў чэргі, ў чэргі, ў чэргі.
Хоць цана кусаецца –
людзі запасаюцца
негатыўным вопытам
у розніцу і оптам.

Толькі некаторыя
мысляць прымітыўна –
набываць не хочуць
вопыт негатыўны.
Гэй, а ну давайце,
у чаргу ўставайце,
негатыўны вопыт
з намі набывайце!

Набывайце, людзі,
вопыт негатыўны!
Той, хто не набудзе,
будзе дэфектыўны!
З неба вывяргаецца
Чорная Энергія.
Хто яшчэ вагаецца?!
Крокам руш у чэргі!

* * *

Мне хочацца жыць у прыгожай легендзе,
дзе час не нясецца шалёнай тарпедаю.
Мне сяброўка паставіла пляшку брэндзі –
не п'ю, бо баюся апынуцца ў трагікамедыі
замест легенды. Але пакуль што я
не ў легендзе, не ў рамане, а ў нейкім накідзе.
Тут не парадуешся і не папакутуеш
і нават не даведаешся, зімуюць ракі дзе.
І на аўтапілоце, аўтамаце і аўтастопе я
лячу, страляю, спыняюся, забыўшы ўключыць тармазы.
Я хачу апынуцца ва ўтопіі, а не ў антыўтопіі.
Утапі мяне ў гэтай кроплі пякучай расы!

Павал Касцюкевіч



...Ты такі ёсць і такім будзеш.
І заўжды будзеш даведавацца пра ўсё
самае важнае ў тваім жыцці апошні...

# Кава на дарожку

***Апавяданне***

У сваё самае першае верасня я назіраў урачыстую лінейку праз вакно, бо прыхварэў. Потым яшчэ прапусціў пару дзён, і таму, дзякуючы гэтай злыбядзе, не дазнаўся ўсякіх неабходных базавых звестак пра школу. Вось што я ведаў стасоўна вучэння: трэба падняцца рана па будзільніку, згатаваць сабе гарбаты, выпіць яе, выйсці з кватэры, пашыбаваць праз двор да школы, зайсці ў клас. Пры з'яўленні настаўніка заняць якое-небудзь месца за партаю і сорак пяць хвілінаў засяроджана слухаць. Усё, дагэтуль. Сшыткі, хатняе заданне, завучванні на памяць – пра гэтыя тонкасці я ўжо быў не ў курсе, бо праз маю адсутнасць на першых занятках я папросту аб іх не чуў.

І вось праз тры тыдні школы – а ўвесь гэты час я, ачунялы пасля хваробы, ужо сумленна наведваў заняткі – настаўніца ўпершыню выклікала мяне пачытаць уголас

па складах нейкі ўрывак у стылі “ма-ма мы-ла ра-му”. У адказ я толькі прамармытаў нешта няўцямнае, абсалютна не патрапляючы ў літары.

Чытаць я не мог, бо ні разу не займаўся дома. Пасля таго, як выклікалі ў школу бацькоў, настаўніца, паўапраўдваючыся ці паўабвінавачваючы, сказала, што бачачы такога харашмянага хлопчыка, які з сур’ёзным выглядам штодня засядае на першай парце і глядзіць на яе ўважліва сваімі разумнымі сінімі вачыма, ёй нават у галаву не прыходзіла, што я – абух-абухом і не раблю ніякіх хатніх заданняў. Потым ужо дома мама ў слязах мне патлумачыла, што пасля заняткаў належыць забіраць ранец дадому, а не пакідаць яго пад партаю, як тое, не надта мудруючы, рабіў я дагэтуль.

І так усё жыццё – я надта харашмяны, каб сказаць мне праўду. Ад мяне хавалі смерць бабы Груні, бацькі запэўнівалі, што яна назаўжды з’ехала ў Крым, каб лекавацца, бо моцна-моцна хворая, і калі я выпадкова знайшоў фоткі з яе пахавання, дзе яна ў труне, была адурэнная істэрыка. У мінскай школе настаўнікі мяне любілі і ставілі пяцёркі, як высвятляецца, без дай прычыны, бо на ўступных іспытах незнаёмыя са мною ізраільскія выкладчыкі не пусцілі мяне ў ВНУ.

Не патрапіўшы ва ўніверсітэт, у Рамат-Гане я пайшоў працаваць начным ахоўнікам. З цягам часу ў банку на маім рахунку ўтварыўся мінус. Рахунак арыштавалі і праз адвакатаў прымусілі плаціць даўгі.

– Я ведаў, што ў мяне на рахунку ўсё пагана, але ўсё роўна: чаму вы мяне не папярэдзілі? – абураўся ў банку я. – Так, лістоў я не чытаю, бо ў маім пад’ездзе зламаныя паштовыя скрыні, але ж можна ж было сказаць, што падаеце на мяне ў суд – я ж прыходзіў сюды амаль штодня?

За акенцам сядзела прыветная дзяўчына, з якой мы амаль пасябравалі падчас маіх колішніх візітаў, нават перакідваліся неабавязковымі аптымістычнымі фразамі.

– Я думала, што ваш доўг неяк рассмокчацца, – адказала дзяўчына і таксама перайшла “на вы”.

Я азвярэў:

– Напрамілы бог, вы, банкаўскі супрацоўнік, думалі, што “неяк рассмокчацца”? Вас, якую пасадзілі тут знарок, каб не даваць веры ўсякай нізкааплатнай шушары кшталту мяне і правяраць, думалі “што доўг рассмокчацца”?”

– Ну, я не ведаю, – сказала дзяўчына няпэўным голасам, і малой драбніцай не заплакала. – Вы глядзелі на мяне так... так харашмяна... і я падумала... падумала я...

У той вечар мы ляглі ў ложак рана. Раздзеўшыся, Мэйталь паказала мне спіну. Я адчуў, што яна ляжыць і перыцца ў сценку. Але я ўсё роўна стаў да яе лашчыцца пацалункамі ў патыліцу. Абняў за талію. Мэйталь доўга не рэагавала, але ўрэшце павярнулася да мяне, уздыхнуўшы глыбока і безнадзейна, як можа ўздыхаць толькі яна. Потым сказала, што не кахае мяне, што яна доўга думала, амаль месяц, пакуль працавала па кантракце ў Гішпаніі, і што вырашыла ад мяне сысці, і што ў яе паўгода ўжо ёсць іншы мужчына.

Адзін сказ, а колькі новай і карыснай інфармацыі. Я спытаў яе, чаму яна не сказала пра гэта раней.

– Я хацела, – адказала Мэйталь. – Але ты быў надта харашмяны, каб сказаць табе пра тое.

І потым яна паглядзела на мяне так, як глядзяць уладальніцы кацянятак, калі іх улюбёнца званітуе на паркет у гасцёўні, і дадала:

– Ты так кранальна кахаў мяне.

Перад сыходам яна параіла прачытаць "Трансерфінг рэальнасці", кнігу, якую яна цяпер штудыявала. Нью-эйджавае нешта там — па тэхніцы спраўджвання жаданняў: як шляхам разумовых маніпуляцый дасягаць сваёй мэты, быць шчаслівым, жыць, дзе падабаецца, вучыцца, дзе хочаш, мець грошы на рахунку і г.д.

Асабліва цяжка было слухаць радыё. Глузд таго, хто балансуе на мяжы клінічнай дэпрэсіі, як высветлілася, можа абрынуцца ў бездань шалу ад аднаго-адзінюткага саплівага шлягера. Я цяпер выразна адчуў, што ладная палова песеннага запасу чалавецтва перажоўвала адно і тое: якое ж балючае растанне, і як жа нясцерпна шчыміць таму, ад каго сыходзяць. Радыйнікі толькі далівалі ў агонь алею – ставілі адныя пампезныя, вылізаныя хіты: песні, дзе хвацка падабранае інтра, жарсны меланхалічны запеў і прыпеў са шчымлівым сола ці найграннем у дважак. Песні білі ніжэй за пояс: драпалі нервы, шкуматалі не тое што падсвядомасць – самую душу. Давялі мяне: пасля кожнай я ўціраўся кулаком. Прычым, няважна: былі гэта папса ці рок, сучасныя трэкі ці балады 50-х. Усё роўна: расійская музыка, амерыканская або ізраільская. Праз некалькі дзён я нават стаў шкадаваць, што ведаю ўсе гэтыя мовы. Пры канцы другога тыдня я залічыў песні да абсалютнага зла, як і мой дар быць харашмяным.

У гэтай псіхічнай атацы найперш шчыраваў Боб Дылан са сваёй "Кавай на дарожку". Той стараваты хіт упадабаў штатны ды-джэй і круціў па "Гальгалацу" безупынку, ад рана да рана, з невялічкім перапынкам на навіны і рэкламу. І тады гэты надрыўны паўтор: "Яшчэ кавы на дарожку, яшчэ кубак на пасашок" суправаджаў мяне ўсюды: калі я сядзеў ноччу ў сваёй каравульнай будцы і пачынаў вадзіць носам, або па дарозе дадому. Тады мараканец Аві, чалавек добрай душы, але сапсаванага густу, адной рукой запальваў цыгарэту і заводзіў сваё падрапанае "Субару", што мелася адвезці нас дадому. Другою рукою Аві ўлучаў гэты пякельны эфэм. І нават па вяртанні з начной змены, ці калі я рабіў перад сном у сваім арандаваным пакоі штучную ноч, орды бобаў дыланаў са сваімі апошнімі каваьымі хоцькамі падступна вырываліся з усіх жалюзевых шчылінаў сумежных кватэраў...

Я сяджу ў Мішанькі і распавядаю яму пра гэта. На стале яго тэль-авіўскай кватэры-студыі попельніца ў форме чэрапа. Горка канопляў. І сушы. Дзень народзінаў вытхнуўся – усе ўсё выбухалі і сышлі. І вось засталося трохі сушаў. Гэта наймодная чухня, якой звычайныя ізраільцы, такія як мы з Мішанькам, спрабуюць заглушыць хаатычна-бясконцыя будні. Праца-дом-шабатшалом! Для такіх, як мы, пастаянна вынаходзяць нешта падобнае: дармавое порна па інтэрнэце, ша-а-алёныя зніжкі на распродажах, эфект матылька і тэорыю змовы. Штогод нам, нестудэнтам, падганяюць шыкоўны Дзень студэнта ў Тэль-Авіўскім універы з дармавым канцэртам Стынга, а кожныя чатыры гады – мундыяль, і дванаццаць месяцаў толькі для нас тут трывае абсалютна курортнае надвор'е.

Я трохі падбуханы. Мішанька ківае ў адказ, але яго ногі нецярпліва патупваюць. Яму хочацца не слухаць мяне, а паказаць новую шапачку, якую яму толькі што падарылі на дзень народзінаў. Шапачка гумовая, з

невялікім пад'ёмам на макаўцы, нагадвае насадку помпы. Думаю, яе нават зрабілі з помпамі на адным заводзе, а можа, нават на адным канвееры.

Мішаньку падарылі шапачку не проста дзеля прыгажосці. Рэч у тым, што з прычыны эканоміі месца ў сваёй малюпасенькай аднапакаёўцы Міша ўсталяваў ложак на доўгіх нагах, як бы стварыў другі паверх. У куце прычапіў да ложка прыстаўны трап. Залазіць і спаць на гэтым ложку даволі зручна. Аднак, калі прыводзіш якую-небудзь дзяўчыну, дык знаходзіцца ў паставе місіянера зверху – немагчыма, бо раз-пораз ляскаешся макаўкай аб нізкую столь. Мішаньку пару разоў быў аблом. Адзін раз — таму, што ён да крыві ўдарыўся галавою сам, а другі — таму, што дзяўчына, якую ён прывёў, убачыўшы яго такога, збервянелага над ёю, бо падчас любошчаў думае не пра свой чэлес і яе цела, а пра паставу галавы, ад смеху перахацела. Цяпер гэтай нявыкрутцы будзе дадзены рашучы адпор пры дапамозе гумовай спружыннай шапачкі. Перад самымі народзінамі Мішанька заказаў гэтую шапачку Лене, сваёй колішняй.

– Ведаеш, Мішань, сама крыўднае нават не тое, што яна здраджвала мне з іншым мужчынам. Я таксама, калі прыязджаў у Мінск, пераспаў з аднакласніцай. І як мне не балела, усё роўна на сподзе душы я разумею, што гэтак справядліва, бо яе здрада па вялікім рахунку пахне праведнай адплатай. І нават паскудна не тое, што вось паўгода Мэйталь удавала, што кахае мяне. То бок: сядзела, хадзіла, ела поруч са мною, распраналася перада мною – і не кахала. Калі вельмі старацца пра гэта не думаць, дык ведаеш, чорт бяры з яе каханнем менавіта ў апошнія паўгода: прапала кароўка, дык хай сабе і вяроўка. Самае страшнае, Мішань, – я, хоць задушыся, не ведаю, як мне жыць далей такім па-здрадніцку харашмяным, такім мілым, калі ад гэтага мяне чакаюць адныя трагедыі?

– Мілых жанчыны любяць, – абы збыць з галавы казённымі фразамі адбіваецца Мішанька і прымярае гумовую шапачку. Потым дэманструе, як эфектным жэстам ён дастане яе перад чарговай дзяўчынай, калі яны ўдвох трапяць на ложак на другім паверсе. Шапачка – чырвоная. Эфектны жэст – неэфектны.

– Мішань, я не хачу патрасенняў. Я з'ехаў з РБ, каб пачаць новае жыццё тут, дзе ніхто не ведае ні мяне, ні маёй харашмянасці. Тут я зусім перастаў займацца навядзеннем такой любай мне справядлівасці ў свеце, мне цяпер похер на праблему арабскай меншыні, хаця, як чалавек абазнаны, я мушу пераймацца. Я не хаджу на выбары – ізраільская дэмакратыя мяне, калі шчыра, таксама не абыходзіць. Тут я працую на простых працах і калі прыходжу дадому з дзвюх зменаў, дык у мяне адно жаданне – выпіць два півы і ўсімі сваімі чатырма вачыма паглядзець васьмігадзінныя навіны. А на начных зменах я сікаю пад дэкаратыўныя дрэвы на падворку офіснага будынку, і пасля ранішняй вячэры, не маючы сурвэтак і жадання пайсці па іх, пакуль ніхто не бачыць, выціраю тлустыя рукі аб ногі. Я накурваюся, набухваюся, а ўчора з дагестанцам Пецем я схадзіў да прастытутак. Але мне, Мішань, не сорамна. Мяне маральны бок цікавіць слабавата – я ж хачу хутчэй абжыцца, прыцерціся да новай краіны. Я падоўгу стаю на рынку, каб навучыцца ў самых значных гаспадароў ізраільскага жыцця, уласнікаў гандлёвых ятак, прадаўцоў хасы і сумсума. Лаўлю кожнае іх слова. Сур'ёзна-сур'ёзна, Мішань, я нават запісваю іх дыялогі і маналогі ў свой чорны нататнічак, каб прыхапіць сабе ў дарогу гэтую рыторыку і няхітрыя, але стопудовыя перакананні. ...Ну, не тое што прысабечыць,

але ўмець усім карыстацца, даставаць як фінку з залапленых шортаў у часе патрэбы...

Мішаньчык заняты – перабірае шышкі ў каноплях і на мяне не зважае. Ён таксама, як і я, працуе начным вартаўнікам. Пасля таго, як мяне кінула Мэйталь, я перасяліўся да яго ў рамат-ганскую аднапакаёўку, пажыў трохі тут, але потым знайшоў асобны пакой непадалёк: на Кацнельсон, 25.

І я распавядаю яму гісторыю пра прадаўца сокаў на рынку Маханэ-Егуда.

Да яткі прадаўца свежавыціснутых сокаў падыходзіць стары і заказвае кубак капуснага соку. “Так-так, дзеду, зараз будзе”, – кажа прадавец сокаў ды ідзе шукаць капусту ў суседняй ятцы. У яго на прылаўку цесняцца апельсіны, яблыкі, ананасы і ўсякае іншае, а вось капусты няма. Аднак бізнэс ёсць бізнэс, і гэта ж рынак, дзе ёсць усё, і ў дадатак — усе ўладальнікі іншых ятак яго сябры: бяры ў іх што хочаш. Таму прадавец сокаў, ніяк не падаючы сваёй збянтэжанасці, пазычае на суседняй ятцы качан капусты. Трохі шаткуе той качан і запіхвае капусныя лахманы ў прафесійную – для апельсінаў – сокавыціскалку. Агрэгат голасна ўпінаецца, але ўрэшце адшкадоўвае празрыстую, трохі жаўтаватую вадкасць у кубак пад сабою. “Вуаля, дзеду, капусны сок”, – кажа прадавец сокаў і пхае ў кубак ружовую саломінку. Дзед прымае кубак і плоціць за сок. Выкідвае саломінку, нагбом залівае кубак у рот, але адразу ж выплёўвае ўсё змесціва за левае плячо на брук. “Што такое, дзеду, што здарылася?” – урэшце, насамрэч пачынае трывожыцца прадавец сокаў. “Усё нармальна, – кажа стары. – Я, бачыш, юнача, прыйшоў пераканацца, што капусны сок такое ж паскудства, як і трыццаць гадоў таму”.

– Я ўжо каторы год, Мішань, стараюся стварыць ідэальныя ўмовы дзеля таго, каб жыццё не цырымонілася са мною і рэзала праўду-матку ў вочы, бо з досведу ведаю – інакш будзе яшчэ горш, – працягваю я, покуль сагнуты напалам Мішанька лёгенька б’ецца галавою ў сценкі кватэры, гэтак выпрабоўваючы спружынныя якасці шапачкі.

– Я, Мішань, відаць, не ў стане кантраляваць вакол сябе ўсё цалкам, – гэта, пэўна, немажліва, аднак, разумееш, я мушу быць у курсе ўсіх сваіх непрыемнасцяў. Ведаць усё і ад пачатку, каб горыч заставалася пры мне, каб я мог яе прыручыць...

– Ведаеш, Мішань, – кажу я яшчэ. – Я хачу быць падобны да дзота. Адваяваць у гэтых сук сваё права быць рэзкім і непрыемным. І таму ніякіх харашмянасцяў. І я буду дзеля гэтага есці зямлю, калі спатрэбіцца. Што скажаш?

Але Мішанька з помпай на галаве нічога не кажа. З Мішанькі ўжо струменіцца гісторыя пра аднаго сантэхніка, які аднойчы прыйшоў да яго.

Яшчэ тады, калі ён быў са сваёй колішняй — картачнай шулеркай Ленай, у іхняй ерусалімскай халабудзе прабіла каналізацыйную трубу. Па хаце разышоўся магутны смурод. Мама і таты ў Лены і Мішанькі жывуць ва Украіне, таму ўсе шляхі да ўцёкаў былі перакрытыя, і трэба было даваць рады самастойна. Тады ў даведніку “Залатыя старонкі” ў раздзеле “Сантэхнікі” Мішанька знайшоў першую-лепшую абвестку і патэліў. Прыехала двое: сабра*, гадоў трыццаці пяці, і ягоны памочнік, значна старэйшы за яго малдаванін, з усяго відаць гастарбайтар. Халабуда, якую Мішанька

*С**а**бра *(іўрыт)* – карэнны ізраілец.

арандаваў у старым раёне Нахлаот, стаяла ў прыватным сектары: вадаправод там вялі яшчэ туркі, і, можа, таму сантэхнікам давялося праверыць трубы на прабоіну не толькі ў доме, але таксама і ў прылеглым садочку.

Аднак сам сабра каналізацыйных сцёкаў даследваць не стаў, адно назіраў з адлегласці і толькі даваў каманды малдаваніну, які капаў яму ў пошуках каналізацыйнай жылы. Мішанька, перабываючы ў тым жа садочку, сярод кактусаў у засені персікавага дрэва, заўважыў, што шчака сабры дзіўнавата паторгвалася ўгору й долу, а ніжняя губа раз-пораз па-здрадніцку раз'язджалася да вушэй, не раўнуючы замок-маланка, – ажно ствараласяўражанне, што нехта згары невідочнымі ніткамі стараецца падвесіць сабру за куток рота, а ён гэтаму трохі супраціўляецца. Калі сабра ўрэшце пашыбаваў на кухню – выпісаць рахунак за працу, Мішанька ціхенька спытаўся малдаваніна, якога звалі Косцем, што з ягоным начальнікам такое. Малдаванін адказаў, што гэта такі цік, алергія. Алергія на лайно, дадаў ён па-расейску.

– Ці ж гэта не смешна: сантэхнік, у якога алергія на лайно? – падсумоўвае гісторыю Мішанька.

– Гэта не смешна, Мішань. Ведаеш, Мішань, – кажу яшчэ я. – У мяне такое адчуванне, што пад маім носам маё атачэнне, людзі і абставіны, клеяць свой паскудненькі шахер-махер, гуляюцца са мной і маім лёсам, як з лялькаю, крояць мяне на шматкі, як якую-небудзь рэч паспалітую, і ніхто нават не лічыць належным давесці гэта да майго ведама. Адбываюцца сур'ёзныя падзеі, Мішань, і кожны чарговы чалавек на маёй дарозе толькі тое і робіць, што ставіць мяне перад фактам ракам. Усё гэта вельмі падобна да абразы. Смяротнай знявагі. Ты мяне ўвогуле слухаеш? – ужо істэрычна выкрыкваю я.

Мішанька не слухае. Ён перастаў біцца галавою аб сцену – выпрабаванні шапачкі, трэба меркаваць, адбыліся паспяхова. Тут ён нагадвае пра яшчэ адну нашую прыгоду – з часоў, калі ён быў яшчэ з Ленай, а я з Мэйталь.

Аднойчы Сашу-Ластаўцы на дом прыйшла рэкламка зніжак курсаў нямецкай мовы ў тэль-авіўскім філіяле Інстытута Гётэ. Нам з Мішанькам нямецкая мова была пофіг. Драпануць у Нямеччыну хацеў толькі Ластаўка. Нас завабіў тэкст, набраны дробным шрыфтам у самым куце абвесткі, які абяцаў, што падчас запісу ў вітальні Інстытута будуць наліваць бясплатна куфаль піва і пачастуюць кілбаскамі.

Што тут скажаш – такімі заявамі пра халяўнае піва можна выбіць са сну і спакою каго заўгодна. А то. Да прыкладу аднойчы ў Швецыі – пра гэта нават пісалі ў інтэрнэце – у адным бары памылкова прыварылі трубы: пераблыталі сістэмы водазабяспячэння з піўнымі трубамі і з крана кватэры, што месцілася па-над барам, палілося піва. Жанчынка, жыхарка той кватэры, якая выявіла гэта, ад шчасця зусім глузданулася: не пайшла на працу, цэлымі днямі валялася на канапе, піла піва з вадаправода і горача дзякавала свайму шведскаму Усявышняму. Самае цікавае, што ў жыцці яна была ў прынцыпе непітушчая. Яна гэтак узрадавалася, аж не заўважыла нават, што цёплае піва, якое прастаяла некалькі дзён у няправільнай трубе, скісла.

– Пэўна, падумала, што наступіў апакаліпсіс, толькі наадварот, – рагатнуў Ластаўка, калі Мішанька распавёў яму гісторыю пра шведку. Потым Ластаўка аддаў нам рэкламку, бо для атрымання кілбасак і піва яе трэба было паказаць на месцы запісу.

І вось мы пайшлі на дармавое піва ў Інстытут Гётэ.

Тое было на Пэсах. Мэйталь жыла ў Гішпаніі, і мне без яе было нялёгка. Нялёгка было наконадні і Мішаньку, які адпрацаваў ахоўнікам на ўваходзе ў нейкі тэль-авіўскі гатэль: правяраў торбы ў тых, хто заходзіць. Мішаньку паскудна працавалася, бо ў вечар Пэсаха па краіне прайшло штармавое папярэджанне: некалькі членаў тэрарыстычнай групоўкі "Пакутнікі Аль-Акцы", у сваёй чорнай уніформе, пакляліся перад камерамі, што падымуць якую-небудзь габрэйскую пагулянку на паветра. Таму ў святочны вечар усіх ізраільскіх ахоўнікаў ля разнастайных уваходаў краіны турзалі дэманы страху.

І што самае займальнае ў гэтай сітуацыі? Адзіная рэч, якае застаецца ў гэтым свеце нейкаму ахоўніку Хав'еру, Армэну ці Мішаньку, пры ўсёй аграмаднасці выбару ды наяўнасці ўсемагчымых магчымасцяў – стаяць і чакаць, як да іх наважацца прыйсці аматары даць слова і ўзяць жыццё. То бок, фактычна прыдзверны ахоўнік у гэткай сітуацыі можа яшчэ ад самага пачатку скласці рукі і адкінуць свой пісталет падалей – бачце, у любым выпадку шоу адбудзецца без удзелу сэк'юрыці.

Вось глядзіце. Вы – ахоўнік, і паводле плану тэрарыстаў бомба мусіць грымнуць ля вашага ўваходу. Дык тады да вашых дзвярэй проста падыдзе падазроны хрэн, які размаўляцьме з арабскім акцэнтам. Вы згодна з інструкцыямі больш-менш ветліва папросіце яго адчыніць торбу ці расшпіліць не па надвор'і ўгрэўную куртку. І далей усё – хлапок, штуршок і да пабачэння літраэт. Нават гупат і тупат вы ўжо не пачуеце. Калі ж палестынцы падарвуць іншы ўваход з іншым ахоўнікам, дык у вашым гатэлі ці офісным будынку абавязкова знойдзецца клапатлівы пастаялец, які, мінаючы вас, паведаміць: так і так, хлопча, толькі што перадалі па радыё — тэракт на ўваходзе адбыўся там і там, загінула столькі і столькі людзей, што тусаваліся ў фае, плюс адзін ахоўнік, а табе, гэтакі ты шчаслівец, адбой да наступнага разу.

Урэшце, тэракт на ўваходзе адбыўся ў Натаніі, у нейкай зале ўрачыстасцяў а дзявятай вечара, загінула пятнаццаць чалавек (гэта ўлічваючы ахоўніка). І над Тэль-Авіўскім узбярэжжам пранёсся ўраган сярэдняй моцнасці – гэта ўсе ахоўнікі што ў той дзень працавалі ля ўваходаў, – мінус адзін іхні калега, – уздыхнулі з палёгкай.

Аднак, зразумелая рэч, нягледзячы на навіну, што яго не ўзарвалі, да канца змены Мішанька застаўся трохі ніякаваты, а па вяртанні дадому доўга не мог заснуць. Не мог заснуць і я, але з іншай прычыны – пасля чарговай тэлефоннай размовы з Мэйталь, я пачаў нешта падазраваць пра нашае хуткае растанне. Таму ў той дзень, завітаўшы ў тэль-авіўскі Інстытут Гётэ, каб пакаштаваць піва, мы з Мішанькам былі крыху хмурныя і нічога асабліва добрага ад гэтага дня не чакалі.

У холе Інстытута Гётэ мы ўбачылі дзве чаргі. Першая, доўгая, як макаронiна, мудрагеліста выкручвалася па вітальні ў нейкі клас. Другая, караценькая, фактычна абрубак, вяла ў бар. Па піва ў той чарзе стаяў толькі геяваты немец, як мы потым даведаліся – супрацоўнік Інстытута Гётэ. Мы нават затрымаліся на якую секунду, але не таму, што вагаліся, да якой чаргі далучыцца, а таму, што засумняваліся, што гэта не сон ці нейкае аптычнае ашуканства.

У бары завіхаліся дзве прыгожыя немачкі. Першая: вытанчаная і бялявая, прымала заказы. Другая вытанчанасцю не вылучалася, але была такая, што

гэтая якасць якраз была без патрэбы, бо яна была крамяная, шчодрая на ўсё: кроў з малаком такая, што ого-го. Як заўзяты электрык рубільнікам чарнявая немачка спрытна арудавала двума барнымі кранамі з півам.

Як высветлілася, немачкі не размаўлялі ні на іўрыце, ні па-ангельску, адно цвердзілі фразу "ноў сосіджыс". Мішанька напяў лінгвістычныя звіліны і, звяртаючы да бялявай сваю блядскую ўсмешку, абсалютна выразна заказаў "Цвай грундыг". Бог яго ведае, што такое "грундыг", але гучала дужа па-нямецку і пераканаўча. І тут бялявая немачка паварочваецца да чарнявай, што стаіць ля кранаў, і кажа: "Оксанка, а шо він там ляпнув?"

Немачкі выявіліся гастарбайтаркамі з Луганска Марынай і Аксанай, якія наймаліся на ўсялякую элітную падзёншчыну. Я адразу папінаў нагамі ідыётаў с*а*браў, якія, вось фраеры, як заўжды папераблытваюць чэргі. Марына з Аксанай шчыра засмяяліся і налілі нам, як і дакляравалася – задарма, па паўлітры баварскага. Паколькі піва заставалася яшчэ процьма – потым яшчэ па паўлітра. І яшчэ.

Калі акцыя па запісу на курсы нямецкай скончылася і радасныя с*а*бры павыскоквалі з аўдыторыі вонкі, з пяціадсоткавай зніжкай мінаючы бар, дык немачкі – а менавіта так мы іх працягвалі з Мішанькам клікаць за вочы – зачынілі касу і з чатырма куфлямі піва падселі да нас.

Калі Марына, расшпіліўшы верхні гузік на сукні, нібы няўзнак паказала пачатак белых грудзей, я трохі прыраўнаваў яе да Мішанькі, бо гэтае распрананне было разлічанае відочна на яго, бо сядзеў ён роўненька насупраць. Але потым чарнявая Аксана зірнула на мяне так, што я зразумеў: момант і яе грандыёзнага расшпільвання – не за гарамі. Я невялікі знаўца флірта, але гэтым разам сітуацыя была настолькі празрыстая, што калі яна другім кантрольным позіркам глянула на мяне, дык ад такой непрыхаванай спакуслівасці піва фантанам хвастанула ў мяне праз нос. Я папярхнуўся.

Немачкі зарагаталі. Аксана паказала свае роўныя зубкі і сэксапільную ўсмешку, чым спадабалася мне яшчэ больш. Мы злавілі кураж: смяшылі немачак, лавіравалі між столікаў, гутарылі з геяватым немцам, глушылі дармавое піва, хай сабе і без сасісак. Мішаня распавёў дзяўчатам – парасейску, і немцу – на іўрыце, увесь свой ударны арсенал анекдотаў пра Штырліца. І гэтым разам яны мне не паказаліся дэбільнаватымі. Дзяўчатам – пагатоў, хоць яны і чулі іх раз у соты, напэўна, а немец – ніколі, нават не ведаў, што рускія ізраільцы так любяць герояў у нацысцкай форме, але рагатаў, што дурны. Потым спявалі разам песню "Тры танкісты" і тыя прыпеўкі, якім мяне навучыла баба Груня: "Шпацырэн, шпацырэн, дойчэн афіцырэн. Партызанен – піф-піф-піф, камуністэн – паф-паф-паф". Ужо падбуханы я схадзіў у прыбіральню, дзе, стоячы ля пісуара, раіўся з незнаёмым тэль-авіўскім металістам, якая немачка лепей: бялявая ці чарнявая. Незнаёмы металіст разважліва зазначыў, што "немачкі ўсякія важны". Калі я вярнуўся да столікаў, Мішанька ўжо бессаромна страляў у геяватага немца цыгарэты і абдымаў Марыну. А Аксана непрыхавана ім зайздросціла і, калі я прыйшоў, шчыра мне ўсміхнулася. Немец, якога звалі Рамі, паглядаў на нас весела і, як мне падалося, крыху захоплена.

І вось у самы той момант, калі ўсё пачало круціцца вакол дылемы, якім транспартам нам учатырох ямчэй ехаць да немачак у іх двухпакаёвую кватэру ў паўночным Тэль-Авіве – на таксоўцы ці на маршрутцы, Міша

раптам паглядзеў на гадзіннік і неспадзявана сказаў, што ў нас справы, і, беручы мяне пад рукі, хапатліва пацёг на выхад. Я быў агаломшаны – усё ж складалася найлепшым чынам... Я супраціўляўся, але Мішанька, гэты раздзяўбай, можа быць упартым. Мы літаральна скаціліся з прыступак Інстытута Гётэ: часткова – таму, што былі п'яныя, а часткова – таму, што Мішанька надта імпэтна ўдаваў, што спяшаецца. Мы так спрытненька давалі драпака, што не ўзялі ў немачак тэлефонаў, гэта я ўжо не кажу пра недапітае піва на стале. Калі мы гэтак уцякалі, я проста адчуваў спінаю, як дзяўчаты і Рамі праводзяць нас закаханымі і няўцямнымі позіркамі. Ціпа, Оксанка, ніхт ферштэйн, клёвы завісон вжэ закінчівся чы шо?

Калі мы подбегам дапялі да аўтавакзала, Мішанька раптам спыніўся і распавёў прычыну сваіх уцёкаў. Выяўляецца, пару дзён таму ён моцна, да ванітаў, палаяўся з Ленай і хацеў ёй адпомсціць, але раптам, за тым сталом, перадумаў. Чым больш прыемныя і прыгожыя Аксана і Марына дэманстравалі сваю весялосць і сэксапільнасць, тым больш на яго ціснула пачуццё віны і раскаянне...

Вось такую прыгоду прыгадавае мне цяпер Мішанька ў аднапакаёўцы пасля дня народзінаў. Наастатак ён напамінае, што тады, у Пэсах, адразу пасля ягонага прызнання пра прычыну ўцёкаў, я абняў яго і нават прабачыў за сапсаваны вечар. І яшчэ, у прыліве пачуццяў, я сказаў, што пляваць, Мішаня, што мы з немачкамі не пераспалі і нават не ўзялі тэлефончыка. Бо, ведаеш, нават без сэксу гэта была ў мяне адна з такіх прыгодаў, якія на ўсё жыццё. “Можа, нават лепей, што не было сэксу, – сказаў я тады Мішаньку яшчэ, – бо такога шанцунку, відаць, аж занадта. Дзякуй табе за гэты дзень. Там, у Інстытуце Гётэ, мяне ўпершыню ў жыцці проста распірала адчуванне, што згэтуль мне ў жыцці будзе толькі шчасціць”.

Але цяпер, працверазеламу пасля чаргова-неабавязковых народзінаў, мне тут во не трэба ўзгадаў аб маіх удалых днях, я ж хачу засяродзіцца якраз на няўдачах і вырашыць, як мне жыць далей. Я зноў крычу Мішу:

– Вось скажы, Мішань, хіба я харашмяны? Хіба я харашмяны?

Я плачу і размазваю слёзы па твары. Мішанька круціць у руках чырвоную шапачку для бяспечнага сэкса. Доўга-доўга маўчыць. Стомлена выцірае твар рукою. Урэшце ціха-ціха, бы катаецца жалезны шар па падваконні, гучыць ягоны голас:

– Так, Ігарок, я таксама лічу цябе надта харашмяным, каб казаць табе праўду, – кажа Мішанька. – Ты такі ёсць і такім будзеш. І заўжды будзеш даведвацца пра ўсё самае важнае ў тваім жыцці апошні. Прабач, але раз за разам у гэтай жа ганебнай і прыніжальнай форме ты будзеш атрымліваць павучанні ад усякіх-розных настаўніц жыцця.

І дадае ўжо гучней:

– І, дай ты мне веры, такая херня паўсюль: у Штатах, Нямеччыне, Ізраілі, я ўжо не кажу пра нашыя Украіну ды Беларусь, бо для праўды-маткі ўсе пагалоўна надта харашмяныя. І ад чарговай Мэйталь ты дазнаешся пра яе некаханне і здраду ў самым канцы.

Зноў робіць паўзу. Паварочвае да мяне свой твар:

– ...І я сам надта харашмяны. Я быў харашмяны таксама там у вечар Пэсаха, калі, зачараваны вераемнай смерцю, пакінуты на растурзанне пакутнікам Аль-Акцы, стаяў на ўваходзе ў гатэль са сваёй смешнай “берэтай” супраць бомбы з цвікамі. Я паспеў перадумаць усякае-рознае і памерці сто разоў ад страху (і два разы абасрацца – бо двойчы згледзеў падазроных

хлопцаў у зімніх куртках). Я, харашмяны Міша Ліберман, даведаўся пра тэракт апошні. Пазней за тэрарыстаў і іх памагатых, пазней за ахвяраў тэракту, і пасля журналістаў, што прымчалі на месца тэракту. Толькі тады, калі да мяне з гатэля няспешнай хадою літасціва падыйшоў пульхны мужык у вязанай кіпе. Ён прынёс мне кілбасы з мацой і навіну пра выбух у Натаніі. Сваё паведамленне ён пачаў словамі: “Як?! Ты яшчэ не ведаеш?!”.

Мішанька глядзіць на мяне спагадліва і агрэсіўным рэчытатывам, нібы расчытвае малітву, працягвае:

– І сам пакутнік Аль-Акцы, які пацягнуў за сабою ў магілу яшчэ чатырнаццаць чалавек у Натаніі, харашмяны. Бо пра тое, што ён не трапіць у свой мусульманскі рай з нявінніцамі, ён таксама даведаўся толькі пасля выбуха, бо ізраільцы, у якасці помсты, паклалі ягоныя парэшткі ў свіную тушу, а паводле шарыята нават герой джыхада не зможа трапіць у рай разам з нячыстай жывёлай.

Мішаньчыкаў твар нават трохі пачырванеў, а яго жэстыкуляцыя зрабілася хаатычнай:

– І Дзіма Заляціцкі, гэты экс-бандзюган з Растова, які ўсё жыццё будзе старацца паступіць на псіхалагічны факультэт у Хайфе, але якому вырачана да сарака гадоў працаваць вышыбалам у падпольных тэль-авіўскіх бардэлях, пакуль яму не праломіць чэрап нейкі абколаты француз, таксама харашмяны. Бо Дзіму ніхто да самай ягонай смерці не наважыцца сказаць, што ён непапраўны невук, які “аддай” піша праз адно “д”, “адай”, а пры памнажэнні 6 на 7 да канца не ўпэўнены – гэта будзе 13 ці 67. Яму проста ніхто не скажа, бо ўсе будуць надта замілаваныя выглядам ягоных кулакоў і прыпадкаў раз’ятранасці, гэтага псіха ненармальнага (а, як ты ведаеш, страх і замілаванне – фактычна сінонімы). І што нават закаханая ў яго Таня, дачка ўральскіх інтэлігентаў, не зможа сказаць яму, што да лепшага ў гэтай сітуацыі ўсё магло змяніцца толькі ў другім класе, але тады Дзімавага старэйшага брата, таксама бандыта, забілі пры разборках, і таму той так і не паспеў купіць усю Дзімаву школу, ці хаця б наняць рэпетытара, які тады яшчэ мог хоць сяк-так паправіць Дзімаву адукацыю.

Чырвоная шапачка ўзлавана трусілася ў Мішанькі на галаве:

– І Гога – харашмяны. Гога, гэты грузінскі бежанец, які ўзімку ходзіць у майцы, шортах і “крокусах”, бо пераканаў сябе, што яму цёпла, а насамрэч ў яго папросту няма грошай, бо ён не працуе, а лазіць па сметніках кампутарных крамаў, бо ягоная мара – сабраць і прадаць у Сіліконавую даліну вечны рухавік другога пакалення. Аднак цяпер ён пакуль што вымушаны пабірацца і целюпаць у Хайфу за сто дваццаць кэмэ на іржавым ровары, каб наведаць сваю дачку ў былой жонкі. Гога дазнаецца, відаць, апошні, што на гэтай зямлі ён дарэмна ходзіць, жыве, ездзіць на ровары, збірае дэталі да свайго вечнага рухавіка і марыць пра годнае ўзнагароджанне. Толькі праз два гады ён даведаецца пра тое, што цяпер відавочна нам, ягоным сябрам, ягонай былой жонцы, а таксама ягонай дачцы і гандляру на тэль-авіўскім рынку, які прадае Гогу “крокусы”. Гогу знойдуць у ягонай заваленай жалеззем каморцы ў Скрынкавым завулку мікраёна Пардэс-Кац, засіленым на электычным дроце. З апошняй, блытанай і даўгаватай цыдулкі можна будзе зразумець толькі тое, што Гога адмаўляецца жыць на свеце, дзе Усявышні стварае людзей выключна дзеля таго, каб тыя служылі хадзячым антыпрыкладам для сваіх блізкіх.

Мішаньку біла дрыготка, і ён пачаў прытанцоўваць вакол мяне:

– І жонка Авіка Бадасяна – харашмяная. Вядома, пра здрады мужа яна даведаецца раней за ўсіх, тут базару няма. І пра прынцып Авіка “дзве жанчыны” яна дазнаецца яшчэ да замуства, бо будзе сведкай, як аднойчы Авік адзначыць свае народзіны двойчы: апоўдні пойдзе з ёю ў італьянскі рэстаран, а ўвечары яна выпадкова заспее яго ў бары на Шэнкін з Юляй, прыбіральшчыцай з рамат-авіўскага мола, і ўбачыць, як за столікам Авік і Юля будуць мала не распранаць адно аднога. Да слова кажучы, гэты прынцып Авіка “дзве жанчыны” пачаўся яшчэ з Арменіі. Хоць там усё выглядала прыстойна і памяркоўна, бо ў Ерэване ў Авіка былі дзяўчына і мама, а Авіку заўжды трэба былі не адна, не тры, не пяць, а роўна дзве жанчыны. І што Авік – бабнік, нават сам ён даведаўся толькі тут, у Ізраілі, дзе мамы няма. Дык вось, жонка Авіка Банасяна даведаецца пра самае галоўнае толькі ў самым канцы: тады, калі, пазмагаўшыся з мужам і сваёй рэўнасцю дзесяць гадоў, пасля двух сыноў, яна ўрэшце народзіць яму дзяўчынку. І тады Авік, якому былі заўжды патрэбны не адна, не тры, не пяць, а роўна дзве жанчыны, урэшце супакоіцца і стане ўзорным мужам (і вядома ж, бацькам)...

Тут Мішанька са сваімі кружляннямі ў чырвонай гумовай шапцы вакол мяне зусім стаў падобны да бажавольнага дэрвіша.

– І лепей не будзе, май наўвеце, Ігарок, хочаш ты ці не, застанешся ты тут ці пераедзеш назад у РБ! – галасна вяшчаў Мішанька ў вар’яцкім танцы. – Ты заўсёды будзеш гэткі харашмяны. Бо паглядзі, напрамілы бог, на нас: дзе мы і дзе шчаслівы лёс? Табе ўсё будуць тлумачыць у саменькім канцы, калі ты праз год, скажам, пакусаны восамі – бо ў цябе была алергія на іх атруту, а ты ўсё жыццё пра гэта не ведаў – будзеш ляжаць з распухлай мазгаўнёю, дзе-небудзь у балоце, у сваім Палессі. Або ў Мінску пасля чарговай асабістай трагедыі за кожным рогам цябе будзе пільнаваць Боб Дылан з гітараю напагатоў, каб агрэць ёю на дарожку. And you have to face it.

– Мішань, ты пра што? – Я проста ачмурэў ад гэтай тырады. – Што за прароцтвы такія?

Але Мішанька ўжо крычаў і кружляў адначасова, і таму разабраць словы было немагчыма. З яго вылётвалі фразы кшталту: “А што ты, Ігарок, думаеш: аднаму табе пагана? Адзін ты такі харашмяны?...” Гэты дэрвіш разышоўся на ўсю сілу-моц: чырвоная шапачка звалілася з ягонай галавы, але танец не спыніўся. Я быў на нагах таксама і злы, як чорт. Бачыць Бог, я бы мог як след начысціць яму пысу. Аднак склікаў разам рэшткі сяброўскага пачуцця і заскавытаў:

– Міша, я цябе ніхалеры не разумею!

– Вось, – прагаварыў Мішанька неспадзеў ціхім голасам, сеў назад на канапу і, падчапіўшы ссохлую сушыну доўгімі пальцамі, зашпурнуў у рот. – А я цябе не разумею ўжо цэлы вечар. Таму сядай, за прастой грошай не плацяць. Давай заб’ем касяк на пасашок? Ці, можа, хочаш неабветраных сушаў – у лядоўні пад фальгою я пакінуў адзін дзясятак пра запас.

Сонца, якое ўзыходзіла, адбівалася ў хмарачосах тэль-авіўскай дыяментавай біржы. Я падхапіўся і, не развітаўшыся з гаспадаром, дэманстратыўна хуткім крокам сышоў з кватэры ў парн*ы* ізраільскі ранак. Але на вуліцы, ідучы пад мастом шашы Аялон, падумаў, што гэтаксама, як пасля той гісторыі з немачкамі, я не буду крыўдаваць на Мішаньку надта доўга.

Ірына Хадарэнка



...час зруйноўваць рэйкі
і ў хованкі гуляць з паўночным ззяннем...

# Я размаўляла з ветрам і дадждом...

** * **

Мае абсідыянавыя сны
Злучаюць час цяперашні з мінулым.
А будучыні зерне патанула
Ў імгле пад стосам ісцін прапісных.

Зноў поўня асвятляе зікурат
З цаглінак рэчаіснасці настылай,
І чыйсьці голас ціха шэпча з тылу,
Што час здзяйсняць замоўлены абрад.

### *ТРЫЯЛЕТ*

Глыбока пад небам, далёка за снамі
Блукаюць наўзбоч беспрытульныя цені...
Схавана трывога ў самотным трымценні
Глыбока пад небам, далёка за снамі.

І мроіцца ўпотай, што цені – мы самі,
І гэта пра нас навакол шамаценне:
Глыбока пад небам, далёка за снамі
Блукаюць наўзбоч беспрытульныя цені...

### *КАРОТКІ КРОС-КУЛЬТУРНЫ АНАЛІЗ ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАРАДЫГМЫ*

Каханне як міфалагема
Звычайна лашчыць розум еўрапейца.
Яно сваім святлом праменным
У цемрадзі быцця дае сагрэцца.

Каханне як цявіна лёсу
Павінна жыць у сэрцы азіята.
І на шляху душы ў нябёсы
Вібрыруе яно струной напятай.

** * **

Я размаўляла з ветрам і дажджом
І слухала нябесных цел парады,
Ды рэзала душу, нібы нажом,
Сляпое прадчуванне блізкай здрады.

Цана святых дагматаў – медны грош,
Бо ў думках мы кагосьці забіваем
Амаль штодня. І спадзяёмся ўсё ж
Знайсці ратунак – там, за небакраем.

### *СТОП-КАДР*

Спавітыя нератам шарай гадзіны
Абсягі свабоды ў гаротнай краіне.
І позірк мой тоне ў ландшафце адзіным:
Навокал руіны, людскія руіны...

### *ЦЯНЁТЫ ЦЫКЛОНУ*

На цёмным цвінтары,
Зацыраваным цвіллю,
Мацнеюць кіпцюры
Тубыльцаў у цывільным.

Духоўнасці сцябло
Цкуе сцюдзёны вецер;
Цярэбіцца цалок
Нясцерпна ад суквецця.

Цар цуглі адпусціў,
Гучыць працяглы цокат.
І цьмее супраціў,
Як пацалунак цмока.

* * *

Ідэя – гэта нечаканы скарб,
Насуперак пракляццю закрануты.
Акрылены табой, ляцеў Ікар,
А Праметэй быў да гары прыкуты.

Ідэі ўсё жыццё служыў Платон,
Гіпатыя загінула ў адчаі...
Ідэя застывае, як бетон,
І можа, як вясновы снег, растаяць.

### АГМЕНЬ ПАМЯЦІ

Здалося, што нябёсы пабялелі,
Расцёкся боль чырвонай паласою
І лёсу недасяжныя арэлі
Спыніліся над вечнасці ракою.

А побач – пылам засціцца дарога,
Спяваюць птушкі і смяюцца дзеці.
І быццам не змянілася нічога
На гэтай абыякавай планеце.

Усё, як і раней, у наваколлі...
Ды памяці людской агмень нязгасны
Сілкуе душы тых, хто мімаволі
Зляцеў у вырай. Найчасцей заўчасна.

* * *

Паміж пункцірамі дажджу,
Сярод шматкроп'я жвавых промняў
Свой вобраз шыфрам запішу,
Каб ты мяне калісьці ўспомніў.

Дазволю жарсцям прарасці
І зноў збягу блукаць па свеце.
Ты не сумуй, ты адпусці –
Ніхто трымаць не ў стане вецер.

* * *

мая самнамбулічная радзіма
смуга ў крыві, мядузы ў пантэоне

на золку не гарыць, у цьме не тоне
расколатай свядомасці ільдзіна

пад небасхілам пацеркі кахання
над вокам праўды вусцішныя вейкі
застылася. час зруйноўваць рэйкі
і ў хованкі гуляць з паўночным ззяннем

### *ТАСТАМЕНТ*

А што, калі сапраўды існуе
верагоднасць пазажыццёвай пілігрымкі?
тады варта было б загадзя скласці маршрут
футурыстычнай вандроўкі па вясёлкавых рэйках.

скон – гэта раптоўна разбіты калейдаскоп быцця,
з якога высыпаюцца рознакаляровыя шкельцы-згадкі;
але перад тым, як патрапіць у бяздонную лужыну пустэчы,
яны паспяваюць бліснуць яскравымі праменьчыкамі,
скіраванымі ў апошняе падарожжа
па родным кантыненце.

дык вось для іх
творчы брыф:
саскочыць з вежы базілікі ў Базэлі;
пашпацыраваць па брукаванцы ў Тарагоне;
крануць пялёсткі лаванды на востраве Хвар;
праляцець над чарапічнымі дахамі Любляны;
пазалаціць слоік з мёдам на вужгарадскім рынку;
пад шум хваляў выказаць пашану руінам Херсанэса;
ускараскацца стрымгалоў па вінаграднай лазе ў Сумгаіце;
засведчыць неверагодны блакіт Чарвакскага вадасховішча;
ператварыць у дыяменты пырскі са страсбургскага фантана;
патанчыць на ўскрайку кілішка ў папулярнай лейпцыгскай абсэнтэрыі;
запаліць кропельку балтыйскай смалы на адной са светлагорскіх соснаў;
прывабіць позірк соннай коткі пад квітнеючым дрэвам у Петравацы;
палашчыць маленькі куст шыпшыны каля Юравай гары ў Крэве;
расфарбаваць пяро крука на могілках вікінгаў у Ольбаргу;
даследаваць закуток паміж белым і чорным каменнем,
што суседнічаюць на гары ў ваколіцах Грымстада;
пагойсаць паміж смарагдавых узгоркаў у Кярнавэ;
зазірнуць у вакенца калібы ў Старым Смакаўцы;
павітаць карагод начных агеньчыкаў Серсале;
і схавацца пад Зялёным мастом у Кракаве.

Не трэба бегчы да Масквы або Парыжа,
ці вартаваць адчай на могілках сталіцы.
Не кідайце ў зямлю, не стаўце крыжа,
няхай душа ў прасторы растварыцца...



Ігар Сідарук



...думаеце, мне не прыемна слухаць,
як у парку смяюцца дзеці?..

# Маршрутка №8

*Тры апавяданні*

## Футбол на снежным полі

І тады я ўрэзаў!..

Урэзаў так, як не біў ніколі.

Нават гікнуў, і сліна пырснула скрозь зубы на бараду.

Я ірвануў наперад; і, здавалася, назаўсёды забыў пра гэты страшны і глухі ўдар.

Толькі адразу атрымаў пас назад. І ўрэзаў яшчэ раз! На назе забалелі пальцы, на мысе бота засталося нешта гідкае й бруднае. Белы снег тапілі маленькія кроплі.

Раптам я зразумеў, што чую над полем страшэнны, мацерны крык. Раздзіраючы да крыві горла, крычаў я сам, крычалі радавыя-камрады. Крычалі й старшыя афіцэры, што стаялі паабал поля.

Гульня ішла да першага гола. Такая ўмова. Спыняцца – не мелі права. Без варыянтаў. Адзін, праўда, быў: куля. Калі жадаеш...

Зноў пас. Зноў адбіць. Як мага далей. Толькі як мага далей!..

Нас рыхтавалі. Нудна, жорстка, падоўгу. Трэніроўкі штодня, трэніроўкі штоночы. Ты – баец! Ты – віж! Ты – бясспынны камбайн-знішчальнік! За спінаю – папялішча; мозг – не твой сродак. Плавіцца сталь? Руку ўнутр – і трывай! Накінулі ланцугі ды ірвуць на часткі? Ты – поршань, ты – харчуешся цэглай; ірві сам на баяны ўсю набрыдзь!

Каманда. Усё вырашае каманда. Плячо камрада – як уласны орган, твая трэцяя рука ці вока. Раз'яднаць, адарваць – немагчыма. Не маеш права!

Усё, што маеш, – толькі наперад! Мордаю ў гразь, у лайно, у хімічныя адкідоны. Моцным – дадатковы паёк і большыя грошы; слабыя апранаюць спадніцы ды вяртаюцца ва ўніверсітэты!

І зноў пас? Зноў адбіць, каб клацнулі зубы? Ёсць, убабохаў, ушмандзярыў, упендзючыў! Снежны ўзвіхр – следам!.. Кроплі на снезе, кроплі ў вачах, нават на пальчаткі – чаму яны ляцяць на пальчаткі?! Добрыя, скураныя, у іх цёпла. А як бы не змог? Каб сказаў камандзіру “Не”?! Што, тады быў бы іншы футбол? І хто біў бы ўжо па маёй... Не!

Як можна было адмовіцца? Ці не адмовіцца?! Чортаў белы снег!.. А здавалася з раніцы, гульня будзе лёгкай. Толькі пужнём, толькі жахнем па іх, так, для рогату, дзеля размінкі. Прыдуркі ж захацелі біцца. Што называецца, палезлі на пікі. Ну то во вам, у мурляцтва і ў рэбры! Ды й яшчэ і ў бычыныя вашыя яльцы!..

І ўсё было добра. І мы ўжо гарлалі “Viva, Patria!” І ўяўлялі, як п'ем з патаемных біклагаў. Пакуль не прывялі гэтага, з аброслымі вушамі. Надта ж смыліла вочы тая доўгая поўсць!.. А ён смяяўся. Нібы ён, толькі ён – перамог. Сволач!

Нам не далі яго зачапіць нават пальцам. Спачатку. Пакуль старшы спрабаваў звяршыць пратакол. Па ўсіх неабходных патрабаваннях. Але поўсцевухі зноў рагатаў і нават пляваўся!.. Загад быў канкрэтны. І мы гэта ўмеем!..

Твар, чорны як зямля, ужо болей не рагатаў.

Мы трымалі яго пад рукі. Я і камрад. Афіцэр, што стаяў наводдаль, падышоў усутыч. “Штык-нож напаверх!” – скамандваў. І зноў прагучаў загад. І я ведаў, што было б за невыкананне. І ўбачыў неба. І шэрую аблачыну ўдалечыні.

І ўсё-такі, як я мог?!

Ці такі мог?

І ўсё ж, не, не мог!

Аніяк. Гэта было немагчыма.

Гэта было нешта... Я што, па вашаму, не чалавек? Думаеце, мне не прыемна слухаць, як у парку смяюцца дзеці?..

Чалавек пачаў тузацца. Ён зразумеў, але й не хацеў зразумець.

Як і я.

Я сапраўды не мог. Хіба што сабе ў пуза. Такі змог бы. Раптам стала бліжэй да зямлі шэрая аблачына...

На жывой, бруднай шыі пульсавала ледзь бачная тутніца.

Ударыць было няцяжка. У сэнсе шыя – зусім не паверхня, схваная пад бранёю. Цяжэй было рэзаць. Перарэзваць скуру, шыйныя цяглiцы і

пазванкі. Нават выгляду не рабіць, што жахаешся гэтай крывідлы. Рэзкім рыўком аддзяляць галаву ад тулава.

Я стрымаўся, каб не хістнуцца. Старшы афіцэр тлумачыў простыя правілы. Пяткаю новага бота біў ямку ў цэнтры поля.

Шэрая аблачынка пасыпала белым снегам.

І тады я ўрэзаў!.. Нават не ўзяўшы разбегу.

*20 сакавіка 2012 г., м. Кобрынь*

## Лялечка

Ганульку-пястушку Пятро і Тацяна Кавальскія пачалі прыбіраць яшчэ з вечара. Дасталі ўсё, што маглі: новае, адпрасаванае. Пачынаючы ад жаўцюсенькіх трусікаў да, заканчваючы, цёплага шаліка з махеру і хустачкі ў яблыкі. Спачатку Тацяна расклала апранаткі на ложку, разглядваючы ды разгладжваючы напрацаванай рукой.

– Ганулька, глядзі! – пазвала яна шэптам дачушку. – Не, ты ж толькі паглядзі, як красотна! Зараз мы цябе зробім кветачкай!

– Ну так, як ружу белую... – мармытнуў Пятро. – Самую такую!

– Мы што, паедзем куды? – усміхнулася Ганулька. Яна не адрывала вачэй ад гэткага хараства. – Ужо ж вечар!

– Мо і паедзем. Толькі не зараз. З раніцы, – патлумачыла мама. – А ўбірацца пачнем, так, цяпер. Ноч вялікая... – прамовіла яна, абдымаючы сваю дачушку ды прыцягваючы яе да сябе.

І пачалося ўбіранне! Тацяна пасадзіла дачку на расхістанае крэсла, узяла грабеньчык. Залатыя валосікі так і ліліся між пальцаў.

– Вой, мам! – пазяхнула Ганулька. – Як люблю, калі ты мяне чэшаш!

– Гэта свінак чэшуць, – паправіла мама. – А я расчэсваю. Жывыя твае кудзерыкі...

– Жывыя? – адстаранілася ад грабеньчыку Ганка і зазірнула маме ў вочы. Мама не вытрывала, адвярнулася... – І яны ад мяне збегчы могуць?

– Ну куды ж яны пабягуць? – адказала матуся. – Хіба сама прагоніш.

– А вось і не! Я свае валосікі не праганю. І носік не праганю, і вочкі. І ручкі, і ножкі. Усё хай са мною жыве!

– З табою, Ганачка, з табою, – азваўся бацька, які стаяў на ўваходзе ў пакой і назіраў, як прыгажэе, бы тэлекарцінка, родная доча. Глядзеў, нібы ўпершыню бачыў малую.

А мамка так і гэтак тупала вакол яе, мамка старалася.

Вось за фрызураю дайшла справа да тварыка, які вымыла спачатку з алюміневай місы, чым толькі насмяшыла Ганульку, потым дастала сваю “касметычку” ды падмалявала ёй вочкі й вусны.

– Мамка! – глядзела малая ў люстэрка, якое трымаў побач бацька, каб не стаяць убаку ад справы. – А хіба можна?.. І мне?!

– Можна, донечка, можна. Сёння ўсё можна...

– І заўсёды можна будзе? – глядзела ў люстэрка малая.

– Ну, там паглядзім... – апярэдзіў Тацяну Пятро, калі тая кінула на яго пагляд, не ведаючы, што адказаць. І адразу штурхануў жонку: – Давай, што там далей. Рабі, ты ж умееш.

– А, так, цяпер будзем нараджацца!

І Таццяна ўзялася за ўбранне.

Прайшла гадзіна ці болей. Перад бацькамі сядзела памытая, прычасаная, падфарбаваная Ганулька. Нават расхістанае крэсла саромелася рыпець, такая прыгажосць цяпер сядзела на ім.

– Бацька, глядзі! – выдыхнула восеньскім сонцам Таццяна, разварочваючы дачку тварам да Пятра. – Наша Ганулька – як лялечка!

– Сам бачу. Не сляпы, – прамовіў Пятро, разглядаючы малую.

– То нармальна?

– Што значыць нармальна? Добра! Прыгожая выйшла. І праўда – чыстая лялька.

– Мамусік! Татусік! – радавалася і сама Ганка. Яна то разгладжвала сваю сукеначку, то кранала пальчыкамі кудзерыкі, то падцягвала вышэй блакітныя гольфікі. – Па тэлевізары кіно пра Каляды ішло. І там такая ж дзяўчынка была. Прыгожая!

– Ты прыгажэй, – пацалавала яе ў валасы маці. – Так што мы з табой да канца...

– Да якога канца? – не зразумела малая.

– Значыць, усё? – павярнулася да мужа Таццяна.

– Я ж сказаў, усё. Як трэба.

– А самі? Калі будзем?

– З раніцы. Нам не доўга.

– Ага. Хіба гальштук. Не пасьпела табе завязаць...

– Ладна! Кладзі малую – няхай пасьпіць. А гальштук – я сам...

Таццяна кіўнула ды, падхапіўшы з крэсла Ганку, панесла яе ў дзіцячы пакой.

– Мама! Яшчэ спаць?

– Так, сонейка.

– Не распранаючыся? І ў новых пантофліках?

– І ў новых пантофліках. Калі не цiснуць...

– Не! Утульныя!..

– Ну то й добра. Дабранач!..

Раніцою ў дзверы пазванілі. Пятро ўцягнуў голаў у плечы, аднак пайшоў адчыняць. У кватэру, не вітаючыся, спачатку зайшоў адзін. Дастаў паперыну, запытаў:

– Пятро Кавальскі і Таццяна Кавальскія?

– Так, мы.

– Гатовы?

– Гатовы.

– Пачынаць?

– Як прыйшлі, то што ж...

Гаспадар не спяшаўся запрасіць яшчэ траіх, якія стаялі за парогам. Аднак яны самі не сталі цырымоніцца. У кватэру не ўвайшлі, а ўваліліся, паколькі неслі на плячах вялізную скрыню. Ад скрыні пахла дрэвам і лакам. Увайшлі, пастаялі, аддыхаліся. Першы, які быў галоўным, не зводзіў вачэй з Пятра. Потым шчоўкнуў перад ягоным носам вялікім і ўказальным пальцамі.

Пятро ўздрыгнуў, адсунуўся тварам, але здолеў яшчэ прамовіць у глыбіню кватэры:

– Тацяна... Давай. І сама, і малую.

У пакоі стаяла цішыня. Потым у вітальню ўвайшла Тацяна. Яна прыціскала да сябе заспаную Ганулю. Пачала ціха ўкладвацца побач з мужам. Вочы жанчыны глядзелі ў шэрую столь. І тут малая прачнулася.

“Мам? Мамка?.. Гэта што?.. Навошта такое?..”

І раптам заверашчала, задрыгала ножкамі, пачала лупіць кулачкамі па тварах дарослых.

– Ціха, дачушка, ціха! – прыціскала яе Тацяна. – Ты ж і напраўду – як лялечка!..

Але тыя, хто забіваў скрыню, не чулі ні енкаў і крыкаў, ні драпання кіпцяў знутры па дрэве. Яны даўно прызвычаіліся да такой работы. І таму ведалі: без тугіх, надзейных навушнікаў выканаць яе – немагчыма.

А паддацца хвіліннай слабіне ды напартачыць – не ўхваліць начальства.

*6 студзеня, 2012 г., м. Кобрынь*

## Маршрутка №8

Касцік Чмончык, кіроўца маршруткі №8, звар'яцеў яшчэ з раніцы. З'ехаў з глуздоў, дзербануўся з каталак, страціў цвярозае адчуванне рэчаіснасці ці як яшчэ можна сказаць. Але паколькі рэдкі вар'ят мысліць, што ў ягоным светаўспрыманні надарыўся збой, то аб псіхічнае немачы ён і блізка не абвясціў ні жонцы, ні медычнаму спецыялісту маршрутнага аўтапарка. Апошні (у сэнсе спецыяліст) толькі папрасіў чмыхнуць у заўсёдную трубачку, якая выявіла дапушчальную норму алкаголю ў Чмончыкавай крыві. А значыць, на звычны маршрут Касціка можна было выпускаць смела.

Ну то ён і выпер. Падляцеўшы да першага прыпынку, на момант прыпыніўся, але як толькі пасажыры пачалі напіхвацца ў салон, урэзаў зноў па газах. Адразу закрычала некалькі пералляканых жанчын. Адна з іх, у чырвоным куртаватым палітончыку, нават страшэнна завішчэла, паколькі не ўтрымалася ў расчыненых дзвярах і паляцела прэч на асфальт, пад брудныя колы маршруткі.

– Вы што?! Спыніцеся! Там жанчына!.. – крычалі пасажыры.

– Ага, – усміхнуўся крывазубы Касцік, мацней націскаючы на понаж акселератара. – Жанчына – ісцінна для нас святое. Мадонна Рафаэля і Ізабелы Бялыніцкай-Бірулі!

– Бялыніцкага-Бірулі. Але ён не пісаў мадоннаў, – паправіў яго дзядзя ў капялюху, але праз міг ужо гарлаў таксама: – Вы ўдаеце сабе, што творыце?! Прытармазіце зараз жа!

– Тармазы ў нас у парадку! – Касцік Чмончык, крывячы рота, выкручваў рулявое кола то ўлева, то ўправа. Папутныя і стрэчныя машыны гудзелі яму, бліскалі фарамі, аднак звар'яцелы кіроўца і не думаў на іх зважаць. – Тармазы, тэатр і кукуруза!

Усе аціхлі, прыслухоўваючыся, што яшчэ прамовіць кіроўца. Толькі дзядзька ў капялюху размахваў рукамі ды ўжо праціскаўся бліжэй да Чмончыка:

– Я патрабую спыніць машыну, развярнуцца ды ехаць назад, каб аказаць збітай жанчыне неабходную дапамогу!

– Развярнуцца? – тут Косцік і напраўду чвэхнуў па тармазах. Ды так, што ўсе, і капялюшысты дзядзька ў тым ліку, паляцелі наперад. Хтосьці ляжаў на падлозе, хтосьці зверху навальваўся на ляжашчых – лямант і віскі, якія крыху аціхлі, зноў узняліся ў маршрутцы. Ад рэзкага тармажэння ўладальнік капялюху пераляцеў нізкую перагародку, якая аддзяляла пасажырскі салон ад кабіны кіроўцы, ды дзвэнькнуў лобам аб пярэдняе шкло. Не паспеў ён ачухацца, як Косцік згроб яго за каршэнь, тузануўшы, пасадзіў побач з сабою на вольнае сядзенне ды мёртва прышпіліў рамянём бяспекі. Яшчэ праз міг немаведама адкуль у руках Чмончыка бліснула адвёртка. Адным рухам ён адмыслова ўставіў яе паміж рамянём і дзядзем, прычым так, што вастрыё ствала адвёрткі ўперлася таму ў шыю.

– Развярнуцца? Я дык развярнуся. Але ты як дзёрнешся – будзеш труп!

І Чмончык сапраўды развярнуўся, маршрутка паперла ў адваротным накірунку, дзядзя сядзеў нерухома. Але толькі да той пары, пакуль колы “Газелі” зноў не швэрхнулі па той самай жанчыне, якая хвілю таму не ўтрымалася і вылецела з машыны. І якая так і не паднялася з халоднага асфальту, паколькі ў той момант, калі нарэшце змагла прыўзняцца на калені, грознае жалеззе і брудная гума зноў упляжылі яе і ейны чырвоны палітон у брудную дарогу. У дзядзі ад жаху вытрашчыліся вочы, ён тузануўся, каб ускочыць, але наканечнік адвёрткі рэзка ўджаліў у голую шыю, па якой адразу зацурчэла нешта гарачае.

– Ляжачым – ляжаць, а сядзяшчым – сядзець! – разварочваў маршрутку Чмончык.

– Вы... Парушэнні... Такія здзекі й ваша кіраўніцтва павінны будуць... – заціскаў дзірку ў шыі паранены дзядзя.

– Спыніце машыну! Мы выйдзем! – нарэшце зноў загаманілі пасажыры. – І хто-небудзь!.. Пазваніце ў “хуткую”! І ў міліцыю!..

– Хоць у прэзідэнцкую адміністрацыю! – рагатнуў суворы на выгляд Чмончык. – Значыць, так. Слухайце новыя правілы перавозак. Вольны маршрут нумар восем абвяшчаецца ўмоўна закрытым. Гэта значыць, што ўсе выходзім толькі на канчатковым прыпынку. Канчатковы прыпынак вызначаецца выключна мной. А права ўзяць новых пасажыраў застаецца выключна за вадзіцелем! Усе мабільныя тэлефоны перадаюцца майму памочніку. Дарэчы... – Тут Чмончык зірнуў у люстэрка задняга выгляду, прабегся вачыма па кожным пасажыры. – Хто хоча ім быць?

У салоне панавала маўчанне, да якога дамешваліся жах і нянавісць.

– Памочнік мае права на пазачарговы прыпынак, – ані не зважаў на тую нянавісць Чмончык. – І выбраць любое месца ў машыне. Дык хто?..

– Ну я. А што?.. – азваўся дзяцюк з бычынай паставай.

– Як што? Не чуў даручэнне? ¬– ужо глядзеў строга на дарогу Касталей. – Збірай тэлефончыкі. Ды каб не плакалі, можаш пад распіску!..

– І я магу, – піскнула з-за спіны бычыны жанчынёшка з белай сумачкай набакір. – У памочнікі. Мне не цяжка. І з распіскамі, і ўвогуле. Мы канторай на бульбу ездзілі, я дапамагала. Усе ўзважвалі, а я запісвала. Нават дзякава...

– Ладна! – абарваў яе Чмончык. – Два памочнікі – норма!

Бычыная шыя і дамачка з сумачкай пачалі збіраць тэлефоны. У аднаго студэнцкага выгляду хлопца вырвалі, калі ён, набраўшы нейкае смс, хацеў націскаць на адпраўку. Аднак не паспеў: бычына, скруціўшы яму руку, выхапіў у студэнціка мабілу і, утаропіўшыся ў дысплейчык, па складах прачытаў:

– “Тэрмінова пазвані ў міліцыю! Я ў маршрутцы №8. SOS!” Во як! Мудзяшны сапляк эсмээскі піша!.. Што, не паспеў? Ці не чуў, што сказалі? Тэлефоны – сюды!

– Выкінь яго, – Чмончык уклаўся ў рэзкі віраж. З-пад колаў у бакі з віскатам кінуліся дзеўчынёшкі-школьніцы.

– Што, тэлефон?.. – не зразумеў быў ягоны першы памочнік.

– Таго, хто піша! – крывыя зубы звыкла бліснулі ў роце Чмончыка. – На га...но і малочную каналізацыю!..

– Якую... каналізацыю? – збялеў бычына.

– Што чуў. Выкінь! Выродным смердзюхаям – не месца на маршруце ўзорнага абслугоўвання пад кіраўніцтвам вадзіцеля з сямнаццацігадовым стажам і без занясенняў у лічнае дзела Канстанціна Чмончыка! – звінеў голас Косціка. І раптам змяніўся спакойным тонам: – Дам паруліць. Любіш?

– Люблю...

– Дык што стаіш, мандалей?! Зараз сам за асфальт зубамі будзеш чапляцца! – зноў рэзка вывернуў Чмончык, заварочваючы ў чарговы завулак, у якім на пешаходным пераходзе вырасла пенсіянерка з кульбачкаю ды так і засталася ляжаць на пераходзе, узіраючыся назаўсёды памутнелымі вачыма ў валошкавае неба.

– Добра, – стараўся не азірацца назад маршруткі мандалей. – Але я... мне будзе трэба... спыніцца, дзе захачу.

– Будзе, – з шыкам матлянуў галавою Касташ, нібы арыйскі афіцэр у старажытным кіно. – Памочніку – па першым патрабаванні.

– Ну то... – бычыная шыя пасунулася на студэнцкае цела. Маладзён напяўся ды, спрабуючы загарадзіцца ад смяротнае небяспекі рукамі, хацеў закрычаць ва ўсё горла, але толькі зацяўкаў:

– Стой дзе стаіш, сволач! Людзі, людзі!.. Вы што?! Нас жа многа!

Людзі, аднак, маўчалі. Хтосьці рабіў выгляд, што іх захапіла імклівае зменлівае відовішча за вокнамі маршруткі, хтосьці не адрываў вачэй ад таго, што дзеелася ў салоне. І толькі адзін дзядзя ў капялюху, развярнуўшыся бокам з пярэдняга сядзення ды заціскаючы прапоратую шыю, спрабаваў хоць паглядам падтрымаць хлапака.

– І я хачу! І паруліць, і спыніцца! – раптам аддзялілася ад агульнае масы дамачка з белай сумачкай. – Каля дома, там яшчэ ў мяне бальзан на вакне і цюлі ў гарохі. – Сумачка раптам апісала кароткую дугу і бздрыкнула студэнцішку па галаве. – А ну, прэч, правакатарскі выкармыш! З-за такіх, як ты, маршруткі й ляцяць у куветы!

– Цётухна, уймíцеся! – маладзён ужо не ведаў, ад каго чакаць небяспекі. Аднак тое няведанне доўжылася нядоўга. Пакалькі праз міг беласумачная дама падхапілася са свайго месца ды ўваткнула яму ў твар свае пальчыкі.

– А!.. Хр... мр!.. – хрыпеў студэнт.

– Вон з машыны! Дай нармальна нам руліць, бля!.. – адразу за “бля” з рота дамы паляцелі іншыя, на парадак страшнейшыя мацюганы. Такія,

што яшчэ адна дамачка, з выгляду зусім праставатая сакратарка, нават заткнула пальчаткамі вушкі, каб не чуць такой абражальнай існуючы момант лексікі.

– А ты што стаіш? – зіркануў на шыістага дзецюка Касталей. – Выкідвай давай!

Бачына страпянуўся ды з ляскатам расчыніў дзверы маршруткі. Дамачка не адрывала сваіх кіпцюрыстых пальцаў ад шчок студэнта. Са свайго боку, ён учапіўся ёй у вобласць цыцак і спрабаваў хоць як вырвацца з дамскіх абдымкаў, гэтым разам прызначаных зусім не для танчыкаў старажытнай кадрылі падэспань. Частка асабліва нярвовых пасажыраў не ўтрымалася, пачала зноў крычаць, верашчаць, аж пакуль студэнт з дамай не паляцелі прэч з машыны. Галава студэнта рэзнулася аб электрычны слуп, пэкнуўшы недаспелым кавуном, дамачка, адарваўшыся ад яго, імгненна трапіла пад колы малакавоза з самаробным надпісам на борце “У фонд сацыяльнай абароны”, а шыісты дзяцюк на аўтамаце зноў бразнуў дзвярыма, шчыльна зачыняючы іх за вылецеўшымі людзьмі.

– Ну, нармальна... Там жа і тэлефоны нашы ўсе, – адзінае што мог вымавіў ён.

– Канечне, нармальна. Так забяспечваецца трывалая сувязь пакаленняў на вякі, – пацвердзіў Чмончык. Ды, пашураваўшы у сябе пад сядзеннем, выцягнуў адтуль манціроўку. – Бяры, – працягнуў бычыне. – Глядзі й надалей за парадкам.

Бычына схапіў манціроўку, пакруціў у руках. Людзі ў маршрутцы аціхлі. Кожны стараўся пасунуцца як мага далей ад першага вадзіцельскага памочніка.

– Навошта... Мне толькі паруліць. І спыніцца дзе трэба, – мармытнуў той, углядваючыся ў вочы кожнага з пасажыраў.

– Па-ру-ліць?! – па складах паўтарыў за ім Чмончык, працягваючы свой толькі ім адным дакладна вызначаны маршрут. Ён павялічваў хуткасць, а калі тарамазіў, то так, што дзядзя-знавец Бялыніцкага-Бірулі з прабітай шыяй на пярэднім сядзенні штораз бязлітасна ўплянторваўся ў лабавое шкло. – А вось і не дам! – рагатнуў Косцік, ледзь не двума нагамі націскаючы зноў на газ.

– Як не дасцё? – скрывіў губы бычына.

– А так! Месца сабе выбраў? Но то і сядзі! Ды за парадкам глядзі – я прызначыў!

Бамбіза ўтаропіўся ў манціроўку, пакруціў яе так і гэтак ды раптам ўбяндзерыў ёю ў бакавое шкло. А потым, асеўшы назад на сядзенне, агідна, танклява зарумзаў. Нейкая бабуленцыя, прыгадаўшы святога Міколу і някормленага свайго коціка, які, відаць, гэтак жа жаласна плача цяпер дома, пасела да бамбізы, пачала яго супакойваць:

– Ай не плач, мілаванчык. Хутка ўжо прыедзем. Ты пацярпі...

Мілаванчык скрывіўся болей і хацеў ужо ўваткнуцца ў плячук бабуленцыі, каб выплакацца, як тут маршрутку падкінула ўверх да грозна нахіліла набакір. Пераляканыя пасажыры прыляпіліся тварамі да вокнаў. Невядома, ці моцна іх абнадзеіла ўбачаная карціна, але там разварочвалася наступнае. Па баках дарогі стаялі дзве міліцэйскія машыны, прадстаўнікі

дарожнага патруля ці то скручвалі, ці то раскручвалі нейкі калючы дратаваны скрутак, адзін са службоўцаў спрабаваў нешта прагарлаць у напрамку маршруткі цераз жоўты мегафон. Але яшчэ да гэтага Косцік Чмончык урубіў магнітолу, з якое ў пратору ляцела металёва-скрыготнае “А наша радзіма – бронь, агонь і чыгунна-падшыпнікавы завод!..”

Ясная рэч, у маршрутцы ніхто не пачуў злоснае патрабаванне службоўца спыніцца і што аперацыя “Перахват” абвешчана па ўсім горадзе.

– А наша вольная радзіма – бронь, агонь і чыгунна-падшыпнікавы завод!.. – падпяваў магнітоле Чмончык. Ён шчасліва абмінуў дратаваную перашкоду, выраўняў машыну ды пёр сабе далей. – І мы ведаем, куды едзем, і мы знаем, чаго хацім!.. А цяпер!.. Прышпіліцца ўсім, хто ёсць! – нечакана злосна азірнуўся ён на салон.

– У нас няма рамянёў... – запярэчылі яму некаторыя.

– Усё роўна прышпіліцца! – узравеў Касталей. – Канчатковы прыпынак – Марсіянская ўпадзіна! – як хвілю таму быў наліты злосцю, так цяпер закалотна рагатаў невядома ад чаго ўпацелы кіроўца.

Пасажыры зноў замаўчалі.

– Трэба спыняць гэтую музкамедыю, – нечакана зашаптаў на вуха суседу мужчына ў сіне-чырвонай спартовай шапачцы.

Танклявы сусед зірнуў на яго з недаверам.

– І я ведаю як, – працягваў спартовец. – Толькі адзін не змагу...

Гэтым разам сусед пасунуўся крыху бліжэй.

– План просты, – спартовец зладзеявата паказаў з кішэні маленькі сцізорык. – Як толькі кінуся ззаду яму на шыю, бі сцізорыкам па руках! Ён выпусціць руль, але мне хопіць. А далей пабачым...

– Нічога сабе план, – прамычаў сусед спартоўца. – Не атрымаецца.

– Ты давай, як кінуся – бі! – не губляў рашучасці спартовец.

– Ну, не ведаю... – лядашчы суседзік не паспеў нават скеміць, калі ў ягонай руцэ апынуўся сцізорык.

– На “раз”, – зноў шапатнуў мужчызна ў куртатай шапачцы і ўскочыў зь месца. – Раз! Х-га!..

Ён абцужна абхапіў Чмончыкавую шыю; і ў той жа момант танклявы сусед з усяго размаху ўсадзіў сцізорык у плячук спартоўца.

– Падла! – пузырачы сліну, вымавіў пільны сусед, які не паддаўся на падспудныя ўгаворы. – Хацеў парушыць нам ездаванне!..

– Вось гэта па-нашаму! – рагатнуў Чмончык, і было невядома, ці то ён з самага пачатку ўважліва назіраў за ўсімі змоўніцкімі падзеямі, ці то адразу зразумеў сітуацыю.

Ён сцепануў плячыма, развярнуўся на сваім вадзіцельскім сядзенні ды, скарыстаўшыся замінкаю са сцізорыкам, ужо сам трымаў шыю спартоўца.

Маршрутка з хуткасцю сто дваццаць кіламетраў у гадзіну нейкі час сама ляцела па вуліцы.

– Калі яму ў вока.

– Што?.. – як быццам не зразумеў лядашчы ўтыкальнік сцізорыка.

– У вока, сказаў! А інакш уваткнём табе. А ты што, памочнік? Кантралюй сітуацыю!

Першы памочнік Чмончыка, які румзаў на плячы бабуленцыі, неахвоць страпянуўся, паляпаў па тыльным баку далоні манціроўкаю:

– А!.. Ну так, у вока. Само сабою.

– Не само сабою, а кантралюй! – Чмончык сплюнуў, піхнуў спартоўца ў рукі бычыны, а сам зноў пляхнуўся на месца вадзілы.

– Кантралюю. Калі!.. – ужо чэпка трымаў спартоўца бычына.

І танклявы пасажыр укалоў. Сцізорыкам. Проста ў левае вока спартоўцу. Той закрычаў, узвыў, аднак нават не паспеў схапіцца за пырснулае крывёю вока. Паколькі лядашчы “змовец” шварганўў яму сцізоркам у другое. Твар спартоўца заліўся крывёю. Ён ужо не крычаў, а вішчэў, усе іншыя пасажыры зноў маўчалі, а Чмончык радасна рагатаў. З магнітолы па-ранейшаму несліся зыкі пра вольную радзіму – бронь, агонь і чыгуннападшыпнікавы завод, а маршрутка №8 перла па ўскраінах вялікага горада, шчасліва абмінуўшы ўсе дратавана-аператыўныя “Перахваты”.

Наперадзе паказаўся выезд з горада. Хуткасць маршруткі дасягала межаў апошніх рэсурсных магчымасцяў рухавіка, а ў рогаце Чмончыка загучалі праўдзівыя ноткі шчасця.

* * *

І раптам гэныя ноткі абарваліся гэтак жа раптоўна, як і ўзвыўна-разрыўнае ляскатанне матору. Маршрутка чвэхнула, пад капотам некалькі разоў нешта покнула, яна, аціхлая, пракацілася яшчэ метраў сорак і нерухома стала. Косцік скрыгатнуў крывымі зубамі, рабром далоні рэзануў па клаксоне. У пералеску за горадам ва ўсе бакі кінуліся пераляканыя вароны.

– Паліва, маць, паліва! Вось табе тэатр і кукуруза! – гарлаў, б’ючы ды траплючы то ў руль, то ў сігнал, упацелы кіроўца.

– І праўда, тэатр... – выдыхнуў нехта ў маршрутцы.

– Што, слова далі? – раптам ашчэрыўся Чмончык. – А то вылазь! Усе, канкрэтным табарам! Давай, – зірканўў ён на памочніка. – Ты першы. І кантралюй сітуацыю, я сказаў! Каб не беглі ў пампасы і горна-алтайскую паласу!..

Бамбіза пацягнуў дзверы, першы амаль выпаў з маршруткі. За ім бобам пасыпаліся астатнія. Аслепленага маладзёна, трымаючы за локці, вывела тая самая старуленцыя, на плячы якой раней румзаў падмануты Касцеем дзяцюк. Гэтым разам за ўсімі выплюхнуўся і Чмончык.

– Так. Так! А во так! – камандаваў ён, расстаўляючы людзей наперадзе маршртукі. – Што стаіш? Я сказаў: кантралюй! – пацягнуў ён за руку бычыну і паставіў наперадзе ўсіх. Але, змерыўшы поглядам шэрагі, перайграў сітуацыю ды вышмаргнуў з невялічкага натоўпу старуленцыю, ставячы яе на месца бамбізы. – Ідзі сюды! – зноў гарлаў яму Чмончык. – Трымай вяроўкі! Круці педалі, каб ведалі!..

– Што ведалі? – не зразумеў бычына, перабіраючы жмут вяровак.

– Куды ляцець, каб ведалі. Я ж сказаў! Вяжы!

– Што?.. – першы памочнік тупа разглядваў вяроўкі.

– От, самакат! – выхапіў адну вяроўчыну з ягоных рук кіроўца і сам першы пачаў прывязваць пару пасажыраў да передка маршруткі. – Ясна цяпер?

– Ясна... – бычына таксама кінуўся зьвязваць паміж сабой ды прывязваць людзей да пераду “Газелі”. – Ну, о так!..

– А калі так, то... – Чмончык акінуў паглядам людскую звязку. – Не, мамаша! Вы назад!

Ён, адвязаўшы бабульку, зноў пацягнуў яе, гэтым разам ужо ў сярэдзіну. А наперад, зіркаючы на ўсіх пустым вокам, паставіў аслепленага хлапака і нават вярнуў яму акрываўлены ўласны сцізорык.

– Будзеш прарэзваць дарогу! – рагатнуў ён. І раптам узвіўся высачэзна-пагрозным голасам: – Значыць, так! Вольны маршрут нумар восем абвяшчаецца ў далейшы працяг! А паколькі канчатковы прыпынак – Марсіянская ўпадзіна! – далей торым пераход на лётную цягу, і кожнаму з вас даецца такое права! Узлятаем... па маёй камандзе! Пакуль я не сеў на месца кіроўцы – нікуды ніхто не ляціць!

Чмончык хацеў яшчэ нешта сказаць, але толькі сплюнуў на брудны бот і хутка пашпаньдзёрыў да кабіны. Вось і ягонае звычнае месца. Вось рот зноў разадраў паветра:

– Увага! На старт! Працуем, працуем! Палёт у штатным рэжыме! Першая турбіна – пайшла!..

Людзі напяліся, схапіліся за вяроўкі, адарвалі цяжэзную “Газеліну” з месца. Спачатку пайшлі маруднымі-маруднымі крокамі, а потым пабеглі ўсё хутчэй, з кожнай хвілінай развіваючы нечалавечую хуткасць. Такую ж хуткасць развіла й маршрутка. У кабіне Косцік зноў урубіў магнітолу, якая гэтым разам лірычна спявала “Ластаўкі, мілыя, адлятаючы ў вырай, Ластаўкі, мілыя, не губляйце красы!..”

– А то хутчэй, турбалётная палётная каманда! – спрабаваў свістаць Косцік, але толькі сіпавата пускаў чарговага пузыра з рота. – Мігалкі!.. Шасі!.. Сцізорыкі! Ягорыкі!.. А-у, на ўзлёт!

Людзі, між тым, беглі хутчэй любое гоначнае машыны. Гэта немагчыма было ўявіць, прадставіць, але гэта было, было на самой справе. І яны беглі, рабілі шаленскія, дзікія, неабмерныя крокі, аж пакуль не адарваліся-такі ад зямлі ды ўзмахваючы рукамі, нагамі як крыламі, не паляцелі, забіраючыся ўсё вышай і вышай. І хоць людзі трацілі апошнія сілы, яны ўсё роўна ляцелі, усё роўна ўгрызаліся ў неабсяжнае сінае неба, у кожную белую аблачыну.

І матлялася ззаду сабачым хвастом маршрутка № 8, і сядзеў у кабіне задаволены Чмончык Касташ, які адзіны дакладна ведаў, што з такой вернай камандай ён даляціць па-любому і нават хутчэй, чым магло яму здацца спачатку.

*Люты, сакавік 2012 г., м. Кобрынь*



Ігар Кананoвіч



...разумееце, верш завітаў
да мяне нечакана...

# Я замалю твае грахі...

### *АСТЭРОІД*

Хай вабяць зноў магутных зорак галасы –
Не даспадобы мне сістэм трывалых межы.
Я – астэроід. Я – Сусвету блудны сын.
Я ў вечным пошуку. Жыву, а не залежу...

Непадуладная фантазіі краса
Перада мной. Майго жыцця святая мэта.
Я – астэроід. Валацуга і карсар.
І можа, толькі геніяльная камета

Мяне прымусіла б нядоўга паслужыць.
Але парушыцца чарговая прысяга...
Я – астэроід. Я інакш не ўмею жыць.
І гімнам вольнаму – нянавісць і павага...

Я – астэроід. Незалежны, моцны рух.
Я – скамянелая энергія палёту.

І, гравітацыі чужой парваўшы круг,
Ператвараюся ў свабоды вечнай ноту...

### ТЛУМАЧЭННЕ Ў КАБІНЕЦЕ ДЫРЭКТАРА

Разумееце, верш завітаў да мяне нечакана.
Павітаўся радком, запытаў: “Як, нябога, жывеш?”
І тады я адсунуў падручнікі, сшыткі і планы:
Служба службай, а творчасць, вядома, найперш...

І затаньчыў аловак, як п’яны мужык на вяселлі!
Боль, прыгожы і лёгкі, прадаў мае тайны за грош!
Як на провадзе птушкі, вясновыя літары селі
І шчабечуць на сонца: маўляў, каб і заўтра – не горш!

...Адпусціў я сябе (а які чалавек без заганы?).
Пакарайце, Сан Саныч, парушыў службовы статут.
Разумею: у школе галоўнае – выгляд і планы.
Ды не гэта запомняць... Вымова? Распісвацца тут?..

## Прадмовы і пасляслоўі кахання

### ГАЛОЎНАЕ ЗАДАННЕ

Цяпер маё галоўнае заданне –
Не мераць свет у пошуках карысці,
А выйграць гэту бітву за Каханне –
Цябе забраць у Неглыбокіх Ісцін...

### МЕНШ, ЧЫМ АДЗІН

Адступаюць астатнія мары.
Забываюся раптам на іх.
Не хапае цябе і гітары –
Дзвюх такіх для мяне дарагіх!

Я сумую, прыгожа і светла,
На маўклівай сцяжыне гадзін,
Зразумеўшы пад песні паўночнага ветру,
Што без кожнай з вас – менш, чым адзін...

### СМЕЛАЕ АБЯЦАННЕ

Я замалю твае грахі
Выдатным паэтычным сола.
І слову столькі дам вагі,
Што нават гук часціцы кволы

Набудзе гонар, глыбіню,
Набудзе бляск і хваляванне.
Малітву страшна разганю
І звод нябёсаў пратараню!

...Яе падхопяць, панясуць
Анёлы, здзіўленыя крыху,
На Міласэрны Божы Суд.
І век, ачышчаны ад ліха,

Аддам табе: "Ну вось – трымай!"
"Адкуль?!" – спытаеш палахліва.
Скажу: "Дзе ўзяў, там больш няма.
Я заплаціў. Красуй шчасліва!.."

### *ПАТРАБАВАННЕ*

Чаго ты, любая, скажы?
Зноў дапякаюць успаміны?
Зноў ажываюць міражы,
Што дзень бязлітасны пакінуў?

Пабудзь са мной, загавары.
Слязінку адпусці на волю.
З табою мы, найперш, сябры:
Дзяліся – патрабую долю!

### *ТЭАРЭМА*

Чым ты станеш, пачуццяў сума?
Зноў маячыць адмоўны лік...
Без увагі пяшчотнай – сумна.
Сам – спакойны. А ў песнях – крык...

Тэарэма Кахання стыне.
Але гэта не абміне...
Зноў лірычныя велічыні
Разбягаюцца ад мяне...

### *ТРЫ ГАДЫ*

Тры гады: ты ёсць, але няма.
Тры гады вясна ламае крылы.
Тры гады: зіма! зіма! зіма!
Тры гады: надзей маіх магілы...
Тры гады: няўжо, самападман?
Тры гады: душой, прынамсі, верны...
Тры гады: манеўры і таран.
Тры гады – прысуд неміласэрны!..

Марына Яўсейчык



...не цемра, дык святло

засціць вочы мае...

# Казкі лесу

## Казка пра бабцю і ручай

Бабця ваду набірала, Бабця дзетак гадавала. А што рабіць з тымі дзеткамі, калі яны вырастуць? Пра гэта маці ёй не казала. Пагаравала Бабця ды пайшла да Ручая раіцца. Ваду з яго брала, а ў замен нічога не давала. Забылася і з сабою ўзяць. У дарогу забылася ўзяць. Падарунак для Ручая. Хоць бы посцілку якую... Але ўжо далёка дом, далёка гарод. Чужое поле, каласы... Бабця нарэшце войкнула, патраціўшы апошнія сілы, ды прыпала да вады. Прыпала голасна, услых. І ўпала ў яе нутро, калі захадзілася вада на дне. Вада з дна падымацца пачала. А пад Бабцяй зямля ўскалыхнулася.

– Бабця, піць дай, – просіць Ручай.

– Як жа цябе напаю? – здзівілася старая, – калі сама ў цябе ваду бяру.

– А ты сваёю вадой ажыві мяне.

– Дзе ж яе я вазьму?

– Ідзі назад. Праз чыстае поле, праз чужое поле. Праз густы лес, праз чужы лес. Патрапіш у родныя раздоллі. Трапіш да сябе дадому. Спачатку ў гарод, а пасля і ў дом

свой. Зойдзеш у свіран – там хлеб. Зойдзеш у сенцы – там кветкі на стале. А ў хаце! А ў хаце на лаве спіць малое дзіцятка. Прынясі ты яго да мяне.

– Ручай, а Ручай? Навошта табе чужое дзіцятка?

– Выручай, старая, выручай, я ж цябе вадой частую...

Зразумела тады Бабця! Зразумела, што няпростае ў яе дзіцятка. Што дзіцятка тое, нібыта залаты колас у жмені. Жыццядайная сіла ў коласе тым. Так і дзіцятка – жывое яно і жыве. Дыхае і ёй, старой, кісларод дае. Мацуе яе.

– Э, не, Ручай, пайду я ад цябе, – сказала Бабця.

– Піць дай! Піць дай! – пачула старая голас у адказ.

Прыляцелі птушкі-піліпаўкі, закрычалі. У строй пасталі. Бабцю не пускаюць дахаты. Стой! – крычаць. Стой! А то страляць будзем. І дасталі з крылаў сваіх пёры. А пёры вострыя. Як рыба-меч. У іх птушыным строі адна галеча някормленая. Але Ручай іх поіць. Поіць сабою. Таму і сам да піцця ахвочы. Ад смагі ажно вытарачыў вочы ды на Бабцю паглядае. Хвалі свае на старую пасылае.

– Бач ты, байструк які! Бач! І не баіцца...

Адхіснулася тады Бабця ад берага з вадою, ды хадою — назад. Бардзенька перастаўляе ногі. А зямля? А што зямля? Толькі травамі шапоча.

“Босая я. Ох, навошта босай выйшла я? Навошта выйшла з дому?” – думае Бабця. Думкі ў словы-малітвы складае.

Здагадалася Бабця руку ў фартух засунуць. У тым фартуху – палова жмені солі будзе. Узяла старая той солі, ды піліпаўкам сыпанула. Проста пад лапкі ўпала тая соль. “Зараз нешта будзе”, – думае Бабця.

– Пілі-пілі – не дапілі. Мы смагу наталілі толькі да ночы. А дзеўбанем солькі – есці перахочам. Во дык Бабця! Як здзівіла нас! – і піліпаўкі кінуліся ўроссып. Іх цяпер не сабраць – як крупінкі солі.

А Бабця подбегам-подбегам – ды назад. Назад дадому. Піліпаўкі наеліся солі ды піць захацелі.

– Піць, піць дай нам! – крычаць піліпаўкі тыя.

А старая пачала ўцякаць ад іх яшчэ шпарчэй.

– Пілі-пілі, не дапілі. Елі-елі – піць ізноў мы захацелі.

Скінулі піліпаўкі пёры свае разам з крыламі, і як ёсць — пабеглі да вады, у Ручай. Пабеглі з лямантам на ўсё наваколле:

– Піць! Піць! Піць нам дай!

Ох, піліпаўкі! Ох, нарабілі! Рачныя віры лапкамі сваімі таптаць пачалі. Дзюбамі сваімі ваду з Ручая хапаць пачалі. Так хапаць, нібы ніколі не бачылі.

– Піць! Піць! – чуе Бабця здалёк.

А сама ўжо бяжыць. Так бяжыць, што аж пад нагамі яе пясок стагнаць пачаў.

– Хопіць мяне нагамі сваімі біць, Бабця, – скардзіцца пясок.

Азірнулася старая, бег прыпыніла. У бок Ручая глядзіць. А Ручай прапаў! Няма Ручая. Замест яго ўтварылася гнілая затока. Піліпаўкі выпілі ўсю ваду з ручая, бо іх смага была нават большай за раку. А ручай і рака – што тут параўноўваць...

Падумала Бабця пра дом, як і квортка перад ёю з’явілася. Увайшла ў агарод. Аглядзелася.

– Нішто сабе! – здзівілася Бабця. У агародзе тым, каля хаты, пад акном сенцаў, калодзеж пабудаваны. Ды які! Чырвонай фарбай распісаны. Побач з калодзежам тым стаіць яе дзіцятка.

– Маці! Маці! Матуля! – кліча яе сын.

– Ох, маё ты дзіцятка, – кінулася да сына свайго сівая матка. – Ключык ты мой залаты!

– Не бядуй ты, маці! Вырас сын! Вышынёй з лесвіцу на палаці.

“А і праўда!”, – думае Бабця, – што за дзіва дзіўнае?! Адужэў хлопчык. Дзіцё стала мужчынам”.

Здагадалася тады Бабця, што дзеці яе – Боская сіла. Што ў дзецях яе сіла.

– А што ж рабіць мне з дарослым сынам, калі дачка яшчэ малая? – запытала Бабця, калі ваду з калодзежа брала. А ў каго запытала, таго і сама не знае.

*19 жніўня 2012 г., Чыркавічы.*

## Казка пра Гарбузку

Гарбузка – вясковая знічка. Не ўпала яна на зямлю. Але пакацілася па градах. Даганяла яе. Падперла пальцамі з чырвоным, у блёстках, з педзікюрам. “Эгей, касацік! Мая любімая! Ты так спрытна коцішся, уцякаеш, што, каб прыпыніць цябе, мне давялося разуцца. Давялося пазбавіцца абутку. А зараз і куртку здыму: горача стала. Гарбузка мая – сонейка маё. То застанься ў маім гародзе. Цябе добра гадую: кармлю, чыстай вадою паю, каб расла ўшыр мая Гарбузка. А ты коцішся, як непаслухмяны блінец. Коцішся з дому. А навошта? Восень набліжаецца. Халадэча чакае цябе на вясковых дарогах. А так у хату схаваемся разам. Пасаджу цябе ў кут, пад абраз. Мая дарагая Гарбузка, не аддам, не прадам цябе я нікому”.

Адпусціла нагу, паставіла яе на зямлю. Чырвоны педзікюр стаў сімвалам жыцця: кроў у цемры. Гарбузка сціпла хіснулася: туды-сюды, туды-сюды, назад-наперад, назад-наперад, як цягнік, які прыпыніўся, але не да канца: раптам трэба будзе ірвануць?! Чакае... Так і Гарбузка.

Я пакрочыла па зямлі ў бок дома. Туп-туп: чырвоны лак на пазногцях пачаў выгараць. Я здзівілася: як так. А як так? І ў вачах стала светла-светла, быццам бы пераход у іншасвет. А дзе тады лесвіца, якую Пан Бог скідвае з неба? Не бачу яе. А па чутках, павінна быць...

Мая Гарбузка! Успомніла, подбегам кінулася да яе. Не бачу. Нічога не бачу. Дзе я? Дзе мы? Светла кругом. Прастора звузілася, стала падобна да шапіка “Белсаюздруку”. Хто гэта? Чараўнік? Дзе ты? Паказаўся і прапаў. Крычу, клічу. Пытаюся. Ніхто нават не муркне ў адказ. А дзе мая Гарбузка? Дзе мая сонечная Гарбузка, якая ў кут пад абраз сядзе? Я з надзеяй пачала мацаць прастору. З жалем пачала шукаць тое, што павінна ў хаце пустое месца заняць. Сваё ж месца – не чужое. А шкада... Так шкада Гарбузку мне... Во бяда! Ну і бяда! Не цемра, дык святло засціць вочы мае. І зямля ж не расступіцца. І хмары не сыдуць дажджом на зямлю, на якой стаяць ногі мае з яркай чырванню педзікюра.

“Плі!” – голас сэрца пачула, і здарыўся выбух. Раптоўна ўсё прапала. І ногі мае апынуліся сярод агарода. І вочы мае ўбачылі восень, хоць было яшчэ лета. Самы яго канец. Калі можна збіраць агрэст і размаўляць з матуляй пра школу, седзячы на ганку. А дзе Гарбузка? Сэрца маё затахкала. Сэрца маё загадала глядзець у правы бок. У левы бок. І перад сабою. І ляжала мая Гарбузка голая! Справа ад мяне ляжала. Нутро яе разарвала. Так і памерла Гарбузка ад сілы тае, што ўнутры сябе трымала. Ад сваёй

сілы і памерла. Кавалкі і кавалачкі нутра яе. Маленькія і маленечкія... Ляжалі перада мною. І не сабраць іх. І ў жменю не пакласці іх.

А з левага боку? А з левага боку, што там? Насенне парассыпана. Пакінула мая Гарбузка напамін пра сябе. Але ж што рабіць мне? Трэба, мусіць, пакінуць усё гэтае дабро на зямлі. Бо не ведаю я, што далей са мной будзе, калі малое зерне ды такую магутную сілу мае, то пра што казаць тады, калі зерне прарасце і сіла тая на ногі свае стане... А не хочацца мне пасля за дабром сваім бегаць, якое расціла-даглядала, а тое ўзяло, ды збегчы захацела.

З пустым кутам што? Таксама ведаю! Сама сяду! Тое месца маё! Здараецца ж так, што замест жаніха нявеста першай сядае за стол. То пасяжу пакуль адна. А на наступны год... А на наступны год пасаджу гарод. Новы пасажу гарод. Замест Гарбузкі – Гарбуза. Каб быў мужчынскі род.

*19 жніўня 2012 г., Чыркавічы.*

## Казкі лесу

*Прысвячаецца Каралю Вітаўту*

Чуткі пра цябе складаюцца. Чуткі плятуцца з быльнягу, з пустыру, з пракляццяў розных. Крапівай яны колюцца ў руку, якая хоча шчасця прыдбаць на сваім полі жыцця. Ты хочаш адзець на палец сабе пярсцёнак з цноты. Сабе на палец. Але ведай: то ж сум твой. То ж караван слёз, які мінаюць тыя, хто ідуць побач з табой. А ты ў караван той і трапляеш. Чуткі, плёткі пра цябе ўюцца. Твая дарагая складае іх так, быццам праўду піша апантана. Для іх, для тых... Яны, тыя, пацукамі ў метро бегаюць, здзекваюцца над... Моляцца машыністу цягніка, каб не збіў іх – забойстваў і так шмат у краіне, дзе ты жывеш. Кантроль. Над табой. У пару восені. У лістападзе. Ёсць намер мяне страціць. Выпіхнуць. Дзверы зачыніць. Куды выпіхваць? За межы памяці тваёй не ідзе дарога. Толькі чутно, як плятуцца чуткі наўздагон. Хто пляце іх у калоссе рук тваіх? Хто нагадвае табе пра слабасць і нікчэмнасць тваіх уласных зрухаў? Гэта не я. Гэта пішчыць мышкай мне на вуха твая дарагая. Яна пляце павуцінне. Глядзі, хутка накіне павуту на цябе. Не ўцячэш, бо мяне выпіхнуў за дзверы. І зачыніў іх. Шчыльненька. Каб ніводная мышка-нарушка не пралезла на тваю тэрыторыю. І застаўся адзін. У хаўрусе з павучыхаю. Пярсцёнак са слоты. Пярсцёнак прывіда на пальцы левай рукі. Не быць табе шчасліваму, бо згубіў ты ключык ад дзвярэй зачыненых. Мне ў іх не ўвайсці. І табе з дому не выбрацца. А ці ёсць дом той?

На гары. Пустыр. Толькі падумрак месціцца. Манастыр прывідаў. Наўкол – гушчары. Гнілыя. Але ж у святліцах жывеш. Кашамі золата носіш. Песціш дарагую сваю, якой давяраеш. Насамрэч, у доме тваім падлога прагшіўшая. Не золата ў кашах тваіх, а кукіш! Замест дарагой дзяўчыны вядзьмарка сядзіць. Шэпча ў вуха твае слова мёртвае. Свеціць у вочы твае ноччу цёмнаю. Грэе цела твае скілетам мёртвай жанчыны, якой не было ў тваёй гісторыі. Пярсцёнак на руцэ тваёй – разбуральнай сілы цёмнай. Крадзе. Крадзе яна тваю маёмасць духоўную. Адзін ты. Адзін. Ні жывы, ні мёртвы. Спіш па жыцці. Пярсцёнак з цноты. Пярсцёнак заляцальны скінь з рукі. Скінь яго! Сам скінь з сваёй рукі. Жаніх. І нявеста побач. Сведкі – пачвары з нябыту. Кароль ты. Я – твая Каралева. Не побач мы.

Зніклі зачыненыя дзверы. Музыка вясельная жалобнай становіцца. Дзе ж вочы твае? Каго бярэш за жонку?! Дзе ж вочы твае? Хто побач з табою крочыць?! Нясеш. Праўду сваю нясеш: нявесту чорную. Дарагая твая. Родная. Вядзьмарка твая. Ты ж не ведаеш. Верыць не хочаш. Мяне. Бо прагнаў. З дарогі сваёй жыццёвай.

Жнейкай прыйду да Коласа. За амаль мёртвым Коласам. То ты ляжаць будзеш у жарстве. Побач хібара вырасце з гнілля. Збяднелы. Скалечаны. Душу трэба лячыць... Вусны твае абветраныя. Рукі, як у нябожчыка: цеплыні, імпэту няма ў іх. На зямлі ляжыш. На мёртвай, халоднай зямлі. Іней – твая труна. Марозік цела тваё ператварыў у камень – яго не падняць. Не просіш. Не думаеш. Не глядзіш. Падняць галаву не можаш – Колас вырвалі. На жарстве ён ляжыць...

Пярсцёнак выкінуў. Цноту сваю забыў. Але ж і мяне дрэнна помніш ты. На мяжы. Межы гэтыя маюць здольнасць сціскацца і пашырацца, як энергіі. Твае і мае. Унутраныя. Вяртаю цябе. Жыві! На ўсходзе сонечным. На досвітку. Калі палоска цёмная, а побач ружовая. Вочы расплюшчыў ты. Неба зайграла музыку. Адчуняў. Стала табе лягчэй. Злыдні ўсе, пачвары — зніклі. Не будзе іх. Дарагая твая найміткай стала ў валадара цёмных земляў. У ланцугі. У ланцугі яе закавалі. Закавалі яе ў багну цёмную-цёмную. У багну бяздонную-бяздонную – далей ад чортавых вачэй. Закон прыроды лёгкі: зло памрэ ад рукі варожай. Ад рукі сваёй жа. Хто варагаў мае? Толькі той, хто вайною на людзей ходзіць. Ты ж не просты. Ты – Кароль. Хто зуб на цябе точыць, той кроў пусціць сваю. Недатыкальнасць – ёсць такое паняцце. Калі межы дазволенага пачынаюць пашырацца.

Блакіт неба — за цябе, языкі агню — за цябе, чыстага паветра глыток — за цябе, вада ў расе — за цябе, зямля, на якой ляжыш — за цябе. За цябе ўсе твае заступнікі. За цябе! Сілы. Большыя. Значныя. Важныя. Да жыцця здольныя. Бяруць на сябе адказнасць выратоўваць.

Колас любы! Колас прыгожы! Узнімі галоўку сваю. Мне не трэба выдумляць-прыдумваць, як шчыра цябе люблю. Чакаюць цябе людзі. Нямёртвыя. Тыя, у вуснах чыіх жыццё. Разам цябе выратоўваем. Вочы расплюшчвай! Мітусні больш не будзе ніколі. Падман знікне як начныя здані, што пужалі, што да сябе клікалі. Збіў іх з ног. Упалі. Падняцца сіл не маюць. Жанчына твая дарагая каменнем стала, над багнай вісіць у ланцугах. Прах цела яе развеены. На узгорках, на гарах, дзе нага чалавека не пройдзе, дзе дух яго не знойдзе гэты прах. Балюча. Вядома. Сканала твая мара на сямі вятрах.

У мурах тваёй падсвядомасці хтосьці вогнішча расклаў. Светлыя думкі ў тваёй пустой галаве пачалі з'яўляцца. Мроіцца ім Вясна. Не думай кепска. Жабраком можа кожны стаць. Ты ж узбагаціўся надзеяй на лепшае. Успамінаць пачаў. Словы першыя: дабрабыт, агмень, маці, ты... То не чуткі. То думкі Твае. Твае ўласныя. Пра нас абоіх. Ты Кароль. Я – Твая Каралева. Карона Твая на маёй галаве. Усё наваколле просіць, каб паўстаў Ты. Каб паўстаў...

Рушыць войска светлае. На перамогу Тваю. Ваяр Света, новы віток у Тваім жыцці. Планета чакае Твайго ўзыходжання. Каб войска Твае разагнала зубастых пацукоў тых. Што хаваюцца. У метро. Пад чужымі лаўкамі. На лаўках вартуюць. Выслухоўваюць. Чакаюць. Палююць. Жаданне адно – зрабіць як мага болей зла. Галовы ім паадсякай! Кроў іхнюю аддай злодзею-чалавеку, які спарадзіў іх, ды на зямлю пусціў ніткай чорнаю.

З павучынага царства ён, дзе плёткамі абрастаюць думы светлыя, думы прыгожыя. Дзе лухта тралялёначкай у танцы варожым. Не глядзі на іх, не глядзі!

Ты – Кароль, я – Твая Каралева. Сцяг свабоды ўзнімецца. Над жывымі. Над мёртвымі. Над ворагам Тваім, над ворагам маім, над ворагам народа Нашага – толькі воблака з крыві варожай. Хто зло спарадзіў, хто зло на свет пусціў – той сам ад яго і загіне. Прыдуманае, сплеценае з павуціны чутак і плётак, вернецца свайму гаспадару. Ды з большай сілай! Гэта Закон Сусвету.

Паўстаў мой Кароль. Я – Твая Каралева.

*23 кастрычніка 2011 г., Мінск.*

## Аповед пра тое, як зорная дзяўчына палюбіла звычайнага мужчыну

Свой. Свая. Свае. Сваё. Адкрые Неба таямніцу мне, калі пакліча да сябе і паказак раскажа.

– Глядзі, табе я адкрываюся! Ты, нібыта Чыстая Дзева, што з Нябёсаў, ды па зямлі блукае. Ці хараша табе? Ці весела табе, тут, на траве сядзець? Чакаць, глядзець у бок дамоўкі, якая так цябе кліча? – пытае ў мяне адна з зорак, што мігі добрыя дае майму праваму воку.

– Каханага чакаю, – адказ свой просты і ясны ў цішыні, што перад самым раннем, небу прашаптала я. Здаецца, там пачулі. Расступіліся хмары. І стужкі белыя зайгралі ў Небе. Поўня засвяцілася. Уразіўся Сусвет такой навіной, што зорная дзяўчына палюбіла. Ды каго! Звычайнага мужчыну.

– Ён Кароль, – дадала ўголас. І Нябёсы раптоўна пачалі збіраць свае белыя ніткі ў сонечныя прамяні, якія параскідалі сярод зор. Збіраць, і вязаць пачалі. У пацеркі. Рыхтуюць падарунак.

Уразіўся Сусвет. То дзіва дзіўнае! Гісторыя свой шлях змяніла: павярнула ізноў наперад. Мінулы час раптоўна стаў цяперашнім. І нізкі шляху паглыбляцца сталі ў Небе. Там глыбіня. У іх глыбока так!

– Ах ты наша перлінка! – пачуўся там адказ. – Каралёў зямных нямнога. Ці сапраўдны ён Кароль?

– Ён Кароль-Сонца.

Раптам усхадзіўся вецер. Забляскала ў далечыні. Поўня забрала свае хвалі колераў з Нябёсаў. Уразілася Неба. Заспявала. Загаварылі травы.

– Ласкавая ты з ім, – пачуўся голас з Неба. – Але чаму не побач ты з каханым чалавекам? Чаму не ідзеш, чакаеш?

– Ён правадыр! Вядзе падмогу па гарах, па камянях. Шукае ён калодзеж сярод трэшчын у скалах, сярод чужых прастораў. Знойдзе ваду – нап’ецца сам і армію саю напоіць. І ўзмужаюць! Вернецца на галаву карона, і мудрасць векавая каменьчыкам зайграе ў кароне той. Тады – свабода! На родную зямлю ён прынясе золата, што ў далонях сваіх трымае. І рассыпле. І ўпадзе яно. І возьмуць яго травы. І прыме яго зямля. І ўрадлівай стане глеба. І забуяюць пасевы. Бо ўпадуць з яго далоні Ключы Залатыя. Ключы Залатыя ад Неба. Адкрыецца яму. Не яму аднаму. Не мне адной. Адкрыецца Неба!

Уразіўся Сусвет.

– Як хараша гаворыш! Цябе мы любім,– пачулася з вяршынь.

– Хто вы?

– Духі. Зямлі. І неба.

Сабакі забрахалі. Дрэвы загаманілі сваімі верхавінамі. Травы заварушыліся, калі пачулі.

– Што вам трэба? – пытаюся.

– Хочам табе дапамагчы.

– Не трэба. Дапамогай будзе мне Кароль.

Уразіўся Сусвет. Змоўкла ўсё. І танец у Небе. Месяц раптоўна змяніў сваю белізну на жоўценькі, нібыта сонечны пясочак, колер. Віры захадзіліся ў Небе. Пазакручваліся светлыя істужкі. З'явілася Птушка. Нібыта журавель. Расправіла крылы на ўсе Нябёсы. Ды так, што пёры раптам сталі замінаць Нябёсам – цесна ім. Цесна ім трымаць такую Птушку. І пасыпаліся тыя пёры! Ды закружыліся. Ды ўпалі каля маіх ног. І прапанаваў Сусвет:

– Бяры! То вялікая радасць. То вялікае шчасце каля ног тваіх ляжыць. Радасць твая, шчасце тваё ў вяртанні твайго Караля. Птушка, што пакідала пёры свае – для цябе адной прыляцела здалёк. То прывітанне Табе ад Яго. Ведай, звычайны мужчына ўжо стаў тваім Каралём! І карона вярнулася на яго галаву.

*8 жніўня 2012 г., Чыркавічы.*

## Табе маё прызнанне

Я буду вітацца з табою ўраніцу. Я буду вітацца з табою надвячоркам. Калі сонца закрочыць. Крокам упэўненым. Крокам вясёлым. І сыдзе тады на тваю галаву вясёлка. Я паеду за ёй у поле. Назбіраю жменю спелых каласоў. Жнівень і раздолле, спевы з вёскі, калі хрэсьбіны малога. Падыму тады сваю далоньку. Абсыплю вясёлку хлебам. Дасць яна святла Гасподняга на тваю галаву. То падарунак. Частуйся ім. Але мне пакінь маленькую кропельку. Нібы дажджавую маленькую кропельку, якая будзе для нас вясельнай радасцю – тваім-маім заручальным пярсцёнкам. Пярсцёнак той нарадзіўся ў гары. Дзе нараджае Неба духаў зямлі. Дзе ногі твае тапталі камяні ў далёкай прыгожай краіне. Дзе вочы твае свяціліся пекным агнём. Агнём такім валодаюць хіба што Богі! Пажывем удвух. Нібыта два каласы на ўсё пустое поле. Будзем толькі я і ты. Будзем на раздоллі. На прыродзе. Удваіх. Чакаць. Пакуль сэрца тваё пачне шаптаць табе словы з сілай тых вятроў, якія песцілі шчокі твае, калі ты быў у сваіх далёкіх гарах. Чакаць, пакуль сілы твае абудзяцца ізноў. Зажывем. Зажывем тады як явар з калінаю – светлаю парай у райскім садзе тваім, што ты адбудуеш рукою сваёй. Для сябе. Для мяне. Для нас дваіх. Вяртайся з гор.

Эге-гей! Вясёлка свеціцца ў полі! Накармлю яе са сваёй далонькі. Эй, Неба, трымай! У другі раз сыплю ўгару жменю каласоў. І ўпалі тады яны на маю галаву. І рассыпалася золата з вяршынь. Золата вяршынь ды каля маіх ног. Збіраю. Святыя жалуды. Іх мора. Столькі, што спатрэбіцца кошык, каб сабраць іх. То шчасцейка нам у дарогу! З гор тваіх шчасце – ды ў мае ногі. Нібыта абдымаю цябе, калі жалуды збіраю. Рыхтуюся і я ў светлую тваю дарогу. У светлую нашу дарогу. Эй, вясёлка, колераў у цябе многа. Свяці-свяці. Ды падсвяці горную тую дарогу, каб лёгкай яна была. Бо ідзе па ёй. Бо ідзе каханы мой чалавек.

*12 жніўня 2012 г., Чыркавічы*



## Эўрыпід



...шлях, нам няведамы,
богі знаходзяць...

# Бакханкі

*Публікацыя Алеся ЖЛУТКІ, падрыхтоўка тэксту і каментара да публікацыі Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.*

### ПРАДМОВА ДА ПУБЛІКАЦЫІ

Увазе чытачоў прапануецца важная літаратурная знаходка – пераклад "Бакханак" Эўрыпіда, зроблены ў легендарныя 20-я гады мінулага стагоддзя выдатным беларускім літарататарам і музыколагам Юльянам Дрэйзіным. Трагедыя славутага антычнага драматурга Эўрыпіда (каля 480-406 гг. да н.э.) "Бакханкі" (старагр. Βάκχαι) была перакладзена ім са старагрэцкай на беларускую мову каля 1926 года, але рукапіс перакладу да апошняга часу лічыўся страчаным. Нядаўна машынапісны асобнік гэтага тэксту быў выяўлены ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, кандыдатам філалагічных навук Алесем Жлуткам, які пры гэтай нагодзе выказвае глыбокую падзяку дырэктару названай установы спадарыні Ганне Запартыка за атрыманую магчымасць працы з ім.

**Рукапіс**. *Рукапіс (БДАМЛіМ, ф.401, воп.1, спр.9, арк. 1—61) у кардонавай вокладцы, абклеенай паперай, складаецца з 61 аркуша фармату А 4, з тэкстам, адбітым на адным баку аркуша (другі бок чысты) праз капірку фіялетавага колеру. Фаліяцыя цёмна-сінім алоўкам 1-56 у верхнім правым рагу аркушаў; побач справа фаліяцыя выпраўленая і працягнутая простым алоўкам 1-56, 57-61, паколькі парадак некаторых аркушаў пры пераплёце быў пераблытаны. Праўкі да тэксту – простым алоўкам. На тытульным аркушы чорным чарнілам: Эўрыпід | Бакханкі | Пераклад Ю. Дрэйзіна; у ніжнім левым рагу простым алоўкам*: С | пашлеце упаўна- | важанаму [Акр]Літу | і [Літэксперту] на азнаямленне | [МКр] 9. XII. [1926].

*Сам тэкст уяўляе сабою трэці або чацвёрты, выкананы пад капірку экзэмпляр, у якім не ўсё аднолькава лёгка паддаецца расчытанню. У дадатак, друкавальная машынка, на якой ён выкананы, відавочна не мела малых і вялікіх літар "ё" і "ў", а таксама ніякіх іншых знакаў прыпынку, акрамя коскі і кропкі, і ніякіх іншых відаў дужак, акрамя касых (/). Некаторыя словы ў машынапісным тэксце дапісаныя (відаць, рукою самога перакладчыка).*

**Перакладчык**. **Юльян Мікалаевіч Дрэйзін** [9 (21) чэрвеня 1879, Днепрапятроўск — 28 сакавіка 1942, Нямчынаўка, пад Масквою] — публіцыст, перакладчык, музыказнавец, педагог; аўтар першых музыказнаўчых даследаванняў у тагачаснай падсавецкай Беларусі. Пераклаў на беларускую мову шэраг твораў антычных аўтараў, з якіх асобным выданнем выйшла толькі «Антыгона» Сафокла (Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1926). Вядома больш за 800 яго перакладаў, звязаных з музыкай – тэкстаў шэдэўраў вакальнай музыкі, лібрэта опер і інш. Юльян Дрэйзін склаў апублікаваны ў серыі «Беларуская навуковая тэрміналёгія» слоўнік «Музычныя тэрміны» (гл. яго нядаўняе перавыданне: Беларуская навуковая тэрміналёгія. Кн.1. Мн.: Часопіс ARCHE, 2010. С. 387—420). У сярэдзіне 30-х гадоў жыццё ў Мінску, дзе вынішчаліся рэшткі нацыянальнай інтэлігенцыі, відавочна, зрабілася для Дрэйзіна невыносным, балазе і ягоны ранейшы творчы даробак у краіне, дзе адбывалася "трыумфальнае шэсце" сталінізму, мог яму прынесці адны непрыемнасьці... Апошнія гады Юльян Дрэйзін адпрацаваў на сціплай выкладчыцкай пасадзе ў Маскве, дзе і памёр у ваеннае ліхалецце.

**Тэкст**. Навуковая публікацыя той часткі багатага архіва Дрэйзіна, якая захавалася, яшчэ чакае свайго часу. Мы ж хацелі б прапанаваць увазе чытачоў "Дзеяслова" тэкст перакладу Эўрыпідавых "Бакханак", апрацаваны з улікам таго, што гэтае выданне з'яўляецца літаратурна-мастацкім, а не акадэмічна-навуковым. Мэта гэтай першай публікацыі — даць сучаснаму чытачу, а таксама тэатральным рэжысёрам версію тэксту, якую было б магчыма ўжо сёння публічна чытаць або ставіць на сцэне. Да таго ж, можна сцвярджаць, што ацалелы машынапіс перакладу Дрэйзіна не прайшоў нават мінімальнай рэдактарскай праўкі пры жыцці перакладчыка. Аднак варта падкрэсліць, што, робячы сваё рэдагаванне дрэйзінаўскага тэксту, мы максімальна ашчадна паставіліся як да арыгінальнай лексікі перакладчыка, так і да ўжываных ім граматычных формаў і канструкцый. Разам з тым, мы, напрыклад, папраўлялі збоі рытму там, дзе яны відавочныя.

Паколькі з тэхнічных прычынаў, у арыгінальным тэксце перакладу мог ужывацца толькі абмежаваны рэпертуар знакаў прыпынку і не заўсёды трапна, мы, сярод іншага, палічылі магчымым цалкам адрэдагаваць пунктуацыю машынапіснага тэксту, прывёўшы яе ў адпаведнасць з сучаснымі правіламі.

Пераклад Юльяна Дрэйзіна зроблены класічным правапісам, паводле правіл

граматыкі Браніслава Тарашкевіча, і мы пакінулі гэты правапіс без істотных змен. Вынятак — правапіс уласных імёнаў і назваў у тэксце самой п'есы, у якім "о" ўсюды замененае на "а", калі яно вымаўляецца не пад націскам. Мы таксама паслядоўна адмовіліся ад перадачы доўгіх зычных праз падваенне адпаведных літар у запазычаных імёнах і назвах. Але ў перакладчыцкай прадмове і ягоных увагах (заўвагах) да тэксту мы вырашылі захаваць і гэтыя, і іншыя асаблівасці, якія нясуць у сабе непаўторны каларыт і водар літаратурнай мовы беларускага Адраджэння 20-х гадоў мінулага стагоддзя.

У выпадку разнабою ў правапісе адных і тых жа арфаграм мы ўжывалі, як правіла, адзін нарматыўны варыянт. Безумоўна, мы выпраўлялі і ніяк не пазначалі відавочныя памылкі перадруку рукапіснага тэксту (пропускі літар, бясспрэчныя памылкі арфаграфіі). Мы таксама ў самым мінімальным аб'ёме ўмешваліся ў арыгінальны тэкст, калі, напрыклад, простая перастаноўка слоў у радку дазваляла палепшыць вымаўленне гэтага радка або паставіць у пэўным слове націск, які сёння больш прывычны нашаму вуху (да прыкладу, "хачу́", "заўжды́", "звы́чай", "струме́нь", "дапра́ўды" – замест, адпаведна, "хо́чу", "за́ўжды", "звыча́й", "стру́мень", "сапра́ўды" і г.д.). Было замененае ўжыванне формы назоўнага і вінавальнага склону займенніка мужчынскага роду "наш" у адзіночным ліку (у Дрэйзіна не раз ужываецца нязвыклая форма "нашы"). Радкі, часткі радкоў або асобныя словы, у якіх мы зрабілі праўкі лексічнага характару або проста змянілі парадак слоў, мы адмыслова пазначылі простым *курсівам*.

Дзеля большай зручнасці мы таксама перадаём словамі некаторыя парадкавыя лічэбнікі, якія ў машынапісе падаюцца лічбава-літарным спосабам (напрыклад, "першы" замест "1-ы", "другі" замест "2-гі" і да т.п.).

У машынапісе з невядомых нам прычын (магчыма, праз неахайнасць перадруку) адсутнічае пераклад радкоў 273—286 (у арыгінале ім адпавядаюць радкі 286—297) і 480—481 (адпаведна, 468—469). Дзеля таго, каб пераклад успрымаўся і мог быць выкарыстаны без купюр, мы палічылі неабходным даперакласці адсутныя радкі паводле інтэрнэт-версіі выдання: Euripidis Tragoediae: Vol.1 / Εὐριπίδης; Edidit A. Nauck. – Lipsiae, 1854. С.100. Перакладзеныя намі радкі вылучаныя ў тэксце <u>*падкрэсленым курсівам*</u>.

Фрагменты тэксту, што, дзеля яго лепшага разумення, падаюцца намі ў квадратных дужках, стаяць на месцы адсутных або замененых намі з вышэйпададзеных прычын фрагментаў машынапісу.

Таксама ў архіўным тэксце машынапісу пераблытаны парадак лістоў 44 і 45, якія мы, натуральна, "вярнулі" на належнае ім месца.

Нумарацыя радкоў перакладу Юльяна Дрэйзіна выкананая намі. Усяго, нават калі браць пад увагу пропуск вышэйзгаданых шаснаццаці радкоў тэксту, у ім 1446 радкоў, у той час, калі ў арыгінале (вышэйзгаданае выданне Тойбнера) іх 1392.

У машынапісе змешчаныя "Заўвагі" (у арыгінале – "Увагі") перакладчыка. Але адсылкі да іх у самім тэксце перакладу адсутнічаюць – таму гэтыя адсылкі мы (у квадратных дужках) палічылі неабходнымі зрабіць самі.

Хочацца спадзявацца, што апублікаваная нарэшце праца Юльяна Дрэйзіна, аднаго з першых класікаў беларускага літаратурнага перакладу XX стагоддзя, выкліча зацікаўленасць тых, каму неабыякавае беларускае слова, а можа, і апынецца на працоўным стале рэжысёраў сучасных беларускіх тэатраў.

**Лявон Баршчэўскі**

## ЭЎРЫПІД

### *БАКХАНКІ*

***Пераклад [са старагрэцкай мовы і заўвагі] Ю[льяна] Дрэйзіна***

**АСОБЫ ДЗЕІ:**

1. ДЫАНІС (ДЫОНІС)
2. ХОР БАКХАНАК (Лідыйскіх і Фрыгійскіх)
3. ТЫРЭСІ, прарок, сьляпы
4. КАДМ, закладчык, былы цар Тэб
5. ПЭНТЭЙ, цар Тэб
6. СЛУГА
7. ПЕРШЫ ВЕСЬНІК
8. ДРУГІ ВЕСЬНІК
9. АГАВА, дачка Кадма, маці Пэнтэя

### *ПРАДМОВА*

Пераклад “Бакханак” Эўрыпіда зроблены па тэкстах выданьня Тэйбнэра [*Euripidis Tragoediae: Vol.1 / Eὐριπίδης; Edidit A. Nauck. - Ed. secunda. – Lipsiae: in aedibus B. G. Teubneri*] 1866 г., прыняты быў пад увагу і тэкст ... [*у машынапісе звесткі адсутнічаюць*]. Каб усё было зразумела ў гэтай трагэдыі, неабходна мець на ўвазе наступныя міты з так званага “Тэбанскага цыклю”.

У Сідонскага (у Фінікіі) цара Агенара быў сын Кадм і дачка Эўропа. Эўропу пакахаў Зэўс, зьявіўся ёй у выглядзе прыгожага быка, скраў яе і адвёз на востраў Крэту. Тады Агенар паслаў Кадма шукаць згінуўшую сястру. Пасьля доўгіх вандраваньняў Кадм прыйшоў на тое месца, дзе потым пабудаваў горад Тэбы. Тады там былі дзікія лясы, а ў аднэй пячоры жыў страшэнны дракон. Гэты дракон забіў і зьеў усіх таварышоў Кадма, але потым быў сам забіт Кадмам. Па загаду багіні Атэны Кадм вырваў у забітага дракона зубы і пасеяў іх у зямлі. З гэтых зубоў узрасьлі асілкі, якія, выйшаўшы з зямлі, пачалі паміж сабою страшэнны бой. Ад гэтага бою асталося ў жывых толькі пяць асілкаў, сярод якіх быў нейкі Эхіон. Кадм жаніўся з дачкой бога вайны Арэя – Гармоніяй – і меў ад яе чатырох дачок, Сэмэлу, Агаву, Іно і Аўтоною. Ён пабудаваў горад Тэбу і стаў там першым царом. Яго дачку Сэмэлу пакахаў Зэўс. Калі яшчэ яна была ад яго цяжкая, яна захацела ўбачыць Зэўса ўва ўсёй яго в[е]лічы. Зэўс папярэджваў Сэмэлу, што яна ня вытрымае яго велічы, але Сэмэла так настойна прасіла, што Зэўс урэшце згадзіўся. Ён зьявіўся Сэмэле сярод страшэнных бліскавіц і перуноў, ад якіх згінула і сама Сэмэла, і быў зруйнованы яе палац. А дзіцёнка Зэўс вырваў з цела маткі і зашыў у сваім сьцягне, дзе і данасіў да належнай пары. Гэтым дзіцёнкам і быў Дыоніс. Другая дачка Кадма, Агава, жанілася з Эхіонам і мела ад яго сына Пэнтэя. Калі Кадм стаў стары, ён, ня маючы ўласных сыноў, аддаў ... уладу свайму ўнуку Пэнтэю.

### *ПРАЛЁГ (УСТУП)*

*Сцэна прадстаўляе царскі палац у Тэбах і плошчу перад ім. З аднаго боку плошчы – руіны былога памяшканьня дачкі Кадма, Сэмэлы. Адтуль падымаецца невялічкі дым, і часам нават агонь. З другога боку плошчы – статуі мясцовых рачных бостваў, Дыркэ і Ісмэна.*

*Уваходзіць Дыоніс. Гэта зусім малады юнак, нязвычайна прыгожы, падобны тварам да дзяўчыны. У яго даўгія светла-русыя валасы, на галаве вянок з павою і на чале павязка ў відзе белае істужкі. Ён апрануты ў даўгую, аж да ног, вопратку шафрана-чырвонага колеру і падперазаны шырокім стракатым пасам. На плечы накінута скура аленя, у руках тырс.*

*Дыоніс зьяўляецца не як бог, але як яго слуга, прарок, і такім застаецца аж да заключэньня трагэдыі.*

Д ы а н і с *(да відоўцаў)*. Прыйшоў ў зямлю тэбанцаў я, дзіця Зэвэса,
Я, Дыаніс [1], якога нарадзіла
Калісьці Кадмава дачка Сэмэла

Сярод агней страшэнных бліскавіц.
Зьмяніў свой боскі в[*ыгля*]д я на чалавечы.
Прыйшоў я да крыніцы Дыркэ і да вод Ісмэна [2].
Я бачу помнік маткі, перуном забітай,
Вось там, каля руін палацу й хат.
Яшчэ жыве агонь, што зьзяе сярод дыму,
Знак вечнага супроць Сэмэлы гневу Гэры [3].
Хвалю я Кадма, што сьвятым агаласіў
Ён месца тое, дзе загінула дачка,
І атуліў яго з усіх бакоў
Зялёнымі лазбмі вінаграду.
Пакінуў золатам багатую краіну я,
Лідыйцаў і фрыгійцаў, і старонку пэрсаў,
Што паліць сонейка праменьнямі сваімі
І сьцены Бактрыі, і сьпёкаю сваёй
Страшэнную зямлю мідыйцаў; потым
Прайшоў Арабію шчасьлівую усю,
Малую Азію, што цягнецца ля мора,
Дзе грэкі й барбары жывуць сумесна,
Дзе з вежамі прыгожымі шмат гарадоў.
І вось прыйшоў я ў гэты першы грэцкі горад
І ўсюды закладаў свой культ і карагоды,
Каб стала ўсім сьмяротным ясна, што я – бог.
А ў эльлінскай краіне Тэбы першыя
Ў экстаз бакхічны я прывёў. Я апрануў
Ў аленьні скуры ўсіх і ў рукі даў
Абвітыя павоем тырсы ўсім тэбанкам,
Але казаць пачáлі сёстры маці
(Зусім было б ня трэба так рабіць ім),
Што не ад Зэўса нарадзіўся Дыаніс
І што Сэмэла, ад сьмяротнага радзіўшы,
Цяжкі свой грэх перанясла на Зэўса
(Так навучыў іх Кадм), і што за гэтае,
За шлюбу выдумку, Зэвэс яе забіў.
За гэта выгнаў я іх з хаты, пакараўшы
Шаленствам, – на гары сядзяць цяпер вар’яткі.
Я *ўзяць прымусіў іх* прылады культу Бакха
І ўсіх, якія ёсьць, жанчын кадмейскіх
*З хат бегчы змусіў* у бакхічным захапленьні.
Сядзяць яны з дачкамі Кадма разам
Пад соснамі зялёнымі бяз даху на скалáх.
Мне трэба горад гэты гвалтам навучыць,
Што на бяду сваю ня ведае ён оргій Бакха;
Сэмэлы маці абаронцам быць хачу я
І ўсім людзям давесьці, што я – бог,
Якога нарадзіла ад Зэвэса маці.
Але ўжо Кадм стары, і ўладу ўсю сваю

Пэнтэю ён аддаў – свае дачкі сыночку, –
Які мой сталы вораг. Ён мяне пазбавіў
Усіх узьліяньняў. Хоча ён, каб у малітвах
Ніхто не ўспамінаў бы нават аба мне.
Я пакажу яму і ўсім тэбанцам,
Што я праўдзівы бог. Устанавіўшы
Тут культ свой добра, ў іншыя краіны
Пайду я паказаць сябе. Калі ж тэбанцы
У злабе з аружжам з гор пагнаць бакханак
Захочуць, сам я ў бітву павяду мэнад.
Вось дзеля гэтых спраў зьмяніў я боскі выгляд:
Замест яго прыняў я выгляд чалавечы.
*(Зварочваецца да бакханак, якія знаходзяцца яшчэ за сцэнай.)*
Але, бакханкі, вы, што Тмол [4] са мною разам
Пакінулі лідыйскі, вы, мой сход якіх
Ад барбараў адвёў я, каб былі маймі
Вы [с]падарожнікамі і таварышамі,
Вазьмеце вы фрыгійскія тымпаны [5],
Што разам з маці Рэяй [6] я стварыў.
Да царскага Пэнтэева палацу с шумам
Ідзеце, каб вас бачыў Кадма горад,
Я ж сам пайду на Кітэрон к бакханкам,
Каб разам з імі весьці карагоды.
*(Адыходзіць.)*

***ПАРОД (УВАХОД ХОРУ)***

Х о р.

**Страфа [першая]**

З Тмолу мы прыйшлі сьвятога,
З Азіі вялікай.
Богу Бромію нясем мы
Працу радасьці, і гымны
Бакху мы пяем.

**Антыстрафа першая**

Хто ідзе? Хто на дарозе?
У хаце хто? Няхай здалёк
Усе стаяць пабожна моўчкі,
Бо заўсёды Дыяніса
*У гімнах славім* мы.

**Страфа другая**

Той шчасьлівы, хто з багамі
У згодзе, ведае іх культ
І вядзе жыццё сьвятое,
Бакху душу прысьвячае,
Бакх[у] служыць на гарах
У Бакха оргіях сьвятых
І Кібэлы [7] культ, вялікай
Маці, шчыра ён шануе,
Тырс ў руках сваіх трымае,
Богу Дыянісу служыць

Ён, з вянком на галаве.
Уперад, ўперад, ўсьцяж, бакханкі!
Бога, Бакха, сына бога,
Дыяніса, Бромія
З гор Фрыгійскіх вы вядзеце
У Эльляду, у Эльляду,
На шырокія шляхі!

**Антыстрафа другая**

У даўні час сярод пярунаў,
Што ляцелі ад Зэвэсу,
Раней часу нарадзіла
Маці родная яго
У муках болю, і сама
Пяруном была забіта.
Зараз ўзяў Кранід-Зэўс сына,
Каб насіць яго далей,
І ў сьцягне сваім схаваўшы,
Ён прадзевай залатою
Ад багіні-жонкі Гэры
Зачыніў сьцягно сваё.
А калі багіні Мойры [8]
Давялі дзіцёнка-бога
Да належнае пары,
Нарадзіў Зэвэс сыночка
І вянком яго прыбраў,
У якім вужакі бачны,
Бачны рогі там быка [9].
З тэй пары вянкі мэнады [10],
Што ў руках трымаюць тырсы,
Надзяваюць на сябе.

**Страфа трэцяя**

Тэбы, родны край Сэмэлы,
Аздабляй сябе павоем
І зялёным вінаградам –
Гронкамі пладоў прыгожых!
Пышна, пышна ты красуйся,
Аздабляй сябе вянкамі
З дубу ці сасны!
Абкружыце воўнай белай
Вопратку з аленьніх скур
І пабожна тырс вазьмеце –
Будзе весьці карагоды
Хутка, хутка ўся зямля!
Бромій грамаду бакханак
На гару, гару вядзе.
Грамада жанчын сядзіць там:
Дыяніс іх выгнаў з хаты
Ад красён і чаўнакоў.

**Антыстрафа трэцяя**

Слава вам, курэтаў [11] хаты,
Слава вам, пячоры Крэты [12],
Дзе узрос вялікі Зэўс!

Карыбанты [13] там, ў пячорах,
Бубен вымысьлілі гэты,
І зьліліся з бубнам гукі
Мілагучных флейт фрыгійскіх.
Ў рукі маці Рэі далі
Гэты бубен. Загучэў
Шум бакхічнага шаленства.
І натхнёныя сатыры [14]
Ад багіні-маці ўзялі
Гэты бубен. З ім яны
Карагоды раз ў трохгодзьдзе
*На чэсьць Дыаніса водзяць.*

## *ДЗЕЯ ПЕРШАЯ*

### ЗЬЯВА ПЕРШАЯ

*(Уваходзіць Тырэсій.)*
Т ы р э с і й. На варце хто? Паклічце з хаты Кадма,
Аге́нарава сына, што Сідон пакінуў
І горад гэты, Тэбы, збудаваў.
Няхай хто-небудзь пойдзе й скажа, што Тырэсій
Яго шукае. Ведае ён сам,
Чаму сюды прыйшоў я і аб чым,
Умовіліся мы, стары з старым. –
Умовіліся мы ўзяць *тырсы ў рукі,*
Ў адзеньне з скур аленьніх апрануцца,
Аздобіць галавы вянком з павою.

### ЗЬЯВА ДРУГАЯ

*(Уваходзіць Кадм.)*
К а д м. Мой дарагі, пачуў я голас твой,
Твой мудры голас мудраца! Я ў хаце быў
І зараз жа прыйшоў, ужо ў адзеньні бога,
Бо трэба нам яго, дзіця мае дачкі,
Дыоніса, які людзям зьявіўся богам,
Наколькі нам магчыма, больш уславіць!
Куды ісьці нам трэба? Дзе спыніцца
І галавы сівыя пахіліць? Вядзі мяне,
Тырэсій мой, стары старога, бо ты мудры!
Здаецца мне, я не змарыўся б, каб
Ў зямлю я тырсам біў ўсю ноч, ўвесь дзень –
Ахвоча мы забудземся на нашу старасьць.
Т ы р э с і й. Твае пачуцьці – як мае. Я маладым
Раблюся сам і йду да карагодаў!
К а д м. Ці не пайсьці нам на гару на калясьніцах?
Т ы р э с і й. Малую гэтым богу *мы дамо* пашану.
К а д м. Я павяду цябе, стары старога...
Т ы р э с і й. Сам бог нас лёгка павядзе туды.
К а д м. Ці ж [з] Тэб адны мы ў карагоды Бакха пойдзем?
Т ы р э с і й. Адны мы добра мысьлім, іншыя *ўсе ж* – дрэнна...
К а д м. Марудзім доўга мы. Трымай маю руку.
Т ы р э с і й. Вось і мая рука – бяры яе!
К а д м. Сьмяротны я – шаную вельмі я багоў.
Т ы р э с і й. Ня будзем мудраваць супроць багоў з табой:

Ніколі красамоўства не зруйнуе
Паданьняў продкаў, што мы атрымалі
Ужо даўно, яшчэ ў дзяцінстве нашым.
Хаця б хто-колечы й занадта мудры быў,
Няхай хтось кажа, што я старасьць не шаную,
Калі да карагоду йду з вянком на галаве,
Бо не адрозьнівае бог у карагодах,
Ці водзіць іх стары, ці малады,
Але жадае ён пашану мець ад ўсіх.
А вылічэньні ўзросту славы не дадуць яму.
К а д м. Ня бачыш сонейка сьвятла, Тырэсій? –
Дык буду ўсё тлумачыць я табе.

*(Хутка ўваходзіць Пэнтэй. Ён у вялікім гневе і моцна хвалюецца.)*

**ЗЬЯВА ТРЭЦЯЯ**

П э н т э й. Адсутны быў з старонкі нашай я
І вось, бяда звалілася *ўжо на наш* горад:
Пакінулі жанчыны нашы хаты,
На оргіі якіясь там бягуць
Ў лясы, што на гарах – каб карагоды весьці
На славу бога новага, якогась Дыяніса.
Сярод натоўпу келіхі з віном стаяць,
То [тут], то [там]; сюды, туды ад іншых уцякаюць,
Каб там з мужчынамі распусьце аддавацца.
Мэнадамі яны сябе назвалі,
Але шануюць Афрадыту [15] больш, чым Бакха.
Злавіў я некалькі, зьвязаў ім рукі –
Вартаўнікі *ў турме пільнуюць* іх цяпер.
А тых, што уцяклі, я праганю з гары –
Найперш за ўсё Іно, Агаву – маці,
Што радзіла́ мяне ад Эхіона
І маці Актэона [16] Аўтаною.
Я закую іх у жалезныя кайданы,
Прымушу хутка скончыць іх бакхічныя злачынствы!
Вось, кажуць, што прыйшоў з зямлі Лідыйскай
Якісь чужынец, чараўнік і ашуканец,
З пасма́мі русых і пахучых валасоў.
Ў вачох яго прынады Афрадыты зьзяюць,
Ён ўдзень і ўноч з дзяўчынамі распусту робіць
І называе гэтае бакхічным захапленьнем.
І кажа вось такі, што ён – бог Дыяніс,
Што ён калісьці быў ў сьцягне зашыты Зэўса.
Няпраўда! [Бо] спаліў яго маланкай Зэўс
І разам з маткаю за тое, што яна
Брахала, быццам Зэўс быў мужам ёй –
За гэта ашуканства ці ж яна не варта
Ганебнай кары, як і сам чужынец?
Калі схаплю яго пад гэтаю страхою,
Ён скончыць тырсамі махаць і валасы трасьці,
Бо галаву яго адрэжу я ад цела!
*(Бачыць Кадма і Тырэсія.)*
Але я бачу новы цуд – прарока
Тырэсія ў адзеньні з скур стракатых

І бацьку мацеры мае – як сьмешна мне! –
Які трымае тырс... Мне сорамна за вас:
То ж старасьць ваша розуму ня мае!
Дзядуля мой, няўжо ж вянка ня скінеш,
Няўжо ня кінеш тырса з рук сваіх?
Твая навука гэтая, Тырэсій –
Жадаеш бога новага ты даць людзям,
Каб з варажбы, з афяр пажытак новы мець?
Калі б ня быў ты так стары й сівы ўжо,
Сядзеў бы ў кайданох цяпер, сярод бакханак,
Уводзячы злачынны культ. Бо я кажу,
Што ў оргіях няма здаровага нічога –
Калі жанчыны там бясконца п'юць віно!
Х о р. Багоў, чужынец, не саромся шанаваць:
Шануй і Кадма, што ў зямлі людзей пасеяў,
Бо ты, сын Эхіона, ганьбіш ўвесь свой род!
Т ы р э с і й. Калі разумны чалавек [...] зьмест добры мае
Для гутаркі – казаць прыгожа лёгка будзе.
Ты ж маеш мову спрытную, як быццам мудры,
Але ў тваіх прамовах розуму няма!
Занадта сьмелы й здольны ў мове чалавек,
Але, бяз розуму, бяду прыносіць толькі.
Вось гэты новы бог, з якога ты сьмяешся,
Па ўсёй Эльлядзе слаўны будзе так,
Што я сказаць не здолеў бы. Бо у людзей
На першым месцы два багі: Дэмэтра [17],
Альбо ж Зямля, – як хочаш называй:
Яна людзей сухой ядою корміць.
Зусім для іншага прыйшоў Сэмэлы сын:
Стварыў пітво ён з вінаграду і прынёс
Людзям. Яно людзей няшчасных вызваляе
Ад смутку – калі вып'е хто яго –
І забыцьцё дае праз сон ад дзённых бед,
І сродку лепшага ня знойдзеш ты ад гора;
То ж гэты бог віно ліе багам,
Праз гэта й людзі ласку маюць ад багоў.
[*Табе вось сьмешна, што ў сьцягно яго зашылі*
*Зэвэсава; я ж пакажу, што гэта слушна.*
*Калі яго ад полымя нябёс уратаваў*
*І немаўлятка на Алімп Зэвэс прынёс,*
*Хацела Гэра з неба скінуць хлопчыка,*
*Ды Зэўс, сапраўдны бог, ратунак даў яму:*
*Ўсяўладнаю рукой з этэру вырваўшы*
*Кавалак, ён яму аблічча новае*
*Надаў – Дыоніса – і Гэры як заклад*
*Этэрны вобраз той аддаў замест яго.*
*Цяпер жа кажуць, быццам Зэўс яго ў сьцягне*
*Узгадаваў і проста словы перакручваюць.*
*А гэта ж бог зрабіў, каб перабіць*
*Варожасьць Гэры – ўсё прыдумаў ён*...]
І гэты ж бог – прарок. Бакхічнае шаленства,
Захопленасьць бакхічная вялікі дар
Ў сабе прарочы мае. Калі бог сабою
Напоўніць чалавека, прымушае ён
Аб будучыні гаварыць людзей натхнёных.

Ён мае ўплыў *на бітваў лёс* таксама.
У броні войска, ўжо гатовае да бітвы,
Стаіць. І раптам страх яго абхопіць,
І, не пачаўшы бітвы, ўжо яно бяжыць –
І гэтае пачуцьце йдзе ад Дыаніса.
Убачыш ты яго і на скала́х дэльфійскіх [18] –
Як ён з паходнямі нясецца і кідае
Сьвятло на двохвярховую гару
І тырсам бакхавым трасе. Вялікі бог
Ў Эльлядзе ён. Паслухайся мяне, Пэнтэй:
Ты ўладай над людзьмі не пахваляйся.
Пакінь сваю ты пыху, бо яна ж – хвароба.
Разумны будзь: прыймі ў свой край ты бога,
Вянок на галаву ўзлажы і узьліяньні
Рабі, і карагоды весьці не саромся.
Усіх жанчын Дыоніс прымушае
Распусьнічаць. Але ў самой прыродзе
Заўсёды у жанчын ляжыць нявіннасьць.
Аб гэтым трэба помніць. І сярод шаленстваў
Жанчына добрая нявіннасьці ня згубіць.
Глядзі ж: то [ўз]радуешся ты, калі народ,
Сабраўшыся каля палацу, славіць
Пачне імя Пэнтэя-ўладара.
І богу, думаю, прыемна выхваленьне.
Загэтым я і Кадм, з якога ты сьмяешся,
На галавы вянкі ўзлажылі мы і пойдзем
(Сівыя два дзяды мы – трэба ўсё-ткі йсьці нам).
Ня буду ад прамоў тваіх спрачацца з богам.
Шаленствам згубным ты шалееш. Бог табе
Шаленства гэта даў, і ніякія сродкі
Ужо цябе ня вызваляць з бяды...
Х о р. Стары, ты Фэба [19] ня зьняважыў словамі сваймі –
Пашану ж даўшы Бромію, сярод багоў
Вялікаму, разумна ты зрабіў.
К а д м. Мой сын, табе Тырэсій добра раіў:
Ты разам з намі будзь, ня йдзі супроць багоў!
Бо ты цяпер шалееш і, *заўжды разумны*,
Ты розуму цяпер зусім ня маеш!
Калі б ён нават не быў богам, як ты кажаш,
Ты ўсё[-ткі] так кажы, і – дзеля гонару
Сям'і твае – кажы няпраўду, што ён – бог!
Каб верылі, што радзіла́ Сэмэла,
І роду нашаму ўсяму была б пашана.
Ты ж ведаеш няшчасны Актэона лёс [20]:
Ён пахваляўся, што спрытней у паляваньні
За Артэміду ён, і *во*, ў лясох
Яго сабакі ўласныя парвалі!
Каб гэткай жа бяды з табою ня было,
Вось... я на галаву табе ўзлажу вянок,
І разам з намі ты пашану богу дай.
П э н т э й. Не датыкайся да мяне – шалей ты сам!
Ня буду глупствы я рабіць з табою разам...
А гэтага настаўніка твайго вар'яцтва
Я пакараю! Гэй, няхай хто-небудзь пойдзе

Хутчэй, як можна, да яго, дзе ён
Варожыць, гледзячы на *птахаў лёт*,
Ламамі там *усё хай* раскідае
І дагары нагамі ўсё перавярне!
Вянкі ж няхай аддасьць вятром і бурам,
Бо засмучу яго найбольш, зрабіўшы так...
А іншыя няхай па гораду шукаюць
Чужынца, што жанчыны выгляд мае!
Хваробу новую жанчынам ён прынёс
*І сем'і нашыя* распустай ганьбіць.
Калі вы схопіце яго, зьвяжэце й прывядзеце
Сюды яго: няхай заб'юць яго каменьнем!
Убачыць ён, што горкі ў Тэбах Бакхаў культ!
Т ы р э с і й. Не разумееш ты, няшчасны, што ты кажаш!
Шалееш, [бо] раней ты страціў розум свой.
Хадзем, мой Кадм, і будзем мы маліцца
І за яго, хаця такі ён люты!
Таксама і за горад *наш і каб [жа]* бог
Не пакараў яго! Ідзі за мною з тырсам.
Я пастараюся трымацца цьвёрда,
Падтрымліваць я буду і цябе.
Бо сорамна старым упасьці двум;
Няхай жа будзе тое, што павінна быць:
Павінны мы служыць Зэвэса сыну, Бакху,
Каб толькі ў дом твой не прынёс Пэнтэй бяды!
Кажу я, бачачы стан спраў, а не прароцтвы,
Бо ён дурны цяпер і кажа глупствы!
*(Адыходзяць. Пэнтэй – у палац, а Кадм з Тырэсіем – на Кітэрон.)*

### *СТАСЫМ ПЕРШЫ*

Х о р.

**Страфа першая**

Госія, царыца багоў [21],
Госія, ты, што над зямлёй
На крыльлях ляціш залатых,
Ці бачыш Пэнтэя ты грэх?
Бачыш ты Сэмэлы сына,
Бромія, зьнявагу?
У вясёлых ён бакханак,
Што ў вянкох прыгожых ходзяць, –
Першы між багоў.
Хто яму старанна служыць,
Той ідзе у карагоды
Весяліцца, з гукам флейты,
Адкідае ўсякі сум!
Льецца трунак вінаградны –
Слава бога Дыяніса.
На людзей ў вянкох павою
Ён наводзіць сон.

**Антыстрафа першая**

Пагардныя мовы людзей
І спраў неразумнасьць – калі

Супроць яны пойдуць багоў –
Заўсёды прыносяць няшчасьце.
А жыццё ў спакоі, цішы
І разумнасьць спраў усіх –
Вось што цьвёрдым застаецца,
Шчасьце дасьць сям'і тваёй,
Бо нябесныя багі,
Што *далёка*, у этэры [22],
Бачаць справы ўсіх людзей:
Надта мудры – ўжо ня мудры;
Думкі не аб чалавечым
Нам скарочваюць жыццё.
Той, хто хоча надта многа,
Страціць тое, што ён меў.
Зданьне маю я такое:
Робіць толькі так шалёны
Неразумны чалавек.

**Страфа другая**

Адыйсьці б на Кіпр [23] хацеў я,
Востраў слаўны Афрадыты,
Дзе жывуць багі-эроты [24],
Што чаруюць ўсіх людзей.
Там зямельку запладняе
Мноства рэчак без дажджоў.
Я пайшоў бы ў Піэрыю [25],
Дзе жывуць багіні-музы,
Дзе сьвяты Алімп [26], гара.
Павядзі мяне туды ты,
Бромій, Бромій, бог вялікі,
Ты, бакханак правадыр!
Там Эрот і там харыты [27],
Там свабодна нам, бакханкам,
Богу Бромію служыць!

**Антыстрафа другая**

Бог вялікі, сын Зэвэса,
Любіць радасны настрой,
Любіць ён Эйрэну-Згоду [28],
Што людзям прыносіць шчасьце,
Корміць юнакоў [29].
Ўсім шчасьлівым і няшчасным
Даў ён роўную пацеху –
Піць віно, што адганяе
Ўсякі смутак, ўсякі сум!
Злы ж на тых ён, хто ня хоча
Дбаць і ўдзень, і ўноч аб тым,
Каб шчасьлівым жыць жыццём.
Хто ня думае аб гэтым,
*Той занадта мудры ўжо.*
Ужываць нам трэба тое,
Што народ увесь звычайны
Лічыць добрым і сьвятым.

## ***ДЗЕЯ ДРУГАЯ***

### ЗЬЯВА ПЕРШАЯ

[Д ы о н і с, с л у г а, П э н т э й]

*(Пэнтэй выходзіць з палацу.*
*Слугі прыводзяць зьвязанага Дыаніса.)*

С л у г а. Пэнтэй, прыйшлі мы й прывялі здабычу
Вось гэтую: за ёй ты нас паслаў,
Бо недарэмна ловы мы рабілі.
Вось гэта ёсьць наш “зьвер”. Зусім ён ціхі,
[Ён] не ўцякаў і рукі даў нам без прымусу:
Ён не бляды́, але румяны, як і быў.
Сьмяяўся ён і даў зьвязаць сябе й адвесьці,
Чакаў, пакуль я ўсё зраблю, *і велічны меў выгляд* –
І сорамна мне стала. Я сказаў яму:
“Чужынец, не сваёй ахвотай я вяду цябе:
Раблю загад Пэнтэя, што мяне паслаў.
А тых бакханак, што зьвязаў ты і адвёў
Ў турму, ў кайда́ны закаваўшы – іх няма:
З турмы ўжо уцяклі яны і па палянах
Нясуцца й клічуць бога Бромія свайго.
Зваліліся з іх ног кайда́ны сам-сабою
І без людзкой рукі ім дзьверы адчыніліcь.
Зьявіўся ў Тэбы нашыя чужынец гэты
І цудаў шмат ужо зрабіў. Я ўсё сказаў,
А іншае [усё] – твая ўжо справа будзе.
П э н т э й. Вы звар’яцелі горш, чымся чужынец гэты!
То ж зьвязаны ён ланцугамі: ад мяне
Не уцячэ ён, не такі ён спрытны...
Аднак прыгожы ты, чужынец, бачу я –
Жанчынам мілы ты, для іх прыйшоў ты ў Тэбы.
І валасы твае даўгія: па шчаках яны
Спускаюцца: такіх ня носіць барацьбіт.
І поўны ты каханьня, і жаданьняў палкіх,
І цела белае тваё, бо ты яго галубіш,
Ад сонейка праменьняў ў цень яго хаваеш,
Прыгожасьцю спрачацца можаш з Афрадытай...
Але, найперш за ўсё, скажы: адкуль ты родам?
Д ы о н і с. Ня буду выхваляць сябе: сказаць мне лёгка гэта...
Ці аб багатым Тмоле чуў ты, можа быць?
П э н т э й. Я ведаю аб ім: ён Сарды [30] абкружае.
Д ы о н і с. Адтуль і я. Мне Лідыя – айчына.
П э н т э й. Адкуль жа тыя оргіі уводзіш ты ў Эльляду?
Д ы о н і с. *Ў іх пасьвяціў мяне сын Зэўса Дыаніс.*
П э н т э й. Ці ёсьць там Зэўс, які багоў раджае новых?
[Д ы о н і с. *Не, ён з Сэмэлай на зямлі пабраўся шлюбам*.
П э н т э й. *Зьявіўся ён у сьне табе або наяве?*]
Д ы о н і с. Сам-насам оргіі рабіць мне загадаў ён.
П э н т э й. Які жа выгляд маюць оргіі твае?
Д ы о н і с. Ня можа непасьвечаны сьмяротны ведаць гэта.
П э н т э й. Якую жа карысьць даюць яны бакхантам?
Д ы о н і с. Ня можаш чуць аб гэтым ты. А варта б ведаць...
П э н т э й. Ты спрытна брэшаш – каб жадаў я чуць!

Д ы о н і с. Бязбожных оргіі Дыоніса ня любяць.
П э н т э й. Які ж сабой на выгляд бог? Скажы мне ясна.
Д ы о н і с. Ён мае выгляд той, які жадае сам.
П э н т э й. Ты спрытны гаварыць, нічога не сказаўшы!
Д ы о н і с. Заўсёды мудры неразумнаму дурным здаецца.
П э н т э й. Прыйшоў ты перш за ўсё сюды – увесьці бога?
Д ы о н і с. Ўсе барбары ўжо оргіі прыня́лі.
П э н т э й. Але ж яны ніжэй за грэкаў розумам.
Д ы о н і с. Тым лепш! *Я звычаі ў іх розныя уводзіў...*
П э н т э й. Ці ўдзень, ці ўночы робіш набажэнствы?
Д ы о н і с. Найбольш уноч, бо ёсьць *у цемры веліч.*
П э н т э й. Але здрадлі́ва гэта й дрэнна для жанчын!
Д ы о н і с. Ганебнае і ўдзень знайсьці магчыма...
П э н т э й. За мовы дрэнныя твае ты будзеш пакараны!
Д ы о н і с. А ты – за неразумнасьць і бязбожнасьць.
П э н т э й. Бакхант ты сьмелы й нестрыманы ў словах...
Д ы о н і с. Скажы: што я цярпець павінен буду?
П э н т э й. Найперш я валасы твае прыгожыя адрэжу...
Д ы о н і с. Яны сьвятыя: богу я іх прысьвяціў.
П э н т э й. ...А потым гэты тырс ты аддасі.
Д ы о н і с. Ты сам яго вазьмі: ён – Дыанісаў тырс!
П э н т э й. Замкну цябе ў турму й пастаўлю варту.
Д ы о н і с. Бог вызваліць мяне, калі я сам захочу.
П э н т э й. Калі б сярод бакханак клікаў ты яго...
Д ы о н і с. Ён блізка тут бачыць ўсё, што я цярплю.
П э н т э й. Дзе ж ён? Яго ня бачу я сваймі вачыма.
Д ы о н і с. Ён ля мяне. Ня бачыш ты, бо ты – бязбожны.
П э н т э й. Узяць яго! Зьняважвае мяне і Тэбы ён.
Д ы о н і с. Разумны для дурных, мяне ня возьмеш ты!
П э н т э й. *Цябе вазьму я*: я – сільнейшы за цябе.
Д ы о н і с. Ня ведаеш ты, што цябе чакае,
І хто такі ты сам, не разумееш...
П э н т э й. Пэнтэй я, сын Агавы; Эхіон – мой бацька.
Д ы о н і с. Ў тваім іменьні ўжо ляжыць няшчасьце [31].
П э н т э й. Прэч ад мяне! Гэй, слугі, прывяжэце
Яго да конскіх ясьляў! Ў цемры там няхай
Ён робіць оргіі свае. А тых бакханак,
Якіх вядзе з сабой ён для злачынстваў,
Альбо ў няволю я прадам, альбо я скончу
Пляска́ньне рук і звон тымпанаў і зраблю
Сваймі прыслужніцамі іх і да красён пастаўлю!
Д ы о н і с. Ну што ж, магу пайсьці, але цярпець
Ня буду я, калі цярпець я не павінен.
Але той Дыаніс, ў якога ты ня верыш,
Ён кару дасьць табе за ўсе твае зьнявагі:
Гвалтуючы мяне, ў турму вядзеш ты бога.
*(Слугі адводзяць Дыаніса. Пэнтэй адыходзіць у палац.)*

## СТАСЫМ ДРУГІ

Х о р.

**Страфа**

Дачка Ахэлоя [32], багіня,
Дзяўчына вялікая, Дыркэ,

Калісьці ты ў воды свае
Зэвэса дзіця прыняла.
Калі яго вырваў Зэвэс
З агню бліскавіц і схаваў
Ў сьцягне сваім, клікаў ён так:
“Я насіць цябе дакончу,
Да мяне йдзі, Дытырамб [33]:
Так цябе калісьці клікаць
Будуць Тэбы,
Сын мой Бакх!
Ты ж мяне, багіня Дыркэ,
Хор, аздоблены вянкамі,
Адпіхаеш ад сябе.
Што ж мяне ты адкідаеш,
Што ж бяжыш ты ад мяне?
Будзе час, калі, [д]апраўды,
Вінаградная лаза,
Дыаніса ласка будзе –
Мілага табе – і ты
Будзеш Бакха шанаваць!”

**Антыстрафа**

Вялікую злосьць выяўляе
Той, што ад зямлі нарадзіўся.
Калісьці з дракона зубоў –
Пэнтэй-цар, якога Эхіон,
З зямлі што узрос, нарадзіў.
Злосьці цуд [і] не падобны
Да людзей сьмяротных ён,
А падобны да гігантаў [34],
Што ішлі супроць багоў.
Хутка зьвяжа ланцугамі
Ён мяне – жанчын-бакханак!
Ён майго правадыра
Ўжо ў сваёй трымае хаце,
Кінуў ў цёмную турму.
О, Дыоніс, сын Зэвэса,
Бачыш гэтае? Прарок твой
Ад сьмяротных церпіць гвалт!
Ты прыйдзі, ўладар, з Алімпу,
Тырс нясі свой залаты
І акрутнага Пэнтэя
Злосьць вялікую стрымай!

***ЭПОД***

Ці на Нісе [35], дзе зьвяроў шмат,
Носіш тырс свой, Дыаніс,
Між бакханак, ці на ўзвышшы
Карыкійскіх верхавін [36]?
Альбо ж на гары Алімпе,
На яго лясістых схілах,
Дзе калісь Арфэй [37] кітарай [38]
І прыгожых песень гукам
Вабіў да сябе?

Піэрыя [39], край шчасьлівы,
Эвій [40] сам цябе шануе;
Прыйдзе ён на сьвята Бакха,
Карагоды каб вадзіць.
Ён пяройдзе быстры Аксій [41],
І мэнад да карагодаў
Ён з сабою прывядзе.
Ён раку пяройдзе Лідый [42] –
Бацьку, шчасьце для сьмяротных, –
Што, як чутка йдзе, канямі
Край багаты запладняе,
Хараством прыгожых вод.

## ***ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ***

### ЗЬЯВА ПЕРШАЯ

На сцэне х о р. З палацу чутны голас Д ы о н і с а.

**[Страфа першая]**

Д ы о н і с. І-о!
Слухайце кліч мой, бакханкі!
Слухайце кліч мой, мэнады!
Х о р (мэсод / устаўка).
Чый гэта голас? Адкуль ён нясецца?
Ці то ня Бакх заклікае мяне?

**Антыстрафа першая**

Д ы о н і с. Гэй!
Гэй, вы, бакханкі, зноў я вас клічу,
Я, сын Зэвэса, Сэмэлы дзіця!

**Страфа другая**

П а ў х о р п е р ш ы.
Да нас, о наш бог, уладар наш вялікі,
Да нас ты прыйдзі, у наш хор!
*(Земляздрыг. Частка палацу руйнуецца.)*

П а ў х о р д р у г і.
Броміій, наш Броміій! Трасецца зямля –
Хутка, ўжо хутка
Хата Пэнтэя
Будзе ляжаць у руінах!
*(Сярод руін паказваецца Д ы о н і с.)*

### ЗЬЯВА ДРУГАЯ

**Антыстрафа другая**

П а ў х о р п е р ш ы.
Зэўса дзіця, Дыяніс,
Вольны ён! Чэсьць яму дайце!

П а ў х о р д р у г і.
Чэсьць яму дамо. Ці бачыце вы,
Як мураваныя падаюць сьцены?
То поклічы Бромія ў хаце.

### ЭПОД

Д ы о н і с. Вазьмеце паходні, як быццам маланкі, –
Спаліце, спаліце Пэнтэеў палац!
Х о р.
Га, га!
Глядзеце: ці бачыце полымя вы
Навокал сьвятое магілы Сэмэлы?
Калісьці пакінула полымя тое
Страшэнная Зэўса маланка.
У страху пабожным, мэнады,
Схіліцеся вы да зямлі:
Дыоніс, сын Зэўса, палац гэты 620
Словам сваім зруйнаваў!
Д ы о н і с *(выходзіць да хору.)*
Вы, жанчыны, тут чужыя, страх чаму вас абхапіў?
Да зямлі чаму схілілісь? Чулі вы, здаецца, як
Зруйнаваў палац Пэнтэя Бакх? Але паўстаньце ўжо:
Будзьце сьмелыя, бакханкі, ня дрыжэце целам больш!
Х о р.
Ты, які сьвятлом нам зьзяеш оргій бакхавых тваіх,
Ты пакінуў нас самотных – радасьць бачыць нам цябе!
Д ы о н і с. Абхапіў чаму вас смутак, калі вывелі мяне
І калі *ў турмы Пэнтэя цемру кінуты* я быў?
Х о р.
Як жа йнакш? Хто б дапамог нам,
[калі б] ты ў бяду папаў?
[Як ты] вызваліцца [здолееў:] ты ж з бязбожным
справу меў?
Д ы о н і с. Лёгка сам сябе я збавіў: працы я ня меў зусім. 631
Х о р.
Ці ж дужы`мі ланцугамі рук табе ён не зьвязаў?
Д ы о н і с. Варты ён [цяпер] пагарды, што загад зьвязаць ён даў,
Але сам не дакрануўся да мяне: стаяў, чакаў...
Ён знайшоў быка ля ясьляў там, дзе ён замкнуў мяне,
І, накінуўшы вяроўку, ногі ён зьвязаў быку [43].
Злосьці поўны, цяжка дыхаў, потам *быў абліты ўвесь*
І кусаў зубамі губы. Блізка ля яго я быў
І глядзеў зусім спакойна... Вось у гэты самы час
Бакх палац яго парушыў і на маці помніку 640
Запаліў агонь. Ён ўбачыў і падумаў, што пажар.
Ён ва ўсе бакі кідаўся і насіць ваду слугáм
Ён загадваў. І дарэмна працавалі ўсе рабы.
Потым гэта ўсё ён кінуў і, як быццам я уцёк,
Пом[с]ны меч схапіўшы ў рукі, ён пабег у свой палац.
Рынуўся таксама Бромій: мара толькі то была –
Здань зрабіў ён на дзядзінцы. Рынуўся Пэнтэй на здань
І пачаў сячы паветра, быццам ён мяне рубіў!
Але йшчэ ня скончыў Бромій гэтым злодзея караць:
На зямлю палац зваліў ён, ўсё ў руінах там ляжыць
У таго, хто ланцугамі моцнымі мяне зьвязаў. 651
Але, змораны, ён кінуў меч і йдзе ў палац назад.
Ён адважыўся, сьмяротны, з богам кінуцца у бой...
Я спакойна выйшаў з хаты і да вас я, вось, прыйшоў,
Аб Пэнтэю ўжо ня думаў. Як здаецца мне цяпер,

Ён шалее у палацы, хутка выйдзе ён сюды.
Што ж пасьля ўсяго, [да]праўды, ён пачне яшчэ казаць?
Я сустрэнуся спакойна з ім – хаця б ён злы прыйшоў,
Бо разумным і спакойным трэ *заўжды быць мудрацу*.

**ЗЬЯВА ТРЭЦЯЯ**

[Дыоніс, Пэнтэй]

Пэнтэй *(выбягае з палацу.)* Што бачу я? Уцёк чужынец той,
Якога я зьвязаў нядаўна ланцугамі!
Га-га, вось ён! Якім ты чынам выйшаў
І вось цяпер стаіш перад маім палацам?
Дыоніс. Спыніся! Спакайней будзь, злосьць стрымай...
Пэнтэй. Як мог ты скінуць ланцугі і – уцячы?!
Дыоніс. Ці ж я не гаварыў, ці ты ня чуў,
Што прыйдзе хтось і вызваліць мяне?
Пэнтэй. Хто ж? Словы дзіўныя заўсёды кажаш ты.
Дыоніс. Той, хто дае людзям шматгронны вінаград.
[Пэнтэй]. За гэты добры плод ты славіў Дыаніса?
Я дам загад, каб брамы ўсе замкнулі.
Дыоніс. Дарэмна, то ж багі і сьцены пераходзяць...
Пэнтэй. Ох, мудры, мудры ты, дзе мудрым быць ня трэба!
*(Уваходзіць весьнік.)*

**ЗЬЯВА ЧАЦЬВЕРТАЯ**

[Дыоніс, Пэнтэй, весьнік, хор]

Дыоніс. Дзе трэба мне найбольш, я там заўсёды мудры.
Але паслухай ты, што скажа гэты весьнік,
Які з гары прыйшоў, каб штось табе сказаць.
Я ж *застануся ля цябе* і не ўцяку.
Весьнік. Пэнтэй, *Тэбанскае зямлі ўладар*!
Прыйшоў я з Кітэрону [44], дзе ніколі
Сьнег белы не зыходзіць з верхавін.
Пэнтэй. Якія ж весткі ты прынёс з сабою?
Весьнік. Бакханак ў захапленьні бачыў я, якія
[З] нагамі босымі насіліс па гары.
Прыйшоў *я расказаць табе, ўладар*, і Тэбам,
Якія рэчы страшныя і дзіўныя бакханкі робяць.
*Але хачу я* чуць, ці я магу адкрыта
Казаць пра ўсё, ці трэба мне язык стрымаць:
Баюся я твае запальчывасьці вельмі,
Бо шпарка у цароў ляцяць іх думкі...
Пэнтэй. Кажы: бяз кары ад мяне ты пойдзеш вольна,
Бо на бязьвінных нельга нам злавацца,
І чым страшэньней будуць весткі аб бакханках,
Тым больш мы пакараем вінавайцу,
Што навучыў жанчын чыніць шаленствы.
Весьнік. Я гнаў жывёлу пасьвіць на гару нядаўна,
Калі ўжо сонейка праменьні пачынае
Кідаць і награваць прастыўшую зямлю.
І вось, жанчын тры грамады я бачу:
У першай Аўтаноя на чале была,
Другую жа вяла твая Агава-маці,
А трэцяе правадыром была Іно.

Усе яны ляжалі, быццам аслабеўшы:
Адны сьпінáмі прыхінуліся да дрэў;
А іншыя паклалі галав[у] на купы
Лісьця дубоў так-сяк і скромненька ляжалі.
[Ды ты б] і не сказаў, што не было падобна,
Што, захмялеўшы ад віна і гукаў флейты,
Яны ў лясох распусьце аддавалісь:
І вось, пачула рык быкоў рагатых
Агава. І, падняўшыся сярод бакханак, зычна
Яна заклікала, каб ўсе ад сну паўсталі.
Яны жа, скінуўшы з вачэй глыбокі сон,
Ускочылі усе, і дзіўна было бачыць:
Старыя і малодшыя жанчыны і дзяўчыны
*Найперш як* распусьцілі *валасы*
*Ўсе* па плячох, аленьні скуры апранулі,
Вужакамі падперазаліся, і шчочкі
Лізалі ім вужакі. Іншыя між іх
Коз і ваўкоў рукамі абдымалі
І белым малаком з грудзей сваіх кармілі:
[Былі там] тыя, што нядаўна нарадзілі,
І грудзі поўныя былі у іх.
Дзяцей жа кінулі яны сваіх, а потым
Яны вянкі з павою і з галін дубовых
На *голаў* узлажылі. Тырс схапіўшы,
Адна ударыла ў скалу – і вось,
З яе *струмень вады сьцюдзёнай* пырскнуў.
Другая тырсам аб зямлю ударыла –
І *выслаў бог струмень віна адтуль.*
А іншыя жадалі малака напіцца:
Яны зямлю канцамі пальцаў разьдзіралі
І малака шмат мелі. З тырсаў жа плюшчовых
Салодкія [*мядовыя*] *цяклі струмені.*
Калі б ты быў там, дык, убачыўшы ўсё гэта,
З малітвамі зьвярнуўся [б] ты да бога,
Якога ты цяпер так дрэнна ганіш.
Мы, пастухі, сабраліся ўсе разам,
Аб гэтым разважаючы сумесна.
І вось, адзін між нас, што ў горад ходзіць
І спрытны на язык, сказаў да ўсіх:
“Вы, што на схілах гораў жывяце сьвятых,
Ці хочаце: Агаву схопім мы,
Пэнтэя маці, што шалее тут –
*І ўладару прыемнасьць гэтым зробім мы*?”
Здалося ўсім, што добра ён казаў –
Схаваліся мы пад лісьцём кустоў.
Яны ж належны час, у захапленьні,
Махалі тырсамі сваімі й бога “Якха” –
Дзіця Зэвэса, Бромія – пачáлі клікаць.
Шалелі з імі ўся гара і зьверы:
Нічога ня было, што б не пайшло у скокі.
І вось, у скоках да мяне ідзе Агава;
Я выскачыў, жадаючы схапіць яе,
З кустоў, дзе мы хаваліся дагэтуль.
Яна ж загаласіла: “Гэй, бакханкі,
Вось гэтыя мужчыны хочуць нас схапіць –

За мной, за мной, бакханкі, з тырсамі сваймі!”
Мы уцяклі, каб нас бакханкі не парвалі,
Яны ж рынуліся без аружжа на жывёлу,
Што пасьвілася тут, дзе быў зялёны луг.
Адну ты мог бы ўбачыць – як яна трымала
Ў руках сваіх карову, [*што*] *мычала гучна.*
А іншыя кароў на часткі разрывалі:
Ты б мог убачыць там кавалкі мяса й ногі,
Якія тут і там яны кідалі. І віселі
Кавалкі тыя на сасна́х, і кроў лілася з іх.
*Быкі ж наставілі наперад рогі* ў гневе,
Але іх зьбілі з ног і на зямлю звалілі
Дзяўчыны, мноствам рук схапіўшы іх;
Яны зьдзіралі скуру з іх хутчэй,
Чымся заплюшчыць вочы мог бы ты свае, ўладар!
*І, быццам птахі, ўсе яны* нясуцца
Па той раўніне, што ляжыць унізе:
Адны – уздоўж Эсопу [45] па палёх,
Пакрытых коласам багатым, ураджайным,
Там, дзе знаходзяцца Гэсія і Эрэтра [46],
А іншыя – на спадзе Кітэрону.
Як быццам ворагі, яны напалі
І руйнавалі ўсё дашчэнту ўсюды.
І з хат малых дзяцей яны хапалі
І клалі іх сабе на плечы. Без прывязак
Трымаліся ў іх дзеці й на зямлю
Ня падалі. І не было у іх
Ні медзі, ні жалеза. А на валасох
Яны нясьлі агонь: ён не паліў зусім.
Пакрыўджаныя ж кінуліся на бакханак,
Схапіўшы бронь. І жудасна было глядзець
На тое, што тут потым сталася, ўладар!
Бо ў тых, хто нападаў, іх стрэлы вострыя
Ня ранілі бакханак, а бакханкі
Кідалі тырсы з рук і ранілі,
І уцякаць прымусілі мужчын жанчыны.
([Н]апэўна, бог якісь ім тут дапамагаў.)
І зноў пайшлі яны туды, адкуль прыйшлі –
Да тых крыніц, якія ім сам бог паслаў,
Каб цела ад крыві адмыць. З іх шчок вужакі
Кроў зьлізвалі сваімі языкамі.
Дык вось *што я скажу, ўладар, табе* цяпер:
Прымі *у наш ты горад* бога, што зьявіўся,
Бо ён вялікі ў іншых справах і – у тым,
Як кажуць (чую я), што даў сьмяротным
Той вінаград, што сум ўсялякі адганяе.
Бо безь віна няма пацех Кіпрыды,
І безь яго няма ў людзей пацех і іншых.
Х о р. Баюся я свабодна гаварыць
Прад ўладаром, але скажу я ўсё-ткі:
Дыоніс не ніжэй ні за якога бога.
П э н т э й. *Да нас дайшлі* ўжо блізка, бы агонь,
Нахабнасьці бакханак, для элі́наў
Вялікая нясслава. – Ўжо марудзіць досыць!
*(Зварочваецца да аднаго з загадчыкаў войска.)*

Да брамы ты Электрынай [47] пайдзі
І загадай, каб шчытаносцы ўсе
Зьявіліся на конях быстраногіх:
І тыя, што шчытамі лёгкімі ўладаюць,
І тыя, што *пушчаюць з лукаў стрэлы*:
Мы пойдзем на вайну супроць бакханак.
Даволі ўжо! Занадта, каб мы ад жанчын
Цярпелі тое, што дагэтуль церпім...
Д ы о н і с. Пэнтэй, ня хочаш ты рабіць нічога,
Што я кажу! Цярплю я ад цябе, аднак
Скажу: не падымай ты броні проці бога,
Але спакойны будзь! Бо Бромій не дазволіць
Прагнаць бакханак з гор у час бакхічных оргій.
П э н т э й. Пераканаць мяне ня здолееш. Але,
Уцёкшы з ланцугоў, аб гэтым будзеш помніць!
Накіну зноў я кару на цябе.
Д ы о н і с. Я б лепш прынёс афяру, чым злаваўся...
Дарэмна не змагаўся б я, сьмяротны, з богам.
П э н т э й. Вось, прынясу афяру, калі ўсіх бакханак
Я пераб'ю ў цясьнінах Кітэрону!
Д ы о н і с. На ўцёкі ўсе вы кінецеся – ганьба будзе,
Калі шчыты мядзяныя ад тырсаў
Бакханак адвярнеце вы , каб уцякаць!
П э н т э й. Зьвязаліся мы з гэтым злым чужынцам:
Ня хоча ён маўчаць ні ў ланцугох, ні вольны...
Д ы о н і с. Глядзі ж, яшчэ магчыма *скончыць добра* ўсё!
П э н т э й. Якім жа чынам? Быць рабом сваіх рабынь?
Д ы о н і с. Я прывяду сюды жанчын бяз броні...
П э н т э й. Якіясь хітрыкі супроць мяне ён замысьляе...
Д ы о н і с. Якія ж? Ад бяды цябе *хачу я збавіць*.
П э н т э й. Умовіліся разам вы аб гэтым,
Каб оргіі свае рабіць заўсёды!
Д ы о н і с. Так, так, умовіўся я, але дзеля бога!
П э н т э й. Сюды прынесьці бронь мне! Ты ж – маўчы!
Д ы о н і с *(пачынае наводзіць на Пэнтэя вар'яцтва.)* Га?
Ці ты жадаеш бачыць, як сядзяць
Бакханкі на гарах у грамадзе аднэй?
П э н т э й *(паддаецца ўплыву Дыоніса.)* Так, вельмі: шмат бы золата за гэта даў!
Д ы о н і с. Адкуль зьявілася ў цябе жаданьне гэта?
П э н т э й. На гора я убачу іх ужо п'яных.
Д ы о н і с. І ўсё-ткі ты б хацеў на гора ўбачыць іх?
П э н т э й. Утайку, моўчкі буду я сядзець пад дрэвам.
Д ы о н і с. Калі б і ўтайку ты прыйшоў, цябе яны адкрыюць!
П э н т э й. Ну, дык адкрыта! Гэта добра ты сказаў.
Д ы о н і с. Дык павяду цябе я. Пойдзеш ты за мною?
П э н т э й. Хутчэй вядзі! Няхай ўжо страчу час на гэта.
Д ы о н і с. Надзень ты на сябе цяпер жаночае адзеньне.
П э н т э й. Чаму? Зрабіцца мне жанчынаю з мужчыны?!
Д ы о н і с. Каб не забілі там цябе, калі мужчыну ўбачаць.
П э н т э й. Згаджаюся з табой: разумны ты, здаецца...
Д ы о н і с. Дыоніс выхаваўцам быў маім.
П э н т э й. Як зробім тое мы, аб чым ты мне казаў?
Д ы о н і с. Найперш я апрану цябе: да хаты пойдзем...
П э н т э й. Ў якую ж вопратку мне апрануцца?

*Няўжо ў* жаночую? Ох, сорам, сорам мне!
Д ы о н і с. Ды *ўжо ня хочаш ты* бакханак бачыць...
П э н т э й. ...Ў якую ж вопратку ты апранеш мяне?
Д ы о н і с. Я пасмы распушчу на галаве тваёй.
П э н т э й. Другое што яшчэ ў маім уборы будзе?
Д ы о н і с. Плашч доўгі, аж да ног, на галаве жа – хустка...
П э н т э й. А што яшчэ да гэтага ты мне дасі?
Д ы о н і с. Тырс у руку й стракатую аленьню скуру.
П э н т э й. Ох, цяжка мне ў жанчын адзеньне апрануцца...
Д ы о н і с. Ты ж кроў пральеш, з бакханкамі зрабіўшы бой!
П э н т э й. Так, так. Найперш пайсьці мне трэба на разьведку.
Д ы о н і с. *Так будзе разумней*, чымся да ўласнае бяды
Імкнуцца злымі справамі сваймі.
П э н т э й. Якім жа чынам мне прайсьці праз горад,
Каб не убачылі мяне кадмейцы?
Д ы о н і с. Я павяду цябе патайным шляхам.
П э н т э й. Ўсё лепш, чым каб сьмяяліся з мяне бакханкі...
Хадзем да хаты, каб умовіцца [пра ўсё].
Д ы о н і с. Што ж, добра, не зраблю я перашкод ніякіх.
П э н т э й. Дык я пайду: альбо пайду з аружжам,
Альбо зраблю я так, як раіш ты.
*(Адыходзіць у палац.)*

**ЗЬЯВА ПЯТАЯ**

[Д ы о н і с, х о р]

Д ы о н і с *(да хору.)* Жанчыны, гэты чалавек папаўся ў пастку:
Ён прыйдзе да бакханак – карай будзе сьмерць!
Твая цяпер, Дыоніс, справа: ты ж тут блізка...
Яго мы пакараем. Перш пазбаў яго
Рассудку й лёгкае шаленства дай яму.
Бо з розумам ён не захоча апрануць
Жаночае адзеньне, а бяз розуму
Ён апранецца. Я хачу, каб ён
Зрабіўся сьмешны ўсім тэбанцам, калі я
Праз горад павяду яго, у выглядзе жаночым,
Пасьля пагроз яго, якімі ён страшыў.
Але цяпер пайду я апрануць Пэнтэя
*Ва ўбор той*, у якім ён пойдзе да Гадэса [48],
Калі рукамі маці будзе ён забіты.
Пазнае ён Зэвэса, сына Дыаніса,
Што да людзей – найлітасьнейшы бог,
Але і найстрашэнны – дзеля тых,
Хто оргіі яго прыймаць ня хоча.
*(Адыходзіць у палац.)*

***СТАСЫМ ТРЭЦІ***

Х о р.

**Страфа**

У карагодах цэланочных,
У скоках радасных бакхічных
Паскачу нагой я босай
І, пакрытая расою,

Панясуся у паветры,
Быццам лань,
Што на зялёным
Цешыцца лугу!
На страшэнным паляваньні
Уцякла яна ад варты,
Ад сплятцёнай добра сеці,
І лавец сабак заклікаў,
І пусьціў ён наўздагон.
Бы віхор, яна нясецца
Па раўніне ўздоўж ракі;
Міла ёй палёў бязьлюдзьдзе
І гушчар цяністых пушч!
Наймудрэйшы, найпрыгож[ш]ы
Дар сьмяротным ад багоў –
Над варожай галавою
*Моцную руку* трымаць,
Што *заўжды прыгожа-міла*!

**Антыстрафа**

*На сьмяротных сіла бога*
Йдзе і падае павольна,
Але верна! Бог карае
Неразумных, самалюбных
І, з сваім дурным шаленствам,
Не шануючых багоў.
За бязбожным непрыкметна
*Сочаць доўгі час багі*
І за тым – яго хапаюць!
Ведаць і рабіць ніколі
Нам ня трэба больш за тое,
Што [нам кажуць звычаі].
Лёгка верыць нам у тое,
Што паходзіць ад багоў
І здаўна што, і заўсёды
*Нам прыроджана было.*
Наймудрэйшы, найпрыгож[ш]ы
Дар сьмяротным ад багоў –
Над варожай галавою
*Моцную руку* трымаць,
Што *заўжды прыгожа-міла*!

***ЭПОД***

Шчасьлівыя людзі, якія [ўжо зьбеглі]
Ад бурнага мора і ў прыстань прыйшлі!
Шчасьлівыя людзі, што перамаглі
Бяду! Непадобныя людзі
Адзін да другога і шчасьцем, і сілай.
Мноства людзей ёсьць і мноства надзей.
Іншыя шчасьцем канчаюцца, іншыя ж
Гінуць. Хто сёньня шчасьліва жыве,
Таго я шчасьлівым лічу.

## *ДЗЕЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ*

### ЗЬЯВА ПЕРШАЯ

(Хор, Дыоніс – у яго на галаве пад вянком маленькія рожкі быка.)

Дыоніс. Пэнтэй, які жадаеш бачыць то, што нельга,
Клапоцішся аб тым, што клопату ня варта,
Выходзь з палацу, пакажыся мне
У вопратцы жанчын, мэнад-бакханак,
За хорамі мэнад, [як] маці ўласнай шпег!

*(З палацу выходзіць Пэнтэй у адзеньні бакханак.*
*Ён – у шаленстве, насланым на яго Дыонісам.)*

### ЗЬЯВА ДРУГАЯ

[Дыоніс, хор, Пэнтэй]

Дыоніс *(абгледжвае Пэнтэя.)* Ты выгляд маеш Кадмавай дачкі.
Пэнтэй. Здаецца мне, што бачу я два сонцы,
І Тэбы сямібрамныя падвойныя ў вачох:
Быком здаешся мне ты, што вядзеш мяне;
Рагі на галаве ўзрасьлі тваёй...
Але мо зьверам быў ты ўжо раней,
Бо, бачу я, ў быка [пера]вярнуўся ты цяпер.
Дыоніс *(да бакханак.)* Нам бог дапамагае! Гневаўся раней,
Але цяпер зрабіўся ён спагадны нам. 969
*(Да Пэнтэя.)* Цяпер ты бачыш тое, што павінен бачыць.
Пэнтэй. Які ж я выгляд маю: ці Іно,
Ці я падобны да Агавы-маці?
Дыоніс. Я, бачачы цябе, здаецца, бачу іх...
Але ўжо раскудлачыліся валасы твае:
Я дрэнна іх пад шапкаю прыбраў.
Пэнтэй. Пад шапкай я іх трос, бо галавой [хітаў]
І ў бакхавым шаленстве я іх раскудлаціў.
Дыоніс. Табе я паслужу і зноў на месца
Пастаўлю іх. Ты голаў падымі сваю.
Пэнтэй. Вось, на, рабі! Я слухаюсь цябе.
*(Дыоніс папраўляе яму валасы.)*
Дыоніс. І пас твой саслабеў, і не ў парадку складкі
Ляжаць у вопратцы тваёй ля ног.
Пэнтэй *(абгледжвае сябе.)* Здаецца й мне – ля правае нагі...
А тут вось вопратка ляжыць належна.
Дыоніс. Ці будзеш *сябрам ты мяне сваім* лічыць,
Калі бакханак ты разумнымі убачыш?
Пэнтэй. Ці ўзяць мне тырс у правую руку,
Ці ў левую, каб да бакханак больш падобным быць?
Дыоніс. У правую. І разам з правае нагі
Ты пачынай ісьці. Хвалю, што ты разумны стаў!
Пэнтэй. Ці мог бы я з бакханкамі сумесна
Панесьці на плячох гару ўсю Кітэрон?
Дыоніс. Ну, зразумела, так! Раней разумны
Ня быў ты, а цяпер належны розум ёсьць...
Пэнтэй. Ці ўзяць калы, ці пацягнуць рукамі
Гару, упершыся ў яе плячом?

Д ы о н і с. Каб ты не зруйнаваў сьвятога храму німфаў [50]
І месца, дзе іграе на жалейцы Пан [51]!
П э н т э й. Згаджаюся: перамагчы ня сілаю
Жанчын нам трэба... *Ў соснах я схаваюся.*
Д ы о н і с. Схаваешся ты добра – як схавацца трэба
Таму, хто хоча за бакханкамі сачыць.
П э н т э й. Здаецца мне, яны свае зрабілі ложкі
У гушчарах, куды ніхто прайсьці ня можа...
Д ы о н і с. Дык вось туды і трэба йсьці табе, як шпегу –
Ты схопіш іх,
*(Убок.)* ... калі сам схоплены ня будзеш.
П э н т э й. Ты правядзі мяне праз ўсю зямлю тэбанцаў,
Бо я адзін з усіх адважваюсь на гэта.
Д ы о н і с. Адзін працуеш ты за гэты горад;
Цяжкая барацьба цябе чакае там.
Ідзі ж за мной! Я добра правяду цябе,
А адвядзе ўжо іншы...
П э н т э й. Маці родная?!
Д ы о н і с. Ты ўзорам будзеш ўсім.
П э н т э й. На гэта я іду!
Д ы о н і с. Адтуль цябе ўжо несьці будуць на руках.
П э н т э й. Ці не аб пышнасьці маёй ты кажаш?
Д ы о н і с. У маці на руках!
П э н т э й. Мяне пышлівым зробіш ты...
Д ы о н і с. І нават вельмі!
П э н т э й. *Я ж вазьму,* чаго я варты...
Д ы о н і с. Ты грозны, і на грозныя ты йдзеш падзеі,
І славу знойдзеш ты, што дойдзе да нябёсаў!
Рыхтуйцеся, Агава й сёстры, *дочкі Кадма*:
Я юнака вось гэтага вяду
На барацьбу вялікую! А перамогу
Мець будзем я і Бромій. Справа ўсё пакажа...
*(Пэнтэй і Дыоніс адыходзяць.)*

## *СТАСЫМ ЧАЦЬВЕРТЫ*

Х о р.

**Страфа**

Вы, слугі захапленьня быстрыя,
  Ідзеце на гару хутчэй,
Дзе *дочкі Кадмавы* свой сход трымаюць!
  Вы ў захапленьне прывядзіце
Таго, хто ў *вопратцы* сваёй
Жаночы выгляд мае, –
  Шалёнага бакханак шпега!
І першая маці убачыць яго,
Як ён наглядае за імі
З скалы альбо з дрэва,
І клікаць пачне [тут] бакханак:
  Хто ж гэта з кадмейцаў,
Шпег оргій, прыйшоў на гару?!
  Бакханкі, бакханкі!
Хто ж маці яго?

Бо ён ня з крыві нарадзіўся жаночай:
Ён львіцы якой-небудзь сын
Альбо ад Гаргоны Лібійскай [52] паходзіць...
Няхай адкрыта кара прыйдзе
І меч з сабою прынясе –
Няхай яму разрэжа горла!
Няхай заб'е яна Пэнтэя,
Які багоў, законы, праўду
Ня хоча шанаваць!

**Антыстрафа**

Ў сваіх ён думках беззаконных,
Ў сваёй злабе несправядлівай
Ідзе ён, каб сачыць
за оргіямі маці роднай.
Захоплены вар'яцтвам, бога ён
Непераможнага перамагчы жадае.
Быць мудрым, пашану багам аддаваць
Належную, помніць аб лёсе сваім
Сьмяротным –
Вось шчасьця варунак праўдзівы!
Ня трэба занадта быць мудрым –
Ахвоча [ж] імкнуцца да іншых вялікіх,
Да ясных *заўжды нам правоў*,
Каб удзень і ўночы багоў шанаваць,
Жыцьцё кіраваць на дабро,
А ўсё беззаконнае прэч адкідаць!
Няхай адкрыта кара прыйдзе
І меч з сабою прынясе –
Няхай яму разрэжа горла!
Няхай заб'е яна Пэнтэя,
Які багоў, законы, праўду
Ня хоча шанаваць!

### *ЭПОД*

Зьявіся ў выглядзе быка [53]
Ці шматгаловага дракона,
Ці льва, што дыхае агнём –
Зьявіся, Бакх, здабычу дай бакханкам,
Ты з тварам радасным прыйдзі,
Накінь пятлю на зьвера
І пагані яго на сьмерць
У грамаду бакханак!

## *ДЗЕЯ ПЯТАЯ*

### ЗЬЯВА ПЕРШАЯ

*(Х о р. Уваходзіць в е с ь н і к.)*

В е с ь н і к. Род царскі, што раней па ўсёй Элядзе
Быў найшчасьлівейшы, род продка, што прыйшоў
З Сідону і ў зямлю Арэя зубы
Дракона кінуў, і жніво з людзей сабраў.
Я плачу аб табе. Я – раб, і ўсё-ткі плачу...

Х о р. Што-што? Аб чым нясеш ты вестку ад бакханак?
В е с ь н і к. Пэнтэй загінуў, бацькі Эхіона сын!
Х о р (радасна.)
***(Праод / Прадпесьня)***
Ўладар наш Бромій, бог вялікі ты!
В е с ь н і к. Што чую я? Што ты сказаў? Няўжо ж,
Жанчыны, вам пацеха, што мой цар загінуў?!

Х о р.

**Страфа**

Мы барбарскімі песьнямі чужынца славім:
Ужо ня будзем мы дрыжаць прад ланцугамі!

В е с ь н і к. Ці думаеш, што ўжо няма мужчын у Тэбах?
Х о р.
***(Мэсод / Устаўка ў песьні)***
Бог Дыаніс, бог Дыаніс, ня Тэбы –
*Ўладар праўдзівы мой!*
В е с ь н і к. Прабачна гэтае, жанчыны, вам. Аднак
Ня добра цешыцца з чужой бяды.

Х о р.

**Антыстрафа**

Але скажы ты мне: якім загінуў лёсам
Муж беззаконны, робячы няпраўды?
В е с ь н і к. Калі пакінулі мы хаты Тэб
І перайшлі раку Эсон, мы увайшлі
Ў цясьніны Кітэронскія, Пэнтэй і я.
Бо я ішоў за ўладаром, як і чужынец,
Які сумесна з намі йшоў глядзець...
Спачатку селі мы пад дрэвамі, на траўку,
Спыніўшы гук хады і языкоў,
Каб бачыць ўсё і бачнымі ня быць нікому.
Была лагчына там, навокал – скалы,
*І працякаў струмень,* і дрэвы цень давалі.
Мэнады там сядзелі й весяліліс:
Адны спаміж іх, голы тырс узяўшы,
Павоем зноў яго зялёным аздаблялі,
А іншыя, пакінуўшыя працу,
Бакхічныя сьпявалі хорам песьні...
Пэнтэй, ня бачачы бакханак грамады,
Сказаў: “Адтуль, дзе мы сядзім, чужынец,
Мэнад[аў] я ня ўбачу шумнага натоўпу...
Каб ўзьлезьці на скалу ці стромкую сасну,
Убачыў я б мэнад распусты добра!”
І бачу я тут цуд, які зрабіў чужынец:
Схапіў галіну ён сасны на самай верхавіне
І, пацягнуўшы, прыхіліў да чорнай глебы –
Як быццам лук ці кола круглае,
Сагнуў сваймі рукамі ён сасну
І прыхінуў да самае зямлі.
[Да]праўды, справу несьмяротных ён зрабіў!
Пэнтэя пасадзіўшы на галінах дрэва,

Павольна адпускаў ён, праставаў сасну
І дбаў аб тым, каб не зваліўся цар з яе.
І паднялося проста ў неба дрэва,
І на яго галінах цар Пэнтэй сядзеў,
Але хутчэй убачылі яго мэнады,
Чымся мэнад убачыў ён. І ледзьве
Зрабіўся бачны, седзячы наверсе,
І ўжо чужынца сам ня бачыў ён...
Якісь з нябёсаў голас загучэў,
І быў той голас быццам Дыаніса:
“Бакханкі, я прывёў да вас таго,
Які сьмяецца з вас, з мяне і з оргій,
І вось прыйшоў час помсты на яго!” –
Так клікаў ён, і разам між зямлёй і небам
Сьвятло агню сьвятога заблішчэла,
І змоўкла ўсё паветра, моўчкі ўсё лісьцё
Трымалася на дрэве ў лесе, і зьвяроў
Звычайныя нідзе ня чутны былі рыкі.
Уважліва бакханкі слухалі той голас:
Стаялі проста, шы́рака адкрыўшы вочы,
І зноў загад свой кінуў ён. Калі ж пазналі
Дзяўчаты Кадма, што загадвае ім Бакх,
Панесьліся яны, б[ы] галубы нясуцца...
Яны пабеглі ўсёю грамадой –
Агава-маці, й сёстры родныя яе,
І ўсе бакханкі. Несьліся яны
Праз бурны [той ] струмень, абрывы –
Дыханьнем бога кінутыя ў шал.
Калі ж убачылі яны Пэнтэя на сасьне,
[*Дык*] *пачалі яны найперш каменьнямі ў яго кідаць;*
Узьлезшы на скалу, падобную да вежы,
Сасновымі галінамі ў яго кідалі.
А іншыя кідалі праз паветра тырсы
Ў няшчаснага Пэнтэя! Але ўсё дарэмна,
Бо цар сядзеў занадта вы́сака для іх,
Ня ведаў, што рабіць, і ўніз зыйсьці ня мог...
Ў канцы, галіны дубу з сілай адламіўшы,
Яны карэньне рвалі імі, бы лама[м]і;
Калі ж і тут не дасягнулі мэты,
Агава клікнула: “Бакханкі, гэй, навокал
Сасны зьбярэцеся і галіны́ схапеце,
Каб зьвера нам узяць, што там сядзіць на дрэве,
Каб ён пата́йных оргій бога не разгаласіў!”
І пацягнулася да дрэва мноства рук,
І раптам вырвалі яны сасну з зямлі,
І як сядзеў Пэнтэй ўгары– згары зваліўся
Ён на зямлю сярод страшэнных крыкаў
І зразумеў, што блізка сьмерць прыйшла...
І першая забойства жрыца, маці, пачала –
І кінулася на яго! Ён шапку з галавы
Свае сарваў, Агава каб яго пазнала
І не забіла. Лашчачы яе шчаку,
Ён гаварыў: “Я гэта, маці, сын твой родны,
Пэнтэй, якога нарадзіла Эхіону ты.
Матуля, пашкадуй мяне, не забівай

Дзіця сваё ты за яго памылкі!”
Яна ж варочала сваймі вачыма толькі,
Таго не разумела, што было патрэбна,
Бо Бакх наслаў шаленства на яе!
І сын не упрасіў яе: яна схапіла
Рукамі левую яго руку і, ў бок
*Няшчаснага упершыся*, яна
Руку Пэнтэя адарвала, але тут
Ня моц была, а бог ёй зручнасьць даў...
Іно ж у іншых месцах цела рвала,
І Аўтаноя, і усе бакханкі...
І разам крыкі ўсіх нясьліся. Ён стагнаў,
Пакуль яшчэ мог дыхаць, а яны
Крычалі крыкам радасьці. Адна
Нясла руку, а [іншая –] нагу ў абуцьці:
З бакоў яго яны рвуць мяса, й кожная
Раскідвала крывавымі рукамі мяса тое,
І разарванае ляжыць усюды цела –
І на скала́х, і на галінах дрэў у лесе...
Нялёгка ўсё сабраць. А маці галаву
Няшчасную схапіла і надзела
На тырс, бо горным львом яна лічыла
Пэнтэя-сына. І цяпер яна нясе
Яго па Кітэрону, а сясьцёр
Яна пакінула сярод мэнад.
І, ў захапленьні ад няшчаснае здабычы,
Яна ідзе у Тэбы й кліча Бакха,
Які сумесна быў у ловах, паляваў
І перамогу даў, што сьлёзы прынясла...
Але я адыйду ад гэтае бяды
Раней, чымся сюды Агава прыйдзе.
Найпрыгажэй за ўсё быць мудрым і пабожным –
Здаецца мне, найразумнейшае багацьце
У гэтым будзе дзеля ўсіх сьмяротных.
Х о р. ***(Песьня перамогі)***
Слаўце Бакха, слаўце Бакха!
Плач пачнеце аб Пэнтэю,
Што, няшчасны, ад дракона родам быў.
Ён жаночае адзеньне
І прыгожы тырс узяў,
І на сьмерць пайшоў ён з гэтым
За быком-правадыром.
Вы, кадмейскія бакханкі,
Слаўце бога, перамогу што прыносіць:
Ӯ стогнах, ў сьлёзах моц яго!
Ӯ слаўнай бітве тэй на сына
Маці падняла руку
І крывёй яго абмыла.
*(Уваходзіць Агава, у поўным шаленстве. Яна высока трымае тырс з галавой Пэнтэя.)*

## ***ЭКСАД (ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ)***

Х о р. Вось, бачу я, ідзе сюды Агава,
Пэнтэя маці. Як страшэнна

Яна варочае вачыма! Сустракайце,
Бакханкі, хор вясёлы Бакха!
*[Уваходзіць А г а в а.]*

**Страфа**

А г а в а. Бакханкі з Азіі!
Х о р. Чаму ты клічаш нас?
А г а в а. Нясу з гары дамоў расьліну, што цяпер
Сарвала я – шчасьлівую здабычу...
Х о р. Так, бачу я і сустракаю
Таго, што разам з Бакхам быў.
А г а в а. Схапіла *вось я й безь сяцей*...
[І]льва,
Як бачыць можна...
Х о р. Адкуль ідзе?
А г а в а. То Кітэрон...
Х о р. Што – Кітэрон?
А г а в а. ...Забіў яго.
Х о р. А хто зрабіў пачатак?
А г а в а. Пачатак – мой! Я тую мела чэсьць:
Бакханкі ўславілі мяне шчасьліваю Агавай.
Х о р. Яшчэ хто іншы?
А г а в а. Кадма...
Х о р. Кадма – што?
А г а в а. Са мной, са мной *яго напалі дочкі*
На зьвера гэтага, і вось, здабычу узялі!

**Антыстрафа**

А г а в а. Удзел цяпер прымі ў вясельлі.
Х о р. Ў якім, няшчасная, вясельлі?!
А г а в а. Зьвер малады яшчэ –
На падбародку барада,
І грыва у яго густая...
Х о р. ...Падобная да грывы льва.
А г а в а. Як мудра мудры паляўнічы Бакх
Падняў усіх мэнад на ловы
За гэтым львом!
Х о р. Бо ён – ўладар-лавец.
А г а в а. Дык хваліш ты яго?
Х о р. Так-так, хвалю!
А г а в а. І хутка ўсе кадмейцы...
Х о р. ...І сын Пэнтэй...
А г а в а. Пачнуць хваліць і маці,
Што слаўную здабычу, льва, схапіла...
Х о р. Вялічную...
А г а в а. Вялічна.
Х о р. Ці ты здаволена сабою?
А г а в а. О, так! Вялікая то радасьць для мяне,
Бо я відочную карысьць зрабіла Тэбам!
Х о р. Цяпер, няшчасная, ты пакажы усім,
Здабытак твой, з якім сюды прыйшла!
А г а в а. Гэй, грамадзяне слаўных Тэб, сюды
[Ха]дзеце, каб убачыць слаўную здабычу!
Яе мы, *дочкі Кадмавы,* схапілі
Не тэсалійскімі загнутымі страламі [54],

І не сяцямі, але – голымі рукамі!
Навошта ж трэба здабываць сабе аружжа
Пасьля таго і цешыцца здабыткам гэтым?!
Схапілі зьвера мы вось гэтымі рукамі,
І цела мы яго на часткі разарвалі...
Дзе бацька мой стары? Няхай сюды ён прыйдзе!
Дзе мой сынок Пэнтэй? Няхай драбіну
Прыставіць ён да хаты, каб прыбіць
Да трыгліфаў [55] льва галаву, якога я забіла!
*(Уваходзіць К а д м, за ім с л у г і нясуць на насілках цела Пэнтэя.)*
К а д м. За мной ідзеце вы, няшчаснага Пэнтэя
Нясеце цела: тут *пастаўце, прад палацам*!
Пасьля шуканьняў доўгіх я сабраў яго
Ў цясьнінах Кітэрону... То ж было яно
Ўсё разарванае, і часткі розныя
Ляжалі ў розных месцах, на скалáх
І ў лесе, дзе шукаць было нам вельмі цяжка!
Пачуў я аб дачок маіх страшэнных дзеях,
Калі *вярнуўся* я ўжо ў сьцены Тэб
З Тырэсіем старым, прыйшоўшым ад бакханак.
Я на гару пайшоў ізноў. І вось, нясу
Пэнтэя, што памёр – бакханкамі забіты...
Я бачыў Аўтаною там, што Арыстэю
Калісьці нарадзіла Актэона,
А разам з ёй – Іно: яны яшчэ нясуцца
Ў бакхічным захапленьні па лясох.
Мне хтось сказаў, што йдзе сюды Агава
Шалёная... *Напраўду*, гэта так,
Бо [ж] бачу я яе і... жудасна глядзець!
А г а в а. Ты можаш, бацька, вельмі горды быць:
З усіх сьмяротных нарадзіў дачок
Найлепшых ты! Ўсе *дочкі добрыя,*
А я – найлепшая між іх! Бо чаўнакі
І кросны я пакінула й пайшла
На справы большыя – лавіць зьвяроў рукамі.
І вось чаму нясу ў руках я гэтую здабычу,
Як бачыш, каб павесіць на сьцяне
Твайго палацу. Бацька мой, вазьмі яе,
[Будзь горды] паляваньнем ты маім
І на банкет сяброў закліч! Бо ты шчасьлівы,
Шчасьлівы ты: зрабіла ж я такі учынак!
К а д м. Бязьмерная бяда!!! Ох, бачыць немагчыма
Забойства, што няшчасныя зрабілі рукі...
Прыгожую ж афяру ты дала багам
І клічаш ты мяне і Тэбы на банкет!
Абое мы няшчасныя – і ты, і я.
Як справядліва пакараў нас бог,
Вялікі Бромій, але як страшэнна!...
А г а в а. Стары заўсёды штось павінен мармытаць,
І *ён заўжды на ўсё глядзіць панура*.
Каб сын мой быў такі шчасьлівы ў ловах,
Падобны да мяне, калі ён з юнакамі
Тэбанскімі палюе на зьвяроў,
Але з багамі толькі ён змагацца хоча –
Павінен, бацька, ты яго пераканаць...

Хто ж да мяне яго сюды закліча,
Каб ён мяне, шчасьлівую, убачыў?
К а д м. Ох, гора, гора! *Дочкі вы* мае,
Калі ўжо зразумееце, ***што*** вы зрабілі,
Страшэнна гараваць пачнеце вы!
Калі ж застанецеся вы ў шаленстве,
Ў якім цяпер вы ўсе, няшчасныя,
Сябе шчасьлівымі вы будзеце лічыць...
А г а в а. Што ж дрэннае і сумнае у гэтым ёсьць?
К а д м. Ты падымі найперш да неба вочы...
А г а в а. Ну, вось... Чаму ты кажаш мне глядзець на неба?
К а д м. Ці тое ж самае яно? Альбо здаецца
Табе, што там якіясь зьмены ёсьць?
А г а в а. Яно яшчэ ясьней блішчыць і зьзяе.
К а д м. Шаленства ёсьць яшчэ ў душы тваёй...
А г а в а. Што гэта значыць? ...Але мне здаецца,
Што я ўжо пачынаю разумець ,
Што адыйшла я ад ранейшых думак...
К а д м. Ці чуеш ты? Ці ясна мне адкажаш?
А г а в а. Забылася на ўсё я, бацька мой,
Аб чым з табой раней мы гаварылі.
К а д м. У чый ты дом прыйшла [тады, як брала] шлюб?
А г а в а. Аддаў мяне ты Эхіону, кажуць...
К а д м. Які ж у Эхіона нарадзіўся сын?
А г а в а. Пэнтэй, яго і мой... наш родны сын.
К а д м. Чыю ж трымаеш галаву ў сваіх руках?
А г а в а. Льва галаву... казалі так мэнады мне.
К а д м. Глядзі ж цяпер, глядзі! Няцяжка распазнаць...
А г а в а *(глядзіць на галаву сына і пазнае яго.)*
Ох, гаранька, бяда мне! [І] што бачу я?
Што ж гэта я нясу ў руках сваіх?
К а д м. Глядзі, глядзі: ясьней пазнай яго!
А г а в а. Ох, гора ж я, няшчасная, якое бачу!!!
К а д м. Няўжо ж табе здаецца ён да льва падобны?
А г а в а. Не, не! Трымаю я Пэнтэя галаву!
К а д м. Я плакаў ўжо аб ёй раней. чым ты пазнала...
А г а в а. Хто ж, хто забіў яго?! Ў мае ён рукі як папаў?
К а д м. Ох, праўда горкая, якая ты цяжкая!...
А г а в а. Кажы... каб сэрца білася ня так страшэнна.
К а д м. Ты з сёстрамі тваймі яго забілі разам.
А г а в а. Дзе ж [згінуў ён – у хаце, ў] іншым месцы?
К а д м. Там, дзе раней сабакі Актэона разарвалі.
А г а в а. Чаго ж прыйшоў, няшчасны, ён да Кітэрону?
К а д м. Сьмяяўся з бога ён, з тваіх бакханак разам.
А г а в а. Якім жа чынам мы туды папалі?
К а д м. Ў шаленстве вы былі, дый горад ўвесь
Захоплены шаленствам быў бакхічным.
А г а в а. Нас Дыаніс згубіў – цяпер я разумею...
К а д м. Сьмяяліся з яго вы, богам не лічылі.
А г а в а. Дзе ж цела сына мілага майго, мой бацька?
К а д м. Знайшоў яго я ледзьве й вось, прынёс...
А г а в а. Ці добра ты сабраў яго й злажыў?
. . . . . . . . (пропуск у рукапісах)
Пэнтэй такі ж быў неразумны, як і я.
К а д м. Ён быў да вас падобны: бога ён

Не шанаваў, і бог усіх пагнаў ў адну бяду –
Вас і яго. *І ўвесь наш дом ён загубіў,*
Мяне таксама – што сыноў ня маю.
Твайго, няшчасная, я сына бачу,
Які загінуў так ганебна і балюча.
То ж на цябе *ўвесь дом глядзеў*, маё дзіця,
Ты быў яго падпорай, сын мае дачкі,
Пагрозай грамадзянам быў. І ўжо ніхто
З старога не сьмяяўся, бачачы цябе,
Бо кару *атрымоўваў ён* належную.
Цяпер з айчыны буду я ганебна
Выгна́ны – я, вялікі Кадм, які
Тэбанцаў род пасеяў і сабраў
Прыгожае жніво. Ох, мілы мой!
Цябе ужо няма, але заўсёды будзеш
З усіх людзей ты для мяне найдаражэйшым...
Ня будзеш лашчыць ўжо рукой мой падбародак
І з ласкай дзеда абыймаць і гаварыць:
“Дзядуля, хто ж адважыцца цябе пакрыўдзіць
І хто адважыцца цябе зьняважыць?
Дзе той, які дзядулю сэрца засмучае, –
Скажы, дзядуля: я злачынцу пакараю!
Цяпер бяздольны я, няшчасны ты,
І маці бедная, гаротніцы і сёстры!
Затое ўжо, калі існуе чалавек,
Які ў багоў ня верыць, вось – на сьмерць яго:
Няхай глядзіць і пачынае верыць!
Х о р. Шкада цябе нам, Кадм! Але ж унук твой
Належна пакараны быў, табе на гора...
А г а в а. Ты бачыш, як зьмянілася я, бацька...
. . . . . . .(пропуск)
*(Уваходзіць Д ы о н і с, ужо як бог.)*
Д ы о н і с. . . . . . . .(пропуск)
*Абернешся ў дракона ты* й таксама жонка
Твая Гармонія, дачка Арэя [56],
[Аб]ернецца у зьвера й зробіцца драконам.
На калясьніцы, як прароцтва Зэўса кажа,
Паедзеш з жонкай ты да барбараў і будзеш
Царом у іх. І з незьлічоным войскам
Шмат гарадоў зруйнуеш ты. Калі ж зрабуюць
Аракул Апальлёна [57] барбары, [вяртаньне]
Да бацькаўшчыны іх няшчасным будзе.
Цябе ж з Гармоніяю вызваліць Арэй,
Ӯ зямлю шчасьлівых ён цябе навекі ўселіць.
Кажу табе [пра] гэта я, Дыоніс,
Сын несьмяротнага, або самога Зэўса!
Калі б вы мудрыя былі, чаго [б] вы не хацелі,
*Былі б шчасьлівыя вы*, бо *Зэвэса* сына
*Вы б набылі* саюзьнікам *і* сябрам!
А г а в а. Даруй нам, Дыаніс! *Даруй жа нам наш грэх!*
Д ы о н і с. Пазналі позна вы мяне: раней
Ня верылі ў мяне, калі было патрэбна!
А г а в а. Ӯжо ведаем, але занадта строгі ты.
Д ы о н і с. Але ж зьняважвалі мяне вы, бога!
А г а в а. Дык не павінны быць падобнымі багі

Ў сваім вялікім гневе да сьмяротных.
Д ы о н і с. Даўно ўжо Зэўс, мой бацька, так пастанавіў...
А г а в а. Дык скончана усё: выгнаньнікі мы, бацька!
Д ы о н і с. Што ж доўга думаць нам аб тым, што быць павінна?
К а д м. Дзіця маё, ў страшэнную бяду папалі мы:
І ты бяздольная, і сёстры разам.
А я пайду да барбараў, бяздольны
Стары чужынец... Ды яшчэ прароцтва ёсьць,
Што я ў Эльляду войска павяду,
Якое з барбарскіх плямёнаў розных будзе.
І я Гармонію, дачку Арэя, жонку
Маю, дракон – дракона, павяду
На эльлінскія алтары й магілы.
Калі я дзіданосцаў буду весьці,
Ня збаўлюся, бяздольны, я ад бед;
Ня буду я спакойны нават і тады,
Калі пераплыву падземны Ахэронт [58].
А г а в а. Татуля мілы мой! Ў выгнаньне безь цябе
Пайду я і цябе ня буду мець ужо...
*(Абдымае яго.)*
К а д м. Што ж абыймаеш ты мяне, старога,
Бяздольнае дзіця, як быццам лебедзь белы?..
А г а в а. Куды ж зьвярнуцца мне, выгнанай з бацькаўшчыны?
К а д м. Ня ведаю, дзіця! Слабы памочнік бацька твой...
А г а в а. Мой мілы дом, бывай здаровы!
Бывай здаровы, горад родны!
Я пакідаю вас сабе на гора,
Выгнаньніца з айчыны...
К а д м. Ідзі ж цяпер, маё дзіця...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А г а в а. Я плачу аб табе, мой бацька!
К а д м. І я таксама плачу аб тебе, дзіця,
І аб тваіх я плачу сёстрах!
А г а в а. Страшэнную, страшэнную наслаў
Бог Дыаніс на дом твой ганьбу...
К а д м. І ён ад вас цярпеў страшэнна:
Ня меў пашаны ён у Тэбах.
А г а в а. Бывай здаровы, бацька мой!
К а д м. Бывай і ты здарова,
Няшчасная дачка мая,
Калі здаровай можаш быць цяпер...
*(Павольна адыходзіць.)*
А г а в а. Вы, [с]падарожнікі мае, хадзем –
Нагонім мы сясьцёр няшчасных,
Што йдуць са мной ў выгнаньне разам.
Хацела б я пайсьці туды,
Адкуль мяне б ня ўбачыў
Страшэнны Кітэрон...
І я б ня бачыла яго сваймі вачыма,
Дзе не было б аб тырсе й напамінку –
Няхай яны сабе шукаюць
Бакханак іншых!
*(Адыходзіць.)*
Х о р. Выгляды розныя багі прымаюць,
Шмат нечаканага робяць людзя́м.

Чаго мы чакаем, то не стаецца...
Шлях, нам няведамы, богі знаходзяць,
І гэтая справа адбы́лася так.

**УВАГІ:**

1. ДЫАНІС. Яго іншыя імёны – ***Бакх, Якх, Бромій, Эвій*** і інш. Першапачаткова ён увасабляў расьлінную моц прыроды: яго сьвяты былі сьвятамі зямное ўрадлівасьці. Рэлігія Дыаніса ўзьнікла ў Азіі – можа быць, нават у Індыі – і праз [краі]ны Пярэдняе Азіі (Пэрсію, Мэсопотамію, Арабію, Малую Азію) перайшла ў Грэцыю. Пазьней Дыаніс стаў лічыцца богам віна, бо культура вінаграду ў Грэцыі, беднай хлебам, мела аграмаднае значэньне. Галоўным элемэнтам сьвятаў Дыаніса былі "оргіі" – шалёныя скокі пад шумную музыку тымпанаў і флейт, даходзіўшыя да экстазу, калі чалавеку здавалася, што яго душа пакідае цела і ўносіцца ў іншыя сьветы. "У VIII і VII ст. рэлігія Дыаніса ў віры шалёных скокаў пранеслася па Грэцыі, якую яна заваявала ўсю, захапіўшы мужчын-бакхантаў, а асабліва жанчын-бакханак, на горныя аргады (паляны), каб там у плюшчовых вянках з тырсамі (кіямі, абвітымі вінаградам і плюшчом) у руках і з "нэбрыдамі" (аленьнімі скурамі) навокал цела шанаваць карагодамі новага бога (Зелінскі Ф.Ф., проф. Історія античной культуры.). Асаблівую пашану давалі Дыанісу ў Тэбах, дзеля чаго яны і пачалі лічыцца бацькаўшчынай Дыаніса (быццам ён – сын Сэмэлы, дачкі цара і закладчыка Тэб Кадма).

2. ДЫРКЭ – крыніца на захадзе, а ІСМЭН – крыніца на ўсходзе Тэб.

3. ГЭРА – сястра й жонка Зэўса, багіня сям'і, сямейнага саюзу. Гнеў яе на Сэмэлу тлумачыцца рэўнасьцю, бо Сэмэла ад Зэўса мела сына (Дыаніса).

4. ТМОЛ – горы ў Лідыі, на захадзе Малой Азіі, адкуль у Грэцыю перайшоў культ Дыаніса.

5. ТЫМПАН – інструмэнт, падобны да бубна.

6. РЭЯ, альбо КІБЭЛА, – малаазійскае боства, таксама ўвасабляўшая ўрадлівасьць зямлі; вялікая маці багоў – як яе называлі ў М[алой] Азіі. Культ яе меў таксама містычны і экстатычны характар.

7. [Гл.] ув. 6.

8. МОЙРЫ – багіні лёсу, уладзе якіх падлягалі ня толькі людзі, але й багі.

9. Дыаніс часам выабражаўся з рагамі быка – як бог зямное ўрадлівасьці.

10. МЭНАДЫ (ШАЛЁНЫЯ), або БАКХАНКІ, – жанчыны, аддаўшыяся культу Бакха.

11. КУРЭТЫ, або КОРЫБАНТЫ – жрыцы на востраве Крэце, якія ўзгадавалі маленькага Зэўса. Бацька[м] яго быў Кронос, а маці – Рэя (гл. ув. 6). Калі Рэя нараджала дзяцей, Кронос іх глытаў і так праглынуў пяцёх: Гадэса, Посэйдона, Гэру, Гэстылю і Дэмэтру. Калі нарадзіўся Зэўс, Рэя дала Кроносу камень, завінуты ў пялёнкі, а дзіцёнка аддала курэтам на Крэту. Калі Зэўс узрос, ён адняў у Кроноса ўладу, скінуў яго з неба ў падземнае царства, а перад тым прымусіў выбляваць назад прыглынутых раней братоў і сясьцёр Зэўса.

12. Гл. ув. 11.

13. Гл. ув. 11.

14. САТЫРЫ – [с]падарожнікі і таварышы Дыаніса. Яны мелі выгляд людзей з рагамі на галаве і нагамі казлоў.

15. АФРАДЫТА – багіня жаночага хараства і каханьня.

16. АКТЭОН – сын Аўтоноі. Ён быў палкі паляўнічы і асабліва дзеля гэтага шанаваў багіню Артэміду. Але ён захацеў убачыць Артэміду, як яна купаецца ў возеры разам са сваймі німфамі. За гэта Артэміда зьмяніла яго ў аленя, і ён быў разарваны ўласнымі сабакамі. Па другому міту такая кара была яму дадзена за тое, што ён пачаў лічыць сябе ў паляваньні вышэй за Артэміду.

17. ДЭМЭТРА – "маці-зямелька", багіня зямлі, яе ўрадлівасьці; багіня сельскае гаспадаркі.

18. ДЭЛЬФІЙСКІЯ СКАЛЫ – скалы гары Парнас, дзе знаходзіўся горад Дэльфы з вядомым па ўсёй Грэцыі храмам і аракулам Апольлёна. Оргіі Дыаніса пачалі адбывацца на Парнасе параўнальна позна, калі Дыаніс зрабіўся богам ужо выключна віна.

19. ФЭБ, альбо АПОЛЬЛЁН, упамінаецца тут дзеля таго, што Парнас і Дэльфы былі галоўным месцам, дзе яму аддавалася пашана.

20. Гл. ув. 16.

21. ГОСІЯ – "сьвяты закон і сьвяты звычай у адносінах людзей да багоў, асабліва адносна служэньня багам і шанаваньня іх. Тут гэты закон увасоблены як багіня, якая абараняе законы шанаваньня багоў". (Гл. коммэнтарыі да "Бакханак").

22. ЭТЭР – слой прасторы над паветрам, каля самога неба. Часам этэр і неба – сінонімы.
23. КІПР – месца, дзе Афрадыта мела асаблівую пашану (вядомы храм у горадзе Пафосе), дзеля чаго яна часта называецца Кіпрыда.
24. ЭРОТ – бог каханьня, сын Афрадыты.
25. ПІЭРЫЯ – краіна ў Тэсаліі, на граніцы з Македоніяй, дзе ўзьнік культ муз, багінь навук і мастацтваў, і адкуль у Тэбы перайшоў культ Дыаніса.
26. ОЛІМП – найвышэйшая гара ў Грэцыі (у Піэрыі), дзе жылі галоўныя багі.
27. ХАРЫТЫ, чыслом тры, – таварышкі Афрадыты, багіні жаночае прыгожасьці.
28. ЭЙРЭНЭ – багін[я] згоды і [с]пакою.
29. Калі адсутнічае Эйрэнэ і ўладу сваю выяўляе бог вайны Арэй, тады гінуць юнакі (воіны) у бітвах, а жывуць яны ў спакоі і цешацца жыцьцём калі мае ўладу Эйрэнэ.
30. САРДЫ – галоўны горад у Лідыі, на захадзе Малой Азіі.
31. Імя “ПЭНТЭЙ” паходзіць ад слова “пэнтос”, якое азначае “гора”, “бяда”, “сум”, “смутак”.
32. АХЕЛОЙ – рака ў сярэдняй Грэцыі.
33. Адно з імёнаў Дыаніса. Так называліся і песьні на чэсьць Дыаніса, а таксама і іншых багоў.
34. ГІГАНТЫ – волаты, у якіх замест ног былі аграмадныя вужакі.
35. У грэцкай мітолёгіі шмат у якіх месцах пералічваюцца горы з імем НІСА: у Фокідзе, на востраве Эўбеі, [у] Тракіі, Арабіі, Індыі, Этыопіі. Усе гэтыя Нісы стаялі ў сувязі з культам Дыаніса, імя якога нават выводзілі ад назов[у] “Ніса”.
36. КАРЫКІЙСКІЯ – Парнаскія. У адным з адрогаў Парнасу ёсьць сталяктытавая пячора Корыкіён, у якой яшчэ дагэтуль захаваўся антычны алтар, прысьвечаны богу Пану і німфам.
37. ОРФЭЙ – мітычны сьпявак і кітарысты. На гукі яго сьпеваў і музыкі зьбіраліся дзікія зьвяры і дрэвы пераставалі шумець сваім лісьцем. Орфэю прыпісваюцца розныя рэформы ў культе Дыаніса.
38. КІТАРА – шматструнны інструмэнт з драўлянаю рэзонанс[н]аю скрынкай.
39. ПІЭРЫЯ: гл. ув. 25.
40. ЭВІЙ – адно з імёнаў Дыаніса (ад поклічаў на яго чэсьць “эвоэ!”). Гл. ув. 1.
41., 42. Рэкі ў Македоніі.
43. У сваім шаленстве Пэнтэй прыняў быка за Дыаніса, тым больш што Дыаніс часам меў на галаве рогі, як і сатыры (гл. увагі 9 і 14).
44. КІТЭРОН – пакрытая лесам гара на граніцы паміж Аттыкаю і Бэотыяй (Тэбанскаю зямлёй).
45. ЭСОП – рака каля Тэбаў.
46. Мясцовасьці каля Тэбаў.
47. Адна з Тэбанскіх брам, якіх усяго было сем, дзеля чаго Тэбы называліся сямёхбрамнымі.
48. ГАДЭС – бог падземнага царства, дый самае гэтае царства. “Пайсьці да Гадэса” значыць памерці.
[49.] *(у рукапісе заўвага адсутнічае.)*
50. НІМФЫ – багіні крыніц, ручаёў (наяды), гор (орэады), дрэў (дрыяды). Увасабленьне сіл прыроды.
51. ПАН (“усё”) – вясковае боства.
52. ГОРГОНЫ – страшэнныя мары, якія жылі за Лібіяй, дзесь на захадзе, на канцы сьвету, на якіхсь астравах.
53. Гл. ув. 9.
54. Вынаходка стрэл і дзідаў прыпісвалася тэссалійцам.
55. ТРЫГЛІФЫ – будаўніцкія асобы на сьцяне, ніжэй даху.
56. АРЭЙ – страшэнны бог вайны.
57. АРАКУЛЫ – месцы варажбы, дзе даваліся людзям прароцтвы і адказы ад імя багоў на іх розныя запытаньні. Аракул Апольлёна ў Дэльфах каля гары Парнасу – найвядомейшы ўва ўсёй Грэцыі аракул.
58. АХЭРОНТ – рака ў падземным царстве і сінонім гэтага царства.

Валерый Гапееў



...чаму сябруюць азербайджанцы –
«дух» і «дзед», і толькі рускія
ды беларусы чмыраць адзін другога?..

# Армейскі блакнот

***Аўтабіяграфічнае***

Кажуць, што армія – добрая школа жыцця. Так, менавіта для мяне яна такой і стала. Пасля цяплічных умоў навучання ў Мінску 80-х гадоў, пасля інтэрната каледжа сувязі на былой Падлеснай, пасля прачытаных кніжак, казахстанская рэальнасць аглушыла мяне. У адзін вечар я пабачыў наркаманаў, удыхнуў ні з чым не параўнальны пах анашы, даведаўся пра кошт мясцовых прастытутак і пра тое, што гандляры півам ніколі не даюць рэшты. А армія дабіла тое на самай справе крохкае маё перакананне, што светам правіць дабрыня і прыгажосць. Рэальнасць абрынулася такой жорсткай, бязлітаснай хваляй, што я задыхаўся ў адчаі – кажу гэта шчыра. Што ўратавала тады? У нейкі момант мне падумалася, што я некалі напішу пра ўсё. І таму стала важна выжыць, захаваць годнасць, каб чуць, бачыць, запамінаць. Дзіўна, але да таго моманту я і не думаў пісаць прозу. І многа, вельмі многа часу прайшло, калі тая рэальнасць, як адкрытая рана, зацягнулася першай тонкай плеўкай эмацыйнага забыцця. Калі можна проста ўспамінаць, а не перажываць наноў тыя дні.

## Муштук папяросы

У армію мяне забіралі з Балхаша (Казахстан), дзе я працаваў тады майстрам у вучылішчы. І праводзіны ладзілі мне ў вучылішчы чужыя, па сутнасці, людзі, не маці і бацька. І на зборным пункце я быў без адзінага знаёмага.

Цыгарэты казахстанскія курыць было немагчыма – яны былі круглыя, ніяк не мог трымаць, з фільтрам цыгарэт не было ўвогуле, то я прывучыў сябе да папярос "Волна". Мякчэйшыя за наш "Беламор".

У групе ў мяне было некалькі хлопцаў пасля арміі, курылі. І папяросы таксама. (Ну, папяросы былі і для іншай мэты – "касяк" забіць зручна і хутка.) Муштук папяросы я складваў так, як мой бацька – гармонікам. А неяк падглядзеў, як адзін з маіх навучэнцаў (хлопец пасля арміі) робіць: мезенцам другой рукі акуратна загінае унутр палову муштука з яго канца. Паўмесячык на канцы атрымліваўся. Паспрабаваў і я – спадабалася, то так і прывык.

...Аднаму, без адзінага знаёмага ці сябра, пачуваць сябе ў перапоўненым вагоне добра падпітых прызыўнікоў было не вельмі ўтульна. Ад'ехалі ад Балхаша – пачаліся п'янкі. Падышоў да мяне адзін, вочы пукатыя (то ад анашы):

– Давай вып'ем!

– Не п'ю, і няма за што.

– Як няма? Праверыць можам...

Але тут яго цікавасць прыцягнуў хлопец насупраць, які спытаў на сваю галаву, дзе можна купіць гарэлку...

Бліжэй да ночы пачаліся грабяжы. Хто не аддаваў грошы адразу – таго білі. Паступова я зразумеў, што ў вагоне гаспадараць дзве групоўкі, якія падзялілі вагон напалам і "трасуць" астатніх па чарзе. Я сядзеў у сярэдзіне вагона, то да мяне чарга пакуль не дайшла...

Пайшоў курыць у тамбур. Хоць было страшна, але курыць хацелася больш.

Ідучы праз п'яны вагон, заплюваны, заліты ванітамі, танным вінам, гарэлкай, думаў пра тое, што яшчэ ўчора я ляжаў вольна ў пакоі і чытаў. А цяпер... Цяпер перада мной была сцяна нечага страшнага, незразумелага, такога чужога, як быццам іншаземнага. Але цалкам рэальнага найперш сваёй жорсткасцю. І адначасова ўжо не верылася, што за вокнамі гэтага дзікага вагона можа быць іншы свет, і цяпер усё, што было да моманту пасадкі, здавалася якраз нерэальным.

У тамбуры было хлопцаў шэсць, п'яных у рознай ступені. Сустрэлі мяне здзіўлена-задаволеным гулам, у якім выразна чулася: "Сам прыйшоў!" Я стаў у вольны куток, дастаў папяросы. Адзін з хлопцаў ступіў да мяне крок, і позірк яго быў больш зразумелы, чым надпіс на вагонным акне "Не открывать!"

"Аддам", – развітаўся я ў думках са сваімі двума чырвонцамі. Быць збітым і валяцца на падлозе ў ванітах – хіба гэта каштуе больш?

– Ты адкуль?

Мабыць, хлопец хацеў выглядаць інтэлігентным рабаўнікам. Сцэнар далейшай размовы ўгадваўся без праблем, таму і адказаў я, каб больш не пытаўся, а пераходзіў адразу да "справы".

– З Беларусі. Па размеркаванні. У Балхашы працаваў. У вучылішчы.

Дастаў папяросу, ужо звычна прыгнуў мезенцам муштук, прыпаліў.

Хлопец тарганууўся.

– Каната ведаеш?

У інтэрнаце вучылішча выхавацелем працаваў казах Канат, мы нават крыху пасябравалі, таму я кіўнуў, не перапытваючы, пра якога Каната гаворка – якая розніца?

Хлопец адышоў. Дакурваў я ў адзіноце, без усякіх думак.

У маіх суседзяў глыбокай ноччу сабралі даніну.

Мяне быццам не заўважылі...

На размеркавальным пункце нас застане вестка пра смерць Брэжнева. І мы тут прабудзем доўгіх пяць дзён. Тут будзе амаль гэтак жа, як і ў поездзе: бандзюкаватыя, абкураныя анашой хлопцы будуць "трэсці" ўсіх, хто ўяўляўся ім слабейшым, у пошуках грошай, ежы, таннага адэкалона. Але мяне ніхто не зачэпіць. Я буду здагадвацца аб прычыне, а потым, ужо ў войску, мне патлумачаць, што вось такі характэрны загіб муштука папяросы – асаблівы знак вельмі ўплывовай балхашскай наркатычнай групоўкі.

## Брытва

Кожны ранак сяржант перад сталовай правярае строй і праводзіць далонню па тварах. Не будзе гладка – ад рэзкага ўдару складзешся папалам, а то і ручніком паголяць... І раніцай курсанты дзяруць шчокі і бароды тупой "Нявой".

Пяты дзень я ў вучэбцы. У нашым узводзе больш рускіх, многа казахаў, ёсць узбекі, туркмены, два латышы, адзін літовец, адзін беларус – я. Яшчэ некалькі азербайджанцаў. Яны і па ўзросце некаторыя старэй за нас, і па выглядзе большасць – мужчыны ўжо. Ім галіцца – мама дарагая.

За мной з раніцы чарга – я прывёз электрабрытву. Добрая, плаваючыя нажы.

Падхопліваемся па пад'ёме, зарадка... Купка азербайджанцаў за вуглом казармы пакурвае – сяржант не можа нічога зрабіць, яны лыпаюць вачыма: "Камандзір, болна тут..." – паказваюць ногі, жываты. Сяржант насядае – на яго раптоўна коратка рыкаюць так, што ён адступаецца.

Прыбягаем у казарму. Мая тумбачка адчынена, адзін азербайджанец голіцца маёй брытвай.

– Ты б папытаўся для пачатку, – заўважаю я яму.

– Э, ты что хочэш?

– Чаму без дазволу бярэш не сваё?

– Я брацъ? Гдзе я брацъ? Мая брітва, сам прывёз.

Я абязброены такой нахабнай хлуснёй. Азіраюся – але тыя хлопцы, з кім ужо трохі сышліся, нібыта не бачаць і не чуюць.

Чуюць толькі азербайджанцы. Вакол мяне з'яўляецца адразу трое.

– Ты чэго на брата, а? Ты брата ворам абазвал, да? Ответіш, да?

Азербайджанец заканчвае галіцца, спакойна складвае брытву ў футарал і кладзе сабе ў тумбачку за спінамі трох сваіх "братоў". Гучыць каманда строіцца – курсанты выскокваюць з кубрыка, я паварочваюся і адчуваю рэзкі ўдар у спіну. Азербайджанец цэліць у мяне позіркам, ціха шыпіць: "Зарэжам, сука..."

Гэта папярэджвае, каб не скардзіўся афіцэру.

Азербайджанцы хутка выходзяць з-пад кантролю ва ўсіх узводах. Тады фарміруецца асобны ўзвод з адных азербайджанцаў і сяржанта-азербайджанца ставяць над імі. Ад ранку там крыкі і спрэчкі: трэба ж займацца ранішняй уборкай.

Курсанты баяцца ў гэты час праходзіць міма кубрыка азербайджанцаў – у любы момант схопяць і прымусяць убіраць памяшканне. Гэта называецца "прыпашуць".

Мне так яднацца няма з кім. Рускія хлопцы самі дзеляцца: масквічы не любяць усіх астатніх, казахі – узбоч, узбекі зусім ціхія. Толькі тры прыбалты трымаюцца разам і стаяць адзін за аднаго.

## Пякотка

Голад – гэта пачуццё валодала над усімі іншымі пачуццямі.

“У сталовую бягом марш!” – і натоўп нясецца за сталы. Першыя хапаюць з талеркі цукар, белы хлеб, рэшткі масла... Апошнім застаецца чорны хлеб. І каша. Халодная, незразумела з якіх круп. Калі глыбока апусціць чарпак, то яна дастаецца з кацялка ўся адразу. Невысокага росту, худы, шырокавухі Саід, казах, не паспявае ніколі нават у сярэдзіну стала. Яго адціраюць, адціскаюць, адштурхваюць. Тут няма сяброў – тут усе хочуць есці.

Але тым, хто сядзіць з краю, ёсць выгода. Калі гучыць каманда “Пасуду на край стала” – час Саіда. Ён хапае брудныя талеркі, нясе ў пасудамыйку. А там – стол хлебарэза. Саід піхае за пазуху кавалкі чорнага хлеба. Яго тут многа – сяржанты ядуць толькі белы, то чорнага хлеба хапае.

На занятках Саід раздае хлеб усім, хто просіць. Просяць усе. Саід сядзіць са мной побач. Ён жуе скарынку і мне раіць есці менавіта скарынкі – чорныя, абгарэлыя. “Яны прапечаныя”. Мы размаўляем пра космас. Я не вывучаў астраномію, а Саід жыў у Ленінску – той самы Байканур. То ён космасам хварэе.

Боль у грудзях з’яўлялася паступова, быццам хто паклаў мяне і зверху нечым ціснуў. Пераставаў дыхаць – як быццам лягчэла, дыхнеш – і ўсё пякло. Боль стаў невыносным. Ажно галава кружылася. Такі боль у грудзях я адчуў упершыню. І спалохаўся.

– То пякотка, – спакойна патлумачыў Саід. – Скарынкі еш. А ад такога хлеба заўсёды пячэ.

Пякло ва ўсіх. Мы курылі на перапынках, трымаючы далонь рукі над цыгарэтамі, каб не ўпаў на зямлю цыгарэтны попел – яго мы елі ад пякоткі. Майму сябру, Воўку, не шанцавала: хлеба ён еў многа, бо быў здаровы хлопец, займаўся самба, а не курыў. Мы дзялілі з ім попел напапалам ад адной маёй цыгарэты.

## Днявальны

Ім я быў за час у вучэбцы адзін раз.

На калідоры ў нас ляжаў лінолеум, то гэта была бяда: прабяжыць рота на пастраенне – падлога чорная. Церлі без перапынку.

Вечар, рота пайшла ў кіно, бяру анучу ў рукі – пайшоў мыць. Рукавы хэбэшкі падкасаў, каўнерык расшпіліў – працую ж.

Ужо заканчваў мыць, як зайшоў “дзед”-сяржант. Паўнаваты, гэткі збіты мацак. Маладых ён ніколі не крыўдзіў, зрэшты, не яго гэта была справа – на тое былі сяржанты першага года службы. Але тут ён пабачыў мяне і ўскіпеў.

– Ах ты...

Я падхапіўся, стаяў разгублены перад ім з мокрай анучай. У наступнае імгненне атрымаў удар пад дых, потым – зверху па шыі.

Я нічога не разумеў, удары сыпаліся адзін за другім.

– Ты як стаіш перад сяржантам? – зароў ён, і тады я зразумеў: расшпілены каўнерык, закасаныя рукавы – вось што было прычынай.

Парушэнне статуту нашэння формы...

Было крыўдна. Невыносна крыўдна. Калі цябе збіваюць толькі за тое, што ты закасаў рукавы, каб памыць падлогу...

Недзе ў час ночы нас паднялі па трывозе, пастроілі, правялі пераклічку. Зверху над намі, на другім паверсе чулася тупаценне ног, нейкія крыкі, ляскалі ўваходныя дзверы – мы адчувалі, што ў першай роце, над намі, нешта здарылася. Мо хто ўцёк...

Не ўцёк – малады баец засіліўся ў прыбіральні. Позна пабачылі, не ўратавалі.

Назаўтра я стаяў на тумбачцы, калі да мяне падышоў той самы "дзед"-сяржант. Я выцягнуўся "смірна", а ён усміхнуўся нечакана спагадліва:

– Усё нармальна, бульбаш! Хутка стане лягчэй. Вернешся ў сваю Беларусь...

З гэтага ранку ў сталовую запускалі па шарэнгах, за кожным сталом стаў сядзець сяржант і назіраць за тым, каб цукру і кавалка белага хлеба хапіла ўсім.

Але голад пераследаваў нас яшчэ месяцы два.

## Зорны час

Не обещай, не надо – просто жди.
А не дождешься – я винить не буду.
Бывают летом скучные дожди,
И теплыми зимой бывают вьюги.

Бывает, дожидаются, коль ждут.
Два года на двоих – служба короче.
Ты только жди и отведи беду,
Что нам с тобою кто-то напророчил...

Сяржант-гадок чытае ўголас верш з майго блакнота на вячэрняй паверцы – ідзе праверка блакнотаў (так, правяраліся блакноты, мала ці што мы там напішам...).

– Фіга сабе... Гапеіч, чаму ў мяне няма такога верша?

– Толькі сёння напісаў, таварыш сяржант!

– Напісаў? Сам ці што? Каму лапшу вешаеш?

– Ніяк не!

– Фіга сабе...

Назаўтра на занятках верш перапісваюць сабе ў блакноты многія з курсантаў узвода. Зампаліт выклікае да сябе ў кабінет, гаворыць, што трэба напісаць верш у дывізіённую газету. Пішу. Верш з фотаздымкам хутка з'яўляецца на старонцы:

Мне люди однажды «Спасибо» не скажут
За то, что 730 дней их берег.
Но я не обижусь – ведь должен же каждый
Оставить однажды отцовский порог.
Надеть должен каждый шинель с сапогами,
Дорогой солдата два года пройти
И вбить каблуками подбитыми в память
Солдатской просоленной песни мотив.

(І ў маім дэмбельскім альбоме такія радкі. Яны зажывуць сваім асобным жыццём – я сустрэну іх у альбоме салдата, які будзе служыць на 10 гадоў пазней.)

Карацей, да мяне прыходзіць слава паэта.

Узвод на вячэрняй рэпетыцыі страявой песні, а я сяджу ў ленінскім пакоі – пішу верш, "пажынаю плады" сваёй славы. Сёння на занятках "дзед"-сяржант гадзіну расказваў мне (і ўсяму ўзводу) пра сваё каханне, пра спрэчку з дзяўчынай перад адпраўкай, пра тое, як пасварыліся. Маці піша яму, што дзяўчына пытаецца асцярожна пра яго ўсе паўтара года. Але сама ліст не напісала, і ён з гонарам. Мне пастаўлена задача: напісаць ліст у вершах. Каб і гонар захаваць свой, і каб адказала. Каб было "прыкольна", але і сур'ёзна.

"Дзед" сядзеў яшчэ з паўгадзіны са мной. Я задаваў яму пытанні, ён адказваў, часам ніякавеючы. І нечакана зніклі пагоны і сцены казармы – перада мной быў

звычайны хлопец са сваёй бядой, амаль равеснік (я ж пайшоў служыць пазней за сваіх аднагодкаў).

Ліст у мяне атрымаўся. Цёплы, трохі іранічны, трохі смешны, але сур'езны. І ясенінскае заканчэнне а-ля "Письмо к женщине". (Зрэшты, я садраў і памер верша)

...Мяне паднімаюць адразу пасля адбою, клічуць у капцёрку. Іду, ліхаманкава пералічваючы ў думках свае грахі за апошнія дні, бо калі клічуць сяржанты пасля адбою ў капцёрку – справа сур'ёзная. Можна прама з капцёркі адправіцца ў шпіталь з адбітымі ныркамі, можна ўсю ноч чысціць лязом унітазы, можна мыць ці прасаваць хэбэ да раніцы (тое лёгка)...

Можа быць многае, бо ў капцёрцы, занавешваючы акно суконнымі коўдрамі, збіраюцца пасля адбою дзяды толькі па важных прычынах.

Мяне сустракае той самы "дзед", ад імя якога я пісаў ліст дзяўчыне. На стале ў куце такое, ад чаго рот імгненна запаўняецца слінай: у місках выкладзеная з бляшанкі тушонка, гарачая вараная бульба паруе, белы хлеб, масла... Стаіць шклянка і бутэлька гарэлкі. Яшчэ трое дзядоў і нехта з "чарпакоў" купкай чытаюць ліст. Роўны жаночы почырк. Разумею: "дзеду" прыйшоў адказ. І яшчэ які адказ! Дзяўчына піша, што завучыла той ліст на памяць...

Пояць і кормяць. Адчуваючы нерэальнасць таго, што адбываецца, выпіваю паўшклянкі гарэлкі. Я ужо забыў яе смак, як і смак сапраўднага мяса.

– Закусвай, Гапеіч, закусвай... – падахвочвае мяне "дзед".

Гэта быў мой першы па-сапраўднаму добры дзень у арміі. Незвычайна тое было – адчуваць, як твае рыфмаваныя радкі нешта змянілі ў лёсах людзей.

## Нацыяналізм

Ва ўзводзе засталіся толькі адзін латыш і адзін літовец.

Латыш – даўгалыгі, твар просты, позірк адкрыты. Добразычлівы, не скнара. Літовец каржакаваты, трымаецца асобна, ні з кім асабліва не кантактуе, акрамя латыша.

Пачынаем вучыць "марзянку". "Пі ла-а по-о-о ёт!" – цягнем хорам, потым – кожны паасобку, потым выстукваем ключом.

У літоўца нічога не атрымліваецца. Ён не можа паўтарыць мелодыю знака.

Сяржант мучыцца з ім асобна, потым скардзіцца другому сяржанту – "чарпаку" Вадзіму. Той хлопец рэзкі, ягоных кулакоў мы баімся.

Літовец стаіць перад Вадзімам, галава ўціснута ў плечы.

Вадзім тоўстай драўлянай указкай выстуквае мелодыю на стрыжанай галаве літоўца. Літовец спрабуе паўтарыць – не так.

– Сука! Хрэн ты адкосіш! – пасміхваецца Вадзім і кожны наступны раз выбівае мелодыю мацней і мацней.

Хвілін праз дзесяць ён выходзіць з сябе, указка ломіцца. Вадзім перахоплівае ўказку, цяпер б'е яе дзяржаннем, б'е так моцна, што самога цябе працінае гук удару дрэва па чэрапе літоўца.

– Пі ла-а по-о ёт! – звярэе Вадзім.

У літоўца нарэшце атрымліваецца.

– А, бібікас, мяне не падманеш, – задаволены сяржант.

Літовец садзіцца на месца. Я бачу яго твар – у вачах блішчаць слёзы. А ў позірку – нянавісць.

Размаўляю з латышом.

– Ён нацыяналіст, ён хоча ў страйбат... Ён не хоча ваяваць за рускіх. Яны там усе крычаць, што Літва – для літоўцаў...

Падыходзіць літовец, ён чуе апошнія словы.

– І так будзе! – горача ўсклікае ён. – Нашы дзяўчаты не будуць нараджаць ад рускіх!

Я трохі ашалелы ад гэтых слоў, а латыш і літовец пачынаюць нешта горача казаць адзін другому на незразумелай для мяне мове.

Чужую мову я чую часта. Між сабой размаўляюць малдаване – на малдаўскай, казахі, таджыкі, кіргізы, туркмены – на сваіх мовах, азербайджанцы дык і ўвогуле мала кажуць на рускай мове.

Мне няма з кім размаўляць на беларускай, ды і перад арміяй ужо “абрусіўся”, будучы ў Мінску.

Прыеду ў войска, там сустрэну яшчэ і эстонцаў, і украінцаў, і туркменаў. І буду чуць, як пры сустрэчах яны імгненна пераходзяць між сабой на сваю мову.

У войску я сустрэну і беларусаў. Але ніколі мы не пяройдзем на родную мову, размаўляючы між сабой.

І першы раз за сваё жыццё мне стане крыўдна, што я – беларус. Я буду апраўдвацца (а ў мяне пыталіся – чаму мы не гаворым між сабой на беларускай мове) тым, што мова вельмі падобная на рускую, проста гучыць груба. Але ў душы застанецца крыўда, горкая, пякучая: чаму ўсе іншыя так горнуцца адзін да аднаго – малдаване, туркмены і іншыя, чаму сябруюць азербайджанцы – “дух” і “дзед”, і толькі рускія ды беларусы чмыраць адзін другога?..

– Я на пошту, – кажу я сяржанту-”чарпаку”, а сталом смяюцца:

– А скажы яшчэ што-небудзь – смех добразычлівы і просьба не дзеля пакпіць. Хлопцам сапраўды цікава чуць мяккае “поШта”, як і мяккае “Год”, як узрыўное звонкае “ДЗень” і пагрозлівае “рЭжа”...

Я вярнуся ў Беларусь і тая мая крыўда за мову і беларусаў будзе ляжаць недзе на донцы душы.

## Атар

Атар – наша вучэбка. Заціснутая між гор даліна. Вучэбных часцей тут – не палічыць.

А яшчэ ёсць такі курсант – Атар.

Гэта азербайджанец, з мяне ростам, але шырэй у плячах, відавочна, дужэйшы. Атару – 26 гадоў.

Употай мы пасмейваемся: спусціўся з гор па соль, вось і злавілі ды ў армію. Пасядзеў бы без солі яшчэ год – і не трэба б было хавацца.

Атара мы баімся. Яго звераваты позірк беспамылкова знаходзіць тых, хто саступіць яго фізічнай і маральнай сіле. Атар раніцай стаіць на парозе кубрыка і адлоўлівае курсаў на прыборку ці яшчэ якую работу. Яго не чапаюць нават сяржанты-дзяды, і сяржант-азербайджанец звяртаецца да яго толькі на сваёй мове. Больш яны крычаць: сяржант напорыста, Атар у адказ коратка агрызаецца, злосна, вочы яго блішчаць, часам наліваюцца крывёю.

Атар перастрэў мяне вечарам у калідоры, ён чакаў менавіта мяне. У першае імгненне я памкнуўся ірвануцца да свайго кубрыка, але нечакана пачуў:

– Брат, памагі. Слыш, брат, толка ты паможэш.

Я здзіўлена глянуў на Атара – вочы яго былі сумныя і позірк упрошваў.

– Што я магу?

– Пайдзём, брат, усё раскажу...

Ён лёгка пацягнуў захоплены рукаў хэбэшкі, тут жа нешта рэзка крыкнуў у глыб кубрыка на сваёй мове.

Яго ложак быў, як і належыць у такіх выпадках, у самым дальнім куце ад уваходу. На тумбачцы стаялі дзве кружкі з чаем, сыходзіў тонкі пар. Ляжаў хлеб, цукар.

– Брат, давай пап’ем чаю. Ты эта не піў, мне сістра прыслала. Этат чай у нашых гарах рос, нігдзе такова нэт. Давай, брат, садзісь, не бойся, цібя ніхто не троніт.

Чай сапраўды быў цудоўны – ён меў пах. Я пачаў здагадвацца, чаго мяне паклікаў Атар. Навошта я яму яшчэ трэба, калі адзінае, чым я выдзяляўся тут, дык гэта напісанне вершаў?

Атар пачаў расказваць. Старанна выбіраючы рускія словы. Шчыра. Як самаму блізкаму сябру. Чай даўно выпілі, а ён усё расказваў пра сваё нешчаслівае каханне. Як пасварыліся яны, як ён пайшоў з атарай авечак у горы, а яна выйшла замуж за нялюбага. Ён доўгія гады жыў на ферме, высока ў гарах, не спускаўся ў аул. За гэты час яна нарадзіла і развялася. Яму ўсё расказалі. І ён аднойчы спусціўся ў аул – але не паспеў сустрэцца з ёй. У першы вечар не хапіла рашучасці падысці да яе, а ў другі яго забралі міліцыянеры з работнікамі ваенкамата...

Я напісаў ліст за Атара – бо ён не ўмеў добра пісаць ні на якой мове. Напісаў прозай і вершамі. Атар перапісаў ліст сам, мучыўся паўдня – друкаванымі літарамі.

Два тыдні запар Атар вітаўся са мной, устаўляючы “брат”. Іншым вечарам частаваў мяне чаем, хлебам з маслам. Двойчы пры спробах пакрыўдзіць мяне ён умешваўся, умешваўся люта, бліскаючы звераватымі вачыма так, што ніякіх сумненняў не заставалася: скажа “Зарэжу!” – зарэжа.

Мяне і словам зачапіць баяліся. Нават сяржанты-”чарпакі”.

Адным вечарам праз два тыдні з кубрыка Атара будуць несціся п’яныя крыкі і спевы на азербайджанскім. Атар атрымае зваротны ліст – яго каханая будзе прасіць яго прыняць яе, калі ён вернецца. То мне раскажа сяржант-азербайджанец і перадасць ад Атара пачастунак: два боханы белага хлеба, вялікі кавалак масла. Мяне шукаць Атар не стане і нічога не скажа.

Праз дзень я буду ужо спакойна, як два тыдні запар, ісці міма кубрыка азербайджанцаў. Мяне спыніць Атар, я ўсміхнуся яму, але замест “Здрастуй, брат!”, ён моўчкі хопіць мяне за плячо і пацягне ў кубрык: “Мяці тут, быстро, слышаш!”.

– Атар, ты што? – упёрся я.

– Э-е-е, каго, сука, не слушать?

Я разгублены, аглушаны нават яго словамі, асьлеплены злым, ненавідзячым позіркам, усё ж упіраўся. Я не верыў...

– Курсант Гапееў, ка мне!

Гэта з бытоўкі выйшаў сяржант-азербайджанец.

Атар нешта крыкнуў сяржанту, не адпускаючы мой рукаў. Але тут сяржант закрычаў мацней, відавочна, стаў лаяцца, цяпер ужо яго вочы наліліся чырванню.

Атар адпусціў мяне.

Я падышоў да сяржанта, далажыўся.

Ён кіўнуў, каб я ішоў за ім у бытоўку.

– Ты яму справу зрабіў – ён з табой разлічыўся. Усё, ты стаў ранейшым курсам для яго. Пакуль ён табе нечым абавязаны – ён табе брат і сябар. Таму што ты – не яго роду. У нас так. Запомні гэта. Крэпка запомні, – казаў мне сяржант.

Я запомніў...

## Грамзубер

Грамзубер меў злёгку кучаравыя чорныя валасы, пухлыя вялікія вусны.

Выглядаў ён гадоў на 16 – гэткі ўжо нявінна-дзіцячы выраз твару, вузкія плечы, круглы азадак.

Грамзубер імкнуўся сябраваць з дужымі – а з ім ніхто не сябраваў. Да яго прыязджалі родныя, прывозілі прысмакі. Грамзубер збіраў кольца сваіх патэнцыйных сяброў, прысмакі з’ядаліся – і ён заставаўся адзін.

Пісклявы быў. Ледзь што – пачынаў голасна жаліцца і плакаць. Неяк хутка ад яго адчапіліся сяржанты, а калі звярталіся, то толькі па статуце. Сябра сабе Грамзубер усё ж найшоў, сябра уплывовага і дастойнага – нашага зампаліта.

Неяк Грамзубера адправілі ў нарад на камутатар. Ён вішчаў і абяцаў паскардзіцца зампаліту, бо камутатара баяліся ўсе: выседзець строга па форме многа гадзін пад вачамі афіцэраў штаба і самога Дзеда (палкоўніка Дзедушкіна) было не салодкім часам. Але зампаліта не было, і Грамзубер мусіў падпарадкавацца.

З гэтага дзяжурства Грамзубер вярнуўся... крылатым і лёг адпачываць. Сяржанты вылупілі вочы. Яго паднялі, а ён пачаў вішчаць, што дазвол на дзённы сон атрымаў ад самога Дзеда. Праз два дні сяржанты вымушаны былі назначыць зноў Грамзубера на камутатар – такі загад прыйшоў са штаба.

Да канца вучэбкі Грамзубер дзяжурыў там. Яшчэ хадзіў у гарадок (вольна) у клуб, спяваў там і танчыў. Прыходзіў, калі хацеў, спаў, колькі хацеў. Сакрэт Грамзубера не быў для нас сакрэтам: седзячы на камутатары, ён мог падслухаць размову любога з любым. Сяржантаў ён закладваў зампаліту, зампаліта – камроты, таго – зампаліту батальёна і далей, далей...

У канцы вучэбкі ён закладваў самога Дзеда ў штаб дывізіі.

...Нас адпраўлялі ў войскі, Грамзубер хадзіў і пасміхваўся. Сам Дзед абяцаў яму лычкі сяржанта, пасаду пры дывізійным клубе.

Ужо апусцелі казармы, нас заставаліся адзінкі: у новых хэбэшках, з новымі пагонамі сяржантаў, з упакаванымі рэчмяшкамі мы чакалі сваіх купцоў. Пуста было ў казарме.

Грамзубер спаў, калі прыбег сяржант-гадок і радасна закрычаў ад парога:

– Днявальны! Грамзубера да камроты!

Грамзубер плакаў, нават парываўся бегчы з казармы, але яго ўтрымалі. Папера была страшная – адпраўленне ў Сарыазек. Гэта было тое месца, дзе ў звальненне салдаты хадзілі ў сопкі, бо больш не было куды. Купцы ўжо чакалі свайго апошняга салдата – Грамзубера. Загад на адпраўленне яго ў войска быў падпісаны за дзесяць хвілін да адпраўкі.

Наш Дзед трываў, калі яго здавалі начальству, але трымаць стукача, які здае цябе тваёй жонцы, Дзед не змог. Так сказаў самому Грамзуберу ротны.

...Праз год наш асобны ўзвод КШМ будзе на вучэннях ля Сарыазеку, мы заедзем туды на запраўку. Папалім разам з "мясцовымі" хлопцамі, паспачуваем ім, купім за тушонку новенькую антэну-"кулікоўку". Спытаю, ці ведаюць яны такога Грамзубера?

– Сядзіць сучара на камутатары ў штабе, – сплюне праз зубы мой пагодак-сяржант.

## Альтэрнатыва

Радыётэлеграфіст з мяне слабы – патрэбную хуткасць не асільваю. Але сяржанты суцяшаюць – у войску сёння марзянкай практычна не карыстаюцца. А радыётэлефанія ідзе ў мяне на 5 балаў...

Выклікаў зампаліт. Прапанаваў застацца сяржантам у роце. Ведаю, што такія ж прапановы атрымалі многія курсанты. І многія цяпер у роздуме.

Войскі: ганяць будуць паўгода, будзеш мыць брудныя хэбэшкі дзядоў, а то і анучы. Сяржантаў з вучэбкі ненавідзяць усе, бо лічаць, што тут курорт, твае ж аднагодкі ў войску цябе не любяць.

Вучэбка... Як быццам, самае страшнае – ззаду. Але сяржант-паўгодак Віталік закурвае ў мяне "Гродна" (прыслалі пасылку з дому) і кажа:

– Едзь у войскі. Ты не вытрымаеш. Я ледзь не засіліўся, не ведаю, што ўтрымала. Ужо і пятлю звязаў. Ты – не вытрымаеш...

Я вырашаю – у невядомае, у войскі.

Мяне асабліва і не ўгаворваюць. А вось на Воўку, хлопца каржакаватага, дужага, насядаюць. І сяржанты, і афіцэры, і старшыня. Воўка – сапраўдны сібірак. Сказаў – зрабіў. Для яго слова чалавека як пячатка ў загадзе.

І Воўка згаджаецца – застаецца сяржантам у вучэбцы.

Праз паўгода мы прыедзем сюды разам з прапаршчыкам Ортнерам – выбіраць сабе курсаў, такая практыка будзе дазволена нашаму асобнаму ўзводу сувязі.

І я сустрэнуся з Воўкам.

Воўка заплача, скупа, па-мужчынску – збягуць дзве слязінкі па шчоках.

Ён будзе расказваць мне, як стала страшна адразу, калі апусцела казарма. Як пачалося "вучэнне" правілам вучэбкі: іх, маладых сяржантаў, чарпакі збівалі штоночы. Але куды цяжэй давялося, калі прыйшоў новы прызыў курсаў. Ужо пачаў дзейнічаць загад №100 супраць нестатутных адносінаў. Курсаў "пракансультуюць" асобныя аддзелы, сярод маладых салдат з'явяцца штатныя стукачы. Як вынік – імгненна ўпадзе дысцыпліна і павага да афіцэраў у першую чаргу. І пойдзе галавамыйка па ланцужку, крайнім у якой будуць сяржанты-паўгодкі. І сярод іх – Воўка. Толькі дзякуючы сваёй сібірскай загартоўцы Воўка вытрымае. Адзін малады сяржант з роты трапіць у шпіталь з разрывам печані, двое вымаляць адпраўкі ў войскі...

– Як мне абрыдлі гэтыя сцены, гэты гарадок... Эх, у цябе жыццё...

Мне няёмка, што мне і лягчэй, папраўдзе, і цікавей. Я расказваю Воўку пра выезды на вучэнні, пра самаходы ў горад за "чарнілам", пра першыя звальненні, пра цырк, куды салдат пускаюць бясплатна... І не хочацца, каб сумаваў Воўка, але ён просіць расказваць.

Мы сустрэнемся яшчэ праз паўгода – у нас будуць вучэнні ў раёне Атара, і мы заедзем.

Мы будзем "дзядамі" ўжо, Воўка зусім па-іншаму будзе трымацца, але сум у яго вачах не знікне...

## Мой "дзед" Валерка

У войску, ва ўзводзе мяне ўзненавідзелі адразу. КШМ-ка камандзіра корпуса (па аналогіі з сённяшнім каманднa-штабная машына – то яго мабільнік на час вучэнняў) – галоўная ў нас. Кіроўца – "дзед" Валерка Бабрашоў. Хлопец з Цалінаграда, рослы, дужы, блатнаваты. Камандзір КШМ-кі, сувязіст – сяржант-"чарпак", адслужыў год. Спетая і спітая пара. Сяржанта прапаршчык Ортнер пераводзіць у ПУС – палявы вузел сувязі, з намі побач, бо, як тлумачыць – разгільдзяй і безадказны таварыш. І мяне ставіць камандзірам пасля праверкі ў парку на ўменне працаваць на станцыі.

– Самі будзеце за яго сувязь устанаўліваць! – крычыць Бабрашоў. – Гэта ж чмо, глядзіце на яго, што ён можа!

– Бабрашоў, спакойна, – адгукаецца Ортнер. – Навучыш сам, ты ўмееш. Першы выезд усё пакажа. Не справіцца – пойдзе ў "хозвод", абяцаю...

– Ну, піпец табе, чмо! – усміхаецца праз зубы Бабрашоў, калі Ортнер выходзіць. – Ты ў мяне пашкадуеш, я цябе навучу...

Праходзіць тыдзень. Днём – заняткі ў класе і ў парку – Ортнер, адчуваю, засумняваўся ў сваім рашэнні, правярае і правярае мяне. З другім маладым сяржантам мы звязваемся на розных станцыях, гуляем па частотах, спрабуем рэжым "Б" – закрыты рэжым...

Два маладых ва ўзводзе і абое сяржанты, а тэрыторыю сваю мясці трэба. А на тэрыторыю часам патрапіць дзяжурны афіцэр. Твае сяржанцкія пагоны не даюць права месці тэрыторыю – гэта справа радавых. Устаём раней, надзяваем старыя хэбэшкі з чыстымі пагонамі.

У кубрыку прыбрацца прасцей. Ва ўзводзе парадкі строгія, але не дзікія. Мыць анучы ды хэбэшкі маладых не прымашаюць, хоць гады два таму такое было. І мой “дзед” не праміне пра гэта сказаць.

Што я раблю іншы раз – то прасую яму падкаўнерык і прышываю. Раблю сабе і яму. Другі малады тое ж робіць свайму “дзеду”. У вучэбцы мы навучыліся падшываць каўнекрыкі рознымі спосабамі, каб прыгожа было. “Чарпакі” пазіраюць на нашы каўнерыкі, мы і іх вучым.

Атрымліваем сваю “зарплату”. 12 рублёў, помніцца, з капейкамі. Сяржанты-”чарпакі” кажуць, што справу трэба замачыць. З адным “чарпаком” я (каб навучыўся) іду ў самаход, у недалёкі пасёлак па “чарніла”.

П’ем пасля адбою. І нам, маладым, наліваюць пароўну.

– Прыбярыце потым, – кажа нам “чарпак”.

Мы прыбіраем як быццам...

Праз два дні нас “строяць” – мы прыбралі так, што мой “дзед” Валерка знаходзіць ля плота на нашай тэрыторыі бутэлькі. Тыя самыя, пустыя.

Атрымліваем мы не надта – удараў па колькі пад дых ды, па шыі. Стрымгалоў кідаемся капаць ямку (рукамі, зразумела і тым, што ёсць у кішэнях), закопваць бутэлькі... Глыбіню ямы вызначае “дзед” Валерка – 30 сантыметраў.

– Сукі, я акуркі на паўметра углыб закопваў!

Трохі крыўдна, аднак навука, якую запомніў на ўсё жыццё: хочаш схаваць – хавай адразу.

## Мой “дзед” Валерка (працяг)

Добра, што ў нас такі невялікі ўзвод. Раніцай мы, маладыя, п’ем салодкі чай, маем свой кавалак белага хлеба з маслам. У першыя дні гэта было так нязвыкла...

А вось у абед маслоў нам не хапае. Маслы – гэта міска з паліўкай. Іншым разам там бывае мяса, часцей – сала. То тут першыя да сябе цягнуць міску дзяды, нам – што застанецца, але застаецца заўсёды. І яйкамі ў святочныя дні мы частуемся.

Бо наш узвод – асобны. Мы, маладыя, павінны быць заўсёды ў чыстым, падшытыя, боты павінны блішчаць, панама – быць акуратнай, нам дазволена нават устаўляць тонкі дрот у палі – каб не вісела. Мы – асобны ўзвод КШМ.

Пад маім сядзеннем у адсеку – металічны чамадан. Там – тушонка, галеты, згушчонка. Там – цыгарэты і запалкі. І чай. Гэта наш запас. Я ўжо папаўняў яго са сваіх грошай.

Раніца, павольна ідзем у сталовую. “Чарпакі” і дзяды пярлоўку не ядуць – толькі чай з хлебам і маслам.

З КПП забягае ў сталоўку сяржант і крычыць ад парога:

– Узвод КШМ – трывога!

Нас усіх здзімае ветрам з-за стала. Кінуты недапіты чай і недаедзеная каша.

Хапаем аўтаматы ў збройным пакоі. Нам, сяржантам, – яшчэ і 15 баявых патронаў. Мы ж павінны яшчэ атрымаць блакноты з ключамі для рэжыму закрытай сувязі. Пакуль атрымліваем, дабягаем да парку – кіроўцы ўжо вывелі КШМ-кі. Сустракаем прапаршчыка каля КПП. Уводная адна – рэжым маўчання, разгарнуцца на ЗКП (запасны камандны пункт).

Машыну трасе, але мне трэба набіраць ключы. І не памыліцца, бо потым – бяда...

Перад ЗКП атрымліваем заданне: баявое разгортванне, устанавіць сувязь, трымаць сетку. Пад’язджаем да ЗКП – на сопках фігуркі. Правяраючыя... Значыць, разгортванне ў поўнай выкладцы: аўтамат, процівагаз, падсумак, рыдлёўка. І – на час...

Хоць раніца, пячэ на ўсю. Першае – пракладваю лінію ад капаніра да КП. Гэта кіламетр, дзве катушкі. Пот залівае вочы, бегчы на сопку немагчыма, а трэба... Там уніз, з сопкі, потым зноў – наверх.

КШМ-ка ўжо ў капаніры, кіроўца замацоўвае массетку. Узняты дзве антэны. Станцыі ў мяне ўжо уключаны на праграванне.

Не магу цярпець – шмаргаю каністру з вадой, нахіляю і глытаю, глытаю цёплую ваду, якая пахне бензінам.

– Я – цясніна-13... Я – цясніна-13. Увага ў эфіры! Рэжым маўчання. Адказваць па выкліку... Каго я не чую – чакаю на зап-раз і зап-два. Увага ў эфіры!

Дзесяць хвілін, пятнаццаць... Нарэшце, адгукнуліся ўсе. Дакладваю. І тут жа – даць на сувязь аднаго, другога, трэцяга. І – ў закрытым рэжыме. Некаторыя яшчэ не набралі ключы...

Гадзіна праходзіць – бесперапынныя выклікі. Гарыць там што ў іх? У мяне – гарыць. У адсеку +47 на тэрмометры... Піць... Як хочацца піць, а мікрафон, мокры ад поту, не кінуць.

"Дзед" завёў генератар, бо акумулятары здохлі, цяпер цягне лінію, каб цішком падключыцца да 220 вольтаў – ведае такое месцейка. Генератар падвывае – станцыя на перадачы жарэ добра.

Дзве гадзіны работы. Міма дзвярэй праходжваецца правяраючы – я не магу нават адчыніць іх. З кунга "дзед" працягвае мне фляжку, і я выпіваю нешта цёплае, саладкавае. Чай... Вады, я вады хачу, халоднай... Два вентылятары дзьмуць гарачым.

Трохі паспакайнела, потым каманда з КП – рэжым маўчання, утрымліваць сетку. То значыць толькі праверка праз 30 хвілін.

Выскокваю з адсека, бягу да кунга. Хапаю каністру...

– Куды, дура, стой... – "Дзед" вырывае з рук каністру. – Залазь у кунг...

На століку кунга кружкі з гарачым, чорным чаем, цукар.

– Пі!

– Не магу, вады...

– Пі, сука, потым вады дам, – праз смех кажа дзед.

І я п'ю гарачы, да немагчымага моцна завараны чай.

І мне раптоўна лягчэе.

Прапаршчык заскоквае ў кунг.

– О, якраз на чаёк...

Скідвае фуражку.

– Ну, пратрымаліся...Як, Бабрашоў, твой малады спрацаваў?

– Нічога так, строіў добра, – усміхаецца "дзед".

Праз дзве гадзіны паўторыцца тое ж, што і раніцай. Выклікі і выклікі, а тут пачнуць правальвацца мае карэспандэнты. Я раскідаю іх па розных дарожках, на розныя антэны. Але ўтрымаю ўсіх.

Бабрашоў толькі раз патурбуе мяне – я дастану нашу скрынку з НЗ. Бо кухня прыедзе толькі заўтра, нам трэба нешта есці. Бабрашоў распаліць лямпу, разагрэе тушонку з кашай, нарэжа хлеб і падасць мне ў адсек. І яшчэ двойчы будзе гатаваць чай.

Вечарам наступіць адбой. Дзяжурны рэжым. Ужо я буду гатаваць вячэру і мыць потым посуд...

## Самаход

На той час я быў ужо амаль "дзедам". Неяк былі ў звальненні ў сябра Лёхі, які жаніўся. Там я пазнаёміўся з адной дзяўчынай. Не прыгажуняй. Росту маленькага. Але Лёха папрасіў: "Пагуляй з ёй, яна адна і адна..." Так і пачалі мы сустракацца.

Сустракацца раз на тыдзень – гэта ж не справа. Тым больш, вясна гудзе. Ну, самаход – добрая выручка для салдата.

Жыла дзяўчына не блізка, на другім канцы горада. (Наша часць стаяла на ўскрайку Фрунзе, цяпер – Бішкек, Кіргізія). Але шлях быў роўны – уздоўж Чуйскага канала ад нашай часці, праз карагачовы лес. Ну, не лес, лясок, які мясцовыя звалі гучна "парк". Карагач – дрэва змрочнае. Густое, цёмнае, пад ім нічога не расце. Многа было дрэў паваленых, нахіленых – у такіх месцах збіраліся на адпачынак мясцовыя: анашу папаліць, чарніла папіць, дзевак паціскаць. І хоць мясцовыя нас збольшага паважалі, але ў тым парку кантынгент быў асаблівы – многа былых асуджаных. То застацца там без цыгарэт, без рамяня, а то і ботаў – справа рэальная. Быць збітым – такая ж рэальнасць.

Быў і іншы шлях – па дарозе. Рызыкоўна, вядома. Шаша, машыны ездзяць...

Двойчы я вяртаўся ўздоўж канала, хоць адзін раз ратаваўся ўцёкамі – нейкія чацвёра абкураных прысталі былі. На трэці раз пайшоў дарогай. Пакажацца машына – хаваюся ў цень дрэва ці стаўба. Там прыватная забудова ўсцяж, можна было прыціснуцца да плота. Вуліца цёмная, ліхтары на слупах – праз метраў 300. Адзіны асветлены будынак – магазін.

І вось на чацвёрты, здаецца, раз, вяртаюся недзе ў гадзіны тры ночы. Пайшоў па дарозе, бо надта цёмная ноч была, па беразе канала ісці не схацеў.

Машын практычна няма, глуха і ціха. Перайшоў хутка той асветлены магазін. Наперадзе, бачу, фары. Не ГАЗ-66, не УАЗік, легкавы.

Але прыпыніўся за слупам.

Тармазы вішчаць, выскоквае нехта, бачу краем вока пагоны...

– Стаяць!

Лавілі яны мяне хвілін 20. Платы там высокія, і цемра ж, што за плотам – невядома. А ўздоўж вуліцы... Машынай наперад, фарамі слепіць...

І тут бачу – гэта два міліцыянеры! Праўда, адзін лейтэнант, а другі – падпалкоўнік.

Злыя. Чаго ўцякаў? Ад сваіх, кажу, думаў, уцякаю.

І не разумею: з якога ляку міліцыянеры мяне лавілі?

– Што ты ля магазіна рабіў? – пытае падпалкоўнік.

– Міма ішоў, з самаходу, – адказваю. – Ад дзяўчыны.

– Што, не ўсё перацягнуў учора?

– Што цягнуў? – бы дурны перапытваю.

– Там пабачым. Сядзі, не дзёргайся. І не прасіся нат...

Вязуць мяне ў камендатуру. І гэта, разумею, фініш.

Зачыняюць аднаго да ранку.

Назаўтра за мной прыязджаюць з міліцыі. Рукі за спіну, у аддзел. У кабінеце ў цывільнага на стале – мой армейскі блакнот (пры вобыску ў камендатуры ўсё забіраюць).

– Ну, расказвай, – кажа цывільны. – З кім магазін бралі?

У тым блакноце – некалькі адрасоў знаёмых з Фрунзе.

Праз паўгадзіны мне становіцца ясна: той самы магазін быў абрабаваны якраз у ноч перад маім самаходам. Сляды ад салдацкіх ботаў там былі.

Што тут казаць? Допыт гадзіны тры. Да ночы – у камеры з нейкімі зэкамі. Адбіткі пальцаў. Потым ноч у камендатуры. На наступны дзень вязуць да Лёхі – пацвердзіць, што я быў у яго. Выклікаюць у аддзел тую дзяўчыну. Урэшце, ад мяне адчапляюцца. Трое сутак я ў камендатуры. Паколькі мяне афіцыйна ніхто не затрымаў (патруль там, ці яшчэ), то я – не афармлены. Прапаршчыкі перадаюць мяне адзін другому па дзяжурстве, як рэч. Але, праўда, двое дзяліліся са мной сваёй вячэрай, што давалі ім жанкі.

Не разумею, чаму няма нікога з батальёна? Хоць радасці адтуль не дачакаешся – мне свеціць 15 сутак "губы". Тым не менш – чаму мяне не забіраюць і не афармляюць?

Дзяжурны прапаршчык расказвае:

– Трагедыя ў вас. Малады лейтэнант загінуў...

Да нас двое маладых лейтэнантаў з Кіева прыехалі. І вось адправілі іх ЗКП рыхтаваць. Там яны перапілі спірту, забралі ў салдат ГАЗ-66 і паехалі да дзевак. Адзін, бялявы, вясёлы хлопец, прыадчыніў дзверы (стала яго ванітаваць) і ... кульнуўся ўніз галавой. Мазгі засталіся на рабрыстай ступіцы пярэдняга кола. А быў ён сынам начальніка Кіеўскага вучылішча...

Днём мяне забраў наш Ортнер. Маўчалі. Сустрэлі ў часці начштаба. Той сказаў, што вечарам разбярэцца са мной – колькі мне сутак быць на "губе". Але літаральна праз дзве гадзіны аб'явілі трывогу, і мы з'ехалі на два тыдні пад кітайскую мяжу...

Яшчэ і датуль мне помніцца той страшэнны пералом у маім жыцці: вось ты, вольны, вось ідзе-бяжыць роўна тваё жыццё, усё быццам прадбачана, пралічана. І адзін крок, адно маленькае рашэнне – і рушыцца ўсё і адразу. Імгненна перакульваецца свет, ты раптоўна страчваеш адны якасці, якімі ты даражыш, і атрымліваеш зусім іншыя. Ты аглушаны, анямелы, раздушаны.

Ці ты – мёртвы. Як той бялявы лейтэнант...

## Заваяванне вышыні

Той восенню мне пашанцавала – у складзе 12 чалавек быў адпраўлены пад Пражавальск, недалёка ад возера Ісык-Куль. Чакала нас там бульба – яе мы павінны былі нарыхтаваць для часці. Хітры прапаршчык, які быў з намі, дамовіўся, што будзем мы працаваць на яблыках, якая розніца калгасу – абы дармавая сіла.

Жылі ў нейкай будыніне, ля невялікай горнай рэчкі, у даліне. Месца ўразіла. Рэчка бегла далей, а пачатак яе губляўся ў цясніне. З трох бакоў нас абступалі горы. Што мяне здзівіла тады найбольш: надвор'е залежала не ад таго, якое неба, а ад таго, што робіцца ў цясніне. У самы светлы дзень там раптам з'яўлялася аблачынка, пачынала сінець, набрыняць чарнатой – і нечакана кацілася на нас, у даліну з дажджом і ветрам.

Так блізка былі горы да нас! І не ў аднаго мяне вярэдзілася жаданне хоць на якую гару ўзлезці. Адна з гор, пакатая, старая, падавалася няцяжкай для пад'ёму. Вышынёй яна была мо з метраў 500 ад падэшвы.

І ў адзін з апошніх дзён прабывання там даў прапаршчык адмашку: "Дазваляю". І мы пайшлі, усе разам.

О, там толькі здавалася, што гара – побач! Колькі яшчэ давялося ісці, каб адно да яе наблізіцца! І не да яе, а да яе падэшвы.

Пачаўся пад'ём. Не вельмі і складаны, адно што цяжка было ісці, амаль увесь час нахіліўшыся наперад. Доўга, ой як доўга мы ўзнімаліся на вяршыню! Двое хлопцаў дык і ўвогуле ад сярэдзіны гары падаліся назад: "Ну яго да чорта! А спускацца як будзе?" Так, мы ўжо ўсе зразумелі, што спускацца будзе якраз цяжэй...

Ішлі і ішлі, лезлі, недзе і на карачках, чапляючыся за жорсткую траву. Трэцяя гадзіна пайшла. Зразумелі, што вяртацца давядзецца ў прыцемках – сонца хілілася за горы. А цямнее ж тут імкліва...

Яшчэ сто метраў пад'ёму, яшчэ сто.

І вось яна – вяршыня!

Амаль ідэальна круглая пляскатая пляцоўка метраў 30 у дыяметры.

У цэнтры – куча шэрага камення, апаленае бярвенне. Уся пляцоўка ў чорных лапіках кастрышчаў. Бутэлькі цэлыя і бітае шкло, бляшанкі з-пад кансерваў, шматкі папер, нейкія анучы...

Мы спускаліся з гары дзе і подбегам, каб адно хутчэй адтуль, і ўсё адно цемра застала нас.

За час спуску ніхто не вымавіў ні слова.

І толькі калі прыйшлі да свайго дамка, азірнуліся на гару, якая чарнела на фоне зорнага неба, і нехта сказаў: “Дурні...”

## Цець-мацць, палкоўнік Маскалік…

Гэта былі яго першыя словы на пастраенні батальёна: “Цець-мацць, у нас будуць новыя парадкі!”.

Палкоўнік Маскалік стаў нашым камбатам. Да гэтага ён служыў у Германіі.

Наш былы камбат пераходзіў вышэй, у корпус. Яго мы паважалі: то быў сапраўдны мужчына і сапраўдны афіцэр. Мы развіталіся з ім восенню, на рэпетыцыі парада ў гонар дня рэвалюцыі. Рэпетыцыя пачыналася позна ўвечары, плошча ачаплялася. Гэта цяпер у нас шоу з гэтага робяць, а тады, у Фрунзе, рабілася ўсё ціха і без лішніх вачэй.

Праўда, да гэтага былі дзясяткі рэпетыцый на ваенным аэрадроме...

Дык вось, была апошняя генеральная рэпетыцыя, мы прайшлі, але нас чамусьці не адпусцілі па машынах. Загадалі строіцца. Мы з жахам уяўлялі яшчэ адну праходку – гэта пасля пяці! І ўжо блізка поўнач...

Але тут перад шарэнгамі з’явіўся наш камбат. “Дзякуй за службу, салдаты і сяржанты!” Пайшоў уздоўж, кожнаму паціскаючы руку...

Новыя парадкі палкоўніка Маскаліка хутка адчуліся найперш на нашым асобным узводзе – цяпер мы рабіліся пастаяннымі дзяжурнымі на КПП. О, як мы вылі... Праз два дні – нарад. Дзень у парадцы, навыцяжку перад афіцэрамі.

Наша часць была размешчана на ўскрайку горада, насупраць часці Чуйскі канал працякаў. А парк наш – побач. З часці ў парк мы ішлі па грамадзянскай тэрыторыі, ды і ранішнія кросы праходзілі ўздоўж канала.

Маскалік у першую чаргу забараніў кросы па-за тэрыторыяй часці.

Катэгарычна запатрабаваў, каб у парк і з парку хадзілі вялікай камандай (не менш за 20 чалавек), абавязкова з афіцэрам. Пару разоў нават выклікалі з нарада па ахове салдата з аўтаматам у суправаджэнне, але ў корпусе такую ініцыятыву (баявая зброя як-ніяк) не падтрымалі.

А далей наступілі чорныя дзянькі для нас, асобнага ўзвода. Маскалік аддаў загад, каб на КПП дзяжурныя былі ў... касках. У самых сапраўдных. Гэтыя каскі мы не надзявалі нават на самых важных вучэннях, яны ляжалі недзе ў збройных пакоях ціха, нікога не турбуючы...

І вось карціна: стаіць сабе салдат (сяржант) у парадцы: белы рэмень са штык-нажом, боты наваксаваныя блішчаць, кашуля свежанькая, кіцель і штаны адпрасаваныя. І на галаве замест фуражкі – каска зялёная.

Колькі наш прапаршчык, камандзір узвода, немец Іван Ортнер, не спрабаваў даказваць, што такі выгляд – страшны, Маскалік цвярдзеў сваё: “На салдата савецкай арміі можа быць здзейснены напад! Вы разумееце гэта?”

Але ўспомніў я гэта па іншай прычыне.

Мой сябар Сяргей Сафонаў ажаніўся адразу пасля службы на немцы з-пад Фрунзе – там быў пасёлак, высланыя немцы. Сам ён з Караганды, прыязджаў потым да цешчы. І расказваў мне Сяргей (мы ліставаліся), як сустракаўся з нашым Ортнерам напачатку 90-х. Бачыў КПП – умацаваны агароджай-бар’ерам, бачыў дзяжурных у касках і ўжо з аўтаматамі, а не тупымі штык-нажамі.

Тыя бяскрыўдныя кіргізы, у якіх мы за бензін куплялі віно, якія частавалі нас вінаградам, кавунамі, памідорамі, цяпер закідвалі КПП камянямі. Сістэматычна, у адзін і той жа час, кожны дзень яны збіраліся групай чалавек у 40 і кідалі камяні. І аднойчы каска рэальна ўратавала жыццё салдату на КПП.

Палкоўнік Маскалік пайшоў у адстаўку за год да гэтых падзей.

## Эльвіра

Дзіўнае імя... Такое імя я сустрэў два разы за жыццё. І першай Эльвірай была Эльвіра-немка.

Былі навагоднія святы, і нам далі ў якасці падарунка звальненне да 24:00 і квіткі на баль у нейкае прадпрыемства. Дзяўчат там хапала. Сярод іх былі Эльвіра і Таццяна.

Мы пазнаёміліся з імі – я і Сяргей Сафонаў. Прыемнае было знаёмства. З запрашэннем прыйсці ў госці, у пасёлак пад Фрунзе.

Дабірацца туды было ой як няпроста. Канчатковы прыпынак аўтобуса, а потым пешкі каля трох кіламетраў. Але праз два тыдні мы выцыганілі ў Ортнера звальненні і падаліся, папярэдне прыфранціўшыя, як маглі.

Пасёлак быў вялікі, некалькі вуліц. Знайшлі мы тую Садовую, знайшлі дом. Сталі насупраць – страшна заходзіць. То кінулі некалькі снежак. Рыпнулі веснічкі, выходзіць дзяўчына гадоў 20, пабачыла нас, аж перапалохалася: “Ой, хлопчыкі, мы ж ніяк не чакалі, зараз, зараз я пабягу паклічу, яны ў суседзяў...” І пабегла па вуліцы ў пантофлях мяккіх і халаціку. А мароз градусаў пад 25.

О, як нас сустрэлі ў тым доме! Маці Эльвіры, дзяўчаты: Вольга (нявестка), Эльвіра (дачка), Таццяна (сястра нявесткі, разведзеная, уцякла ў літаральным сэнсе ад мужа з Караганды сюды). Сын гаспадыні якраз сам служыў недзе ў Расіі, то ўсё нам было зразумелым. Пачаставалі нас і падарункі далі – цёплыя шкарпэткі. І запрасілі яшчэ.

І мы прыходзілі.

Праўда, мяне хутка былі спынілі на вуліцы мясцовыя дзецюкі, і адзін з іх, мардаварот сапраўдны, прыгразіў мне: не хадзіць да Танькі, бо затопіць у Чуйскім канале.

Але аднаго Сяргея таксама было нельга адпускаць – закон для нас быў простым: у звальненні не менш чым па двое. То мы і хадзілі...

Калі Сяргей даведаўся аб Загадзе і стаў дзембелем, ён пайшоў у самаход і зрабіў Эльвіры прапанову. Яшчэ да гэтага мы з ім ведалі, што Эльвіра была замужам. Роўна адну ноч. Яна не змагла вынесці той жорсткасці і жывёльнага нецярпення, з якім накінуўся на яе малады муж. І раніцай сышла ўпрочкі. Мы бачылі з Сяргеем фотаздымкі з таго вяселля – іх нам паказвала маці Эльвіры.

Сяргей звольніўся, паехаў у сваю Караганду. Мы з Валодзькам Спінулам, які стаў маім кіроўцам, колькі разоў прыходзілі ў пасёлак. І Эльвіра іншы раз прыходзіла ў часць, прыносіла што смачненькае.

Сяргей прыехаў праз два месяцы, і адбылося невялікае вяселле.

Маладыя паехалі ў Караганду. У іх нарадзіліся дзве дзяўчынкі.

Потым Сяргей мне пісаў, што вымушаны быў з’ехаць адтуль – дастануць мясцовыя нацыяналісты, асабліва дастанецца дочкам, бо напалову немкі.

Сяргей з Эльвірай сталі жыць у Расіі. Мы з Сяргеем набылі сабе кінакамеры, рабілі фільмы і перасылалі адзін аднаму. І здымкі дасылалі.

А потым неяк Сяргей доўга маўчаў. І аднойчы прыйшоў ліст са страшнай весткай: Эльвіра памерла. Раптоўна, нечакана. Днём забалела галава, але хто з нашых жанчын звяртае ўвагу на нейкі галаўны боль! Вечарам яна памерла.

Сяргей будзе гадаваць дачок адзін, да яго прыедзе цешча. Потым цешча вые-

дзе на этнічную радзіму – у Германію, забярэ да сябе ўнучак, а дзяўчаты пасля забяруць да сябе бацьку. Сяргей у Германіі цяпер. Так і застаўся адзін.

## Назгуль (самае патаемнае з арміі)

Мы едзем у неба. Яно пачынаецца на верхавіне хрыбта, куды, выгінаючыся, цягнецца серпантын. Мне здавалася, што як любое нармальнае неба, гэта таксама павінна паднімацца вышэй і вышэй, калі ты да яго набліжаешся. Але гэта не паднімаецца, учапілася сіне-фіялетавай хмарай за востры хрыбет. Гляджу ўніз – асноўная калона ніжэй на два ярусы. За нашай КШМ-кай прывязанай чарапахай караскаецца сувязны БТР – Танкіст вадзіла вопытны, нездарма начсувязі корпуса сядзіць на БТРы, а не ў нашым ГАЗе.

– Так, Воўчык, цяпер на самой вяршыні – паварот на пляскай пляцоўцы на 180 градусаў, – гэта прапар кажа Воўчыку, майму кіроўцу. – І адразу спуск пачынаецца, яшчэ больш строма, чым пад'ём. Зразумеў?

Прапар на вучэннях вось у такіх сітуацыях заўсёды звяртаецца да нас па імёнах. Вось і мне цераз перагаворнае:

– Гапеіч, трымайся там!

Трымаюся. Хоць жудасна ехаць над прорвай з адчыненымі дзверцамі (такія правілы) вось ужо дзве гадзіны, паднімаючыся вышэй і вышэй. Кіроўцу яшчэ горш – ён толькі за руль і трымаецца. А ў метры ад цябе – прорва...

На пляцоўцы мы разварочваемся па сантыметры. Зараз прорва з усіх трох бакоў. Машына ў густой сіняй смузе. Трывожна пахне азонам. І раптоўна, быццам дачакаўшыся нас, як моманту для пачатку дзеяння, уся гэтая імглістая маса пачынае сцякаць уніз, далей, ніжэй. І ўспыхвае там, адкуль мы толькі што падняліся, бела-блакітным святлом. Гром разносіцца танкавым залпам. Яшчэ выбліск, яшчэ... Уся цясніна запоўнена гэтай хмарай. Калоны не відаць... Вось гэта маеш, адзначаю пра сябе. Першы раз у маім жыцці навальніца не над, а пада мной. Запомню.

Развярнуліся. Пачынаем спускацца. У нас свеціць сонца.

Гляджу ўніз і ціха ахаю: там, унізе – зялёнае мора. Ну, возера – выцягнутае, апраўленае з двух бакоў хрыбтамі, па адным з якіх мы цяпер спускаемся. Бліскучае. Рэальны смарагд, як выбух зялёнага колеру сярод шэрых гор і жоўтых сопак.

– Лерыч, бачыш? – крычыць мне прапаршчык.

– Даліну? Бачу, – адказваю я, не хаваючы сваё захапленне (Валерый – тое доўга, вырашылі хлопцы і завуць мяне скарочана: Лерыч).

– Вось туды і спускаемся.

Даліны дасягаем толькі праз тры гадзіны. Акумулятары амаль здохлі, ад генератара зарадка не ідзе – хуткасць малая. Сувязі з калонай (адна машына ў сярэдзіне, адна – у канцы) практычна няма. Вось, блін, вайна якая...

Трымаю станцыю на дзяжурным прыёме. Праз трэск разрадаў раптам прабіваецца голас Сяргея:

– Трынаццаты, я дванаццаты! Калона стаіць. У нас шквал прайшоў. Апоўзень накрыў дарогу. Як зразумелі, прыём...

Прапаршчык мацюкаецца.

Разгарнуліся ў даліне. Дзіўна, на месцы, унізе, яна і не такая зялёная, як зверху. А бліскацела таму, што тут трава такая, кусцікамі, ярка-зялёная, бліскучая. Даліна вялікая, упіраецца ў сопкі, віхляе між імі. Другі хрыбет, які з вышыні здаваўся зусім побач, раптам адскочыў кіламетраў на 10 далей. Я ўсё ніяк не магу прывыкнуць да таго, што ў гарах адлегласці здаюцца зусім іншымі, чым яны ёсць на самай справе.

Сувязь з калонай ёсць. Начсувязі корпуса, палкоўнік у гадах, трымае слухаўку адной рукой, крычыць:

– Ды ўсё я разумею! Усё! Даваяваліся...

Перагаворваемся са сваімі – дрэнныя справы. Апоўзень накрыў дарогу метраў на трыста. Капаюць уручную. І назад не пойдуць – у калоне маладыя кіроўцы, заднім ходам спусціцца па серпантыне – гэта вышэй за іх магчымасці. А развярнуцца там — ніяк...

Сонца гатова схавацца за хрыбет – час гатаваць вячэру. Іду да БТР-а. Танкіст і Лёха кіслыя.

– Кансервы ёсць?

– Дык усё ж перагрузілі! Бля...

Вось зараз і я кажу "бля". Камбат загадаў нам свае запасы (а ён ведае, што ў нас такое ёсць) прыбраць з двух першых машын – нас чакала праверка асабістаў.

– Адзін сухпай у мяне, – кажу я. – Цукар ёсць. Гарбата таксама.

– Цукар і ў нас ёсць...

Адзін сухпай – гэта слоік тушонкі, слоік кашы, пачак галет, цукар, сгушчонка, сухары. Усё дзелім на шасцярых. Палкоўніку, мужыку грузнаму, гэтага мала, як піць даць. Падобна, ён нечым хварэе – палез адразу па таблеткі. А чай спытаў без цукру.

– Дыябет, – суха кідае для нас прапаршчык.

Раніца росная і халодная. Гатуем чай. Воўчык знайшоў у кабіне за сядзеннем пачак галет. Хоць нешта.

Звязваемся са сваімі. Справы яшчэ горш, чым думалі. Расчыстка ідзе павольна – дарога вузкая, шмат людзей не паставіш. Нам быццам і добра – адпачынак незапланаваны! Але вось есці больш няма чаго. Зусім.

Вада ў каністрах награваецца, піць яе, з мяккім металічным смакам, гідка.

П'ём чай – ужо шосты ці сёмы раз.

Увесь дзень у даліне стаіць цішыня. Поўная, дзікая, ненатуральная. І ўначы было ціха, адно што цыкады пад час змяркання верашчаць. Днём жа ўсё замірае. Цішыня душыць мяне, мяне душаць два хрыбты па баках, мяне душаць сопкі наперадзе і ззаду.

Мы палім, гледзячы на сонца, што ўжо кранулася хрыбта. Нейкая цень бяжыць па недалёкай сопцы, як цень ад хмаркі, але неба чыстае.

– Глупства нейкая, – кажу я. – Што за хмаркі на той сопцы?

– Оп-па, ды гэта сайгакі, – выгуквае Воўчык.

Ізноў мяне падводзіць мой вакамер. Да той сопкі, якая "побач" – з кіламетры два. І цень – гэта статак сайгакаў. Перабеглі на другі бок.

– Усё, заўтра ідзем за сайгакамі, – сплёўвае Воўчык. – А то здохнем.

– Нічога не атрымаецца, – падыходзіць прапаршчык. – Мы на БМПэшцы за імі ганяліся... за сопку нырнуць – і растварыліся. Яны тут палахлівыя, стрэльбы ж пастаянна.

– Ну, усё роўна, паспрабуем, – настойвае Воўчык. – Нашы і заўтра не пад'едуць, там на тры дні яшчэ работы, як мінімум. Сёння нічога не елі. І боты кірзавыя, не зварыш...

– Раніцай абгаворым, – абяцае прапаршчык.

Устаём додніцай. Моўчкі п'ём гарбату.

– Дазволіць не магу, не дазволіць таксама не магу, – аддзімаючыся ад гарачай гарбаты, кажа палкоўнік. – Машына там далёка не пойдзе – саланчак. Сопкі стромкія вельмі, дарог няма. Вось карта, глядзіце...

Глядзім штабную карту. На ёй куча стрэлак сініх і чырвоных – гэта дарослыя ў вайну гуляюцца. Знаходзім сваю даліну. У тым месцы, дзе мы бачылі сайгакаў, пункцірная блакітная нітачка. Раўчук, хоць і перасыхаючы.

У мяне 15 баявых патронаў, па інструкцыі, на ахову сакрэтнай апаратуры. Воўчыку сем патронаў, мне 8.

– Да змяркання каб вярнуліся, – папярэджвае прапар. – І асцярожна там.

– Ёсць, таварыш прапаршчык, – адказваю, падыходжу да Лёхі. – Калі прыцямнее, нас не будзе, фарашукальнікам у неба пасвеціце, добра?

– Памацаем, – ківае Леха. – Стрэльнеце ўверх калі што, трасер павінны заўважыць. Ды Воўчык жа не ты, ён горы ведае...

Гэта так, для Воўчыка горы – не для мяне. Ён з Караганды. Наогул, Воўчык не мне раўня. Настырны, рэзкі, хамаваты. Для маладога байца – самыя тыя якасці для адаптацыі. Воўчык расказвае мне пра сваю грамадзянку, і я разумею, наколькі ён больш за мяне ведае жыццё. Ён ведае, напрыклад, што такое насвай і анаша. У яго было гэтулькі жанчын, колькі ў мяне не было і ў марах (а наяве ў мяне не было і адной, у сэнсе інтыму). Ён расказвае пра свае справы там, у Караганде, і там няма тэатраў, вершаў, вячэрніх сустрэч. Там ёсць бойкі на смерць, прастытуткі, фарцоўка, крадзеж... Воўчык – хлопец не слабы, у плячах шырокі і вышэй за мяне ростам. Нос яго быў зламаны ў бойцы, цяпер глядзіць набок.

Але іншы раз са мной Воўчык раптам становіцца іншым – безабаронным, непасрэдным, далікатным нават. У мінулым выездзе сарваў быў кветку, прынёс мне, паказвае і дзівіцца: “Гэта ж як вось такое прыгожае можа само прыдумацца?”. Адзін раз я яму пра сузор’і расказваў – дык ён паўгадзіны пасля глядзеў на Касіяпею, не адрываючыся, лежачы на брустверы капаніра. Дзіўны ён трохі...

...Сонца ўжо паднялося высока, а мы ідзем і ідзем уздоўж хрыбта. Абмінулі адну сопку, другую, трэцюю... Даліна пачынае распаўзацца асобнымі зялёнымі плямамі між сопкамі, я пачынаю губляць арыентацыю.

Сайгакаў нідзе не відаць, не відаць і іх слядоў.

Знаходзім невялікае балотца. У адным месцы вада быццам, але зямля з белым налётам. Соль. Я усё ж чэрпаю далонню ваду, падношу да твару.

Рэзкі тухлы пах б’е ў нос, ледзь не званітавала.

На гадзінніках поўдзень. Мы ляжым у цяню скалы. Сопкі сталі высокімі, каменістымі, яны велізарныя, пачынаеш абыходзіць адну – вырастае на шляху другая. Ногі гараць – боты не тая абуўка, у якой добра хадзіць у такую спякоту.

Есці ўжо не хочацца. Нічога не хочацца. Проста ляжаць...

– Пайшлі, – паднімаецца Воўчык. – Дойдзем да той сопкі і павернем назад, але бліжэй да таго хрыбта.

А хрыбта і не відаць. І даліны ўжо як такой няма.

Калі верыць карце, дзесьці блізка павінен быць раўчук. Там, у кунзе КШМ–кі, здавалася так проста яго знайсці. А цяпер, на гэтай велізарнай, выпаленай сонцам да шараватай жаўцізны, устаўленай сопкамі прасторы, здаецца неверагодным заўважыць хоць нешта.

На раўчук выходзім нечакана. Ён нібы з-пад зямлі падняўся, проста перад нашымі вачамі. І тут жа пачулі шум невялікага вадаспаду – раўчук збягае з невялікай цясніны між двух сопак. Сам вадаспадзік закрывае ад нас скала, але мы бачым, як зіхацяць на сонцы струмені вады, падаючы ўніз з двухмятровай вышыні.

І тут на другім боку раўчука, у дзесяці метрах ад нас я заўважаю, як частка рудой травы варухнулася. Ціхенька піхаю Воўчыка.

– Сурок, – аднымі вуснамі кажа Воўчык і паднімае аўтамат.

Затворы ўзведзеныя былі раней, цяпер толькі б не пстрыкнуць засцерагальнікам.

Я добра ўжо бачу шэра-жоўтага сурка. Звярок не маленькі, тоўсты, ён чымсьці сваім заняты ў траве, нават галаву не ўзнімае. Паказваю Воўчыку: я страляю першы. Воўчык ківае.

Стрэл гучыць нават для нас нечакана аглушальна, імгненна адбіваючыся ад сопак – цэлая кананада. Сурка падкідвае трохі, цельца тузаецца.

Кароткі прыглушаны выкрык за скалой і плёск вады зрываюць Воўчыка з месца. Ён пераскоквае праз раўчук, крычыць пагрозліва:

– Стаяць! Рукі!

Я скачу ўслед за ім. Голае, скурчанае чалавечае цельца пачынае распроствацца, пераадольваючы скаванасць жахам.

У вадзе стаіць, апусціўшы рукі, дрыжачы ад страху дзяўчынка. Не, дзяўчына.

Мы глядзім на яе, у яе ледзь раскосыя, шырока раскрытыя вочы, яна глядзіць на нас. Гэта працягваецца доўга, бясконца доўга, пакутліва доўга.

Воўчык глытае сліну, ужо з меншай пагрозай пытае:

– Хто такая? Чаму тут?

Гэтае пытанне як быццам трохі супакойвае дзяўчыну.

– Прыйшла па ваду, – ледзь шэпча яна.

Я апускаю аўтамат, стаўлю яго на засцерагальнік, Воўчык робіць тое ж самае. Пасмялеўшы, дзяўчына ледзь прысядае, гледзячы на нас умольна, цягнецца да яркай плямы на камені – там нешта з адзежы.

– Апранайся, – дазваляе Воўчык, глядзіць на мяне, і мы адварочваемся, але так, каб не губляць яе з поля зроку. Навошта нам гэта – мы не ведаем. Дзяўчына нацягвае шырокі сарафан. Бялізны на ёй няма.

– Ну, ідзі сюды, расказвай, – кліча яе Воўчык. – Ды не бойся, салдат дзіця не пакрыўдзіць.

Дзяўчына падыходзіць да нас бліжэй, спыняецца. Насцярожанасць у вачах і незразумелая палёгка.

– Як ты тут апынулася? – пытаю я. – Тут жа зона вучэнняў, тут і бамбіць могуць.

– Мы жывем там, – дзяўчына паказвае вачамі ў бок хрыбта. – Тут... вада чыстая.

Вялікі гліняны гарлач стаіць ля каменя.

– Тут жа няма паселішчаў, – дзіўлюся я.

– Мы з бацькам толькі, – ціха шэпча дзяўчына.

– Ні фіга сабе, – сплёўвае Воўчык. – А хлеб у цябе дома ёсць?

– Не, – асцярожна адказвае дзяўчына і тут жа дадае: – Я лаваш магу спячы.

– Гэта добра, а да цябе далёка?

– З гадзіну...

– Выдатна, выдатна, – узбуджаецца Воўчык. – Зараз мы сурка вытрыбушым і пойдзем да цябе. Дасі нам лавашоў пару?

На словы пра ежу адклікаецца страўнік – рэзкім ныючым болем. Я прысядаю, чэрпаю далонню ваду, п'ю, апалосквао твар. Лягчэе.

Воўчык падыходзіць да сурка, кранае яго нагой, адшпільвае штык-нож.

– Здаровы які! Засмажым!

– Нельга есці гэта, – раптам пераканана, нават са страхам кажа дзяўчына і на запытальны позірк Воўчыка тлумачыць: – Ён хворы, да вады прыйшоў. Нельга, гадка... Хадзем.

Яна лёгка ставіць свой вялікі гарлач на плячо і ідзе ўздоўж раўчука.

Нам нічога не застаецца, як ісці за ёй.

Босая, як ёй камяні не рэжуць ног? Як яна так лёгка ідзе? Як яны жывуць тут? Я думаю абы пра што, толькі б не думаць аб тых лавашах. Я не ведаю, што такое лаваш, толькі чуў. Але не хачу распытваць. Потым...

Мы пачынаем паднімацца ўгару. Воўчык прыпыняецца, прапускае наперад мяне.

– Ідзі, Лерыч, я не магу, усё...

Паціскаю плячыма, пакідаю Воўчыка за спінай, іду ўслед за дзяўчынай і раптам разумею, што з Воўчыкам – зношаны да празрыстасці сарафан дзяўчыны амаль не хавае яе цела. Яе пругкія сцёгны перад маімі вачамі калышуцца, вабяць. Я любуюся імі, я ем іх вачамі, я гляджу так, як глядзяць на нешта асаблівае, каштоўнае. Што бачаць апошні раз.

Ідзем неглыбокай цяснінай, дно якой зацягнутае брудам.

– Учора... бяда была, сель сышоў, – прыпыняецца дзяўчына. – Яшчэ доўга ісці, адпачнем, – здымае яна гарлач з пляча.

– Цябе клічуць як? – пытае Воўчык. – Я – Уладзімір, а ён – Валерый.

– Назгуль, – ціха шэпча дзяўчына і з чаканнем глядзіць на нас.

Нам нічога не кажа яе імя, і яна раптам радасна смяецца.

– Ты чаго? – пытае Воўчык.

– Нічога, – усміхаецца дзяўчына. – Я думала, Вы за мной прыйшлі...

Мы пераглядваемся, але нічога не пытаем.

– Не страшна тут жыць? Ці ты тут на лета толькі?

– Не страшна... мы тут жывем, – кажа Назгуль.

– А школа як жа? Вучоба?

Назгуль незразумела ўсміхаецца ў адказ.

Яшчэ паўгадзіны дарогі, яшчэ гадзіна фігурка Назгуль у мяне перад вачамі, яшчэ гадзіна відовішча для маіх вачэй, якія ніколі раней не бачылі аголенай дзяўчыны.

Сцяжынка становіцца шырэй, мы ўжо ідзем побач – Назгуль пасярод, мы па баках. Гарлач Назгуль нам не аддае. Невялікі паварот.

Роўная пляцоўка, хатка, амаль накрытая вывернутым з каранямі дрэвам. Надворак невялікі. Сівабароды стары на гэтым надворку, як увасабленне адчаю і жаху, глядзіць на нас.

– Тата, не бойся, – Назгуль ставіць гарлач на зямлю, падбягае да старога. – Гэта проста салдаты, разумееш, проста салдаты. Яны хочуць есці, яны галодныя, хацелі смажыць сурка...

Страх сыходзіць з твару старога. Мы вітаемся. Стары праводзіць нас углыб двара, там гарачынёй дыхае круглая, з дзіркай пасярэдзіне, печка. Такія я бачыў.

– Сядайце, – паказвае нам стары на круглыя паленцы, – Зараз, зараз...

З паўразваленай хаткі стары цягне фанерную скрыню, якая ператвараецца ў столік ля нашых ног.

Назгуль з'яўляецца ўжо апранутай у іншую сукенку, я заўважаю пад ёй бялізну. Але мне не шкада...

Назгуль месіць цеста, стары прынёс гарлач і дзве кружкі, налівае нам. Нешта белае, так падобнае на сыраквашу, з кавалачкамі–лустачкамі, халоднае.

Божа, як гэта смачна... Адну, другую... Стары ўсміхаецца, хоць і насцярожана паглядвае на нашы аўтаматы. Ён нібыта не верыць, што мы – гэта проста мы, салдаты.

На скрыню Назгуль сцеле белы і чысты кавалак тканіны.

І раптам на ім з'яўляецца жоўта-карычневае сонца. Лаваш. Вось ён які... З карычневымі ўздутымі бурбалкамі, зацвярдзелымі, пышны, ён кладзецца на стол не гультаяватым блінам з патэльні, а пругкім хлебным колам. Гарачым, духмяным. Які пах! Рот імгненна набіваецца слінай. І Воўчык глытае сліну, але ніхто з нас не працягвае рукі да лавашу.

Назгуль весела смяецца, спрытна падхоплівае лаваш, хутка рве яго напалову – і вось ужо два гарачых паўсонцы ў нас у руках, а яе бацька ізноў наліў нам у кружкі сваёй сыраквашы.

– Ешце, ешце, – усміхаецца Назгуль.

Я падношу кавалак, нюхаю – і ноздры раздзірае пах прэснага хлеба, пах хатняй свежасці, сытасці і спакою. Асцярожна кусаю. Лаваш не абпальвае рот, мякка пахруствае.

Мы з Воўчыкам глядзім адзін на аднаго, нібы пытаючы дазволу – можна есці ў поўную? І абодва адказваем: нельга. Але кавалак лаваша знікае так хутка...

А Назгуль кладзе на стол яшчэ адзін, і яшчэ, і мы ўжо, пасмялеўшы, самі ломім наступны лаваш. Мы прымушаем сябе есці не спяшаючыся.

Тым часам стары прыносіць дошчачку, на якой кавалкі мяса. Ён рэжа яго перад намі тонкімі лустачкамі. Мяса светлае, па баках абсыпана нейкай цёртай травой.

– Сайгак, – тлумачыць стары. – Салёнае вельмі. Горача, лета...

Я буду ўспамінаць смак халоднай салёнай сайгачаціны з гарачым лавашом, мусіць, да канца сваіх дзён. Я буду шукаць хоць нешта падобнае на тое дзіўнае спалучэнне водару свежага прэснага хлеба і рэзка-салёнага сухаватага мяса – і не знайду. А стары ізноў некуды ідзе і вяртаецца з бутляй цёмнага шкла і налівае нам нечага белага, мутнага.

– Крышку можна, страўнік добра працаваць будзе. Добра пасля голаду...

– Дзякуй, бацька, – Воўчык без ваганняў бярэ кружку, ведае, чорт, што ў ёй, напэўна ведае. – Ваша здароўе, бацька, за здароўе вашай дачкі, такой прыгажуні і разумніцы!

Воўчык выпівае, шырока ўсміхаецца мне:

– Пі, Лерыч, не бойся...

Я разумею, што гэта нешта хмельнае, п’ю асцярожна. Чорт, смачна. Градусаў 10, не больш.

– Ешце, усё ешце, – паказвае на “стол” стары, дзе ўжо цэлая горка лавашоў, нарэзанае мяса.

– Нам гэтага шмат, бацька, дзякуй вялікае, – адказваю я. – У нас сябры... чацвёра. У даліне. Яны таксама вельмі галодныя...

– Бярыце, я яшчэ прынясу, прынясу зараз, – не дае мне скончыць сваю просьбу стары.

– Дзякуй, нам і праўда хопіць, – паднімаецца Воўчык, аглядаецца на хатку. – Гэта ўчора, ці што, так атрымалася?

– Уначы, так, уначы бяда, – не можа схаваць свайго адчаю стары, мы разам падыходзім да хаткі.

Цяпер адчай старога зразумела: дах хаткі напалову правалены ўнутр, замест двух сцен – горка з кавалкаў гліны. Велізарны сук упаўшага дрэва – у хатцы. Стары спрабаваў яго перасекчы.

– Ну, Лерыч, давай, памахаем сякерай! Трэба ж разлічыцца за ежу! – загараецца Воўчык, аддае мне аўтамат, здымае хэбэшку і ўжо караскаецца наверх, на ствол дрэва.

– Воўчык, не сячы там, – агледзеўшы сук, спыняю яго я. – Мы яго хрэн выцягнем. Давай пакуль абсякай меншыя на ім...

Мне чамусьці не хочацца глядзець у ацалелую частку хаткі, я адчуваю, што ўбачу там – беднату, галечу. Так не хочацца звязваць гэтую ўбогасць з Назгуль... Стары нічога не кажа, ён трохі разгубіўся ад нашай ініцыятыўнасці. Я разраджаю аўтаматы, магазіны кладу сабе ў падсумак, аўтаматы стаўлю ля нашага “стала”. Назгуль усё яшчэ пячэ лавашы.

– Так, дзяўчына, на час становішся вартавым, – паказваю я вачамі на аўтаматы.

– Не бойцеся, – усміхаецца яна мне, і мне здаецца, што ў гэтай усмешцы ёсць нешта яшчэ, ёсць толькі для мяне, цёплае...

Мне не хочацца скідаць хэбэшку – побач з мускулістым, ужо загарэлым целам

Воўчыка, я буду бледным дыстрофікам. Назгуль убачыць... Але здымаю – хай як ёсць, чаго ўжо. Не цела ж галоўнае ў чалавеку, суцешваю я сябе.

Мы працуем гадзіны дзве, напераменку. Дрэва цвёрдае, секчы яго цяжка. Назгуль усё клапоча па двары, стары дапамагае нам – адцягвае дробныя сукі. Дзень заканчваецца.

Сядзім, курым. Ужо Назгуль налівае ў кружкі сыраквашы, падае нам. На нейкае імгненне нашы пальцы сутыкаюцца, і я адчуваю кароткае цяпло.

– Бацька, дык чаму вы тут? – без хітрыкаў пытае Воўчык, мае права атрымаць адказ пасля нашай працы – хатка вызвалена з-пад сукоў.

– Прыгожая дачка для бедняка – яго гора, – адказвае стары.

– Як гэта так? – здзіўляюся я. – За такую дзяўчыну ў вас, мусіць, даюць добры калым...

– Назгуль забраў наш бай...

– Які бай? Якія ў вас баі? – круглеюць у мяне вочы.

– У вас старшыні, сакратары... У нас – баі, – уздыхае стары.

– Замуж хацеў сілай узяць?

– У яго тры жонкі. Назгуль забраў... для забавы...

– Ну, блін, вы тут як... – я не хачу казаць “дзікуны”, дадаю: – Міліцыя ж ёсць...

– Лерыч, маўчы, тут табе не ў вас... У нас уся міліцыя ў падвязках у гарадскога начальства, а тут – горы. І вы ўцяклі? – удакладняе сваю здагадку Воўчык.

– Уцяклі.

– Дык гэта таму нас і Вы, і Назгуль так спалохаліся? – здагадваюся я.

– Ён сказаў – знойдзе. І заб’е, – спакойна адказвае стары, і толькі зараз да мяне пачынае даходзіць уся абсурдная дзікасць жыцця бацькі і дачкі. А калі стары памрэ? Няўжо Назгуль на ўсё жыццё застаецца ў гарах? Без людзей? Ды яна ж здзічэе!

– Не, гэта нерэальна! Як жа Вы жывіце? Чалавеку гэтулькі ўсяго трэба! А вопратка, абутак, рэчы ўсякія? Дзе вы іх бераце? Не самі ж шыеце... сукенкі...

– Навошта самі? Сябар ёсць. З ім ваявалі. Далёка адгэтуль. Ён сайгака купляе... Цямнее хутка. Вам спяшацца трэба. Назгуль праводзіць. Там будзе бачная машына.

– Наша?

Стары ківае.

Назгуль сабрала нам важкі вузельчык.

– Навошта так шмат, Назгуль? Вам жа самім трэба...

– Вас шмат, нас двое. Нас горы пракормяць, а вы не ўмееце, – усміхаецца дзяўчына. – Хадземце...

Мы ідзем разам, побач, нашы плечы іншы раз дакранаюцца. Толькі вузкая сцяжынка сустракае за паваротам.

Воўчык ужо не саступае мне месца ісці за Назгуль, я злуюся на яго. Усходзім на невялікую сопку і Назгуль спыняецца:

– Вось, глядзіце – там вашы...

І напраўду – сярод ужо цёмна-зялёнага возера дзве шэрыя кропкі – гэта БТР і КШМ–ка пад массеткамі.

Мы развітаемся неяк нязграбна, Назгуль спяшаецца, і мы спяшаемся. Зрэшты, чаго тут асабліва развітвацца – мы з Воўчыкам не змаўляючыся, разумеем, што заўтра прыйдзем сюды – дапаможам паправіць сцены і дах хаткі.

Пакуль спускаемся з сопкі, гусцее да цемры. Наперадзе, за сопкамі, белы прамень святла нешта мацае ў чорным небе. Спяшаемся, амаль бяжым. Неўзабаве чуем шум – працуе генератар для зарадкі акумулятараў станцыі. Яго бензінавы рухавічок тарабаніць на ўсю даліну. Малайцы, падказваюць...

– Сяржант, дакладвайце!

Палкоўнік злы, дыхае цяжка, з сіпамі. Прапар за яго спінай красамоўна паказвае мне кулак. Лёха з Танкістам глядзяць са спагадай. І усё ж, ва ўсіх у кунзе, дзе гарыць святло, яшчэ адно пачуццё на тварах – чаканне добрага. Надзея на добрае.

– Таварыш палкоўнік, дакладваю: пошукі нічога не далі. Выкарыстаны адзін патрон, мной. Падстрэлілі сурка, але... нам сказалі, што яго есці нельга, ён хворы.

– Хто сказаў? – ці не падскоквае прапаршчык.

– Тыя, ад каго мы прынеслі пачастунак...

Воўчык, чорт, амаль адгадаў сцэнар сустрэчы. Ён трымаў вузельчык за спінай, хаваючыся ў ценю падаючага з кунга святла. А цяпер ступіў у светлы квадрат:

– Дазвольце, таварыш палкоўнік? – і зайшоў у кунг, асцярожна паклаў вузельчык на столік, развязаў і адступіў назад.

Мы смакуем эфект, усміхаемся, мы ўпіваемся гэтымі хвілінамі: горка лавашоў на століку нібы свеціцца знутры залатым святлом. Прапаршчык чапае, быццам гарачую, бутлю з сыраквашай, асцярожна разгортвае чыстую анучынку з кавалкамі саланіны.

Гэта быў наш з Воўчыкам трыумф. Міне нямала гадоў, і я зразумею, што такое не паўтараецца, такое бывае раз у жыцці: адчуць сябе чараўніком.

– Лёха! – першым прыходзіць у сябе прапаршчык.

Таму не трэба нічога тлумачыць – кружкі імгненна з-пад сядзенняў з'яўляюцца на століку, нажы, відэльцы, пару місачак, мяса рэжацца...

– А вы чаго там стаіце? – ажывае і палкоўнік. – Прапаршчык, рассеўся панам, рухайся далей!

Мы вячэраем. І ўсе ломяць лавашы гэтак жа, як мы ламалі іх з Воўчыкам там – асцярожна, быццам жывыя яны. І ўсе імкнуцца есці марудліва, спакойна. Мы з Воўчыкам адно чакаем гарбату, расказваем...

Потым нам расказваюць апошнія навіны: нашы на серпанціне прыдумалі борт ад грузавіка выкарыстаць як лапату для пярэдняга Зіла–"мармона". Заўтра да абеду павінны прабіць дарогу.

Ідзем спаць. Я закрываю вочы – і ўсё ўспыхвае: раўчук, аголеная дзяўчына. Я глядзеў тады на яе ўсю, бачыў усю. А цяпер у маёй галаве нешта неверагоднае: я праглядаю ўзніклы ў памяці малюнак голай Назгуль, як сапраўдную фатаграфію, па частках, узіраючыся ў твар, плечы, такія невялікія, дзіцячымі мячыкамі, грудзі, роўны жывот, сцёгны, цёмны трыкутнік мокрых валасоў, прыгожыя, тонкія ногі, маленькія, амаль дзіцячыя, ступні. А потым пачынаю разглядаць ізноў – знізу ўверх...

Ціхі стук у дзверы.

– Лерыч, вылазь, пакурым. Ведаю, што не спіш, – Воўчык стаіць ля дзвярэй адсека.

Мы адыходзім далей ад машыны, тут капанір, прысаджваемся, звесіўшы ногі ў цемру.

– Не магу заснуць, – закурвае Воўчык. – Стаіць і стаіць перад вачамі...

– У мяне таксама стаіць, – адказваю я.

І хоць можна знайсці ў маім адказе намёк на пахабную двухсэнсоўнасць, мы яго не шукаем, мы не заўважаем яго.

– Прыеду ў часць, усім сваім сучкам ботаў адпраўлю, – кажа Воўчык.

– Ты чаго так? – пытаю я пра яго рашучасць.

– А яны сучкі ўсё... Чуеш, Лерыч, вось у мяне ж іх было – мора. І было па ўсякаму. Я бабу ўбачу і ў думках яе трахну спачатку, а потым ужо знаёмлюся. А пра Назгуль... Мне думаць было сорамна, што вось... яе можна. Таму за ёй не стаў ісці.

– А назад? – хутка і раўніва пытаю я.

– А назад я ўжо справіўся... Дык чаму так, а?

– Не ведаю... Можа, таму, што тут усё... па-сапраўднаму. Голад сапраўдны. Страх напраўду, боль баліць, ад радасці смяюцца. І з Назгуль па-сапраўднаму.

– Точна! – радуецца Воўчык. – Яна – сапраўдная...

Ён уціскае недакурак у зямлю і тут жа дастае новую цыгарэту.

– Кухня прыедзе – у прапара грэчкі набяру. Ён мне павінен за паслугу.

– Кансерваў аднясем, – падказваю я.

– Ага, я з усіх машын збяру...

Мы ідзем спаць, супакоеныя нашым рашэннем.

Але з раніцы пачынаюцца вучэнні. Уступныя ідуць адна за другой, збіраю сетку, пераводжу з адной дарожкі на іншую – дзесьці працуе глушылка, знаходзяць частату – глушаць. Пасля абеду на хрыбце заўважаем першую машыну – калона. Да вечара разгортваецца штаб, пракладваем лініі сувязі. І пасля заходу сонца пачынаецца амаль пекла – ні хвіліны адпачынку. Усю ноч, увесь заўтрашні дзень. Я ахрып. У сетцы ў мяне ёсць пара дэбілаў, забіў бы, калі б былі яны побач. Паспаць удалося гадзіны тры апоўдні. Воўчык рыхтуе абеды, вячэры, кіпяціць гарбату. Ён сабраў кансерваў, пажывіўся крупамі, цукрам, гарбатай на кухні. Два набітых рэчмяшкі чакаюць у мяне ў адсеку.

На трэці дзень – канец. Мыемся, нашываем чыстыя падкаўнерыкі – пастраенне. Нядрэнна спрацавалі – атрымліваем падзяку ад камкора. Палкоўнік, начсувязі, пасля пастраення прыходзіць да нас.

– Малайцы, не падвялі. Дзякуй за службу! І, наогул, дзякуй, байцы, асабліва за лавашы і саланіну, – дадае ён зусім па-хатняму, цісне ўсім нам рукі.

– Таварыш палкоўнік, дазвольце, пад'едзем бліжэй... Нам жа доўг вярнуць трэба, – ківаю я на рэчмяшкі ў адсеку.

– Дазваляю, – згаджаецца палкоўнік. – І ад мяне дзякуй перадайце. Нядоўга там, праз тры гадзіны здымаемся.

У кунг садзім маладога байца з нашага ўзвода – каб папільнаваў машыну, пакуль мы паднімемся ў горы. Воўчык спявае ў кабіне. Машыну трасе, невялікі саланчак прабіваем з ходу – толькі гразь з-пад колаў і тлусты чорны след ззаду.

Спяшаемся, караскаемся, згінаючыся пад цяжарам за спіной – нагрузіў Воўчык мяшкі па поўнай. Ужо блізка, вось і паварот знаёмы.

– Назгуль! Гуля! – весела крычыць Воўчык. – Сустракайце госцяў!

Нікога няма. Яшчэ не верачы ў тое, што бачым, мы, скінуўшы рэчмяшкі, ходзім па пустым надворку, зазіраем у паўразбураную хатку, нават кратаем круглую печку. Усё холадна, мёртва.

Мы садзімся на тыя самыя круглыя палены, скрыня стаіць тут, толькі столік наш пусты. Запальваем. Маўчым.

– Лерыч, чаму жыццё такое бл...дскае?

Я маўчу. Адкуль мне ведаць адказ...



Валерый Казакоў



...народ яго так любіць,
аж баіцца!...

# Абібокі

*Заканчэнне. Пачатак у №5 (60).*

***

Незаробленае багацце – крыніца дэградацыі асобы, а ў выніку і заняпаду дзяржаўнасці.

***

Маё "я" чамусьці часта адрозніваецца ад мяне самога; мне становіцца не па сабе, калі гэтыя блізняткі пачынаюць даймаць адзін аднаго.

***

Шануеце ноч, бо ўначы жыццё праходзіць міма нас.

***

Ён стаў багатым пасля народнай галечы, але затое як ён пакутуе па камуністычным мінулым!

***

Чэкіст застанецца чэкістам, хоць ты абсып яго выгодамі.

***

У Расіі ўрад змяняюць як палюбоўніц, каб усім публічна даказаць сваю полавую заможнасць.

***

Маленькі чалавек паспрабаваў напалохаць усіх, начапіўшы на сябе маску волата. Усе здзівіліся, а маленькі застаўся задаволены сабой, хоць не падрос ні на ёту.

***

Самае дэмакратычнае спараджэнне чалавека – дзярмо! Ежа, адзежа, жыллё – знак класавай няроўнасці, і толькі га...но аднолькавае і па форме, і па змесце.

***

Як казала адна з Візантыйскіх царыц, “пурпур улады – лепшы саван”, так што ад нашых кіраўнікоў добраахвотнага сыходу з дэмакратычнага трона чакаць няма чаго.

***

Бальшавізм – пунсовая чума мінулага стагоддзя.

***

Вера ў Бога ў нас вычарпаецца ў чарговы раз, як толькі людзі зразумеюць, што пад спеў псалмоў іх у чарговы раз ператварылі ў рабоў, і прытым далёка не Божых.

***

Памятай усё, нават тое, чаго ніколі не было, і жыццё тваё будзе заўсёды цікавым і поўным незвычайнага.

***

Ланцужны сабака разбэшчаны ланцугом, які забяспечвае яму ежу і прытулак пры абсалютным лайдацтве, таму калі ў двор уварвецца воўк, наш Палкан вобмігам ляціць у сенцы, збіваючы з ног гаспадара. Калі ж у сад залазяць суседскія хлапчукі, кудлаты вартавы рве іх на кавалкі, імкнучыся паказаць гаспадару сваю значнасць і незаменнасць. Як гэта падобна на працу сілавікоў.

***

Самы страшны праклён чалавецтва – кароткая памяць жывых.

***

Усе высокія намеры вышэй пояса, як правіла, не падымаюцца.

***

Свет закаціўся далёка-далёка, у самае забыццё, чалавек пачаў даставаць яго палкай, ды так намяў свету бакі, што пачалася чарговая сусветная вайна.

***

Нават самая добрая казка можа скончыцца жахлівым сном.

***

Калі ворагаў няма, іх прызначаюць.

***

Чым больш ворагаў народа, тым тлусцейшыя і мардацейшыя чэкісты.

***

Цяжка жыць, калі не плачацца.

***

Дзе пачынаецца суд людскі, там памірае справядлівасць і праўда.

***

Ва ўсякага нягодніка заўсёды адшукаецца нямала чыстых абаронцаў.

***

Доўга не атрымліваецца толькі тое, што і атрымацца не можа.

***

Усякая ўлада трымаецца на трох кітах: нашай ляноце і надзеі на дарэмшчыну, жандарах і пацучынай грызні апазіцыі.

***

Нішто не вечна пад месяцам, калі ты спіш з чужой жонкай.

***

Мне беларуская мова патрэбная дзеля таго, каб размаўляць з Госпадам.

***

Карова была такая худая, як нашая нязбытная камуністычная будучыня.

***

Калі ў прэзідэнта няма ворагаў, іх выдумаюць спецслужбы.

***

Дзеці ўсё ж мудрэй за нас, бо не вераць у Бога – яны жывуць у Ім.

***

Мы ўжо даўно дурасць прымаем за мудрасць, а хлусню за праўду.

***

Народ яго так любіць, аж баіцца!

***

Можна верыць хоць у чорта, хоць у іншапланецян, але толькі не ў любоў алігарха да народа.

***

Ён ім так пагарджаў, што зрабіў сваім пераемнікам.

***

Мы ўвесь час штосьці шукаем, хоць да гэтага нічога і не гублялі.

***

Свабода таксама крывадушная, як і праўда, сказаная за грошы.

***

Далонькі маленькіх дзяцей пахнуць нашым шчасцем, так шкада, што дзеці вельмі хутка вырастаюць.

***

Самае вялікае дасягненне іспанскай дэмакратыі – цудоўнае надвор'е на Канарах.

***

Дурата, прыйшоўшы да нас, ужо нікуды не сыходзіць. Так, са сваімі дурнотамі, мы і жывём.

***

Мае словы перашкаджаюць маім думкам, вось так, у апошні час, яны і жывуць у поўнай раз'яднанасці.

***

Апошні час вельмі шкадую, што перагрузіў сваю галаву масай чужых ведаў, якія нахабна ператварыліся ў маю адукаванасць, што замінае бачыць сапраўдную карціну свету.

***

Бойцеся ісціны ўбогіх, яе ў іх няма.

***

Казнакрадства не крадзеж, а стыль жыцця.

***

Праўдзівай качэўніцай на зямлі з'яўляецца толькі любоў.

***

Хрыстос і ўявіць не мог, што Яго імем будуць карміцца гэтулькі лайдакоў.

***

Дэмакратыя, па сутнасці сваёй, такая ж улада бюракратаў, толькі прыкрытая пярэстай шырмай агульнапрынятых умоўнасцяў.

***

Вялікіх губіць дробязная мітусня нікчэмнага асяроддзя.

***

Першым праўду за грошы сказаў Юда.

***

«Не здавайся ў рабства, пакуль у цябе ёсць выбар памерці свабодным!» – мудрагеліў Эўрыпід і, пры ўсіх мудрагельствах свайго часу, паміраць за свабоду не спяшаўся.

***

Ён пасля смерці патрапіў у Пекла, а яна ў Рай, хоць да гэтага жылі адной сям'ёй.

***

У божых слугаў заўсёды чалавечыя патрэбы.

***

Матрыярхат – гэта калі бабы справодзілі мужыкоў па маманта ці на вайну, а самі адвязаліся па поўнай праграме.

***

Здзічэнне абраных вядзе да ўсеагульнага вычварэння грамадства.

***

«Нішто не занадта», – казалі старажытныя грэкі, але і само «нішто» было ўжо занадта для чалавека.

***

Таго, чаго не было, ужо ніколі і не будзе.

***

Прыхамаць і капрызы слабых мужчын кіруюць светам.

***

Каб убачыць будучыню, зусім неабавязкова зазіраць у зад сучаснасці.

***

Галасаванне ўзняццем рукі азначае палавіністую здачу ў палон.

***

Калі Богу маліцца натоўпам, дык гэта ўжо не малітва, а харавы спеў.

***

Хто шмат піша, той – пісьменнік, а я сведка дзён вашых і шэпт лістоты памяці вашай, і дождж дажджоў слоў вашых, і змярканне ўчарашняга. І няма пакаяння на зямлі, бо хто каецца – ужо маніць у імя будучага граху свайго. Усякае слова з вуснаў яго ёсць хлусня. Не жыві ў хлусні і не паклёпнічай на імя сваё, і дадзена будзе табе ад маўчання твайго. Маўклівая скала ў ракі Катунь, і ў вякі вякоў цела яе, і няма ёй канца. Бязмоўныя і звер, і птушка, і не маюць яны страху смерці, і патрэбы ў пакаянні няма ў іх; і ў тым праўда, усё іншае слепата і цямрэча розуму твайго.

***

У цярплівасці свая праўда.

***

У Бога і чэрці на падхваце.

***

Улада і патрэбы народа – паняцці рознапалярныя, усе гэта ведаюць і працягваюць адвечную гульню ў добрага, але акружанага нягоднікамі цара.

***

Калі сілы няма, то і бяссілле – сіла.

***

Юда-хрысціянскую цывілізацыю чакае страшная помста мусульман за крыжовыя паходы.

***

Галоўны запавет нашага часу: чэкісту – чэкістава, бандыту – бандытава, а астатняе – мянтам.

***

Вось яна, вузкавокая будучыня маёй краіны.

***

Ёсць такая прафесія – кнопкі націскаць.

***

На ўсякую прыгажосць старасць адшукаецца.

***

Ёй так падабалася быць прыгожай, што яна гэтым жыла. Людзі на яе заглядваліся, а яна любавалася толькі сабой; так самотнай і памерла.

***

Вар'яцтва генія з часам становіцца нашай рэчаіснасцю.

***

Калі б не было Рыма, не было б і Бога, але калі б Бог туды прыйшоў, Рым давялося разбурыць.

***

Дачцэ падабаецца Рым, а мне – іспанка за суседнім столікам.

***

Аб вечныя камяні Рыма сціраецца час, і ўначы, заблукаўшы ў пустэльных вулках, ты можаш патрапіць зусім у іншую эпоху.

***

Прыляцець у Рым, каб усё гэта ўбачыць, і паляцець, каб ужо ніколі не забыць.

***

Толькі ў вечна жывым Рыме Гогаль змог напісаць "Мёртвыя душы".

***

Гогалю так падабаўся Рым, што ён нават стаў рускім патрыётам у аповесці "Тарас Бульба", каб ніколі не вяртацца ў Расію, а вярнуўшыся, з глузду з'ехаў і спаліў працяг "Мёртвых душ".

***

Жанчына з тварам стомленага вярблюда.

***

Беднаму грошай на ўсё хапае, а багатаму іх заўсёды мала, бо іх ужо і злічыць не можа.

***

Чым больш ён імкнецца быць бацькам нацыі, тым усё больш становіцца яе айчымам.

***

Ён так заўзята шукаў Бога ў нябёсах, што згубіў у сабе чалавека.

***

Яшчэ невядома, што для народа лепш: сіла дыктатуры ці імпатэнцыя ўлады.

***

Калі карміць нават самае цнатлівае каханне грашыма, яно непазбежна вырасце ў агідную прастытутку.

***

Нават два леты не заменяць адной восені.

***

Дзяржава сёння ўжо так далёка адышла ад чалавека, што мы яе амаль не бачым.

***

Гора той краіне, правадыр якой не ведае, чым сябе заняць.

***

Дурнота таксама бывае крэатыўнай.

***

Не гожа пісьменніку чакаць дапамогі ад прэзідэнта, які не чытае кніг.

***

Дзе знайсці дзень, у які б змясцілася ноч?

***

Усё часцей папы перашкаджаюць маёй доўгай гутарцы з Богам.

***

Калектыў – самае страшнае вынаходства нягоднікаў.

***

Час пройдзе таксама незаўважна, як прыйшоў.

***

Узрост непазбежна крадзе ў нас бестурботнасць, пакідаючы сум.

***

Улада не хлусіць не можа. Хлусня – яе ідал.

***

Улада – такая ж хімера, як і час: за прыдуманай намі абалонкай хаваецца бездань пустэчы.

***

Больш за ўсё людзі хлусяць падчас вайны і пра вайну.

***

У начным дыханні восені асабліва выразна адчуваецца вечнасць.

***

Рэчы ў вёсцы жывуць даўжэй, чым у горадзе і, тым самым, запавольваюць плынь часу, адтуль і даўгалецце чалавецтва.

***

Вечар загус як бітум і пераўтварыўся ў ноч, мне не хопіць запалак, каб яго растапіць.

***

Вялікі Рым забіла хрысціянства, з яго цэглы пабудавала Ватыкан, але дагэтуль на руінах “вечнага горада” турыстаў больш, чым паломнікаў у храмах.

***

Апошнім часам у царкве нас усё часцей спрабуюць пераканаць у тым, што Хрыстос і прэзідэнт адно і тое ж.

***

У Маскве ў 1945 годзе куфаль піва каштаваў шаснаццаць рублёў – дзённы заробак афіцэра-франтавіка.

***

Божую мілату на зямлі людзі ствараюць сваімі рукамі.

***

Бог жыве ў храме, калі Яго туды прыносяць людзі ў сэрцах сваіх.

***

Не хлусіць толькі вар’ят.

***

Чым бядней краіна, тым дэспатычней у ёй улада, тым больш у гарадах храмаў.

***

Заўтра мы абавязкова забудземся аб тым, што ведалі сёння.

***

Каб не прыйшоў чорт, не заві бога, якога не ведаеш.

***

Адзінота жанчыны пачынаецца з адзіноты зубной шчоткі ў шкляначцы яе туалета.

***

Еўропа проста на вачах ператвараецца ў араба-афрыканскі халіфат.

***

Бог стварыў людзей, падзяліў іх на расы і рассяліў па ўсім свеце ў надзеі,

што яны ніколі не перасякуцца. Яму і ў галаву не магло прыйсці, што белыя вынайдуць самалёт і караблі, каб загубіць сябе.

***

У двары Ватыкана стаіць самы страшны помнік, які мне даводзілася бачыць: кружляюць адзін у адным і разбураюцца шары – мадэль канца свету, нагляднасць знішчэння адной цывілізацыі іншай ці проста закончанае вар'яцтва нашага свету.

***

Амаль у кожнага народа быў свой Леанарда да Вінчы; у беларусаў гэта, безумоўна, Францыск Скарына, таямніцу якога мы так ніколі і не раскрыем.

***

Шлях з грэкаў у варагі – гэта не толькі гандлёвая дарога, гэта таксама шлях рабства, подласці і распусты.

***

Моліце Бога, каб Ён хутчэй паслаў нашай царкве сумленных і добрых айцоў, пакуль цяперашнія яе канчаткова не раскралі.

***

Самыя агідныя вернікі – былыя камсамольскія актывісты і партыйныя начальнікі, для іх Бог – гэта генсек, толькі на небе.

***

Няўжо чалавецтва выпаўзла з цемры існасці толькі дзеля таго, каб знікнуць пад сонцам прагрэсу?

***

Містыка без матэрыяльнага свету – вар'яцтва.

***

Ці варта было Канту ці Талстому столькі шмат пісаць, каб іх сёння ніхто не чытаў.

***

Прыгажосці свету нам дадзеныя дзеля таго, каб адчуць сваю нікчэмнасць.

***

Хутчэй за ўсё, людзі – адна з разнавіднасцяў паразітаў.

***

Самым страшным наркотыкам з'яўляюцца грошы.

***

Прывыкнуць можна да болю, але не да страху.

***

Ва ўсякай улады адзін твар – задніца.

***

Мінулае няшчасце амаль заўсёды дапамагае новаму шчасцю.

***

У Бога адзін клопат – не замінаць людзям.

***

Ствараецца ўражанне, што нас не трэба заваёўваць: мы і так усё за бесцань спусцім самі.

***

Не кліч мінулае, сучаснае цалейшым будзе.

***

Жыццё не кубак: яго да краёў не нальеш і да дна не вып’еш.

***

На ўсякага караля казырная шасцёрка знойдзецца.

***

Ёй было так сумна, як нікому ў свеце не бывае.

***

Ён нікуды не спяшаўся, бо ўжо ўсюды паспеў.

***

Мы ўвесь час як блытаем волю са свабодай, ад таго і большасць нашых бедаў.

***

З гадамі яго твар становіцца ўсё зласнейшым, яшчэ трошкі – і ёнператворыцца ў старога лысага пацука.

***

У дурноты шмат твараў, але мы ведаем толькі два: жонкі і начальніка.

***

Лёс становіцца лёсам толькі пасля таго, як з намі штосьці здарылася.

***

Самая крамольная навука – гэта гісторыя.

***

Навіна заканчваецца адразу, як толькі пачалася.

***

Не імкніся ўбачыць тое, чаго няма, і ты пазбавіш сябе непатрэбнай рэальнасці і шэрагу непрыемнасцяў.

***

Праўда знаходзіцца дзесьці паміж хлуснёй і нашым жаданнем ашукацца.

***

Раніца – гэта штодзённая рэпетыцыя ўваскрашэння.

***

Калі мы спрабуем зразумець незразумелае, нараджаецца рэлігія.

***

Нам амаль заўсёды трэба туды, дзе нас зусім не чакаюць.

***

Іх, як школьнікаў, зрэдзьчас вывозяць на экскурсіі па падначаленай ім краіне.

***

Дурное памятаць тое, аб чым іншыя ўжо даўно забылі.

***

Для кагосьці і захад з’яўляецца ўзыходам.

***

Казка ўжо даўно скончылася, а воўк усё яшчэ не з’еў Чырвоны Капялюшык.

***

Сабраўшыся далёка, азірніся вакол: можа, і ехаць нікуды не трэба.

***

Ва ўлады заўсёды сваё свята, на якое нас ніколі не паклічуць.

***

Помніку напляваць, якія мітынгі збіраюцца ля яго падножжа.

***

Чым больш гарэлкі, тым больш зразумелая мова птушак.

***

У адрозненне ад жывых, мёртвыя заўсёды да нас вяртаюцца.

***

Хто не ўмее працаваць, той праводзіць нарады і з’езды.

***

Не трэба ганяцца за поспехам, а то ён яшчэ падумае, што вы ад яго ўцякаеце – і пакрыўдзіцца.

***

Гаворачы пра вар’яцтва свету, мы кажам пра сябе.

***

Чалавецтва вядзе вечную вайну за вечны мір.

***

Чым менш у народзе рэлігійнага фанатызму, тым меншая верагоднасць вайны.

***

У Неба няма душы, толькі воля, таму яно нас ніколі не чуе.

***

Калі бюджэт войска меншы за бюджэт сілавікоў – гэта ўжо турма, а не дзяржава.

***

Нам не хапае таго, чаго ў нас ніколі і не было.

***

Аднойчы паверыўшы ў тое, чаго няма, мы засталіся ў палоне гэтай веры.

***

Асобай заўсёды безаблічныя кіруюць.

***

У годнага ваўка і казляняты сытыя, і козы апрыходаваныя.

***

Кепска, калі вочы смяюцца, а душа плача.

***

Прыдумаць Бога значна лягчэй, чым яго спасцігнуць.

***

Мужнасці заўсёды бракуе кроплі баязлівасці, каб застацца жывой.

***

Самалюбны чалавек заўсёды гатовы да здрады.

***

Народ – творца ўсяго, акрамя мудрасці; мудрасць ствараюць адзінкі, гнаныя народам.

***

Сыйсці – гэта значыць кудысьці вярнуцца.

***

Чым больш у цябе мабільных тэлефонаў, тым страшней яны маўчаць.

***

Рабая восень са скуластым тварам азіяцкага сонца глядзела на свет раскосымі жоўтымі лістамі таполяў. Гэтыя рудыя вочы павольна слізгалі ў празрыстым бліскучым паветры і, некалькі разоў міргнуўшы, з лёгкім шоргатам апускаліся на зямлю. Я сунуўся па шапаткім восеньскім дыване. Дзікая, як начное выццё ваўка, нуда павольна ўсплывала ў душы. Хацелася сарваць адзежу і, скурчыўшыся ад дакранання звярынай шкуры да голага цела, разарваць нябачную заслону часу і заскакаць вакол вогнішча з вялікім, бязважкім бубнам у руках. Хацелася да вытокаў; галава кружляла ў такт лістоты, і гэтае кружэнне набывала сепарыруючую сілу, якая адлучала дух ад цела. Павольна атухла сонца, прастора сціскалася, яшчэ імгненне – і ўвесь гэты велізарны свет ператворыцца ў маленькую, ледзь бачную кропку. Пад цесна сціснутымі стагоддзямі ўжо пульсавала вясёлкавая пустэча. Палёт пачаўся. Аднак нейкая невядомая сіла раптам вярнула ўсё на свае месцы.

Ціха ападала лісце. Сонца мружылася вачыма Мікалая Угодніка. Хацелася плакаць і маліцца.

Рыгор Сітніца



...кіч і прымітыў
сталі галоўнымі чыннікамі
культурнай прасторы...

# Пазыка ў спадарыні Вечнасці

## *Штрыхі да творчага партрэта Уладзіміра Савіча*

*Затрымайся, імгненне.*
*Не знікай у прадоннях вячнінаў.*
*Дай запомніць цябе. Дай сябе ў гэтым часе запомніць.*
*Бо мы ўсе, як рака, што ракой застаецца той самай,*
*ды не можа ваду затрымаць ці назад завярнуць,*
*каб застацца той самай вадою...*

Старыя фотаздымкі. Наіўная, часцей неўсвядомленая спроба спыніць імгненне ды вывесці яго з паўсядзённага хлуду ў стан адметнасці і абранасці, гэтым самым нібыта пазычыўшы на няпэўны тэрмін тую хвіліну ў пані Вечнасці.

Старыя фотаздымкі. Як хутка і непрыкметна робяцца яны старымі! Гэта каб не казаць сабе прыкрую праўду, што старымі (не, лепей хай будзе старэйшымі) робімся мы, хоць і манім сабе, што, маўляў, замала пакуль падставаў да сябе прымяраць тую зусім непатрэбную праўду.

Вядома ж, замала – зноўку паверыш уласнай мане, баязліва ўцякаючы ад таго, ад чаго ўцякчы немагчыма.

Аднак жа, пераглядаючы старыя фотаздымкі, з цягам часу прызнаешся сабе, што ўжо маеш не толькі прыемнасць ад новай сустрэчы з візуальным рэхам далёкага імгнення, але і не цураешся п'янкога прысмаку сентыментальнасці ды настальгічнасці, хоць яны, мусібыць, і ёсць першымі прыкметамі нашае восені.

Сярод безлічы фотаздымкаў, якія маю ў сваім прыватным зборы, ёсць некалькі, якія нагадваюць пра сябе часцей ад іншых: раз-пораз дастаю іх, зноў разглядаю да драбніцаў знаёмыя выявы, прыгадваю тое, калісці спыненае імгненне.

Ну, вось хаця б гэтае. Зіма 1996 года. Уладзімір Савіч, я ды колькі маіх аднакурснікаў у Вільні. Першае маё спатканне з “крывіцкай Меккаю” – спатканне-знак, якому наканавана было стацца пачаткам пажыццёвае любові да нашага старадаўняга стольнага места, з якога і пачалося маё спасціжэнне беларускай даўніны ды ўласнае самасці.

Падарунак, зроблены мне Савічам. Ведаў, што дарыў і ведаў – навошта.

Затрымайся, імгненне. Не знікай у прадоннях вячнінаў...

А вось іншая, таксама знакавая выява. Звычайны аматарскі здымак.Калісьці чорна-белы, а сёння жаўтавата-карычневы, амаль жывапісны, аздоблены драпінкамі ды невядомага паходжання плямамі. Час – мастак адмысловы.

Гальшаны. Славутае мястэчка беларускай Віленшчыны, прыкра абніжанае да статусу вёскі ў Ашмянскім раёне. Семдзесят дзявяты год прамінулага стагоддзя. Трыццаць пяць гадоў прамінула, а было нібыта ўчора: лета, сонца, луг.

Затрымайся, імгненне...

Сярод гурмы студэнтаў-мастакоў ды вясковых падшыванцаў ляжым плячо да пляча: я – дваццацігадовы студэнт мастацкага інстытута ды мой настаўнік і сябра Уладзімір Савіч, якому на шэсць гадоў болей.

Маладыя, вясёлыя, бесклапотныя. Аднак жа маем ужо ў душах нашых агульны клопат, агульную каштоўнасць, агульную любоў – Бацькаўшчыну. І як знак гэтай любові і трывожнага клопату – Гальшаны, – дабраслаўлёны кут Краю нашага, дзе што ні крок, то наша веліч, наша слава, але ж і нашыя ганьба, прыкрасць ды сорам.

Бо сузіраючы амаль дашчэнту дабітыя муры гальшанскага замка, дакранаючыся да магутных сценаў, якія, аднак, не ўстаялі пад націскам тутэйшых вандалаў ды шматлікіх ваяўнічых чужынцаў, пачынаеш амаль фізічна адчуваць прысутнасць нашай Гісторыі, як жывой але моцна параненай істоты.

Аднак жа зусім рэальна адчуваеш і бачыш прысутнасць нашай цяперменчыны. Дастаткова аднаго калгаснага кароўніка, які, ці не наўмысна, месціцца акурат на замчышчы, зліваючы брыдоцце ў засмечаную прызамкавую сажалку, над якой яшчэ пазнаюцца скалечаныя парэшткі колішняга княжаскага парку.

А касцёл францысканцаў–велічны шэдэўр тутэйшага барока, сведчанне магутнага Духа і вялікай Прыгажосці прашчураў нашых, зачынены разумнікамі-нашчадкамі, як асяродак рэлігійнага цемрашальства.

Якая жахлівая цемра павінна была пасяліцца ў апусцелых галовах і душах тых гора-разумнікаў, каб Святыню ператварыць у хлеў альбо сметнік! Ды яшчэ ганарыцца гэтым.

У якую дрыгву могуць забрысці абязбожаныя, аслеплыя душы! Ці ж не нас, невідушчых, маляваў калісьці празорца Брэйгель.

Дзякаваць Богу, святыня цяпер адноўленая. Там зноў нашыя людзі дасылаюць свае малітвы Звышняму.

Пачуй іх, Госпадзе!

Але ж ніколі не забудуцца паламаныя арганы, брыдкаслоўе на святых сценах, патрушчанае на друз касцёльнае начыненне, апаганеныя скульптуры святых ды пашкоджаныя гранітныя саркафагі князёў Сапегаў, над якімі стаялі мы з Уладзімірам Савічам, як стаяць над родным чалавекам, якому неабходная тэрміновая дапамога.

А колькі такога было па ўсім нашым Краі. А колькі яшчэ і цяпер занядбанага ў бясконцым чаканні паратунку. А колькі ўжо беззваротна страчана. І няма чаго, як той казаў, на люстэркаківаць, калі мы самі крывыя.

Даруй нам, Госпадзе!

Ці адпрацуем? Ці апраўдаемся? Ці выпрасім даравання? Ці адродзімся? Хто нам адкажа? Толькі мы самі. Сваёй працаю, сваёй вераю, сваёй любоўю.

Як зрабіў гэта той, хто з амаль дзіцячай радасцю ўзлятае ў нябёсы на яшчэ адным фотаздымку; таксама ўжо даўнім, чорна-белым, аматарскім, але ад гэтага яшчэ больш каштоўным.

Заслаўе. Дзядзінец. Гуканне вясны. Пачатак васьмідзясятых. Першыя легальна адроджаныя нацыянальныя святы–прадвесне нашага абуджэння, да якога я далучаны маім настаўнікам Савічам. Мы яшчэ і ўявіць сабе не можам, якімі дзівоснымі пладамі праз некалькі гадоў асвецяць родны Край зусім яшчэ кволыя парасткі гэтага прадвесня.

А пакуль у нас свята. Нам весела, молада, радасна. Мы гукаем нашу вясну. Вакол сябры, усмешкі, музыка, песні... Я, Савіч ды яшчэ колькі нашых калегаў гушкаем на святочных арэлях вясновага Міхася Раманюка. Вышэй, яшчэ вышэй, нібыта ў самыя нябёсы ўзлятае шчаслівы наш сябра.

Затрымайся, імгненне...

Ах, дарагі Міхась Хведаравіч. У якіх астральных вышынях лунае цяпер душа твая? І ці аддзячылі ёй супакаеннем нашыя Нябесныя Заступнікі за ўсе твае зямныя высілкі, за ўсё тваё сапраўднае і вялікае, што пакінуў ты Краю роднаму? А можа быць і сапраўды аддзячаная, зноў уцялеснілася ў новым зямным аблічча, каб дарабіць нязробленае. Бо хто даробіць?

Ды ці ж можа хтосьці замяніць творцу: праспяваць няспетае, сказаць нявыказанае, намаляваць ненамаляванае..? Ці ж можна замяніць на іншыя душу, сэрца, розум, якімі і ствараецца тое, што наіўна хоча быць заўважаным Вечнасцю, ці хоць бы родным Краем?

Адказ відавочны, і вынікае ён з самой прыроды творчасці, як з’явы адзінкавай, непаўторнай, нестандартнай. І ніякавата робіцца, пачуўшы быццам ухвалу, што твор, маўляў, адпавядае сусветным (еўрапейскім, класічным...) стандартам. Можа, і адпавядае, але ў такім разе да творчасці ён мае адносіны не большыя, чым тыповыя панельныя дамы ў шматлікіх мікраранах.

Бо менавіта стандарт ёсць найбольшай пагрозай для мастака.

Бо не бываюць стандартнымі людзі, дрэвы, аблокі, боль, радасць, каханне...

Бо творчасць – гэта заданне індывідуальнае, часам глыбока зашыфраванае; і мастак мусіць яго зразумець, усвядоміць і выканаць. І ніхто іншы тое заданне выканаць не можа. Пагатоў абы-з рук яго выканаць нельга, бо небяспечна.

І як годны прыклад чуйнага, удумлівага, надзвычай адказнага стаўлення да Божага задання, – творчы чын Ул. Савіча, які не толькі дакладна ўсведамляе сваё мастакоўскае пакліканне, але і не забывае пра небяспеку, якая пагражае кожнаму, хто Божыя дары размяняў на аблуднае.

Гісторыя гэта засведчыла безліч разоў; бо атрымаўшы па нараджэнні, задарма і без аніякіх заслугаў тое, што ўмоўна называюць талентам, чалавек з цягам часу мусіць усвядоміць і адказнасць за атрыманую пазыку. Таму што так проста ды абы-каму Неба падарункі не раздае. А даючы, пэўна ж мае на мэце адпаведны яму вынік, бо на дробязі не разменьваецца. Ды і пазычанае, як вядома, трэба вяртаць. Пагатоў, калі крэдытарам сам Бог. А яму аддаваць трэба спраўна, своечасова і , пажадана, з працэнтамі.

Невяртанне пазыкаў, зазвычай, караецца даволі жорстка. І гэта не толькі ў адносінах між людзьмі, але і ў дачыненнях чалавека з нябёсамі, дзе стаўкі невымерна большыя, чымся ў парахунках будзёных, як большая і кара.

Бо ці ж мала давялося пабачыць паламаных, а то і скалечаных лёсаў людзей, калісьці надзвычай шчодра адораных, бліскуча адукаваных, у якіх было ўсё для яркай творчай самарэалізацыі і жыццёвага поспеху.

Але задуманае чамусьці не атрымлівалася, чаканае не адбывалася, і нават тое, што лічылася талентам, чэзла, мізэрнела аж да поўнага знікнення.

І чалавек, застаючыся жывым, паміраў як творца, не вярнуўшы нябёсам узятую пазыку, праматаўшы яе ў штодзённасці ды разменяўшы на пабытовую драбязу.

А за такое караюць. Часцей за ўсё душэўнай дэградацыяй, з якое вынікае ўрэшце нецікава пражытае, а то і ўвогуле змарнаванае жыццё.

Дык чаму яно так?

Колькі разоў у нашым шматгадовым мастакоўскім і чалавечым сумоўі я і Ул. Савіч задавалі гэтае пытанне, і адказ вынікаў адзін.

А таму, мабыць, што выдатна, а нават віртуозна, валодаць прафесійным умельствам – гэта ўсё ж не болей чым штукарства, рамесніцтва. Зрэшты, не варта прыніжаць добрых рамеснікаў ды штукароў. Яны таксама вартыя пашаны, як усялякі спраўны работнік. Аднак жа вынік іхняе ўсім патрэбнае працы служыць пабытоваму, прыземленаму, будзённаму. Ён не мае наіўнага, часам смешнага памкнення быць заўважаным Вечнасцю, ці хоць бы родным Краем.

Творца ж, часам праз асабістыя ахвяры ды не абы-якія высілкі, праз неразуменне ды пагарду нятворцаў, намагаецца вырвацца з утульнага палону будзённасці і звыкласці ў безмежную прастору думкі, каб пераасэнсаваўшы рэчаіснасць, стварыць новую рэальнасць, якая выяўляецца ў мастацкім вобразе. І ў гэтым палягае адзін з прывілеяў творцы – зрабіць свята там, дзе яго ніхто не чакае.

А для гэтага прафесійнага ўмельства дужа мала.

Патрэбна Любоў, якая жывіць цябе Духам.

Патрэбна Ідэя, якая вядзе цябе па жыцці, засцерагае ад розных аблудаў і не дае заблукаць у самім сабе, ці ў шырокім свеце.

Патрэбна ўсведамленне сябе, як звяна ў бясконцым ланцугу пакаленняў, без якога гэты ланцуг можа рассыпацца.

Патрэбна ўменне кіраваць сабою.

Патрэбны родныя людзі, якія вераць у цябе і для якіх ты самы лепшы.

І тады ёсць шанец адпрацаваць пазычанае. І тады даецца магчымасць выцягнуць уласнае жыццё з дрыгвы пабытовага хлуду і душэўнага заняпаду ды рушыць шляхам , пазначаным наканаванасцю. Бо прырода творчасці – няспынны рух да невядомага, прага спасціжэння неспазнанага, жаданне адкрыць новае там, дзе магчымасцяў для адкрыцця, здаецца, не засталося.

Але, чым болей мастак заглыбляецца ў прастору творчасці, тым большыя абшары неспазнанага перад ім паўстаюць. І вельмі лёгка ў спакуслівым захапленні перад безліччу вабных шляхоў разгубіцца ды заблукаць у гэтым бязмежжы.

Аднак блуканні не будуць пакутлівымі і бясплённымі, калі мастак усведамляе мэту сваіх пошукаў – знайсці той накірунак і тыя сродкі, якія будуць найболей адпаведнымі ягонаму прызначэнню. А яно ў захаванні вечных каштоўнасцяў, у пошуку ды памнажэнні найвышэйшай Прыгажосці.

Бо сказана: “Прыгажосць уратуе Свет”. І тое бясспрэчна. Але для гэтага свет сёння мусіць выратаваць саму Прыгажосць як галоўны сродак свайго паратунку; выратаваць сэнс, змест, прызначэнне творчасці.

А пагроза відавочная. Бо сёння, каб быць мастаком (спеваком, музыкам, паэтам...), дастаткова ім проста назвацца. І дзеля гэтага зусім не трэба мець непаўторны талент ды грунтоўную прафесійную адукацыю. У найноўшых плынях аўтарскага самавыяўлення, якія самаўпэўнена, а часцей даволі агрэсіўна абвяшчаюць сябе самым прагрэсіўным мастацтвам, такія чыннікі як талент ды прфесіяналізм даўно абвешчаныя па-за законам, бо, маўляў, замінаюць самавыяўленню

творчай індывідуальнасці. І, дзякаючы гэтаму, прагрэсіўным мастацтвам сёння абвяшчаецца ўсё, што можа фінансава падмацаваць сваё самаабвяшчэнне. І чым больш цынічным ды пачварным будзе той арт – аб'ект, тым болей шансаў на поспех ён мае. А таму засоўванне авангардовай галавы мастака ў вагіну каровы, альбо публічнае савакупленне са свіннёй, ёсць для гламурнай тусоўкі ніякім не скаталожствам, не цынічным здзекам, ці нават шызафрэніяй, а бліскучай арт-падзеяй і ўзлётам прагрэсіўнай мастацкай ідэі. Як, зрэшты і экскрыментыаднаго, здаецца, англійскага канцэптуаліста, расфасаваныя ў слоікі і выстаўленыя для публічнага смакавання лонданскіх эстэтаў у адной з тамтэйшых галерэяў.

Якая моц, які шык, які клас! Куды ўжо нам – правінцыйным "саўкам" з нашымі местачковымі ўяўленнямі аб творчасці. Бо якім трэба валодаць густам ды інтэлектам, каб адчуць найвялікшую эстэчную насалоду ад сузірання каровы, разрэзанай уздоўж цела, чые дзве паловы, падвешаныя на круках, звісаюць над столлю прэстыжнейшай мастацкай галерэі. Аказваецца, гэта таксама акт творчасці для жывадзёра, што назваўся мастаком. А працэс візуальнага эстэцкага смакавання крыві і лайна, што сцякаюць з вантробаў беднае жывёліны на галерэйны паркет, пэўна ж ёсць для таго-сяго з рафінаваных гледачоў узбагачэннем найноўшай эстэтыкай ды авангардовай мастацкай думкаю.

Свят. Свят. Свят.

Ды і той вычварэнец – паталагаанатам, а сёння ўжо знакаміты мастак, што выставіў у адной з берлінскіх галерэяў незапатрабаваныя, выпатрашаныя трупы бамжоў у позах, адпаведных полаваму акту, пэўна ж адчуваў не абы-якое творчае пакліканне. Вось толькі хто яго паклікаў?! Адказ відавочны.

І свет не абрыніўся і нават не здрыгануўся.

А тыя, што асмельваюцца быць публічна нязгоднымі з гэткімі праявамі творчасці ды азначыць яе сапраўднае найменне – няздарнасць, дылетантызм, рызыкуюць патрапіць у лік заімшэлых рэтраградаў – лютых ворагаў новага мастацтва. А калі яно так, дык я з вялікай ахвотаю далучаю сябе да гэтага "ганебнага" ліку.

Ратуй нас, Госпадзе!

А каб ад усяго гэтага пацыху не з'ехаць з глузду, трэба заўсёды памятаць найвышэйшы крытэрый дзядоў-прадзедаў нашых, якім спрадвеку ацэньвалася ўсё вартае, добрае, слушнае. Людскасць.

"Дзіцятка, не рабі такога. То ж не па-людску" – навучала мяне ў маленстве мая бабуля Грыпінка.

Людскі чалавек, людская справа, людскі ўчынак, зроблена па-людску... Гэтак пазначалася ўсё вартае чалавека і адпаведнае яму. Людскасць – эталонная мера ўсяго, што спараджае чалавек.

Людскасць вышэй за праўду, бо праўда бывае жорсткай і нялюдскай, яна часам калечыць а то і забівае, тым самым падмяняючы сваю сутнасць. Згадайма хаця б ліхія гады сталіншчыны, калі сын самохаць асуджаў на смерць сваіх бацькоў, а ў цьмянай свядомасці мільёнаў гэта было неаспрэчнай праўдай і справядлівасцю.

Праўда можа мяняць сваё аблічча. Людскасць – ніколі. Таму яна ёсць найвышэйшай праўдаю, якой мусіць служыць творца. Мераю людскасці належыць вымяраць праўдзівасць, эстэтычную вартасць, дасканаласць твора, незалежна ад ягонай мастацкай формы. Бо сэнс творчасці – памнажэнне людскасці, супроцьстаянне расчалавечванню. А таму гуманістычная праява чалавечай існасці, узвышэнне духоўнай сутнасці людства ёсць галоўным зместам творчасці. І як шлях у бездарожжы вызначаюць па сонцу ці зорках, гэтак шлях свой у творчасці, амаль бездарожнай, пазнакаю людскасці вызначайма.

І менавіта гэтай пазнакі трымаецца ў мастацкім раздарожжы Уладзімір Савіч, які разумее, што акурат у гэтым ёсць паратунак і для самога творцы, бо ствараючы дасканаласць, творым і дасканалім самі сябе, падвышаем уласную меру людскасці.

Але ў гэтай тварбе і самаўдасканаленні мастак не перастае быць камусьці сынам, унукам, праўнукам... Ён не можа не ўсведамляць, чыім працягам ён ёсць і хто будзе працягам яго самога.

І як ягонае фізічнае цела мае сваё адметнае аблічча, у якім ёсць рысы бацькоў, дзядоў, прадзедаў, гэтак і твор мусіць мець аблічча адпаведнае самому творцу і ягоным папярэднікам. Бо тое, што назапашвалі ў сабе пакаленні, раптам паўстае ўвасобленым у канкрэтным чалавеку – залатым звяне непарыўнага ланцуга пакаленняў.

Гэта датычнае і геніяў, бо яны, хоць і пацалаваныя Госпадам, але ж народжаныя на пэўнай зямлі, ад пэўных людзей, у пэўнай рэчаіснасці. А паколькі рэчаіснасць, у якой нараджаецца будучы творца, мае тое альбо іншае нацыянальнае аблічча, дык праявы гэтай адметнасці, як генетычны код, пераходзяць у вобраз, народжаны творчасцю. І ў тым ёсць вялікая таямніца і яшчэ адзін глыбокі сэнс мастацтва: быць адметным, непадобным, незвычайным, якім і належыць яму быць.

І якія б вонкавыя ўплывы ды запазычанні ні зазнала аўтарская стылістыка, яе адметнасць палягае найперш у этнічнай прыналежнасці мастака; што, відаць, адбываецца па-за ягонымі жаданнямі. Бо якім бы вольным ні быў творца (а духоўная свабода ёсць галоўнай перадумовай мастацтва), ён, аднак, не можа быць вольным ад уласнай генетыкі.

Можна, вядома, запярэчыць гэтаму сцверджанню, прывёўшы безліч прыкладаў з сучаснай мастацкай рэчаіснасці, якім, маўляў, цяжка супрацьстаяць.

Але гэта зрабіць зусім нескладана, асабліва цяпер.

Сёння, калі ўсім відавочныя несуцяшальныя вынікі эканамічнай глабалізацыі (стандартызацыі, уніфікацыі...), гэта сведчыць найперш супраць глабалізацыі культурнай. Гэтая з’ява, па ўсім відаць, прынясе вынікі куды больш разбуральныя, чым у эканоміцы: што, на жаль, ужо сталася відавочным у галіне медыяў, масавай культуры, інтэрнэт-прасторы.

Сусветная ўніфікацыя формы (а даволі часта і зместу) мастацкага прадукта непазбежна вядзе (а гэта ўжо факт) да рэзкага паніжэння прафесійных крытэрыяў і патрабаванняў, да заняпаду мастацкай адукацыі, да банальнасці і прымітыўнасці зместу, да катастрафічнага спрашчэння мастацкай формы, да падмены паняццяў і разбурэння крытэрыяў.

Пачытайма (калі зможам) сучасную так званую папулярную літаратуру, паслухайма, абражаючы ўласны слых, сучасныя хіты і заўважма, што калямастацкі Паліграф Паліграфавіч даўно ўжо з вялікім імпэтам і перакананасцю зачышчае культурнае асяроддзе ад самой Культуры.

Кіч і прымітыў сталі галоўнымі чыннікамі культурнай прасторы, актыўна паніжаючы мастацкі густ, падмяняючы прафесійныя паняцці, дэвальвуючы мастацкія каштоўнасці, ігнаруючы элементарныя маральныя нормы; адмяняючы духоўную, гуманістычную сутнасць творчасці, пазбаўляючы яе прыкметаў людскасці.

І таму, мабыць, дэманстрацыя ў якасці мастацкага аб’екта аўтарскіх фекаліяў, разрэзанай каровы ці падфарбаваных трупаў шакуе далёка не кожнага.

Дык ці для такога працягу ствараліся шэдэўры сусветнага мастацтва? Ці ж гэты шлях нам паказвалі геніі ўсіх часоў і народаў? Ці ж мы забыліся, куды зайшлі ў рэшце рэшт брэйгелеўскія сляпцы?

“Камо градзешы?” – пытаецца Біблія.

Што адкажам? Чым адкажам? Ці будзе прыняты наш адказ?

“Куды ідзеш?” – запытайся ў сябе і не ўнікай адказу.

Бо мастацтва – гэта адказнасць свядомага выбару, роўная выбару Фаўста.

Бо на кожнага творцу знойдзецца свой шматаблічны Міфестофель.

Бо мастаку падуладная энергія, якая тоіць у сабе велізарную сілу. І, як уся-

лякая іншая форма энергіі, мастацтва можа даваць вынікі з адваротнымі знакамі. А для таго, каб творчасць не набыла разбуральную сілу, яна, скіраваная ў сусвет і вечнасць, павінна быць падключанай да сілкавання ад агульначалавечых гуманістычных каштоўнасцяў, але ж заземленай у родную глебу.

І тады для творцы ўзнікае магчымасць зрабіць добрую справу калі не для ўсяго людства, дык хоць бы для родных людзей, што таксама нямала. А для іх належыць рабіць толькі па-людску, бо іншага не прымуць і слушна зробяць.

Паглядзі на мяне са сваіх эдэмскіх вышыняў, мая мілая бабуля Грыпінка. Ці ўсё я раблю па-людску? Пытаюся – баюся пачуць: “Дзіцятка, не рабі такога...”

“Дык за людскасць!” – падымае вясёлую чарку ў нашай сяброўскай бяседзе Уладзімір Савіч. “За людскасць і будзьма”, – адказвае яму сябрына.

Чыстая думка. Чыстае палатно. Чысты аркуш паперы, як белае, заснежанае, бездарожнае поле, па якім ісці табе да сваёй мэты.

Трымайся свайго поля. Пракладвай сваю сцежку. Кіруйся сваёй мэтай.

І куды б твая мэта ні вяла цябе, у якую б модную апранаху ні прыбіралася твая творчасць, якая б разняволенасць мастацкага эксперымента ды пошуку ні апаноўвала яе, але генетычны код свайго пра сябе нагадае.

І гэтак мусіць быць, бо так задумана Богам.

А калі ў кагосьці інакш, дык прыміце мае спачуванні.

Але ж мае віншавані і захапленне тым, у чыіх творах цячэ магутны ток генетычнага кода Белавежы і Нёмана, палескіх дуброў ды дняпроўскіх кручаў, Нарачы, Каложы, Гальшанаў...

Ток, які раптам адчуў я, стоячы разам з Уладзімірам Савічам на вяршыні Гальшанскага гарадзішча, з якога, здаецца, бачная сама Вечнасць.

І вясёлы купальскі агонь цалаваў звечарэлую цішу.

І ў ягоных траняткіх сполыхах мільгацелі, здавалася, здані Ярылы, Вялеса, Стрыбога.

І ля замкавых сценаў – руінаў паўставалі, хацелася верыць, прывіды Сапегаў, Гальшанскіх.

І званы касцёла Барунскага адгукаліся рэхам спагадлівым на часова знямелай званіцы Гальшанскай.

І плыло над пагоркамі, што купаліся ў малодзіве ліпеньскіх тумаnoў, наша вольнае, маладое: “Не ўсе лугі пакошаны, не ўсе сенажаці...”

І, здавалася, рэхам вясёлым увесь свет адгукаецца нам.

Затрымайся, імгненне.

*2009 г.*



Сяргей Кавалёў



...Беларусь –

гэта лінія фронту...

# На лініі фронту:

***Раман Артура Клінава "Шалом"***

Яшчэ зусім нядаўна беларуская проза трывала асацыявалася з вясковай тэмай, менавіта ў вёсцы адбывалася дзеянне большасці твораў Янкі Брыля, Івана Мележа, Івана Шамякіна (выключэннем былі толькі асобныя апавяданни Міхася Стральцова). Напрыканцы XX ст. маладыя аўтары Адам Глобус, Уладзімір Сцяпан, Максім Клімковіч і інш. пачынаюць эстэтычнае асваенне гарадской прасторы. Характэрна, што перанясенне дзеяння мастацкіх твораў з вёскі ў горад спалучалася з пераходам ад рэалізму да постмадэрнізму.

Цікавай тэндэнцыяй у беларускай прозе пачатку XXI ст. з'яўляецца асваенне еўрапейскай геаграфічнай прасторы: дзеянне асобных празаічных твораў пераносіцца з блокаў Мінска ў кавярні Варшавы і клубы Берліна. Выразным праяўленнем гэтай тэндэнцыі з'яўляецца новы раман Артура Клінава *"Шалом"* (2011).

Вядомы мастак-авангардыст, рэдактар незалежнага часопіса "pARTizan" Артур Клінаў дэбютаваў у літаратуры аповесцю-



эсэ пра Мінск “Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца” (2008), якая выклікала цікавасць у айчыннага чытача (невялікі наклад кнігі быў раскуплены вельмі хутка) і сталася даступнай для чытача замежнага (аповесць перакладзена на нямецкую і польскую мовы, у Польшчы выйшла ў прэстыжным выдавецтве “Czarne”). Хаця “Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца” пазіцыянавалася аўтарам як “аўтабіяграфічны раман”, але насамрэч уяўляла сабой сінтэз дзіцячых успамінаў і культуралагічнага эсэ, таму не ўспрымалася як сур’ёзная заяўка мастака Клінава на пачатак літаратурнай кар’еры, хутчэй – як творчы эксперымент, вербальная паралель да ягонага фотаальбома “Горад СОНца” (2006). Зусім іншая справа – фабулярны раман “Шалом”, фрагменты якога друкаваліся ў “Дзеяслове” і які трапіў у шорт-ліст прэміі імя Ежы Гедройца Польскага Інстытута ў Мінску.

Цяжка знайсці ў сучаснай беларускай літаратуры твор, які б так выразна і мэтанакіравана, як “Шалом”, уздымаў праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, пошукаў Беларусі свайго месца ў Еўропе, успрымання беларусаў іншымі еўрапейскімі народамі. Цяжка знайсці ў беларускай літаратуры, тэкст настолькі прыдатны і “адкрыты” для даследавання тэхнікі апісання прасторы, літаратурнай тапаграфіі еўрапейскіх гарадоў, мастацкага адлюстравання апазіцыі “Усход-Захад” і іншых праяваў сучаснай геапалітыкі. Прычым, яшчэ раз падкрэслім, перад намі не культуралагічны трактат і не зборнік падарожных эсэ, а авантурны раман з каларытнымі героямі і дасціпным гумарам.

Адразу трэба прызнаць, што ідэя ўздзець на галаву героя кайзераўскую каску часоў першай сусветнай вайны і адправіць у лукашэнкаўскую Беларусь – надзвычай прадуктыўная для стварэння шматлікіх сюжэтных калізій і выпрабавання самых розных ідэалагем і стэрэатыпаў. Дзіўны ўчынак героя выклікае шмат пытанняў, у залежнасці ад сітуацыі па-рознаму тлумачыцца аўтарам і стварае шырокае поле для чытацкіх інтэрпрэтацый. Слова “шалом” у беларускай мове азначае старадаўні воінскі шлем, але ў той жа час можа разумецца і як габрэйскае “Мір табе!” Таму, шалом на галаве Андрэ – гэта абвяшчэнне вайны, але і знак міру, гэта выклік “звышчалавека” нікчэмнаму свету, але і прызнанне поўнай капітуляцыі перад светам, гэта выдатны, самы значны арт-праект героя, але і канчатковае адмаўленне ад мастацкіх праектаў, гэта прадуманая ідэалагічная дыверсія і ў той жа час звычайнае вар’яцтва, у рэшце рэшт шалом – гэта поўны абсурд, туга ў квадраце, бессэнсоўнасць у кубе.

Нават калі прыняць “ваенную версію” ўчынка героя (невыпадкова жанр твора вызначаны аўтарам як “ваенны раман”), узнікае пытанне: што гэта за таямнічая вайна, куды рушыць у паход і з кім будзе змагацца беларускі мастак, уздзеўшы сабе на галаву прускую каску? Найпрасцейшы адказ: Андрэ адпраўляецца на заваяванне свету, у паход па славу, ён, як і кожны мастак, вымушаны змагацца за прызнанне, “легітымізацыю сваёй творчасці” (П. Бурдзьё). Альбо наадварот: Андрэ не збіраецца нікога заваёўваць, ён адзявае каску і забіраецца ў акопы, каб абараняць сваю мастакоўскую свабоду ад наступлення нікчэмнага, прадажнага свету. Ёсць алкагольны варыянт: Андрэ са сваімі сябрамі штовечар змагаюцца з шыхтамі чырвонага віна, залацістага піва, віскі, гарэлкі, настоек няпэўнага паходжання ды іншых выбуховых трункаў аж пакуль не палягуць на полі бою (у такой сітуацыі мець на галаве шалом вельмі зручна). Але найбольш цікавую інтэрпрэтацыю набывае шалом і вайна ў рамане Клінава ў катэгорыях геапалітыкі (у постмадэрністычным яе выданні): Андрэ збіраецца ўзяць удзел у вялікай бітве дзвюх цывілізацый, у рашаючым сутыкненні Усходу і Захаду.

У залежнасці ад таго, кім з’яўляецца ягоны субяседнік, Андрэ па-рознаму вызначае сваю ролю і месца на полі бою. Нямецкаму кіроўцу, які падвёз яго на сваёй шыкоўнай машыне, ён прызнаўся, “...што ў яго ўсяліўся дух прускага воіна, і цяпер ён мусіць выправіцца на ўсход, каб вярнуць на гістарычную радзіму свой бедны, заблукалы ў багнах і стагодзьдзях народ. Што ён даў абяцаньне ніколі да часу, калі ён убачыць сваё балотнае племя радасным і вольным на берагах бацькі Рэйна, не здымаць шалома з галавы. Праўда, місія гэта вельмі складаная. Існуе яго антыпод у касцы-ваяра-вызваліцеля, які жадае заманіць ягоны люд на берагі матухны Волгі. І, уласна, на двубой волатаў, ад якога залежыць будучыня ягонага народу, ён і кіруецца”. Свайму магілёўскаму начальніку, які абвінаваціў яго ў ідэалагічнай дывersіі, ён напісаў у тлумачальнай запісцы, што ў сітуацыі, калі Беларусь акружана варожымі дзяржавамі, кожны грамадзянін павінен насіць на галаве шалом: “Гэты прадмет служыў бы сымбалем няскоранага духу нашага народу, які, насуперак усім зласьліўцам, цьвёрда і ўпэўнена ідзе да сваёй, яму аднаму вядомай мэты. Гэты шалом, або ў прастамоўі “каска”, сваім задраным угару шпілем кідаў бы выклік супольнасці непрыязных дзяржаў”.

Сімвалічным увасабленнем адвечнага змагання Захаду і Усходу за душы Андрэ і ягоных няшчасных землякоў выступаюць два ільвы, змешчаныя на франтоне шалома, якім герой даў характэрныя імёны “Валенрод” і “Святаполк”: “На шыкоўным франтоне шалома важна гарцавалі два залатыя львы. Яны ці то трымалі ў лапах, ці то спрабавалі вырваць адзін у аднаго залаты рыцарскі шчыт. Львы відавочна займаліся геапалітыкай, тузаючы распластаную на шчыце рыбу”. У многіх сітуацыях Валенрод і Святаполк паводзяць сябе як жывыя, рэагуюць на небяспеку, як, напрыклад, пры набліжэнні да беларускай дзяржаўнай мяжы: “Яны быццам сьціснуліся ад напругі, мацней ухапіліся за шчыт і ў трывожным чаканьні глядзелі адзін на аднаго, у прадчуваньні дзіўнай, таямнічай азёрнай краіны зь бясконцымі лясамі, багнамі, незьлічонымі вурдалакамі, чырвонаносымі ёрыкамі й блакітнай водарасьцю, што выпраменьвае дурманлівы пах”.

Апазіцыя “Захад/Усход” выразна праяўляецца на працягу ўсяго рамана Артура Клінава і падаецца не толькі ў жартаўлівым ключы. Яскравым прыкладам адлюстравання постмадэрністычнай геапалітыкі з’яўляюцца апісанні гарадоў і краінаў, у якіх даводзіцца пабываць Андрэ. У свядомасці галоўнага героя адбываецца псіхалагічнае і эстэтычнае асваенне сярэднееўрапейскай прасторы, трансфармацыя геапалітычных рэаліяў у культуралагічныя фантомы.

З гэтай перспектывы “Шалом” адкрываецца ў першую чаргу як “раман-падарожжа”, а не як “ваенны раман”, сюжэт твора тыпалагічна ўзыходзіць да “Адысеі”, а не да “Іліяды” (паводле борхесаўскай класіфікацыі сюжэтаў).

І, сапраўды, раман распавядае пра *вяртанне героя*: з Бона ў Магілёў – праз Гановер, Берлін, Варшаву, Брэст і Мінск. Дзеянне твора адбываецца ў сямі пералічаных гарадах, якія маглі б даць назву сямі раздзелам твора, калі б аўтар з’яўляўся пісьменнікам-рэалістам і не вылучаўся буйнай фантазіяй. Але раман відавочна народжаны пад зоркай постмадэрнізму, мастацкая фантазія аўтара не ведае межаў – і таму не гарады, а спажытыя ў іх героем спіртныя напоі далі назвы раздзелам, уваскрашаючы дух незабыўнага Венечкі Ерафеева: “Чылійскае чырвонае”, “Егермайстар”, “Фінляндыя”, “Крупнік”, “Скарб Радзівілаў”, “Белая Русь”, “Крыжачок”. Толькі назва апошняга, восьмага раздзела, выбіваецца з “алкагольнага” стылю: “Ідал вярнуўся”, але гэты раздзел выконвае ў рамане функцыю эпілога і да таго ж герой апынаецца ў выцвярэзніку, дзе здабыць чарговы алкагольны напой вельмі цяжка.

У рамане Клінава паўстаюць маляўнічыя партрэты-апісанні сямі гарадоў. Рухаючыся з Захаду на Усход услед за героем, чытач спазнае асаблівасці тапаграфіі, архітэктуры, атмасферы кожнага горада, даведваецца пра яго месца ў біяграфіі

і сістэме каштоўнасцяў героя. Вобразы еўрапейскіх гарадоў паказаныя ў рамане “Шалом” праз прызму свядомасці чалавека адукаванага, творчага, надзвычай назіральнага, але, што найбольш істотна, – таго, які быў народжаны ў савецкую эпоху за “жалезнай заслонай”, а цяпер вымушаны жыць на руінах сацыялізму.

Як з геаграфічнага, так і з кампазіцыйнага пункту гледжання лагічна было б пачаць экскурс па галерэі еўрапейскіх гарадоў, створанай Артурам Клінавым, з Бона, у якім распачынаецца дзеянне рамана. Але такі пачатак быў бы недаравальнай памылкай, бо з першых старонак рамана перад вачыма чытача ўзнікае вобраз іншага, улюбёнага горада героя – Парыжа. Парыж і Францыя выступаюць у рамане як недасяжная мара, як увасабленне ідэальнай, найбольш гарманічнай з мастацкага пункту гледжання прасторы для жыцця творчага чалавека: “Францыя... Цудоўная, прыгожая краіна, што вабіла яго з самога юнацтва. Парыскія кавярні, Эйфелева вежа, “Мулен Руж”, пляц Пігаль, Ван Гог, Дэга, Тулюз-Лятрэк...”

Невыпадкова імя героя ўжываецца ў рамане найчасцей у французскім варыянце: “Андрэ”. Так назвала яго мастачка Франка, якую ён сустрэў у Боне і адразу закахаўся: “Андрэ” любіў маркотныя вочы Франкі, бачыў у ёй музу і, магчыма, мадэль для будучай скульптуры. Адно яе імя ўвасабляла ў сабе нешта ўзнёслае. Франка... Францыя...” “Андрэем”, “Андрэйкам” называюць героя сябры і жонка, а калі ён сам называе сябе так у думках – значыць, учыніў нешта непрыемнае і брыдкае, за што сорамна перад “Андрэ”, перад Франкай, перад Францыяй. Узнікае выразная апазіцыя паміж “Андрэ” і “Андрэйкам”, у якой французскі варыянт увасабляе найлепшыя якасці героя (шляхетнасць, незалежнасць, смеласць), а памяншальны беларускі – найгоршы (правінцыйнасць, “жлобства”, хамства). Стаўленне “Андрэйкі“ да Франкі не такое ўзнёсла-паэтычнае, як у “Андрэ”: “Ён хацеў зацягнуць Франку ў ложак: месячнае ўстрыманне ўжо адбівалася на парадку ягоных думак...”

Захапленне Парыжам як сімвалам культуры і цывілізаванасці, жаночай і мастацкай прыгажосці можа падацца ў XXI ст. праявай стэрэатыпнага мыслення і традыцыйнага, нават банальнага густу. Яшчэ Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч высмеяў у “Ідыліі” (1844) франкаманію, уласцівую ў XIX ст. палякам і беларусам. У нейкім сэнсе герой Артура Клінава нагадвае героя “Ідыліі” Караля Лятальскага, які патэтычна ўсклікваў: “О чаму край наш дагэтуль яшчэ не можа набраць тае цывілізацыі, якою вызначаецца Францыя? Тут усё так панура! Так глуха! <...> Няма нідзе як у Францыі! Там кожная, хоць бы найпрасцейшая сялянка далёка асвячнейшая за тутэйшую паненку. О, Францыя, Францыя!”

Напрыканцы XX ст. у беларускай літаратуры ўзнік шэраг тэкстаў, у якіх свядома разбураецца міф Парыжа як мастацкага цэнтра Сусвету і ўзора для наследавання, сцвярджаецца анталагічная роўнасць паміж вершамі Рыльке і песнямі палескай бабулькі, сусветна вядомымі нацюрмортамі Маціса і “цікеткамі” (малюнкамі кветак на драўляных дошчачках) нязнаных давыд-гарадоцкіх мастакоў. Паэт Леанід Дранько-Майсюк у эсэ “Стомленасць Парыжам”, вандруючы па парыжскіх вулках і скверах услед за Гіёмам Апалінэрам, па-майстэрску ўплятае беларускія ўспаміны і асацыяцыі ў габелен французскіх уражанняў і прыходзіць да жыццесцвярджальнай высновы, што “калі мы сапраўды адстаём ад сваіх суседзяў на сто, дзвесце ці нават на больш гадоў, калі мы часта прыстаём, стамляемся, баcанож адольваючы дадзены гістарычны шлях, то адставанне нашае (я ўпэўнены!) вельмі блізкае да той відавочнай розніцы, якая некалі існавала паміж пакутнай хадою босых галілейскіх рыбакоў і зладжаным крокам абутых рымскіх легіянераў”. Філосаф Валянцін Акудовіч у эсэ “Разбурыць Парыж”, узяўшы ў якасці эпіграфа выказванне Дранько-Майсюка, а ў якасці інтэлектуальнага ўзбраення – працы Дэрыды, Льётара, Барта, Дэлёза, упэўнена абвясціў “усім занураным у паныласць беларусам, што ў нас няма альтэрнатывы: альбо мы разбурым Парыж,

альбо Парыж сваім цяжкім ценем разбурыць нас – дашчэнту”. Парыж разумеўся як Сталіца вялікага еўрапейскага наратыву, як глабальны Сімулякр, што засланіў нашыя вочы ад белага свету, як сімвал лагацэнтрычнага мыслення, у катэгорыях якога Беларусь нязменна выглядала як незавершаны праект, краіна-аўтсайдэр, інтэлектуальная і культурная правінцыя. На думку Акудовіча, збаўцам беларусаў з-пад інтэлектуальнага прыгнёту Вялікага еўрапейскага наратыву, станецца Постмадэрн, прыход якога ў “родныя балоты” беларускі філосаф горача вітаў.

Культавая постаць беларускага альтэрнатыўнага мастацтва (падобнае азначэнне ў дачыненні да Артура Клінава нярэдка ўжываецца ў незалежных выданнях), пісьменнік-постмадэрніст Артур Клінаў ласкава дазволіў свайму герою, прыхільніку авангарднага метаду “некрарамантызму-турбаабстракцыянізму” захаваць у свядомасці досыць старамодны, “неразбураны” вобраз Парыжа, насіць яго ў сэрцы як узнёслую мару, немагчымую для здзяйснення, як і каханне да Франкі (здзейсніцца мог толькі палавы акт Андрэйкі). З’едлівым водгукам на распрацоўку тэмы Парыжа ў айчыннай літаратуры гучыць у рамане рэпліка Андрэ пра паэта і мастака Буяна, які нібыта стварае батальнае палатно пра тое, як “мандавошкі выпраўляюцца захапіць Парыж”. Ідэя палатна нагадвае жартаўлівую фантасмагорыю з эсэ Акудовіча пра калону трактароў “Беларусь”, якая рухаецца “да Парыжа, каб засадзіць Елісейскія Палі беларускай бульбай”.

У адрозненне ад далёкага Парыжа, горада мар і летуценняў героя, нямецкі горад Бон прысутнічае ў “Шаломе” рэальна: тут Андрэ пражыў цэлы месяц на творчай стыпендыі, тут адбываецца дзеянне першага раздзела рамана. Але гэты *рэальны* горад уяўляецца герою *не зусім сапраўдным* у параўнанні з той рэчаіснасцю, якую Андрэ пакінуў на радзіме: “Ён нагадваў яму вялікі ціхі санаторый, куды часам прыемна патрапіць, каб паправіць змучаную “Крыжачкамі” і нягодамі жыцця па той бок плоту нэрвовую сыстэму. Зрэшты, усе нямецкія гарады, акрамя Бэрліну, былі для яго падобныя да санаторыяў. Калі час ад часу Андрэ прыяжджаў у Нямеччыну, яму нават здавалася, што ён жаўнер, якога адпусьцілі з фронту на пабыўку ў глыбокі тыл – каб адпачыць і набрацца сілаў. Але праз некалькі дзён апошні вечаровы цягнік ізноў павязе яго на ўсход, у смуродныя брудныя акопы, туды, дзе вошы й блохі, туды, дзе страляюць, – на перадавую”.

Ізноў узнікае апазіцыя “Захад/Усход”, у якой Захад асацыюецца з мірным жыццём, тылам, санаторным лячэннем, а Усход – з вайной, акопамі, вошамі (аўтар рамана відавочна мае замілаванне да розных падвідаў гэтых насякомых). Апазіцыя праяўляецца і на ўзроўні алкагольных трункаў (у Германіі і Польшчы Андрэ спажывае шляхетныя гатункі, а ў Беларусі – сумніўныя сурагаты накшталт “Скарбу Радзівілаў” ды “Крыжачка”), і нават у эратычных упадабаннях (Андрэ адштурхоўвае тып тургенеўскіх дзяўчат і прыцягвае вобраз фасбіндэраўскай жанчыны). На вакзале ў Гановеры Андрэ знаёміцца з “фасбіндэраўскім анёлкам” Інгрыд, якая тае ж начы робіцца яго баявой сяброўкай, а раніцай адпраўляецца разам з ім у Берлін. У Гановеры герой праводзіць усяго адну ноч і таму гэты горад паказаны ў рамане фрагментарна (начны вакзал, кватэра бой-фрэнда Інгрыд), а мо яшчэ й таму, што якраз гэты нямецкі горад “асвоены” беларускай літаратурай дастаткова добра: варта згадаць эсэ Уладзіміра Арлова “Няхай жывуць гановерскія вароны” альбо зборнік “Гановерскія пункціры” Алеся Разанава, які пражыў у Гановеры некалькі гадоў (“Пакуль ты карміў гановерскіх птушак, тут памірала эпоха”, – напіша пазней у паэтычным лісце да Разанава Ігар Бабкоў, надрукаваным у кнізе “Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб”).

У раздзеле “Фінляндыя”, дзеянне якога адбываецца ў Берліне, чытач нарэшце даведваецца, чаму гэты горад у адрозненне ад іншых нямецкіх гарадоў не асацыяваўся ў героя з санаторыем: бо нагадваў яму Пецярбург часоў маладосці, з такімі ж пашарпанымі аблезлымі сценамі, смуродам у парадных пад’ездах,

прусакамі (яшчэ адно любімае насякомае аўтара рамана) у кватэрах. Таксама, як і ў Пецярбурзе, бытавая неўладкаванасць жылых раёнаў спалучаецца ў Берліне з архітэктурнай веліччу і хараством музейна-турыстычнага цэнтра: “Дабраўшыся да Музейнай выспы, Андрэ акамянеў ад убачанай прыгажосьці. Уражвала нават не архітэктура, што прамянела магутнасьцю і размахам, а тая атмасфера, якая ахутвала велічныя палацы”.

З усіх партрэтаў-характарыстык гарадоў у рамане “Шалом” апісанне Берліна – найбольш разгорнутае і маляўнічае, адчуваецца архітэктурная адукацыя і мастакоўская назіральнасць Клінава. У апісанні каларытнага жыцця “калоніі хобітаў” у Тахелес – беларускіх мастакоў, асеўшых у Берліне – праяўляецца веданне рэаліяў і выдатнае пачуццё гумару аўтара (спісаны са Зміцера Вішнёва вобраз паэта і мастака Буяна – несумненна адзін з найлепшых у рамане).

Аднак не толькі назіральнае вока, але і розум, уяўленне актыўна ўдзельнічаюць у стварэнні вобраза Берліна, густа ахутанага колішнімі ўражаннямі Андрэ ад знаёмства з нямецкай літаратурай і філасофіяй: “Гэта здавалася квінтэсэнцыяй прускага духу, тым, што несла ў сабе вобраз Нямеччыны, намаляваны ў яго ўяўленні яшчэ ў юнацтве, калі ён узахлёб чытаў Гётэ, Кляйста, Гофмана, іншых нямецкіх рамантыкаў ды спрабаваў пранікнуць у “Крытыку чыстага розуму” Канта”.

Вызначаючы сутнасць клінаўскага метаду апісання еўрапейскіх гарадоў, згадваеш выснову Валянціна Акудовіча з цытаванага ўжо эсэ “Разбурыць Парыж”: “...Чалавек спакваля развучыўся бачыць бытнае ў яго канкрэтна-рэальнай самоце, урэшце як і ўвогуле бачыць вокам. Ён ужо даўно толькі *глядзіць* вокам, а бачыць розумам. <...> Мы мерым тапаграфію рэальнасці не яе ўласнай мерай, а маштабамі, напрацаванымі ў “прасторы” а-рэальнасці”.

Таксама і расійскі Пецярбург ва ўспамінах, трызненнях начных кашмарах героя паўстае не толькі як горад ягонай маладосці, як частка рэальнай біяграфіі, але і як горад Дастаеўскага, дзе з падваротняў выныраюць правіды Раскольнікава, бабулькі-працэнтніцы, Свідрыгайлава. Пецярбург цяжкіх успамінаў, як і Парыж няздзейсненых мараў, займае ў свядомасці героя даволі значнае месца, атаясамліваецца з пагрозай, небяспекай, подыхам Імперыі (Маскву Андрэ па-просту не любіў і яна амаль не згадваецца ў рамане).

Яшчэ адно праяўленне апазіцыі “Усход/Захад” у рамане Клінава – гэта процістаянне еўрапейскай і расійскай філасофіі ды культуры: Гофмана і Тургенева, Канта і Дастаеўскага, Маркса і Бярдзяева. Здаецца, і герой рамана, і яго аўтар цалкам падзяляюць знаны тэзіс Ігната Абдзіраловіча пра спецыфіку Беларусі як культурнай прасторы паміж: паміж Захадам і Усходам, паміж лацінскай і візантыйскай цывілізацыяй, паміж каталіцызмам і праваслаўем. Характэрна ў гэтым плане размова Інгрыд з Андрэ на вакзале ў Гановеры:

“– Ты адкуль? – пацікавілася тая, зразумеўшы па акцэнце, што ён ня немец.

– Зь Беларусі.

– А дзе гэта?

– На ўсходзе. Адразу за Польшчай.

– У Расеі?

– Паміж. На лініі фронту.

– Ааа! Чарнобыль!”

Такім чынам, Беларусь – гэта лінія фронту. Але і Польшча ва ўяўленні героя – памежная краіна, ужо не Усход, але не зусім і Захад. У адрозненне ад Андрэ, ягоны польскі сябра Яцак хутка прыстасаваўся да законаў мастацкага рынку і зрабіў паспяховую кар'еру, малюючы сэксуальныя акты ў грамадскім транспарце. Творчасцю Яцка цікавяцца ўплывовыя куратаркі і найбуйнейшыя еўрапейскія галерэі, ён даўно выйшаў з брудных акопаў, стаўшы ці то шчаслівым пераможцам, ці то пераможаным у той вялікай вайне, якую ўсё яшчэ вымушаны весці Андрэ. З

іншага боку, у Варшаве на кожным кроку сустракаюцца яшчэ сляды іншай вайны, выразна чуецца подых гісторыі: старая полька раіць герою зняць нямецкі шалом, бо ён можа выклікаць непрыемныя пачуцці ў яе суайчыннікаў, Палац Культуры і Навукі перадае гарачае прывітанне ад бацькі народаў Іосіфа Сталіна.

Але дамінуе ва ўспрыманні Польшчы героем рамантычны вобраз даўняй Рэчы Паспалітай, агульнай дзяржавы палякаў, літоўцаў, беларусаў, украінцаў, невыпадкова ягоным улюбёным алкагольным напоем з'яўляецца не "Wyborowa" ці „Żytnia", а „Krupnik": "Гэта быў старалітоўскі крупнік, моцная і смачная, настоеная на мёдзе гарэлка – напой, калісьці папулярны за Бугам, ва Ўсходняй частцы Рэчы Паспалітай. Пазьней там на яго рэцэптуру забыліся, не перасталі яго вырабляць толькі ў Польшчы. І кожнага разу, калі Андрэ вяртаўся на каронныя землі, з усіх напояў ён аддаваў перавагу менавіта крупніку. Кожны яго глыток здаваўся яму прывітаньнем з таго салодкага часу, калі іх краіна магутнела і цягнулася ад мора да мора, а ў гарадах, замках і мястэчках квітнеў смачны, як мёд, залаты век сармацкай культуры".

Нягледзячы на гаючае ўздзеянне старалітоўскага крупніка, у Варшаве з Андрэ адбываецца нервовы зрыў, і ён, сам таго не жадаючы, устройвае дэбош у майстэрні Яцэка, які гасцінна прыняў даўняга сябра і нават спрабаваў уладкаваць яго лёс, знаёмячы з уплывовымі куратаркамі мастацтва Адной з прычынаў зрыву з'яўляецца паблажліва-спачувальнае стаўленне куратарак да Андрэ як да прадстаўніка няшчаснай краіны, дзе пануе "дыктацюр", а па гарадскіх вуліцах ходзяць мядзведзі, што перабраліся сюды з Масквы. З праяўленнямі такога стаўлення да яго радзімы герою даводзіцца сутыкацца на працягу ўсяго шляху з Бона да Брэста: Чарнобыль, дыктатура, бяда і нястача, гаротны народ, які цягнецца да імперскай Расіі замест таго, каб гарнуцца да цывілізаванага Захаду.

Менавіта мастацкае выкрыццё заходніх стэрэатыпаў у дачыненні да беларусаў і паслухмянай гатоўнасці беларусаў адпавядаць гэтым стэрэатыпам, выкарыстоўваючы брэнд "няшчаснага народа" для карысных мэтаў, з'яўляецца важнейшай заслугай аўтара "Шалома". Метафарычным увасабленнем падобнай сістэмы стэрэатыпаў і ўсталяванай мадэлі ўзаемадносінаў еўрапейцаў з беларусамі становіцца параўнанне беларусаў з хобітамі*, а таталітарнай улады – з Мордарам:

"Ён жа прадстаўляў маленькую, забытую Богам краіну, што прытулілася дзесьці пад плотам Эўропы. Усім, хто знаходзіўся з гэтага боку плоту, яна ўяўлялася нейкім страшным Мордарам з казак Толкіна, дзе ўладу захапілі оркі, якія зьдзекаваліся зь бедных хобітаў ды ўсяляк уціскалі іх грамадзянскія правы.

Каб дапамагчы няшчасным хобітам, іх час ад часу запрашалі ў Эўропу на якінебудзь сэмінар – растлумачыць, як перамагчы оркаў на выбарах і ператварыць Мордар у дэмакратыю хобітаў, альбо на літаратурны фэстываль – паслухаць. як гучыць іхняя дзіўная архаічная мова, альбо, як цяпер, на скульптурны пленэр, каб пераканацца, што яны ўвогуле яшчэ існуюць і нават здольныя вырабляць творы мастацтва".

Праблема героя і аўтара рамана заключаецца ў тым, што іхні вобраз Беларусі мала чым адрозніваецца ад стэрэатыпных уяўленняў еўрапейцаў, створаны ён не насуперак, а як бы насустрач іхнім фобіям, жалям, спачуванням.

Андрэ ў думках неаднаразова наракае на свой лёс, ён перакананы, што яго геніяльныя мастацкія праекты завісаюць у пустэчы толькі таму, што нарадзіўся ён у гіблым месцы, за плотам, у дупе. Са шкадаваннем думае пра свайго сябра мастака Хведара, што "калі б ён служыў у іншай арміі – французскай, або ня-

---

* Як вядома, Толкіен "спісваў" сваіх маленькіх чалавечкаў з суайчыннікаў-англічан, але параўнанне беларусаў з хобітамі часта сустракаецца на старонках беларускай незалежнай перыёдыкі, выклікаючы ажыўленыя дыскусіі.

мецкай, то напэўна насіў бы ўжо пагоны калі не генерала, то палкоўніка ці маёра. Але ў Мордары генэралаў у мастацтве не існавала, дакладней, мелася пару, якіх прызначалі зьверху".

Артур Клінаў у другой, "беларускай" частцы рамана (з мастацкага пункту гледжання значна слабейшай за першую) малюе карціну бязрадасную і проста апакаліптычную, ад якой упору звар'яцець не толькі герою, але і чытачу "Шалома". У Брэсце аўтар адпраўляе свайго героя ў брудную прывакзальную закусачную, дзе той выслухоўвае споведзь алкагалічкі Кацярыны і даведваецца пра існаванне таннага пойла пад высакароднай назвай "Скарб Радзівілаў". Брэсцкая Кацярына – ці то рэальная асоба, ці то персанаж рамана Дастаеўскага – не ідзе, вядома, ні ў якае параўнанне з Інгрыд, істотай з гановерскага вакзала (таксама як "Скарб Радзівілаў" не ідзе ні ў якае параўнанне з "Егермайстарам"). Архітэктурнаму вобліку Мінска аўтар прысвячае некалькі паэтычных абзацаў у стылі "Малой падарожнай кніжкы па Гораду Сонца", але асноўны змест "мінскага" раздзела складае падрабязнае апісанне візіта Андрэ ў віна-водачную краму і ўцёкаў героя ад нейкіх таямнічых тыпаў (хутчэй за ўсё, супрацоўнікаў КДБ). Якраз у дзень візіту героя ў сталіцы адбываецца несанкцыянаваны мітынг гандляроў на Кастрычніцкай плошчы, па вуліцах ездзяць калоны аўтобусаў з амапаўцамі і грузавікоў з жаўнерамі, у дварах чакаюць на арыштаваных дэманстрантаў вялізныя чорныя аўтазакі. Дыктацюр!

Вярнуўшыся ў родны Магілёў, Андрэ трапляе ў зону для мутантаў-выраджэнцаў, у недарэчныя раёны панурых дамоў без усякага намёку на архітэктуру, з цёмнымі смярдзючымі пад'ездамі, з дабітымі ліфтамі, спісанымі непрыстойнымі словамі. Трэба аддаць належнае герою, ён усё роўна любіць свой родны горад, але не за рэшткі захаванага хараства (цудоўны від на Дняпро, напрыклад), а якраз за ягоную брыдоту: "Ва ўбостве няўдалага твору ён бачыў праўдзівы бок жыцця. У ім было больш глыбіні, і шчырасьці, і дасканаласьці, чым у гарадах прыгожых, пышных, пампэзных. Бо ў гэтым, здавалася яму, і ляжала задума Бога, які сьвядома стварыў гэты сьвет няўдалым выродцам".

Можна бачыць у дысгарманічнасці вобліку роднага горада праяўленне волі Усявышняга, але калі шукаць вінаватых на зямлі, для героя няма сумнення, што да заняпаду Магілёва прычынілася Расія: "Калісьці – гадоў трыста таму – ён меў шарм эўрапейскага гораду: мноства барочных касцёлаў, вежы замка, ратуша, вузкія вулачкі з дамамі пад высокімі чарапічнымі дахамі. Але потым прыйшлі сьвятаполкі, і горад захрос у шэрай правінцыйнай нудзе. Касьцёлы зьнесьлі, замак зруйнавалі, ратушу ўзарвалі, дамы перабудавалі, сьпічастыя дахі замянілі на плоскія, чарапіцу – на бляху, – адным словам, з квітнеючага горад стаў звычайным пазаштатным лузэрам, што згубіўся дзесьці на задворках Расейскай Імпэрыі".

Характэрна, што нягледзячы на свае антырасійскія настроі, Андрэ спрабаваў у маладосці перасяліцца ў Пецярбург, але тамтэйшыя мастакі яго не прынялі. Няўтульна пачуваецца Андрэ і ў цацачна-санаторнай Германіі, ён прызнаецца, што не хацеў бы застацца там назаўсёды. А Беларусі, у якой герой мог бы быць шчаслівым як чалавек і запатрабаваным як творца, ужо (ці яшчэ) не існуе.

У выніку герой "Шалома" насамрэч апынаецца у трагічнай сітуацыі: *паміж, на лініі*, а канкрэтна: пад мастом, які звязвае левы і правы берагі Дняпра, злучае Усход і Захад. Андрэ збіраецца ўзарваць гэты мост.

Узнікае пытанне: чаму? Толькі ў знак пратэсту? Ці, можа, гэта свядомы геапалітычны выбар героя?

Ірына Шаўлякова



...“З гэтага свету” ёсць кнігай, “вымаўчанай” у пакутах...

# Карма №2, або Выніковасць маўчання

***Леанід Галубовіч. З гэтага свету: вершы пасля вершаў — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 108 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 23).***

Жыццё *пасля* паэзіі ёсць: у гэтым пасля “Апошніх вершаў Леаніда Галубовіча” (2000) мог пераканацца не толькі спадар (сем’янін-працаўнік-грамадзянін) Леанід Міхайлавіч Галубовіч, але і “персанаж” літпрацэсу ЛеГАЛ (які намагаўся рэабілітаваць крытыкатэрапіяй творчую “Я-канцэпцыю” пасля добраахвотнага гвалту над функцыямі паэтычнай залозы). Праўда, жыцця *замест* паэзіі для Л. Галубовіча няма, пра што недвухсэнсоўна сведчыць “плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта” — кніга “З гэтага свету” (2012).

Любы, хто наважыцца *рэцэнзаваць* “вершы пасля вершаў” Л. Галубовіча, аўтаматычна атрымлівае права выбару — адной з дзвюх “к*а*рмаў”.

Шлях да к*а*рмы № 1, як да радзімы ў паэме Алеся Бадака “Ра”, — “адусюль кароткі”, але найкарацейшы — праз прадмову-медытацыю (узор “крытычнага верлібра”) Ціхана




Чарнякевіча “Кніга стыглага часу”: “У беларускай паэзіі вялікая будучыня. Мы не верым у заўтрашні дзень, не верым людзям — нават тым, каго паважаем і любім. Мы нікога не слухаем, а калі слухаем — не чуем. Паэзія — адзінае выйсце. *Выйсце ўнутр сябе* (вылучана намі. — *І.Ш.*)”. Носьбіт кармы № 1 плён публічнага маўчання паэта Л. Галубовіча (дванаццаць год з вершамі ў друку не выступаў, дзесяць — не пісаў) можа сабе дазволіць разглядаць “пазакантэкстуальна” — у дачыненні да папярэдняй, сённяшняй і далейшай творчасці Л. Галубовіча, затое пры падкрэслена пільнай увазе да вірлівых варункаў уласнага ўнутранага (ці хоць бы віртуальнага) жыцця. Выдатак згаданага выбару адзін, але да крыўднага істотны: у сённяшняй айчыннай літпрасторы рэфлексіі ў жанры “погляд і нешта”, паводле дасціпнай заўвагі Дзмітрыя Быкава, падаюцца настолькі ж неабавязковымі, як “пасляабедзенная размова за сігарай пра палавое жыццё славутых”. Яшчэ ў літаратурна-крытычным дыскурсе 2000-х гэты жанр прайшоў усе этапы (аўта)дыскваліфікацыі, пасля чаго яго адэпты атрымалі пачэснае права аўтаматычна ўганароўваць “глыбокае нішто” лаўрамі “глыбокай глыбіні”. Амін.

Рэцэнзентава карма № 2 ёсць кармай па сутнасці сваёй “гастарбайтарскай”: нават калі не замахвацца на рэканструяванне *працэсу* паэтавага маўчання, а пагадзіцца адно на ўпарадкаванне яго *вынікаў*, маеш шанец пасівець заўчасна. Бо мусіш мець справу з наступствамі нелірычнай (вартай зайздрасці Босха) адвагі ампутаваць (метадам выгрызання) “палову сябе”:

Усе мае лепшыя вершы
са мною павінны памерці,
калі ж я сканаю першы,
то вы ім паверце
і без маёй прысутнасці,
проста на слова,
бо, калі браць па сутнасці,
я — іх палова.

*“***Усе мае лепшыя вершы...”*

Працытаваны верш, што ў межах кнігі паэтычных артэфактаў “З гэтага свету” бачыцца адмысловым пралогам, у кантэксце творчасці Л. Галубовіча перыяду публічнага маўчання з поспехам можа выконваць ролю своеасаблівых уводзін у гісторыю творчага аўтадафэ. У гэтым сэнсе тэарэтычная значнасць кнігі “вершаў пасля вершаў” палягае ў тым, што на яе грунце хто заўгодна (напрыклад, юныя версіфікатары ці схільныя да літаратурнай іпахондрыі сталыя аўтары вершаваных тэкстаў) можа сканструяваць уласную — *альтэрнатыўную* — гісторыю маўчання, пражыць яе, так бы мовіць, віртуальна, не набліжаючыся да “кропкі невяртання” ў рэальным часе:

...так я сыходзіў ад вершаў,
быццам ад першай дзяўчыны, —
самай прыгожай і лепшай —
без абвяшчэння прычыны.

Проста жыцця па-за сэнсам
прагла душа, як збавення,
пішучы зболеным сэрцам
словы крывёю па венах.

*“***...так я сыходзіў ад вершаў”*

Практычная каштоўнасць кнігі, якая складаецца з сямі раздзелаў-нізак (“Нада мною”, “Пра мяне”, “Са мною”, “У маіх”, “Маё”, “Мае”, “Мая”), заключаецца ў тым, што па яе ўзоры немагчыма арганізаваць вытворчасць падобных аўтадафэ: маўчаць так пранізліва-няпафасна, самаразбурацца з такой эмацыянальнай бязлітаснасцю і мастацкай выніковасцю сярод айчынных паэтаў-сучаснікаў “з гэтага свету” можа, бадай, толькі Л. Галубовіч. Падобна герою “Маятніка Фуко” У. Эка, я ў гэтым “файле” знаходжу ў “алітаратуранай форме” ўсё, што сукамернікі лірычнага героя Л. Галубовіча па тутэйшай літпрасторы не могуць выказаць ні на мове навуковых паняццяў, ні на кулуарным слэнзе: “...боязь пісання ў спалучэнні з жарсцю да пісання і горыч рэдактарскай працы — вечна пішаш ад імя падстаўных асоб, і сум па няздзейсненай творчасці, і інтэлектуальная сарамлівасць, што змушала яго караць і грызці сябе за тое, што яму хацелася таго, на што, па ўласным меркаванні, ён не меў права”.

*Поўневае*, у чымсьці нават збыткоўнае веданне таго, якім чынам і якім коштам прамаўляецца непрамаўляльнае, можна было б вытлумачыць “шчаслівым супадзеннем” лёсаў паэта і яго лірычнага героя ў іх “жніўным ўзросце” (цікава, што вобраз-матыў дамавіны “насцігае” лірычнага героя ў вершах, напісаных у розныя гады менавіта ў жніўні: “Дом пры могілках” (2009), “Каханне і любоў” (2011) і інш.). Але рэцэнзентава карма № 2 не дае магчымасці дзейнічаць напавер: у межах асобы лірычнага героя Л. Галубовіча век чалавечы несувымерны паэтаваму часу, як жыццё па вызначэнні несувымернае несмяротнасці. Так, у творы “***памятаю, ваенны хірург...” выбар паміж *чалавечым* і *паэтавым* бяспройгрышна ўганароўваецца смерцю: кіруючыся парадамі хірурга, выжыве асобіна, “чалавекааадзінка” (на тле мараў памерці паэтам); трымаючыся парад крытыка, паэт *застанецца* (праўда, без цялеснага тла).

Бадай, менавіта ўсведамленне бяспройгрышнасці згаданай “латарэі” дазваляе паэту быць узаемавыключальным — і не быць мітуслівым, надрыўным у асэнсаванні і паэтычным прамаўленні сваёй выключнасці. Адно з найбольш паверхневых вытлумачэнняў гэтага аўтарскага “сакрэту” звязана з віртуозным выкарыстаннем самаіроніі. У шэрагу “вершаў пасля вершаў” яна хоць і не прэтэндуе на ролю ўніверсальнай зброі для змагання з недасканаласцю свету, але выяўляе патэнцыял універсальнага мастацкага інструментарыю — як, напрыклад, у творы “***Ну, вось і Купалаў я век пражыў”, дзе іранічная аўтарэцэнзія нязмушана падсумоўваецца саркастычным аўтапартрэтам творцы:

Ну, вось і Купалаў я век пражыў.
(З шуфлядаў расце мемуарная проза.)
І як ні рыфмуй, як страфу ні вяршы, —
выходзіць банальна й занадта цвяроза.
<...>
І ўжо ні жалеек, ні песень жальбы,
ні нават вянка — на аджытыя вершы...
І ты не адзіны, а з мноства — любы,
дачасна памерлы з паэтаў тутэйшых.

Самаіронія як сплаў трагедыйнасці быцця і гратэскавай фарсавасці яго жыццёвых урэчаўленняў трымае лірычнага героя “З гэтага свету” над паверхняй таго акіяну экзістэнцыйнай самоты, якая, калі меркаваць не толькі паводле вершаў, але і паводле празаічных твораў ды крытычных праектаў другой паловы 1990-х — 2000-х, ёсць “першаматэрыяй” светаадчування поўневага Л. Галубовіча. У некаторых выпадках сінтэз з’яў узаемавыключальных, уласна, і спараджае вершаваны *тэкст* як паэтычны *твор*, становіцца, так бы мовіць, абавязковай умовай *здзяйснення* твора. У вершы “***Прадчуваю: з сусветных высяў...” “нечакана” сустракаюцца агіяграфія і апокрыф (дакладней, галубовічавы аўтаінтэрпрэтацыі

жанравых канонаў), пафас лірыкі духоўнай (“Прадчуваю: з сусветных высяў, // працінаючы неба сінь, // Сам Гасподзь мне насустрач выйшаў, // каб паўстаць Адзін на адзін”) “раптоўна” саступае месца інтанацыям інтымнай лірыкі (“патаемна” аплодненай іроніяй): “Як адчуеш усёй істотай, // што пачну я ў табе расці — // значыць, з пятніцы на суботу // я ўваскрэсну ў тваім жыцці...”. Гэтаксама ў творы “Вёска-2008”, і асабліва ў вершы “На ранішні выгул сабакі”, ахвяраваны “маленькай мілай Тэры”, іронія як дасканалы інструмент сацыякультурнай адаптацыі (перакладаю: спосаб (вы)жыць у рэзервацыі паўзы) загадзя акрэслівае адзіна магчымую траекторыю нібыта бязмэтнага руху героя-самотніка: з карункавай і адначасова надзвычай рэчыўнай метафорыкі вясковага пейзажу — у завулак Тутэйшы “глабальнай вёскі” (перакладаю: у жнівеньскую “медыяпрастору” вёскі Вароніна Клецкага раёна Мінскай вобласці):

На золкім ранку роснай павутой,
бы марляю, ад жнівеньскіх апёкаў
забінтаваны вераснёўскі дол,
што да вясковых прытуліўся вокан.
<...>
Давай мы, Тэры, вернемся назад —
на маміны блінцы, на пах капусты,
да трох каналоў, што вяшчаюць лад,
і аднаго праявамі распусты...

Да нядаўняга часу можна было смела сцвярджаць, што ключавая роля ў мастацкім свеце Л. Галубовіча належыць “паэтыцы рэалій”: чатыры з пяці раздзелаў “Апошніх вершаў...” прысвечаны стасункам з рознымі праявамі рэчаіснасці, і толькі фінальны раздзел дазваляў меркаваць пра спробы пісьменніка наладзіць кантакт з вечнасцю.

Калі параўноўваць “вершы пасля вершаў” з “Апошнімі вершамі...”, то быццё рэчыўнае (“прадметнае”) ужо не здольнае адгарадзіць лірычнага героя ад самоты экзістэнцыйнага парадку: штодзённасць нягледзячы на ўсю сваю гучнасць, мітуслівасць, збыткоўную цялеснасць няўмольна раствараецца ў “рэчыўнасці” пазапрадметнай. Нагрувашчаныя, сагнаныя ў натоўп у “Апошніх вершах...” рэчы (згадаем творы “Электрычны народ”, “Хата ў Зялёным Лузе” і інш.) “прарэджваюцца”, выполваюцца з духоўных палеткаў як бы і самі сабою. У “гэтым свеце” застаюцца толькі важныя сюжэты і дзейныя асобы.

Сюжэтаў, уласна кажучы, два: стасункі паэта са Словам і стасункі чалавека з Богам.

Улада паэта над Словам у “вершах пасля вершаў”, як правіла, аказваецца хімерай і пакутай (“***Калі паэт класічна запівае...”, “Плагіят”, “***О, не, не галавой мастацтва творым...”, “***Паэт...”, “Версіфікатарам” і інш.). Заўважым, што мастацкая і эмацыянальная пераканаўчасць высноў не залежыць ад “тэхнікі”, у якой выкананы твор: выпакутваныя, гэтыя веды аднолькава нязмушана пачуваюцца ў строях сілабатонікі і верлібра.

*З гэтага свету* стасункі лірычнага героя Л. Галубовіча з Богам (а таксама з лёсам, зямным выракам, доляй, etc.) могуць падацца “рытарычнымі”, асабліва чытачу “дажніўнага” ўзросту: “Помні, раз ты нарадзіўся, // ты ніколі не памрэш, // бо з мінулага з’явіўся // і ў наступнасць адплывеш...” (“***Там, дзе скошана трава...”). Між тым, галубовічавы творы адпаведнай тэматыкі *не супадаюць* наўпрост з класічнай традыцыяй духоўнай (тэасофскай, рэлігійнай) паэзіі. Сутнасна (у змястоўным і, найперш, аксіялагічным сэнсах) яны хутчэй выводзяць чытача на Шлях “духашукальніцтва”, чым заклікаюць шукаць Бога: “Страшны Суд, ці так ужо ён страшны, // калі роўна — *быць альбо не быць*...” (“***Госпадзе, няўжо і я ўздымуся...”). Лірычны герой “З гэтага свету” ўжо не мае патрэбы выпраўляцца

на пошукі Бога, бо даўно *вядзе з Ім маналог*.. Менавіта так, насуперак граматычным правілам, дазволім сабе акрэсліць форму іх камунікацыі. Гэта не дыялогі ***з*** Уладаром Сусвету і не маналогі ***да*** Яго. Гэта як гаварыць з Кімсьці, чыя "віртуальная" маўклівасць "расчытваецца" не як прысуд, але як абяцанне выратавання, перадусім — ад сябе самога.

Сюжэтныя калізіі, умоўна вылучаныя ў якасці стрыжнявых у дачыненні да кнігі "вершаў пасля вершаў", у шэрагу твораў адмысловым чынам пераплятаюцца — і стасункі чалавека-паэта са Словам-Богам высноўваюцца ў межах трэцяга сюжэта, экзістэнцыйна-паэтычнага:

Ты толькі можаш мармытаць,
узняўшы вочы на нябёсы,
нібы намогшыся спытаць
у Бога прапісныя лёсы

тых самых слоў, што з-пад Яго
апекі вымкнулі і ўлады,
наўпрост жадаючы таго,
каб ты ўладаў і даў ім рады...

*"Беспрытульныя словы"*

Нешматлікасць ключавых сюжэтаў у гэтай кнізе сувымерная колькасці персанажаў, якіх з пэўнай доляй умоўнасці (маючы на ўвазе перадусім іх "склад") можна назваць цэнтральнымі дзейнымі "асобамі" жыццёвага ліраэпасу (ці нават лірадрамы) я-героя "З гэтага свету": Мама, Бог, вера, Вера (жонка), вёска Вароніна, хата ("маміна", "бацькоўская") і, бадай, тэр'ер Тэры.

Па вялікім рахунку, Мама, Вера і Вароніна (галубовічава Макондa) акрэсліваюць сваю неадменную (найчасцей "пазатэкставую") прысутнасць ужо ў трох першых раздзелах: "Нада мною", "Пра мяне", "Са мною". Але менавіта ў нізках "У маіх", "Маё", "Мае", "Мая" гэтыя дзейныя "асобы" аказваюцца ключавымі для разумення яшчэ адной сюжэтнай лініі, звязанай з пошукамі лірычным героем *роднасці* як спосабу *дайсці да сябе* ў беспрасветным экзістэнцыйным сутонні:

Цэлы год пражыла бацькоўская хата
сіратою ў спусцелай вёсцы.
Адна масніца ў святліцы
яшчэ мамінай хадою гаворыць,
а другая — скрыпіць чужым голасам...
Стаю пасярод хаты,
аточаны таямнічай ачужанасцю.
Распнуты Хрыстос на покуці
упарта чапляецца
за павучыну
жыцця...

*"Адведкі бацькоўскай хаты"*

Падаецца надзвычай красамоўным тое, што *духоўная роднасць* з кожным годам усё больш перамяшчаецца — "канцэнтруецца" для лірычнага героя Л. Галубовіча хутчэй на "тым" свеце, чым на "гэтым". Так, у раздзеле "Мае" сабраныя творы, якія паводле агульнай тэматычнай скіраванасці, эмацыянальнай настраёвасці міжволі, як бы самі сабой аб'ядноўваюцца ў нізку *"балад сыходу"*. Адрозныя паводле рытміка-інтанацыйных асаблівасцей, вобразна-выяўленчых сродкаў, яны ўтвараюць своеасаблівае жалобнае кола: "Развітальнае" (дзе паэтычныя радкі М. Купрэева сталіся эпіграфам да верша-развітання з Уладзімірам Маруком), "***Рускі чалавек Барыс Бур'ян...", "Знічка" ("Лагвіновіч Іван паміраe...

// А паэзія ўсё-ткі жыве...”), “***Я Куляшова палюбіў...”, “***Даўно ні мамы, ні Сыс*а*...”.

Апошні верш нібыта “дысануе” з агульнай медытатыўнасцю памянёных “балад”, што вылучаюцца сярод іншых “вершаў пасля вершаў” горка-шчымлівым і адначасова ўзважаным (ліраэпічным) прамаўленнем-пражываннем “сыходу” не крэўна, але духоўна, *“істотава”* родных:

*“Лявон, калі ты ўрэшце верш*
*займееш добры?”* — ён пытаўся.
І нада мной стаяў — УВЕСЬ,—
нібыта бог і вершадаўца.

Згаданы “дысананс” прыняў бы на веру носьбіт рэцэнзентавай кармы № 1, якому прынцыпы не дазваляюць траціць час на корпанне ў дванаццацігадовай даўніны “Апошніх вершах Леаніда Галубовіча”. А там — “...паэты мёртвыя прыйшлі // І абступілі... // І што яны ўва мне знайшлі, // А мо забылі?! <...> Vivat! — пясняр і верлібрыст — // Майстры і ўмельцы, // І ты, як зможаш, Толя Сыс, — // Заходзь па смерці” (“***паэты мёртвыя прыйшлі...”). Пры мінімальна пільнай увазе “легкаважнасць” тагачаснай іроніі аўтара выяўляецца такой жа “сапраўднай”, як і “нязмушанасць” вандроўкі з “гэтага” свету — у “той”:

Зайшоў прад смерцю. Папрасіў
наліць віна — і выпіў залпам,
і цыгарэтай закусіў,
і тройчы вылаяўся запар.

Стыў у ягоных зрэнках жах,
бо кожны раз праз церні цноты
уласны ён адольваў страх
сваёй трагічнай адзіноты.

*“***Даўно ні мамы, ні Сыса...”*

Леанід Галубовіч з часу “Апошніх вершаў...” так і не стаўся ўвішным “вершабраўцам”: “З гэтага свету” ёсць кнігай, “вымаўчанай” у пакутах, памерацъ ці ўзважыць якія асабіста мне ўяўляецца немагчымым (хоць бы з той прычыны, што жыцця *замест* іх для творцы няма).

Затое ролю “пакутадаўцы” аўтар кнігі “вершаў пасля вершаў” міжволі адыграў — прынамсі, у лёсе тых рэцэнзентаў, што ўкруціліся ў *рэцэнзаванне* вынікаў паэтавага маўчання.

Такая к*ар*ма выбрала нас.

Марыя Палякова



...п'еса прасякнутая настальгіяй
і тугой па рамантызме,
што беззваротна сышоў...

# "Інтымны дзённік" Сяргея Кавалёва на фоне сучаснай парнатопіі

На мяжы стагоддзяў многія навукоўцы і мастацтвазнаўцы спрабуюць прааналізаваць і апісаць стан сучаснага грамадства. Часта пры характарыстыцы апошніх пакаленняў яны ўжываюць азначэнне спажывецкага грамадства. Асабістыя адносіны, падыход да такіх тэмаў, як сэкс, эротыка або парнаграфія, набываюць рысы, тыповыя для кансуменцкага свету. Цікава, што ў парнаграфіі – мабыць, адной з самых скрайніх праяваў успрымання інтымных адносінаў як прадукта, – гэтыя рысы выразна бачныя, натуральна, у вялікім спрашчэнні. Так, адзін з вядомых сацыёлагаў і філосафаў – Леанід Іонін – пісаў у сваёй працы: "...успрыманне парнаграфіі або, дакладней, успрыманне тых або іншых адлюстраваных і апісаных фактаў як парнаграфіі, змяняецца ў часе, змяняецца са зменай сацыяльнага кантэксту"[1].

Прымаючы да ўвагі асноўныя рысы спажывецкага грамадства, можна зрабіць выснову, што інтым у наш час стаў своеасаблівым прадуктам, бо нельга не заўважыць, як асабістае жыццё ўсё большай колькасці людзей, іх сэксуальныя

адносіны, становяцца часцей і часцей тэмамі публічных гутарак на тэлебачанні, у друку, у інтэрнэце. Эротыка і нават “мяккая” парнаграфія – гэта ўжо звычайны элемент шматлікіх рэклам. Такі падыход шмат у чым паўплываў на жыццё некалькіх пакаленняў, у значнай ступені змяняючы сэнс слоў “асабісты” і “інтымны”, а паняцці патаемнасць, сардэчнасць, некалі цесна звязаныя з імі па значэнні, як здаецца, адпалі, нібы непатрэбныя рэлікты. Гэта ў некаторай ступені адлюстравана ў даследаваннях Стывена Маркуса[2], які параўноўваў парнаграфію сённяшніх дзён з парнаграфіяй віктарыянскай эпохі – часу ўстрымання і абмежаванняў. У сваёй працы даследнік прапанаваў тэрмін *парнатопія*, які абазначае спалучэнне вызначаных рысаў парнаграфіі і своеасаблівых ідэй утопіі: “...парнатопія адлюстроўвае ў перабольшаным ці скажоным выглядзе – сацыяльныя акалічнасці свайго часу. [...] Цяпер, у эпоху эканомікі, арыентаванай на максімальнае спажыванне, парнатопія – гэтае ўвасабленне дасканалага, т. б. імгненнага, бясконцага і сталага спажывання. Калі б з усімі чалавечымі запатрабаваннямі было б гэтак жа, як у парнаграфіі з полавымі патрэбамі, то гэта быў бы рай для вытворцаў і прадаўцоў. У парнатопіі сэксуальнае запатрабаванне – адзінае запатрабаванне, а сэксуальнасць – універсальны тавар – адзінае, што спажываюць парнатапійцы, прычым спажываюць безупынна. Таму парнатопію можна разглядаць як ідэальны тып спажывецкага грамадства. Сучасная парнаграфія адпавядае сучасным соцыяэканамічным адносінам на Захадзе”[3].

Такім чынам, у парнатопіі, дзе ўсё з’яўляецца аб’ектам прадукцыі і спажывання, мастацтва не можа не змяніцца, становячыся таксама прадуктам у свеце маскультуры. Крайнім прыкладам гэтага можа паслужыць узніклая з’ява кітч – паняцце, што вызначае псеўдамастацтва, якое апашляе і прыніжае значэнне і сэнс эстэтычных каштоўнасцяў элітнага, гэтак званага “высокага” майстэрства. Адным з цікавых прыкладаў п’есы, у якой драматург адлюстроўвае дадзеныя тэндэнцыі, з’яўляецца твор *“Інтымны дзённік”*[4] Сяргея Кавалёва.

“Інтымны дзённік” – адна з нямногіх п’ес аўтара, у якой ён паказаў сучаснае грамадства, прычым, як падкрэслівае сам драматург, найперш яго цікавілі прадстаўнікі літаратурных колаў. Гэта абумоўлена, па словах Кавалёва, не толькі ўласным досведам іназіраннямі менавіта за гэтым асяроддзем, але і жаданнем стварыць п’есу, у якой бы натуральна гучала беларуская мова:

“Калі Трышчан ды Іжота размаўляюць па-беларуску – гэта зразумелы для ўсіх элемент гульні, стылізацыі. Калі ж нейкі наркаман размаўляе па-беларуску – у гэта цяжка паверыць. Таму і было выбрана літаратурнае асяроддзе, у якім нашая мова гучыць натуральна”[5].

П’еса выразна дзеліцца на дзве часткі: першая гісторыя адбываецца ў пачатку стагоддзя – у 1915 годзе ў Крыме – выпадак з жыцця вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча, а другая – у нашыя дні ў рэдакцыі мінскага літаратурнага часопіса. Гэта падкрэслівае розніцу не толькі паміж іншымі тыпамі грамадства, але і найперш дэманструе кантраст у адносінах паміж людзьмі дзвюх эпохаў, у тым ліку і інтымных:

“Напэўна, гэта самая нязвыклая мая п’еса, створаная на небяспечнай мяжы добрага густу і банальнай пошласці, узнёслай эротыкі і парнаграфіі. Мне ўяўляецца метафізічны дыялог паміж нашым цынічным часам і рамантычным часам паэта, паляроідны партрэт майго пакалення на фоне пажоўклых фатаздымкаў з музейнага альбома...”[6]

Пры павярхоўным аналізе можна было б выказаць здагадку, што тэмай п’есы з’яўляецца дыскусія вакол знойдзеных запісаў Максіма Багдановіча, дзе паэт натуралістычна апісвае свае фізіялагічныя рэакцыі падчас інтымных адносінаў з жанчынай. Тут неабходна адзначыць, што гэтыя кароткія па форме запісы не былі літаратурна апрацаваны аўтарам і, вядома ж, не прызначаліся

для публічнага разгляду. Аднак, нягледзячы на гэта, дагэтуль навукоўцы і літаратары спрачаюцца аб тым, ці павінен "дзённік" убачыць свет, або ўсё-ткі трэба аказаць павагу да асабістага жыцця пісьменніка і не выносіць на шырокую публіку падрабязнасці інтымных перажыванняў паэта. Так, напрыклад, у дыскусіі маладых літаратараў з вядомым гісторыкам Віталём Скалабанам з'яўляецца наступнае меркаванне:

"**С. Патаранскі.** А які, па вашым меркаванні, павінен мінуць час, каб друкаваць дзённікі аўтара? Бо "Інтымны дзённік" Максіма Багдановіча дагэтуль не надрукаваны.

**У. Скалабан.** Пэўны час ніхто не вызначыць. Шкада, што дзённік Багдановіча дагэтуль не надрукаваны. Інстытут літаратуры мог уключыць гэты дакумент у Поўны збор твораў Багдановіча. Я на апошнім "круглым стале" па пытаннях тэксталогіі прапанаваў, каб Інстытут літаратуры разам з музеем Багдановіча выдалі гэты дакумент факсімільна. Можна запрасіць добрага мастака, каб той праілюстраваў. І пытанне было б закрыта. Яшчэ і грошы можна было б зарабіць – на выданне кніжак нашых маладых талентаў.

**Л. Рублеўская.** Але ж дзённік, што не прызначаўся для друку, – гэта занадта інтымна... Усё роўна што друкаваць гісторыю хваробы.

**У. Скалабан.** У выпадку з Багдановічам – так..."[7]

Аднак на канферэнцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, пісьменнік і краязнаўца Міхась Казлоўскі выказаўся катэгарычна супраць публікацыі "Інтымнага дзённіка" паэта:

"Нашае грамадства пакуль не падрыхтавана да такой інфармацыі, і будзе яе смакаваць, а я б гэтага не хацеў[8]".

Падобны пункт гледжання, як падаецца, уласцівы і Сяргею Кавалёву, які ўкладае ў вусны героя сваёй п'есы наступныя словы:

> Мы абураліся жаданнем супрацоўнікаў музея прыўлашчыць Багдановічаву спадчыну, увесці цэнзуру... Слушна абураліся. Але калі я сядзеў на экзамене, слухаў адказы студэнтаў, я раптам уявіў, як яны, такія вось Ганускі, будуць чытаць інтымны дзённік Багдановіча і якія каментары яны будуць даваць... Нешта ўва мне зламалася... Знікла пэўнасць... *(Цвёрда.)* Карацей, я таксама супраць публікацыі дзённіка[9].

Вышэй мы ўжо адзначылі, што інтэрпрэтаваць п'есу толькі як дыскусію вакол выдання дзённіка, а хутчэй нават асабістых запісаў Багдановіча, нельга, гэта пацвярджае і сам Кавалёў:

"Інтымны дзённік" найпрасцей прачытаць як п'есу-дыскусію паміж прыхільнікамі публікацыі эратычнага дзённіка Максіма Багдановіча і праціўнікамі такой публікацыі. Але калі б змест п'есы вычэрпваўся толькі гэтай праблемай, не варта было б яе пісаць[10]".

Няма сумневу, што першая гісторыя, якая распавядае аб курортным рамане вядомага паэта, і другая, пабудаваная вакол разваг аб выданні запісаў Багдановіча, дапамагае аўтару паказаць, наколькі змяніўся падыход да інтымных сфер жыцця людзей, раскрыць змены, што адбыліся ва ўспрыманні "асабістага" і "патаемнага". Для гэтага ў кожнай гісторыі выступае па шэсць герояў, якія ўтвараюць свайго роду пары, што падкрэслена іх узростам:

Максім, паэт, 23 гады і Пётра, літаратурны крытык;

Стыля, крымскі мастак, аматар выпіць, каля 30 і Лявон, модны празаік;

Клава, курортніца, 28 гадоў і Каліса, мастак-дызайнер;

Вольга, малодшая сястра Клавы, 20 гадоў і Вераніка, журналістка;

Дар'я Цімафееўна, гаспадыня пансіёну, больш за 50 і Ядзвіга Антонаўна, карэктар;

Салтыкоў, муж Клавы, службовец банку, больш за 30 і Макс, выдавец і бізнэсмэн, сустракаецца з Калісай.

Акрамя агульнага ўзросту персанажаў, драматург у аўтарскіх рэмарках адзначае:

“Абедзве гісторыі разыгрываюць тыя самыя шэсць акцёраў адпаведнага веку. У канцы спектакля частка акцёраў выходзіць на паклон у строях герояў першай гісторыі, частка – у строях герояў другой, што дапамагае гледачу звязаць дзве гісторыі ў адно цэлае пад назвай «Інтымны дзённік»”. (С. 106)

Менавіта таму цікавым з’яўляецца разгляд зменаў у героях “Інтымнага дзённіка”, што раскрывае асаблівасці зменаў у грамадстве, якія адбыліся за сто гадоў, а перадусім – стаўленне да інтыму і асабістага жыцця.

Першымі персанажамі, якіх мы б хацелі разгледзець, з’яўляюцца Дар’я Цімафееўна і Ядзвіга Антонаўна. Тут за ўяўным падабенствам – абедзве жанчыны аднаго веку падобна каментуюць норавы маладых герояў, уласна сучаснасць, – крыецца велізарная розніца ў падыходзе да паняццяў гонару, годнасці – каштоўнасцяў, якія ў сучасным свеце выклікаюць часцей за ўсё цынічную ўсмешку. Так, Дар’я Цімафееўна аддае Максіму, які вырашыў з’ехаць з пансіяната раней за тэрмін, грошы за тыдзень:

Бярыце, бярыце. У дарозе спатрэбяцца. Вы – студэнт, чалавек бедны, а я – дама з гонарам, муж мой быў гвардзейскім афіцэрам. Мне чужыя грошы не патрэбны (Прымушае Максіма забраць грошы.) (С. 130)

У Ядзвігі Антонаўны, самотнай жанчыны, якая выхоўвае дачку-студэнтку, падыход да грашовага пытання цалкам іншы: яна выкрадае дзённік Багдановіча з сейфа рэдакцыі і прадае яго Максу:

Дзе мне, адзінокай маці, узяць такія грошы?.. Нехта расказаў Максу пра выпадак з Ганусяй. Ён прыехаў да мяне і прапанаваў грошы на навучанне дачкі ўзамен за дзённік. Хіба я магла адмовіцца? (С. 164)

Гераіню зусім не цікавіць філасофска-этычны бок таго, што адбываецца, – настолькі яна засяроджана на матэрыяльна-бытавой сферы, аднак у п’есе, як падаецца, у астатніх персанажаў такія паводзіны не выклікаюць асаблівага асуджэння:

П ё т р а: [...] вас, як ужо казаў, я не звольню. *(Па-філасофску)*. Сталася тое, што мусіла стацца. Можаце ісці, Ядзвіга Антонаўна. (С. 164-165)

Такая рэакцыя маладога чалавека даказвае бессэнсоўнасць наогул згадваць пра гонар і годнасць. У сучасным свеце такі ўчынак не здаецца чымсьці ненатуральным, нават наадварот, кожны па-свойму можа растлумачыць крадзеж і нават паспачуваць самотнай жанчыне. З Ядзвігай Антонаўнай цесна звязваецца ўскосная гераіня – яе дачка – Ганзуся. Дзяўчына ў п’есе з’яўляецца свайго роду зборным персанажам, які ўвасабляе сабой сучасную студэнцкую моладзь, для якой мастацтва, літаратура, вучоба – нешта цалкам не патрэбнае. Акрамя гэтага, мяркуючы па тым, як Ганзуся, ведаючы, наколькі цяжка маці адной зарабляць на іх дваіх, нават не імкнецца ўтрымацца на дзённым аддзяленні, можна зрабіць выснову і пра яе падыход да адказнасці і сямейных каштоўнасцяў:

П ё т р а: [...] Тое, што сарамлівая Ганусенька спісвала на экзамене – гэта паўбяды. Тое, што паводле яе слоў паэма Янкі Купалы “Курган” пачынаецца словамі “Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...”, – таксама яшчэ не катастрофа. Але абмяркоўваць з сяброўкай у час лекцыі сэксуальныя здольнасці прафесара на першай лаўцы – гэта ўжо занадта! (С. 152-153)

Ганзуся, натуральна, атрымлівае двойку без магчымасці пераздачы, і менавіта гэта змушае маці – Ядзвігу Антонаўну – да крадзяжу і продажу дзённіка Багдановіча, каб усё-такі забяспечыць дачцэ вышэйшую адукацыю. Аднак у вышэйпрыведзенай цытаце звяртае на сябе ўвагу не столькі факт невуцтва студэнткі, колькі яе паводзіны і тэмы гутарак падчас заняткаў. І, калі Пётру і прафесара

адкрытае абмеркаванне тэмаў сэксу абурае, то Вераніка падыходзіць да гэтага як да чагосьці цалкам нармалёвага:

В е р а н і к а: Ядзвіга Антоноўна такая смешная. Апякуецца дачкой, як дарэвалюцыйнай гімназісткай. А Ганුся – сучасная, эмансіпаваная дзяўчына. Неяк у рэдакцыі, без маці, яна расказвала нам з Калісай пра твайго Паўла Сямёнавіча.

П ё т р а: Спадабаліся ягоныя лекцыі?

В е р а н і к а: Дзе там. Прафесар так павольна гаворыць, што студэнткі не могуць даўмецца, як ён займаецца сэксам. "Мусіць, адзін штуршок у мінуту", – падсумавала Гануся. (С. 145)

Сапраўды, калі ўзяць да ўвагі тое, што ў навакольным свеце сэкс і адпаведныя адкрытыя выявы нікога ўжо не дзівяць, то паводзіны людзей, якіх усё-такі бянтэжыць такая тэматыка, павінна выглядаць смешнымі і незразумелымі. Менавіта так уяўляецца канфрантацыя Ядзвігі Антонаўны і Лявона, які не толькі піша свой аўтабіяграфічны твор, можна сказаць, у порна-жанры, але нават захоўвае сапраўдныя імёны і прозвішчы гераіняў:

Л я в о н: [...] герой ёсць – я. Астатнія ўсе – гераіні. І назва клёвая: "Я і мятлушкі. З прыватнага жыцця Лявона К." [...]

Я д з в і г а А н т о н а ў н а: [...]Можаце з мяне смяяцца, называць мяне старамоднай, але за некаторыя публікацыі ў нашым часопісе мне сорамна. [...]

Я спадзяюся, Лёня, за ваш раман мне не давядзецца чырванець?

Л я в о н: Не спадзявайцеся, Ядзвіга Антоноўна: давядзецца ды яшчэ як. [...] імёны і прозвішчы гераінь – сапраўдныя.

Я д з в і г а А н т о н а ў н а *(не верыць)*: Як сапраўдныя? *(Запытальна глядзіць на Лявона)*.

Л я в о н: Каліса праўду кажа. Раман дакументальны. У гэтым ягоная ўнікальнасць. [...]

Я д з в і г а А н т о н а ў н а *(з жахам):* Але ж гэта... амаральна. Якая ж гэта літаратура?

Л я в о н: Шчырая літаратура. А ўявіце, колькі ў майго рамана будзе чытачоў. Усе, пра каго напісана, – раз. Іхнія сябры і знаёмыя – два. І ўрэшце прачытаюць усе астатнія, каб пераканацца, што пра іх нічога не напісана... (С. 137-140)

Гэты дыялог паказвае не толькі тое, што практычна ўсё табу і маральныя нормы ў сучасным грамадстве ўжо адпалі, што прыватнае, інтымнае жыццё лёгка становіцца здабыткам шырокай публікі, але закранае і цікавую праблему стану літаратуры:

П ё т р а: Сусветная літаратура даўно прайшла праз этап эксгібіцыянізму і прылюднага аўтарскага самараспранання...[...] Што да сэксуальных сцэнаў – гэта проста агульнае месца, своеасаблівы код, па якім пазнаецца прыналежнасць тэксту да сучаснай літаратуры. Раней чытач такія сцэны нецярпліва вышукваў, цяпер – абыякава прамінае, як літаратурны штамп. (С. 140)

Тут неабходна адзначыць, што ў літаратуры, тым або іншым чынам, адлюстроўваюцца тэндэнцыі, працэсы, змены, якія ўжо ўсталяваліся ў навакольным свеце. З вышэйпрыведзенага выказвання вынікае, што ў прынцыпе інтым або сэкс перасталі быць тэмамі асабістымі, патаемнымі. Больш за тое, – тыя, хто не перайшоў гэтае мяжы, часцей за ўсё становяцца аб'ектам цынічных насмешак, як гэта выглядае ў выпадку з Ядзвігай Антонаўнай.

Цалкам па-іншаму выглядаюць адносіны герояў з першай гісторыі: тут, напрыклад, Стыля, аматар выпіць і спакуснік прыезджых жанчын, увесь час прысаромліваецца за свой лад жыцця Дар'яй Цімафееўнай. Мастак, нягледзячы на багаты досвед героя-палюбоўніка, не дазваляе сабе ўдавацца ў якія-колечы падрабязнасці сваіх сувязяў. Больш за тое, у яго развагах на тэму Клавы і Вольгі няма ні цынізму, ні вульгарнасці:

С т ы л я: [...] калі задумацца, усё заканамерна. Цікаўнага да жыцця маладога паэта прыцягвае яскрава выяўленая жаноцкасць, а стомленага жыццём мастака – дзявочая ня-

віннасць. *(Рашуча).* Аднак досыць пра гэта. Спадзяюся, кожны з нас захавае ў таямніцы сяброва прызнанне?

М а к с і м: Вядома! Слова гонару! (С. 109)

Тым больш нявінна і нават наіўна ў параўнанні з сучаснымі рэаліямі выглядаюць адносіны Максіма – паэта, рамантыка – і Клавы. Маладога чалавека мучыць тое, што яго каханая – замужняя жанчына, але ён саступае сваёй і яе жарсці. Гэта прыводзіць да раману, які каханкі стараюцца схаваць, хоць адзначым, што абодва яны знаходзяцца ў Крыме на лячэнні ад сухотаў і абодва разумеюць, што гэтае нечаканае каханне можа быць апошнім у іх жыцці. Своеасаблівым кантрастам тут з'яўляецца Вольга – студэнтка медыцынскага інстытута. Яе некаторыя выказванні, паводзіны здаюцца занадта жорсткімі і не адпаведнымі агульнай атмасферы. Яна з аднаго боку асуджае старэйшай сястру, а з іншага – раўнуе яе да Максіма. Так, напрыклад, Вольга, незаўважаная Максімам і Клавай у часе, калі яны цалуюцца, пачынае чытаць з падручніка анатоміі:

Калі самец заўважае самку, яго арганізм выдзяляе дадатковы бялок, які трапляе ў мозг. Мозг адразу накіроўвае сігнал да палавога органа, што выклікае з'яву гэтак званай эрэкцыі...[...] Адпаведна ў арганізме самкі, калі яна прагне стасунку з самцом, выдзяляецца спецыяльная вільгаць... (С. 119)

Такое даслоўнае апісанне фізіялагічных працэсаў выклікае агаломшанасць, пачуццё сораму і няёмкасці ў Максіма і раззлаванасць у Клавы. Аднак Вольга, эпатуючы сваім цынізмам у стаўленні да паэзіі і падыходам да тэмы кахання, зводзячы яе да фізіялогіі, у выніку ўсё-такі апынаецца чалавекам чуллівым, клапатлівы і нават не пазбаўленым рамантызму:

В о л ь г а: [...] *(З болем)* Няўжо вы не зразумелі, што вы – апошняе каханне ў яе жыцці? Апошняя, хаця і недазволеная, радасць, апошні цёплы восеньскі дзень перад вечнай зімой... *(Замаўкае).* (С. 131)

Гэтая рэакцыя дзяўчыны была выклікана выказваннем Максіма, які сумняваецца ў пачуццях Клавы. Апошняя ж папрасіла яго не сустракацца больш, каб не раніць мужа, што прыехаў да яе:

М а к с і м: [...] вы мелі рацыю. Усе нашыя высокія пачуцці можна звесці да простай фізіялогіі. Дарэчы, я пад вашым уплывам нават паспрабаваў апісаць усе свае адчуванні натуралістычным метадам. Але неяк няўдала. *(Вінавата ўсміхаецца).* Кепскі з мяне натураліст. (С. 131)

Своеасаблівая спроба драматурга растлумачыць з'яўленне запісаў Багдановіча паказвае першым чынам падыход маладога чалавека да свайго асабістага жыцця, да ўласных інтымных перажыванняў і іх ролю ў творчасці паэта. Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца дыялог паміж Клавай і Максімам:

К л а в а: Я вырасла ў мяшчанскім асяроддзі, і ў мяне ніколі не было знаёмых паэтаў. Але, калі я чытала Севяраніна, Блока, Ясеніна, мне заўсёды здавалася, што гэта вельмі небяспечныя людзі.

М а к с і м *(здзіўлена)*: Чаму небяспечныя?

К л а в а: Бо яны кожную падзею, выпадак, сустрэчу ператвараюць у літаратуру. Здаецца, у іхнім жыцці няма нічога свайго, асабістага. Усё навокал – толькі тэма для вершаў. Вось мы расстанемся, і ты таксама напішаш пра мяне вершык?[...]

М а к с і м: Так... Калі ты дазволіш. (С. 118-119)

Ведаючы вершы вышэйпрыведзеных паэтаў, асабліва шакуе супастаўленне іх успрымання асабістых, інтымных адчуванняў з тэкстам аднаго сучаснага пісьменніка, якое прыводзіцца ў другой гісторыі:

Вось упэўненая жылістая рука гладзіць ейныя лыткі, клубы, потым мокрае прамежжа. Сярэдні палец трапляе ў вільготную похву й казыча, казыча, казыча. Жанчына знемагае і пакутуе ад унутранай гарачыні, цяжка дыхае, трымаючыся за халодныя поручні ложка.

Раптам заўважае, што нехта сядае ёй на грудзі так, што яе галава апынаецца паміж потных валасатых ног нахабнага вершніка. Да ейных вуснаў дакранаецца нешта пругкае й цёплае [...] (С. 138)

Такая канфрантацыя пачуццёва-рамантычнага ўспрымання інтыму, выяўленага ў асобе Багдановіча, і сучасных аўтараў, што засяроджваюць увагу галоўным чынам на фізіялагічных падрабязнасцях, не можа не адлюстроўваць нормаў і сацыяльных адносінаў, што змяніліся. У свеце Максіма няма месца спажывецкаму характару сувязі з жанчынай, гэтак жа, як у парнатопіі лявонаў і ганусек няма месца патаемнасці і сардэчнасці. Сэкс, які стаўся своеасаблівым прадуктам у сучасным грамадстве, агаленыя целы, якія кругласуткава не сыходзяць з тэлебачання, інтэрнэт, што дазваляе хутка і лёгка атрымаць доступ да эротыкі і парнаграфіі, сцерлі, здаецца, беззваротна чысціню, узвышанасць у пачуццях, ператвараючы іх у кітч. П'еса "Інтымны дзённік" Сяргея Кавалёва не толькі паказвае ў параўнанні змененыя каштоўнасці, чалавечыя адносіны, яна ўся прасякнутая настальгіяй і тугой па рамантызме, што беззваротна сышоў. Менавіта таму дазволю сабе скончыць свае развагі апошнімі строфамі верша Максіма Багдановіча, а разам з тым і апошнімі словамі твора Кавалёва:

Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

---

[1] Леонид Ионин: *Укрощенная эротика*. "Человек" 1992, № 3. Даступна на: http://aquarun.ru/psih/psex/ps8.html.

[2] Тут маецца на ўвазе найперш праца: *Steven Markus: Umkehrung der Moral. Sexualitat und Pornographie im victorianischen England*. Frankfurt, 1979.

[3] Гл. падрабязней у працы Леаніда Іоніна: *Укрощенная эротика*....

[4] Упершыню п'еса была надрукавана ў 2009 г. у часопісе "Дзеяслоў" №2, у тым жа годзе пастаўлена Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі, рэж. Віталь Бароўскі.

[5] З гутаркі Вольгі Барабаншчыкавай з Сяргеем Кавалёвым: *Драматург на Парнасе*. "Настаўніцкая газета" ад 20. 03. 2004.

[6] Сяргей Кавалёў: *Пасля гісторыі, або практыкаванні ў свабодзе*. Прадмова да зборніка п'ес "Сёстры Псіхеі", Мінск, 2011, с. 11.

[7] З дыскусіі-інтэрв'ю *"Блеск и нищета архивов и имен"*. «Советская Белоруссия» ад 05. 01. 2007.

[8] З апісання канферэнцыі ў Маладэчанскай цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча. Даступна на: http://molib.iatp.by/index.php?page=news&n=8.

[9] Тут і далей цытуецца па: Сяргей Кавалёў. *Інтымны дзённік*. // Сёстры Псіхеі. Мінск 2011, с. 154.

[10] Сяргей Кавалёў: *Пасля гісторыі, або практыкаванні ў свабодзе*... с. 11.

Леанід Галубовіч



...гэтыя вершы маюць толькі ўнутраную падсветку свецкасці. Таемнасць чалавечага жыцця на мяжы зямлі і неба ...

# “Бяссільны шчэбет веры”

***Ян Твардоўскі. Разам з табою. – Пер. з польскай мовы Дануты Бічэль і Крыстыны Лялько. – Мінск: “Pro Christo”, 2012. – 316 с.+16 с. іл.***

*любоў знятая з крыжа*
*Ты ёсць – бо адкуль яшчэ столькі надзеі*

Ян Твардоўскі

Гэтая прэзентаваная мне кніга прыўнесла гармонію ў маё збаламучанае “творчае жыццё”. Паколькі мне, у звязку з абавязкамі перад некаторымі выданнямі, даводзіцца шмат чытаць сучаснай паэзіі і мастацкай літаратуры агулам, то скажу адкрыта, тыя нагрувашчаныя калькасцю, але разрозненыя па сваёй форме і сутнасці публікацыі падобныя на растрывожаны пчаліны рой, які трэба перанесці ў вулей, каб наладзіць жыццё гэтых божых істот. Памятаеце, яшчэ Ф. Цютчаў пісаў пра сутнасць паэта, які *“змиею сердце жалит, но, как пчела, его сосет”*?.. Адным словам, каб здабываць паэтычны мёд, трэба лётаць, шукаючы кветкі з нектарам.

Пачаўшы азнаямленне з творчасцю Яна Твардоўскага




(а напершапачатку, гады чатыры таму, мне патрапіў яго зборнік, выдадзены ў Маскве ў рускім перакладзе) я заўважыў, што вершы польскага паэта (ксяндза) паступова ўжываюцца ў маю душэўную сутнасць і блізкія маёй натуры. Хоць яны асабліва і не ўражвалі мяне ні пачуццём, ні эмоцыяй, ні інтэлектам – але нейкім чынам уздымалі над уласнымі праявамі жыцця – жарсцямі, горам, радасцю, расчараваннямі... Яны сталі маімі спагадлівымі спадарожнікамі па звілістай і абрывістай дарозе жыцця.

Ян Твардоўскі ў сваіх паэтычных тэкстах *не чытае* ні малітвы, ні тым больш казанні і не змушае мяне іх выслухваць. Ён разважае над жыццём *пра сябе*, але *слушным* шэптам, ідучы як бы наводдаль, з такім падсвядомым разлікам, каб пры жаданні ты ўсякі раз мог пачуць яго... А пачуўшы, – спыніцца, супакоіцца і *азірнуцца* на сказанае і пачутае... Ні вялікіх адкрыццяў, ні прапісных ці царкоўных ісцінаў і настаўленняў няма ў яго скупых і ашчадных радках. Ёсць толькі дух Слова і вобмаль неабходных слоў пры Ім, нібы тых трынаццаць апосталаў пры Хрысту... Адно з якіх, у рэшце рэшт, можа выкрыць яго... як паэта свецкага, але так і не знаходзіць нагоды для такой здрады... Бо свецкі чалавек (чытач) сам заўважае і вылучае яго з шэрагу хрысціянскіх храмавых творцаў і прызнае сваім. Гэта значыць – Паэтам.

І вось сёлета беларускае выдавецтва “Про Хрысто” выпусціла ў свет гожую ва ўсіх сэнсах кнігу выбраных вершаў Яна Твардоўскага “Разам з табою” ў перакладах Дануты Бічэль і Хрысціны Лялько. Да ўсяго кніга двухмоўная, бо паралельна кожнаму перакладзенаму вершу даецца і яго арыгінал па-польску. Таму большасць чытачоў мае магчымасць для параўнання.

Пішу пра чапляў што ўстаюць як раннія зоркі
пра вожыка з пукатымі вачыма
пра абрыкосы што паходзяць ад дзядулі міндалю
смеючыся што ёсць у іх гінекалагічнае дрэва
пра слана ў якога – праблема бо сесці не можа
пра дварняка блізкага сэрцу бо вые патроху
Бога найлягчэй знайсці не пішучы пра Бога

Паэт і святар Ян Твардоўскі ніколі не апярэджвае і не папярэджвае чытача, а заўсёды ідзе з ім на дыстанцыі дыхання і становіцца яму роўняй ва ўсім, хіба толькі як больш вопытны і старэйшы паказвае на адметныя ў сваёй звычайнасці праявы людскога свету пад Божым небам. Не маралізуе, не выслаўляецца, але і не панібрацтвуе...

У нас таксама ёсць праваслаўны беларускі паэт-мніх Алег Бембель. Праўда, на мой погляд, ён усё ж больш свецкі, і яго хрысціянская паэзія заўжды з падсветкай гэткага *“настаяцельнага”* праваслаўя... Скажам, бел-чырвона-белы сцяг у яго параўноваецца з Хрыстовай плашчаніцай... Паэт Алег Бембель – святар грамадскі (нацыянальны праваслаўны асветнік). Ксёндз Ян Твардоўскі – паэт Божы. Вершы каталіцкага святара ксяндза Яна Твардоўскага перадусім не маюць ярка выяўленага свецкага характару альбо, скажам так, гэтыя вершы маюць толькі ўнутраную падсветку свецкасці. Таемнасць чалавечага жыцця на мяжы зямлі і неба (нізкага і высокага, сярмяжнага і духоўнага).

Вось што кажа ён сам у кароткай прадмове (1998), якая падаецца ў кніжцы: *“Як святар я жыву ў двух светах: у знешнім – паводле мас-медыя, заражаным, фальшывым, жудасным свеце людскіх грахоў; і ва ўнутраным – свеце людскіх*

*прызнанняў і споведзяў. Ведаю, што нават калі чалавек адыходзіць ад Бога, ён мучыцца. Ёсць крыж веры і крыж бязвер'я.*

*Вершы ратуюць тое, што зневажаецца".*

Так як піша ён пра траву, не кожны з сучасных паэтаў здольны напісаць пра чалавека:

Бо яна затаптаная нізкая
без ніякіх пладоў, без коласа
трава – сястрычка мая
кармелітка босая

Часам ксёндз Ян Твардоўскі спавядаецца ў сваіх вершах, часам паказвае сябе і сваю душу не ў роспачы і ў пакаянні, а ў суцяшэнні і вызначанасці, якія прыходзяць праз цяжкі і выпакутаваны духоўны вопыт:

не прыходжу я па суцяшэнне
як па талерку супу
хацеў нарэшце абаперці сваю галаву
на камень веры

Дзіўна, што вершы маладога і сталага паэта (прынамсі тыя, што ўвайшлі ў гэтую кніжку) не вызначаюцца вялікай рознасцю ў тэматыцы і літаратурным майстэрстве, але святло і цені вобразнасці ў пазнейшых творах нібы *растварающа* адно ў адным, як зямны час у вечнасці...

І ўвогуле, што да літаратурнай тэхнікі і паэтычнага майстэрства Яна Твардоўскага, то віднай карпатлівай працы ў гэтым аспекце творчасці ў яго вершах амаль не заўважаецца. Не памятаю ўжо, хто з расейскіх паэтаў пісаў: *"моё мастерство избежать мастерства"*, што вельмі блізка адносна характарыстыкі "паэтычнай кухні" польскага паэта. Хоць бы вось гэты верш:

Езус які не браў у рукі алоўка
Не схіляўся над чыстай паперай
І не пісаў Евангелля

Чаму не пішацца так як чуецца
Не пішацца так як кахаецца
Не пішацца так як трываецца
І не пішацца так як маўчыцца

Пішацца крыху не так як жывецца

Я не думаю, што Ян Твардоўскі не задаваўся падобнымі "лабараторнымі" пытаннямі, падсвядома не працаваў у гэтым кірунку, аднак наўрад ці можна западозрыць яго ў фармалізме, метадалогіі і пагоні за сучаснымі павевамі ў мастацтве і за літаратурным працэсам увогуле. Ён рана адчуў сваю ўнутрана выспелую самасць (не самадастатковасць), сваё пакліканне (і святарскае, і літаратурнае), і няспешна пачаў таптаць уласную сцежку да Гасподняга гасцінца (да Высокага).

Чытаючы сёння ва ўжо згаданай прадмове: *"Я пішу так, быццам размаўляю з кімсьці блізкім. Для мяне верш – гэта пошукі кантакту з іншым чалавекам. Хацелася б "знайсці" кожнага"*, – думаеш, што за сваё доўгае жыццё (1915-2006) Ян Твардоўскі, нарэшце адшукаўшы *свайго* "кожнага", *адкрыў* і *знайшоў* у іх і сябе самога.

У крыку любоўных лістоў
і чулых прызнанняў
не паэзіі прашу

а простага слова
звычайнай людской дабрыні
большай за каханне

Колькі мудрасці і ненавязлівай глыбокай філасофіі ў яго простых будзённых радках, запісаных, відаць, адразу пасля вяртання з людской вуліцы:

Паглядзі на сабаку каля брамы прывязанага
ён думае пра свайго гаспадара
і рвецца да яго
на дзвюх лапах яго чакае
гаспадар для яго і надворак і поле і лес і дом
вачыма за ім бяжыць
і сумуе хвастом

пацалуй яго ў лапу
бо ён вучыць як чакаць Пана Бога

Іншым разам у іншага паэта радкі, якія я працытую зараз, падаліся б грамадзянскім водгукам на пэўную прагматычнасць сучаснага ладу жыцця:

Люблю касцёл убогі
Які знаходзіцца пад пагрозай
...............................................................
Калі гаварыць усур'ёз то Езуса
Цяжка знайсці ў касцёле багатым

Але ў кантэксце паэзіі Яна Твардоўскага гэта гучыць натуральна і гарманічна кладзецца на партытуру чытацкай душы, і неагучаны падтэкст ён можа выканаць на свой лад, але суладна з пададзенай аўтарам запеўкай. Відавочна, што ў вершах Твардоўскага няма і каліва пафасу, у тым ліку і царкоўнага. А найперш ёсць шчырасць і поўны давер у дыялогу (і маналогу) з чытачом. Няма нават і ў паміне паказной ці стылёвай прэтэнзіі на верш (паэзію) як і на само званне Паэта. Так заўжды бывае ў тых, хто мае прызванне Звыш.

Вядома, што *касцельны паэт* можа быць не толькі дабрадушным, але і ў меру іранічным, здавалася б, у зусім нестасоўнай для таго сітуацыі:

задрыжэлі дзверы – хто там?
– смерць
увайшла малая і дробная з касой як запалка
здзіўлена вылупіў вочы
а яна
– прыйшла па канарэйку

Нездарма водгукі пра творчасць і асобу Яна Твардоўскага з'яўляюцца ад шырока вядомых у свеце людзей мастацтва. Да прыкладу, выбітнага кінарэжысёра Кшыштафа Занусі. Вось як ён згадвае (2010) пра паэта: *"Я добра ведаю ксяндза Твардоўскага і як святара і як паэта – і гэта два розныя досведы. Бо сапраўдны святар стараецца не парушаць дыялогу з Богам, у якім ён з'яўляецца толькі пасярэднікам. Паэт жа, хоць і гаворыць пра ўсё, што яго акружае, перадусім гаворыць, прапускаючы праз сябе, інакш ён не быў бы паэтам. Ксёндз Ян цудоўна выконвае абедзве гэтыя ролі. Як паэт ён захапляе мяне незвычайнай здольнасцю спалучаць простасць з вытанчанасцю. Гэта паэзія высокага палёту і адначасова непрэтэнцыёзная, простая. Можа, таму яе так ахвотна чытае таксама моладзь."*

Прачытаўшы кнігу прыходзіш да высновы, што Ян Твардоўскі – гэта чалавек (паэт-вернік), які *мяжуе* паміж светам і храмам, жадаючы іх прымірыць ці хоць бы схіліць да паразумення, бо жыццё – спазнанае, а смерць – невядомая...

калі жыць не выходзіць а нельга памерці
ёсць удзячнасць такая калі хочаш падзякаваць
за што трымаюць цябе нябачныя рукі
а чаго ты не хочаш найбольш прыдалося б
шукаеш у небе і там не відаць

І калі ён піша, што *"смерць – хвіліна найбольшай надзеі"*, ты, як чытач і спадарожнік, які працягвае яшчэ ісці той жыццёвай сцяжынай пасля яго сыходу, не можаш не разумець яго несмяротных зямных паклонаў і высокіх паднебных парыванняў. Бо нішто не губляецца і не прападае ў высокім нябёсным воку, нават калі яно парушынаю ў ім. Не кожны пачатак мае свой канец, а – кожны канец мае свой пачатак...

Не гавары да пустой сцяны
але крычы да сонца
нават грэх часам бывае добры
калі не хоча быць бясконцым

Безумоўна, нельга не адзначыць працу ўжо згаданых вышэй перакладчыц. Абедзве выбітныя паэткі, добра валодаюць польскай мовай і выдатна ведаюць суседнюю літаратуру. Да ўсяго ж – каталічкі і людзі касцельныя. Іх любоў да паэзіі не навіна. Таму пераклады іх творчыя, высокамастацкія, назваць іх прафесійнымі было б казённа і нават грубавата ў адносінах да такой адмысловай паэзіі. Казаць наўпрост, што ў каторай атрымалася лепш, а ў каторай горш, не выпадае, бо і Данута Бічэль, і Хрысціна Лялько тонка ўлавілі аўтарскі голас і танальнасць слоў паэта, не кажучы ўжо пра не сфальшыўленую метафорыку і вобразнасць. А самае галоўнае, што яны не толькі *перанеслі* на нашу нацыянальную прастору змест і сэнс, але і змаглі "ідэнтыфікаваць" і як можна дакладней *перадаць* беларускаму чытачу светлы і чысты дух высока пабожнай і глыбока чалавечнай паэзіі Яна Твардоўскага. Я проста для сябе параўнаў гэтыя беларускія пераклады з рускамоўнымі (*"Стихи", издательство Францисканцев, Москва, 2006*), да якіх спрычынілася вялікая група перакладчыкаў, у тым ліку такіх знаных, як С. Аверынцаў. Кідаецца ў вочы, што мова наша мякчэйшая, больш пластычная і меладычная, шматслойная і шматсэнсоўная – і як вынік больш цёплая і шчырая, што ў праекцыі да вершаў Яна Твардоўскага фактар немалаважны.

Кніга выдадзена шыкоўна ў паліграфічным плане, шмат тэкстаў (артыкулаў, успамінаў), якія дапамагаюць чытачу азнаёміцца з творчым і жыццёвым шляхам паэта, а таксама ўводзяць у шырокі свет яго творчай паэтычнай спадчыны. Апроч гэтага, у кнізе шмат чорнабелых і каляровых фотаздымкаў з уласнага архіва паэта, і тых, што захоўваюцца ў яго сяброў і блізкіх яму людзей. Ды і наклад (1000 асобнікаў) па сучасных беларускіх мерках даволі прыстойны. Ні на ёту не сумняваюся, што *знойдуцца* і ўдзячныя чытачы. Як *знайшоўся* Твардоўскаму я. Выпадкова і трохі запознена.

Але – назаўсёды з любоўю.



Сяргей Вераціла



*...ён паўстае перад намі шэрым, квадратным,*
*кубічным, у ім неба параненае дымам,*
*там пахне мазутам, іржой і бензінам,*
*там равуць ашалелыя дзверы...*

# “Дагрэбці да неба”

## *Эсэ замест рэцэнзіі на “Стрэмку” Сержука Сыса*

Няўдзячная гэта справа: паэту пісаць пра паэзію ды яшчэ і не сваю, але я згадзіўся. Ні ў якім разе не імкнуся сваімі допісамі падмяніць аналітычныя артыкулы нашых прафесійных крытыкаў, а яны яшчэ з’явяцца. Усё, што я тут скажу, цалкам суб’ектыўна і не павінна ўспрымацца аніяк іначай, як з’яўляецца выключна суб’ектыўнай любая паэзія, асабліва лірычная. А для сваіх допісаў я паспрабую адшукаць якуюсь арыгінальную форму і будуць яны ў мяне вось у такім парадку, хаця няма ніякае гарантыі, што гэты парадак захаваецца.

Першае: Сыс адзін з апошніх паэтаў, хто да пяцідзесяці год дахадзіў без уласнае кніжкі.

Другое: Сысава жонка – выбітная паэтка Галіна Дубянецкая.

Трэцяе: Сыс – мой сябра, хоць і нарадзіўся на зусім іншых рэках.

Чацвертае: Усё, што я выклаў у першых трох пунктах, ніякім чынам не тычыцца самой кнігі. Можа быць.

Цяпер крыху пра саму кніжку. Кампазіцыю крытыкаваць не стану, бо рэдагавала яе мая сяброўка Галіна Дубянецкая, а




сяброў, як вядома, крытыкаваць неэтычна. Гэтая рэдактарка толькі пасля сямейнай бітвы ўключыла ў кніжку адзін з маіх улюбёных Сысавых вершаў “Скончыцца праца...”. Хаця, можа, вялося зусім не пра гэты верш. Цяпер пра назву. Яна мне зусім не падалася, але Сыс яе выбіраў сам, дык няхай сам і выцягвае. Зрэшты, паэт сам адказвае за ўсё, хіба, можа, апрача свайго нараджэння, хаця ў гэтым я не ўпэўнены, бо лічу, што цягам свайго жыцця паэт нараджаецца некалькі разоў. Але запытаюся, каму была прызначаная гэтая “стрэмка”: небу, якое з падазронаю перыядычнасцю сустракаецца дзевятнаццаць разоў на дзевяноста дзевяці вершаваных старонках, Радзіме, грамадству, дзяўчыне, што нібыта кахала, а потым пакінула? А можа, гэта стрэмка, што паэт выцягнуў са сваёй душы, каб болей не замінала жыць, і цяпер ён спрабуе ўваткнуць яе нам, каб таксама хоць крыху пабалела? І яшчэ колькі словаў пра вокладку – ну не маё гэта, не маё. Хаця, трохі ведаючы пра Сысавы кулінарныя захапленні, магу меркаваць, што ён купіўся на шчупака, асабліва на шчупачыную галаву. Калі б Пушкін намаляваў на карціне яшчэ б з тузін галоваў ад розных рачных рыбінаў, то Сыс, відаць, пачуваўся б найшчаслівейшым з паэтаў.

Ну, а цяпер перайду да вершаў. Пэўне ж не знайду ніякае Амерыкі, калі скажу, што вершы ў кнізе няроўныя, ёсць сярод іх большыя, ёсць меншыя, ёсць белыя і нават некалькі бел-чырвона-белых. Няма толькі відавочна слабых. Цікава, гэта заслуга паэтава ці рэдактарава? Затое па кніжцы разлітая шчырасць, часам такая, што параўнальная з параксізмам. Хаця, я асабіста лічу, што паэт бывае шчыры толькі падчас пісання вершаў, інакш кажучы, ён сам шчыра верыць у тое, што піша, а потым яму звычайна сорамна за ўчыненае раней, хаця на нейкі час ён сам любіць свае вершы, носіцца з імі, як дурань з пісанай торбай і сцьвярджае, што здольны растлумачыць прычыну, па якое быў напісаны той ці іншы верш, ён нават распавядзе рэальныя (?) падзеі. Але даюць веры паэту толькі такія ж дурні, як і ён сам альбо дзяўчаты, а перад намі як раз такі выпадак ці аксіёма, што і першыя і другія вераць ува ўсё і ўсім. Вынікам такое веры ці, лепш, даверлівасці ў другіх бываюць, у лепшым выпадку, заплаканыя вочы, у горшым – з’яўленне пазашлюбных дзетак; у першых жа вынік – пісанне вершаў.

Верш, на маю думку, ёсць нічым іншым, як плёнам судзеяння наіўнага пачуцця і натхнення. Першае, як правіла, з’яўляецца ад жадання займець ці завалодаць (гэта ўжо потым цацку можна разламаць), а другое ёсць вынікам крыўды ад таго, што пажаданае альбо не далі, альбо адабралі. Ува ўсіх гэтых сваіх надзвычай строката выражаных эмоцыях паэт вельмі падобны да дзіця, і цяпер мы можам падысці да тае кропкі, калі нараджаецца паэт, і дзеля гэтага нам проста неабходна хоць як зірнуць на *locus nativus* паэта ці месцанароджанне, бо, як казаў гер Гётэ: *“каб ведаць паэта, патрэбна ісці ў краіну паэта”*. Калісьці я гэта мог сказаць па-нямецку, а потым забыў, але, зрэшты, гэта не важна. Важна якраз тое, што ў разгляданым казусе гэтая краіна – не Беларусь. Гэта невялікі прыдняпроўскі абшар, недзе паміж Гомелем і Мінскам, дзе сярод носьбітаў зарубінецкай ды мілаградскай культуры нарадзіўся хлопчык, які хоць і ледзьве дастае нагой да педаляў, але лёгка абганяе паэта. У той краіне пад падэшваю спявае снег, там траншэямі стаяць сцішэлыя дамы, там над цвілаю вадою палюе пугач, там рыбіну-гарэзу ўпалюе вастры і цярплівы кручок рыбака, там усе рэкі ягоныя, а нейкі Гарадок прачынаецца ад спеву ўсяго аднаго пеўня, там з лугавінаў на падворкі плыве малако (чыста малочныя рэкі), там хітрасць палягае толькі ў тым, каб першаму картопляй засеяць соткі (вось вам відавочная некранутасць цывілізацыяй носьбітаў

археалагічных культур), там нераты з глыбінь ніколі не прыходзяць пустымі, і гэта вядома (каму?), там жылі і пахаваныя баба Ганна і дзед Піліп, там пах ежы з незачыненых вокнаў (цікава, што там ядуць?), там дымяць патроны танных цыгарэт, там у панскім садзе можна ўзяць яблык, схаваны ад людзей (правільна, я і кажу: паэт – не чалавек), там парцалянавая лялька ўмее няньчыць дзяўчатак (цяпер, здаецца, ужо больш ніхто гэтага не ўмее), там за вярбой і сухімі ажынамі дзеляць яблык апалы вужы, там быў шанец набрацца мудрасці хоць бы і ад Змяінага цара (цяпер, відаць, позна, і даводзіцца набірацца чаго іншага), там бэры і ранеткі, там крапіўны лес, там столькі, халера, тых яблыкаў, што імі нават ліпень і той б'ецца (усе цяпер б'юцца). І вось усяго гэтага цяпер няма і больш не будзе, але так карціць вярнуцца ў тую малочную краіну, але шлях туды зачынены, і равеснікі, хто не ўмёр, той ўжо спіўся, хоць з некаторымі яшчэ можна налавіць бычкоў (я заўсёды думаў, што бычкоў прасцей назбіраць). І застацца паэт не можа ў той яблычнай краіне, бо ён вырас з яе, як вырастаюць з дзіцячае вопраткі, і вось трэба мяняць вопратку і рухацца надалей, калі не ў век сярэбраны, то хаця б у Гомель, які тут перад Сысам, як Вільня перад Багдановічам. Але па дарозе на Гомель паспею зрабіць яшчэ адну заўвагу.

Калі Сыс нараджаўся ўпершыню як паэт, то ніякае Вільні яшчэ не было, а маю на ўвазе, што кніга не грашыць звычайнай для нашага пакалення бел-чырвона-белай тэматыкай, а гэта азначае, што час змяніўся, і да гэтых зменаў мы можам ставіцца як заўгодна. Але пойдзем ці паедзем у Гомель. Вось я і пачаў неяк незаўважна для сябе казаць "мы". Цікава, каго я пад "мы" маю на ўвазе? Падазраю, што гэты выпадак сведчыць аб поўным раздваенні асобы, якое заўсёды так выразна выяўляецца ў паэтаў, а можа, і не толькі. І вось мы ў Гомлі, і бясспрэчна, што Гомель гэты мы бачым Сысавымі вачыма і сэрцам. І вось ён паўстае перад намі шэрым, квадратным, кубічным, у ім неба параненае дымам, там пахне мазутам, іржой і бензінам, там равуць ашалелыя дзверы, там чмыхае смярдзючы "ікарус", набіваючы валляк шумным людам (як кryважэрны пачвара-цмок з жахлівае казкі, і, заўважце, што гэты цмок зусім не залацісты), тут усе дамы абрыдлыя, тут паэт вытрымоўвае экзамен на званне майстра хцівасці і змоў, тут ён вучыцца разменьваць цнатлівасць і пяшчоту (ну бачыце, я ж казаў: паэт заўсёды хлусіць), тут Гомель, восень і адчай. Карацей, усё выходзіць нагэтулькі фатальна-кепска, што калі б не дождж, то ў гомельцаў не было б усмешкі пяшчоты дзіцячай. І вось перад намі нібыта найяскравейшы прыклад эскапізму, настальгіі і песімізму, і тады нам з вамі ўжо не выпадае ні пра што размаўляць, бо ўсё гэта даўно на муку змелена: і назад да прыроды, і аж родная вёсачка, і кляты асфальт, на якім нічога добрага не пасееш, але ўвесь гэты метафарычны енк і праклёны ёсць толькі сведчаннем таго, што нарадзіўся паэт, і ён расце, і ў яго з'яўляюцца іншыя патрэбы, а значыцца, іншыя настроі, і вось як паратрымкі росту ў яго пачынае праяўляцца здольнасць не толькі адрозніваць добрае ад кепскага, але і прасейваць гэта кепскае, каб знаходзіць там тое золата, што так неабходнае, каб жыць надалей, а не толькі стагнаць аб страчаным назаўжды выраі. І вось тады (о, цуд!) у Гомелі можна адшукаць і стары парк, дзе жыве каханне і апроч мазуту тут пахне аерам і азонам, і вечар можа быць спакуслівым, ды і сам Гомель палагаднеў, і масты гараць срэбрам, і вуліцы вабяць неонам стракатым, і мандарын (sic! не яблык!) можа быць залатым сонейкам, і вось неяк і выходзіць, што сёння паэту на неба мо ўжо і не так яно, каб трэба.

І ўсё ж гэты горад страшны, бо тут выпадковы сустрэчны ў чорным паліто (Моцарт, Ясенін з іхнімі чорнымі людзямі, якая традыцыя, га?!) выпрабоўвае паэта, кажучы яму, што ён – ніхто, але паэт ужо прывык, паэт ужо не баіцца, болей за тое, ён сам шкадуе небараку, які ўсяго што і апрануўся ў чорнае паліто. Але мне чамусьці падаецца, што гэты чалавек перастрэў паэта на вуліцах ужо

зусім іншага горада, а значыць, паэт зноў нарадзіўся і цяпер у яго іншае месцапражыванне. Цяпер гэта Мінск або Менск, як тое каму падабаецца. І ў гэтым сваім Мінску паэт раскрывае нам новыя бакі сваёй натуры, так пры агранцы на брыльянце са з’яўленнем новых граняў узбагачаюцца і бляск, і гульня святла і колераў, і тут у яшчэ большае ступені праяўляюцца ўсе колішнія паэтавы рысы, што і не дзіва. Мінск у сем разоў большы за Гомель і ў тысячу разоў большы за Заспу, і рэкі ў гэтым Мінску цякуць зусім іншыя, і зусім яны нібыта і не рэкі пасля Сажа ці Дняпра, Пцічы ці Гарыні, бо ў іх ужо няма ні бычкоў, ні чыліма, і таму яны не такія важныя. Нямігу паэт упамінае тры разы, адзін раз як станцыю метро, а два разы як раку, якая зусім і не рака, а так сабе нешта некалі кімсьці надзвычай прагрэсіўным, нібы нешта агіднае, засунутае ў трубу. Але наш паэт, апрача таго, што ён дальтонік, дык яшчэ зусім сляпы, ён не бачыць, што ніякае Нямігі няма. Паўтараю: Ня-мі-гі ня-ма! Хаця які ў гэтым сэнс, ён жа ўсё роўна не прачытае, бо сляпы.

Але вось у гэтым чортавым Мінску ёсць шмат чаго, апроч ракі, якой няма. Напрыклад, ёсць Дубянецкая Галіна, ёсць сіроцкі касцёл, ёсць стылыя анёлкі, ёсць дзікія могілкі (дзікі – той, які вырас сам па сабе, не гадаваны), тут душы пасляваюць спазнацца вачамі, тут звон-уладар, тут няволя мілей за недасяжны рай (так, правільна, мы людзі рэальныя, навошта нам недасяжны рай, тым больш, што ён і так страчаны?), тут і парасон можа быць сцягам (ну, я і не такое на мітынгах бачыў), тут ёсць тугі праспекта пояс, тут рупіцца і шчыруе мегаполіс (бач ты, а Гомель нібы нейкі брудны, непрыдатны да жыцця лайдак). І вось Мінск пачынае паўставаць перад намі нейкім сапраўды благаславёным местам, але я ж казаў, што паэт нарадзіўся ў трэці раз, і нарадзіўся значна, калі не большым, то пэўне ж старэйшым, і як паэт ён расце, бо растуць жа не толькі валасы і пазногці, расце здольнасць змешваць між сабою розныя пачуцці, і гэтая мяшанка на лаціне называецца гумар, і вось ужо мёртвы трамвай развозіць начное святло, і тут можа смела хадзіць у сны ўздоўж аслеплых вітрын, і можна па дзвесце з прычэпам грам (а вось гэта ўжо і зусім някепска, хаця гэта Сыс напісаў мо яшчэ ў Гомлі, потым спытаю), тут дрэмле дзяўчынка-аблачынка, тут Свіслач мае далонькі, тут можна ў Траецкім п’яна паспаць (не разумею, у чым фішка, бо п’яна паспаць можна ці не паўсюль) і п’яна памроіць, тут можна каля Свіслачы песціць чаканне і тут можна не ўбачыць пачатку атакі (гэта зразумела, калі спаць п’яна). А яшчэ тут можна сесці на брудны кардон і сярод рубероіду скорчыцца ў радасным плачы (у Гомлі гэтак не зробіш з тае прычыны, што ў Гомлі папросту няма метро), дык можа ўжо і не трэба даграбаць да таго неба, ці як? Тут і сон твой вартуюць партрэты, альбо каньяк “Ай-Петры”? Праўда, апошняе пытанне я пакідаю на чыстую рыторыку.

І на гэтым я плануду перапыніць нашую вандроўку па месцах Сысавай “Стрэмкі”, бо і так яна нешта задоўжылася, а час і цярпенне зусім не гумовыя, ды і я не кандыдат ад філалогіі, каб вам тут пра ўсё давесці, але калі каму тая “стрэмка” патрапіла, то тут ёсць яшчэ шмат чаго пра што я не сказаў, а Сыс усё роўна сказаў лепш, бо паэзія з грэчаскай мовы ёсць нішто іншае, як якасць, і, можа, яна дапаможа каму таксама скіраваць свой човен у кірунку неба.



Галіна Дубянецкая



...паэт не можа
не быць кніжнікам...

# “А найлепшыя – сарматкі”

## *З нагоды спаткання з “Душой Лістападу” Ірыны Багдановіч*

Адклаўшы кніжку, думаеш:

Паэты – патрыёты? Яшчэ якія! Жарсныя. Пяшчотныя. Патрыёты сваёй стыхіі. Мары. Улюбёнага надвор’я ці сузор’я. Краіны, часіны, мясціны, планеты – не заўсёды пазначаных у біяграфічнай даведцы. Зачараваны кут: вобраз радзімы ў творчасці паэта.

А што наконт вобразу паэта? О, тут багатая традыцыя!.. Прарок, мысляр, ганчар, званар, штукар... Гаротнік, самотнік, сухотнік, адлётнік, залётнік... Ласун, цынік, вернік, вершнік, воўк... Вядзьмак, святар, анёл, кніжнік, вандроўнік, прайдзісвет, ніхто... Сабака, птушка, не-паэт, раб, цар, бог, дзівак, нямко... Актор, трубадур (пясняр, дудар, гусляр, лірнік), зорка, сонца, блазан, карпеч... Ваяр, вар’ят...

Намацаўшы радзіму сваёй душы, яны вызнаюць яе скрозь. Беларускія паэты: афрыканцы, германцы, эліны, рымляне, ліцвіны, яцвягі, даосы, тыбетцы, самураі...

“Ды найлепшыя – сарматкі”, – чытаем у новай кніжцы Ірыны Багдановіч *“Душа Лістападу”*, выдадзенай сёлета Кні-




гарняй пісьменніка. Гадоў колькі таму аматары паэзіі атрымалі ад Ірыны “Сармацкі Альбом” (2004). Вось жа, душа паэткі ўдакладняе свае каардынаты.

Я ж, даўніх сарматаў нягеглы патомак,
Сабе выбіраю да густу пярсцёнак –

з гэткаю сціпла-какетлівай годнасцю зазначае гераіня верша “Сармацкі бурштын”.

Дарэчы, хто яны, тыя сарматы? Напаўказачныя качэўнікі, тыя, што напачатку нашай эры насілі аздобленыя бурштынамі, перламі ды бісерам строі? Ці гэтыя, што згадалі пра тых у пазамінулым стагоддзі ў Рэчы Паспалітай – і натхніліся шляхотнымі продкамі?.. Як бы там ні было, мы прымаем ласкавае запрашэнне шаноўнай пані адведаць ейны “самаробны”, як яна кажа, “светамір”.

...А тут, апроч нас, “Яснавяльможныя госці”: вітаем шаноўных Дануту Бічэль, Галіну Тварановіч, Аляксея Каўку... Ларысу і Зоську... Ну, вядома ж, Максіма Кніжніка, якому нашая гаспадыня, таксама не абы-якая кніжніца, даводзіцца раднёй па прозвішчы... І Скарына, і Багушэвіч з Купалам, і Адам Міцкевіч, падобна, завіталі сюды невыпадкова... Гаспадыня апавядае пра месца, дзе часта гасцюе сама – “архіўнае жытло” ўнебаўзятых Паэтаў – узвышаўцаў, маладнякоўцаў, чые лёсы яна чытае, то плачучы, то смеючыся...

Дзеля пачатку яна прапануе нам – не, не каву і пакуль не віно – “Кароткі канспект паэтыкі” з “Тэорыяй” і “Хрэстаматыяй” верлібру, “Апраўданнем футурызму” і “Развагай трубадура”, дзе герой, праштудыяваўшы “Канспект”, вырашае “звярнуцца зноў да звыклага радка”:

хоць гэта не сучасна
не “гламурна”
затое традыцыйна
трубадурна

Зрэшты, паэт не можа не быць кніжнікам. Заўважаем на старонках яшчэ дагэтуль ніколі не ўжываныя альбо трывала забытыя, нядбайна згубленыя “на раздарожжах падзей” слоўцы, якія Ірына, ведаючы, дзе шукаць, пазнаходзіла і, умеючы, павынаходзіла: да прыкладу, памянёны ўжо шматзначны “светамір”, гжэчныя “васпан” і “васпані”, нязмушана-сцвярджальнае “АГА”, шыкоўныя “вінагроздзя” ды іншыя.

А цяпер наспеў час падаваць віно. Гасцей атуляюць “Вінагроздзя кахання”, і гучаць узнёслыя тосты за “Маладосці вечны дар”, за “ліхтарні Сяброўства і Кахання” і, безумоўна, за Айчыну:

Узнімем іскрыстыя шклянкі
з чароўным напоем,
віваты ўрачыста прамовім,
панове ліцвіны,
на славу айчыны,
якую шляхетна адновім,
свае і чужыя адкупім
грахі і правіны...

У гэтым кантэксце “вінагроздзевай гронкай //...у клопаце Пана”, здаецца, апякуецца не хто іншы як антычны бог Пан, апякун усяе прыроды, імя якому “Усё”.

Але ж і “вада, налітая з мяхоў, // віном стаецца з ласкі Пана”, а мы памятаем эпізод у Кане Галілейскай, і разумеем, што маецца на ўвазе Госпад Евангелля.

Рука гаспадыні бессвядома адсуне фіранку, і калі з-за яе, быццам стомлены вандроўнік, зірне “сумны запознены лістападаўскі дзень”, прысутным зашчыміць сэрца і няўзнак надыдзе хвіліна шчырай споведзі. Простыя дакладныя словы “без лоску і маны” пра ўзаеміны душы з Богам, пра пошукі прыгажосці “не ля святых дароў”, пра памылкі й расчараванні.

Іду, дарожніца ў імгле,
Ружанец як ліхтар.

Штодзённая выправа ў “шлях дасканаласці”, намаганні “быць добрым і справядлівым, міласэрным і споўненым любові” прыводзяць да неабходнасці “змірыцца з тым, што заўсёды знойдзецца прычына для пакаяння”.

Але на гэтым шляху асягаецца мудрасць.

Я не ёсць цела,
а той, хто клапоціцца пра цела,
той, хто існуе ў чашы,
але не сама чаша,
той, каго можна выплеснуць,
і будзе жыць,
але чаша не будзе.

Чые гэта словы? Хто падказаў іх паэтцы? Можа, у сне?..

Побач з намі заўважаецца постаць, якое не заўважалі раней. У ёй пазнаецца той, хто кагадзе зірнуў “з-за адсунутае фіранкі”.

Здагадка працінае:

А можа, гэта
той самы Госць
па дарозе
на Эмаус?..

Праяснёны пагляд прыкмячае ў згалелым садзе “ліловы ліхтарык позняй скукарчанай слівы”. Каля яго грэецца душа Лістападу...

...Адведзіны “светаміру” Ірыны Багдановіч працягваюцца на ягоных крэсах заходніх, дзе гучыць “Старапольскае рэха Беларусі” – пераклады паэтаў “беларуска-польскага культурнага памежжа” новасармацкіх часоў (18 – 19 стагоддзяў): Францішка Багамольца, Францішка Князьніна, Францішка Карпінскага, Яна Чачота, Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Габрыэлі Пузыні ды Зоф’і Манькоўскай. Менавіта адсюль паходзіць радок Уладзіслава Сыракомлі, прысвечаны сарматкам, што даў загаловак гэтай зацемцы.

Зацытуем трошкі болей:

Хто хоць раз яе прыкмеціць,
Захавае ў сэрцы згадкі...
Хоць кабет нямала ў свеце,
Ды найлепшыя сарматкі.

# Нас – многа!

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Беларус. Літаратурны альманах беларускіх пісьменнікаў замежжа. – Нью-Ёрк: Беларус, 2012.**

Пабачыў свет шосты выпуск літаратурнага альманаху беларускіх пісьменнікаў замежжа "Беларус", з чым "дзеяслоўцы" шчыра віншуюць яго аўтараў і чытачоў. Большасць аўтараў – добра вядомыя літаратары (іх – Сяргей Вітушка, Віталь Воранаў, Сяржук Сакалоў-Воюш, Алег Мінкін, Іна Снарская, Макс Шчур). Пры тым, што жанрава і тэматычна нумар выйшаў вельмі разнапланавым, прынцып размяшчэння тэкстаў у альманаху дэмакратычны – алфавітны. Падрабязны агляд гадавіка чытайце ў бліжэйшым нумары "Дзеяслова".




**Андрэй Пакроўскі. Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза. — Мінск: Логвінаў, 2012. — 100 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; Пункт адліку).**

"Як я перастаў верыць у дзеда Мароза" — Андрэй Пакроўскі захацеў пагаварыць пра гэта і напісаў цэлую кнігу. Зборнік з такой доўгай назвай — новае выданне падсерыі "Пункт адліку" серыі "Кнігарня пісьменніка", заснаванай Саюзам беларускіх пісьменнікаў для маладых аўтараў.

Дэбютную кнігу Пакроўскага склалі кароткія апавяданні, якія напоўніцу раскрываюць тэму дзеда Мароза, тэму ровара, тэму Антона, які насамрэч Андрэй, і шмат іншых важных для пісьменніка тэм, актуалізуюць праблемы кубка кавы і тралейбуса. Кніга спадабаецца ўсім, для каго гэтыя тэмы таксама вострыя і блізкія, усім, каму згаданыя праблемы гэтаксама вярэдзяць чулыя струны душы. А хіба знойдзецца сярод школьнікаў такі, якому не даводзілася прыйсці ў школу без галавы? Мы шчыра перакананыя, што такіх няма. А значыць - кніга Пакроўскага і для гэтай катэгорыі грамадзян.




**Сяргей Панізьнік. Нас – многа! – Мінск: Тэхналогія, 2012. – 124 с.**

Большую частку твораў новай кнігі Сяргея Панізьніка складаюць вершаваныя прысвячэнні – Радзіме, блізкім, сябрам і калегам – альбо вершы, аздобленыя словамі-эпіграфамі беларускіх культурных герояў. Дзясяткі імёнаў, тапонімаў, гістарычных датаў і лёсаў увершаваныя ў радках выдатнага майстра.

*Я спадзеўна разважаю*
*пад зоркавым намоленым жытлом.*
*Святлінамі планіду акружаю.*
*Нас – многа!*
*Тут я небу дагаджаю*
*і памнажаю зрок яго святлом.*

У дадатку – вершаваныя прысвячэнні аўтару ад вядомых беларускіх

паэтаў. Закрывае кнігу літаратуразнаўчы артыкул Вячаслава Рагойшы пра творчасць паэта.




**Сяргей Рублеўскі. Паспець надыхацца. – Мінск: Медысонт, 2012. – 128 с.**

Новая кніга Сяргея Рублеўскага, што складаецца з лірычных мініяцюр, лірычна, але не мініяцюрна па глыбіні апавядае пра ўзаеміны аўтара з яго маці, з Богам, з жанчынамі (у тым ліку – з жанчынамі-крытыкамі, жанчынамі-паэтамі й жанчынамі-празаікамі), і, вядома ж, з самім сабою – як сынам, вернікам, мужчынам і творцам... Гэтая кніга тонкая і дасціпная. Яна поўніцца выдатным гумарам, што мяжуе з неверагоднай чуллівасцю, але часам – і роспачнасцю. Акрамя карацелек “З нясшытага літаратурнага дзённіка”, што складаюць яе большую частку, аўтар уключыў у кнігу сугучныя ім па інтанацыі эсэ.




**Віктар Шалкевіч. Мястэчка G… …і ваколіцы… – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 30).**

У новую кнігу знакамітага барда, акцёра, шоумэна і пісьменніка Віктара Шалкевіча ўвайшлі дваццаць тэкстаў – дзевятнаццаць апавяданняў і п’еса – створаных, калі верыць пазнакам пад імі, у прасторы, увязанай тапонімамі *Grodno-Visby-Grodno*. “Гэта кніга перадусім не пра мястэчка G. і ваколіцы, а пра людзей, якія там жылі, таму што без людзей любое мястэчка робіцца звыклаю горбаю камення. Гэтая кніга пра нашую прыгожую страчаную Айчыну — Вялікае Княства Літоўскае... Яго даўно няма на мапах, тым не менш яно дзесьці глыбока сядзіць у кожным з нас” – зазначаецца ў анатацыі.

Падчас чытання апавядання і, пагатоў, п’есы, – чуеш голас аўтара. З фірмовай іранічнасцю і багатым інтанацыйным дыяпазонам – ад гарэзлівасці да журбінкі... Таму (бясплатная парада аўтару й выдаўцам): пры далейшых выданнях варта падумаць пра аўдыёдадатак.




**Янка Юхнавец. Паэзія. Уклад., прадм. і камент. Л. Юрэвіч; пад рэд. Н. Гардзіенкі. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 620 с.: іл. – (Галасы Айчыны).**

Кніга паэзіі Янкі Юхнаўца (1921-2004) – унікальнае выданне паэтычнай спадчыны эміграцыйнага творцы, дзе сабраныя разам вершы і паэмы з усіх выдадзеных аўтарам зборнікаў, а таксама не ўвайшоўшыя ў іх, з якімі чытачы пазнаёмяцца ўпершыню. Паэт, што нарадзіўся ў в. Забродак (сёння Докшыцкі р-н, Віцебскай вобл.), у часе нямецкай акупацыі быў вывезены на працы ў Германію, адкуль у пасляваенны час перабраўся ў ЗША. Выданне поўнага збору паэтычных твораў Я. Юхнаўца знаёміць аматараў беларускай паэзіі з яшчэ адным таленавітым і самабытным творцам і павінна паспрыяць больш пільнай увазе чытачоў і спецыялістаў да яго літаратурнай спадчыны.

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (56-61) за 2012 год

# Нашыя аўтары

**Багдановіч Ірына** — паэт, крытык, літаратуразнаўца, перакладчык. Аўтар кніг «Чаравікі маленства», «Фрэскі», «Сармацкі альбом», «Душа Лістападу», «Янка Купала і рамантызм» і інш. Нарадзілася ў 1956 годзе ў Лідзе. Жыве ў Мінску.

**Вераціла Сяргей** – празаік, паэт, перакладчык. Нарадзіўся ў мястэчку Краснае Сяло Ваўкавыскага раёна ў 1961 годзе. Жыве пад Заслаўем.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валерый** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання» і інш. Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Дубянецкая Галіна** — паэт, перакладчык. Аўтар кнігі «Анадыямэна». Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі» і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Кавалёў Сяргей** — драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва» «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Магілёве. Жыве ў Любліне (Польшча).

**Казакоў Валерый** – празаік, паэт, публіцыст. Аўтар кніг паэзіі «Философия звука», публіцыстыкі «Разбитое зеркало Карабаха», «Саморазрушение», прозы «Асфальт и тени», «Записки колониального чиновника», «Халоп яснавяльможнага дэмакрата» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе на станцыі Рэста на Магілёўшчыне. Жыве ў Маскве.

**Кананові Ігар** — паэт. Нізкі вершаў друкаваліся ў «Маладосці», «ЛіМе» "Дзеяслове". Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Клецку. Настаўнічае ў вёсцы Сіняўка на Клеччыне.

**Касцюкевіч Павал** – празаік, перакладчык. Закончыў Тэль-Авіўскі акадэмічны каледж (факультэт псіхалогіі) і курсы творчага пісьма ў школе рэкламы Aboodi-Creative (Тэль-Авіў). Аўтар кніг «Душпастырскія спатканьні для дачнікаў», «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» і інш. Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Кон», «Лісты да Волі», прозы «Цэнтр Еўропы» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Палякова Марыя** – літаратуразнаўца. Скончыла Сілезскі ўніверсітэт. Галіной яе даследаванняў з'яўляецца беларуская драматургія XXI ст. і яе сувязі з рускай і польскай. Нара-

дзілася ў Мінску. Жыве ў Катавіцах (Польшча).

**Савіч Уладзімір** – мастак. Заслужачы дзеяч мастацтва Беларусі, старшыня Беларускага саюзу мастакоў. Творы захоўваюцца ў музеях, галерэях і прыватных зборах Беларусі, Расіі, Фінляндыі, Славакіі і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Акцябр на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сідарук Ігар** — паэт, драматург, празаік. Аўтар паэтычных кніг «Чарнабел», «Саната Арганата», «Моўкнасьць», зборніка прозы «Квадратная варона», кнігі для дзяцей «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сітніца Рыгор** — мастак, паэт, публіцыст. Акадэмік Беларускай акадэміі мастацтваў. Творы захоўваюцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах Беларусі, Летувы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадарэнка (Шумская) Ірына** – паэт, празаік, музыказнаўца. Аўтар кніг «Чорная ружа», «Танцы на шкле», «Свядомаграфія» і інш. Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Чобат Алесь** – паэт, празаік, эсэіст. Аўтар кніг «Год», «Новая Галілея», «Ты не самотны...», «Крэсы» і шматлікіх гісторыка-псіхалагічных эсэ, апавяданняў, хронік і біяграфій. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Скідзелі на Гарадзеншчыне. Жыве ў Скідзелі.

**Шаўлякова Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Сентыментальнае паляванне», «Рэстаўрацыя шчырасці». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Эўрыпід** – старажытнагрэцкі драматург. 408 – 460 гг. да н.э. Даследчыкі прыпісваюць яго аўтарству 92 п’есы, сярод якіх: «Алкеста», «Медэя», «Гераклíды», «Андрамаха», «Гекуба», «Геракл», «Бакханкі», «Траянкі», «Фаэтон» і інш.

**Яўсейчык Марына** – празаік, журналіст. Творы друкаваліся ў «Верасні», «Макулатуры», «ЛіМе». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Брагіне на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**





У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага, Юрыя Дзядзінкіна.